Пераклад Васіля Раманава 2014 год

# Астольф дэ Кюстын

## Расія ў 1839 годзе

Том другі

## Ліст дваццаць першы

*Развітанне з Пецярбургам. – Падабенства паміж ноччу і развітаннем. – Плён ўяўлення. – Пецярбург у прыцемках. – Кантраст неба на ўсходзе і на захадзе. – Начная Нява. – Чароўны фанар. – Выявы прыроды. – Мясцовасць дапамагае мне зразумець міфалогію народаў Поўначы. – Бог ва ўсім. – Баллада Кальрыджа. – Старэючы Рэнэ. – Найгоршая із нецярпімасьцей. – Умовы, неабходныя для жыцця ў свеце. – З чаго складваецца поспех. – Заразлівасць чужых меркаванняў. – Салонная дыпламатыя. – Недахоп адзінокіх розумаў. – Ліслівасць чытачу. – Мост праз Няву ноччу. – Сімвалічны сэнс выявы. – Пецярбург у параўнаніі з Венецыяй. – Небяспека ад Евангелля. – У Расіі не выказваюць павучанняў. – Двухаблічны Янус. – Так званыя “польскія змовы». – Што з гэтага вынікае. – Довады рускіх. – Забойствы на волжскіх берегах. – Лафантэнаў воўк. – Упэўненасць у будучыні, няўпэўненасць у існуючым. – Нечаканы візіт. – Цікавае паведамленне. – Гісторыя князя і княгіні Трубяцкіх. – Мяцеж падчас ўсшэсьця імператара на пасад. – Адданасць княгіні. – Четырнадцать гадоў ва ўральскіх рудніках. – Што такое жыццё на катарзе. – Суд чалавечы. – Ліслівасць дэспата. – Меркаванне шмат каго із рускіх аб лёсе высланых ў руднікі. – 18 фруктыдора. – Саракаградусны мароз. – Першы ліст пасля сямі гадоў каторгі. – Дзеці катаржнікаў. – Адказ імператара. – Расійскае правосудзе. – Што ўяўляла сабой каланізацыя Сібіры. – Таўро на дзецях. – Роспач і прыніжэньне маці. – Другі ліст за четырнаццаць гадоў. – Доказы існавання вечнасьці. – Адказ імператара на другі ліст княгіні. – Як варта расцэньваць такія пачуцці. – Што трэба разумець пад адменай смяротнага пакарання ў Расіі. – Сям'я высланых. – Маці сямейства моліць імператара аб літасьці. – Выхаванне, якое яна мімаволі дае сваім дзецям. – Цытата із Дантэ. – Перамены ў маіх планах і адчуваннях. – Здагадкі. – Я прынімаю рашэнне хаваць свае лісты. – Сродак падмануць паліцыю. – Заўвага пра смяротнае пакаранне. – Цытата із брашуры Я. Таўстога. – Пра што яна кажа.*

**Пецярбург, 2 жніўня 1839 года[1], апоўначы.**

---

[1] 21 ліпеня згодна са ст. стылем.

Сёння вечарам я ў апошні раз гуляў па гэтаму незвычайнаму гораду; я развітваўся з Пецярбургам... Развітанне! Гэта магічнае слова! Яно напаўняе мясцовасць і людзей невыказваемым зачараваннем. Чаму сёння Пецярбург здаўся мне асабліва прыгожым? Таму што, я бачыў яго ў апошні раз. Значыць, магутнасць ўяўлення, якім надзелена наша душа, здольная перабіць свет, чыё аблічча нязменна з'яўляецца для нас не больш чым адвображваннем накрока ўнутранага свету? Тыя, хто сцвярджаюць, што па-за намі нічога не існуе, магчыма, маюць рацыю; але я, філосаф, метафізік, чыя адзіная мэта – натуральна і нязмушана выказваць ўсё, што прыходзіць мне на розум, вечна задаюся невырашальнымі пытаннямі і безпаспяхова спрабую пракрасьціся ў таямніцу гэтага зачаравання. Пакутлівыя развэжанні, самая вялікая загана майго стылю, вынікаюць із жадання выказаць невыказваемае: у пагоні за немагчымым змяншаюцца мае магчымасьці, цьмянеюць словы, вычэрпваюцца пачуцці і захапленні... Нашым марам, нашым уяўленням гэтак жа даўёка да выразных думак, як зіхацячай на гарызонце градзе воблакаў – да ідучага у неба горнага хрыбта, на які яна здаўёк падобная. Ніякімі словамі не передаць мімалётных дзівацтваў фантазіі, яны ўхіляюцца ад пяра пісьменніка, як зіхацячыя жамчужыны імклівага патоку – ад сетак рыбака.

Растлумачце мне, якім чынам думка аб маючым адбыцца ад'ездзе можа змяніць выявы мясцовасьці. Калі я думаю пра тое, што гляжу на гэты край ў апошні раз, мне здаецца, быццам я бачу яго ўпершыню.

Наша існаванне поўніцца бурнымі рухамі, калі параўнаць яго з нерухомасьцю атачаючых нас рэчаў, і ўсё, што нагадвае пра кароткасць нашага жыцця, выклікае ў нас захапленне. Мы хутка нясёмся па плыні і ўяўляем, быццам усё, што застаецца на беразе, непадначалена часу; вада ў плыні павінна верыць ва неўміручасць дрэва, даруючага ёй шаты; свет здаецца нам вечным – такое мімалётнае наша існаванне.

Магчыма, жыццё падарожніка так багата ўражаннямі таму, што складаецца із прыездаў і ад'ездаў, а ад'езд ёсць рэпетыцыя сьмерці. Бязспрэчна, людзі таму і бачаць у ружовым свеце тое, што яны пакідаюць; зрэшты, у гэтай акалічнасьці ёсць яшчэ адзін чыннік, пра які я зараз адважваюся згадаць толькі мімаходзь.

У іншых душах любоў да незалежнасьці даходзіць да захаплення; баязнь усялякіх повязяў вымушае чалавека прывязвацца толькі да таго, што яму наканавана неўзабаве пакінуць, бо з нагоды блізкай разлукі даўікатныя пачуцці ні да чаго яго не абязваюць. Ён можа захапляцца безпакарана: бо заўтра ён ад’язджае! Хіба ад'езд не праява свабоды? Разлука вызваляе ад путаў пачуцці; чалавек можа, не адчуваючы ніякай небяспекі, удосталь захапляцца тым, чаго ён ніколі больш не ўбачыць; ён цалкам аддаецца сваім сардэчным схільнасьцям без баязьні і сарамлівасьці: ён ведае, што за спіной у яго крылы! Але калі, ўдосталь атрымаўшы асалоду ад умення распраўляць і складваць іх, ён пачынае адчуваць, што яго магчымасьці на зыходзе; калі ён заўважае, што падарожжа ўжо не столькі дае новыя веды, колькі стамляе яго, значыць, прыйшоў час вярнуцца дадому і адпачыць; я бачу, што гэты дзень хутка настане і для мяне.

Была ноч: змрок, як і разлука, мае сваё зачараванне, яна, як і разлука, выклікае схільнасць да дагадак; таму-та на прыканцы дня розум аддаецца марам, сэрца дае волю пяшчоце, спачуванням; калі усё бачнае знікае, застаюцца адны толькі пачуцці; сапраўднасць цьмянее мінулае вяртаецца; сьмерць, зямля оддаюць узятае, і начны змрок накідвае на рэчы пакрывала, якое дабаўляе ім велічы і чуллівасьці; цемра, падобна на разлуку, чаруе думкі нявызначанасьцю, яна прізывае на дапамогу сваім чарам паэтычную туманнасць; ноч, разлука і сьмерць – чараўніцы, і магутнасьць іх – тайна, гэтак жа як і ўсё, што ўздзейнічае на ўяўленне. Нават самым выдасканаленым, самым узнёслым розумам не дадзена дакладна апісаць адносіны паміж прыродай і фантазіямі. Каб даць дакладнае вызначэнне ўяўлення, трэба падняцца да вытокаў захапленняў. Ўяўленне, гэты крыніца любові, гэта рухаючая сіла жалю, гэта спружына генія – не што іншае, як магутнасць Творцы, якую ён уклаў у сваё тленнае тварэнне, небяспечнейшы із падарункаў, бо ён робіць чалавека новым Праметэем; чалавек набывае гэтую магутнасць, але не ведае ёй меры; яна ў ім, але яму не належыць.

Калі песня змаўкае, калі вясёлка бялее, – ведаеце вы, куды знікаюць гукі і фарбы? Ведаеце вы, адкуль яны ўзяліся? Тое ж і з чарамі ўяўлення, толькі іх значна больш, яны значна больш разнастайныя, значна больш мімалётныя і перш за ўсё значна мацнейшыя!.. Я ўсё жыццё з жахам усведамляў гэта, але што толку – у мяне ўяўлення больш чым трэба было б: я павінен быў справіцца з гэтым падарункам, але застаўся яго цацкай і, ў рэшце рэшт, стаў яго ахвярай.

Пучына жаданняў і супярэчнасцей заахвочвае мяне бадзяцца па беламу свету і адчуваць прыхільнасць да гарадоў, дзе я апынуўся, у тое ж самае імгненне, калі кліча працягваць шлях. О ілюзіі! Як вераломна вы спакушаеце нас і як жорстка пакідаеце на волю лёсу!..

Ішла адзінаццатая гадзіна: я вяртаўся дадому пасля шпацыру па выспах. У гэтую пару выгляд горада перапоўнены асаблівай прыгажосьцю; ніякімі словамі не перадаць зачараванне гэтых выяваў, бо яны змяшчаюцца не ў абрысах, – так як мясцовасць зусім плоская, – але ў магіі туманных паўночных начэй; трэба самому пабачыць белыя ночы, каб зразумець іхную паэтычную веліч.

На захадзе горад знікаў у імгле; лінія гарызонту, якая дрыжыць, робіць яго падобным на выразаны з чорнай паперы сілуэт, наклеены на белы фон: гэты фон – змяркаючагася неба, дзе змрок пасля заходу сонца яшчэ доўга вылучае святло, асвечваючае далёкія хаты на другім беразе, вылучаючыміся светлымі плямамі на фоне неба, больш матавага і цёмнага на ўсходзе, чым на захадзе, дзе зіхаціць закатны німб. Із гэтага супрацьпастаўлення вынікае, што на захадзе горад ахутаны змрокам, а неба светлае, між тым як на ўсходзе пабудовы асветленыя і бялеюць на фоне цёмнага неба; гэты контраст уяўляе вачам відовішча, аб якім словы даюць толькі вельмі слабое ўяўленне. Змрок пагушчаецца павольна, нібы змагаючыся супраць наступаючай цемры і тым самым працягваючы дзень, што надае ўсёй прыродзе таемы рух: нізкія берагі Нявы з невысокімі пабудовамі якія

нібыта калышуцца паміж небам і зямлёй: здаецца, быццам яны вось-вось знікнуць ў пустэчы.

Пецярбург часткова падобны на Галандыю, дзе, зрэшты, клімат лепшы, а прырода больш маляўнічая, – але падобны толькі удзень, бо паўночныя ночы поўныя цудоўных выяваў.

Шматлікія башні і званніцы якія завяршаюцца, як я ўжо казаў у іншым месцы, вострым шпілем, надаючым ім падабенства да карабельных мачтаў; ноччу гэтыя пазалочаныя, згодна з рускім звычаем, султаны на помніках плывуць у бязмежным паветраным акіяне пад небам, якое нельга назваць ні цёмным, ні светлым, і не чарнеюць на ім, але зіхацяць, падобна пераліваючымся чашуйкам яшчаркі.

Зараз пачатак жніўня; у гэтых шыротах лета ўжо на зыходзе, і ўсё ж маленькі куток неба застаецца светлым ўсю ноч; гэта перламутравае ззянне на гарызонце адлюстроўваецца ў Няве, якая пад час дней з добрым надвор’ем нагадвае спакойнае возера; гэтае святло прыдае рацэ падабенства з гігантцкай металічнай пласьцінай, і гэтую серабрыстую раўніну аддзяляе ад неба, такого ж бялявага, як і яна, толькі сілуэт горада. Гэты кавалачак сушы, які здаецца адарваным ад зямлі і дрыжачым на вадзе, нібы пена ў паводку, гэтыя маленечкія, ледзь прыкметныя чорныя кропкі, раскіданыя як прыйдзецца паміж белым небам і белай ракой, – няўжо гэта сталіца вялізарнай імперыі ці ўсё гэта толькі міраж, падман зроку? Фон выявы – палатно, на ім рухаюцца цені, на імгненне ажыўшыя ў сьвеце чароўнага ліхтара, надаючага ім прывіднае існаванне, між тым нядоўга ім весці на прасторы свой маўклівы карагод: хутка лампа згасне і горад зноў знікне – казка скончыцца.

**~ 2 ~**

Я бачыў, як цямнее на бялявым небе шпіц сабора, дзе спачываюць рэшткі апошніх гасудароў Расіі; гэтая страла паднімаецца над умацаваннем і старой часткай горада; вышэй і вастрэй, чым піраміда кіпарыса, на фоне жамчужных даўей, ён здаваўся занадта рэзкім і адважным мазком пэндзля падвыпіўкрока мастака; размашыстасць, якая прыцярвае погляд, псуе маляўнічае палатно, але ўпрыгожвае рэчаіснасць; Бог творыць па іншых законах. Гэта было выдатна... усё стала нерухомым, усталяваўся ўрачысты спакой, натхняючая нявызначанасць. Усе гукі, усі хваляванні штодзённага жыцця сціхлі; людзі схаваліся, зямля засталася пад уладай містычных магутнасьцей: ёсць у гэтым гаснучым дні, у гэтым мігаючым свячэнні белых начэй таямніцы, якія я не ў стане разгадаць і якія даюць ключ да міфалогіі паўночных народаў. Цяпер я разумею ўсё забабоны жыхароў Скандынавіі. Для адных народаў Бог хаваецца ў паўночным ззянні, для другіх – выяўляецца ў асляпляльным трапічным дні. Што ж да мудраца, жадаючага бачыць у стварэнні толькі Творцу, то для яго добрыя ўсе шыраты, усе кліматы.

Куды б ні занесла мяне неспакойнае сэрца, я ўсюды ўшаноўваю аднаго Бога, усюды чую адзін голас. Куды б чалавек ні апусціў свой набожны позірк, ён бачыць, што прырода ёсць цела, чыя душа – Бог.

Вы бязспрэчна ведаеце балладу Кальрыджыса[2], у якой ангельскаму матросу здаўся слізгаючы па моры карабель: я ўспомніў яе, гледзячы на прывідны спячы горад. Гэтыя начныя бачанні для жыхароў паўночных шырот тое ж, што Фата Маргана[3] ў разгар дня для жыхароў поўдня: фарбы, лініі, гадзіны іншыя, але ілюзія тая ж.

З замілаваннем назіраючы край, дзе прырода самая ўбогая і, згодна з чуткамі, самая непрыгожая, мяне цешыць думка аб тым, што Гасподзь надаў кожнай кропцы зямнога шара дастаткова прыгажосьці, каб яго стварэнні ўсюды знаходзілі відавочныя прыкметы, даводзячыя: ён тут – і дзякавалі яму, куды б ні закінуў іх лёс. Выява Творцы адбіваецца ва ўсіх кутках зямлі, і гэта робіць яе святой ў вачах людзей.

Мне хацелася б правесьці ў Пецярбургу цэлае лета адзіна дзеля таго, каб кожны вечар шпацыраваць, як сёння.

Калі я сустракаю ў краіне або ў горадзе прыгожыя мясьціны, я адчуваю да іх прыхільнасць з захапленнем, я наведваю іх кожны дзень у вызначаную гадзіну. Гэта без канца паўтараючыся прыпеў, у якім нам кожны раз чуецца нешта новае. Мясьціны маюць сваю душу, як паэтычна выказаўся Жаслен[4]; мне ніколі не надакучваюць мясцовасьці, якія шмат аб чым кажуць маёй душы; я знаходжу ў іх павучаннях мудрасць, і гэтага мне даволі для шчасця ў маім сціплым жыцці. Схільнасць да падарожжаў для мяне не даніна модзе, не смага славы і не суцяшэнне. Я нарадзіўся падарожнікам, як іншыя нараджаюцца дзяржаўнымі дзеячамі: бацькаўшчына для мяне – усюды, дзе я кланяюся Госпаду, дзе пазнаю Творцу ў яго стварэннях; бо з усіх тварэнняў Госпада выразнейшай за ўсё мне здаецца прырода ў яе блізкасьці да твораў мастацтва. Бог адкрываецца майму сэрцу ў невыказваемых адносінах паміж Яго вечным Словам і недоўгавечнай думкай чалавека: я знахожу тут спрыяльную ежу для роздумаў. Назіранне, заўсёды аднолькавае і заўсёды новае, дае мне ежу для разважанняў, гэта мой сакрэт, апраўданне майго жыцця; яно забірае мае маральныя і разумовыя здольнасьці, паглынае мой час, занімае мой розум. Так, у меланхалічнай, але салодкай адзіноце, на якую выракае мяне прызванне паломніка, цікаўнасць заменяе для мне славалюбства, імкненне да ўлады, да становішча ў грамадстве, да чыноў... я ведаю, такая схільнасць да мараў не адпавядае майму ўзросту; спадар дэ Шатабрыян быў вялікі паэт і таму не стаў

---

[2] «Паданне пра Старога марахода» (1798) Сэмюэла Тэйлара Кольрыджа (1772–1834).

[3] Фата Маргана — міраж, пры якім на гарызонце ўзнікаюць выявы прадметаў, якія знаходзяцца за гарызонтам; названы згодна з імем феі Марганы, персанажа сярэднявечных эпічных паданняў. Летнія пецярбургскія туманы «сярод белага дня», якія мясцовыя жыхары тлумачылі пажарамі ў навакольных лясах, згадваюцца і рускімі мемуарыстамі (гл., напр.: Свярбееў Д. Н. Нататкі. М., 1899. т. 2. стр. 364). Магчыма, аднак, што ў каментуемым пасажы была, апроч жыццёвых уражанняў, і літаратурная крыніца — «Тлумачэнні паэта», што складае трэцюю частку «Дзядоў»; і ў Міцкевіча, і ў Кюстына міражом называецца імглісты пецярбургскі краявід, у Міцкевіча, зрэшты, зімовы, а не летні: «Дым у паўночных гарадах, падчас марозу, уздымаючыся да неба фантастычнымі ўзорамі, стварае відовішча, падобнае з'яве, маючай назву міраж, якое ашуквае плаваючых па моры і падарожнікаў у пясках Аравіі» (Міцкевіч. Т. 3. 3. 259; Mickiewicz. P. 499)

[4] Жаслен — герой аднайменнай паэмы (1836) Альфонса дэ Ламартына (1790–1869); Кюстын недакладна цытуе першую частку (у Ламартына: «Здавалася, душа гэтага выдатнага месца спачувае мне»).

апісваць старасць Рэнэ[5]. Юнацкія пакуты выклікаюць спачуванне, у чалавека маладога – усё наперадзе; але пакора сівавалосага Рэнэ зусім не выклікае прыхільнасці да красамоўства; мая ж доля, доля небаракі, збіраючага каласкі на ніве паэзіі, складаецца ў тым, каб паказаць вам, як сталее чалавек, створаны, каб памерці маладым, – прадмет хутчэй сумны, чым захапляючы, самая няўдзячная із задач! Але я кажу вам усё без утайкі, без сарамлівасьці, бо я ніколі не прыкідваюся.

**~ 3 ~**

Склад майго характару, заахвочваючы мяне не столькі жыць самому, колькі глядзець, як жывуць іншыя, вызначыў мой лёс, і калі вы адмовіце мне ў праве марыць таму, што я занадта доўга аддаюся асалодзе, а гэта дазволена толькі дзецям ды паэтам, вы скароціце той тэрмін існавання, які адмераў мне Гасподзь.

Дух рэакцыі на хрысцыянскія вучэнні прывёў да таго, што ў грамадстве прынята, асабліва ў апошнія сто гадоў, усхваляць славалюбства, выдаючы яго за лекі супраць эгаізму; як быццам дачка славалюбства, самая жорсткая і бязлітасная із захапленняў – зайздрасць, не з'яўляецца адначасова падставай і следствам эгоізма і як быццам дзяржаве пастаянна пагражае недахоп гордых талентаў, прагных сэрцаў, уладных розумаў! Людзі, падзяляючыя падобныя погляды, перакананы, што правадыры народа маюць права тварыць усякія беззаконні; што да мяне, то я не бачу ніякай розніцы паміж несправядлівымі дамаганнямі народа-захопніка і рабаваннем разбойніка! Адзінае адрозненне паміж злачынствамі народа і злачынствамі асобных людзей у тым, што адны прыносяць вялікую, а другія меншую шкоду.

Але што б стала з грамадствам, скажаце вы, калі б усе рабілі, як я, і казалі тое, што гавару я? Гэта выклікае ў служак веку асаблівы жах! Яны вечна баяцца, што людзі адвернуцца ад іхных куміраў. Я даўёкі ад думкі іх пераконваць; тым не менш, я дазволю сабе нагадаць гэтым светлым розумам, што найгоршая із нецярпімасцей ёсць нецярпімасць філасофская.

Я не магу жыць у свеце, таму што інтарэсы грамадства, яго мэты і нават сродкі, якія яно ўжывае для абароны сваіх інтарэсаў і дасягнення сваіх мэтаў, не абуджаюць у мяне выратавальнага духу спаборніцтва, без якога чалавек асуджаны на паразы ў барацьбе славалюбстваў або цнотаў, складаючых жыццё грамадства. Каб дамагчыся поспеху, трэба выканаць дзве зусім розныя задачы: перамагчы супернікаў і прымусіць іх прызнаць ва ўвесь голас вашу перамогу. Вось чаму поспех так нялёгка здабыць адзін раз, так цяжка – каб не сказаць немагчыма – замацаваць яго надоўга...

Я адмаўляюся ад гэтага нават перш, чым прыходзіць пара засмучэння. Калі хутка мне наканавана аднойчы спыніць барацьбу, я аддаю перавагу яе не пачынаць: менавіта гэта подсказвае мне сэрца, прыводзячы на памяць выдатныя словы прапаведніка, звернутыя да свецкіх людзям: "Усё канчатковае так

---

[5] Гл. заўвагу да т. I.

хуткацечна!”[6] Так што я без зайзрасьці і пагарды покідаю арэну, пакідаючы свецкае жыццё людзям, якія лічаць, што так як яны аддаўі сябе свету, то і свет аддадзены пад іхнае кіраванне.

Звольніце мяне ад усяго гэтага і не бойцеся, што ў вашых бітвах не хопіць жаўнераў, дазвольце мне атрымаць усю магчымую выгаду із маёй бяздзейнасьці і абыякавасьці; зрэшты, хіба вы не бачыце, што бяздзейнасць – толькі бачнасць і розум карыстаецца свабодай, каб уважлівей назіраць і засяроджаней разважаць?

Чалавек, які глядзіць на грамадства з боку, больш пранікліві ў сваіх меркаваннях, чым той, хто падпарадкоўвае ўсё сваё жыццё руху палітычнай машыны; розум тым выразней разлічае механізмы, кіруючыя ўсім на гэтым сьвеце, чым менш ён падвяргаецца іх трэнню; той, хто ўзбіраецца на гару, не бачыць яе абрысаў.

Людзі дзейныя назіраюць па памяці і пачынаюць апісваць тое, што яны бачылі, толькі пасля таго, як аддаўяюцца ад спраў; але тады, азлобленыя няміласцю або адчуваючыя набліжэнне канца, стомленыя, разачараванныя або адчуваючыя прылівы не збыўшыхся надзей, крушэнне якіх з'яўляецца невычарпальнай крыніцай засмучэння, яны амаль ніколі і ні з кім не дзеляцца сваім каштоўным вопытам.

Вы думаеце, калі б я прыехаў ў Пецярбург па службовай патрэбе, я б уцэліў бы, убачыў бы адваротны бок рэчаў так, як я яго бачу, і ў дадатак за такі кароткі час? Знаходзячыся выключна ў атачэнні дыпламатаў, я глядзеў бы на краіну іхнымі вачамі; вымушаны размаўляць з імі, я павінен быў бы прыкладаць усе намаганні, каб за размовамі вырашаць справы; ва ўсім жа іншым мне было б выгадна саступаць ім, каб выклікаць іхную прыхільнасць; не думайце, што гэтыя хітрыкі праходзяць дарэмна і не ўплываюць на меркаванні таго, хто прымае іх сабе за абавязак. Нарэшце я пераканаў бы сябе, што ў шматлікіх дачыненнях падзяляю іхныя меркаванні, хацяб дзеля таго, каб апраўдаць ва ўласных вачах сваю маладушнасць, вымушаючую мяне згаджацца з імі. Меркаванні, якія вы не можаце аспрэчыць, якімі б памылковымі яны вам ні здаваліся, нарэшце змяняюць вашы погляды: калі паслужлівасьць даводзіць нас да таго, што мы слепа прынімаем на веру ўсё, што нам кажуць, мы здраджваем самім сабе: празмерная паслужлівасьць туманіць позірк назіральніка, які павінен паказваць нам рэчы і людзей не такімі, якімі нам хацелася б іх бачыць, але такімі, якімі мы іх бачым на самай справе.

**~ 4 ~**

Акрамя таго, нягледзячы на ўсю маю незалежнасць у меркаваннях, якой я так ганаруся, мне часта даводзіцца ў мэтах асабістай бяспекі лісьлівіць самалюбству гэтай крыўдлівай нацыі, бо кожны напалову варварскі народ недаверлівы і жорсткі. Не думайце, што мае думкі пра Расію і рускіх здзіўляюць тых замежных дыпламатаў, у якіх быў вольны час, жаданне і магчымасць

[6] Недакладная цытата з надмагільнага пасьвячэння Генрыэце Ангельскай (герцагіні Арлеанскай), якое ў 1670 г. прамовіў Жак-Бэнінь Басюэ (гл. заўвагу. да т. I, стр. 377).

вывучыць гэтую імперыю; можаце быць упэўненымі: яны падзяляюць мае погляды; але яны не прызнаюцца у гэтым у голас... Счастлівы назіральнік, чыё становішча такое, што ніхто не можа папракнуць яго ў злоўжыванні чужым даверам!

Аднак я аддаю сабе справаздачу ў нязручнасьцях маёй свабоды: каб служыць праўдзе, мала бачыць яе самому; трэба адкрываць яе іншым. Недахоп асобных розумаў у тым, што яны занадта часта мяняюць думкі, бо пастаянна змяняюць напрамак назірання; таму што адзінота аддае розум чалавека пад уладу ўяўленняў, а ўяўленне надае яму гнуткасць.

Але вы-та можаце і нават павінны скарыстацца маімі відавочнымі супярэчнасьцямі, каб стварыць дакладную выяву людзей і рэчаў скрозь мае зменлівыя і блытаныя апісанні. Скажыце мне дзякуй: не шмат ёсць пісьменнікаў, якія знаходзяць у сабе смеласць перакласьці на плечы чытача частку свайго цяжару, але я аддаю перавагу заслужыць папрок у непаслядоўнасьці, чым бессаромна хваліцца незаслужаннай годнасьцю. Калі настае раніца і знішчае высновы, да якіх я прыйшоў напярэдадні вечарам, я не баюся ў гэтым прызнацца: я прапаведую шчырасць, і мой падарожны дзённік становіцца споведдзю: людзі небезстароннія – увасабленне парадку, педантычнасьці, і гэта дазваляе ім пазбегнуць прыдзірлівай крытыкі; але тыя, хто, як я, смела кажуць тое, што адчуваюць, не баючыся таго, што раней яны казалі і адчувалі па-іншаму, павінны быць гатовыя да расплаты за сваю натуральнасць. Гэтая простадушная і забабонная павага да дакладнасьці павінна лісліўіць чытачу, але бег часу робіць падобную ліслівасць небяспечнай. Таму гадзіным мне пачынае здавацца, што свет, у якім мы жывем, не варты добрага слова.

І так, я зраблю тое, чаго не асмельваецца зрабіць ніхто, – я ўсё пастаўлю на карту ў імя павагі да праўды, і ў маім неасцярожным запале, прыносячы ахвяру зрынатаму бажаству, прынімаючы аллегорыю за рэчаіснасць, я не здолею знайсьці вядомасьці мучаніка і атрымаю вядомасць чалавека нікчэмнага. Бо ў грамадстве, заахвочваючым хлусню, адкрытасць не ў пашане!.. На свеце для кожнай ісьціны ёсць свой крыж.

Я доўга стаяў на вялікім масту праз Няву, разважаючы аб гэтых і шмат якіх іншых матэрыях: я хацеў назаўсёды запомніць дзве зусім розныя выявы, ад якіх мог атрымліваць асалоду, паварачваючы галаву, але не рухаючыся з места.

На ўсходзе цёмнае неба, віднеючаяся у змроку зямля; на захадзе светлае неба і тонучая ў імгле зямля: у супрацьпастаўленні гэтых двух выглядаў Петербурга быў сімвалічны сэнс, які я, як мне здаецца, спасцігнуў: на захадзе – стары, на ўсходзе – новы Пецярбург; так і ёсць, казаў я сабе: стары горад у ночы – гэта мінулае; новы, асветлены горад – будучыня... Магчыма, я доўга прастаяў так і стаяў бы да гэтай пары, калі б не спяшаўся вярнуцца ў гатэль, каб падзяліцца з вамі, пакуль не забыўся, марным захапленнем, якое я адчуў, гледзячы на згасаючыя фарбы гэтай неўстойлівай выявы. Сукупнасць рэчаў лепш асэнсоўваць па памяці, але апісваць некаторыя падрабязнасьці лепш па свежых слядам.

Відовішча, якое я вам апісаў, напаўняла мяне глыбокай пашанай, якую я баяўся страціць. Было б памылкай меркаваць, быццам усё, што чалавек вострa

адчувае, існуе насамрэч; дажыўшы да маіх гадоў, чалавек не можа не ведаць: ніштo так хутка не знікае, як моцныя пачуцці, якія здаюцца вечнымі.

Пецярбург, на мой погляд, не такі прыгожы, як Венецыя, але затое ў ім больш дзіўнага. Гэта два коласы, узведзеныя праз баязнь: Венецыя – тварэнне чыстай баязні[7]: апошнія рымляне аддаюць перавагу ўцёкам перад сьмерцю, і плёнам гэтай баязні волатаў антычнасьці становіцца адно із цудаў сучаснага свету; Пецярбург таксама вынік баязьні, але не проста баязьні, а богабаязьні, бо русская політіка змагла ўзвесьці падпарадкаванне ў закон. Рускі народ лічыцца вельмі набожным, дапусцім: але што такое вера, якой забаронена вучыць? У рускіх цэрквах ніколі не пачуеш пропаведзі. Евангелле адкрыла б славянам свабоду[8].

---

[7] Калі ў V стагоддзі поўнач Італіі пачала зведваць пастаянны набегі варвараў, яе насельнікі пачалі шукаць сховішчы на берагах Адрыятыкі; датай заснавання Венецыі лічыцца 421 год, калі на выспах сярод лагун пасяліліся першыя жыхары.

[8] Пярэчанне Грэча: «Навошта ён <Кюстын> паведамляе паклёпніцкія выдумкі пра грэка-рускую царкву? Навошта ён пераконвае, што ў Расіі не існуе рэлігійнага выхавання, што ў цэрквах не прамаўляюць павучанняў? Як ён адважваецца сцвярджаць, што рускае святарства паўсюдна паказвае адну толькі пагарду? Хіба ён сустракаў прэлатаў нашай царквы? Чуў іхныя прамовы? Прасякнуўся іхным духам, іхнымі прынцыпамі?» (Gretch. P. 64). Пярэчанне Вяземскага: «Мы маглі б адказаць яму <Кюстыну> лічбамі і паведаміць, першае, колькасць асобнікаў Евангелля, перакладзенага на сучасную рускую мову, — не лічачы евангелляў на мове царкоўнаславянскай, якія чытаюць і нядрэнна разумеюць рускія ўсіх станаў; другое, пералік павучанняў ужо надрукаваных і друкуючыхся для ўжывання ў сарака тысячах прыходаў імперыі, а потым, каб скончыць з гэтым пытаннем, мы пакорліва даведаліся б у дбайнага каталіка, ці шмат чытачоў знаходзіць Евангелле ў ніжэйшых станах французскага грамадства і ці не ў краінах найбольш каталіцкіх, такіх, як Італія і Гішпанія, чытаць Біблію народу забаронена?» (цыт. па: Cadot. p. 272).

Інакш, чым крытыкі Кюстына, ацэньваў статус праваслаўных святароў М. Я. Тургенеў, аўтар кнігі «Расія і рускія», выдадзенай у 1847 годзе, якая пісалася адначасна з кюстынавай: «Становішча рускага святара не дазваляе яму набыць самы найменшы ўплыў на маральнасць вернікаў, не кажучы ўжо пра тое, каб уздзейнічаць на іхную свядомасць. Справа не ў тым, што рускія святары цалкам неадукаваны: у сваёй большасьці яны больш адукаваныя, чым астатні народ, і нярэдка адукаваны гэтак жа добра, як дваране; не, нагода хутчэй у поўнай залежнасьці святара ад вернікаў, ад якіх ён атрымлівае сродкі для існавання. <…> Другая акалічнасць <…> перашкаджаючая рускаму святарству выказваць патрэбны ўплыў на паству: гэта адсутнасць мовы, на якой святар мог бы чытаць павучанні належным чынам. Павучанні — адзін із лепшых сродкаў, з дапамогай якога святарства можа маральна ўплываць на народ. Але ў Расіі мова і стыль павучанняў яшчэ да гэтага часу не створаны. Вясковы святар, звяртаючыся да сваіх вясковых слухачоў павінен, вядома, прамаўляць павучанні на іхнай мове <…> але вясковыя святары складаюць павучанні вельмі рэдка; яны задавальняюцца чытаннем друкаваных павучанняў — складеных якім-небудзь біскупам, знакамітым сваім красамоўствам. Менавіта ў казаннях, якія святары адукаваныя, асвечаныя выказваюць пастве больш-менш развітай разумова, найболей выразна выяўляюцца заганы нераспрацаванай мовы і рэзка адрознай ад той, якім карыстаюцца станы цывілізаваныя» (Tourguenev N. La Russie et les Russes. P., 1847. т. 2. p. 35–37); пар. у дзённіку Я. У. Вьельгорскага: «Рэформа рэлігійная ў нас патрэбна і з часам будзе здзейснена. Жаночыя кляштары большай часткай бардэлі, мужчынскія – месца збору разнастайных нягоднікаў. Святары неадукаваныя і ў нейкім аддаленні ад сваіх парафіянаў; не карыстаюцца павагай» (Ляміна Е. Э., Самавар Н. У. Бедны Жозэф: Жыццё і смерць Іосіфа Вьельгорскага. М., 1999. стр. 236; запіс ад 27 студзеня 1838 г.). Заганы праваслаўнага святарства, якое не мае адукацыі, «не належыць да добрага грамадства» (ліст да Чаадаева ад 19 кастрычніка 1836 г. — Пушкін. т. 10. стр. 465, 689; арыгінал, па-фр.) і не мае аўтарытэту і павагі сярод паствы, выкрываліся французскімі аўтарамі і да Кюстына: напрыклад, у лістах французскага езуіта айца Разавена, якія разам з лістамі Жозэфа дэ Местра нядаўна перапісвалі для сябе заахвочаныя ў каталіцтва рускія дамы (гл.; Л. М. Т. 29/30. стр. 608-609), ці ў кнізе Ансэло (гл.: Aneelot. P. 184-185); пра «рабскую залежнасць рускага святарства» і заганы ў палітыцы рускага ўрада ў дачыненні да каталікоў пісаў незадоўга да Кюстына

Гэтая боязь растлумачыць людзям хоць бы часткова тое, у што яны павінны верыць, для мяне падазроная; чым больш розум, навука пазычаюць вобласці веры, тым больш святла пралівае божая крыніца на ўсё існае: чым менш рэчаў прынімаецца на веру, тым вера мацней. Хросная адзнака – не доказ набожнасьці; таму мне здаецца, што, нягледзячы на стаянне на каленях і ўсе знешнія праявы набожнасьці, у сваіх малітвах рускія звяртаюцца не столькі да Бога, колькі да імператара. Гэтаму народу, абагаўляючаму сваіх спадароў, патрэбен, як японцам, яшчэ адзін уладыка: духоўны гаспадар, паказваючы шлях на неба. Свецкі ўладар занадта прывязвае народ да зямнога. “Разбудзіце мяне, калі гаворка будзе мець дачыненне да Бога” [9], – прамовіў убаюканы імператарскай літургіяй замежны амбасадар у рускай царкве.

**~ 5 ~**

Гадзіным я гатовы падзяліць забабоны гэтага народа. Энтузіязм заразлівы, калі ён ўсеагульны або здаецца такім; але ў цяжкія хвіліны я згадваю аб Сібіры, гэтай неабходнай пасобніцы маскоўскай цывілізацыі, і адразу зноў набываю спакой і незалежнасць.

Палітычная вера тут мацней веры ў Бога; адзінства праваслаўнай Царквы – усяго толькі бачнасць: секты, прымушаныя маўчаць і спрытна замоўчваемыя пануючай царквой, сыходзяць у падполле; але немагчыма вечна затыкаць рот народу: рана ці позна ён скажа сваё слова: рэлігія, політіка – усе ўзвысяць голас, усе захочуць нарэшце высветліць адносіны. Бо як толькі гэты маўклівы народ загаворыць, падымецца столькі спрэчак, што ўвесь свет здзівіцца і вырашыць,

---

д'Аррэр у кнізе «Пераследы і пакуты каталіцкай царквы ў Расіі» (гл. заўвагу. да т. I, стр. 6, 350) і амаль аднычасова з ім Д. Марм’е, назіральнік вельмі добразычлівы (гл. у яго «Лістах пра Расію, Фінляндыю і Польшчу», якія друкаваліся са снежня 1842 па красавік 1843 г. у «Revue des Deux Mon... Mondes», главу «Траецкі кляштар»). Крытычна ацэньваў становішча святароў у Расіі і Барант: «Немагчыма не дзівіцца, бачачы, што ў народа, набожнага да забабоннасьці, святары не маюць ні найменшага аўтарытэта, не карыстаюцца ні найменшай павагай, не прыцягваюць, так бы мовіць, ні найменшай увагі з боку грамадства. Выхадцы па большай частцы із найнізшых станаў, неадукаваныя, адружаныя і вымушаныя вырашаць разнастайныя штодзённыя патрэбы, святары здзяйсняюць рэлігійныя цырымоніі, але не выказваюць ніякага ўплыву на народ. <…> У Расіі няма ні павучанняў, ні ўплыву праз слова, ні цеснага і няўхільнага злучэння рэлігіі з красамоўствам, філасофіяй і вытанчанымі мастацтвамі <…> У наш час руская рэлігія ёсць рэлігія вясковая, і нічога больш. <…> Калі руская кабета, будзь яна нават разумная і адукаваная, прасякнецца рэлігійнай стараннасьцю, гэта зусім не будзе азначаць, што яна возьме сабе ў настаўнікі аднаго із тых людзей, якія складаюць годнасць святарства, што яна захопіцца тым ці іншым прапаведнікам, тым ці іншым святаром; яна запросіць да сябе дадому святара для споведзі ці чытання малітваў, потым дась яму пяць рублёў і выправіцца абедаць у буфетную» (Notes. P. 66–67, 77, 68).

На пачатку XIX стагоддзя ў Расіі было створана Біблейскае таварыства, якое змагалася за пераклад Бібліі на рускую мову і яе пашырэнне, аднак у 1824 г. заступаўшыся за таварыства обер-пракурор Сінода і міністр асветы А. Н. Галіцын быў звольнены, а праз два гады было забаронена Біблейскае таварыства і практычна скасаваны выдадзены ім Новы Запавет на рускай мове (гл.: Флораўскі Г. Шляхі рускага багаслоўя. Парыж, 1988. З. 147-234). Вельмі верагодна, што каментаваная філіпіка Кюстына навеяна інфармацыяй пра варожае стаўленне праваслаўных іерархаў да перакладу Старога запавету на рускую мову, здзейсненае Г. П. Паўскім і літаграфаванаму яго вучнямі ў 1838–1841 гг. (гл.: Чыстовіч І. А. Гісторыя перакладу Бібліі на рускую мову: Рэпрынт выд. 1899 г. М„1997. З. 133-207).

[9] Каментар рэцэнзента часопіса «Semeur» (20 верасня 1843 г.): «У гэтай гісторыі не было б нічога неверагоднага, калі б гаворка не ішла пра амбасадара: амбасадар дачакаўся б канца літургіі і заснуў толькі пасля гэтага».

быццам бы вярнуліся часы Вавілонскага гармідару: менавіта рэлігійныя спрэчкі прывядуць аднойчы Расію да грамадзянскага перавароту.

Калі я выяўляюся паблізу імператара і бачу яго велічную годнасць, яго прыгажосць, я захапляюся гэтым цудам; чалавек на сваім месцы – усюды рэдкасць, але на пасадзе – гэта фенікс. Я рады, што мне давялося жыць у гэтыя дзівосныя часы, бо ёсць людзі, якія любяць ганіць, я ж люблю хваліць.

Аднак я з пільнай увагай вывучаю рэчы маёй павагі; таму калі я набліжаюся да гэтага адзінага на зямлі чалавека, мне здаецца, быццам у яго два аблічча, як у Януса[10], і што словы "прыгнёт", "высылка", "падаўленне" ці замяняючае іх слова "Сібір" адлюстраваліся на тым абліччы, якога я не бачу.

Гэтая думка праследуе мяне неадступна, нават калі я з ім размаўляю. Дарэмна я спрабую думаць толькі пра свае словы, у маім ўяўленні міжволі паўстае шлях із Варшавы ў Табольск, і адно толькі слова "Варшава" абуджае ў мяне недавер.

Вы ведаеце, што ў гэты час шляхі Азіі зноў перапоўнены высланымі, адарванымі ад роднага кутка, якія пешшу ідуць шукаць сьмерці, як быдла покідае пашу і ідзе на бойню? Манаршы гнеў абрынуўся на іх пасля так званай польскай змовы[11], змовы "маладых вар'ятаў", якія сталі б героямі, калі б яна перамагла; зрэшты, асуджанасць іхных спробаў, мне здаецца, толькі падкрэслівае іхную маральную веліч. Маё сэрца абліваецца крывёю пры думцы аб высланых, аб іхных сем'ях, аб іхнай радзіме!.. Што станецца, калі прыгнятальнікі выселяць з гэтага кутка зямлі, дзе яшчэ нядаўна квітнела рыцарства, краса старой Яўропы, самых прыстойных і адважных яе сыноў, у Татарыю? Тады яны скончаць набіваць свой палітычны ледавік і атрымаюць асалоду ад перамогі спаўна: Сібір стане царствам, а Польша – пустыняй.

Ці можна вымаўляць слова "лібералізм" і не чырванець ад сораму пры думцы, што ў Яўропе існуе народ, які быў незалежны, і які зараз не ведае іншай свабоды, акрамя свабоды адступніцтва? Калі рускія паварочваюць зброю супраць Захада, якую яны з поспехам выкарыстоўваюць супраць Азіі, яны забываюцца, што сродкі, якія спрыяюць прагрэсу ў калмыкаў, з'яўляюцца злачынствам у дачыненні да народа, які далёка пайшоў па шляху цывілізацыі. Вы

[10] Д. Ліштэнан адзначае амаль даслоўнае супадзенне гэтай характарыстыкі Мікалая I з той, якую даў яму ананімны аўтар артыкула ў «Revue de Paris» (1841, т. 25): «Так, гэта дэспат; у імператара Мікалая ёсць два цалкам розныя твары, цалкам не падобныя паміж сабой; я бачыў абодва і хачу іх апісаць. Той, хто бачыў імператара толькі аднойчы, яго не ведае. Гэта двухаблічны Янус: з аднаго боку — змрочная ваяўнічасць; з другога — рахманая міралюбнасць» (цыт. па: Liechtenhan. P. 120).

[11] Гаворка ідзе пра таемную «Супольнасць польскага народа», ячэйкі якой былі створаны Шымонам Канарскім (1808–1839) на Ўкраіне, у Беларусі і ў Літве; у 1838 г. арганізацыя была выкрыта, і вясной наступнага гады Канарскага расстралялі (гл. пра яго: РА. 1870. Кн. 1. З. 241-263). Крыніцай звестак Кюстына пра гэтае таемнае таварыства, апроч французскіх газет, мог быць і князь Казлоўскі, летам 1839 г. абмяркоўваўшы лёс Канарскага і пакуты палякаў з А. Я. Тургеневым: «Канарскі памёр як герой, але загубіў шмат каго <…> яны мелі намер друкарнямі прыгатаваць розумы да будучага адраджэння <…> Няма сямейства <у Польшчы>, якое б не разлівала слёз, не аплаквала сына, або вырачанага на жыццё ў выгнанні, або пагнанага ў жаўнеры <…> галеча паўсюль крайняя <…> маёнткі адбіраюць па першым падазрэнні» (РАІЛІ. Ф. 309. № 706. л. 2 пра., 6; арыгінал, па-фр., апроч слоў, вылучаных курсівам; Тургенеў пераказвае словы Казлоўскага ў сваіх лістах да брата ад 4 і 10 чэрвеня 1839 г.).

бачыце, як старанна я пазбягаю слова "тыранія", хоць яно напрошваецца: бо яно дало б зброю супраць мяне людзям, ад якіх усе і без таго пакутуюць. Гэтыя людзі заўсёды гатовыя крычаць пра "падбухторванні да бунту"[12]. На довады яны адказваюць маўчаннем, гэтым доказам моцнага; на абурэнне – пагардай, гэтым правам слабого, узурпаванага моцным; ведаючы іхную тактыку, я не хачу выклікаць ў іх ўсмешку... Але пра што мне трывожыцца? Бо пагартаўшы маю кнігу, яны не будуць яе чытаць; яны выключаць яе із абарачэння і забароняць ўсякую згадку пра яе; гэтая кніга не будзе існаваць, яны зробяць выгляд, нібы для іх і ў іх яна і не існавала[13]; іхны ўрад, падобна іх Царкве, абараняецца, прыкідваючыся нямым; такая палітыка квітнела дагэтуль і будзе квітнець і ў будучым у краіне, дзе адлегласьці, раскіданасць людзей адзін ад аднаго, балоты, лясы і зімы замяняюць тым, хто аддае загады, сумленне, а тым, хто гэтыя загады выконвае, – цярпенне[14].

Я не стамляюся паўтараць: рэвалюцыя ў Расіі будзе тым больш жудаснай, што яна адбудзецца ў імя рэлігіі: русская палітыка ў рэшце рэшт растварыла Царкву ў Дзяржаве, змяшала неба і зямлю: чалавек, які глядзіць на свайго ўладара як на Бога, спадзяецца трапіць ў рай адзіна ласкай імператара.

**~ 6 ~**

Бунты на Волзе працягваюцца, прычым гэтыя жахі прыпісваюцца правакацыям польскіх эмісараў: такое абвінавачванне выклікае ў памяці суд Лафантэнавага ваўка. Усе жорсткасьці, усе беззаконні, якія робяцца тым і другім бокам, – прадвесьце развязкі, і, бачачы іх, можна ўявіць сабе, якой яна будзе. Але ў народзе, які так прыгнятаюць, захапленні кіпяць доўга, перш чым адбываецца выбух; небяспека час ад часу набліжаецца, зло не адступае, крызіс запазняецца; магчыма, нават нашы ўнукі не пабачаць выбуху, але мы ўжо сёння можам прадказаць, што ён непазбежны, хоць і не ведаем, калі менавіта ён адбудзецца.

# Працяг папярэдняга ліста

**Пецярбург, 3 жніўня 1839 года**

Мне не суджана з'ехаць адсюль, Гасподзь супраць мяне!.. Новая адтэрміноўка, на гэты раз цалкам апраўданая, я тут ні пры чым... Я ўжо збіраўся сесьці ў карэту, але тут мне сказалі, што пра мяне пытаецца адзін із маіх сяброў. Ён уваходзіць. Ён патрабуе, каб я неадкладна прачытаў ліст. Які ліст, Божа

[12] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.; «Хіба ў адным із аспрэчванняў на маю кнігу мяне не называюць якабінцам?»; маецца на ўвазе Грэч, які сцвярджаў, што кюстынаўскія кпіны над яднаннем імператара і народа былі б дарэчнымі ў вуснах шалёнага якабінца, паплечніка Рабесп'ера, але гучаць вельмі дзіўна ў вуснах маркіза (Gretch. P. 38-39).
[13] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Імператар абараніў мяне ад гэтай бяды».
[14] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Для аспрэчвання гэтага пасажу былі напісаны кнігі і вымаўлена немала прамоваў, але праўда рана ці позна заўсёды перамагае».

правы!.. Ён напісаны княгіняй Трубяцкой[15] і адрасаваны да каго-небудзь із яе родных; яна просіць гэтага чалавека паказаць ліст гасудару імператару. Я хацеў перепісаць яго, каб абнародаваць, не зьмяніўшы ў ім ні адзінага слова, але мне не дазволілі гэтага зрабіць.

- Такі ліст, калі яго надрукаваць, абыйдзе ўвесь свет, – сказаў мой сябар, узрушаны ўражаннем, якое ён на мяне зрабіў.

- Тым больш падстаў зрабіць яго здабыткам галоснасьці, – адказаў я.

- Гэта немагчыма. Бо ад яго залежыць жыццё некалькіх асоб, мне далі яго толькі затым, каб я вам паказаў яго, пад маё сумленне і з умовай, што праз паўгадзіны я яго вярну.

---

[15] Із усяго павядомленага Кюстынам гісторыя княгіні Кацярыны Янаўны Трубяцкой (народжаная Лаваль; 1800–1854) зрабіла на еўрапейскую публіку, мабыць, самае моцнае ўражанне. 28 траўня 1843 г. герцагіня дэ Дына запісала ў дзённік: «У трэццім томе <Кюстына> змяшчацца ліст княгіні Трубяцкой, якая пайшла за чалавекам у руднікі; яно выдатнае. Факты самі па сабе такія дзіўныя, што аўтару няма патрэбы суправаджаць іх эфектнымі выказваннямі; ён адчуў гэта і, зрабіўшы свой стыль прасьцей, толькі мацней адцяніў жудаснасць фіналу гэтай драмы. Апошняя сцэна, якая даваршае не маючыя прыкладу ліхтугі гераіні, усхвалявала мяне да глыбіні душы» (Dino. P. 276-277). Эпізод з Трубяцкой атрымаў дадатковую вядомасць дзякуючы артыкулу Жуля Жанэна (Journal des Dubats, 26 чэрвеня 1843 г.), які саркастычна параўнаў трыўмфальнае падарожжа ў Расію італьянскага тэнара Дж. Рубінэ з падарожжам княгіні Трубяцкой ў Сібір за асуджаным чалавекам-дзекабрыстам (падарожжам, пра якое Жанэн упершыню даведаўся із кнігі Кюстына). Гісторыя Трубяцкой гучала так жахліва, што некаторым еўрапейскім чытачам ўяўлялася немагчымай; пар. запіс у дзённіку Варнгагена ад 12 жніўня 1844 г.: «Развражаў з ландграфам Гамбургскім пра Кюстына. Ландграф шмат ездзіў па Расіі і шмат у чым згодзен з Кюстынам, але гісторыю з Трубяцкой ён знаходзіць перабольшанай і кажа, што ўсё гэта пададзена ў вельмі перабольшаных рысах» (РА. 1875. т. 2. стр. 352). Тым часам Кюстын нічога не перабольшыў, але, відаць, проста кантамінаваў два розныя эпізоды, адзін із якіх адбыўся незадоўга да яго прыезда ў Расію, а другі — у той час, калі ён працаваў над сваёй кнігай: напачатку 1839 г. К. Я. Трубецкая праз сваякоў перадала імператару прашэнне пра тое, каб яе чалавеку пасьля заканчэння тэрміну катаржных прац было дазволена пасяліцца ў адным із гарадоў Заходняй Сібіры (ні арыгіналу гэтага прашэння, ні яго копіі не знойдзена), а вясной 1842 г. дзекабрыстам было дазволена змясьціць дзяцей, народжаных у Сібіры, у вайскова-навучальныя ўстановы ці дзявочыя інстытуты, але пры ўмове, што дзеці страцяць бацькаўскія прозвішчы і атрымаюць новыя, утвораныя ад іх імёнаў па бацьку; Трубяцкі, Ваўконскі і М. Мураўёў ад гэтай «літасьці» адмовіліся (гл.: Паўлава. стр. 21, 25-26). Прашэнне княгіні 1839 г. задаволена не была, і 24 ліпеня гэтага года Трубяцкі быў выпраўлены для пасялення ў вёску Аёк, на адлегласьці ў 30 вёрст ад Іркуцка. Дасведчаннасць Кюстына несумнеўна мае крыніцай вусныя апавяданні, хутчэй, апавяданні А. Я. Тургенева, які пільна сачыў за лёсам «сібірскіх працаўвікоў»: «Бедны Мік<іта> Мураўёў пераселены да Іркуцка. <…> Яго дачка не здольна пераносіць клімат і хварэе. Тое ж і з кн<ягіняй> Трубяцкой, якая прасіла за чатырох дачок» (ліст М. Я. Тургеневу ад 16/24 жніўня 1839 г. — НЛА. стр. 133); «Чуў, што сібірскім працаўвікам горш на пасяленні, чым раней было на катарзе, асабліва к<нязю> Трубяцкому. Жонцы адмоўлена ў Табольску і паселены — за Іркуцкам, у вёсачцы, з беднымі дзецьмі і ў аддаленні ад усіх» (ліст М. Я. Тургеневу ад 6/18 верасня 1839 г. — НЛА. стр. 133). Усе аўтары антыкюстынаўскіх складанняў, зрабіўшы адпаведныя абмоўкі («Я ні ў найменшай ступені не жадаю паменшыць няшчасьці княгіні, якія, нават зведзеныя да сваіх праўдзівых памераў, застаюцца вельмі цяжкімі». — Labinski. з. 94), аспрэчвалі апавяданне Кюстына. Грэч сцвярджаў, што княгіня Трубецкая ніколі не прасіла дазволу выхоўваць дзяцей па-за Сібірру і, наадварот, не жадаючы раз'ядноўвацца з дзецьмі, адмовілася ад гэтай літасьці (не паведаміўшы пра нагоду адмовы — нежаданне пазбавіць дзяцей прозвішча бацькоў); Грэч і Лабінскі ўпікалі Кюстына ў няведанні таго факта, што княгіня Трубяцкая — народжаная Лаваль і злучана роднаснымі сувязямі з сямействам, пра якое Кюстын апавядае ў іншым месцы кнігі (гл. гэты том, стр. 394); Шод-Эг лічыць, што маркіз выказвае спагаду княгіні высакамерна і няшчыра і куды больш натуральна шкадуе пра заблудзіўшаяся жарабя (гл.: Gretch. P. 80-81; Chaudes-Aiguls. з. 346).

Няшчасная краіна, дзе кожны іншаземец уяўляецца натоўпу прыгнечаных выратавальнікам і ўвасабляе праўду, галоснасць, свабоду ў вачах народа, пазбаўленага ўсіх гэтых даброт!

Перш чым распавясьці вам, што напісана ў гэтым лісьце, я павінен коратка паведаміць адну сумную гісторыю. Яе галоўныя падзеі вам вядомы, але цьмяна, як усё, што вядома аб гэтай даўёкай краіне, якая выклікае толькі халодную цікавасць: гэтая цьмянасьці робяць вас жорсткім і абыякавым – такім быў і я да свайго прыезду ў Расію; чытайце ж і чырванейце, так, чырванейце, бо той, хто не паўстае ўсімі магчымасьцямі супраць палітыкі дзяржавы, дзе адбываюцца падобныя несправядлівасьці і дзе адважваюцца сцвярджаць, што яны неабходныя, з'яўляецца да некаторай ступені іхным саўдзельнікам і нясе за іх адказнасць.

Пад падставай раптоўнага недамагання я загадваю фельдʼегеру адаслаць коней назад і сказаць на пошце, што паеду заўтра; выправіўшы гэтага шпіёна, які ўсюды суе свой нос, я саджуся пісаць вам ліст.

Князь Трубяцкі быў прысуджаны да катаржнай працы чатырнаццаць гадоў таму назад за тое, што браў дастаткова актыўны ўдзел ў паўстанні 14 снежня.

Гаворка ішла аб тым, каб падмануць жаўнераў і пераканаць іх у тым, што Мікалай І незаконна ўзышоў на пасад. Кіраўнікі змоўшчыкаў спадзяваліся скарыстацца мітуснёй, каб здзейсніць ваенны пераварот; да счасьця або да няшчасьця Расіі, у той час адны яны адчувалі неабходнасць змены дзяржаўнага ладу. Прыхільнікаў рэформаў было занадта мала, каб выкліканае імі хваляванне магло прывесьці да жадаемых вынікаў: гэта былі бязладдзі дзеля бязладдзяў.

Змова правалілася дзякуючы прысутнасьці духу ў імператара, дакладней, дзякуючы безбаязненнасьці яго погляда; рашучасьці, якую гэты гасудар выказаў у дзень свайго ўступлення на пасад, вызначыўшыя яго магутнасьць.

Пасля задушэння мецяжа ўзніла неабходнасць пакараць вінаватых. Князь Трубяцкі, адзін із самых дзейных удзельнікаў змовы, быў асуджаны і высланы на ўральскія руднікі на 14 або 15 гадоў[16], а затым высланы на вечнае пасяленне ў Сібір у адну із аддаўеных губерній, якія засяляюцца злачынцамі.

У князя была жонка, належачая да аднаго із самых радавітых сямействаў Расіі; ніхто не мог адгаварыць княгіню ад рашэння ехаць ўслед за чалавекам на верную сьмерць. «Гэта мой абавязак, – казала яна, – і я яго выканаю; не ў чалавечай уладзе разлучаць чалавека і жонку; я хачу падзяліць лёс майго мужа». Гэтая прыстойная жанчына дабілася літасьцівага дазволу жыўцом пахаваць сябе разам з мужам. Як ні дзіўна гэта для кожнага, хто, як я, убачыў Расію і пачаў

[16] Сяргей Пятровіч Трубяцкі (1790-1860) быў 10 ліпеня 1826 г. прысуджаны да катаржных прац навечна; у 1832 г. тэрмін быў скарочаны да 15 гадоў, у 1835 — да 13 гадоў (гл.: Дзекабрысты. Біяграфічны даведнік М., 1988. стр. 178-179). К. Я. Трубяцкая прыбыла ў Благадацкі руднік, куды спачатку быў накіраваны яе чалавек, у лістападзе 1826 г. Ф. Лакруа, аўтар кнігі «Расійскія таямніцы» (1845), палемізуючы з ацэнкай Кюстынам асобы Трубяцкога, пісаў: «С-р дэ Кюстын у сваім складанні, дарэчы вельмі выдатным, палічыў дарэчным зрабіць із Трубяцкога героя, годнага спагады ўсіх сумленных людзей. Будзь ён дасведчаны крыху лепш, ён не вельмі паспяшаўся б выклікаць у чытачоў слязу з нагоды долі чалавека, які выклікае толькі глыбокую агіду» (Lacroix F. Les mystures de Paris. P., 1845. p. 98; маецца на ўвазе адсутнасць Трубяцкога на пляцы ў дзень паўстання — моманта яго біяграфіі, які Кюстын не бярэ да ўвагі).

бачыць дух, які пануе ў гэтай дзяржаве, рэшткі сораму прымусілі ўрад уважыць гэтае самаахвярнае прашэнне. Зразумела, чаму патрыятычныя здзяйсненні ў пашане ў начальства – яно выкарыстоўвае іх у сваіх мэтах; але цярпець вышэйшую дабрачыннасць, якая ідзе насуперак палітычных поглядаў гасудара, – недаравальная забыўчывасць. Верагодна, баяліся клана Трубяцкіх: арыстакратыя пры ўсёй сваёй мяккацеласць заўсёды захоўвала цень незалежнасьці, і гэтага ценю было дастаткова, каб збянтэжыць дэспатызм. Жахлівае рускае грамадства перапоўнена кантрастамі: шмат якія людзі гавораць паміж сабой так свабодна, нібыта яны жывуць у Францыі: гэта таемная свабода – іхнае суцяшэнне, з яе дапамогай яны ўзнагароджваюць сябе за відавочнае рабства, якое складае ганьбу і няшчасьце іхнай айчыны.

**~ 7 ~**

І так, баязнь супроцьпаставіць сабе ўплывовыя сем'і вымусіла ўлады саступіць свайго роду асьцярожнасьці і міласэрднасьці: княгіня паехала ўслед за чалавекам-катаржнікам; больш за ўсё здзіўляе тое, што яна дабралася да месца. Неверагодна доўгая дарога сама па сабе была жахлівым выпрабаваннем. Вы ведаеце, што на катаргу едуць на возе – маленькай адкрытай павозцы без рысор; ад сотняў, тысяч міль, пераадоленне такім чынам, повозка ламаецца, а ў ездака ломіць ўсё цела. Нешчаслівая жанчына трывала перанесла ўсе нягоды шляху, а затым шмат якіх іншых нягод: я ўяўляю сабе, колькі нягод і пакут яна вытрымала, але не магу вам іх апісаць, бо не ведаю падрабязнасьцей і не хачу нічога прыдумляць: праўда ў гэтым апавяданні для мяне галоўнае.

Подзвіг княгіні здасца вам яшчэ больш гераічным, калі вы даведаецеся, што да таго, як адбылося няшчасьце, чалавек і жонка ставіліся адзін да аднаго даволі халадна. Але ці не можа захапляльная самаадданасць замяніць каханне? І ці не ёсць гэтая самаадданасць само каханне? У кахання шмат крыніц, і самаахвяраванне – багацейшая з іх. У Пецярбургу ў Трубяцкіх не было дзяцей; у Сібіры іх нарадзілася пяцёра![17]

Адданасць жонкі ўзвысіла гэтага чалавека і надаўа ў вачах усіх, хто быў блізкі да яго, арэол святасьці. Хто не прасякнуўся б павагай да прадмета такой ўзнёслай прыхільнасьці!

Якім бы ні было вялікім злачынства князя Трубяцкога, дараванне, у якім імператар, верагодна, будзе адмаўляць яму да самага канца, бо ён лічыць сваім абавязкам перад народам і перад самім сабой безлітасную суровасць, даўно ўжо падаравана вінаватаму царом усіх царэй; не маючыя прыкладу цноты княгіні могуць скарыць Божы гнеў, але не змаглі змякчыць чалавечы суд. Бо Гасподзь сапраўды ўсемагутны, між тым як расійскі імператар толькі ўяўляе сябе такім.

Калі б ён быў сапраўды вялікім чалавекам, ён даўно б дараваў князя Трубяцкога; але, інкрымінаваўшы сабе ў абавязак выковаць загадзя вызначаную ролю, ён чужы міласэрднасьці, бо яна не толькі супярэчыць яго прыроднаму характару, але яшчэ і здаецца яму слабасьцю, нявартай яго становішча; абвыкшы

---

[17] Да 1839 г. у Трубяцкіх нарадзіліся дзеці: Аляксандра (1830-1860), Лізавета (1834-1923 ці 1918), Мікіта (1835-1840), Зінаіда (1837-1924), Уладзімір (1838-1839); пасля 1839 г. у іх нарадзіліся яшчэ дзве дочкі і сын.

іхную карыслівую веру і ўспомнім словы Ісуса Хрыста: “Царства маё не ад гэтага свету”[33].

Гэтыя словы, такія нязвыклыя для чалавека із плоці і крыві, у Расіі даводзіцца паўтараць на кожным кроку; пры выглядзе столькіх немінучых пакут, столькіх непазбежных жорсткасцей, столькіх несуцешных слёз, столькіх зразумелых або незразумелых несправядлівасьцй (несправядлівасць тут проста носіцца ў паветры) – пры выглядзе ўсіх гэтых бедстваў, наваліўшыхся не на адну сям'ю, не на адзін горад, але на цэлае племя, на цэлы народ, які насяляе трацiну зямнога шара, душа ў роспачы паварочваецца ад зямлі і ўсклікае: “Божа мой, сапраўды царства тваё не ад гэтага свету!”

Вельмі шкада! Чаму мае словы нямоглыя? Чаму яны не могуць загладзіць шматлікасць няшчасьцяў лішкам жалобы! Відовішча гэтага грамадства, усе спружыны якога адцягнутыя, як у гатовай да бою гарматы, такое жахлівае, што ў мяне галава ідзе кругам.

З тых часоў, як я жыву ў гэтай краіне і ведаю, што ўяўляе сабой насамрэч чалавек, які ёю кіруе, мяне ўсяго ўстрасае, і я ганаруся гэтым, бо калі ў атручаным тыраніяй паветры я задыхаюся, калі хлусня выклікае маё абурэнне, значыць, я нарадзіўся для нечага іншага, патрэбы маёй натуры занадта прыстойныя для грамадстваў, падобных на тае, якое я назіраю тут, і я створаны для лепшай долі. Гасподзь не даў нам здольнасцей, якія прападаюць марна. Чароўны промысел прызначае нам наша месца ў вечнасьці; усё залежыць ад нас – ці будзем мы вартыя славы, якую ён нам рыхтуе, і месца, якое ён нам вызначае, ці не. Усё, што ў нас ёсць лепшага, узыходзіць да яго.

Вы ведаеце, чаму асуджаны чытаць ўсе гэтыя разважанні? У мяне паламалася каляска, і пакуль яе рамантуюць, я ад нечага рабіць пішу вам усё, што мне прыходзіць у галаву.

Дзве гадзіны назад я сустрэў знаёмага рускага; ён пабываў у адным са сваіх маёнткаў і вяртаўся ў Пецярбург. Мы на хвіліну спыніліся, каб абмяняцца некалькімі славамі; зірнуўшы на маю каляску, мой знаёмы пачаў смяяцца і паказаў мне на кругавую падушку, вось, клямы, чаку, аглоблі і адну із апорных стоек рысоры.

– Бачыце ўсё гэта? – спытаў ён мяне. – Усе гэтыя часткі не даедуць цэлымі да Масквы. Іншаземцы, якія ўпарта жадаюць ездзіць па Расіі ў сваіх калясках, выязжаюць, як і вы, а вяртаюцца дыліжансам.

– Нават калі едуць толькі да Масквы?

– Нават калі едуць толькі да Масквы.

– Расійцы казалі мне, што гэта лепшая дарога ў Яўропе: я паверыў ім на слова.

– Не ўсюды ёсць масты, некаторыя часткі дарогі патрабуюць папраўкі; даводзіцца раз-пораз зварочваць з тракта і праязджаць па хісткіх мастках, дзе дошкі насцелены як прыйдзецца, і пры неруплівасьці нашых фурманаў іншаземныя каляскі ў такіх выпадках заўсёды ламаюцца.

---

33 Ян, 18, 36.

– У мяне англійская каляска, прыстасаваная да доўгіх падарожжаў.

– Нідзе не ездзяць так хутка, як ў нас; калі коні імчацца з усім спрытам, каляску кідае туды сыды, як карабель у моцны шторм, гэта значыць пачынаецца кілевая і бартавая качка разам; вытрымаць такую доўгую трасяніну на роўнай, але цвёрдай дарозе могуць, паўтараю вам, толькі мясцовыя экіпажы.

– Вы яшчэ не пакінулі старыя забабоны і лічыце, што цяжкія, грувасткія каляскі – самыя трывалыя.

– Добрага шляху! Напішыце мне, калі паспяхова дабярэцеся ў вашай калясцы да Масквы.

Не паспеў я развітацца з гэтым гора-вестнікам, як кругавая падушка зламалася. Здарылася гэта недалёка ад паштовай станцыі, дзе я і спыніўся. Звярніце ўвагу, што я праехаў толькі васемнаццаць лье са ста васьмідзесяці... Давядзецца мне далей быць больш абачлівым і адмовіцца ад хуткай язды; я імкнуся вывучыць, як сказаць па-руску “цішэй”, іншыя вандраўнікі, наадварот, падганяюць фурманаў.

**~ 15 ~**

Рускі фурман, апрануты ў тоўсты суконны кафтан, а ў цёплыя дні, як сёння, у каляровую даматканую рубаху, падобную на хітон, з першага погляду здаецца жыхаром Усходу; у тым, як ён ускоквае на козлы, прыкметна азіяцкая спрытнасць. Рускія кіруюць коньмі толькі з павозкі, хіба што каляска вельмі цяжкая і запрэжана шасьцёркай або васьмёркай коней, але нават у гэтым выпадку галоўны фурман сядзіць на козлах. Гэты фурман, трымае ў руках цэлую звязку вяровак: гэта восем лейцаў ад чацвёркі коней, запрэжаных ў шэраг. Элегантная лёгкасць, хуткасць і надейнасць, з якімі ён кіруе гэтай маляўнічай запрэжкай, жвавасць яго самых нязначных рухаў, спрыт, з якім, ён саскоквае на зямлю, яго гнуткая талія, яго постаць, нарэшце, усё яго аблічча выклікаюць у памяті самые грацыёзныя ад прыроды народы зямлі і ў асаблівасьці гішпанскіх цыган. Рускія – светлавалосыя цыгане.

Я ўжо сустрэў некалькіх сялянак, яны не такія пачварныя, як тыя, якіх я сустракаў на пецярбургскіх вуліцах. Яны паўнаватыя, але ў іх ветлівыя твары і чырвань ва ўсю шчаку; ў гэты час года яны пакрываюць галаву хусткай, завязываючы яе ззаду вузлом, а канцы хусткі з уласцівай гэтаму народу грацыяй спускаюць на спіну. Часам яны надзяваюць кароценькі, абрэзаны па калені рэдынгот, перацянуты ў таліі поясам; спераду ў яго разрэз, закругленныя падлогі распахваюцца і пад імі бачна спадніца. Гэты фасон не пазбаўлены вытанчанасьці, але што псуе тутэйшых жанчын, дык гэта іхны абутак – скураныя боты на тоўстай падашве з закругленымі насамі. Унізе боты шырокія, стаптаныя, а галянішча збіраецца ў гармошку, так што зусім не відаць, ці стройныя ногі ў рускіх жанчын; так і здаецца, быццам яны наделі абутак сваіх чалавекаў.

Хаты падобныя на тыя, якія я апісаў вам па шляху із Шлісельбурга, але не такія прыгожыя. Вёскі ўяўляюць сабой маркотнае відовішча, вёска – гэта заўсёды два больш-менш доўгія шэрагі драўляных хат, раўнамерна адстаячых адна ад другой і размешчаных ўздоўж тракта, але не каля самай дарогі, таму што вясковая вуліца пасярод якой праходзіць каляіна, шырэй, чым праезжая частка.

Кожная хацінка, складзена із груба абцёсаных бярвенняў, павёрнутых каньком да тракту. Усе хаты падобныя адна на другую, але, нягледзячы на іхную тужлівую аднастайнасць, мне здалося, што ў вёсках пануе дастатак і нават заможнасць. Яны не маляўнічыя, але ўсё ж гэта не тое што горад, тут валадарыць спакой, уласцівы жыццю на ўлонні прыроды, – гэта асабліва прыемна пасьля Пецярбурга. Вясковыя жыхары не здаюцца мне вясёлымі, але нельга сказаць, што іхны выгляд нешчаслівы, як у жаўнераў або дзяржаўных чыноўнікаў; сяляне менш за ўсіх пакутуюць ад адсутнасьці свабоды; яны больш за ўсіх падняволены, але затое ў іх менш трывог.

Земляробства здольна прымірыць чалавека з грамадзкім ладам, якім бы ён ні быў; вясковая праца надае селяніну цярпенне, ён гатовы выносіць усё, што заўгодна, толькі б яго не пазбаўлялі нявінных вясковых радасцей і не перашкаджалі яму занімацца справамі, якія адпавядаюць яго прыродзе.

Мясцовасць, па якой я ехаў да гэтага часу, – балоты ды пералескі, дзе, наколькі бачна воку, назіраюцца толькі карлікавыя бярозы ды чэзлыя хвоі, раскіданыя па бясплоднай раўніне. Не відаць ні ўрадлівых ніў, ні дрымучых шчодрых лясоў; погляд сустракае толькі бедныя палеткі ды ўбогія гайкі. Самыя вялікі дастатак тут прыносіць жывёлагадоўля, аднак мясцовае быдла хілае і дрэннае. Клімат тут прыгнятае жывёл, як дэспатызм прыгнятае чалавека. Прырода і грамадства нібы-та аб'ядналі свае намаганні, каб зрабіць жыццё як мага больш цяжкім. Калі падумаеш аб тым, якія ж пачатковыя дадзеныя паслужылі для ўтварэння такога грамадства, то здзіўляешся толькі аднаму: якім чынам народ, так жорстка абдзелены прыродай, здолеў так далёка пайсьці па шляху цывілізацыі.

Няўжо праўда, што аднадумства і непахіснасць асноў узнагароджваюць за самы безсаромны прыгнёт? Што да мяне, то я так не думаю, а калі б мне сталі даводзіць, што гэты лад – адзіны, пры якім магла паўстаць і на якім трымаецца Расійская імперыя, я адказаў бы простым пытаннем: ці так важна для лёсу рода чалавечага, каб фінскія балоты былі заселены і каб гаротныя людзі, якіх туды сагналі, пабудавалі дзівосны горад, уражваючы позірк, але, па-сутнасьці, з'яўляючыся не больш чым пераймannем заходняга горада? Павелічэнне магутнасьці масквіцян прынесла цывілізаванаму свету толькі жах новага нашэсьця ды ўзор бязлітаснага і не маючага прыкладу дэспатызма, прыклады якому мы знаходзім хіба што ў старажытнай гісторыі. І будзь яшчэ гэты народ счастлівым!.. Але ж ён быў першай ахвярай славалюбства, якое жывіць ганарыстасць яго гаспадароў.

**~ 16 ~**

Я пішу вам із пабудовы, якая сваёй вытанчанасьцю вельмі адрозніваецца ад маркотных будыначкаў ў навакольных вёсках; гэта разам паштовая станцыя і карчма[34], і тут амаль чыста. Дом падобны на жыллё якога-небудзь заможнага

[34] «Памеранцьеўскі гатэль са спрадвечных часоў у найвялікшай спраўнасьці ўтрымліваецца Лізаветай Янаўнай (так завуць яе фурманы і кандуктары, а мы дададзім: спадарыняй Гендрыхсен), носіць на сабе густ і адбітак нямецкай акуратнасьці. <…> Кухня — вызначаецца павараным мастацтвам, пакоі і буфет ахайныя, мэбля простая, але добрая; падлога і сьцены ўтрымліваюцца ў дастатковай чысьціні. <…> З

пана; падобныя станцыі, хоць і менш дагледжаныя, чым у Памераніі, пабудаваны ўздоўж усёй дарогі на пэўнай адлегласьці адна ад другой і ўтрымліваюцца за кошт урада; сцены і столь тут распісаны ў італьянскім стылі; першы паверх, які складаецца із некалькіх прасторных пакояў, нагадвае французскі правінцыяльны рэстаран. Мэбля абабіта скурай; крэслы з плеценымі сядзеннямі маюць ахайны выгляд; ўсюды стаяць шырокія дываны, на якіх можна спаць, але я із горкага досьведу ведаю, як небяспечна на іх класьціся; я не адважваюся нават сесьці на іх; у рускіх гатэлях, не выключаючы самых дарагіх, драўляная мэбля з мяккімі падушкамі кішыць клапамі.

Я ўсюды важу з сабой ложак – шэдэўр рускай прамысловасьці. Калі мая каляска яшчэ раз паламаецца, у мяне будзе выпадак скарыстацца ім і парадавацца ўласнай прадбачлівасьці; але без патрэбы не варта спыняцца на шляху із Пецярбурга ў Маскву. Дарага прыгожая, але навакал нічога прыкметнага; так што толькі неабходнасць можа прымусіць падарожніка выйсьці із карэты і перапыніць падарожжа.

# Працяг таго ж ліста

**Ядрава, паміж Вялікім Ноўгарадам і Валдаем, 4 жніўня 1839 года**

У Расіі няма далёкіх адлегласьцей – так кажуць рускія, а ўслед за імі паўтараюць усе вандроўцы-іншаземцы. Я прыняў гэта сцверджанне на веру, але на ўласным вопыце пераканаўся ў адваротным. У Расіі – усюды далёкія адлегласьці: на гэтых голых раўнінах, прасьціраючыхся пакуль пранікае погляд, няма нічога, акрамя адлегласьцей; два ці тры мястэчкі, якія варта наведаць, размешчаны ў сотнях лье адзін ад другога. Гэтыя неабсяжныя прасторы – пустыні, пазбаўленыя жывапісных краявідаў; паштовы гасьцінец разбурае паэзію стэпаў; застаюцца толькі бязмежныя далі ды панурая нерадзючая зямля. Усё гола і бедна, але зусім не падобна ні на зямлю, праслаўленую яе насельнікамі, спустошаную гісторыяй і стаўшую паэтычнымі магілкамі народаў – такую, як Грэцыя або Іудэя; не падобна гэта і на цнатлівую прыроду; тутэйшы пейзаж не вызначаецца ні веліччу, ні магутнасьцю, ён проста-напраста непрыглядны; гэта раўніна, месцамі засушлівая, месцамі балоцістая, і толькі два гэтыя краявіды бясплоднасьці робяць разнастайным пейзаж. Рэдкія вёсачкі, усё больш і больш збяднелыя па меры таго, як аддаляешся ад Пецярбурга, не радуюць, але толькі засмучаюць позірк. Іхныя хаты не што іншае, як нагрувашчванне бярвенняў, дарэчы, даволі трывала замацаваных, з дашчатым дахам, наверх якога на зіму часам кладут пласт саломы. У гэтых хібарках, хутчэй за ўсё, цёпла, але іхны выгляд выклікае засмучэнне: яны падобныя на жаўнерскія хаты, толькі ў жаўнерскіх часовых пабудовах не так брудна.

---

вуліцы гэты гатэль аточаны дрэвавай зелянінай і кветкамі і абгароджаны кратамі; у квятніках масткі, альтанкі, сажалкі; дарожкі пасыпаныя пяском <…> усё такое любае, зроблена так па-майстэрску, на нямецкі манер …» (Даведнік. стр. 545).

Пакоі ў гэтых халупках смуродныя, чорныя, душныя. Ложкаў няма: летам людзі спяць на лаўках, якія стаяць ўздоўж сьцен, а зімой на печы альбо на падлозе вакол печы, такім чынам рускі селянін ўсё жыццё жыве як на бівуаку. Слова “жыве” прадугледжвае добраўпарадкаванне, дамавітасць, невядомыя гэтаму народу.

Праязджаючы праз Вялікі Ноўгарад[35], я моцна спаў і не бачыў ні адной са старажытных пабудоў гэтага горада, які доўга быў рэспублікай і стаў калыскай Расійскай імперыі; калі я вярнуся ў Германію праз Вільню і Варшаву, я не ўбачу ні Волхава, гэтай ракі, у якой знайшлі сваю сьмерць[36] столькі грамадзян неспакойнай рэспублікі, якія не пашкадавалі жыццяў сваіх дзяцей, ні царкву Святой Сафіі[37], з якой звязана памяць аб самых славутых падзеях рускай гісторыі да разграблення і канчатковага падпарадкавання Ноўгарада Янам IV, папярэднікам ўсіх сучасных тыранаў.

Мне шмат распавядалі аб Валдайскіх гарах, якія рускія пышна называюць маскоўскай Швейцарыяй[38]. Я набліжаюся да Валдая і ўжо ў трыццаці лье ад горада заўважаю, што мясцовасць становіцца няроўнай, хоць і не пагорыстай, яна перарэзана неглыбокімі ярамі, дзе дарога пракладзена так, што ўздымы і спускі не замядляюць бег коней; мяне па-ранейшаму вязуць вельмі хутка, але я па-ранейшаму губляю час на паштовых станцыях: рускія фурманы вельмі лянiва запрагаюць коней.

Мясцовыя сяляне носяць шырокія шапкі, сплюшчаныя зверху, але шчыльна абхватываючыя галовы: гэты галаўны ўбор падобны на грыб; часам яго ўпрыгожвае паўлінае пяро, заткнутае за павязку вакол ілба: калі чалавек у капелюшы, то пяро прымацоўваецца да абвіваючай туллю стужкі. Іхны абутак пераважна із трыснёгу[39], яны самі плятуць яго і прывязваюць да ног вяроўкамі, якія замяняюць шнуркі. Такім абуткам прыемней любавацца на антычных статуях, чым назіраць яго ў штодзённым жыцці. Антычныя выявы даводзяць нам, што падобны абутак існаваў яшчэ ў глыбокай старажытнасьці.



Сялянак па-ранейшаму мала[40]: на дзясятак мужчын сустракаецца адна жанчына; іхныя сукенкі выяўляюць поўную адсутнасць какетства: гэта падабенства доўгага, да падлогі, і вельмі шырокага пеньюара з глухім каўняром.

---

[35] *Апісанне таго, што засталося ад гэтага знакамітага горада, гл ў главе “Выкладанне далейшага шляху”, напісаннай пасьля вяртання із Масквы.*

[36] Відаць, Кюстын мае на ўвазе патапленне наўгародцаў у Волхаве пры заваяванні горада Янам Жахлівым у 1570 г., пра які Кюстын мог прачытаць у «Гісторыі» Карамзіна (т. 9, гл. 3). Пар. гэты том, стр. 107.

[37] Сафійскі сабор у Ноўгарадзе быў пабудаваны ў 1045-1050 гг. згодна з узорам канстантынопальскага сабора Святой Сафіі.

[38] Магчыма, рэмінісцэнцыя із кнігі Ансэло, які таксама сведчыць, што Валдай завуць рускай Швейцарыяй і лічыць тамтэйшы краявід як «чароўны» (Ancelot. p. 243).

[39] Кюстын апісвае лапці, называючы матэрыял, із якога яны выраблялiся больш звыклым для еўрапейскай свядомасьці трыснягом, хоць насамрэч лапці пляліся із бяросты ці лыка (гл.: Кірсанава. стр. 153). Падобным чынам згаданае ў гэтым жа абзацы паўлінавае пяро было, хутчэй за ўсё, не паўлінавым, а размаляваным гусіным.

[40] *Прайшло крыху больш за ста гадоў з таго часу, як рускія жанчыны перасталі жыць пад замком.*

Такі балахон, зашпілены наперадзе на шэраг гузікаў, цалкам хавае фігуру; убранне сялянак давяршае доўгі фартух, які ўтрымліваецца на двух замацаваных за плячамі шлейках, вытворлівых і падобных на шлейкі заплечнага ранца. Амаль усе ходзяць басанож; толькі ў самых заможных на нагах грубыя боты, якія я ўжо апісаў. Яны павязваюць галаву паркалёвай касынкай або палатнянай хусткай. Нацыянальны галаўны ўбор рускія жанчыны надзяваюць толькі пад час святаў: сёння яго носяць яшчэ і прыдворныя дамы: гэта нешта падобнае наківер, адкрыты зверху, дакладней, высокая дыядэма, абхопліваючая галаву. Яна ўпрыгожана каменнямі ў заможных дам і залатым і срэбным шыццём у сялянак. Гэты вянок, не пазбаўлены вытанчанасьці і не падобны ні на адзін галаўны ўбор у сьвеце – калі ён што і нагадвае, то башню Кібелы[41].

Але не толькі сялянкі ходзяць непрыбранымі. Я бачыў рускіх дам, якія вандруюць у самым непрывабным выглядзе. Сёння, спыніўшыся на паштовай станцыі, каб паабедаць, я сустрэў цэлае сямейства, з якім нядаўна звёў знаёмства у Пецярбургу, дзе яно жыве ў раскошным палацы із тых, што рускія з гонарам паказваюць іншаземцам. Там гэтыя дамы вызначаліся ўбраннямі, пашытымі згодна з апошняй парыжскай модай. Але ў гатэлі, дзе яны дагналі мяне праз новыя непрыемнасьці, якія напаткалі маю каляску, я ўбачыў зусім іншых людзей; з імі адбылася такая ўражваючая перамена, што я ледзь іх прызнаў; феі ператварыліся ў ведзьмаў. Уявіце сабе юных асоб, якіх вы бачылі раней у свеце і якія раптам з'явіліся перад вашым позіркам ва ўбранні Папялушак, горш за тое, у пакамечаных палатняных касынках сумніўнай бялізны, без капелюшоў і чапцоў, у брудных сукенках, з замусоленымі, падобнымі на анучы хусьцінкамі на шыі, у старых, стаптаных чаравіках: так і здаецца, быццам бы вы апынуліся пад уладай злога чараўніка.

Жахлівей за ўсё было тое, што падарожніц суправаджала шматлікая прыслуга. Гэтая чэлядзь, мужчыны і жанчыны, апранутыя ў рыззё, яшчэ больш мярзотнае, чым у гаспадынь, хадзілі туды-сюды, выраблялі пякельны шум і давяршалі падабенства таго, што адбываецца на шабашы. Яны крычалі, бегалі ў розныя бакі; яны пілі, елі, яны знішчалі прыпасы з прагнасьцю, якая адбіла б апетыт у самага галоднага чалавека. Аднак гэтыя дамы не прамінулі гучна паскардзіцца на тое, што на паштовай станцыі не прыбрана, нібы та ў іх было права заўважаць чыюсьці нядбайнасць; мне здалося, я патрапіў ў цыганскі табар, з той толькі розніцай, што цыганкі не такія патрабавальныя.

Я чалавек непатрабавальны пад час падарожжаў, чым ганаруся, і я лічу, што на паштовых станцыях, уладкаваных урадам[42], гэта значыць імператарам, на гэтай дарозе, дастаткова выгод: там прыстойна кормяць; там можна нават

[41] Грэцкую (фрыгійскага паходжання) багіню зямлі Кібелу малявалі ў зубчатай кароне, якая мае форму вежы ці нават некалькіх веж — згодна з лікам гарадоў, якія Кібела ўзяла пад сваё заступніцтва. Пра какошнікі гл. заўвагу. да т. I стр. 184.

[42] Маскоўска-Пецярбургская шаша ў першай палове стагоддзя актыўна ўдасканальвалася: «У 1810-30-х гадах тут былі перабудаваны і нанова пабудаваны 24 станцыі, а ў 1835-37 гадах да іх дадаліся 13 новых «пастаўленых станцый для пошт і падарожных на паштовых конях» (Урусава Я. В. Сентыментальнае вандраванне із Пецярбурга ў Маскву // Чалавек. 1992. № 3. стр. 141).

паспаць, калі абыходзіцца без ложка: як вы памятаеце, гэты качавы народ ведае толькі дыван ды барановую скуру альбо проста цыноўку, кінутую на лаўку ў палатцы, ці драўлянай, ці атынкованай або проста палатнянай: славянскія народы да гэтага часу жывуць, як на бівуаках, яны яшчэ не засвоілі, што для спання патрэбна асобная мэбля; еўрапейскі ложак канчаецца на Одэры[43].

Часам на азярцах, якімі ўсеяна агромістае балота, названае Расіяй, віднеецца горад, гэта значыць нагрувашчванне шэрых драўляных хатак, якія адлюстроўваюцца ў вадзе і выглядаюць дастаткова маляўніча. Я праехаў праз два ці тры такіх чалавечых вуллі, але запомніў толькі горад Зімагор'е[44]. Гэта даволі крута паднімаючаяся ў гару вуліца, уздоўж якой стаяць драўляныя хаты, цягнецца на цэлае лье, а незабыўнай яе робіць адкрываючаяся адтуль выява рамантычнага кляштара[45] на другім беразе аднайменнага возерца; белыя вежы кляштара маляўніча віднеюцца над яловым борам, які здаўся мне больш высокім і густым, чым усе якія я да гэтага часу сустракаў ў Расіі. Калі думаеш, колькі драўніны спажываюць рускія, ці дзеля таго, каб пабудаваць хаты, ці дзеля таго, каб іх абагрэць, то здзіўляешся, як яны яшчэ не звялі ўсе лясы.

Усе лясы, якія я бачыў тут дагэтуль, пазбаўлены дрэў. Іх называюць лясамі, але насамрэч гэта зарасьлі кустоў, гразкія і сырыя, над якімі дзе-нідзе ўзвышаюцца неказістыя хвоі ды рэдкія бярозы, чый чэзлы маладняк толькі перашкаджае апрацоўваць зямлю.

**~ 18 ~**

# Працяг таго ж ліста

**Таржок, 5 жніўня 1839 года**

На раўнінах не відаць удалечыню, таму што заўсёды што-небудзь перашкаджае; куст, ўрочышча, палац хаваюць ад вачэй прастору разам з

[43] Адсутнасць ложкаў здзіўляла ледзь ці не ўсіх французаў — сучаснікаў Кюстына, якія пабылі ў Расіі. Пар. з думкай Ансэло: «На паштовых станцыях нярэдка ёсць неблагія карчмы, але не спадзявайцеся знайсьці там ложак. У кожным пакоі стаіць шырокая скураная канапа, набітая конскім воласам, і на гэтым ложку вандроўнік, да якога б стану ён ні належаў, праводзіць ноч: рускія, прызвычаіныя спаць на адным-адзінюткім надзвычай цвёрдым матрацы, не адчуваюць пры гэтым ніякіх нязручнасьцей, што ж да замежнікаў, то, спачатку непрыемна здзіўленыя кантрастам рускіх канап з нямецкімі пярынамі, яны даволі хутка звыкаюццца з гэтымі паходнымі ложкамі і засынаюць моцным сном» (Ancelot. p. 244-245); сведчанне Баранта: «У рускіх хатах, нават самых прыгожых і заможных, ложак — вялікая рэдкасць. Гэты прадмет не належыць да ліку спрадвечных прылад славянскага побыту. У Расіі людзі спяць, захутаўшыся ў верхнюю сукенку, на скураных канапах» (Notes. p. 249-250), і сведчанне д'Арленкура, што загаварыць на рускім заезным двары пра ложак — азначае праслаўіцца арыгіналам (Arlincourt. т. 1. P. 303). Гэта асаблівасць рускіх заезных двароў кідалася ў вочы і рускім, якія вярталіся із-за мяжы; пар. уражанне Д. М. Свярбеева ў 1823 г.: «Я спыніўся ў першым кракаўскім гатэлі, што ўяўляла ўжо ўсю бязладдзіцу нашых рускіх корчмаў, неахайнасць прыслугі, адсутнасць пасьцелі…» (Свярбееў Д. Н. Нататкі. М., 1899. т. 2. стр. 14).

[44] Зімагор'е (у Кюстына — Зімагай), згодна са словамі Шніцлера, магло лічыцца прадмесьцем Валдая і налічвала напачатку 1830-х гг. дзве тысячы жыхароў (Schnitzler. p. 176).

[45] Іверскі кляштар, заснаваны ў 1654 г. патрыярхам Ніканам і названы праз выяву Іверскай Боскай маці, прывезенай з гары Афон.

завяршаючай іх лініяй гарызонта. Дарэчы, ні адзін пейзаж тут не запімаецца, ні адзін ландшафт не прыцягвае погляд; ніякіх маляўнічых абрысаў, роўныя дзялянкі рэдкія, пазбаўленыя разнастайнасьці, нічым не перасякаюцца, таму яны ўсе цалкам аднолькавыя; каб надаць зачараванне адкрытай мясцовасці, патрэбны хаця б яркія фарбы паўднёвага неба, але яны адсутнічаюць у гэтай паласе Расіі, дзе прыроды, можна сказаць, няма зусім.

Тое, што называюць Валдайскімі гарамі, – ланцуг пагоркаў, такіх жа маркотных, як тарфянікі Ноўгарада.

Горад Таржок славіцца сваімі гарбарнымі фабрыкамі; тут вырабляюць прыгожыя, добра вырабленыя боты, разшытыя золатам і срэбрам туфлі, уцеху ўсіх еўрапейскіх франтаў, асабліва тых, хто любіць дзівоцтвы, прывезеныя іздалёк. Вандроўцы, якія праязджаюць праз Таржок, плацяць за скураныя вырабы, зробленыя ў гэтым горадзе, значна даражэй, чым у Пецярбургу ці Маскве.

Прыгожы сафьян, руская душыстая скура, вырабляюцца ў Казані, і, згодна чутак, яе можна танна купіць на ярмарцы ў Ніжнім, выбраўшы ў кучы скур тое, што спадабаецца.

Таржок мае яшчэ адзін, як сёння кажуць, фірмовы выраб – курыныя катлеты[46]. Калі імператар аднойчы спыніўся ў Таржку ў маленькай харчэўні, яму падалі на здзіўленне смачныя курыныя катлеты. І таржкоўскія катлеты адразу праславіліся на ўсю Расію. Вось гісторыя іхнага паходжання[47]. Адна мясцовая карчмарка гасьцінна прыняла і сытна накарміла гаротнага француза. Перад ад'ездам ён сказаў ёй: “Заплаціць мне няма чым, але я дапамагу вам набыць багацце” - і навучыў яе гатаваць курыныя катлеты. Добразычліваму лёсу было заўгодна, каб імператар першым паспрабаваў страву, прыгатаваную згодна з новым рацэптам. Карчмарка із Таржка ўжо памёрла, але яе прадпрыемства, перайшоўшы да дзяцей, карыстаецца ранейшай славай.

Калі Таржок нечакана паўстае перад позіркам падарожніка, які едзе із Пецярбурга, ён вырабляе ўражанне лагеря, разбітага пасярод пшанічнага поля. Яго белыя хаты, вежы, асабнякі нагадваюць ўсходнія мінарэты. Бачныя пазалочаныя шпілі купалоў, самыя разнастайныя званніцы: круглыя і квадратныя, высокія і нізкія, усе зялёнага або сіняга колеру; некаторыя ўпрыгожаны маленькімі калонамі; адным словам, гэты горад – прадвеснік Масквы. Вакол яго раскінуліся палеткі, засеяные жытам; гэтая выява мне значна мілей, чым знявечаныя лясы, якія ўжо два дні засмучваюць мой позірк:

---

[46] Маюцца на ўвазе пажарскія катлеты, названыя згодна з імем Дар'і Еўдакімаўны Пажаркай (1799-1854), дочкі гаспадара карчмы ў Таржку Еўдакіма Зьмітравіча Пажарскага. Існавалі больш патрыятычныя версіі паходжання пажарскіх катлет: «аднойчыназіраючы як кухар імператара Аляксандра рыхтаваў абед, яна <дачка Пажарскага> навучылася мастацтву гатавання ежы на працягу некалькіх гадзін і частуе прыязджаючых смачным абедам» (Даведнік. стр. 135).

[47] [заўвага аўтара] Не існуе нічога, што б расійскі імператар не змог увесьці ў моду ў сваёй краіне; у Мілане, наадварот, калі віцэ-кароль (маецца на ўвазе правіцель Ламбарда-Венецыянскага каралеўства, якое ў 1815-1859 гг. належала Аўстрыі.) апякуе актора, справа дрэнная: таго бязлітасна асвішчуць.

аброблeная глеба хоць бы прыносіць плён: зямля можа не мець маляўнічых красот, калі яна шчодрая; але нерадзючая зямля, не маючая велічы пустыні, – самае тужлівае відовішча для падарожніка.

Я забыўся згадаць пра адну даволі дзіўную рэч, уразіўшую мяне на пачатку шляху.

Паміж Пецярбургам і Ноўгарадам я заўважыў яшчэ адну дарогу, якая ідзе паралельна галоўнай на невялікай адлегласьці ад яе[48]. На гэтай прасёлкавай дарозе ёсць заставы, агароджы, драўляныя масты, каб перапраўляццая праз рэчкі і балоты; адным словам, тут ёсць усё, што трэба, хаця яна не такая прыгожая і значна больш ухабістая, чым паштовы гасьцінец. Даехаўшы да станціі, я загадаў спытаць у наглядчыка, у чым тут справа; мой фельд'егер перавёў мне тлумачэнне гэтага чалавека; вось яно: запасная дарога прызначана для ламавых рамізнікаў, быдла і падарожнікаў у тыя дні, калі імператар або хто-небудзь із імператарскай сям'і едзе ў Маскву. Гэта раздзяленне дазваляе пазбегнуць пылу і затораў, якія чынілі б нязручнасьці і затрымлівалі б аўгусьцейшых падарожнікаў, калі б гасьцінец падчас іх паездкі заставаўся даступным для простых смяротных. Не ведаю, ці не пасмяяўся нада мной наглядчык, але ён гаварыў з вельмі сур'ёзным выглядам і, як мне здалося, лічыў цалкам натуральным, што ў краіне, дзе гасудар – гэта ўсё, цар мае ў сваім распараджэнні цэлую дарогу. Кароль, які казаў “Францыя – гэта я”[49], спыняўся, каб прапусціць статак авечак, і пад час яго кіравання ўсякі падарожнік, пешы ці конны, усякі селянін, які ішоў па дарозе, паўтараў прынцам крыві, якіх сустракаў на шляху, нашу старую прымаўку: “дарога належыць усім”; маюць значэнне не столькі самі законы, колькі спосабы іх прымянення.

У Францыі норавы і звычаі заўсёды памякчалі палітычныя ўладкаванні; у Расіі яны, наадварот, робяць іх больш жорсткімі, і гэта прыводзіць да таго, што вынікі становяцца яшчэ горшымі, чым самі прынцыпы.

Дарэчы, павінен сказаць, што двайная дарога даходзіць толькі да Ноўгарада; верагодна, улады вырашылі, што існаванне двух дарог створыць моцную даўку на подступах да сталіцы, а магчыма, палічылі, што другая дарога наогул не патрэбна, і не сталі яе дабудоўваць.

**~ 19 ~**

Трэба прызнаць, што пры схільнасьці рускіх да хуткай язды статкі кароў, якія вы штохвілінна сустракаеце на тракце, роўна як і доўгія абозы, кіруемыя адным вазнічым, могуць стаць падставай сур'ёзных і частых няшчасных здарэнняў. Так што тут двайная дарога, магчыма, больш патрэбна, чым у іншым месцы: але навошта чакаць каб небяспека пагражала жыццю імператара альбо каму-небудзь із імператарскай сям'і; ці не лепш ліквідаваць яе загадзя? Такая непрадбачлівасць супярэчыць духу Пятра Вялікага, які, нанімаючы дрожкі, браў у пецярбургскіх купцоў грошы ў доўг, каб расплаціцца з фурманам; аднак,

[48] «Паралельна шашы і лесу, справа, цягнецца па багністым месцы асобна выбрукаваная фашынамі і палавінкамі бярвёнаў дарога для прагону рагатага быдла ад Масквы да Санкт-Пецярбурга» (Даведнік. стр. 545).

[49] «Францыя — гэта я» — афарызм, які прыпісваецца Людовіку XIV.

даведаўшыся, што адзін із яго паркаў хочуць закрыць для публікі, ён усклікнуў: “Вы што ж думаеце, я патраціў столькі грошай дзеля сябе аднаго?”[50]

Бывайце; калі маё падарожжа працягнецца паспяхова, мой наступны ліст будзе із Масквы. Кожнае сваё пасланне я складваю без адраса і хаваю як можна надзейней. Але ўсе мае засьцярогі выявіцца марнымі, калі мяне арыштуюць і абшукаюць маю каляску.

# Ліст дваццаць трэцці

*Спадарыня графіня О'Данэла. – Юныя фурманы. – Іх манера кіраваць коньмі. – Коні мчацца як віхор. – Успамінанні аб старажытным цырку. – Піндар. – Паэтычная язда. – Цудоўны спрыт. – Дарогі, запружаныя ламавымі рамізнікамі. – Аднаконныя павозкі. – Прыродная мяжа рускага народа. – Яго ўменне прыдаваць вытанчанасць навакольным рэчам. – Асаблівая цікавасць Расіі для людзей думаючых. – Жаночы ўбор. – Купчыхі із Таржка. – Іхныя ўборы. – Арэлі. – Ціхія забавы. – Смеласць рускіх. – Прыгажосць сялянак. – Прыгожыя старцы. – Бездакорная прыгажосць. – Рускія хаціны. – Сялянскія лаўкі. – Вясковыя бівуакі. – Схільнасць да крадзяжоў. – Ветлівасць, набожносць. – Народная прымаўка. – Мой фельд’егер аблічвае фурманаў. – Рэчы знатнай дамы. – Непадабенства духу, пануючага ў велікасвецкіх салонах у Францыі і ў Расіі. – Статс-дамы. – Дыпламатыя, двойная гульня жанчын у палітыцы. – Размовы рускіх дам. – Адсутнасць у сялян маральнага пачуцця. – Адказ працаўніка свайму гаспадару. – Шчасьце рускіх рабоў. – Што варта пра гэта думаць. – Што робіцца чалавека сябрам грамадства. – Паэтычная ісьціна. – Следства дэспатызму. – Права падарожніка. – Адноснасць цнотаў і заган. – Адносіны паміж Царквой і кіраўніком дзяржавы. – Скасаванне патрыяршаства ў Маскве. – Цытата із “Гісторыі Расіі” спадара Левека. – Рабскі дух рускай царквы. – Асноўнае адрозненне паміж нацыянальнымі веравызнаннямі і сусветнай Царквой. – Евангелле-прылада пераўроту ў Расіі. – Гісторыя жарабца. – На чым трымаюцца цноты. – Адказнасць за злачынствы: у старажытнасьці яна абуджала больш баязьні, чым сёння. – Мроі наяву – Волга. – Успаміны аб рускай гісторыі. – Параўнанне Гішпаніі і Расіі. – Пагубнае ўздзеянне паўночнай расы̀.*

Спадарыні графіні О'Данэл.[51]

---

[50] Амаль даслоўная цытата із «Гісторыя Расіі і Петра Вялікага» Сегюра (кн. 11, гл. 3; Segur. p. 462), які, відаць, выкарыстаў анекдот 20 кнігі Шэліна (гл. заўвагу. да т. І, стр. 432) — «Пётр Вялікі заводзіць забаўляльныя ўстановы не толькі для сябе, але і для народа».

[51] [заўвага аўтара] Мілан, 1 студзеня 1842 г.

Прайшло менш чым тры гады з таго дня, калі быў напісаны гэты ліст, а спадарыні графіні О'Донэл, якой ён быў адрасаваны, ужо няма ў жывых; ледзь дайшоўшы да сярэдзіны зямнога шляху, яна раптоўна захварэла і пакінула нас, не паспеўшы падрыхтаваць родных і сяброў да горкай страты.

Мы так спадзяваліся, што калі-небудзь яна будзе па-майстэрску і турботна суцяшаць нас у нягодах, якія непазбежна прыносяць з сабой сталыя гады! Няўжо мы заслужылі гэтую сумную долю – бачыць, як маладая, паважаемая, аточаная сябрамі, яна раней нас сыходзіць па схіле, па якім аднойчы

пойдзем і мы, старыя, нікому не патрэбныя, на кажным кроку шкадуючыя пра адсутнасць падтрымкі, якую абяцала нам яе вялікадушнае сэрца і чароўны розум?

Нажаль, у будучым я ўжо не рызыкую скампраментаваць яе, звяртаючыся да яе ў сваіх лістах і выкладаючы ёй свае меркаванні пра дзіўную краіну, якую я апісваю, бо яе імя хаваюць магільная шаты. Таму ў маіх лістых  із Расіі будзе згадвацца толькі гэтае імя.

Яно належала адной із самых ласкавых, самых дасьціпных жанчын, якіх я толькі ведаў; у той жа час яна была асаблівай, у вышэйшай ступені годнай сапраўднага сяброўства, і сама была ў вышэйшай ступені адданым сябрам. Яна умела разам рашуча накіроўваць і неназойліва ўпрыгожваць жыццё сваіх сяброў; цвёрды розум падказваў ёй самыя мудрыя парады, сэрца падказвала самыя прыстойныя, самыя смелыя рашэнні, а яе жыццярадасны розум палягчаў існаванне людзей самых няшчасных; смеючыся над сучасным, немагчыма прыходзіць у адчай пры думцы пра будучыню.

У яе быў сур'ёзны нораў, жывы востры розум, які вызначаўся хуткасьцю і незалежнасцью меркаванняў; розум, поўны энергіі, ашаламляльны, як акалічнасьці, выклікаўшыя яго дасьціпныя жарты; розум, нязменна спагадлівы і ўмеючы ў выпадку патрэбы стаць на абарону абражанага.

Яна бачыла людзей насквозь, але, быдучы не схільнай да якога б то ні было прытворства, паблажліва ставілася да слабасьці; яна разборліва выкарыстоўвала зброю, якую ёй давала ў рукі прыродная пранікілівасць; справядлівая нават у жартах, безстаронняя нават у гарачнасьці, яна высмейвала толькі тыя недахопы, ад якіх можна пазбавіцца; надзеленая здаровым сэнсам і прытым пазбаўленая ўсякай педантычнасьці, яна пазбаўляла людзей ад памылковых думак з незаўважальным і таму асабліва дзейсным майстэрствам; калі б не шчырае пачуццё, якое кіравала ёю ў гэтай дабрачыннай працы, яе нюх, яе бязхібны густ можна было б прыняць за мастацтва – так спрытна ў яе атрымлівалася выпраўляць дробныя недахопы і нават вялікія заганы, нікога не абражваючы. Але гэтае мастацтва вынікала ад дабрыні. Пранікілівасць нязменна служыла для таго, каб выконваць жаданні свайго прыстойнага сэрца.

Калі яна лічыла сваім абавязкам наставіць сябра на праўдзівы шлях, яна выказвала суровую праўду, не абражаючы самапавагі, бо яе непасрэднасць была доказам спачування, а што магло быць больш лепшым, чым заслужыць яе спачуванне, бо душа яе была занадта ўзвышанай, каб не быць незалежнай; не лічачыся з чужым меркаваннем ў сваіх прыхільнасьцях, яна не паважала слепа, бо валодала на рэдкасць цвярозым розумам – годнасць, без якой усе іншыя нічога не вартыя.

Відавочныя ўласьцівасьці яе характару былі прыемнымі, патаемныя – прывабнымі; ёй заўсёды было ўласьціва жаданне тварыць дабро, але звычайна яна прызнавалася толькі ў жаданні забаўляць і падабацца.

Чым менш імкнулася спадарыня О'Донэл вырабіць ўражанне, тым больш прастадушнасьці, вытанчаннасьці, натуральнасьці было ў яе паводзінах; ёй падабалася раздаваць свой розум, як заможнаму – золата. Яна выказвалася, што ёй больш даспадобы чужы талент, бо яе ўласны талент заключаецца толькі ва ўменні паважаць талент іншых.

Жыццё ў бацькавай хаце давала для яе шмат прыкладаў і давала массу магчымасьцей для развіцця прыроджанай здольнасьці шчыра радавацца чужым творам (спадарыня О'Донэл была дачкой спадарыні Сафі Гэ і сястрой спадарыні Дэльфіны дэ Жырардэн), здольнасьці, якую яна змагла ў наступным павярнуць на карысць ўсім сваім сябрам.

Аднак было б памылкай цалкам давяраць яе прыроднай сціпласьці: розум, такі шчодры на тонкія заўвагі, на арыгінальныя і маляўнічыя выразы, бліскучы із бліскучых, кемлівы, як сказаў бы Мантэнь, раўназначны таленту; гэта розум, народжаны парыжскай свецкай размовай залатога стагоддзя, але прызваны судзіць нашу эпоху, якую с-ня О'Донэл разумела як філосаф і адвображвала як люстэрка. Столькі разнастайных добрых якасьцей, такі цьвёрды характар, такая дабрыня сэрца, такая гнуткасць розуму, такое счастлівае спалучэнне розуму і весялосьці адносіла яе да таго тыпу французскіх жанчын, якія, дзякуючы сваёй энергіі, схаванай пад хараством, сакрэтам якой валодаюць яны адны, становяцца альбо спакуслівымі какеткамі, альбо гераінямі – гледзячы ў якія часы ім давядзецца жыць. Рэвалюцыі выпрабоўваюць сэрцы і выяўляюць схаваныя ў іх цноты.

Добразычлівая ад прыроды, с-ня О'Донэл больш радавалася дабру, якое рабіла сама, чым паслугам, якія выказвалі ёй, і прытым – рэдкі дар! – яна падняла сяброўства на такую вышыню, што навучылася не толькі даваць, але і браць; значыць, яе пачуццё дасягнула дасканаласьці.

Назіраўшая з блізку і здалёк за сваімі сябрамі, але ніколі не надакучваючы ім прашэннямі: нязменна строгая да сябе і паблажлівая да іншых; змірыўшаяся з іхнымі недасканаласьцямі як з непазбежнасьцю, старанна пакрываўшая, у супрацьлегласць пасрэдным жанчынам, глыбокую мудрасць ў форму лёгкай балбатні, яна бачыла людзей у іхным праўдзівым сьвеце, а падзеі з іхнага лепшага боку.

**Клін, маленькі гарадок у некалькіх дзесятках лье ад Масквы. 6 жніўня 1839 года[52].**

Зноў прыпынак і зноў з той жа самай нагоды! Мая каляска ламаецца кожныя дваццаць лье. Station, рускі афіцэр із Памераніі быў ліцейшчык!..

Бываюць хвіліны, калі, нягледзячы на мае патрабаванні і паўтарэнне слова “цішэй”, у мяне захоплівае дух ад хуткай язды[53]; бачачы, што мае патбаванні не прымаюцца да ўвагі, я маўчу і закрываю вочы, каб пазбегнуць галавакружэння. Дарэчы, сярод стольк фурманаў я не сустрэў ніводнага увальня, а некаторыя былі проста на здзіўленне спрытнымі. Неапалітанцы і рускія – лепшыя фурманы на сьвеце; самые спрытныя із іх – старыя і дзеці; асабліва мяне ўражваюць дзеці. У першы раз, калі я ўбачыў, як маю каляску і маё жыццё давяраюць дзесяцігадоваму хлопчыку, я паўстаў супраць такой неасьцярожнасьці; але мой фельд’егер стаў запэўніваць мяне, што ў гэтым няма нічога жахлівага, і, паколькі ён падвяргаўся падобнай жа небяспецы, як і я, мне нічога не заставалася, як

---

Тыя, хто быў з ёю знаёмы, не горш за мяне ведаюць, колькі філасофскай глыбіні і сьмеласьці было ў яе манеры проста і хутка падпарадкоўвацца абставінам, колькі міласэрднасьці, ўзвышанасьці, праніклівасьці было ў яе меркаваннях пра норавы.

Не памюляючыся адносна блізкіх людзей, яна паважала іх насуперак іхным недахопам, якія спрабавала схаваць толькі ад вачэй свету, яна паважала іх як у пару поспехаў так і ў пару нягод, бо была чужой зайзрасьці і – годнасць яшчэ больш рэдкая і выдатная – умела ў той жа час устрымацца ад усякай напушчанай лагоднасьці.

Яе стаўлянне да сябраў, якіх спасьцігла няшчасьце, здавалася плёнам не столькі вызначаных правілаў, якія дыктуюцца дабрадзейнасьцю, колькі ціхага натхнення; нішто ў ёй не паказвала прымусу, усё мела характво натуральнасці: маці, дачка, сястра, сяброўка – яна выдаткавала жыццё адзіна на тое, каб рабіць добро дарагім ёй людзям, і не толькі не выхвалялася сваёй адданасьцю, але была апошняй, хто аддаваў сабе справаздачу ва ўласных ахвярах; яна не патрабавала ўхвалаў, і за гэта яе шанавалі; нарэшце, ёй даравалі тое, што ненавідзелі ў іншых: рэўнасьць; яна была раўнівай... але раўнавала толькі да прыхільнасьцей і ніколі – да выгод, бо ў ёй не было карысьці; яе рэўнасць – трывожнае пачуццё, чужое патрабавальнасьці і славалюбства, – абязбройвала самыя ганарыстыя сэрцы і не абурала іх, але напаўняла пяшчотай; зайздрасць абуджае пагарду, рэўнасць, подобная той, якую адчувала с-ня О'Донэл, заслугоўвае спачування.

Вось якой была жанчына, якой я пісаў гэты ліст па дарозе ў Маскву; калі б у тую пару хто-небудзь сказаў мне, што, перш чым яго надрукаваць, мне давядзецца дадаць да яго такую сумную заўвагу, то азмрочыў бы мне ўвесь астні шлях.

Усе так паважалі яе, яна была такой поўнай жыцця, што немагчыма паверыць у яе сьмерць, нават аплакваючы яе. Яна прадаўжае жыць у нашай памяті; кожная наша радасць, кожнае наша гора ўваскрашаюць яе ў нашым ўяўленні, і з гэтага часу мы будзем пастаянна звяртацца да яе ў думках, прадляваючы яе жыццё, якое не павінна была згаснуць так рана.

Словам “мы” я пазначаю не аднаго сябе, я кажу ад імя ўсіх, хто яе ведаў і паважаў, што пасутнасці адно і тое ж, бо ўсе, хто яе блізка ведаў, вельмі паважалі яе, ад імя яе сям'і, асабліва маці, якая на яе падобна, і я ўпэўнены, што, хоць усе гэтыя людзі зараз далёка, яны падзяляюць мае пачуцці.

О'Донэл Эліза — прыёмная дачка Сафі Гэ (дачка яе другога чалавека і, такім чынам, адзінакроўная сястра Дэльфіны дэ Жырардэн); яе смерць (у жніўні 1841 г.) вырабіла на Кюстына прыгнятаючае ўражанне; 31 жніўня 1841 г. ён пісаў Ж. Жанэну: «Я шмат працаваў <…> але страта с-ні О'Донэл спыніла мяне <…> Я ўвесь час вяртаюся думкай да с-ні О'Донэл <…> Для Дэльфіны страта велізарная: гэта сястра валодала такім густам і тактам, што адна магла замяніць дзясятак сяброў» (цыт. згодна з: Tarn. p. 491).

[52] Згодна са старым стылем 25 ліпеня.

[53] Пар. уражанні Баранта: «Перамяшчэнне на паштовых у Расіі — раскоша; коней тут не шкадуюць, вазніцы не клапоцяцца ні пра збрую, ні пра экіпаж; нецерпялівыя, спяшаючыяся вандроўнікі ўвесь час абсыпаюць вазніц пагрозамі, а іншы раз і б'юць, таму тыя гоняць так хутка, як ні ў адной іншай краіне — але толькі калі вязуць прывілеяванага вандроўніка, які мае наказ ад імператара…» (Notes. p. 244-245).

паверыць яму на слова; ітак, чацвёрка коней, чый гарачы нораў і горды выгляд не супакоілі мяне, паскакала галопам. Хлопчык, меўшы вялікі досьвед, не спрабаваў іх спыніць, насупраць, каб коні не панесьлі, ён пусціў іх ва ўвесь спрыт, і каляска імчалася як віхор. Гэтая хітрасць, больш дапасуе тэмпэраменту жывёл, чым тэмпэраменту седакоў, працягвалася ўвесь перагон; але прабегшы вярсту, коні стаміліся, і ролі перамяніліся: зараз ужо фурман усё з большай нецярплівасьцю паганяў змучаных коней; ледзь коні спрабавалі запаволіць бег, чалавек лупіў іх, покуль яны не пачыналі бегчы так жа хутка, як і раней; дзякуючы суперніцтву, якое лёгка ўзнікае паміж чатырма хуткімі коньмі, якія бягуць побач, мы імчаліся з шалёнай хуткасьцю да канца перегона. Кожны конь імкнуўся абагнаць трох іншых і быў гатовы змагацца не на жыццё, а на сьмерць. Ацаніўшы нораў гэтай пароды коней і бачачы, якую карысць атрымліваюць ад гэтага людзі, я хутка зразумеў, што слова “цішэй”, якое я так старанна вучыўся вымаўляць, у гэтым падарожжы мне не патрэбна, і калі я буду ўпарта дабівацца таго, каб коні беглі не так жвава, як яны прывыклі, можа адбыцца жахлівы выпадак. У рускіх ёсць дар, нават талент раўнавагі; людзі і коні не ўтрымалі б раўнавагу пры дробнай рысі; іхная манера ездзіць была б для мяне прыемнай забавай, будзь мая каляска больш трывалай; але на кажным павароце мне здаецца, што наш экіпаж, таго і глядзі, разваліцца на часткі, і мае засьцярогі маюць пад сабою нямала падстаў, бо каляска пастаянна ламаецца. Без камердынера італьянца, які служыць мне карэтнікам і цесляром, мы б ужо даўно затрымаліся дзе-небудзь у глушы; і ўсё ж я не стамляюся захапляцца незалежным выглядам, з якім нашы фурманы ўскокваюць на казлы. Яны садяцца бокам, з прыроджанай грацыей, значна больш чароўнай, чым завучанная элегантнасць вымуштраваных фурманаў. Калі дарога ідзе пад ўхіл, яны раптам ускокваюць на ногі і кіруюць стоячы, злёгку нахіліўшыся, выцягнуўшы рукі наперад і нацягнуўшы ўсе восем лейцаў. У гэтай паставе антычнага барэльефа яны падобныя да цыркавых вершнікаў. Коні рассякаюць паветра, клубы пылу, нібы пырскі бушуючых хваль, уздымаемыя караблём, прачэрчваюць шлях коней, якія ляцяць, амаль не датыкаючыся зямлі. Тады дзякуючы ангельскім рысорам кузаў каляскі гайдае, як лодку, знесеную лютым ветрам, чыю магутнасць упакорвае сустрэчнае цячэнне; здаецца, быццам сутыкненне стыхій вось-вось разбурыць калясьніцу, і ўсё ж яна імчыцца наперад; здаецца, быццам ты перачытваеш Піндара[54], здаецца, быццам бачыш сон, бо прынята лічыць, што такая імгненная хуткасць магчыма толькі ва ўяўленні; выпрацоўваецца нейкая згода паміж воляй чалавека і розумам жывёлы. Ад гэтай згоды залежыць жыццё ўсіх; экіпаж імчыцца наперад не толькі дзякуючы механічнаму імпульсу, але дзякуючы абмену думкамі і адчуваннямі паміж фурманам і коньмі; тут дзейнічае некая жыватворная магія, сапраўдны магнетызм. Мясцовая манера кіраваць коньмі здаецца мне сапраўды цудоўнай. Здзіўленне падарожніка яшчэ больш узрастае, калі вазніца рэзка спыняе альбо паварочвае ў патрэбны бок чацьвёрку коней, якімі кіруе як адным канём, і

[54] Маюцца на ўвазе оды старажытнагрэцкага паэта Піндара (518-438 да н. э), якія славяць пераможцаў у спаборніцстве вершнікаў ці каляснічных спаборніцствах.

жывёлы слушаюцца яго, нібы дзякуючы чараўніцтву. Па ўзмаху яго рукі коні бягуць то бок аб бок – тады чецвёрка коней занімае места не болей, чым парная запражка, то так шырока, што займаюць палову тракта. Гэта гульня, гэта вайна, якая ўвесь час трымае ў напружанніі розум і пачуцці. Што да цывілізацыі, у Расіі ўсё незакончанае, таму што ўсе новае; на самай выдатнай дарозе ў свеце заўсёды што-небудзь недароблена; вам на кажным кроку даводзіцца зварочваць з тракта, які рамантуюць, і ехаць па перакідных або часовых мастах; тады фурман на ўсім скаку паварочвае квадрыгу і накіраўвае яе ў бок буйным галопом, як спрытны вершнік – верхавога каня. Але нават калі няма патрэбы зварочваць з тракта, экіпаж ніколі не рухаецца па ім прама, бо амаль увесь час даводзіцца спрытна і хутка лавіраваць паміж шматлікімі павозкамі, запрудзіўшымі дарогу, таму што, ва ўсякім выпадку, дзясяткам із гэтых вазоў кіруе адзін ламавы рамізнік, і гэты адзіны чалавек не ў стане ўтрымаць на адной лініі столькі павозак, кожную із якіх вязе наравісты конь. Незалежнасць ў Расіі – прывілей жывёл.

**~ 20 ~**

Ітак, дарога абавязкова загрувашчана павозкамі, і калі б не спрыт рускіх фурманаў, якія ўмеюць прабірацца ў гэтым рухаючымся лабірынце, паштовым коням давялося б плесьціся ўслед за ламавікамі, гэта значыць крокам. Гэтыя вазы падобныя на вялікія бочкі, разрэзаныя папалам ўздоўж і пакладзеныя на прадольныя брусы, замацаваныя восямі; гэта свайго роду маленькі карабель, часткова нагадваючы нашы павозкі із Франш-Контэ, але толькі сваёй лёгкасьцю, таму што ўладкаванне павозак і манера іх запрагаць ў Расіі іншыя. На іх возяць харчовыя прыпасы, якія не высылаюць па вадзе. У павозку ўпражаны адзін невялікі конь, які вязе столькі кладзі, колькі ён зможа; гэта доблесная напорыстая жывёла цягне не вельмі шмат, але затое энергічна і доўга, ідзе напралом і не спыняецца, покуль не упадзе; таму жыццё яе такое ж кароткае, як і самаадданне; дванаццацігадовы конь ў Расіі – рэдкасць.

**~ 21 ~**

Няма нічога больш своеасаблівага, больш непадобнага на ўсе, што я бачыў у іншых местах, чым павозкі, людзі і жывёлы, якія сустракаюцца на дорогах гэтай дзяржавы. Рускі народ надзелены прыроднай вытанчанасьцю, грацыяй, дзякуючы якой усё, што ён робіць, усё, да чаго датыкаецца або што апранае на сябе, набывае невядомы для яго і насуперак яму маляўнічы выгляд. Калі людзей менш тонкай пароды пасяліць у рускіх домах, апрануць ў рускую сукенку і прымусіць карыстацца рускімі прыладамі, то ўсе гэтыя рэчы будуць здавацца проста выродлівымі; тут жа яны ўяўляюцца мне дзіўнымі, незвычайнымі, але прыкметнымі і годнымі апісання. Калі апрануць рускіх у сукенку парыжскіх працаўнікоў, то гэтая сукенка будзе радаваць позірк; дарэчы, рускія ніколі не прыдумалі б вопратку, настолькі пазбаўленую густу. Жыццё гэтага народа цікавае – калі не для яго самога, то ва ўсякім разе, для назіральніка; вынаходлівы розум чалавека здолеў перамагчы клімат і пераадолець усе перашкоды, якія прырода стварыла ў пустыні, цалкам пазбаўленай паэзіі, каб зрабіць яе непрыдатнай для грамадскага жыцця. Супрацьлегласць сляпога

падпарадкавання прыгоннага народа ў палітыцы і рашучая і паслядоўная барацьбы таго ж самага народа супраць тыраніі згубнага клімата, яго дзікая непакорлівасць перад тварам прыроды, кожнае імгненне праглядваюцца із-пад ярма дэспатызма, – невычарпальныя крыніцы цікавых выяваў і сур'ёзных роздумаў. Каб даць поўнае ўяўленне пра Расію, патрэбна было б злучыць талент Ораса Бернэ і Мантэск'ё[55].

Ніколі яшчэ я так не шкадаваў, што я дрэнны мастак. Расія вядомая горш, чым Індыя, яе менш апісваюць і радзей малююць: і ўсё ж яна не менш цікавая, чым Азія, перш за ўсё ў дачыненні да гісторыі, але нават і ў дачыненні да мастацтва і паэзіі.

Для ўсякага розуму, які сур'ёзна заняты ідэямі, наспяваючымі ў сьвеце палітыкі, вельмі карысна блізкае знаёмства з гэтым грамадствам, кіруемым ў асноўным згодна з духам дзяржаў, якія раней ўсіх ўвайшлі ў аналы гісторыі, але пры гэтым ужо насквозь пранізаныя ідэямі, якія спеюць у розумах самых рэвалюцыйна настроеных сучасных народаў... Патрыярхальная тыранія азіяцкіх правіцелей ў злучэнні з тэорыямі сучаснай філантрапіі, звычаі народаў Усходу і Захаду, несумяшчальныя па сваёй прыродзе і пры гэтым непадзельна злучаныя адзін з адным у напалову варварскім грамадстве, дзе парадак трымаецца на жаху, – гэта відовішча можна ўбачыць толькі ў Расіі; і, вядома, ніякі думаючы чалавек не пашкадуе аб тым, што здзейсніў цяжкі шлях і прыехаў ў гэтую краіну паглядзець на ўсё сваімі вачамі.

Грамадскае, разумовае і палітычнае становішча Расіі ў цяперашні момант – вынік і, так сказаць, рэзюмэ царавання Яна IV, якога самі рускія празвалі Жахлівым, Пятра I, якога людзі, выхваляючыяся сваім перайманнем у Яўропы, празвалі Вялікім, і Кацярыны II, якую народ, марачы аб сусветным панаванні і паддобрываючыся перад намі ў чаканні, пакуль ён зможа нас заваяваць, абагаўляе; такую небяспечную спадчыну, атрымаў імператар Мікалай I. Аднаму Богу вядома, як ён ёй скарыстаецца!.. Пра гэта будуць ведаць нашы ўнукі, бо ў падзеях нашага жыцця будучыя пакаленні будуць такімі ж дасведчанымі, як сёння Ўсявышні.

Мне па-ранейшаму час ад часу сустракаюцца даволі прыгожыя сялянкі; але я не перастаю смуткаваць аб пачварным крої іхнай сукенкі. Гэты недарэчны ўбор дае ўяўленне аб уласцівым для рускіх пачуцці вытанчанага. Ён сапсаваў бы, як мне здаецца, самую дасканалую прыгажосць. Уявіце сабе падабенства пеньюара без пояса, не маючы ніякай формы мяшок замест сукенкі, прызбораны прама пад пахамі: я думаю, гэта адзіныя жанчыны ў свеце, якім прыйшло ў галаву зрабіць талію над грудзьмі, а не пад імі, парушаючы звычай, які падказаны самой прыродай і прыняты усімі іншымі жанчынамі; гэта выдаткі нашай моды часоў Дырэкторыі[56]: не тое каб рускія жанчыны пераймалі

[55] Філосаф Мантэск'ё (гл. заўвагу да т. I, стр. 86) згадваецца тут як прыклад філасофскага і гістарыясофскага асэнсавання рэчаіснасьці, а мастак Орас Бернэ (гл. заўвагу да т. I, стр. 405) — як адзнака яе жывапіснага разумення.

[56] Пасля рэвалюцыі ў моду ўвайшлі сукенкі падобныя на тунікі, разрэзаныя па баках і перахопленыя пад грудзьмі, якія Кюстын прыпадабняе рускаму сарафану. Іх насілі модніцы-арыстакраткі, якія зваліся les

француженкам з Гановерскага павільёна, якіх Давід і яго вучні апранулі ў грэцкае адзенне; але, самі таго не ведаючы, яны ўяўляюць сабой карыкатуры на антычныя статуі, якія шпацырылі па парыжскіх бульварах пасля эпохі Тэррора. У рускіх сялянак атрымліваецца талія, якую нават нельга назваць таліяй, бо яна, як я ўжо вам сказаў, да таго завышана, што праходзіць над грудзямі. У выніку жанчына нагадвае вялікі мех, і немагчыма зразумець, дзе якая частку цела, у дадатак падобнае адзенне перашкаджае рухам. Але яно мае яшчэ і іншыя нязручнасьца, якія даволі цяжка апісаць; адно із самых сур'ёзных, бясспрэчна, тое, што рускай сялянцы, дакладна, даводзіцца спускаць сукенку з плеча, каб даць дзіцяці грудзі, як гатэнтоткам. Такая непазбежная пачварнасць, выробленая модай, якая не адпавядае з грацыі цела; чаркешанкі лепш разумеюць жаночую прыгажосць і ўмеюць захаваць яе; яны з юных гадоў носяць пояс на таліі і ніколі з ім не разлучаюцца.

**~ 22 ~**

Я заўважыў у Таржку навіну ў жаночым убранні[57]; мне здаецца, пра яе варта згадаць. Мяшчанкі тут носяць кароткую накідку, нешта накшталт прызборанай пелярына, якую я нідзе больш не сустракаў: яе каўнер адрозніваецца тым, што спераду ён глухі, а ззаду мае выраз, які адкрывае шыю і частку спіны, прычым яго куты знаходзяцца дзесьці паміж лапатак; гэта прамая супрацьлегласць звычайным варатнічкам, канцы якіх размешчаны наперадзе. Уявіце сабе чорную бархатную, шаўковую або суконную аборку шырынёй восем-дзесяць дзюймаў, якая прымацавана да сукенкі пад лапаткай, ідзе ўздоўж гарлавіны, накрываючы чалавека, як кароткая мантыя япіскапа, і прышпіленая да сукенкі каля другой лапаткі, прычым краі гэтай своеасаблівай занавескі не злучаюцца і не перакрыжоўваюцца за спіной. Гэта не столькі прыгожа або зручна, колькі незвычайна; але для староннягa назіральніка даволі і гэтага; пад час падарожжа мы шукаем доказаў, што знаходзімся вельмі далёка ад дому, а рускія ніяк не хочуць гэтага зразумець. Прыхільнасць да перайманння ў іх такая моцная, што яны прастадушна крыўдзяцца, калі чуюць, што іхная краіна не падобная ні на якую іншую: своеасаблівасць, якая здаецца нам годнасцю, ўяўляеццца ім перажыткам варварства; яны уяўляюць сабе, што, не заленаваўшыся прыехаць на край сьвета, каб паглядзець на іх, мы павінны бязмерна радавацца, знайшоўшы за трыдзевяць зямель ад дому благое перайманне таго, што мы пакінулі праз павагу да перамен.

Любімая забава рускіх сялян – арэлі; гэта збудаванне развівае пачуццё раўнавагі, уласцівае жыхарам гэтай дзяржавы. Прыміце да ведама, што гэты занятак ціхі і спакойны – такія забавы пасуюць народу, у якім баязнь выхавала асцярожнасць.

---

merveilleuses («дзівосныя») і якія шыкавалі на так званых «балях ахвяр», ладзіўшыхся ў Гановерскім павільёне — ратондзе, пабудаванай у 1760 г. на Італьянскім бульвары ў Парыжы для маршала Рышэльe і нацыяналізаваны падчас Рэвалюцыі (разбураны ў 1930 г.).

Мастак Жан Луі Давыд (1748-1825) згодна з заказам рэвалюцыйнага Канвента намаляваў праекты тыповага адзення для грамадзянаў Французскай рэспублікі, бяручы за аснову адзенне антычнасьці.

[57] Ужываючы еўрапейскія тэрміны (каўнерык, пелярына), Кюстын вельмі дакладна апісвае традыцыйнае рускае кароткае жаночае адзенне — душагрэйку.

Падчас усіх святкаванняў ў рускай вёсцы стаіць цішыня. Сяляне шмат п'юць, мала размаўляюць і яшчэ менш крычаць: яны маўчаць або спяваюць хорам гнусавымі галасамі сумныя песьні, высокія ноты якіх зліваюцца ў нягучныя, але вытанчаныя акорды. Рускія народныя песьні тужлівыя; здзівіла мяне тое, што амаль усім гэтым мелодыям не хапае прастаты.

Калі я меў выпадак праязджаць праз шматлюдныя вёскі ў нядзелю, я бачыў, як некалькі дзяўчат, звычайна ад чатырох да васьмі, ціхенька разгойдваліся на дошках, падвешаных на вяроўках, а ў некалькіх кроках ад іх, павярнуўшыся да іх тварам, разгойдвалася столькі ж юнакоў; іхная нямая гульня працягваецца доўга, у мяне ніколі не хапала цярпення дачакацца канца. Гэта ціхае пагойдванне – своеасаблівая перадышка, адпачынак паміж сапраўдным, моцным разгойдваннем на арэлях. Гэта вельмі ўражваючае, нават жахлівае відовішча. Да высокіх слупоў чатырма вяроўкамі прывязана дашка, яна вісіць у двух футах ад зямлі, на канцах яе размяшчаюцца два чалавекі; гэтая дашка і чатыры падтрымліваючыя яе слупы размешчаны так, што гойдацца можна як заўгодна: у даўжыню або ў шырыню.

Калі на арэлях разгойдваюцца сур'ёзна, на іх, як я мог заўважыць, не бывае больш чым два чалавекі разам; гэтыя два чалавекі – мужчына і жанчына, двое мужчын альбо дзве жанчыны – заўсёды стаяць на нагах адзін на адным краю дошкі, другі – на другім і з усёй моцы трымаюцца за вяроўкі, на якіх яна падвешана, каб не страціць раўнавагу. У гэтай паставе яны ўзлятаюць на страшэнную вышыню, і пры кажным ўзлёце настае момант, калі арэлі, здаецца, вось-вось перавернуцца, і тады людзі сарвуцца і ўпадуць на зямлю з вышыні трыццаці або сарака футаў; бо я бачыў слупы, якія былі, я думаю, вышынёю добрых дваццаць футаў. Рускія, якія маюць стройны стан і гнуткую талію, на здзіўленне лёгка захоўваюць раўнавагу: гэта практыкаванне патрабуе незвычайнай адвагі, а таксама грацыі і спрыту.

Я некалькі разоў спыняўся ў вёсках, каб паглядзець, як спаборнічаюць юнакі і дзяўчаты, і нарэшце, сустрэў некалькіх жанчын, якія ўразілі мяне сваёй дасканалай прыгажосьцю. У іх далікатныя, белыя твары; чырвань, можна сказаць, прасвечвае скрозь надзвычай тонкую і празрыстую скуру. У іх асляпляльна белыя зубы і – вялікая рэдкасць! – ідэальна правільнай формы рот, хупава акрэслены, як у антычных статуй, вусны; вочы ў іх часцей за ўсё блакітныя, але раскосыя; яны злёгку навыкаце і выяўляюць хітрасць і прыроджаную няўрымслівасьць, уласцівыя славянам, якія звычайна добра бачаць тое, што знаходзіўся збоку і нават за спіной, не паварочваючы галавы. Усё гэта поўна зачаравання; але ці то праз капрыз прыроды, ці то праз вопратку ўсе гэтыя годнасьці ў жанчын заўважаюцца радзей, чым у мужчын. На сотню сялянак толькі адна прыгожая, між тым як сярод мужчын шмат хто можа пахваліцца прыгожа вылепленай галавой і правільнымі рысамі твару. Мне сустракаліся сталыя людзі з ружовымі шчакамі, вялікай лысінай, абведзенай серабрыстымі валасамі, і доўгай шаўкавістай сівой барадой. Гледзячы на гэтыя выдатныя твары, думаеш, што час прыдае ім веліч ва ўзнагароду за страчанае юнацтва; іхныя галовы больш годныя пэндзля мастака, чым тыя, якія я бачыў на палотнах

Рубенса, Рыбера[58] або Тыцыяна; але я не сустрэў ні адной сталай жанчыны, з якой варта было б пісаць партрэт.

**~ 23 ~**

Часам здараецца, што правільны грэцкі профіль сумяшчаецца з рысамі такімі тонкімі, што іхная дасканаласць не пазбаўляе твар выразнасьці; тады стаўбянееш ад захаплення. Аднак і ў мужчынскіх і ў жаночых тварах перабольшвае калмыцкі тып: выдаючыяся скулы і прыплюснуты нос. Жанчыны большыя дамаседкі, чым у Захадняй Яўропе; жывуць яны замкнёна, іх рэдка сустрэнеш на вуліцы, хіба што ў нядзелю ды ў дні ярмарак; але нават і тады яны выходзяць з дому радзей, чым іхныя чалавекі. Рускія больш шчыльна закрываюць свае хаціны, чым нашы сяляне, таму падарожнік, якога цікаўнасць завяла туды, горка раскайваецца: такі там смурод і цемра.

Я не раз заходзіў ў гэтыя душныя лачугі ў час, калі сяляне адпачываюць; ложкаў там няма: мужчыны і жанчыны спяць упавалку на драўляных лаўках, якія стаяць уздоўж сьцен; але бруд, валадарачы на гэтым бівуаку, нязменна пужаў мяне, і я выходзіў; аднак замест таго, каб сысці той жа час, я кожны раз марудзіў, і ў наказанне за сваю нясціпласць абавязкова выносіў ў складках адзення якую-небудзь жыўнасць на памяць.

Лета тут кароткае, але гарачае, і каб выратавацца ад спёкі, некаторыя сяляне будуюць каля сваіх лачуг як бы пакой на свежым паветры – шырокі крыты балкон без бакавых сьцен; эта нешта падобнае на терасу акружаючую дом, і яго насельнікі тут спяць, часам прама на голай зямлі. Усё ў гэтай краіне нагадвае Усход.

На ўсіх паштовых станцыях, дзе мне давялося начаваць, я сустракаў чорныя авечыя шкуры, якія ляжалі на вуліцы ўздоўж дамоў. Гэтыя скуры, якія я лічыў за кінутыя на зямлю бурдзюкі, былі людзі, – яны спалі пад адкрытым небам, каб нацешыцца прахалодай. Гэтым летам у Расіі стаяла такая спёка, якой тут не было з незапамятных часоў.

Кажухі з авечых шкур служаць рускім сялянам не толькі адзеннем, але і ложкамі, дыванамі і палаткамі. Працаўнікі, якія, пакуль трымаецца дзённая спёка, спяць пасярод поля, знімаюць сваю вопратку і ўладкоўваюць сабе із яе маляўнічы навес, каб абараніцца ад сонечных прамянёў: з вынаходлівасьцю і спрытам, якія адрозніваюць іх ад жыхароў Заходной Яўропы, яны прадзяваюць аглоблі сваёй павозкі ў рукавы футра, а затым паварачваюць гэты рухомы дах супраць сонцы, каб зрабіць сабе навес і спакойна спаць у цяньку. Гэты кажух вельмі цёплы і дастаткова вытанчанага крою; ён выглядаў бы прыгожым, калі б не быў заўсёды старым і засаленым; бедныя сяляне не могуць часта купляць сабе новую сукенку, гэта занадта дарага; яны зношваюць вопратку да дзірак.

Рускі селянін прадпрымальны, ён зможа знайсці выйсьце із кожнага становішча; ён ніколі не выходзіць із дому без сякеры – гэтая невялікае жалезная прылада ва ўмелых руках жыхара дзяржавы, дзе яшчэ ёсць лясы, можа тварыць цуды. Калі вы заблудзіліся ў лесе і пры вас ёсць рускі служка, ён за некалькі

[58] Хусэпе дэ Рыбера (1591-1652) — гішпанскі мастак.

гадзін пабудуе хаціну, дзе можна пераначаваць, прычым з вялікімі выгодамі і ўжо, ва ўсякім разе, ў большай чысціні, чым у старой вёсцы. Але калі ў вас ёсць скураныя вырабы, беражыце іх: спрыт уласьцівы рускім ва ўсім, у тым ліку і ў крадзяжы[59], так што поясу, кожаному фартуку каляскі, рамяням вашых чамаданаў пагражае небяспека, – дарэчы, звычка браць ўсё, што дрэнна ляжыць, не перашкаджае тым жа самым людзям быць вельмі набожнымі.

Не было ні аднаго перегону, каб мой фурман не перакрысціўся раз дваццаць пры выглядзе кожнай, нават самай маленькай часовенькі; затым, гэтак жа спраўна прытрымліваючыся абавязку ветлівасьці, ён знімаў шапку, вітаючы ўсіх сустрэчных рамізнікаў, а колькі іх было, ведае адзін Бог!.. Аддаўшы даніну прыстойнасцям, мы прыязжалі на паштовую станцію, дзе нязменна выяўлялася, што набожны і пачцівы махляр, запрягаючы або распрагаючы каня, што-небудзь ды ўкрадзе: сумку з інструментамі, скураны рэмень, чахол для чамадана, і, у рэшце рэшт, свечку ад фанара, цвік, болт; у іх не прынята вяртацца дадому “з пустымі рукамі”.

Пры ўсёй сваёй сквапнасьці гэтыя людзі не асьмельваюцца скардзіцца на тое, што ім мала плацяць. У апошнія дні гэта часта здаралася з тымі, хто нас вёз, таму што мой фельдʼегер бязлітасна аблічваў фурманаў, карыстаючыся тым, што я яшчэ ў Пецярбургу выдал яму ўсе грошы наперад, у тым ліку і плату за коней. Пад час падарожжа я заўважыў, што ён махлярыць, і даплочваў са свайго кармана няшчастным фурманам, каб не разачароўваць іх і не памяншаць хабар, на які яны разлічвалі, ведаючы звычаі падарожнікаў, а хітрун-фельдʼегер, бачачы маю тараватасць (менавіта так ён называў справядлівасць), стаў безсаромна скардзіцца і пагражаць, што не адказвае за маю бяспеку, калі я не перестану перашкаджаць яму выконваць яго абавязкі.

**~ 24 ~**

Дарэчы, ці варта здзіўляцца, што ў краіне, дзе ўтрымліваючыя ўладу лічаць самую звычайную сумленнасць законам, які падыходзіць толькі для таго, каб кіраваць мяшчанамі, але ніяк не распаўсюджваючыюся на іхны ўласны стан, большасць людзей не адрозніваецца тонкасьцю пачуццяў? Не падумайце, што я перабольшваю: я кажу толькі пра тое, што бачу сваімі вачамі; вяльможная пыхлівасць, прама супрацьлеглая праўдзіваму гонару, пануе ў шмат якіх уплывовых сямействах Расіі. Нядаўна адна знатная дама ў прастаце душэўнай зрабіла міжвольнае прызнанне; яе выказванне мяне так уразіла, што я запомніў яе слова ў слова; падобныя пачуцці, даволі распаўсюджаны тут сярод мужчын, рэдка сустракаюцца ў жанчын, бо яны лепш, чым іх мужы і браты, здолелі

---

[59] Пар. у «Сакрэтных запісках пра Расію» Масены: «Пасьля п'янства самая відавочная і самая пашыраная загана рускіх — гэты крадзяжы. Не думаю, што знойдзецца на зямлі яшчэ адзін народ да такой ступені схільны прысвойваць чужое дабро: ад першага міністра да галоўнакамандуючага войскам, ад лакея да жаўнера ўсе крадуць, рабуюць і махлююць. У іншых краінах злодзей зведвае пагардлівае стаўленне нават з боку самых нізкіх станаў, у Расіі ж самае большае, чаго ён можа асьцерагацца, — гэта што яго прымусяць вярнуць выкрадзеную рэч назад; таму што на палачныя ўдары ён увагі не звяртае, а калі вы зловіце яго з доказамі злачынства, ён вымавіць, ухмыляючыся: «Вінаваты, спадар, вінаваты!» — і, вярнуўшы скрадзенае, будзе цалкам перакананы, што расплаціўся з вамі спаўна. Гэтая ганебная загана, пашыраная ва ўсіх станах, амаль нікім не асуджаецца» (Voyage en Russie. p. 1189-1190).

захаваць спрадвечны прыстойны вобраз думак. Вось чаму мне асабліва дзіўна было чуць гэтыя словы з вуснаў дамы.

“Для нас, – казала яна, – цалкам немагчымы ваш грамадзкі лад; мяне запэўніваюць, што сёння у Францii самага знатнага вяльможу могуць пасадзіць ў турму за дзвесьці франкаў доўгу; гэта абуральна; паглядзіце, ў нас усё зусім па-іншаму: ва ўсёй Расii не знойдзецца ніводнага пастаўшчыка, ніводнага купца, які б адважыўся адмовіць нам ў крэдыце на ўсякі тэрмін; вы з вашымі арыстакратычнымі поглядамі – дадала яна, – павінны адчуваць сябе ў нас як дома. Мы больш падобныя на французаў старажытных часоў, чым іншыя еўрапейскія народы”.

І на самай справе, я сустракаў ў Расii сталых людзей, якія маюць рэпутацыю таленавітых складальнікаў вершаў на выпадак.

Але не магу вам перадаць, чаго мне каштавала змаўчаць і не сказаць ёй рэзка і рашуча, што ні пра якае падабенства нашых народаў не можа быць і гаворкі. Аднак нягледзячы на тое, што мне даводзіцца прытрымлівацца, асцярожнасьці, я не змог стрымацца і заўважыў ёй, што чалавек, які праславіўся б сёння сярод нас самым заўзятым арыстакратам, цалкам мог бы трапіць ў Пецярбургу ў стан зацятых ліberalаў; і пад канец дадаў: “Мне не верыцца, што ў вашых сем'ях лічаць, быццам няма ніякай патрэбы думаць пра даўгі”.

“Дарэмна; шмат хто із нас мае велізарныя маёнткі, але б яны збяднелі, каб толькі ўздумалі расплаціцца з усімі крэдыторамі».

Спачатку я палічыў гэтыя словы не вельмі добрым жартам або нават пасткай, разлічанай на маю даверлівасць; але пазней я распытаў дасведчаных людзей і пераканаўся, што дама казала праўду.

Каб я зразумеў, да якой ступені знатныя асобы ў Расii праніклісе французкім духам, тая ж самая дама распавяла мне, як аднойчы ў доме ў яе сваякоў ладзілі вадэвілі, і гаспадар, у адказ на куплеты, праспяваныя ў яго гонар, адразу ж склаў вершы і праспяваў іх на той жа матыў. “Вось бачыце, наколькі мы французы”, – дадала яна з гонарам, выклікаўшым ў мяне ўсмешку. “Так, нават больш, чым мы”, – адказаў я, і мы загаварылі пра іншае. Я ўявіў сабе, як бы здзівілася гэтая руская француженка, прыйшоўшы ў Парыжы ў салоны[60] спадарыні *** і чакаючы ад нашай сучаснай Францыі таго, што адышло разам з эпохай Людовіка XV.

У часы Кацярыны II ў палацы і ў дамах шмат якіх прыдворных асобаў размаўлялі, як у парыжскіх салонах; сёння нашы прамовы больш сур'ёзныя або, ва ўсякім выпадку, больш смелыя, чым у якога б то ні было іншага еўрапейскага народа, і ў гэтым дачыненні рускім далёка да сёняшніх французаў, бо мы свабодна гаворым пра ўсё, між тым як рускія не гавораць ні пра што.

Цараванне Кацярыны пакінула ў памяці некаторых із рускіх дам глыбокі след; гэтыя дамы, прэтэндуючыя на тое, каб вяршыць лёсамі дзяржаў,

---

[60] [заўвага аўтара] Салоны спадарыні такой-та!!! – Гэтае выказванне вялікасвецкае грамадства нядаўна запазычыла ў карчмароў. (Ужыванне словы “салон” ў множным ліку пры размове пра жанчыну із вышэйшага грамадства здаецца Кюстыну вульгарным нэалагізмам).

валодаюць палітычным талентам, і паколькі шмат якія із іх спалучаюць з гэтым падарункам звычаі, уласцівыя XVIII стагоддзю, то па Яўропе раз’язджае цэлы рой імператрыц – яны робяць шмат шуму сваім распутствам, але хаваюць пад цынічнымі паводзінамі глыбокі дзяржаўны розум і назіральнасць. Дзякуючы ўменню гэтых паўночных Аспазій плясьці інтрыгі, у Яўропе амаль не засталося сталіц, дзе не было б двух, а то і трох рускіх пасланнікаў:аднаго відавочнага, акрэдытаванага, надзвычайнага і паўнамоцнага, і іншых таемных, невядомых, якія не нясуць ніякай адказнасьці і ў спадніцы і чапцы выконваючць двайную ролю – незалежнага пасланніка і шпіёна пасланніка афіцыйнага.

Ва ўсе эпохі жанчыны з поспехам бралі ўдзел ў палітычных інтрыгах; шмат якія із сучасных рэвалюцыянераў карысталіся паслугамі жанчын, каб спрактыкаваней, надзейней і ў больш таемна плясьці ніткі змовы; у Гішпаніі некаторыя із гэтых няшчасных выказвалі цуды смеласьці, захоўваючы адданасць свайму выбранніку, бо смеласць гішпанкі залежыць перш за ўсё ад кахання, і былі жорстка пакараны за свой гераізм. У рускіх жанчын, наадварот, каханне на другім месцы. У Расіі існуе цэлая сетка жаночай дыпламатыі, і Яўропа, магчыма, недастаткова ацэньвае гэты асобны спосаб ўплыву на палітыку. Дзякуючы свайму войску падвойных агентаў, палітычных амазонак[61], чыя зброя – тонкі мужчынскі розум і вераломныя жаночыя прамовы, рускі двор збірае звесткі, атрымлівае данясенні і папярэджванні, якія ў выпадку агалоскі пралілі б святло на шмат якія таямніцы, растлумачылі б шмат якія супярэчнасьці, выявілі б шмат нізкасьці.

**~ 25 ~**

Заняткі палітыкай пазбаўляюць размовы большасьці рускіх жанчын захаплялньнасьці, робяць іх нуднымі. Гэты недахоп часцей за ўсё насьцігае самых вытанчаных дам, бо іх, натуральна, адольвае крайняя неўважлівасць, калі размова не мае дачынення да прадметаў сур'ёзных; паміж іхнымі думкамі і іхнымі выказваннямі пралягае бездань: словы, якія яны прамаўляюць, падманчывыя, бо іхны розум далёка; яны заўсёды кажуць адно, а думаюць іншае – адсюль атрымліваецца неадпаведнасць, прымус, адным словам – стамляючая дваістасць, перашкаджаючая ў паўсядзённым жыцці. Палітыка па прыродзе сваёй занятак не із вясёлых; з яе цяжкасьцямі мірацца із пачуцця абавязку, таму бліскучыя думкі ўсё-такі ажыўляюць часам гутарку дзяржаўнных мужоў; але жульнічная, разважлівая палітыка – біч гутаркі. Розум, які свядома

---

[61] Адной з такіх «амазонак» была княгіня Дар'я Хрыстафораўна Лівен (1785-1857), жонка рускага пасланніка ў Лондане ў 1812-1834 гг. Х. А. Лівена (1777-1838), зрабіўшаяся ў другой палове 1830-х гг. каханкай і дарадніцай Ф. Гіза, у гэтую пару экс-міністра і ўплывовага дэпутата; парыжскі салон княгіні Лівен быў «месцам збору ўсіх дзейнічаючых славалюбаў» (ліст Моле Баранту ад 20 жніўня 1837 г. — Souvenirs. т. 6. р. 47), а размовы на палітычныя тэмы — паважаемым заняткам княгіні («Палітыку, — прызнавалася яна, — я паважаю значна больш, чым сонца» — цыт. згодна з кн.: Мартэн-Фюжье А. Элегантнае жыццё, ці як паўстаў «увесь Парыж». М., 1998. стр. 215). У французскай прэсе сярэдзіны 1830-х гадоў абмяркоўвалася здагадка пра тое, што рускі ўрад таму дазволіў княгіні абсталявацца ў Парыжы, што яна таемна збірае для яго сведчанні і што ў яе парыжскай гасьцінай, як у кожным пецярбургскім салоне, кожны вечар можна заспець сама меней двух шпіёнаў (Sircle, 1 снежня 1837 г.).

аддаецца гэтаму карысліваму занятку, апускаецца, унічыжаецца і незваротна губляе свой бляск.

Мяне запэўніваюць, што рускія сяляне амаль цалкам пазбаўлены маральнага пачуцця і дрэнна разбіраюцца ў сямейных абавязках; мой штодзённы вопыт падцверджвае апавяданні, якія я чуў з вуснаў самых дасведчаных асоб.

Нейкі вяльможа апавядаў мне, што адзін із яго людзей, спрытны ў нейкім рамястве, я забыўся, менавіта ў якім, быў адпушчаны на заробкі і прыехаў паспрабаваць шчасьця ў Пецярбург: папрацаваўшы два гады, ён атрымаў адпачынак на некалькі тыдняў і выправіўся ў родную вёску да жонкі. У вызначаны тэрмін ён вярнуўся ў Пецярбург.

– Ты задаволены, што пабачыў сям'ю? – пытае яго гаспадар.

– Вельмі задаволены, – прастадушна адказвае працаўнік. – Пакуль мяне не было, жонка нарадзіла мне яшчэ дваіх дзяцей, і я быў вельмі рады на іх зірнуць.

У гэтых няшчасных няма нічога свайго: ні лачугі, ні жонкі, ні дзяцей, ні нават сэрца; яны не зайздрослівыя: чаму зайздросьціць? Чужому няшчасьцю?.. Тое ж і з каханнем... Такое існаванне самых шчастлівых людзей у Расіі – рабоў!.. Я часта чуў, як санавітыя асобы зайздросьцяць іхнай долі, і, магчыма, нездарма.

“У іх няма ніякай турбот, – кажуць яны, – мы клапоцімся пра іх і пра іхныя сем'і (адзін Бог ведае, як яны гэта робяць, калі сяляне становяцца старымі і нямоглымі!); яны ўпэўнены, што ў іх і іхных нашчадкаў будзе ўсё, што ім патрэбна, і ў сто разоў менш вартыя жалю, чым вашы вольныя сяляне”.

Я моўчкі слухаў гэты панегірык рабству, думаючы пра сябе; калі ў іх няма ніякіх турбот, то няма і ніякай уласнасьці, а значыць, ні прыхільнасьцей, ні шчасьця, ні маральных пачуццяў – ніякай процівагі матэрыяльных цяжкасьцей жыцця; бо грамадскага чалавека фармуе прыватная ўласнасць, на ёй адной грунтуецца сям'я.

Факты, якія я выказваю, як мне здаецца, не зусім пагадняюцца з паэтычнымі адчуваннямі, выказанымі аўтарам “Целенева”. У маю задачу не ўваходзіць прымірАць супярэчнасьці, я павінен толькі адлюстроўваць кантрасты: хай той, хто можа, растлумачыць іх.

Дарэчы, рускія паэты, як наогул усе паэты, маюць выключнае права на выдумкі: даючы волю ўяўленню, гэтыя выбраннікі думкі больш праўдзівыя, чым гісторыкі.

Адзіная існіна, заслугоўваючая нашага пакланення, ёсць існіна маральная, і ўсе намаганні чалавечага розуму, якой бы ні была вобласць яго пошукаў, накіраваны на тое, каб яе здабыць.

Калі ў маіх падарожных нататках я імкнуся маляваць свет такім, якім ён ёсць, то адзіна дзеля таго, каб ажывіць ва ўсіх сэрцах, і перш за ўсё ў сваім, шкадаванне аб тым, што свет не такі, якім павінен быць. Я раблю гэта дзеля таго, каб абудзіць у душах пачуццё неўміручасьці, дзеля таго, каб пры кожнай несправядлівасьці, пры кажным перавышэнні ўлады, непазбежным на зямлі, мы згадвалі словы Ісуса Хрыста: “Царства маё не ад гэтага свету”.

Ніколі мне не выпадала так часта паўтараць гэтыя словы Хрыста, як зараз, калі я падарожнічаю па Расіі; яны, можна сказаць, не выходзяць у мяне із галавы; пры дэспатызме ўсе законы прызваны дапамагаць прыгнёту, гэта значыць чым больш у прыгнечаных падстаў скардзіцца, тым менш у іх на гэта правоў і тым цяжэй ім на гэта вырашыцца. Трэба прызнаць, што перад Богам дрэнны ўчынак грамадзяніна больш цяжкі грэх, чым дрэнны ўчынак раба і нават несправядлівасць рабаўладальніка, бо ў такой краіне, як Расія, варварства носіцца ў паветры. Усявышні прынімае да разгляду, што чалавек, зачарствеўшы ад вечнага трыумфу несправядлівасьці, губляе сумленне.

**~ 26 ~**

Зло заўсёды зло, – запярэчаць мне, – і чалавек, які крадзе ў Маскве, такіж злодзей, як і парыжскі злодзей. Але я з гэтым не згодзен. Бо менавіта ад агульнага выхавання, якое атрымлівае народ, у вялікай ступені залежыць маральнасць кажнага асобнага чалавека; Усявышні ўладкаваў страшную, таемную кругавую паруку правінаў і заслуг паміж урадамі і падданымі, і рана ці позна ў гісторыі грамадства настае час, калі дзяржаву судзяць, выносяць ёй прысуд і аддаюць на сьмерць, як і асобнага чалавека.

Я не стамляюся паўтараць: цноты, заганы, злачынствы рабоў зусім не тое ж самае, што цноты, заганы, злачынствы вольных людзей: таму, гледзячы на рускі народ, я магу з пэўнасьцю сцвярджаць – я не ганю за гэта рускіх, як ганіў бы французаў, – што ім, як правіла, не хапае гонару, вытанчанасьці і высокароднасьці і што наўзамен гэтых добрых якасцей ён надзелены цярпеннем і хітрасьцю: такое маё права апавядальніка, права ўсякага праўдзівага назіральніка; але, прызнаюся, маю я рацыю ці не маю, я на гэтым не спыняюся; я хулю альбо хвалю ўсё, што бачу; мне мала адлюстроўваць, я хачу судзіць; калі вы лічыце, што я прадузяты, ніхто не перашкаджае вам самім выяўляць у меркаваннях больш стрыманасьці.

Аб'ектыўнасць – дабрачыннасць, лёгка доступная чытачу, між тым як яна заўсёды з цяжкасьцю давалася, калі наогул давалася, пісьменніку.

Адны кажуць: “рускі народ лагодны”; на гэта я адкажу: “У тым няма ніякай яго заслугі, гэта ўсяго толькі звычка падпарадкоўвацца...” Дгугія кажуць: “рускі народ лагодны толькі таму, што баіцца адкрыць сваё сэрца: у аснове яго пачуццяў і думак ляжаць забабоны і жорсткасць”. Я адкажу на гэта: “Бедны народ! Ён атрымаў такое благое выхаванне”.

Вось чаму мне так шкада рускіх сялян, хаця яны самыя шчаслівыя, гэта значыць найменш годныя жалю людзі ў Расіі. Рускія не пагадзяцца са мной і пачнуць шчыра пярэчыць супраць маіх перабольшанняў, бо няма зла, якое не памякчалася б звычкай і неведаннем таго, што ёсць дабро; але я таксама шчыры і маё становішча староняга назіральніка дазваляе мне, хоць і мімаходам, заўважаць рэчы, якія ўхіляюцца ад прытупіўшагася погляду мясцовых жыхароў.

З усяго, што я бачу ў гэтым свеце і ў асаблівасьці ў гэтай краіне, вынікае, што чалавек існуе тут, на зямлі, зусім не для шчасьця. Сэнс яго існавання цалкам іншы, рэлігійны: маральнае ўдасканальванне, барацьба і перамога.

Але з часоў, калі галоўную ролю пачала мець мірская ўлада, хрыстыянская вера ў Расіі здрадзіла свайму прызначэнню: яна ператварылася ў адзін са шрубаў дэспатызму, толькі і ўсяго. У гэтай краіне, дзе – і гэта нікольки не дзіўна – нішто не мае дакладных азначэнняў, цяжка зразумець сучасныя адносіны Царквы з кіраўніком дзяржавы, які стаў таксама негласным уладыкай ў пытаннях веры; ён прысвоіў духоўную ўладу і карыстаецца ёю, але баіцца ўзаконіць сваё права на гэтую ўладу; ён захаваў Сінод: гэты апошні гонар, пакінуты тыраніяй Цару Цароў і яго разбуранай Царкве. Вось як апісвае гэты рэлігійны пераварот Левек[62], якога я нядаўна гартаў.

Я выйшаў з каляскі і чакаў на паштовай станцыі, пакуль знойдуць каваля, каб адрамантаваць адзін із задніх клямараў; жадаючы прабавіць час, я гартаў "Гісторыю Расіі"; перапісваю для вас слова ў слова ўрывак з яе:

***

«1721 г. Пасьля сьмерці Адрыяна[63] Пятро[64], здавалася, марудзіў са згодай на выбранне новага патрыярха. За тыя дваццаць гадоў, што ён раздумваў, вілікая павага народа да кіраўніка Царквы паціху згасла.

Імператар вырашыў, што можа нарэшце аб'вясьціць пра скасаванне гэтага сану. Ён падзяліў царкоўную ўладу, якую раней меў адзін патрыярх, і зрабіў вышэйшай установай духоўнай улады новую ўстанову – Свяцейшы Сінод.

Ён не назваў сябе кіраўніком Царквы; але ён стаў ім на сутнасьці, дзякуючы прысязе, якую прыносілі яму сябры новай духоўнай калегіі[65]. Вось яна: "Клянуся быць верным і пакорным слугой і падданым майго спрадвечнага і праўдзівага уладыкі... Я прызнаю яго вярхоўным суддзёй духоўнай калегіі".

**~ 27 ~**

Сінод складаецца са старшыні, двух віцэ-старшынь, чатырох дарадцаў і чатырох асэсараў. Гэтыя змяняемыя суддзі, распараджаючыяся царкоўнымі справамі, разам узятыя валодаюць значна меншай уладай, чым меў адзін патрыярх, а раней мітрапаліт. Іх ніколі не запрашаюць на паседжанні сената; ім ніколі не даюць на подпіс указы, якія выдаюцца вярхоўнай уладай; нават у пытаннях, якія маюць дачыненне да іхнай дзейнасьці, яны падпарадкоўваюцца гаспадару. Пакольки вонкава яны нічым не адрозніваюцца ад іншых духоўных асоб, іхная ўлада заканчаецца, як толькі яны губляюць месца ў сінодзе; нарэшце,

---

[62] Пра Левака і яго «Гісторыю» гл. заўвагу. да т. I, стр. 459.

[63] [заўвага аўтара] Апошні маскоўскі патріарх.

[64] [заўвага аўтара] Імператар.

[65] Стылістычны дысананс паміж французскім перакладам Левака і рускім арыгіналам такі вялікі, што мы палічылі немагчымым размясьціць у рускім перакладзе кнігі Кюстына сапраўдныя словы із прысягі, складзенай згодна з загадам Петра Феафанам Пракаповічам; у арыгінале адпаведныя месцы гучаць наступным чынам: «Клянуся пакі ўсёмагутным Богам, што хачу і павінен майму прыроднаму і сапраўднаму цару, гасудару, усепрэсвятлейшаму і дзяржаўнейшаму Пятру Першаму, цару і ўсерасійскаму самадзержцу <…> верным, добрым і паслухмяным рабом і падданым быць. <…> Вызнаю ж з клятвай крайняга суддзю духоўнай гэтай калегіі быці самага ўсерасійскага манарха, гасудара нашага найусеміласьцівага» (гл.: Вярхоўскі П. У. Усталяванне духоўнай калегіі і духоўны рэгламент. Растоў-на-Дану, 1916. т. 2. стр. 9-11; тэкст прысягі быў упершыню надрукаваны ў першым выданні Духоўнага рэгламента 16 верасня. 1721 г.).

паколькі сам сінод не мае вялікай улады, народ ставіцца да іх без вялікай павагі».

(П'ер-Шарль Левек.”Гісторыя Расіі і асноўных народ, насяляючых Расійскую імперыю”. Выданне чацвёртае, апублікованное Мальт-Брэнам і Дэпінгам, том 5, с. 89-90. Парыж, 1812 Прадаецца у Фурнье, вуліца Пупе, д. 7: і ў Ферра, вуліца Гранз-Агюстэн, д. 11.)

Мне раз-пораз даводзіцца спыняцца і рамантаваць каляску, але я суцяшаюся, кажучы сабе, што гэтыя затрымкі карысныя для маёй працы.

У нашы дні рускі народ самы набожны з усіх хрыстыянскіх народ: я толькі што паказаў вам галоўную падставу, згодна з якой яго вера прыносіць мала вынікаў. Калі Царква пазбаўляецца ад волі, яна страчвае маральную магутнасць; будучы сама рабой, яна параджае толькі рабства. Я не стамляюся паўтараць: адзіная сапраўды незалежная Царква – Царква каталіцкая, яна адна захавала запас сапраўднай міласэрднасьці; усе астатнія Цэрквы з'яўляюцца складовай часткай дзяржаваў, якія выкарыстоўваюць іх у палітычных мэтах, каб падтрымаць сваю магутнасць. Гэтыя Цэрквы – цудоўныя пасобніцы ўрадаў; паблажліва ставячыяся да прадстаўнікоў улады, князяў або саноўнікаў, строгія да падданых, яны прызываюць Усявышняга на дапамогу паліцыі; гэта адразу прыносіць свой плён: у грамадстве ўсталёўваецца парадак; але каталіцкая Царква, якая валодае не меншай палітычнай уладай, паднімаецца вышэй і ідзе далей. Нацыянальныя Цэрквы песцяць грамадзян, сусветная Царква песціць людзей.

У Расіі яшчэ і дагэтуль павага да улады – адзіная рухаючая магутнасць грамадства; вядома, без павагі да ўлады не абысьціся, але каб глыбока асвячаць сэрцы людзей, мала вучыць іх сляпому падпарадкаванню.

У дзень, калі сын Мікалая I (я кажу “сын”, таму што гэтую прыстойную справу ажыццявіць не бацька, усе магчымасьці якога выдаткуюцца на ўмацаванне старой воінскай дысцыпліны, на якой трымаецца ўся ўлада ў Маскве), – ітак, у дзень, калі сын імператара ўнушыць ўсім саслоўям гэтага народа правіла, што кожны начальнік павінен ставіцца з павагай да сваіх падначаленых, у Расіі адбудзецца маральны пераварот, і прыладай гэтага перевороту стане Евангелле.

Чым даўжэй я знахожуся ў гэтай краіне, тым больш выразна бачу, што пагарда да слабога заразлівая; гэта пачуццё становіцца тут такім натуральным, што самыя заўзятыя абаронцы прыгнечаных ў рэшце рэшт пачынаюць падзяляць яе. Я лічу па сабе.

Хуткая язда ў Расіі з неабходнасці ператвараецца ў захапленне, якое служыць падставай для разнастайных жорсткасцей. Мой фельд’егер падзяляе гэтае захапленне, і ад яго яно передаецца і мне; гэта прыводзіць да таго, што часта я мімаволі станаўлюся саўдзельнікам яго несправядлівасьцей. Ён злуецца, калі фурман саскоквае з казёл, каб паправіць вупраж, або спыняецца пад час язды з якой-небудзь іншай нагоды.

Учара ўвечары нас вёз хлопчык, якога мой фельд’егер не раз пагражаў пабіць за марудлівасць, і я падзяляў нецярпенне і лютасць гэтага чалавека;

раптам із-за агароджы выскачыла жарабя, якому было ўсяго некалькі дзён ад нараджэння і які добра ведаў хлопчыка: ён палічыў адну із кабыл ў нашай запрэжцы за сваю маці і з іржаннем пабег за маёй каляскай. Маленькі фурман, на якога і без таго сварыліся за няспрытнасць, хоча, тым не менш, спыніцца зноў і дапамагчы жарабёнку, бо бачыць, што каляска можа задавіць яго. Мой курьер уладна забараняе яму спрыгваць на зямлю; хлопчык, як праўдзівы рускі чалавек, падпарадкоўваецца і застывае на козлах, нібы скамянеўшы, не кажучы ні адзінага слова жалобы, а коні па-ранейшаму нясуць нас галопам. Я ўхваляю суровасць майго курьера. "Трэба падтрымліваць улады, нават калі яны робяць няправільна, – пераконваю я сябе, – такі дух рускага кіравання; мой фельд'егер і так не вельмі-та заўзята выконвае свае абавязкі, а калі я яго перапыню пад час руплівага выканання ім свіх абавязаў, ён пусціць усё на самацёк і ад яго не будзе ніякай карысьці; дарэчы, такі звычай: чаму я павінен спяшацца менш, чым іншыя? Трэба ехаць хутка, каб не губляць сваёй годнасьці; не спяшацца – значыць пазбавіцца павагі; ў гэтай краіне для большай важнасьці трэба рабіць выгляд, быццам спяшаешся». Пакуль я разважаў пра гэта, а таксама пра шмат што іншае, надышла ноч.

**~ 28 ~**

Я больш вінаваты, што праявіў чэрствасць, чым рускі фельд'егер, бо мяне не апраўдваюць засвоеныя з дзяцінства звычкі; я вымусіў мучыцца беднае жарабя і няшчаснага хлопчыка; адзін гучна іржаў, другі ціха плакаў, – такім чынам, ў жывёлы была відавочная перавага перад чалавекам. Мне патрэбна было ўзяць удзел у справе і спыніць гэтае падвойнае катаванне; але не, я глядзеў і сваёю староннасьцю патакаў катаванню. Гэта працягвалася доўга, перагон быў даўжынёю шэсць лье; хлопчык, які хацеў выратаваць жэрабя, але замест гэтага быў вымушаны мучыць яго, пераносіў пакуты з пакорай, якая б кранула маё сэрца, калі б яно ўжо не ачарствела за час майго знаходжання ў гэтай краіне; кожны раз, пабачыўшы здалёк селяніна, які ішоў нам насустрач, хлопчык спадзяваўся вызваліць свайго ўлюбёнца; ён рабіў знакі, спрабаваў загаварыў, ён крычаў за сто крокаў да таго, як мы параўнаемся з пешым падарожнікам, але не адважваўся замедліць няспынны бег нашых коней і таму яго не паспявалі своечасова зразумець. Калі ж які-небудзь селянін, больш кемлівы, чым іншыя, сам здагадваўся, што трэба дапамагчы жарабёнку, ён не мог падыйсьці, таму што каляска імчалася вельмі хутка, а жарабя, прытуліўшыся да адной із нашых кабыл, прабягала міма разгубленага чалавека так, што той не мог да яго дацягнуцца: тое ж здаралася і ў вёсках; пад канец наш фурман настолькі ўпаў духам, што ўжо перастаў зваць мінакоў на дапамогу свайму ўлюбёнцу. У гэтай мужнай жывёліны, якой, згодна слоў фурмана, была тыдзень ад роду, хапіла моцы прабегчы шэсць лье галопом.

На станцыі наш раб – я кажу пра фурмана, – вызваліўшыся нарэшце ад цяжкага ярма дысцыпліны, сазваў ўсю вёску на дапамогу жарабёнку; магутнасць прыстойнай жывёлы была такой, што, нягледзячы на стамленне пасьля хуткага бегу, нягледзячы на неакрэплыя разбітыя капыты, ён не даваўся ў рукі людзям. Яго злавілі, толькі загнаўшы ў стайню ўслед за кабылай, якую ён лічыў за маці. На

яго накінулі аброць і падвялі да іншай кабылы, каб пакарміць; але ў яго ўжо не было моцы ссаць. Адны казалі, што жарабя паесьць пазней, другія – што яно надарвалася і памрэ. Я пачынаю ледзь-ледзь разумець па-руску; пачуўшы суровы прысуд з вуснаў старейшыны вёскі, наш маленькі фурман уявіў, што такая ж доля чакае і яго, на дадатак ён ўявіў сабе, якое пакаранне чакае яго таварыша, недагледзеўшага за жарабём, і засмуціўся, нібы пабоі пагражалі яму самаму. Я ніколі не бачыў больш глыбокага адчаю на твары дзіцяці; але ён ні адзіным позіркам, ніводным рухам не выказаў абурэння жорсткасьцю фельд’егера. Такое валоданне сабой, такая стрыманасць ў такім юным ўзросьце абудзілі ўва мне жах і спагаду.

Між тым курьер, ні секунды не думаючы пра жарабя і ні разу не глянуўшы на несуцешнага хлопчыка, з усёй сур'ёзнасьцю приступіў да выканання сваіх абавязкаў і з падабаючым выпадку важным выглядам выправіўся за новым канём.

На гэтай дарозе, галоўнай і самай люднай ў Расіі, у вёсках пры паштовых станцыях жывуць сяляне, абслугоўваючыя пошту: калі прыязджае каляска, начальнік станціі пасылае з хаты ў хату шукаць свабодных коней і фурмана: часам хаты знаходзяцца адна ад адной даволі далёка, і путнікам даводзіцца губляць чвэрць гадзіны і нават больш; я хацеў бы, каб коней мянялі хутчэй, а ездзілі б больш павольна. Пакідаючы загнанае жарабя і несуцешнага хлопчыка, я не адчуваў пакут сумлення. Яны прыйшлі пазней, калі я пачаў аналізаваць свае паводзіны і асабліва калі сеў пісаць гэты ліст: сорам абудзіў шкадаванне. Як бачыце, чалавек прама на вачах становіцца горшым, дыхаючы атручаным паветрам дэспатызму... Ды што я кажу! У Расіі дэспатызм на пасадзе, але тыранія – усюды.

Калі прыняць да ўвагі выхаванне і абставіны, нельга не прызнаць, што нават рускі барын, які звыкся з беззаконнем і самаўпраўствам, не можа выявіць у сваім маёнтку больш заганнай нялюдзскасьці, чым я, моўчкі патураючы злу.

Я, француз, які лічыць сябе чалавекам добрым, вельмі ганарыцца сваёй прыналежнасьцю да старажытнай культуры, апынуўшыся сярод народа, чые звычаі я паважаю і скрупулёзна вывучаю, пры першай жа магчымасьці праявіць непатрэбную лютасць паддаюся спакусе; парыжанін паводзіць сябе як варвар! Сапраўды тут само паветра шкоднае...

У Францыі, дзе з павагай ставяцца да жыцця, нават да жыцця жывёл, калі б мой фурман не патурбаваўся аб тым, каб выратаваць жэрабя, я загадаў бы спыніць каляску і сам пазваў бы сялян, там я не крануўся бы ў шлях, пакуль бы не пераканаўся, што небяспека мінавала; тут я бязлітасна маўчаў, і маё маўчанне было фатальным. Ці можна ганарыцца цнотамі, калі даводзіцца прызнаць, што яны залежыць не столькі ад нас, колькі ад абставінаў! Рускі барын, які ў приступе лютасьці не забіў насьмерць свайго прыгоннага, заслугаўвае больш ухвал, ён паступіў гуманна, між тым як француз, які не заступіўся за жэрабя, праявіў жорсткасць.

Я ўсю ноч не спаў, разважаючы аб сур'ёзнай праблеме адноснасьці цнотаў і загана, і прыйшоў да высновы, што ў нашы дні адно вельмі важнае пытанне палітычнай маралі застаецца без належнай ўвагі. Гэта пытанне аб тым, якая доля адказнасьці самога чалавека за свае ўчынкі і якая доля адказнасьці выхаваўшага яго грамадства. Калі грамадства ганарыцца вялікімі здзяйсненнямі сваіх выхаванцаў, яно павінна лічыць сябе адказным за злачынствы, здзейсненыя іншымі яго сынамі. У гэтым дачыненні старажытныя пайшлі далей за нас: казёл адпушчэння, які існуе ў жыдоў, паказвае нам, наколькі народ баяўся адказнасьці за злачынствы. З гэтага боку гледжання смяротнае пакаранне была не толькі больш ці менш справядлівай карай, пасьцігаючай вінаватага, яна была публічным адкупленьнем, пратэстам грамадства супраць усякага спачування ў злачынстве і зламышленні. Гэта дапамагае нам зразумець, як чалавек, які жыве ў грамадстве, можа прысвоіць сабе права распараджацца жыццём сабе падобнага; вока за вока, зуб за зуб, жыццё за жыццё; адным словам, закон адплаты меў палітычную магутнасьць; грамадства, якое хоча жыць, павінна выкінуць злачынцу са свайго ўлоння: калі прыйшоў Хрыстос і замяніў суровую справядлівасць Майсея міласэрднасьцю, ён добра разумеў, што скарачае тэрмін зямных царстваў; але ён адкрыў людзям царства Божае... Без ідэі вечнасьці і неўміручасьці душы ад хрысьціянства было б больш шкоды, чым карысьці. Вось пра што я разважаў, лежачы ноччу без сну.

Чарада невыразных, уяўных думак павольна цягнулася ў маёй напалову соннай галаве; бег нёсшых мяне коней здаваўся мне больш хуткім, чым дзейнасць майго непаваротлівага розуму; у цела вырасьлі крылы, думка налілася свінцом; я, так сказаць, папярэдзіў яе, імчучыся ў воблаку пылу больш хутка, чым ўяўленне пераадольвае адлегласьці: стэпы, балоты з чахлымі хвойкамі і нязграбнымі бярозкамі, вёскі, гарады прамільгалі ў мяне перад вачамі, нібы фантастычныя выявы, і я не мог зразумець, што прывяло мяне на гэтую імклівую пастанову, дзе адчуванні змяняюцца так хутка, што душа не паспявае за целам!.. Гэтыя перавернутыя ўяўленні аб прыродзе, гэтыя памылковыя думкі розуму, якія маюць матэрыяльную прыроду, гэты аптычны падман, які перамясціўся ў вобласць ідэй, гэты зрух жыцця, гэтыя мары наяву павольна пераходзілі ў тужлівыя песьні фурманаў; іх сумныя мелодыі нагадваюць мне спевы псалмоў ў нашых цэрквах, дакладней нават, гнусавыя галасы старых жыдоў у нямецкіх сінагогах. Вось да чаго пакуль зводзяцца для мяне хвалёныя рускія напевы. Кажуць, народ гэты вельмі музычны: паглядзім; пакуль я не чуў нічога вартага ўвагі: начная размова фурмана з коньмі была змрочнай; гэта перарывістае барбатанне, як бы мроя, якую чалавек вымаўляе нараспеў, распавядаючы свае нягоды адзінаму вернаму сябру – каню, напаўняла мне душу глыбокім смуткам.

У адным месцы дарога раптам крута накіроўваецца ўніз, да пантоннага мастка, які апусціўся ледзь не на самае дно, таму што ад спёкі рака абмялела. Гэтая рака, ўсё адно шырокая, хоць ужо і спыніўшаяся праз летнюю спёку, носіць вялікае імя: Волга; на беразе гэтай знакамітай рэчкі перада мной у асьвятленні месяца паўстае горад: яго белыя сьцены віднеюцца ў начы, больш падобныя на

змяркання, а змяркання – прыдатны час для прывідаў; толькі што выбрукаваная дарога ўецца вакол толькі што пабеленага горада, дзе я на кажным кроку сустракаю рымскія франтоны і атынкованыя каланады, так шануемыя рускімі, якія спадзяюцца з іхнай дапамогай паказаць, што яны разбіраюцца ў мастацтве; па гэтай запружанай дарозе можна ехаць толькі крокам.

Горад, каля якога я еду, здаецца мне велізарным: гэта Цвер, чыё імя выклікае ў маёй памяці бясконцыя сямейныя сваркі, перапаўняўшыя рускую гісторыю да татарскага нашэсьця: я чую, як брат праклінае брата; раздаецца баявы покліч; я бачу разню, бачу, як вада ракі афарбоўваецца крывёю; з нетраў Азіі прыходзяць калмыкі, п'юць гэтую ваду і чырваняць Волгу іншай крывёю. Але я-та навошта палез у гэты крыважэрны натоўп? Каб здзейсніць новае падарожжа і распавясьці вам пра яго: нібы выявы дзяржавы, дзе прырода не стварыла нічога, а мастацтва зрабіла толькі спробы ды копіі, можа зацікавіць вас пасьля апісання Гішпаніі, гэтай зямлі, дзе самы своеасаблівы, самы вясёлы, самы незалежны па духу і нават самы вольны калі не згодна з законам, то па сутнасьці[66] народ які вядзе глухую барацьбу супраць самага змрочнага ўрада; дзе ўсе разам танчаць, дзе ўсе разам моляцца, чакаючы, калі пачнецца усеагульная разня і рабаванне цэркваў: вось выява, якую патрэбна закрыць жывапісаннем раўніны, якая цягнецца на некалькі тысяч лье, і апавяданнем пра грамадства, дзе своеасабліва толькі тое, што старанна схавана ад погляду іншага назіральніка... Задача не із лёгкіх.

**~ 30 ~**

Нават Масква не варта таго, каб цярпець дзеля яе столькі нягод. Махнём рукой на Маскву, загадаем фурману павярнуць аглоблі і панесьціся з усім спрытам ў Парыж! На гэтай думцы мяне застала раніца. Мая каляска заставалася адкрытай ўсю ноч, а я ў дрымоце не заўважаў вераломнага дзеяння паўночнай расы: мая сукенка набралася вільгаці, валасы сталі вільготнымі, як ад поту, усе скураныя рамяні каляскі набраліся шкоднай сырасьці. У мяне балелі вочы, я бачыў усё як у тумане; я згадваў князя ***, які, правёўшы ноч у адкрытым полі, праз суткі аслеп. Гэта было ў Польшчы, а яна знаходзіўся ў той жа паласе[67].

Слуга дакладае мне, што каляску выправілі, я кранаюся ў дарогу, і калі мяне не зачаравалі, калі якая-небудзь новая поломка не затрымае мяне, калі мне не наканавана ўехаць ў Маскву на павозцы або ўвайсьці пешшу, мой наступны ліст будзе са святога для рускіх людзей горада, куды я спадзяюся трапіць праз некалькі гадзін.

Паглядзелі б вы, як старанна хаваю я свае пісанні, бо ўсякага майго ліста, нават таго, які здаўся б вам самым нявінным, было б дастаткова, каб мяне выслалі ў Сібір. Сядаючы пісаць, я зачыняю дзьверы, і калі мой фельд’егер або

---

[66] [заўвага аўтара] У часы абсалютнай манархіі ў дваццаці мілях ад Мадрыда касьцільскі пастух нават не падазраваў пра тое, што ў Гішпаніі існуе ўрад.

[67][заўвага аўтара] Гэтая доля, якой я спадзяваўся пазбегнуць, ледзь не напаткала і мяне. Хвароба вачэй, толькі пачынаўшаяся, калі я пісаў гэты ліст, падчас майго знаходжання ў Маскве пагоршылася і яшчэ доўга не праходзіла; нарэшце пасьля Ніжнягародзкай ярмаркі яна ператварылася ў хранічнае запаленне вачэй, ад якога я пакутую і дагэтуль.

хто-небудзь із паштовых служачых стукаецца да мяне, то, перш чым адчыніць, я прыбіраю паперы і раблю выгляд, што чытаю. Гэты ліст я схаваю за падкладку майго капелюшы: Спадзяюся, гэтыя засьцярогі залішнія, але ўсё ж я іх няўхільна вытрымліваю: аднаго гэтага дастаткова, каб даць вам ўяўленне аб расійскім ладзе.

# Ліст дваццаць чацвёрты

*Першае ўражанне ад Масквы. – Горад плыве над зямлёй. – Купалы праваслаўных цэркваў, іх традыцыйная колькасць. – Сімвалічны сэнс гэтай архітэктуры. – Апісанне дахаў і вежак, металічныя ўпрыгожванні цэркваў. – Пятроўскі замак. – Яго архітэктурны стыль. – Уезд у Маскву. – Перавага мастацтва. – Выгляд Крамля. – Колер неба. – Храм Васіля Блажэннага здалёк. – Французы ў Маскве. – Анекдот пра паход нашага войска на Смаленск. – Куфар ваеннага міністра. – Бітва пад Масквой. – Крэмль як умацаванне. – Паходжанне тытула "цар". – Цэнтр Масквы. – Заездны двор спадарыні Говард. – Захады, якія яна робіць, каб падтрымліваць у сябе чысьціню. – Вячэрні шпацыр. – Апісанне начнога горада. – Крэмль у святле месяца. – Пыл на вуліцах; шмат дрожак. – Летняя спёка. – Жыхары Масквы. – Іллюмінацыя. – Развважанні. – Алея пад сьценамі Крамля. – Умацавальныя валы. – Што такое Крэмль. – Успаміны пра Альпы. – Ян III. – Падвясная дарога. – Зачараванне ночы і архітэктуры. – Банапарт ў Крамлі.*

**Масква, 7 жніўня 1839 года**[68].

Вам ніколі не даводзілася бачыць на подступах да якога-небудзь порту на беразе Ла-Манша або Біскайскага заліва лес мачтаў за невысокімі дзюнамі, якія цалкам закрываюць ад вас горад, прыстані, набярэжныя і само мора з карабля, які стаіць на рэйдзе? Над пясчаным узвышшам віднеюцца толькі голыя бярвенні з асляпляльна белымі парусамі, рэямі, стракатымі сцягамі, развяваючыміся вымпеламі, яркімі рознакаляровымі харугвамі; і вы застываеце ад здзіўлення, гледзячы на гэтую стаячую на сушы эскадру: дык вось, такое ж ўражанне зрабіла на мяне Масква, калі я ўбачыў яе ўпершыню: над воблакамі дарожнага пылу зіхацела шмат званніц, а сам горад патанаў у гэтым віхуры, і лінія гарызонту размывалася у марыве, нязменна засьцілаючаму летам неба ў гэтых краях.

Бугрыстая, амаль ненаселеная, дрэнна апрацаваная, бязлюдная на выгляд раўніна падобная на дзюны з мізэрнымі купамі ёлак і рэдкімі рыбацкімі хібаркамі, вартымі жалю, але ўсё ж даючымі хоць нейкі прытулак. Пасярод гэтай пустыні перада мной раптам паўстала шмат рознакаляровых купалоў і ўсыпаных зоркамі вежак, але іхныя асновы заставаліся схаванымі ад позірку: гэта быў горад; нізкія хаты яшчэ хаваліся за прыгоркамі, між тым як паднімаючыяся ўвысь шпіцы цэркваў, мудрагелістай формы вежы, палацы і старыя кляштары ўжо

[68] Згодна са старым стылем 26 ліпеня.

прыцягвалі мой позірк, як стаячы на якары нябачны флот з яго плывучымі ў небе мачтамі[69].

Гэта першае з'яўленне перад маім позіркам сталіцы славянскай імперыі, якая зіхаціць пасярод халодных пустынь хрысьціянскага Усходу, немагчыма забыцца.

**~ 31 ~**

Перад падарожнікам разсцілаюцца маркотныя, але бязмежныя, як акіян, абшары, і пасярод гэтай пустыні паўстае паэтычны горад, не падобны ні на адзін горад у свеце, горад, архітэктура якога не мае ні назвы, ні падабенства[70].

Каб як варта ўявіць сабе асаблівасць выявы, вам трэба ўзгадаць выгляд ўсякай праваслаўнай грэцкай царквы; гэтыя храмы нязменна ўвенчаны некалькімі вежкамі рознай формы і памераў, гэтых вежак не менш за пяць, а часам значна больш. Самая высокая – сярэдняя вежа, яе пачціва атачаюць чатыры іншыя, ніжэйшыя. Яны бываюць разной формы: гэтыя сімвалічныя вежы часта заканчваюцца нечым падобным на спічасты каўпак; можна параўнаць вялікую вежу некаторых цэркваў, размаляваную і пазалочаную, з мітрай япіскапа, з усыпанай каменнямі тыярай, з кітайскай пагадай, з мінарэтам, з шапкай бонзы; часта гэта проста-напраста маленькі круглы купал, завяршаючыся вастрыём; усе гэтыя больш-менш мудрагелістыя вежкі завершаны вялікімі меднымі пазалочанымі крыжамі ажурнай апрацоўкі, складаным узорам нагадваючым філігрань. Колькасць і размяшчэнне гэтых вежак заўсёды мае сакральный сэнс; яны сімвалізуюць прыступкі царкоўнай іерархіі. Гэта патрыярх ў асяроддзі святароў[71], дыяканаў і субдыяканаў радасна ўздымае галаву да неба. У абрысах гэтых мудрагеліста размаляваных дахаў выяўляюцца ўсё багацці фантазіі, але першапачатковая задума, тэалагічная ідэя заўсёды старанна захоўваецца. Бліскаючыя на сонцы металічныя ланцугі, пазалочаныя або пасярэбраныя, злучаюць крыжы на ніжніх вежках з крыжам на галоўной вежы, і гэтая металічная сетка, якая апутвае увесь горад, робіць ўражанне, якое немагчыма перадаць нават фарбамі, а тым больш славамі, бо словы не могуць перадаць фарбы, гэтак жа як і музыку. Ітак, паспрабуйце ўявіць сабе, якое ўражанне робіць гэтае святое войска купалоў, якое, хоць і не з'яўляецца выявай людзей, але ўсё ж гратэскавай выявай нагадвае натоўп, які сабраўся на дахах цэркваў і капніц: гэта гурт прывідаў, якія лунаюць над горадам.

Але я яшчэ не назваў вам галоўную асаблівасць рускіх цэркваў: іх таямнічыя вежы апрануты, можна сказаць, у кальчугу – такога тонкага вырабу

---

[69] [заўвага аўтара] Шніцлер ў сваёй статыстыцы так апісвае зямлю Маскоўскай губерні; я перапісываю слова ў слова: "Амаль усюды глеба бедная, балоцістая і нерадзючая, і хаця амаль палова зямелі апрацавана, гэтага зусім недастаткова для насяляючых яе жыхароў; ураджай у гэтых краях вельмі мізэрны і галодны" і г. д. (М. Ж. Г. Шніцлер, "Расія, Польша і Фінляндыя". Парыж, выдадзена у Ж. Рэнуара, 1835, с.37).

[70] Мяркуючы па лістах Кюстына, лісты пра Маскву даліся яму асабліва цяжка; 26 снежня 1841 г. ён прызнаваўся Сафі Гэ: «Апісанне гэтага азіяцкага горада для мяне ўсё адно што сальта для канатнага скакуна; вось ужо тры гады як я не знаходжу ў сабе рашучасьці закончыць яе; тры тамы ўжо напісаны, а гэтае пачынанне з кожным днём страшыць мяне ўсё мацней…» (Tarn. p. 491).

[71] Сімвалічная трактоўка Кюстына не мае аналогаў у праваслаўнай традыцыі.

іхнае пакрыццё. Яны нібы ў залатой і срэбнай аправе, і назіральнік губляе дар слова ад здзіўлення, бачачы, як іскрыцца на сонцы шмат узорчатых, чашуйчатых, пакрытых палівай, усыпанных блёсткамі, размаляваных прадольнымі або папярэчнымі палосамі, яркіх і пераліваючыхся ўсімі колерамі вяселкі дахаў.

Самыя прыкметныя пабудовы горада выглядаюць так, нібы іх зверхуданізу накрываюць багатыя дываны: дзякуючы гэтаму іхныя каменныя грамады вылучаюцца на зялянаватым фоне бязлюднай мясцовасці. Пустыня, можна сказаць, расцвечена гэтай чароўнай сеткай карбункулаў, зіхацяцых на металічным фоне пяску. Гульня святла, адбітага гэтым лунаючым ў паветры горадам, здаецца казачнай, падманам сярод белага дня і нагадвае бляск каштоўных камянёў ў лаўцы ювеліра: гэтыя мігаючыя агні робяць Маскву не падобнай ні на адзін буйны еўрапейскі горад. Вы можаце ўявіць сабе неба над такім горадам: гэта ззянне, як на выявах старажытных жывапісцаў, суцэльнае золата.

Не палянуюся нагадаць вам, як шмат у гэтым горадзе цэркваў. Шніцлер на пяцьдзесят другой старонцы свайго твору кажа, што ў 1730 Вэбер[72] налічыў у Маскве тысячу пяцьсот цэркваў і што ў тыя часы мясцовыя жыхары хацелі давесці гэты лік да тысячы шасцісот, але дадае, што гэта перабольшванне. Кокс[73] у 1778 годзе налічвае чатырыста восемдзесят чатыры царквы. Лаво[74] таксама дае гэтую лічбу. Што да мяне, то я абмяжуюся апісаннем выгляду пабудоў; я любуюся, а не пералічваю, і таму накіроўваю аматараў каталогаў да кніжак, якія складаюцца адзіна з лічбаў.

Спадзяюся, я сказаў дастаткова, каб вы зразумелі і падзялілі маё здзіўленне пры выглядзе Масквы: вось усё, чаго я хацеў. Вы яшчэ больш здзівіцеся, калі ўзгадаеце тое, што напісана ва ўсіх кнігах: горад гэты – цэлая краіна, і палеткі, рэкі і азёры, якія знаходзяцца на яго тэрыторыі, падзяляюць упрыгожваючыя яго пабудовы вялікімі адлегласьцімі. Такая разкіданасць толькі ўзмацняе іллюзію: уся раўніна тоне ў серабрыстай смузе; тры ці чатыры сотні далёка адстаячых адна ад адной цэркваў раскінуліся перад вачамі велічэзным паўкругам; таму калі ўпершыню пад’язджаеш да горада перад змярканнем і неба хмурнае, то здаецца, быццам над маскоўскімі цэрквамі паднялася вогненная вясёлка: гэта арэол святога горада.

Але калі да горада застаецца менш аднаго лье, чары разсейваюцца, падарожнік спыняецца перад дастаткова реальным Пятроўскім замкам[75],

[72] Вебер — гл. заўвагу. да т. I, стр. 438.

[73] Кокс Вільям (1747-1826) — ангельскі гісторык і падарожнік, аўтар трохтамовага «Вандравання ў Польшчу, Расію, Швецыю і Данію» (1787-1790; т. 1-5).

[74] Лаво (правільна: Лекуэнт дэ Лаво) — аўтар двухтамовага «Апісання Масквы» (Description de Moscou), другім выданнем якога, выдадзеным у Маскве ў 1836 г., Кюстын карыстаўся пад час працы над сваёй кнігай.

[75] Пятроўскі замак — падарожны царскі палац у гатычным стылі, пабудаваны ў 1776-1796 гг. на месцы невялікай вёскі Пятроўская архітэктарам М. Ф. Казаковым для Кацярыны II, якая ўпершыню спынілася там у 1787 г.; у 1812 г., калі ў Маскве быў пажар, у Пятроўскае із Крамля перабраўся Напалеон. У 1837 г. у Пятроўскім парку, наваколлі палаца, быў адкрыты «Воксал» — «велічэзны, чароўны будынак, <які> амаль штонядзельна і на святы з вясны да восені прымаў чальцоў і наведвальнікаў, шукаючых задавальненняў: маскарады, скокі, музыка, хоры лепшых спевакоў, цыган і цірольцаў, феерверкі, ілюмінацыі, розныя

груваcткім палацам із неабпаленай цэглы, які быў пабудаваны Кацярынай II па сучасных чарцяжах, замыславатым, перагружаным упрыгожваннямі, якія рэзка вылучаюцца сваёй бялізной на чырвоным фоне сьцен. Гэтыя ўпрыгожванні, як мне здаецца, не каменныя, а гіпсавыя, у гатычным стылі, але гэта не сапраўдная готыка, а мудрагелістае пераймание. Пабудова квадратная, як куб; такая правільнасць плана не прыдае яго выгляду ні велічнасьці, ні лёгкасьці. Тут спыняецца гасудар перад урачыстым уездам у Маскву. Я сюды яшчэ вярнуся, бо тут наладзілі летні тэатр, разбілі сад і пабудавалі вялікую залу, нешта падобнае на публічнае кафе, дзе сустракаюцца гарадскія лайдакі ў цёплы час года.

**~ 32 ~**

Пасьля Пятроўскага замка расчараванне паглыбляецца настолькі, што, у’язджаючы ў Маскву, падарожнік ўжо не верыць таму, што ён бачыў здалёк – яму прысніўся сон, а прачнуўшыся, ён пабачыў вакол усё, што ёсць самага празаічнага і сумнага на сьвеце: вялікі горад без помнікаў, гэта значыць без адзінага тварэння мастацтва, якое было б сур'ёзна годна захаплення; гледзячы на гэтую грузную, нязграбную копію Яўропы, вы пытаецеся сябе, куды падзелася Азія, з’явіўшаяся на імгненне перад вашым позіркам? Калі глядзіш здалёк, Масква ў сваёй цэласьці здаецца стварэннем сільфаў, светам хімер; калі бачыш яе паблізу, у падрабязнасьцях, яна станавіцца вялікім гандлёвым горадам, бязладным, пыльным, дрэнна брукаваным, дрэнна забудаваным, мала населеным; адчуваецца, што яго стварыла істота магутная, але відавочна пазбаўленая пачуцця прыгожага, а без яго стварыць шэдэўр немагчыма. У рускага народа ёсць моц у руках, ён можа шмат, але яму не хапае моцы ўяўлення.

Не маючы архітэктурнага даравання, не маючы таленту і густу ваяцеля, можна нагрувашчваць камяні, ўзводзіць велічэзныя збудаванні, але немагчыма стварыць нічога гарманічнага, нічога выдатнага сваёй адпаведнасьцю. Счастлівая перавага мастацтва!.. Шэдэўры пераживаюць сябе; разбураныя часам, яны яшчэ шмат стагоддзяў працягваюць жыць у памяті людзей; натхненне, якое ўвасобілася ў іх і адухаўляе нават іх разваліны, робіць несмяротнай стварыўшую іх думку, між тым як выродлівыя грамады пры ўсёй сваёй трываласьці будуць забытымі нават перш, чым іх разбурыць час. Мастацтва, дасягаючы дасканаласьці ажыўляе камень, у гэтым яго таямніца. Так было ў Грэцыі, дзе кожная дэталь павялічвае ўздзеянне скульптуры ў цэлым. У архітэктуры, як і ў іншых мастацтвах, пачуццё выдатнага нараджаецца із дасканаласьці самых маленькіх часьцінак і іхнага ўмелага аб’яднання ў цэлае. Па ўсёй Расіі няма нічога, што б выраблала падобнае ўражанне.

Тым не менш у гэтым хаосе із тынкоўкі, цэглы і дошак, які называецца Масквой, дзве кропкі нязменна прыцягваюць усе позіркі: гэта храм Васіля

---

гульні, арэлі, горы, каруселі, — нават часопісы, газеты, кнігі і фортэпіяны — ёсць чым заняцца, асвяжыць розум і задаволіць густ» (Даведнік. стр. 6).

Блажэннага – я вам яго зараз апішу – і Крэмль[76], які не змог узарваць нават Наполеон.

Крэмль са сваімі няроўнымі сьценамі, сваімі разной вышыні зубцамі – белакаменны цуд, гэта цэлы горад, які мае, згодна чутак, каля лье ў акружнасьці. Калі я ўязджаў ў Маскву, дзень хіліўся да змяркання і мудрагелістыя грамады палацаў і цэркваў, якія знаходзіліся ў гэтым умацаванні, бялелі на фоне зацягнутага смугой пейзажу, выразных ліній, голых далячынь, неабсяжных прастораў, размаляваных ў халодныя тоны, што не перашкаджала нам знемагаць ад спёкі, задыхацца ад пылу і пакутаваць ад камароў. Паўднёвым гарадам доўгае лета даруе яркія фарбы; на поўначы лета адчуваецца, але яго не відаць; як бы ні награвалася часам паветра, зямля па-ранейшаму застаецца бляклай, безколернай.

Я ніколі не забудуся хвалявання, якое ахапіла мяне, калі я ўпершыню ўбачыў калыску сучаснай Расійскай імперыі: дзеля Крамля варта здзейсніць падарожжа ў Маскву.

Каля сьцен гэтага ўмацавання, але знадворку, як сцвярджае мой фельд’егер, – сам я туды яшчэ не дабраўся, – узвышаецца храм Васіля Блажэннага; іншая яго назва – Пакроўскі сабор. У праваслаўі цэрквам шчодра надаецца тытул сабора: у кожным квартале, у кожным кляштары ёсць свой сабор, у кожным горадзе іх некалькі; сабор Васіля Блажэннага, без сумнення, калі не самая прыгожая, то ўжо, ва ўсякім разе, самая своеасаблівая пабудова ў Расіі. Я бачыў яго толькі здалёк і быў цалкам зачарваны. Уявіце сабе скопішча маленькіх, разной вышыні, вежак, якія разам уяўляюць куст, букет кветак; дакладней, уявіце сабе каравы плод, увесь пакрыты наростамі, дыню-канталупу з бугрыстымі бакамі, або, яшчэ лепш, рознакаляровы крышталь, ярка зіхацячы сваімі роўнымі гранямі ў сонечных прамянях, як бакал із багемскага або венецыянскага шкла, як распісны дэльфцкі фаянс, як лакавы кітайскі ларэц: гэта лускавінкі залатых рыбак, змяіная скура, пасланая над не маючай формы грудай камянеў, галовы драконаў, скура хамелеона, скарбы алтароў, рызы святароў; і ўсё гэта завершана пераліўчатымі, як шоўк, шпіцамі; ў вузкіх прамежках паміж прыгожымі франтаватымі вежкамі ззяе сізы, розавы, лазурны дах, такіж ж роўны і ззяючы на сонцы; гэтыя стракатыя дываны слепяць вочы і чаруюць ўяўленне. “Няма сумнення, што краіна, дзе падобная пабудова вызначана для малітвы, – не Яўропа, гэта Індыя, Персія, Кітай, і людзі, якія прыходзяць пакланіцца Богу ў гэтую цукерачную скрынку, – не хрысціяне!” Такі выкрык вырваўся ў мяне, калі я

[76] Пар. уражанні Баранта: «Масква выявілася не такой, якой я яе сабе ўяўляў: у ёй няма нічога гатычнага, усходняга і нават грэцкага; як і ўся Расія, гэта горад, які не ведаў сярэднявечча. Каля XV стагоддзя тут пачалі будаваць палацы і цэрквы, у якіх перамяшаліся запазычанні з ўсім магчымых стылей. <…> І ўсё ж выгляд Крамля ўразіў мяне; гэта адно із маіх мацнейшых падобных уражанняў. Крэмль — гэта Масква; усё астатняе новае, як Пецярбург, і пабудавана прыкладна ў тым жа стылі» (ліст графу д'Удзета ад 15 жніўня 1836 г. — Souvenirs. т. 5. p. 455). Сам Кюстын неаднаразова заяўляў пра мацнейшае ўражанне, зробленае на яго Крамлём; пасьля вяртання із Расіі, 19 кастрычніка 1839 г., ён пісаў Віктору Гюго: «Пераносіць выпрабаванні гэтага вандравання было варта дзеля трох рэчаў: гэта Нява ў Санкт-Пецярбургу пад час светлых летніх начэй, маскоўскі Крэмль і расійскі імператар, інакш кажучы, Расія маляўнічая, гістарычная і палітычная» (цыт. па: Liechtenhan. p. 135; Пар. гэты, том, стр. 425).

ўпершыню ўбачыў незвычайную царкву Васіля Блажэннага; з тых часоў, як я ў Маскве, адзінае маё жаданне – як варта разгледзець гэты мудрагелісты шэдэўр, які такі незвычайны, што адцягнуў мяне ад Крамля ў імгненне, калі гэты грозны замак ўпершыню з'явіўся перад маім позіркам.

**~ 33 ~**

Але неўзабаве думкі мае накіраваліся ў іншае рэчышча, я адарваўся ад таго, што ўразіла мой позірк, і паспрабаваў ўявіць сабе падзеі, якія адбыліся ў гэтых местах. Які француз мог бы стрымаць парыў павагі і гонару... (у няшчасьця ёсць свой гонар, і гэта цалкам натуральна) уязджаць ў адзіны горад, дзе ў наш час адбылася падзея, не саступаючая біблейскай, адбылося грандыёзнае дзеянне, годнае найвялікшых здзясненняў старажытнай гісторыі?

Сродак, які выкарыстаў азіяцкі горад, каб адбіць ворага, ёсць выраз вышэйшага адчаю, і з гэтага часу імя Масквы фатальным чынам злучана з імем найбуйнейшага вайсковага правадыра новага часу; свяшчэнная птушка грэкаў палічыла за лепшае згарэць, каб пазбегнуць кіпцюроў арла, і, падобна Феніксу, містычная галубка таксама адраджаецца із попелу.

У гэтым славутым змаганні веліканаў раўна вызначыліся як пераможцы, так і пераможаныя!!! Агонь пад лёдам, прылада дантоўскіх чарцей: вось, што Бог даў рускім, каб адбіць і разбіць нас! Войска смельчакоў можа ганарыцца, што зайшло так далёка, няхай нават на сваю пагібель.

Але што апраўдвае вайсковага правадыра, чыя непрадбачлівасць зацягнула яго ў няроўную барацьбу? У Смаленску Бонапарт мог дыктаваць ўмовы міру, а ў Маскве яму нават не прапанавалі падпісаць мірнае пагадненне. Ён спадзяваўся на перамогу, але спадзяваўся дарэмна. Такім чынам захапленне збіральніка памуціла розум вялікага палітыка, ён прынёс сваё войска ў ахвяру дзіцячаму жаданню пакарыць яшчэ адну сталіцу!.. Адкінуўшы самыя мудрыя перасьцярогі, ён не паслухаўся голасу розуму і прыйшоў, каб заваяваць умацаванне цароў, як перш браў палацы амаль усіх кіраўнікоў Яўропы: у пагоні за марнай перамогай смелы правадыр страціў ўсю сваю ўладу.

Захапленне браць сталіцы прывяла да паразы лепшае войска ў Францыі і ў сьвеце, а праз два годы – да знікнення Імперыі.

Вось невядомы ў нас, але, перакананы, зусім дакладны факт, які падмацоўвае маё меркаванне пра тое, што паход на Маскву – недаравальная памылка Напалеона. Дарэчы, у гэтай думкі няма нічога выдатнага, бо сёння так думаюць самыя асвечаныя і самыя незацікаўленыя людзі ўсіх краін.

Рускія лічылі Смаленск умацавальным валам сваёй дзяржаўы; яны спадзяваліся, што наша войска абмяжуецца захопам Польшчы і Літвы і не адважыцца пайсьці далей; але калі яны даведаліся, што гэты горад, ключ Імперыі, узяты[77], з усіх бакоў пачуўся лямант жаху; двор і краіна былі ўзрушаны; рускія вырашылі, што ўсё скончана. Жахлівая навіна наспела Аляксандра I ў Пецярбургу.

[77] Смаленск быў узяты 6/18 жніўня 1812 г.

Яго ваенны міністр падзяляў агульнае меркаванне; жадаючы выратаваць ад ворага ўсё самае каштоўнае, ён склаў ладную колькасць золата, каштоўнасьці, брыльянты, а таксама важныя паперы ў куфар і загадаў аднаму са сваіх сакратароў, адзінаму чалавеку, якому ён мог даверыць такі каштоўны груз, завезьці яго на Ладагу[78]. Там ён загадаў сакратару чакаць новых загадаў, папярэдзіўшы, што хутчэй за ўсё давядзецца даставіць куфар у Архангельск, а затым накіраваць ў Англію. Усе з трывогай сачылі за ходам падзей; прайшло некалькі дзён, ганцы не з'яўляліся; нарэшце міністр атрымаў звестку аб паходзе французкага войска на Маскву. Не вагаючыся ні хвіліны, ён пасылае на Ладагу за сакратаром і куфарам і пераможна паўстае перад імператарам. Александру I ўжо далажылі навіну. “Ваша вялікасць, – сказаў яму міністр, – падзякуйце Усявыўняга; калі вы не адступіцеся ад прынятага рашэння, Расія будзе выратавана: заваёўнікаў чакае лёс Карла XII[79].

– Але як жа Масква? – запярэчыў імператар.

– Яе трэба пакінуць, ваша вялікасць: улазіць ў бойку небяспечна – а раптам мы пацерпім паразу? Адступіць, знішчыўшы ўсе на сваім шляху, – значыць загубіць ворага, нічым не рызыкуючы. Голад і разбурэнні пачнуць яго вынішчэньне, зіма і пожар давершаць; спалім Маскву і выратуем свет”.

**~ 34 ~**

Аляксандр I некалькі змяніў гэты план. Ён загадаў зрабіць апошнія высілкі, каб абараніць сталіцу.

Усе ведаюць, як смела змагаліся рускія на Масква-рацэ. Гэтае змаганне, атрымаўшае назву Барадзінскага, прынесла ім перамогу, але яно прынесла перамогу і нам, бо іхныя прыстойныя намаганні не змаглі перашкодзіць нам увайсці ў Маскву.

Гасподзь хацеў падараваць газетчыкам нашага стагоддзя, самога звычайнага з усіх, якія бачыў свет, сюжэт для эпапеі. Масква была свядома прынесена ў ахвяру, і полымя гэтага выратавальнага вогнішча стала сігналам для рэвалюцыі ў Германіі і вызвалення Яўропы.

---

[78] Кюстын кантамінуе розныя эпізоды вайны і розныя дзеючыя асобы. Вайсковым міністрам і галоўнакамандуючым усім расійскім войскам да 8/20 жніўня 1812 г. быў М. Б. Барклай-дэ-Толі (1761-1818), які сапраўды быў стваральнікам плана абарончай вайны, які разумеў адступленне рускага войска ў глыб краіны і пакіданне непрыяцелю «месцаў спустошаных, без хлеба, быдла і сродкаў» (гл.: Тартакоўскі А. Г. “Неразгаданы Барклай”. М., 1996. стр. 70-78), аднак больш верагодна, што Кюстын мае на ўвазе М. Я. Галянішчава-Кутузава, які пасьля здачы Смаленска быў прызначаны галоўнакамандуючым замест Барклая і з імем якога традыцыйна злучаецца ідэя заваблівання французаў у глыб рускай тэрыторыі і здачы Масквы дзеля выратавання краіны. Што ж да эпізоду з вывазам каштоўнасцей, то і ён мае рэальныя адпаведнасьці, аднак ініцыятыва паходзіла ад самага імператара, які ў дзень свайго ад'езду із войска (6/18 ліпеня 1812 г.), за месяц да ўзяцця Смаленска, загадаў не вайсковаму міністру, а старшыні Дзяржаўнай рады М. Я. Салтыкову «вывозіць із Пецярбурга: Рада, Сенат, Сінод, Дэпартаменты міністэрскія, Банкі, Манетны двор, Арсенал», «лепшыя карціны Эрмітажа», абедзве статуі Пятра I, «багацці Аляксандра-Неўскай лаўры», нават хатку Пятра загадана «разабраць» і «вывезьці» (Траецкі Н. А. 1812. Вялікі год Расіі. М., 1988. стр. 95). Гэтыя загады аддаваліся ў той момант, калі было яшчэ не відавочна, што Напалеон будзе наступаць не на Пецярбург, а на Маскву.

[79] Прамаўляючы мае на ўвазе, што ўварванне ў Расію і пасоўванне ў глыб рускай тэрыторыі так жа не прынясе поспеху Напалеону, як не прынесла яно поспеху шведзкаму каралю Карлу XII (1682-1718), чыё нашэсьце скончылася паразай у Палтаўскай бітве (1709 г.).

Народы нарэшце адчулі, што атрымаюць спакой толькі пасьля таго, як знішчаць гэтага ненасытнага заваёўніка, які хацеў дасягнуць міру з дапамогай няспынных войнаў.

Такімі былі ўспаміны, якія мясьціліся ў маёй галаве, калі я ўпершыню ўбачыў Крэмль. Каб годна ўзнагародзіць Маскву, расійскі імператар павінен быў перанесьці сваю рэзідэнцыю ў гэты ўдвая сьвяты горад.

Крэмль – не такі палац, як іншыя, гэта цэлы горад-умацаванне, і гэты горад-умацаванне – выток Масквы; ён служыць мяжой двум часткам свету, падзяляе Захад і Усход: тут прысутнічаюць стары і новы свет; пры нашчадках Чынгіз-хана Азія ў апошні раз рынулася на Яўропу; адступаючы, яна топнула нагой – і на зямлі з'явіўся Крэмль!

Гасудары, якія валодаюць сёння гэтым сьвятым прытулкам ўсходняга дэспатызму, лічаць сябе еўрапейцамі, таму што прагналі із Масковіі калмыкаў, сваіх братоў, тыранаў і настаўнікаў; не ў крыўду ім будзь сказана, ніхто не быў так падобны на ханаў із Сарая[80], як іхныя праціўнікі і паслядоўнікі, маскоўскія цары, запазычыўшыя ў іх усё, аж да тытула. Рускія называлі татарскіх ханаў царамі. Карамзін сведчыць[81] з гэтай нагоды ў томе VI на старонцы 438:

“Гэтая назва не з’яўляецца скарачэннем лацінскага Caesar, як шмат хто безпадстаўна думаў, але старажытнае ўсходняе, якое стала ў нас вядома па славянскаму перакладу Біблії і надавалася імператарам візантыйскім, а ў найноўшыя часы ханам мангольскім, маючы на мове персідзкай сэнс пасаду або вярхоўнай улады; яно заўважаецца таксама ў канчатках уласных імёнаў манархаў асірыйскіх і вавілонскіх: Фаллассар, Набанассар і інш.». – І ў якасьці заўвагі ён дадае: “Глядзі Баера ў “Origin. Russ”. – У нашым перакладзе Сьвятога пісання замест Caesar гаворыцца Кесарь; а цар з’яўляецца зусім іншым словам”.

У межах горада я перасёк нічым не прыкметны бульвар, затым спусціўся па спадзістым схіле і апынуўся ў даволі прыгожым квартале з прамымі як страла вуліцамі і каменнымі будынкамі; нарэшце, мяне адвезлі на Дзьмітраўку: там знаходзіўся выдатны ангельскі заезды двор, дзе мяне чакаў цудоўны ўтульны пакой. Яшчэ калі я быў у Пецярбургу, мне параілі спадарыню Говард, якая ў іншым выпадку не сдала б мне пакой. Я далёкі ад думкі папракаць яе за педантычнасць, бо дзякуючы такой засьцярозе ў яе ўстанове можна спаць спакойна.

Вы жадаеце даведацца, якім коштам яна дабілася чысьціні, бо чысьціня рэдкасць ўсюды, у Расіі ж – сапраўдны цуд? Яна пабудавала ў двары асобны флігель, і рускія служкі сьпяць там. Гэтыя людзі ўваходзяць у галоўную пабудову толькі згодна загаду гаспадароў. Спадарыня Говард ідзе ў сваіх перасьцярогах яшчэ далей. Яна не прымае амаль нікога з рускіх; таму ні мой фурман, ні мой фельд’егер не ведалі, дзе знаходзіўся яе заезды двор; мы знайшлі яго не без

---

[80] Сарай — Сарай-Бату (Стары Сарай) і Сарай-Беркэ (Новы Сарай) — назва дзвюх сталіц Залатой Арды.

[81] Карамзін. т. 6. гл. 7. Баер Готліб Зігфрыд (1694-1738) — нямецкі арыенталіст, філолаг і гісторык, з 1725 г. жыўшы і працаваўшы ў Пецярбургу; Карамзін спасылаецца на яго твор «De origine et priscis sedibus Scytharum».

цяжкасьцей: на доме нават няма шыльды, хоць гэта лепшы заездны двор не толькі ў Маскве, але, магчыма, ва ўсёй Расіі.

Уладкаваўшыся, я вырашыў адпачыць і сеў вам пісаць. Набліжаецца ноч, свеціць месяц; я перарываю пісанне ліста і збіраюся пайсьці паблукаць па горадзе; калі вярнуся, я распавяду вам пра свой шпацыр.

# Працяг папярэдняга ліста

**Масква, 8 жніўня 1839 года, 1 гадзіна папоўначы**

Я выйшаў каля дзесяці гадзін вечера, адзін, без праважатага, і, згодна са звычкай, пайшоў куды глядзяць вочы; я блукаў па доўгіх шырокіх вуліцах, дрэнна брукаваных, як усе вуліцы ў рускіх гарадах, ды на дадатак яшчэ і ўхабістых; але гэтыя гідкія вуліцы пракладзены рэгулярна. У архітэктуры гэтай дзяржавы няма недахопу ў прамых лініях; аднак прамавугольная планіроўка сапсавала Маскву не так моцна, як Пецярбург. Там не вельмі разумныя тыраны сучасных гарадоў пачыналі на пустым месцы, а тут ім даводзілася змагацца з няроўнасьцямі глебы і старадаўнімі пабудовамі – нацыянальным гонарам: дзякуючы гэтым непераадольным перашкодам, якія былі створаны гісторыяй і прыродай, Масква захавала аблічча старажытнага горада; гэта самы маляўнічы із усіх гарадоў Імперыі, якая па-ранейшаму прызнае Маскву сваёй сталіцай насуперак нечалавечым намаганням Пятра I і яго пераемнікаў; так рэчаіснасць перамагае волю самых магутных людзей!

**~ 35 ~**

Пазбаўленая рэлігійных ушанаванняў, страціўшая свайго патрыярха, пакінутая сваімі ўладарамі і самымі магутнымі баярамі, не маючая іншых перавагаў, акрамя свайго гераізму, праяўленаму дастаткова нядаўна, каб яго маглі па заслугах ацаніць сучаснікі, Масква стала, праз адсутнасьць лепшага, гандлёвым і прамысловым горадам; кажуць, тут выдатная шаўковая фабрыка!..[82] Але гісторыя і архітэктура забяспечваюць Маскве неад'емнае права на палітычнае першынство. Рускі ўрад апякуе заводы: не могучы спыніць імклівы бег стагоддзя, яно лічыць за лепшае даць народу багацце, але толькі не вызваліць яго.

Калі я выйшаў із дому, было каля дзесяці гадзін вечера; дзень згасаў, і ў прыцемках з’явіўся ззяючая скрозь пыл натхнёны месяц паўночных шырот. Шпіцы кляштароў, іголкі званніц, вежы, умацавальныя валы, палацы і ўсе няправільнай формы велічныя грамады Крамля былі асьвечаны выпадковымі прамянямі святла, акружаўшымі іх залатой бахрамой, між тым як сам горад пагрузіўся ў цень; блікі заходзячага сонца, якія слізгалі, тускнеючы, із адной чарапіцы на другую, із аднаго меднага купала на іншы, паступова згасалі, а іхныя ззяючыя хвалі пархалі і знікалі на пазалочаных ланцугах і металічных дахах, утвараючых небасхіл Масквы: усе гэтыя пабудовы, яркія, як багатыя дываны, святочна блішчэлі на фоне блакітнага неба. Заходзячае сонца нібы не хацела

[82] Шніцлер, падрабязна апісваючы Маскву як найболей развіты прамысловы цэнтр Расіі, паказвае, што ў 1827 г. тут дзейнічала 196 шаўковых фабрык (Schnitzler. p. 39-40).

пакідаць горад, не развітаўшыся; гэта развітанне дня з зачараванымі замкамі старажытнай расійскай сталіцы было пышным. У вушах ў мяне звінелі хмары камароў, вочы паліў пясок, безперапынна паднімаемы капытамі коней, імчаўшыхся ва ўсе бакі шматлікіх экіпажаў.

Самыя шматлікія і самыя жывапісныя із іх – дрожкі: гэта сапраўдная нацыянальная павозка – летнія санкі. Паколькі яны могуць перавозіць за адзін раз са зручнасьцю толькі аднаго чалавека, іх павінна быць бясканца шмат, каб задаволіць патрэбы дзейнага, шматлікага, але загубіўшагася ў гіганцкім горадзе насельніцтва, увесь час збіраючагася із усіх ускраін да цэнтра. Маскоўскі пыл надзвычай дакучлівы; дробны, як попел, лёгкі, як раі мошак, з якімі ён змешваецца ў гэты час года, ён засьцілае позірк і абцяжарвае дыханне. Удзень стаіць нясцерпная спёка, а ночы занадта кароткія, і пагубная раса не сцішае высушваючую ранішнюю спёку; гэтае пекла астывае толькі позна вечарам. Нават самі рускія дзівяцца такой нясцерпнай і доўгай спёцы.

Ці не падпарадкавала сабе імперыя славян, гэтае сонца, якое паднімаецца на палітычным небасхіле і прыцягваючае позіркі зямлі, ці не падпарадкавала яна сабе і Божае сонца? Мясцовыя жыхары сцвярджаюць і любяць паўтараць, што клімат ў Расіі становіцца больш мяккім. Уражваючая магутнасць чалавечай цывілізацыі, чые поспехі, здаецца, змянілі ўсе, аж да тэмпературы зямнога шара!.. Адносна маскоўскіх і пецярбургскіх зімаў не ведаю, але лета мала дзе так непрыемна, як у гэтых двух гарадах. Цёплы час года – самая агідная пара ў паўночных краінах.

Першае, што ўразіла мяне на маскоўскіх вуліцах, – людзі, якія здаюцца больш бойкімі, больш адкрытымі і вясёлымі, чым жыхары Пецярбурга: тут адчуваюцца павевы свабоды, невядомыя ўсёй астатняй імперыі [83] ; менавіта гэтым тлумачыцца для мяне нябачнае непрыязнае стаўленне гасудароў да Масквы – горада, якому яны лісліваць, якога яны пабайваюцца і пазбягаюць.

Мікалай І, як заўзяты рускі, сцвярджае, што вельмі любіць Маскву: аднак я не бачу, каб ён жыў тут часьцей, чым яго папярэднікі, ненавідзеўшыя гэты старажытны горад.

Сёння вечарам на некалькіх вуліцах я ўбачыў іллюмінацыі, праўда, даволі ўбогія; лампёнаў было не шмат і некаторыя із іх стаялі прама на зямлі. Цяжка

---

[83] Пар. уражанні Баранта: «Менш правільнасьці і прамых ліній <чым у Пецярбургу>. Насельніцтва ў Маскве менш, але з выгляду яна здаецца населенай куды больш густа. Масква жыве сама сабой і не выглядае прыдаткам да царскай рэзідэнцыі. Зараз яна не мае і таго вайсковага аблічча, якое характэрна для другой сталіцы. Магчыма, у атмасферы гэтага горада ўжо ёсць ці хутка з'явіцца нешта буржуазнае, муніцыпальнае, прамысловае» (ліст графу д'Удзета, 15 жніўня 1836 г. — Souvenirs. т. 5. р. 455-456); чатырма днямі раней уражанні французскага амбасадара пераказваў у лісьце да імператрыцы Мікалай І: «Барант, які разглядае ўсё вельмі падрабязна і ўважліва, больш усяго здзіўляецца патрыярхальнасьці, адзнака якой ляжыць на Маскве. Перад усім ён адзначае натуральнасць, поўную волю кожнага із жыхароў, малалікасць войска, дзіўную ў такім вялікім горадзе» (Schiemann. р. 475). Падобныя адчуванні зведаў у верасні 1839 г. і палкоўнік Гагерн: «У Маскве рускі народ пераважна цалкам не перамешаны з замежнікамі, і таму што тут не ўсё залежыць ад двара і ўрада, то заўважаецца і больш незалежнасьці. Кажуць, аднак, што Масква занепадае і яе насельніцтва памяншаецца; на яе глядзяць як на цэнтр незадаволеных. Пецярбург жа падобны на хату, дзе ядуць паштэты, але не знойдзеш хлеба» (РС. 1891. № 1.стр. 14).

зразумець схільнасць рускіх да іллюмінацый, бо за той кароткі перыяд, калі можна атрымліваць асалоду ад падобных упрыгожванняў, нават у Маскве, не кажучы ўжо пра Санкт-Пецярбургу, амаль не бывае цемры.

Вяртаючыся дадому я спытаў, з якой нагоды ладкуюцца гэтыя сціплыя святкаванні. Мне адказалі, што іллюмінацыі ладзяцца ў дні нараджэння і ў дні тэзаімяніцтваў ўсіх асоб імператарскай сям'і, так што забавы ніколі не перарываюцца. У Расіі падобныя святы такія частыя, што іх амаль ніхто не заўважае. Гэтая незацікаўленнасць рускіх даводзіць мне, што жах бывае неасьцярожным і не заўсёды ўмее так спрытна ліслівіць, як хацелася б. Самы майстэрскі ліслівец – толькі павага, таму што яе ўхвалы, нават самыя празмерныя, шчырыя. Вось ісьціна, якую сумленне падказвае дэспатам, але, на жаль, безпаспяхова.

**~ 36 ~**

Няўдача сумлення ў справах чалавечых, як у вялікіх, так і ў малых, здаецца мне самай незразумелай таямніцай гэтага свету, бо служыць доказам для мяне існавання свету іншага. Гасподзь нічога не робіць без задумы; таму калі ён надаў сумленне ўсіх людзям і калі гэтае ўнутранае святло не знаходзіць ужывання на зямлі, значыць, яго прызначэнне – не тут; нашы захапленні нараджаюць несправядлівасьці гэтага свету, наша сумленне будзе ахоўваць непадкупную справядлівасць свету іншага.

Я павольна цягнуўся за людзьмі, якія гулялі і, пераадолеўшы некалькі ўздымаў і спускаў ўслед за натоўпам гультаёў, якія міжволі зрабіліся маімі праваднікамі, прыйшоў у цэнтр горада, на пустынную плошчу[84], ад якой пачынаецца аллея; гэтая аллея здалася мне цалкам незвычайнай: здалёк чулася музыка, зіхацела шмат агнёў, адкрытыя кафе нагадвалі Яўропу; але мяне не цікавілі забаўляльныя ўстановы: я быў пад сьценамі Крамля, гэтай гіганцкай гары, створанай у імя тыраніі рукамі рабоў. У наш час вакол сьцен старажытнага маскоўскага ўмацавання насадзілі аллею для народных гулянняў, нешта падобнае на ангельскі сад[85].

Вы ведаеце, што такое крамлёўскія сьцены? Слова "сьцены" выклікае ў нас у памяці нешта залішне звычайнае, залішне нікчэмнае, яно падманвае вас; крамлёўскія сьцены – горны ланцуг... Гэтая цытадэль, пабудаваная на мяжы Яўропы і Азіі, такая ж непадобная на звычайнае ўмацаванне, як Альпы не падобныя на нашы пагоркі: Крэмль – гэта Манблан сярод умацаванняў. Калі б велікан, які завецца Расійскай імперыяй, меў сэрца, я сказаў бы, што Крэмль – сэрца гэтага чудзішча: але сэрца ў Расіі няма, значыць, Крэмль – яе галава...

Я хацеў бы даць вам ўяўленне аб гэтай каменнай грамадзе, прыступкамі ўзыходзячай на неба. Дзіўная супярэчнасць! – Гэта прыстанішча дэспатызму было ўзведзена ў імя свабоды, бо Крэмль стаў валам, які абараніў рускіх ад уварванняў калмыкаў: яго сьцены мелі дваякае прызначэнне: яны стаялі на

---

[84] Відаць, Васкрасенскі пляц (пасля 1917 г. пляц Рэвалюцыі), дзе быў уладкаваны галоўны ўваход Крамлёўскага саду (гл. наступную заўвагу).

[85] Маецца на ўвазе Крамлёўскі (з 1856 г. — Аляксандраўскі) сад, уладкаваны ў 1820-1823 гг. пад заходняй сьцяной Крамля на месцы рэчышча ракі Няглінная.

старожы дзяржаўнай незалежнасьці і ўмацоўвалі ўладу гасудара. Гэтыя сьцены смела паўтараюць няроўнасьці глебы; калі схіл станавіцца занадта стромкім, сьцяна спускаецца прыступкамі; гэтыя прыступкі, якія вядуць із зямлі на неба, велізарныя, гэта лесвіца гігантаў, якія кінулі выклік багам.

У гэты першы ланцуг пабудоў урэзаныя фантастычныя вежы, высокія, магутныя і мудрагелістыя, нібы прыбярэжныя скалы і зіхацячыя ледавікі; ў цемры рэчы, вядома, здаваліся большымі, чым на самай справе, іхныя абрысы і тоны змяніліся; я кажу “тоны”, бо ноч, як гравюра, мае свой каларыт... Не ведаю, чаму я хадзіў як зачараваны, але затое я цвёрда ведаў, што мяне ахапіў таемны жах... калі глядзіш, як спадарыні і спадары, апранутыя згодна парыжскай моды, шпацыруюць каля падножжа гэтага казачнага палаца, здаецца, быццам спіш і бачыш сон!.. Я бачыў сон. Што сказаў бы Ян III[86], аднавіцель, можна нават сказаць, заснавальнік Крамля, калі б убачыў, як каля сьцен сьвятога ўмацавання масквіцяне, голеныя, завітыя, у фраках і белых панталонах, у жоўтых пярчатках, нязмушана сядзяць перад ярка асветленымі кафэ, спажываючы салодкае марозіва і слухаючы музыку? Ён сказаў бы тое ж, што і я: не можа быць!.. І тым не менш летам гэта можна назіраць зараз у Маскве кожны вечар.

Ітак, я прайшоўся па садзе, разбітаму каля ўмацавальнага насыпу старажытнай цытадэлі цароў, я бачыў вежы, за імі іншыя вежы, ўступы сьцен, за імі яшчэ ўступы, і позірк мой лунаў над зачараваным горадам. Слова “феерыя” занадта слабое і не перадаючае хараство пабачанай мной выявы!.. Толькі юнацтва з яго красамоўствам, юнацтва, якое ўсё здзіўляе і ўражвае, магло б знайсьці прыдатныя словы для гэтага цуда. Над доўгім скляпеннем, пад якім я толькі што прайшоў, я заўважыў падвясную дарогу, па якой у сьвятое ўмацаванне ўваходзяць пешыя і заязджаюць каляскі[87]. Гэтая выява здалася мне недасягальнай: вакол адны толькі вежы, вароты, тэрасы, якія грувасьцяцца адна над другой ў розных кірунках; усюды стромкія скаты, аркі, якія падпіраюць дарогі, якія вядуць із цяперашняй Масквы, Масквы звычайнай, у Крэмль, у Маскву гістарычную, у Маскву цудоўную. Гэтыя акведукі без вады падтрымліваюць паверхі яшчэ больш фантастычных пабудоў; на адной із гэтых падвясных дарог я ўбачыў нізкую, круглую вежу, ўсю натапырыўшуюся вострымі зубцамі, як пікі: гэта незвычайнае ўпрыгожванне вылучаецца сваёй бялізной на фоне крывава-чырвонай сьцяны: уражваючы кантраст, прыкметны нават у напалову празрыстай імгле паўночнай ночы. Гэтая вежа-волат, якая стаіць на ахове форта, і яе галава ўзвышаецца над ўмацаваннямі. Ўдосталь атрымаўшы асалоду ад гэтых мрояў наяву, я стаў шукаць зваротны шлях; вярнуўшыся

---

[86] Пры Яне III Васільевічы (1440-1505), вялікім князю маскоўскім з 1462 г., пачалося будаванне ці перабудова найважнейшых пабудоў у Крамлі; былі пабудаваны Ўспенскі сабор, Рызазмяшчаючая царква на Мітрапаліцкім двары, пачалося будаванне вялікакняскага палаца (рэшткай якога з'яўляецца Гранавітая палата); нарэшце, у 1485-1495 гг. замест струхлелых белакаменных сьцен і веж былі пабудаваны новыя, цагляныя. Менавіта ў гэты перыяд Крэмль набыў сучасны выгляд.

[87] Напэўна, Траецкі мост, што злучае Кутаф’ю вежу (адзінае із захаваўшыхся перадмаставых умацаванняў Крамля) з Траецкай надбрамнай вежай. Кутаф’ю вежу з 1685 г. завяршыла «ажурная карона з белакаменнымі дэталямі» (Помнікі. стр. 312), што адпавядае апісанню Кюстына.

дадому, я сеў пісаць вам ліст – занятак, мала спрыяючы заспакаенню. Але я стаміўся і не магу адпачываць; каб спаць, патрэбны сілы.

**~ 37 ~**

Чаго толькі не ўбачыш ноччу пры асвятленні месяца, абыходзячы вакол Крамля. Усё тут таемна і цудоўна; так і здаецца, быццам блукаеш сярод прывідаў: хто мог бы наблізіцца без поўнага глыбокай павагі жаху да гэтага святога ўмацавальнага насыпу, камень із якога, вывернуты Банапартам, даляцеў да самай выспы Святой Алены, каб насьцігнуць дзёрзкага пераможцу сярод акіяна... Прашу прабачэння, я нарадзіўся ў эпоху пышных фраз.

Самая новая із новых літературных школ канчаткова выганяе іх із славеснасьці і спрашчае мову, бо народы, цалкам пазбаўленыя ўяўлення, больш за ўсё баяцца праяваў гэтай недаступнай для іх здольнасьці. Я магу захапляцца пурытанскім стылем[88] у вуснах высокаталенавітых людзей, здольных загладзіць яго аднастайнасць, але я не здольны яго пераняць.

Пасьля ўсяго, што я пабачыў сёння вечарам, мне патрэбна было б вярнуцца прама да родных пенатаў: большага ўзрушэння я ў гэтым падарожжы ўжо не адчую.

# Ліст дваццаць пяты

*Крэмль пры дзённым асвятленні. – Яго спрадвечныя гаспадары. – Характар яго архітэктуры. – Сімвалічны сэнс. – Памеры рускіх цэркваў. – Чалавечая гісторыя як сродак апісваць места. – Уплыў Яна IV. – Выказванне Пятра I. – Злачынная цярплівасьць. – Падданые Яна IV і цяперашнія рускія. – Ян IV у параўнані з усімі тыранамі, якія прадстаўлены ў гісторыі. – Крыніца, адкуль я запазычыў павядомленыя звесткі. – Брашура князя Вяземскага. – Чаму варта давяраць Карамзіну.*

**Масква, 8 жніўня 1839 года**[89].

Афтальмія, якую я набыў паміж Пецярбургам і Масквой, турбуе і мучыць мяне. Але, нягледзячы на боль, мне захацелася паўтарыць сёння ўчарашні вячэрні шпацыр, каб параўнаць Крэмль пры дзённым асвятленні з фантастычным начным Крамлём. Цемра павялічвае, зрушвае з месца рэчы, але сонца вяртае ім іхныя сапраўдныя формы і прапорцыі.

---

[88] Сярод сучасных Кюстыну французскіх пісьменнікаў самым перакананым прыхільнікам стылю лаканічнага, лагічнага, пазбаўленага «фраз» быў Стэндаль, браўшы за ўзор такі прынцыпова нелітаратурны тэкст, як кодэкс Напалеона. Яго раман «Пармскі прыстанак» (1839) стаў прадметам шырокага артыкула Бальзака (верасень 1840 г.), у якім «літаратура выяваў» (Гюго, Шатабрыян, Ламарцін) супрацьпастаўлена «літаратура ідэй», якая вызначаецца «ўмеранасьцю выяваў, сціснутасьцю, выразнасьцю, кароткай вальтэраўскай фразай» (Стэндаль, Мерымэ, Беранжэ і інш.). Магчыма, называючы «спрошчанай» школу «новай із найноўшых», Кюстын іранічна намякаў на гэту бальзакаўскую схему.

[89] Згодна са старым стылем 27 ліпеня.

Калі я зноў убачыў гэтае ўмацаванне цароў, яна зноў уразіла мяне. Святло месяца павялічвала і падкрэслівала адны каменныя грамады, але хавала ад мяне іншыя, і, заўважаючы сваю памылкі, прызнаючы, што мне ўявілася занадта шмат скляпенняў, занадта шмат крытых галерэй, занадта шмат падвясных дарог, порцікаў і падзямелляў, я ўсё ж убачыў іх дастаткова, каб апраўдаць мой энтузіязм.

У Крамлі ёсць усё: гэта пейзаж ў каменнях.

Сьцены яго мацнейшыя за скалы; на тэрыторыі яго столькі пабудоў і столькі славутасьцей, што гэта проста цуд. Гэты лабірынт палацаў, музеяў, вежаў, цэркваў, турмаў наводзіць жах, як архітэктурныя збудаванні на палотнах Марціна[90]; ўсё тут так жа грандыёзна і яшчэ больш заблытана, чым у творах ангельскага мастака. Таямнічыя гукі чуюцца із глыбіні крамлёўскіх падзямелляў; такое жыллё не для звычайных людзей. Перад унутраным позіркам паўстаюць самыя дзіўныя выявы, і чалавек дрыжыць пры думцы, што гэтыя выявы зусім не плён уяўлення. Галасы, якія там чуюцца, здаюцца замагільнымі; ў Крамлі пачынаешь верыць у цуды.

Запамятайце, маскоўскі Крэмль зусім не тое, чым звычайна лічыцца. Гэта не палац, гэта не нацыянальная святыня, дзе захоўваюцца старажытныя скарбы імперыі; гэта не рускае ўмацаванне, гэта не шанаваны народам прытулак, дзе спачываюць святыя, абаронцы радзімы; Крэмль і менш і больш гэтага; ён проста-напраста месцазнаходжанне прывідаў.

Сёння раніцай, зноў выправіўшыся шпацыраваць без праважатага, я дабраўся да самага асяродку Крамля і зайшоў ў некалькі цэркваў, якія з'яўляюцца ўпрыгожваннем гэтай цьвярдыні набожнасьці, так шануемай рускімі як за святыя рэліквіі, так і за свецкія каштоўнасьці і ваенныя трафеі, якія там захоўваюцца. Я зараз занадта ўсхваляваны, каб апісваць вам усё ў падрабязнасцях; пазней я агледжу скарбніцу ўважліва і паведаю вам пра ўсё, што там пабачу.

Здалёк Крэмль здаўся мне княжым гарадком, які стаіць на ўзгорку пасярод горада простага люду. Гэты замак тыранаў, гэтая ганарыстая каменная грамада паўстае над жыллём простага люду ва ўсю вышыню сваіх скалаў, сьцен і купалоў і, у адрозьненні ад таго, што здараецца з помнікамі звычайных памераў, чым бліжэй падыходзіш да гэтай цьвярдыні, тым большае захапленне яна выклікае. Падобна шкілетам гіганцкіх старажытных жывёлаў, Крэмль даводзіць нам, што свет, у рэальнасьці якога мы ўсё яшчэ працягваем сумнявацца, нават знаходзяы яго рэшткі, усё ж існуе. Гэтаму цудоўнаму стварэнню магутнасць замяняе прыгажосць, вычварнасць – вытанчанасць; гэта мара тырана, магутная, жахлівая, як думка чалавека, які ўладарыць над думкай народа; тут ёсць нешта неадпаведнае: я бачу абарончыя збудаванні на выпадак вайны, але зараз такіх

[90] Джон Марцін (1789-1854) — ангельскі мастак, які адлюстроўваў на сваіх палотнах фантастычныя нагрувашчванні будынкаў і статуй, які схіляўся да сюжэтаў грандыёзных і жахлівых — такіх, як «Падзенне Вавілона» (1819), «Баль Валтасара» (1821), «Разбурэнне Геркуланума» (1822), «Патоп» (1826).

войнаў ўжо не бывае; гэтая архітэктура не адпавядае патрэбам сучаснай цывілізацыі.

**~ 38 ~**

Наступства казачных часоў, калі ўсюды непадзельна ўладарыў падман: турма, палац, урачыстае месца; умацавальны насып для абароны ад іншаземцаў, умацаваны замак для абароны ад чэрні, апірышча тыранаў, турма народаў – вось што такое Крэмль!

Нешта падобнае на паўначны Акропаль, варварскі Пантэон, гэтая нацыянальная святыня заслугоўвае назву славянскага Алькасара[91].

Такое ўпадабанае месцазнаходжанне старых маскоўскіх улараоў, і ўсё ж гэтыя грозныя сьцены не маглі супакоіць Яна IV, і пачуццё жаха не пакідала яго. Баязнь чалавека ўсемагутнага – самае жахлівае, што ёсць на гэтым свеце, таму да Крамля немагчыма наблізіцца без уздрыгання.

Вежы ўсіх формаў: круглыя, квадратныя, спічастыя, вежы штурмавыя, назіральныя, вартаўнічыя вежы і вежачкі, нейкія старожкі на мінарэтах, званніцы разной вышыні, ўсіх колераў, відаў і гатункаў; палацы, саборы, назіральніцкія вышкі, зубчатыя сьцены з амбразурамі; звычайныя байніцы, галерэі з навяснымі байніцамі, насыпы, усемагчымыя ўмацаванні, нейкія мудрагелістыя збудаванні, незразумелыя выдумкі, альтанка пад сьценамі сабора; усе выкрывае бязладдзе і самавольства, усё выдае пастаянную трывогу дзіўных стварэнняў, якія выраклі сябе на жыццё ў гэтым фантастычным свеце, за сваю бяспеку. Але гэтыя незлічоныя помнікі ганарыстасьці, капрызаў, сласталюбства, славы, набожнасьці, нягледзячы на здаючуюся разнастайнасць, выдаюць адну-адзіную думку, якая падпарадкоўвае сабе ўсе: гэтая думка – вечны жах, нараджаючы ваяўнічасць. Крэмль бясспрэчна ёсьць тварэньне істоты звышчалавечай, але зласлівай. Праслаўленне рабства – такая алегорыя, увасобленая у гэтым сатанінскім помніку, такім жа незвычайным для дойлідства, наколькі ўяўленні апостола Іаана незвычайныя для паэзіі: гэта жыллё пад стаць дзеючым асобам Апакаліпсіса.

Хоць у кожнай вежачкі ёсць свой твар і сваё прызначэнне, усе яны адлюстроўваюць адну ідэю: жах, прымушаючы брацца за зброю.

Адны вежы падобныя на архіерэйскую мітру, іншыя на пастку дракона, трэцція на вынуты меч: эфес знізу, лязо зверху; іншыя нагадваюць формай і нават колерам экзатычныя плады; іншыя маюць выгляд царскай кароны з вострымі зубцамі, упрыгожанымі камянямі, як корона венецыянскага дожа; у іншых звычайныя вянцы, і ўсе гэтыя разнастайныя вежы накрыты глянцавай чарапіцай; ўсе гэтыя металічныя купалы, усе гэтыя стракатыя, пазалочаныя, лазурныя, серабрыстыя скляпенні зіхацяць на сонцы, як эмалі на этажэрцы, дакладней, як велічэзныя сталактыты ў саляных капальнях, якія сустракаюцца ў наваколлях Кракова. Гэтыя агромістыя слупы, гэтыя разнастайныя навершшы –

[91] Алькасар — назва ўмацаваных палацаў, якія будавалі маўры ў Гішпаніі, у прыватнасьці, у Таледа, Сяговіі, Сявіллі.

пірамідальныя, круглыя, востраканечныя, але заўсёды аддалена нагадваючыя чалавечы твар, – узвышаюцца над горадам і краінай.

Калі глядзіш іздалёку, як яны ззяюць у небе, здаецца, быццам тут сабраліся на нараду кіраўнікі дзержаваў у багатым адзенні і пры ўсіх регаліях: гэта сход старэйшын, царская рада, робячая паседжанне на скляпеннях; гэта прывіды, якія пільнуюць на вяршыні палаца.

Жыць у Крамлі – значыць не жыць, але абараняцца; прыгнёт вядзе да бунту, а раз магчымы бунт, трэба прыняць меры засцярогі; засцярогі, у сваю чаргу, павялічваюць небяспеку мяцяжа, і із гэтага доўгага ланцуга дзеянняў і супрацьдзеянняў нараджаецца пачвара, дэспатызм, які пабудаваў сабе ў Маскве цытадэль: Крэмль! Вось і ўсё. Калі б веліканы, якія жылі ў дапатопныя часы, вярнуліся на зямлю, каб паглядзець, як жыве кволае племя, якое прыйшло ім на замену, яны маглі б знайсьці тут прытулак.

У архітэктуры Крамля ўсё, вольна або міжвольна, мае сімвалічны сэнс: на самай жа справе, калі, пераадолеўшы першы прыступ баязні, вы ўступаеце ва ўлонне гэтага дзікунскага хараства, перад вашым позіркам паўстае не што іншае, як хеўра турмаў, пышна названых палацамі і саборамі. Дарэчы, рускія дарэмна стараюцца: як ні ўхітрайся, а турма ўсё адно турма.

Нават клімат ў іхнай краіне – памагаты тыраніі. Холад не дазваляе будаваць тут прасторных цэркваў, у іх людзі проста закачанелі б пад час малітвы; тут дух не паднімаецца да неба з дапамогай выдатных сабораў; ў гэтай паласе чалавек можа прысвячаць Богу толькі змрочныя вежы. Цёмныя нізкія скляпенні і тоўстыя сьцены робяць крамлёўскія саборы падобнымі на падзямеллі, гэта размаляваныя турмы, а палацы па-сутнасці пазалочаныя засьценкі.

Пра цуды гэтай палохаючай архітэктуры можна сказаць тое ж, што кажуць вандроўцы, апынуўшыяся ў Альпах: гэтая прыгажосць выклікае жах.



# Працяг ліста дваццаць пятага

**Вечар таго ж дня**

Мне ўсё мацней і мацней паліць у воку, я нядаўна паслаў за доктарам, і ён загадаў мне тры дні не выходзіць із дому і наклаў павязку. На шчасьце, другое вока бачыць нармальна, і я магу пісаць.

Я збіраюся за гэтыя тры дні вымушанага адпачынку скончыць працу, якую пачаў у Пецярбургу і закінуў праз нягоды майго жыцця ў гэтым горадзе. Гэта кракае апавяданне аб цараванні Яна IV, тырана із тыранаў і душы Крамля. Не ён пабудаваў гэтае ўмацаванне, але ён тут нарадзіўся, тут памёр, сюды ён вяртаецца, тут вітае яго дух.

План Крамля быў задуманы і выкананы яго продкам Янам III і яго адзінадумцамі, і я хачу распавясьці пра гэтыя велічэзныя постаці; у іх, як у люстэрку, адлюстраваўся Крэмль, які я не маю здольнасьцей апісаць славамі, бо тут мае словы не адпавядаюць рэчаіснасьці. Дарэчы, гэтая алегарычная манера, па-мойму, не толькі новая, але і правільная; дагэтуль я рабіў усё, што ад мяне

залежыць, каб апісаць вам месца само па сабе, зараз я хачу паказаць вам яго з іншага боку, гэта значыць праз гісторыю людзей, якія ў ім жылі.

Калі па ўбранству хаты мы можам меркаваць аб нораве асобы, якая ў ім жыве, ці нельга такім жа чынам, зыходзячы із характара людзей, уявіць сабе выгляд будынкаў, якія былі для іх пабудаваны? Нашы захапленні, нашы звычкі, наш дух вельмі моцна і незнішчальна адлюстроўваецц на ўсім аж да камянёў нашага жытла.

Бязспрэчна, калі існуе помнік, да якога можа быць дапасаваны гэты спосаб апісання, то гэта Крэмль... У ім відавочныя Яўропа і Азія і аб'ядноўваючы іх дух візантыйскіх грэкаў.

Бяручы ўсё да ведама і разглядаючы гэтае ўмацаванне як у чыста гістарычным дачыненні, так і із паэтычнага, мастацкага боку, можна сказаць, што гэта самы нацыянальны і, як следства, самы цікавы для рускіх і для іншаземцаў помнік ў Расіі.

Як я вам ўжо казаў, Ян IV зусім не ўзводзіў Крэмль: гэтая сьвятыня дэспатызму была перабудавана із каменя пры Яне III, у 1485 годзе, італьянскімі дойлідамі Марко і П'етра Антонія[92], выпісаннымі ў Маскву вялікім князем, які меў жаданне перабудаваць драўляныя сьцены ўмацавання, заснаванага пры Зьміцеру Данскім.

Але калі гэты палац і не тварэнне Яна IV, то ён ўвасабленне яго думкі. Бо дзякуючы прароцкаму дару вялікі цар Ян III пабудаваў палац для свайго ўнука – тырана. Італьянскія дойліды працавалі паўсюль: нідзе яны не стварылі нічога падобнага таму, што пабудавалі ў Маскве. Дадам, што і ў іншых краінах былі правіцелі, якія мелі неабмежаваную ўладу, і ў іншых краінах на пасад ўзыходзілі несправядлівыя, уладныя самадуры, аднак цараванне ні адной із гэтых пачвараў не падобна на цараванне Яна IV: адно і тое ж насеньне, прарасшае ў розных шыротах і на рознай глебе, дае вынік падобнага віду, але рознай велічыні і выгляду. На зямлі няма і не будзе ні шэдэўра дэспатызму, раўнага Крамлю, ні народа такага забабоннага і цярплівага, якім быў народ Масковіі ў легендарны часаравання свайго тырана.

Наступствы гэтага адчуваюцца да гэтага часу. Калі б вы вандравалі разам са мной, вы, гэтак жа як і я, заўважылі б непазбежныя спусташэнні, якія вырабіла ў душы рускага народа абсалютнае самаўладдзе; перш за ўсё: гэта дзікае грэбаванне святасьцю дадзенага слова, праўдзівасьцю пачуццяў, справядлівасьцю ўчынкаў; затым гэта трыумфуючая ва ўсіх справах і пагадненнях хлусня, гэта ўсе віды нялюдзкасьці, нядобрасумленнасьці і падману, адным словам, прытупленне маральнага пачуцця.

Мне здаецца, я на свае вочы бачу, як із усіх варот Крамля выходзяць заганы і запаланяюць Расію.

---

[92] Дойліды працаваўшыя ў Крамлі, — Марко Фразін і П'етра Антоніа Салары; будаванне крамлёўскіх сьцен, пачатае ў 1485 г., працягвалася каля дзесяці гадоў. Імёны дойлідаў Кюстын запазычаў у Лекуэнта дэ Лаво, у якога, аднак, другі архітэктар мае імя П'етра-Антоніа, так што другая частка імя не мае выгляду прозвішча (гл.: Laveau. т. 1. p. 81-82).

Пятро I казаў: каб падмануць аднаго рускага, патрэбныя тры жыды[93]; нам няма патрэбы саромецца выразаў, як імператару, таму мы разумеем яго словы так: адзін рускі перахітрыць трох жыдоў.

Іншыя народы цярпелі прыгнёт, рускі народ яго ўшанаваў; ён паважае яго па гэты дзень. Ці не характэрная гэтая фантастычная пакорлівасць? Дарэчы, нельга не прызнаць, што часам гэтая ўсеагульная манія пакоры становіцца асновай для ўзнёслых учынкаў. У гэтай безчалавечнай краіне грамадства сапсавала чалавека, але не ўразуміла яго: дзіўнае перараджэнне душэўных здольнасцей! Чалавек тут часам паднімае нізкасць да гераізму; ён пазбаўлены дабрыні, але пазбаўлены і дробязнасьці: тое ж можна сказаць і пра Крэмль. Ён не радуе позірк, але выклікае жах. Ён не выдатны, ён жахлівы, жахлівы, як цараванне Яна IV.

Такое цараванне навекі робіць душу народа, пакорліва пераржыўшую яго, сляпой; нават апошнія нашчадкі гэтых людзей, заклейменых імем катаў, будуць насіць на сабе адбітак злачынстваў сваіх бацькоў: злачынства супраць челавецтва дае сябе знаць аж да самых далёкіх нашчадкаў. Гэтае злачынства заключаецца не толькі ў тым, каб тварыць несправядлівасць, але і ў тым, каб яе трываць; народ, які, абвяшчае пакору найпершай дабрачыннасьцю, завяшчае нашчадкам тыранію, не прымае да ўвагі ўласныя інтарэсы; больш за тое, ён не выконвае свайго абавязку.



Сляпая пакорлівасць падданых, іхная цярплівасць, іхная вернасць вар'ятам гаспадарам – не годнасць, а недахоп: падпарадкаванне ўхвальна, неабмежаваная ўлада заслугоўвае павагі толькі настолькі, наколькі яна становіцца сродкам, абараняючым правы чалавека. Калі цар не прызнае іх, калі ён забываецца, на якіх умовах чалавеку дазволена ўладарыць над сабе падобнымі, грамадзяне падпарадкоўваюцца толькі Богу, свайму вечнаму гаспадару, які вызваляе іх ад клятвы вернасьці гаспадару свецкаму.

Вось чаго рускія ніколі не дапускалі і не разумелі; аднак гэтыя ўмовы неабходныя для развіцця сапраўднай цывілізацыі; без іх наступіў бы час, калі жыццё ў грамадстве стала б для человецтва не карысным, а шкодным, і сафісты без намаганняў вярнулі б чалавека ў лясную чашчобу.

Хаця такія перакананні – не больш чым дадатак да жыцця Святога Пісання, яны, пры ўсёй іхнай умеранасьці ўспрымаюцца ў Пецярбургу як бунтарскія. Ітак, цяперашнія рускія – годныя нашчадкі падданых Яна IV. Гэта адна із падстаў вымушаючых мяне коратка выкласьці вам гісторыю яго царавання.

У Францыі я не памятаў пра гэтыя падзеі, але ў Расіі даводзіцца ўспомніць жахлівыя падрабязнасьці. Я прысвячу гэтаму наступны ліст; не бойцеся, ён не будзе сумным: ніколі яшчэ апавяданне не было такім захапляючым або, ва ўсякім разе, цікавым.

Гэты вар'ят, калі можна так сказаць, перайшоў межы, у якіх тварэнне Божае атрымала ад Бога пад імем свабоднай волі дазвол тварыць зло: ніколі

[93] Гл. заўвагу. да т. I, стр. 432.

чалавек не прасьціраў сваю далонь так далёка. Ян IV быў крыважэрнейшым і люцейшым за ўсіх Тыберыяў, Нягонаў, Каракалл, Людовікаў XI, Пэдраў Жорсткіх, Рычардаў III, Генрыхаў VIII, нарэшце, ўсіх старажытных і сучасных тыранаў із іх самымі непадкупнымі суддзямі на чале з Тацытам.

Таму, перш чым выкладаць падрабязнасьці неверагодных бязчынстваў, я павінен давесьці вам, што мае звесткі дакладныя. Я нічога не буду цытаваць па памяці: выпраўляючыся ў шлях, я нагрузіў карэту неабходнымі кнігамі, і галоўнай крыніцай, адкуль я запазычыў звесткі, – гэта Карамзін, аўтар, якога рускія не могуць абвінаваціць у абняслаўліванні, бо яму ставяць ў папрок, што ён не згусьціў, але, насупраць, змякчыў фарбы, турбуючыся пра славу свайго народа. Надзвычайная абачлівасць, даходячая да зацікаўленасьці, – такая загана гэтага аўтара; расійскі патрыятызм нязменна грашыць паблажлівасьцю. Кожны рускі пісьменнік – царадворац, такім быў і Карамзін: я знаходжу доказы гэтага ў маленькай брашуры, выдадзенай іншым царадворцам, князем Вяземскім[94]: гэта апавяданне пра пажар у Зімовым палацы ў Пецярбургу, апавяданне, напісанае выключна ў гонар гасудара, які, на шчасьце, на гэты раз заслугоўвае раздаваемых яму ўхвалаў[95]. Там ёсць наступныя словы:

“Хіба знойдзецца ў Расіі хаця б адно знатнае сямейства, у якога няма якога-небудзь слаўнага ўспаміну, злучанага з гэтымі сьценамі[96]? Нашы бацькі, нашы дзяды, усё нашы дзяржаўныя, грамадзкія, вайсковыя знакамітасьці

---

[94] Брашура П. А. Вяземскага (на фр. мове) «Пажар Зімовага палаца» была выдадзена ў Парыжы 12 лютага 1838 г. (гл.: РАІЛІ, ф. 309. № 318. л. 21 об.); у рускім перакладзе — у «Маскоўскіх ведамасьцях» 20 красавіка 1838 г. Згарэлы палац апісаны ў ім як «цьвярдыня манархіі», з якой «выходзілі мудрыя навіны, дабрадзейныя рэформы <…> цывілізатарскія пачынанні», месца яднання імператара і народа, а тушэнне пажару — як «сведчанне даверу і павагі, якімі абменьваліся гасудар і народ». Манархічная накіраванасць брашуры спрыяла яе поспеху ў парыжскім легітымісцкім друку; 18 лютага тэкст Вяземскага быў цалкам передрукаваны ў «Gazette de France» (заўважым, што праз дзень у той жа газеце быў надрукаваны ўрывак із «Гішпаніі пры Фердынандзе VII» самага Кюстына), а 25 лютага ўрыўкамі — у «Quotidienne» (пасярэднікам у абодвух выпадках паслужыў Я. Таўсты, якому належыць надзвычай хвалебная прадмова да публікацыі, надрукаваная ў другой із гэтых газет, — гл.: ГАРФ. Ф. 109. СА. Оп. 4. № 188. Л. 81 об.; арыгінал, па фр.). Легітымісты пабачылі ў брашуры «выдатнае сведчанне спачування рускай нацыі, якая на развалінах царскага палаца выказвае павагу да імператарскага сямейства, зведаўшага вялікае няшчасьце», «манархічнае і нацыянальнае натхненне», якія сведчаць пра жыватворнасць расійскай формы кіравання (Gazette de France). Брашура Вяземскага, чые пагляды на прыканцы 1830-х гг. пачалі эвалюцыяніраваць ад ліберальных да кансерватыўных, «моцна пашкодзіла яму ў вачах людзей разважаючых і яго сапраўдных сяброў, што ж да царадворцаў і нізкапаклоннікаў усіх гатункаў, яны былі вельмі задаволены, бачачы, што ліберал стаў лісліўцам і нават горш таго» (РАІЛІ. Ф. 309. № 706. л. 3; арыгінал, па фр.; словы П. Б. Казлоўскага, прыведзеныя А. Я. Тургеневым у лісьце да М. Я. Тургенева ад 6 чэрвеня 1839 г). Верагодна, асабістая крыўда Вяземскага на французскага пісьменніка, абвінаваціўшага яго ў нізкапаклонстве, спрыяла перамене стаўлення Вяземскага да «Расіі ў 1839 годзе»; калі, ведаючы пра змест кнігу толькі па чутках, ён крытыкаваў залішнюю далікатнасць рускіх у дачыненні да замежных водгукаў («Мы ўсе патрабуем, каб вандраўнікі былі на каленях перад намі і ўсяму дзівіліся з захапленнем і глыбокай павагай» — НЛА. стр. 117), то ў яго меркаваннях, выказаных пасьля чытання кнігі, можна заўважыць асабістую крыўду і жаданне адпомсціць; «…шчоўкаю дурня па носе штораз, калі ён неасцярожна нос свой высуне», — пісаў Вяземскі ў сваім аспрэчванні на Кюстына (НЛА. стр. 125; пар. заўвагу. да т. I, стр. 19, 73, 79, 144, 429).

[95] Маецца на ўвазе дзейны ўдзел Мікалая I у тушэнні пажару, у захапляльных танах апісаных у брашуры Вяземскага.

[96] [заўвага аўтара] Зімовы палац у Пецярбургу згарэў 29 снежня 1837 года.

атрымалі тут із рук гасудара ад імя айчыны высокія ўзнагароды за свае высілкі, заслугі, доблесць. Менавіта тут гучала нацыянальная ліра ў руках Ламаносава і Дзяржавіна, тут Карамзін чытаў *старонкі* сваёй “*Гісторыі*” перад аўгусьцейшай аудыторыяй[97]. Гэты палац быў паладыем нашай славы; то быў Крэмль нашай сучаснай гісторыі” (князь Вяземскі. Пажар Зімовага палаца ў Санкт-Пецярбургу. Парыж, у Ж. Г. Дантю, у Пале-Руаяле, с. 11).

Можна і нават трэба верыць Карамзіну, калі ён апавядае пра жахлівыя падрабязнасьці жыцця Яна IV[98]. Запэўніваю вас, што ўсе падзеі, якія вы прачытаеце ў маім кароткім аглядзе, падрабязна павядомлены гэтым гісторыкам ў яго кнізе “Гісторыя дзяржавы Расійскай”, перакладзенай Жаффрэ і закончанай спадаром Дзівольфам[99], сапраўдным стацкім дарадцай і камергерам расійскага імператара; адзінаццаць тамоў in-8. Парыж, у галерэі Бассанжа-бацькі, вуліца Рышэльe, д 60. 1826.

# Ліст дваццаць шосты

*Біяграфія Яна IV. – Цытата із брашуры с-ра Таўстога. – Пачатак царавання Яна IV. – Уздзеянне яго дэспатычнай улады на рускіх. – Адна із падстаў жорсткасьці Яна. – Аблога Казані. – Узяцце Астрахані. – Што цар зрабіў са сваімі старымі сябрамі. – Успаміны яго дзяцінства. – Змены ў яго духоўным і фізічным аблічы. – Яго адружанне. – Хлусня і тыранія неразлучныя. – Вытанчаная жорсткасць цара. – Катаваньні, якія здзяйсняліся згодна яго загадаў і ў яго прысутнасьці. – Лёс Ноўгарада. – Як далёка заходзіла помслівасць цара. – Жывы гадзіннік. – Крывавая іронія. – Адрачэнне. – Як зрабілі ў гэтым выпадку рускія. – Таямнічая падстава рускага рабалепства. – Ян вяртаецца на пасад. – На якіх умовах. – Аляксандраўская слабада. – Апрычніна, або выбраннікі. – Выява Яна IV, намаляваная Карамзіным. – Розныя ўрыўкі із твораў гэтага аўтара. – Наступствы апрычніны. – Баязлівасць Яна IV. – Яго паводзіны падчас пажару Масквы. – Як ён абыйшоўся з Лівоніяй. – Заваяванне Сібіры. – Прыязнае стаўленне Яна да Елізаветы Ангельскай. – Ліст Елізаветы Яну. – План адружання Яна з МарыяйГасьцінгс, сваячкай ангельскай каралевы. – Ян і яго сутрапезнікі змяняюць сукенку. – Падставы нізкапаклонства Янавых падданых. – Рэлігійная пакора. – Руская царква ў ланцугах. – Якая тая адзіная царква, што застаецца вольнай. – Рускі святар. – Доля, чакаючая ўсякую*

---

***[97] Карамзін, без сумнення, не спрабаваў перабольшваць тое, што магло выклікаць незадавальненне такіх суддзяў.***

[98] Шод-Эг (ці яго дарадца Я. М. Таўсты) пабачыў у гэтай спасылцы на брашуру Вяземскага прыкрытае ўказанне на падабенства Мікалая I і Яна Жахлівага: «нібы асьцерагаючыся, што натоўп сам не здолее правесьці паралель паміж Янам IV і Мікалаем, маркіз спяшаецца выклікаць гэтую думку з дапамогай брашуры князя Вяземскага пра пажар Зімовага палаца. Такім чынам, вайна абвешчана…» (Chaudes-Aigues. p. 336). Такое выкарыстанне яго брашуры для ўскоснага абвінавачання Мікалая I у дэспатызме тым больш не магло спадабацца Вяземскаму.

[99] Памылка Кюстына; пачынаючы з дзясятага тома пераклад «Гісторыі дзяржавы Расійскай» рабіў рускі дыпламат Павел Гаўрылавіч Дзіваў (1765-1841) у супрацоўніцтве з самім Карамзіным.

*схізматычную царкву. – Каталіцкі святар. – Працяг цытавання із Карамзіна. – Безсярдэчны ўчынак вялікага князя Канстанціна. – Падабенства сучасных рускіх з іхнымі папярэднікамі. – Яшчэ адзін урывак із Карамзіна: пасланнік рускага самаўладцы і ахвяра, асуджаная на пакаранне. – Ліставанне цара з Гразновым. – Ян вяртае Лівонію Баторыю. – Наступствы гэтай здрады. – Сьмерць царэвіча, сына Яна. – Трагедыя. – Бог прызывае юнака. – Веліч чалавечай душы. – Сьмерць Яна IV. – Яго апошняе злачынства. – Дадатак. – Крэмль. – Новыя ўрыўкі із Карамзіна. – Чым можна апраўдаць дэспатызм. – Што патрэбна было б рускім думаць і казаць пра Карамзіна. – Што азначае патрэба ў справядлівасьці, якая жыве ў чалавечым сэрцы. – Хрысьціянская духоўнасць. – Памяць рускага народа аб Яне IV. – Выява Яна III, намаляваная Карамзіным. – Падабенства Пятра Вялікага і Янаў. – Фрагменты із кнігі спадара дэ Сегюра. – Што зрабіў са сваім сынам цар Пятро I. – Пакаранне Глебава. – Сьмерць царэвіча Аляксея.*

**~ 41 ~**

**Масква, 11 жніўня 1839 года**[100].

Калі вам не даводзілася вывучаць гісторыю Расіі, вы палічыце ліст, які вам патрэбна будзе прачытаць, жахлівай выдумкай; між тым я ўсяго толькі выклаў сапраўдныя факты.

Дарэчы, калі прыглядваешся да доўгага царавання Яна IV, перш за ўсё звяртаеш увагу не на ўсе яго зладзействы, якія засведчаны гісторыяй, але больш за ўсё нагадваючыя казкі. Не, прадмет, ставячы ў тупік філасофа, вечная крыніца здзіўлення і небяспечных роздумаў, – дзеянне, якое вырабіла гэтая не маючая прыкладаў тыранія на знішчаемы народ; ахвяры не толькі не паўставалі супраць дэспатычнай улады, але, насупраць, прасякнуліся да яе бязмежнай павагай. Гэта цудоўная акалічнасць пралівае, як мне здаецца, новае святло на таямніцы чалавечага сэрца.

Ян IV заняў пасад яшчэ дзіцём, у 1533; каранаваны ён быў сямнаццаці гадоў ад нараджэння, 16 студзеня 1546 года[101], а памёр у Крамлі, у сваім ложку, 18 студзеня 1584 году, у шасьцідзесяці чатырох гадовым узросьце[102]; ён кіраваў сваёй дзяржавай пяцьдзесят адзін год і пасьля скanaння быў аплакваемы ўсімі падданымі без выключэння, у тым ліку і дзецьмі забітых ім ахвяр. Дарэчы, летапісы нічога не паведамляюць пра тое, як прынялі сьмерць Яна маскоўскія маці: сумнеўна, каб яны не падзялялі ўсеагульнага смутку.

Пры дрэнным кіраванні жанчыны распускаюцца не так хутка, як мужчыны, якія выконваюць загады ўладаў і таму ў большай ступені схільныя да ўздзеяння грамадзкіх забабонаў сваёй эпохі і дзяржавы. Як бы там ні было, варта прызнаць, што жахлівае цараванне Яна так моцна заваражыла рускіх, што яны навучыліся знаходзіць прадмет для захаплення нават у безсаромнасьці сваіх кіраўнікоў;

---

[100] Згодна са старым стылем 30 ліпеня.

[101] Памылка Кюстына; Ян IV вянчаўся на царства 16 студзеня 1547 г. (гл. Карамзін. т. 8. Гл. 3); Кюстын, аднак, настойваў на 1546 г.; Пар. у гэтым, томе, стр. 113: «у 1565 годзе, на дзевятнаццатым годзе яго валадарання». Кюстын памыляецца і ў даце сьмерці цара: ён памёр не 18 студзеня, а 18 сакавіка 1584 г.

[102] Так як Ян IV нарадзіўся ў 1530 г., то ў 1584 г. яму было не 64, а 54 гады.

палітычная пакорлівасць зрабілася для рускіх культам, рэлігіяй[103]. Наколькі мне вядома, няма іншай краіны, дзе б ахвяры абагаўлялі сваіх катаў!.. Хіба рымляне падалі да ног Тыберыя ці Нярона, малячы іх не адракацца ад абсалютнай улады і па-ранейшаму паліць і рабаваць Рым, праліваць кроў яго жыхароў і разбэшчваць іхных дзяцей? А маскавіты ў самы разгар дэспатычнага царавання Яна IV зрабілі, як вы хутка пераканаецеся, менавіта так.

Тыран пажадаў пакінуць пасад[104], але рускія, спадзяюся перахітрыць свайго ўладара, упрасілі яго не адмаўляцца ад царскай кароны і цалкам аддалі сябе пад яго ўладу. Апраўданы і абнадзеены сваім народам, Ян зноў пачаў лютаваць. Для яго цараваць азначала забіваць; ён зьнішчаў людзей праз баязнь і праз пачуццё абавязку, прычым гэтую незамыславатую хартыю замацавала згода ўсёй Расіі і журбота ўсёй нацыі, якая аплаквала сьмерць тырана!.. Наважыўшыся, падобна Нерону, скінуць цяжар славы і дабрачыннасьці, каб кіраваць выключна з дапамогай баязні, Ян не абмяжоўваецца лютаваннем, якога не ведала чалавецтва ні да ні пасьля яго, ён асыпае няшчасныя ахвяры абразамі; жадаючы чужых пакут, ён не грэбуе нічым, аж да насмешак; ў яго розуме, не ведаючым жалю і сатырычным, жудаснае ўжываецца з бліскучым. Яму мала раздзіраць цела: здзеклівымі выказваннямі ён разрывае сэрца; ахоплены жахам і ганарыстасьцю, ён накіроўвае сабе падобных на пякельныя пакуты, прычым жорсткасць яго слоў пераўзыходзіць ў вытанчанасьці нават нялюдзкасць яго дзеянняў.



Сказаннае не азначае, што і для цела ён не знайшоў такіх пакутлівых і працяглых пакаранняў, якіх не ведаў ніхто да яго: яго кіраванне было царствам катаванняў.

---

[103] [заўвага аўтара] С-р Таўсты, на якога я ўжо спасылаўся, выкладае палітычную дактрыну сваіх суайчыннікаў наступным чынам: "І хай мне не кажуць, што чалавек, кіруючы аднаасобна, можа не выяўляць належнай цьвёрдасьці, што яго памылкі могуць прывесьці да сур'ёзных катастроф, асабліва калі ён не нясе ніякай адказнасьці за свае дзеянні... Ці магчыма дапусціць адсутнасць патрыятытных пачуццяў у чалавека, якому Усявышні даверыў уладу над яму падобнымі? Такі гасудар выявіўся б жахлівым выключэннем із правілаў. Што ж да адказнасьці (яе не існуе ў краінах, дзе нават самыя жахлівыя злоўжыванні тыраніі атрымліваюць ўсеагульнае благаславенне), то хіба не павінен гасудар баяцца праклёнаў народа і разца гісторыі, навечна пакідаючага на яе скрыжалях зладзействы гэтага свету? Што б зрабілася сёння з Расіяй, калі б Пятро Вялікі не кіраваў ею самаўладна? Што б зрабілася з рускімі, калі б іхныя дэпутаты штогадова збіраліся, каб шэсць месяцаў запар абмяркоўвацьлі захады, у якіх іхная пераважаючая колькасць нічога не разумее? Бо навука кіравання не належыць да ліку прыраджоных ведаў; што б сталася з усімі намі, не кіруй Расіяй манарх, чыя мудрая і энэргічная, нічым не скаваная думка дбае не пра што іншае, як пра шчасьце Расіі?" ("Погляд на расійскае заканадаўства», с. 143, 144). Сказаннага, я думаю, дастаткова, каб даказаць, што палітычныя ідэі самых асвечаных із нашых рускіх сучаснікаў не вельмі адрозніваюцца ад тых поглядаў, якія шанавалі падданыя Яна IV, і што ў сваім манархічным ідалапаклонстве яны не адрозніваюць бязмежны дэспатызм ад манархіі, абмежаванай канстытуцыяй.

[104] Маецца на ўвазе раптоўны ад'езд цара на прыканцы 1564 г. у Аляксандраўскую слабаду; цар абвясьціў, што, стаміўся ад баярскіх беззаконняў і непаслушэнства, пакідае дзяржаву, пасля чаго да яго неадкладна выправіліся абраныя амбасадары, «каб стукнуць чалом Гасудару і палакацца» (Карамзін. т. 9. гл. 2).

Уяўленне адмаўляецца паверыць, што падобны маральны і палітычны феномен мог быць такім даўгавечным. Дарэчы, я толькі што сказаў і паўтараю яшчэ раз: падобна сыну Агрыпіны[105], Ян пачаў са здзяйсненняў прыстойных і із такіх здзяйсненняў, якія, магчыма, нават хутчэй, чым дабрачыннасць, былі здольныя знайсьці герою павагу нацыі славалюбівай і марнай, – а менавіта із заваёваў. У гэтую пару свайго жыцця, стрымаўшы крыважэрнасць і грубасць, уласцівыя яму із дзяцінства, ён даверыўся парадам мудрых і суровых сяброў.

Дзякуючы намаганням набожных дарадцаў і абачлівых настаўнікаў пачатак Янава царавання зрабіўся адной із самых бліскучых і шчаслівых эпох маскоўскай гісторыі; але гэтая эпоха працягнулася не доўга, а адбыўшаяся з царом перамена выявілася імклівай, жахлівай і ўсёабдымнай.

У 1552 годзе, пасьля доўгай аблогі, Казань, гэты грозны фарпост азіяцкага мусульманства, скарыўся пад ударамі маладога цара; моц гэтага гасудара ўразіла супрацьстаяўшых яму варвараў. Ён імкнуўся да сваіх вайсковых задумаў з упартасьцю героя і празарлівасьцю мудрага чалавека, перамагаючы шматвопытных вайсковых правадыроў і здабываючы, ў рэшце рэшт, іхнае захапленне.

На пачатку сваёй вайсковай карьеры Ян дзейнічаў з одвагай, выключаючай ўсякую думку пра асьцярожнасць; але прайшло няшмат часу, і ён стаў такім жа палахлівым і рабалепным, якім адважным быў у юнацтве: яго баязлівасць павялічвалася адначасова з жорсткасьцю, бо ў яго, як амаль ва ўсіх зладзеяў, нялюдзкасць выявілася следствам баязьні. Да канца сваіх дзён ён не мог забыцца пра тое, што зведаў у маладосьці, – пра дэспатызм баяраў. Іхныя сваркі пагражалі яго жыццю ў той час, калі ён быў занадта слабы, каб абараніць сябе; здаецца, быццам ў сталым ўзросьце ім завалодала адзінае жаданне – адпомсціць за падлеткавую бездапаможнасць.

Але жахлівае жыццё гэтага чалавека ўтрымлівае ўрок, поўны глыбокага маральнага сэнсу: губляючы дабрачыннасць, ён губляў і адвагу.

Няўжо, укладваючы сэрца ў грудзі чалавека, Творца сказаў яму: “Ты застанешся смелым толькі да таго часу, пакуль будзеш міласэрдным!»?

Будзь гэта ісьцінай і не аспрэчвай гэтага суцяшальнага правіла залішне шматлікія і залішне вядомыя прыклады, вера ў Бога здавалася б справай вельмі лёгкай: мы атрымалі б падставы думаць, што Гасподзь бярэ ўдзел ў справах кожнага са сваіх стварэнняў гэтак жа рашуча, як браў ён, у чым мы маем магчымасць пераканацца, на прыкладзе жыцця такага чалавека, як Ян IV. Гэты манарх, чыя гісторыя і характар адзіныя ў сваім родзе, быў смелы, як леў, да таго часу, пакуль захоўваў вялікадушнасць; варта было яму страціць спачуванне да людзей, як ён зрабіўся баязлівым, нібы раб. Хоць у анналах рода чалавечага такі вынік – рэдкае выключэнне, ён здаецца мне каштоўным і суцяшальным, і я задаволены, што магу атрымаць такую мараль із такой жахлівай гісторыі.

---

[105] Маецца на ўвазе Нярон (37-68), рымскі імператар з 54 г., сын Агрыпіны Малодшай (16-59), падобны з Янам IV не столькі заваёвамі, колькі злачынствамі.

Дзякуючы ўпартасьці юнага героя, спачатку асуджанай усімі яго дарадцамі, лёс Казані напаткаў яшчэ адзін горад – Астрахань[106] . Вызваленная ад суседства са сваімі ранейшымі ўладарамі, татарамі, Расія узрадавалася; аднак рускі народ, народжаны для падпарадкавання, пазбавіўся ад аднаго іга толькі для таго, каб скарыцца іншаму, і, у нясмелай гардыні вольнаадпушчаніка, узвёў свайго юнага цара ў сан бажаства. У тую пару Ян быў такім жа прыгожым, як і мужным: рускія абагаўлялі яго.

Але раптоўна стомлены цар вырашае адпачыць і ў росквіце славы пакідае зброю; засумаваўшы ад благаслаўленных цнотаў, зьнямогшыся пад цяжарам лаўровых вянкоў і пальмавых галін, ён назаўжды адракаецца ад святых учынкаў. Ён выбірае іншую долю: нікому не давяраць і, замест таго каб прыслухоўвацца да мудрых парадаў сваіх сяброў, карае іх за той жах, які яны яму ўнушаюць. Аднак вар'яцтва пасяляецца толькі ў яго сэрцы: розум застаецца здаровым.

**~ 43 ~**

Якія б дзівацкія ўчынкі ён ні здзяйсняў, яго прамовы характэрызуюцца разважлівасьцю, а лісты – лагічнасьцю; іх з'едлівы тон выяўляе вераломства яго душы, але робіць гонар праніклівасьці і яснасьці розуму.

Першымі гінуць ад рукі Яна яго шматгадовыя дарадцы; ён бачыць у іх настаўнікаў, а як следства – здраднікаў. Ён прыгаворвае да высылкі, ці да сьмерці гэтых злачынцаў, якія зрабілі замах на самавольную ўладу, гэтых міністраў, якія мелі нахабства доўгі час лічыць сябе больш мудрымі за цара, – і ўся нацыя згаджаецца з прысудам. Парадам гэтых непадкупных людзей ён абавязаны сваёй славай, але пачуццё ўдзячнасьці яму невядома; каб яго не папракнулі ў няўдзячнасьці, ён забівае сваіх выратавальнікаў... Тады ў яго грудзях разгараецца дзікая лютасць; дзіцячыя жахі абуджаюць жорсткасць ў дарослага мужа; памяць пра сваркі і свавольствы старэйшых, аспрэчваўшых адзін у аднаго гонар ахоўваць яго калыску, ні на хвіліну не пакідае душы Яна, прымушаючы яго бачыць паўсюль здраднікаў і змоўшчыкаў.

Пакланенне самаму сабе з усімі выцякаючымі із гэтага наступствамі – вось на чым, са згоды ўсёй Расіі, грунтавалася дзяржаўная палітыка цара і яго правасудзе. Нягледзячы на свае злачынствы, Ян IV быў улюбёнцам нацыі; паўсюль, акрамя Масковіі, на яго глядзелі б як на пачвару, створаную пеклам.

Стаміўшыся хлусіць, у сваім цынізме ён даходзіць да таго, што вызваліў сябе ад неабходнасьці прыкідвацца, гэтай апошняй засьцярогі звычайных тыранаў. Ён не хавае сваёй крыважэрнасьціі, каб больш не чырванець пры выглядзе чужой дабрачыннасьці, выракае апошніх непадкупных сябраў на разарванне новапрызначанымі фаварытамі, якія не пакутавалі ад залішняй педантычнасьці.

Цар і ягоныя паплечнікі пачынаюць спаборнічаць ў злачынствах, пра якія немагчыма чуць без уздрыгання, прычым – бо Гасподзь яшчэ раз праяўляе сябе ў гэтай амаль звышнатуральнай гісторыі – толькі толькі настае новая эпоха ў

---

[106] Гэта адбылося ў 1556 г. (Карамзін. т. 8. гл. 5).

душэўным быцці Яна, змяняецца і яго знешнасць: калі ў раннім юнацтве ён быў прыгожым, то, стаўшы злачынцам, неадкладна страчвае ранейшую прыгажосць.

Ён губляе жонку[107] – верх дасканаласьці – і адружваеццца з іншай, такой жа крыважэрнай, як і ён сам[108]; яна таксама памірае. Да жаху Грэцкай царквы, якая не дазваляе адружвацца больш за два разы, ён адружваецца ў трэцці раз, а затым ў чацьвёрты, пяты, шосты і сёмы!!! Дакладная колькасць яго адружанняў пакрыта змрокам. Ён праганяе сваіх жонак, забівае іх, забываецца пра іхнае існаванне; ні адна жанчына не можа доўга супраціўляцца ні яго ласкам, ні яго гневу, а ён, нягледзячы на падкрэсліваемую абыякавасць да прадмета свайго даўнішняга захаплення, помсціць за іхную сьмерць із дробязнай лютасьці, так што сыход із жыцця царскай жонкі нязменна пасяляе жах ў душы ўсіх яго падданых. Між тым часцей за ўсё ў сьмерці, якая паслужыла падставай для столькіх пакараняў, быў вінаваты сам цар: іншы раз ён забівае жонку ўласнаручна, іншы раз аддае загад наёмным забойцам. У жалобе ён бачыць толькі выпадак праліць чужую кроў і вырваць чужыя слёзы.

Апавядаючы ўсім і кожнаму, што набожная царыца, выдатная царыца, нешчаслівая царыца была атручана царскімі міністрамі, царскімі дарадцамі або набліжанымі да цара баярамі, ён называе імёны тых, ад каго яму хацелася б пазбавіцца.

Зірніце на яго. Маска прырасла да яго асобы; ён хлусіць згодна звычкі, калі не згодна неабходнасьці, бо хлусня і тыранія неразлучны! Хлусня – ежа разбэшчаных душ і несумленных урадаў, падобна таму як ісьціна – ежа душ узнёслых і грамадстваў, уладкаваных з розумам.

Ніхто не адважваўся выказваць сумненні ў справядлівасьці Янавых наветаў; атрута яго прамоваў пашкоджвала людзей насьмерць, мёртвыя целы грувасьціліся вакол яго, але сьмерць была наіменьшай із нягод, якія пагражалі яго ворагам. У сваёй жорсткасці ён прыдумляў катаванні, якія прымушалі няшчасных чакаць сьмерці як збаўлення. Шматдасведчаны кат, ён атрымліваў задавальненне, з пякельным майстэрствам працягваючы катаванні, і ў сваёй бязлітаснай прадбачлівасьці настолькі ж моцна баяўся сьмерці сваіх ахвяраў, якая маглаб пакласьці канец іхным мучэнням, наколькі моцна самі яны яе жадалі. Сьмерць – адзіная ласка, якой ён адорваў сваіх падданых.

Мой абавязак – апісаць вам некаторыя із найноўшых пакаранняў, вынайдзеных Янам для так званых злачынцаў[109]: згодна з яго загадам людзям аблівалі частку цела кіпенем, адначасова абліваючы астатнія часткі ледзяной вадой; з людзей зажыва здзіралі скуру ў прысутнасьці цара, а затым білі іхнае пазбаўленае скуры цела рамянямі; вочы ізувера атрымлівалі асалоду ад відовішча іхных канвульсій, вушы прагна слухалі іхныя стогны; іншы раз ён сам

---

[107] Настассю Раманаўну Захар'іну-Юр'еву, памершую ў 1560 г.

[108] З Марыяй, дачкой чаркескага хана Цемрука, Ян адружыўся ў 1561 г.; Карамзін, спасылаючыся на сведчанні сучаснікаў, паведамляе, што «гэтая князёўна чаркеская, дзікая норавам, жорсткая душой, яшчэ больш зацвердзіла Яна ў злых схільнасцях» (Карамзін. т. 9. гл. 1).

[109] [заўвага аўтара] Карамзін, із кнігі якога я запазычыў гэтыя звесткі, падмацоўвае сваё апавяданне доказамі.

дабіваў няшчасных ударам кінжала, але часцей за ўсё старанна аберагаў галаву і сэрца, каб падоўжыць катаванне; ён загадваў адрубваць ахвярам часткі цела так па-майстэрску, каб не зачапіць тулава, а затым кідаў абрубкі галодным сабакам, якія жадна вырывалі адзін у другога гэтыя вартую жалю кускі цела на вачах у напалавіну пасечаных пакутнікаў.

**~ 44 ~**

Прыслужнікі цара старанна, умеючы, са спрытам не маючым жалю падтрымлівалі ўздрыгаўшаяся тулава, каб ахвяры маглі як мага даўжэй прысутнічаць на гэтым собаччым баляванні, дзе пачастункам служылі іх уласныя члены, баляванні, якое было наладжана згодна загаду цара, у крыважэрнасьці не саступаўшаму тыгру...

Каты падалі з ног ад стомы; святары не паспявалі адпяваць нябожчыкаў. Для ўзорнага пакарання ізувер выбраў Ноўгарад Вялікі. Увесь горад быў абвінавачаны ў пераходзе на бок палякаў, але сапраўдная правіна наўгародцаў была у тым, што яны доўгі час вялі жыццё незалежнае і здабылі сабе славу; таму прама ў сьценах залітага крывёю горада адбылося шмат беззаконных пакаранняў; незлічоныя трупы, кінутыя без пахавання, гнілі, атручваючы ваду Волхава; на дадатак, нібы пакаранні забралі недастаткова жыццяў, смертаносная эпідэмія, вынішчае тых наўгародцаў, што пазбеглі эшафоту, дзейнічаючы заодно з катамі, задавальняючы лютасць бацюшкі, – гэтае далікатнае імя або, дакладней, тытул рускія, дабрадушныя ў сваім нізкапаклонстве, надаюць машынальна ўсім сваім магутным і паважаемым гасударам, якім бы ні быў іхны нораў.

Падчас гэтага вар'яцкага царавання ні адзін чалавек не праходзіць натуральныя стадыі свайго жыцця, ні адзін не пражывае яго да вызначанага прыродай канца: чалавек ў сваім бязбожжы замахваецца на ролю Бога; сама сьмерць, зведзена да прыслужніцы ката, губляе сваю грознасць пастолькі, паколькі жыццё губляе кошт. Тыран скінуў анёла, і зямля, напоенная слязамі і крывёю, пакорліва глядзіць, як пасланец нябёсаў паслухмяна ідзе за наймітамі зямнога ўладыкі. Пры Яне сьмерць становіцца рабой чалавека. Гэты ўсемагутны вар'ят паставіў сабе на службу самую чуму, якая із пакорай капрала вынішчае цэлыя дзяржавы, асуджаныя на гібель згодна з капрызам манарха. Крыніца радасьці для гэтага чалавека – чужое гора; крыніца яго ўлады – забойствы; жыццё яго – не маючая славы вайна, вайна мірнага часу, вайна супраць стварэнняў, не здольных абараніцца, голых, бязвольных і аддадзеных Госпадам пад яго святое заступніцтва; закон, якім ён кіруецца, – нянавісць да роду чалавечага, апанаваўшае яго захапленне – жах, прычым жах двуадзіны: той, які ён адчувае сам, і той, які ён унушае навакольным.

Калі ён бярэцца помсціць, то яго справядлівы суд выракае на пагібель ўсіх сваякоў вінаватага аж да самых далёкіх; вынішчаючы цэлыя сямейства, забіваючы маладых паненак і старых людзей, цяжарных жанчын і навароджаных, ён, не ў прыклад звычайным тыранам, не абмяжоўваецца знішчэннем некалькіх падазроных асоб, некалькіх пакаленьняў; пераймаючы жыдоўскага Бога, ён сьцірае із твару зямлі насельнікаў цэлых краёў, не

шкадуючы нікога: усё, што жыло, развітваецца з жыццём, – усё, аж да звяроў і рыб, бо – ці магчыма ў гэта паверыць? – ён атручвае рэкі і азёры. Ён прымушае сыноў караць... ўласных бацькоў!.. І знаходзіліся такія, хто згаджаўся!!! Выяўляецца, любоў да жыцця можа прымусіць чалавека забіць таго, хто яму гэтае жыццё падараваў.

Ператвараючы чалавечыя целы ў гадзіннік, Ян вынаходзіць атруты, якія праяўляюць сваё дзеянне праз строга вызначаныя прамежкі часу, і, такім чынам, адмярае свой дзень чужымі сьмерцямі; ахвяры зыходзяць у магілу, якую цар пастаянна адчыняе перад імі з, радуючай забойцу, бездакорнай дакладнасьцю. Хіба, назваўшы гэтую весялосьць пякельнай, мы зробім памылку? Хіба здольны чалавек самастойна вынайсьці падобныя крыніцы задавальнення? Хіба асмеліўся б ён апаганіць святое слова “правасудзе”, выкарыстаўшы яго да гэтай бязбожнай гульні? Хто, чітаючы падобныя гісторыі, можа ўсумніцца ў тым, што пекла існуе?

Цар-ізувер самастойна прысутнічае пры катаваннях, здзясняемых згодна з яго загадам; разліваючаяся кроў хвалюе яго, але не насычае; чым больш людзей гіне і пакутуе на яго вачах, тым большым задавальненнем ён перапаўняецца.

Яму надае задавальненне – ды што там, ён лічыць сваім абавязкам – абразіць ахвяру, і жала яго насмешак выяўляецца вастрэйшым за лязо яго кінжалаў.

І што ж? Бачачы ўсё гэта, Расія маўчыць!.. Дарэчы, пачакайце; хутка вы ўбачыце, як яна захвалюецца, як падыме свой голас. Не падумайце, аднак, што яна ўстане на абарону абражанай міласэрднасьці; не, яна кінецца абараняць сваё права жыць пад уладаю гасудара, толькі што намі апісанага.

**~ 45 ~**

Здавалася б, народ павінен добра ведаць ізувера, столькі раз паказаўшага сьвету сваю крыважэрнасць, – і народ яго ведае. Раптоўна, ці то для таго, каб пазабавіцца, выпрабоўваючы цярпенне рускіх, ці то пад дзеяннем хрысьціянскага пачуцця (ён дэманстраваў, што шануе святую веру; крывадушнасць магла ў пэўныя моманты яго звышнатуральнага жыцця ператварыцца ў сапраўдную рэлігійнасьць, бо благадаць, гэтая чароўная атрута, пранікае паступова нават у сэрцы найвякшых злачынцаў, і канец гэтаму кладзе толькі сьмерць, выносячая свой абвінаваўчы прысуд)... ітак, пад дзеяннем пакаяння або баязьні, праз капрыз, праз слабасць або праз хітрасць, але аднойчы Ян адкладае ў бок свой скіпетр, а дакладней сказаць, сваю сякеру, і кідае на зямлю царскі вянок. Тады – адзіны раз за ўсё доўгае цараванне злыдня – імперыя прыходзіць у хваляванне; нацыя, якой паграseverжае вызваленне, прачынаецца; рускія, да таго часу заста접ўшыяся нямымі сведкамі, бязвольнымі выканаўцамі столькіх зверстваў, узвышаюць голас, і голас гэты – глас народа, прэтэндуючы на званне гласа Божага, – як гэта ні дзіўна, аплаквае страту гасудара-тырана!.. Магчыма, падданыя Яна сумняваліся ў яго шчырасьці і справядліва баяліся, што, паверыўшы яго уяўнаму адрачэньню, будуць жорстка пакараны; хто ведае, ці не была ўся іхная павага да гасудара народжана

выключна жахам перад тыранам! Рускія ўдасканалілі жах да такой ступені, што ён прыняў выгляд павагі.

Маскве пагражае чужынскае нашэсьце[110] (цар дакладна выбраў час для пакаяння); людзі баяцца анархіі, інакш кажучы, рускія прадбачаць імгненне, калі яны больш не змогуць пазбягаць свабоды і ім прыйдзецца думаць і дзейнічаць самастойна на дабро самім сабе; прыйдзецца паказаць сябе мужчынамі і, што значна цяжэй, грамадзянамі: тое, што стварыла б шчасьце іншага народа, прыводзіць гэты ў роспач. Адным словам, затраўленая, паслабеўшая ад працяглай бяздзейнасьці Расія, не памятаючы сябе, падае да ног Яна, якога баіцца менш, чым сама сябе; яна моліць гэтага непазбежнага пераможцу прыняць скрываўлены вянок і скіпетр, яна паднімае іх із зямлі і даруе яму, выпрошваючы ў яго дазвол зноў схіліць галавы пад тым жалезным ярмом, якое ёй ніколі не надакучвае насіць.

Калі гэта – паслухмянасць, то яна празмерная нават для хрысьціян, калі гэта – баязлівасць, то яна непрабачальная, калі гэта – патрыятызм, то ён незразумелы. Калі чалавек упакорвае ганарыстасць, гэта – блага, калі ён любіць рабства, гэта – зло; рэлігія ўтаймоўвае, рабства прыніжае; паміж імі такая ж розніца, як паміж святасьцю і зверствам.

Як бы там ні было, рускія, прымусіўшы сваё сумленне да маўчання, ставяць манарха вышэй Бога і лічаць за дабрачыннасць прынесці ўсё, што маюць, у ахвяру імперыі... ненавіснай імперыі, чыё існаванне грунтавалася выключна на грэбаванні чалавечай годнасці!!! Аслепленыя манархічным ідалапаклонствам, схіліўшыя калені перад палітычным кумірам, якога яны самі ж і ўзвялі, рускія, як у наша стагоддзе, так і ў стагоддзе Яна, забываюцца, што для чалавецтва, не выключаючы і славян, павага да ісьціны і справядлівасьці важней чым лёс Расіі.

Тут у антычнай драме зноў бярэ ўдзел магутнасць свышнатуральная. Якую ж будучыню прыгатаваў Усявышні грамадству, якое плоціць за падаўжэнне свайго існавання такі страшны кошт? – Гэтае пытанне выклікае ў мяне хваляванне.

Як я ўжо шматразова казаў, пад попелам Грэцкай імперыі тлее ў Расіі новая імперыя – імперыя Рымская. Жах сам па сабе не здольны заклікаць людзей да такога бязмежнага цярпення. Не, паверце майму прадчуванню, рускіх апанавала захапленне, якое не было ўласьцівым ў такой ступені нікому, акрамя рымлян, і гэтае захапленне называецца славалюбствам. Славалюбства вымушае іх, падобна Банапарту, ахвяраваць ўсім, рашуча ўсім, дзеля патрэбы прадоўжыць сваё існаванне.

Менавіта гэты вярхоўны закон аддаў нацыю пад уладу Яна IV; яны згодны пакланяцца тыгру замест бога – толькі б не загінула іхная імперыя; такой ідэалогіі прытрымліваліся рускія падчас царавання, якое паклала пачатак Расіі, і ў гэтай ідэалогіі – стыхійнай ці абдуманай, не мае значэння, – цярплівасьць ахвяр

---

[110] У гэты час Расія ваявала з напаўшым на яе крымскім ханам Дзяўлет-Гірэем (?-1577) і вяла Лівонскую вайну супраць Лівонскага ордэна, Швецыі, Польшчы і вялікага княства Літоўскага.

пужае мяне нават больш, чым няўрымсьлівасьць тыранаў. Больш таго, я з жахам заўважаю, што, як бы ні змяняліся акалічнасьці, тых жа поглядаў рускія прытрымліваюцца па гэты дзень, так што, нарадзі руская зямля другога Яна IV, усё паўтарылася б зноў.

Ітак, палюбуйцеся на выяву, равной якой не знайсьці ў сусветнай гісторыі: рускія з адвагай і ганебнасьцю людзей, якія жадаюць валадарыць над светам, у слязах моляць Яна, каб ён працягваў кіраваць імі... вы ўжо ведаеце, якім чынам, і каб ён захаваў тое ўладкаванне, якое б выклікала нянавісць ва ўсякага іншага народа, не ап'яненага фанатычным прадчуваннем будучай славы.

**~ 46 ~**

Вялікія і малые, баяры і купцы, станы і прыватныя асобы – словам, уся нацыя рыдае, завярае цара ў сваёй павазе і клянецца павінавацца яму ва ўсім, толькі б ён не пакінуў яе, бо для рускіх дзейнічаць згодна ўласных меркаванняў – такое страшнае выпрабаванне, аб якім яны з іхным подлым патрыятызмам баяцца нават падумаць: бо следствам гэтага выпрабавання не можа не стаць хаос, пагібельны для імперыі рабоў. У нізкасьці, якая дасягнула падобных памераў, ёсць нешта велічнае; гэта – рымская дабрачыннасць, залог непарушнасьці Дзяржавы, але якой Дзяржавы, Божа літасьцівы!.. У гэтым выпадку сродак ганьбіць мэту!

Між тым драпежнік, распачуваўшыся, згаджаецца выканаць прашэнне пажыраемых ім ахвяраў; ён абяцае стаду зноў прыняцца за іхнае вынішчэньне, ён зноў бярэ ўладу ў свае рукі, не толькі не паабяцаўшы народу ніякіх паслабленняў, але, насупраць, выставіўшы абсурдныя ўмовы, накіраваныя выключна на задавальненне яго апантанай ганарыстасьці, і гэтыя ўмовы народ, які марыць аб рабстве, як іншыя мараць аб свабодзе, народ, жадаючы ўласнай крыві і гатовы памерці дзеля забавы гасудара, прымае як вялікую ласку: ён жа, гэты народ, трывожыцца і дрыжыць, варта яму ўздыхнуць свабодна.

З гэтай пары тыранія забірае над рускімі ўсе правы і пры гэтым прадаўжае быць такой крывавай, што падобнай ёй мы не знойдзем ва ўсёй сусветнай гісторыі, бо тут аднолькава вар'ятамі былі і ганіцелі, і ганімыя. І гасудар, і нацыя – уся імперыя ўпала ў апантанасць, і наступствы гэтага памрачэння розуму не зжытыя і да гэтай пары.

Грозны Крэмль із усімі яго прыгажосцьмі, з жалезнымі варотамі, казачнымі сутарэннямі, непрыступнымі ўмацавальнымі сьценамі, якія ідуць далёка ў неба, із галерэямі, байніцамі і вежамі здаюцца звар'яцеламу манарху, жадаючаму знішчыць палову сваіх падданых, каб мірна кіраваць іншай паловай, недастаткова надзейным прытулкам. У яго сэрцы, якое разбэшчвае само сябе тым мацней, чым больш злачынстваў і зладзействаў здзяйсняе яго ўладальнік, у сэрцы, дзе зверствы і выклікаемыя імі жахі робяць кожны дзень новыя спусташэнні, незразумелая, не маючая бачнай або, ва ўсякім разе, станоўчай нагоды недаверлівасць злучаецца з не маючай мэты жорсткасьцю; такім чынам, самая безсаромная баязлівасць сілкуе самую сляпую крыважэрнасьць. Новы Навуходаносар, цар ператвараецца ў тыгра.

Спачатку ён сыходзіць ў палац, размешчаны непадалёку ад Крамля[111], і перутварае яго ў непрыступнае ўмацаванне, а затым пасяляецца ў пустыні – Аляксандраўскай слабадзе. Гэта месца становіцца яго пастаяннай рэзідэнцыяй. Тут із самых разбэшчаных, самых шалапутныя сваіх рабоў ён выбірае тысячу чалавек, і прызначае іх служыць у адмысловым войску – апрычніне. Гэтаму пякельнаму полчышчу ён даручае на цэлых сем гадоў дабрабыт і жыццё рускага народа; я сказаў бы: дабрабыт, жыццё і гонар, калі б слова "гонар" мела які-небудзь сэнс у дачыненні да людзей, якім падабаецца, каб кіраўнікі затыкалі ім рот веццем.

Вось як Карамзін ў дзевятым томе сваёй гісторыі апісвае Яна ў 1565, на девятнадцатым годзе яго царавання:

"Ён быў вялікі ростам[112], стройны; меў высокія плечы, моцныя мязы, шырокія грудзі, прыгожыя валасы, доўгія вусы, нос рымскі, вочы невялікія, шэрыя, але светлыя, пранікливыя, перапоўненыя агню, і твар некалі прыемны. У гэты час ён так змяніўся, што нельга было яго пазнаць: на твары адлюстроўвалася змрочная лютасць; ўсе рысы перакрывіліся, позірк згас, а на галаве і ў барадзе не засталося амаль ніводнага валаска ад незразумелага дзеяння лютасьці, якая кіпела ў яго душы. Зноў пералічыўшы правіны баяраў і падцвердзіўшы згоду застацца царом, Ян шмат разважае аб пасадзе венцаносца і абавязкі па ахове спакою дзяржаваў, рабіць усе патрэбныя для гэтага захады – пра хуткацечнасць жыцця[113], пра неабходнасць бачыць далей труны, і прапанаваў статут апрычніны: назвы, да той пары невядомай! Ян сказаў, што ён для сваёй і дзяржаўнай бяспекі прызначае асабных целаахоўнікаў. Такая думка нікога не здзівіла: ведалі яго недаверлівасць, баязлівасць, уласьцівую нячыстаму сумленню; але акалічнасьці здзівілі, а следства прывяло ў новы жах Расію... Цар выбіраў тысячу ахоўнікаў із князёў, шляхты, дзяцей баярскіх[114] і даваў ім маёнткі ў гэтых гарадах, а тамашніх вотчыннікаў і ўладальнікаў пераводзіў у іншыя месцы. У самой Маскве ён узяў сабе некаторыя вуліцы, адкуль патрэбна было выслаць ўсіх дваран і прыказных людзей, якія не былі запісаны ў царскую тысячу... Як бы ўзненавідзеўшы слаўныя крамлёўскія ўспаміны і святыя труны продкаў, не хацеў жыць у пышным палацы Яна III; загадаў будаваць новы... і падобна ўмацаванню адгарадзіць высокай сьцяной. Гэтая частка Расіі і Масквы, гэтая тысячная Янава дружына, гэты новы двор як асобная ўласнасць цара, знаходзячаяся пад яго непасрэдным кіраваннем, былі названы апрычніна».



Далее ў тым жа томе апісаны пакуты, якія працягвалі зазнаваць баяры пры Яне IV:

---

[111] Ян «з'ехаў у вёску Каломенскае, дзе жыў два тыдні праз распуцце» (Карамзін. т. 9. гл. 2).

[112] Карамзін. т. 9. гл. 2.

[113] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Гэта спалучэнне жорсткасьці і набожнасьці і сёння заўважаецца ў палітыцы рускага ўрада. Змест яе ранейшы, а форма змянілася не так моцна, як мяркуюць на Захадзе».

[114] [заўвага аўтара] Баярскія дзеці – ўладальнікі зямель, дараваных царом; гэтая новая знаць, лікам да трохсот тысяч, была створана дзедам Яна IV Янам III.
Гл.: Карамзін. т. 5. гл. 4; т. 9. гл. 7.

«4 лютага Масква пабачыла[115] выкананне ўмоваў, абвешчаных царом святарству і баярам ў Аляксандраўскай слабадзе. Пачаліся пакаранні ўяўных здраднікаў, якія быццам бы разам з Курбскім зламыслілі на жыццё Яна, памёршай царыцы Настассі і яго дзяцей. Першай ахвярай быў слаўны ваявода, князь Аляксандр Барысавіч Гарбаты-Шуйскі, нашчадак Святога Ўладзіміра, Усевалада Вялікага і старажытных князёў суздальскіх, знакаміты ўдзельнік заваявання Казанскага царства, муж глыбокага розуму, спрытны ў ратных справах, руплівы сябар айчыны і хрысьціянін. Яму выпала памерці разам з сынам, Пятром, семнаццацігадовым юнаком[116]. Абодва ішлі да месца пакарання без баязьні, спакойна, трымаючы адзін аднаго за руку. Сын не хацеў бачыць пакарання бацькі, і першым схіліў пад меч сваю галаву; бацька адвёў яго ад плахі, сказаўшы з замілаваннем: “ды не пабачу цябе мёртвым!” Юнак саступіў яму першынство, узяў адсечаную галаву бацькі, пацалаваў яе, зірнуў на неба і з вясёлым тварам аддаў сябе ў рукі ката. Шурын Гарбатага, Пятро Хоўрын (родам грэк), акольнічы Галавін, князь Ян Сухі-Кашын, і краўчы, князь Пятро Янавіч Гарэнскі, былі пакараны ў той жа дзень, а князь Дзьмітрый Шэвыраў пасажаны на кол. Пішуць, што гэты няшчасны мучыўся цэлы дзень, але, умацоўваемы верай, забываўся пра мучэнні і спяваў канон Ісусу. Двух баяраў, князёў Яна Куракіна і Дзмітрыя Нямога, пастрыглі; у шмат каго із дваран і дзяцей баярскіх адабралі маёнткі; іншых выслалі разам з сямействам».

Набіраючы ваяроў у сваю новую гвардыю, цар не абмежаваўся абвешчанай першапачаткова тысячаю і вербаваў апрычнікаў далёка не з адных толькі вышэйшых станаў.

«Прыводзілі, – піша Карамзін, – маладых дзяцей баярскіх[117], вызначыўшыхся не вартасьцямі, але так званымі зухаватасьцю, распутствам, гатоўнасьцю на ўсё...

Ян прапаноўваў ім пытанні пра іхны род, пра сяброў і заступнікаў: патрабавалася менавіта, каб яны не мелі ніякай сувязі са знатнымі баярамі; невядомасць, самая нізкасць паходжання лічылася годнасьцю. Замест тысячы цар выбраў шэсьць тысяч і ўзяў з іх прысягу служыць яму вераю і праўдай, даносіць на здраднікаў, не сябраваць з земскімі (гэта значыць, з усімі, не запісаннымі ў апрычніну)[118], не вадзіць із імі хлеба-солі, не ведаць ні бацькі ні маці, ведаць адзіна гасударя. За гэта гасудар даў ім не толькі зямлю, але і хаты і ўсю рухомую ўласнасць старых ўладальнікаў (лікам дванаццаць тысяч), высланных із межаў апрычніны з голымі рукамі, так, што шмат хто із іх, людзі

---

[115] Гл.: Карамзін. т. 9. гл. 2.

[116] [заўвага аўтара] Іх пакаралі адразу – ласка, якой маглі б пазайздросьціць шмат якія із няшчасных падданых Яна.

[117] Гл.: Карамзін. т. 9. гл. 2.

[118] [заўвага аўтара] Такім чынам, земскімі былі ўсе рускія, за выключэннем шасьці тысяч рабаўнікоў, якія знаходзіліся на царскай службе.

заслужаныя, параненыя ў бітвах, із жонкамі і дзецьмі ішлі зімою пешшу ў іншыя далёкія, пустынныя маёнткі»[119].

Аб выніках гэтых пякельных здзяйсненняў апавядаецца ў таго ж Карамзіна. Але падрабязнасцям, якімі суправаджае сваё апавяданне гісторык, не месца ў вузкіх межах нашай кнігі.

Варта было Яну спусціць із ланцуга зграю апрычнікаў, як на краіну абрынуўся шквал рабаванняў і забойстваў; новыя ўлюбёнцы тырана рабавалі суайчыннікаў зусім безпакарана. Купцы і баяры з іхнымі прыгоннымі, гаражане, адным словам, усе, хто не належаў да выбранага кола апрычнікаў, становяцца здабычай царавых выбраннікаў. Гэта жахлівае войска злівалася, здаецца, у нейкую адзіную істоту, чыёй душою быў сам цар.

Рабаўнікі здзяйсняюць начныя набегі на Маскву і яе наваколлі; ўсякая годнасць: дабрачыннасць, высокі род, багацце, прыгажосць – губяць яго ўладальніка; жанчыны і дзяўчаты, вызначаючыся прыгажосьцю і якія маюць няшчасьце славіцца цнатлівымі, трапляюць ў лапы насільнікаў і становяцца цацкамі царскіх фаварытаў. Цар трымае няшчасных ў сваім логаве, а калі яны яму надакучваюць, адсылае тых із іх, каго не загубіў у сутарэннях спецыяльна для іх вынайдзенымі катаваннямі, назад да мужчын ці бацькоў. Вырваўшыяся із кіпцюроў тыгра жанчыны вяртаюцца дадому, дзе марнеюць, не могучы перанесьці ганьбу.

Гэтага мала: не задавальняючыся тымі гнюснасьцямі, якія творыць ён сам, цар патрабуе, каб у оргіях бралі ўдзел яго сыны, і тым самым забірае ў сваіх падданых апошнюю ўцеху – надзею на будучыню.

**~ 48 ~**

Чаканне лепшага заўтра для Яна раўназна загавару супраць сёняшняга манарха. На дадатак, будзь яго сын не такім разбэшчаным, не такім подлым, ён, чаго добрага, мог бы ўзвысіць голас супраць бацьку? Дарэчы... хто здольны змерыць глыбіню той бездані, якую ўяўляла сабою душа Яна? Яму падабалася разбэшчваць: бо гэта ўсё адно што забіваць. Стаміўшыся здзеквацца над целамі, ён губіў душы, пераходзячы ад аднаго спосабу знішчэння да іншага. Кожны забаўляецца па-свойму.

У справах гэты кат ўяўляў сабою дзіўнае спалучэнне моцы і баязлівасьці. Да таго часу, пакуль ён лічыць сябе мацней суперніка, ён пагражае яму; зведаўшы паразу – плача і моліць; ён рабалепнічае, ганьбіць сябе, сваю краіну, свой народ – і ніхто не пярэчыць гэтаму, ніхто не абураецца падобнай ганебнасцю!!! Нават сорам – тая кара, што апошняй насьцігае нацыі, якія здрадзілі самім сабе, не раскрывае рускім вочы!..

---

[119] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Хіба не падобна гэта на нядаўнія ўказы пра жыдоў, пражываючых паблізу рускіх межаў?». Маецца на ўвазе гвалтоўнае перасяленне жыдоў із Літвы і Беларусі ў Новарасійскі край, дзе ім было загадана займацца земляробствам; першы ўказ пра гэта быў выдадзены Аляксандрам I у 1804 г.; на ўпарадкаванне жыцця ў жыдоўскіх асадах былі накіраваны шматлікія заканадаўчыя акты ўрада другой паловы 1830 — першай паловы 1840-х гадоў, аднак у асадах усё адно панавалі галеча і хваробы. Гл.: Мікіцін В. Н. Жыды-земляробы. СПБ., 1887 г.

Крымскі хан паліць Маскву[120], цар ратуецца ўцёкамі; вярнуўшыся, ён знаходзіць на месцы сталіцы адны разбурэнні; яго з'яўленне палохае гаруючых на папялішчах жыхароў больш, чым нашэсьце ворага. Аднак ніхто ні словам не нагадвае манарху пра тое, што пакідаць свой пост пад час небяспекі – нявартa для мужчыны.

Палякі і шведы пераконваюцца па чарзе то ў яго крайняй пыхлівасьці, то ў яго бязмежнай баязлівасьці. Падчас перамоваў з крымскім ханам ён апускаецца так нізка, што прапануе татарам Казань і Астрахань[121], некалі адваяваныя ў іх з такім гонарам. Славу ён шануе ані не больш, чым усё астатняе.

Пазней ён саступіць Стэфану Баторыю Лівонію[122], дзеля заваявання якой яго народ на працягу некалькіх стагоддзяў выдаткаваў столькі намаганняў, праліў столькі крыві; і ўсё ж, нягледзячы на бясконцыя здрады самаўладцы, рускія, чыя ўгодлівасць не мае здаецца, межаў, ні на імгненне не раскайваюцца ў сваёй пакоры, такой жа спусташальнай, як і зневажальнай: адвага каштавала б гэтай выступіўшай супраць самой сябе нацыі куды танней. Нават Карамзін, наш сучаснік, лічыць сваім абавязкам апісаць ганебныя паводзіны рускага манарха ў словах, якія былі прызначаны для таго каб змякчыць непазбежнае, здавалася б, абурэнне: “Мы пісалі пра ратныя ўстановы[123] гэтага дзейнага царавання: сваёй маладушнасьцю пасрамляючай нашы сцягі ў полі, Ян пакінуў Расіі войска, якога яна не мела раней: лепш уладкаванае і больш шматлікае чым раней”. Апошняе сцвярджэнне неаспрэчнае, аднак як не дадаць да яго некалькі слоў у абарону чалавекалюбства і славы айчыны?

Менавіта пад час царавання Яна была, можна сказаць, адкрыта і заваяваная адважнымі рускімі шукальнікамі прыгод Сібір. Яну IV было наканавана пакінуць ў спадчыну сваім нашчадкам гэты сродак прыгнёту.

Ян адчуае інстынктыўную прыхільнасць да Елізаветы Ангельскай: два тыгры здалёк угадваюць, даведваюцца адзін пра аднаго; адрозненне абставінаў, у якіх дзейнічаюць абодва манархі, не можа схаваць радства іхных натур. Ян – тыгр на волі, Елізавета – тыгр у клетцы.

Па-ранейшаму будучы пад уладай выдуманных жахаў, маскоўскі цар піша пасланне жорсткасардэчнай дачцы Генрыха VIII, шчаслівай суперніцы Марыі Сцюарт, просячы, на выпадак, калі ўдача адвернецца ад яго, прыбежышча ў яе ўладаннях. Елізавета адказвае лістом прастранным і ласкавым. Карамзін цытуе па-ангельску толькі асобныя яго фрагменты[124], якія я пераклаў даслоўна; арыгінал, згодна са словамі гісторыка, захоўваецца ў рускіх архівах:

---

[120] Гэта адбылося 24 траўня 1571 г. (гл.: Карамзін. т. 9. гл. 3).

[121] Карамзін. т. 9. гл. 3 (Карамзін піша пра жаданне саступіць адну толькі Астрахань).

[122] Гэта здарылася ў 1582 г., калі Расія заключыла перамір'е з польскім каралём Стэфанам Баторыем (1533-1586) і адмовілася на яго карысць ад Лівоніі (гл.: Карамзін. т. 9. гл. 5).

[123] Карамзін. т. 9. гл. 7.

[124] Карамзін. Заўвага 266 да т. 9, гл. 2. Лізавета I Цюдор (1533-1603) — ангельская каралева з 1558 г., дачка ангельскага караля Генрыха VIII (1491-1547), якая зняволіла ў турму і пакарала смерцю Марыю Сцюарт (1542-1587), шатландскую каралеву, якая прэтэндавала на ангельскі пасад. Поўны ангельскі тэкст ліста Лізаветы гл. у кн.: Таўстога Ю. В. Першыя сорак гадоў стасункаў паміж Расіяй і Ангельшчынай. 1553-1593. СПБ., 1875. стр. 96-98.

«Спадар брат наш цар і вялікі князь Ян Васільевіч, валадар ўсяе Русі!

Калі б аднойчы вас напаткала, спадар брат наш, такая нешчаслівая выпадковасць, ці праз таемную змову, ці праз знешнюю варожасць, што вы будзеце вымушаны пакінуць вашу дзяржаву і пажадаеце прыбыць у наша каралеўства і ва ўладанні нашы з прыстойнаю царыцай, вашай жонкай, і з ветлівымі вашымі дзецьмі, князямі, – мы прымем і будзем утрымліваць вашу высокасць з такімі ўшанаваннямі і ветлівымі вітаннямі, якія такому высокаму гасудару дарэчы, і будзем старанна турбавацца каб задаволіць жаданні вашай вялікасьці, для свабоднага і спакойнага жыцця вашай вялікасьці з усімі тымі, якіх вы з сабою прывязеце; вам, цар і вялікі князь, будзе дазволена выконваць хрысьціянскі закон, як вам будзе заўгодна; і мы не пасягнём ні ў якім дачыненні на абразу вашай вялікасьці ці каго-небудзь із вашых падданых, не выкажам ніякага ўмяшання ў веру[125] і закон вашай вялікасьці, таксама не пазбавім вашу высокасць ад вашых дамачадцаў, не дапусьцім насільную канфіскацыю ў вас каго-небудзь із вашых. Звыш таго мы прызначым вам, цар і вялікі князь, у нашым каралеўстве месца для ўтрымання вас на ваш ўласны рахунак на ўвесь час, пакуль будзе вам заўгодна заставацца ў нас. Абяцаем гэта згодна з магутнасьцю гэтай грамоты і словам хрысьціянскага гасудара, у падтрымку чаго і ў большае ўмацаванне гэтай грамоты мы, каралева Елізавета, падпісваем яе ўласнай нашай рукою ў прысутнасьці ніжэйпазначаных вяльможаў нашых і дарадцаў:



Вялікага канцлера Мікалая Бэкона (бацька знакамітага філасофа[126]), лорда Вільяма Парра, маркіза Нортгемптанскага, кавалера ордэна Падвязкі, Генры, графа Арондэла, кавалера пазначанага ордэна, Роберта Дадлея, графа Лейчэстэрскага, нашага канюшага і кавалера ордэна Падвязкі. Далей ідуць яшчэ некалькі імёнаў, із якіх апошняе – кавалер Сэсіл, першы сакратар».

На заключэнне каралева дадае: "Абяцаем сумеснымі намаганнямі змагацца супраць агульных нашых вогараў і захоўваць вернасць ўсім дадзеным тут абяцанням да той пары, пакуль Госпаду не заўгодна будзе прыбраць нас да сябе, чаму парукай каралеўскае слова і гонар.

У нашым палацы Хэмптан-Корт, 18 траўня дванаццатага года нашага царавання і 1570 года ад Нараджэння Хрыстова".

Гэтае сяброўства працягвалася да самай сьмерці цара, які нават нейкі час меў намер зладзіць сваё восьмае адружванне – з Марыяй Гасьцінгс, сваячкай каралевы Англіі: аднак слава Яна IV, скарыўшая мужны розум Елізаветы, пакінула абыякавай ангельскую нявесту; на шчасьце, далёка не ўсе сэрцы захапляюцца жорсткасьцю.

Перамовы якія мелі дачыненне да гэтага адружвання былі пачаты ангельскім лейб-медыкам Робертам Якобі, якога Елізавета прыслала да двара свайго сябра незадоўга да сьмерці гэтага апошняга; Якобі вёз з сабою ліст

[125] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г. «Ёсць сэрцы, больш адкрытыя памяркоўнасьці, чым чалавекалюбству».

[126] Маецца на ўвазе ангельскі філасаф Фрэнсіс Бэкан (1561-1626).

наступнага зместу[127]: “мужа спрытнага у лячэнні хвароб уступаю табе, майму брату кроўнаму, не таму, што ён непатрэбны мне, але таму, што патрэбны табе. Можаш смела давяраць яму сваё здароўе. Дасылаю з ім, на тваю дагоду, аптэкараў і цырульнікаў, воляю і няволяю, хаця мы і самі маем недахоп у такіх людзях”.

Падобныя пасланні дазваляюць цалкам зразумець характар сувязей, як схільнасць да дэспатызму і гандлёвыя інтарэсы, для англічан найпершыя із усіх, злучалі двух уладык. Завершым наш агляд Янавай тыраніі.

Аднойчы яму прыйшло на розум апрануцца ў манаскае адзенне[128]; падобным чынам ён апрануў і сваіх памагатых, аднак і пераапрануты мніхам, цар працягваў устрашаць неба і зямлю нялюдзкасьцю і жахлівым распутствам. Злачынствы Яна прытупляюць ў народа здольнасць да абурэння; як ні выпрабоўваў самаўладца іхнае цярпенне, яму не відаць канца! На ненасытную жорсткасць выжыўшага із розуму ўладара рабы адказваюць бязмежнай пакорай: рускія хочуць жыць пад уладай гэтага манарха, яны паважаюць яго, якім бы неўтаймаваным і разбэшчаным ён ні быў; шкадуючы цара за яго жахі, яны ахвотна развітваюцца з жыццём дзеля яго спакою. Ім не трэба большага шчасьця, большай незалежнасьці, большай павагі – абы толькі Ян заставаўся царом і кіраваў імі. Нішто не задавальняе вечную смагу гэтых пакорлівых пакутнікаў знаходзіцца ў рабстве; ніколі яшчэ быдла не было больш зычлівым, дакладней сказаць, больш сляпым ў сваёй пакоры... Не, паслухмянасць, даведзеная да такіх памераў, гэта ўжо не цярпенне, гэта захапленне!

Юныя нацыі так апантана вераць у паўсюдную прысутнасць Бога, у яго здольнасць браць удзел ў самых дробязных зямныя здарэннях, што ім ніколі не прыходзіць на думка растлумачыць рух чалавечай гісторыі дзеяннямі самога чалавека; згодна іхнага разумення, усё, што адбываецца, здзяйсняецца згодна з Гасподняй воляй: не існуе такіх зямных даброт, ад якіх сапраўдны веруючы не мог бы адмовіцца з радасьцю. Для таго, хто жадае блажэнства абраннікаў, жыццё – дробязь. Чыя б рука ні спыніла цячэне вашых дзён, яна стварае даброту, а не зло. Вы паступаецеся малым дзеля вялікага, вы зведваеце хвілінную пакуту дзеля вечнага блажэнства; што значыць улада над усёй зямлёй параўнальна з цнотаю – тым адзіным скарбам, які тыран не мае магчымасьці забраць у чалавека, бо кат сторазова памнажае святасьць ахвяр, якія з набожнай пакорай глядзяць у вочы сьмерці?!

Так лічаць народы, чыё прызванне – пакорліва пнераносіць якія б то ні было выпрабаванні; аднак нідзе падобная небяспечная рэлігія не нараджала столькі фанатыкаў, колькі іх сустракалася і сустракаецца па гэты дзень у Расіі.

Немагчыма без уздрыгання чуць пра тое, якім мэтам служаць ў гэтай краіне рэлігійныя ісьціны; пачуўшы ж, застаецца толькі схіліць калені і маліць

[127] Карамзін. т. 9. гл. 7

[128] Гл.: Карамзін. т. 9. гл. 2. Апісваемыя падзеі адносяцца да 1565 г., калі Ян IV жыў у Аляксандраўскай слабадзе, дзе «вялікую частку часу прысвячаў царкоўнай службе» і «нават меў жаданне ператварыць палац у кляштар, а сваіх пястуноў у мніхаў», якія, зрэшты, «елі і пілі дасыта» і «не шкадавалі ні віна ні мёду».

Госпада аб адной-адзінай міласьці – каб тлумачальнікамі яго вярхоўнай мудрасьці былі людзьмі вольнымі; бо сьвятар-раб – гэта заўсёды хлус і вераадступнік, а часам яшчэ і кат. Ўсякая нацыянальная Царква – плён расколу і, адпаведна, пазбаўлена незалежнасьці. Сьвятыня, аднойчы апаганеная бунтам, ператвараецца ў лабараторыю, адкуль пад выглядам лекаў выходзіць атрута. Праўдзівы святар – грамадзянін свету і паломнік ў краіну нябесную. Падпарадкоўваючыся як чалавек законам сваёй дзяржавы, як прапаведнік ён не павінен прызнаваць над сабою іншага суддзі, акрамя першасвятара – адзінага незалежнага прэлата, які існуе на зямлі. Менавіта незалежнасць зямнога кіраўніка Царквы надае пастырскую годнасць ўсім каталіцкім святарам, і ў ёй жа – зарок непарушнасьці той улады, якую мае папа рымскі. Усе іншыя святары вернуцца ва ўлонне маці-Царквы, калі прызнаюць святасць сваёй місіі, а прызнаўшы, пашкадуюць пра сваё ганебнае адступніцтва. Тады свецкая ўлада не здолее ўжо знайсьці пастыраў, гатовых апраўдаць яе нападкі на ўладу духоўную. Цэрквы схізматычныя і ерэтычныя, якія прытрымліваюцца нацыянальных рэлігіі, саступяць месца Каталіцкай Царкве, рэлігіі рода чалавечага; бо, згодна з цудоўным выразам спадара дэ Шатабрыяна, пратэстантызм – рэлігія князёў[129].

**~ 50 ~**

Дарэчы, я павінны адзначыць, што, нягледзячы на агульнавядомую нясмеласць рускага святарства, падчас неспасціжнага царавання Яна IV менавіта Царква больш за ўсіх працівілася дэспатызму. Пазней Пятро I і Кацярына II спаўна адпомсьцілі ёй за смеласць, выказанную пры іхным папярэдніку. Падзея здзейснілася: рускі святар, бедны, зганьбаваны, разбэшчаны, пазбаўлены ўсякага аўтарытэту, усякай звышнатуральнай магутнасьці, звычайны чалавек із плоці і крыві, цягнецца за трыумфальнай калясніцай свайго ворага, якога па-ранейшаму называе сваім уладаром; ён стаў тым, чым пажадаў зрабіць яго гэты ўладар: нікчэмнейшым із рабоў самаўладдзя; Ян IV мог бы парадавацца цвёрдасьці Пятра I і Кацярыны II. Сёння ўся Расія, ад края і да края, цвёрда ведае, што голасу Божаму не заглушыць голоса імператара[130].

Гэта – прорва, куды непазбежна скацяцца, рана ці позна, ўсё нацыянальныя Цэрквы; акалічнасьці, магчыма, зменяцца – духоўнае ж рабалепства застанецца нязменным; ўсюды, дзе сьвятар адракаецца ад сваіх правоў, іх забірае Дзяржава. Стварыць секту – значыць пазбавіць сьвятарства волі. Там, дзе Царква адпала ад асноўнага дрэва, сумленне пастыря – не болей, чым іллюзія; там вера страчвае былую чысьціню, а міласэрднасць, гэты нябесны агонь, спальваючы сэрцы святых, згасае ў людзкіх душах!!!

---

[129] Гэту думку Шатабрыян падрабязна абгрунтоўвае ў кнізе «Дослед пра ангельскую літаратуру» (1836 г.), дзе супрацьстаўляе «народную» каталіцкую рэлігію пратэстантызму — рэлігіі князёў і патрыцыяў (гл.: Chateaubriand F.-R. de. Essai sur la litterature anglaise. P., 1836. t. I. p. 199-216). Пра нацыянальную рэлігію гл. заўвагу да т. 1, стр. 13.

[130] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Гл. кнігу «Пакуты каталіцкай царквы абодвух звычаяў у Польшчы і ў Расіі», перакладзеную з нямецкай графам дэ Манталамберам, урыўкі з якой я змяшчаю на прыканцы «Кароткай справаздачы» пра сваё вандраванне».

На змену міласьці прыходзяць прытулкі для бедных, на змену боскаму дару – розум, які ў справах веры – не што іншае, як крывадушны памагаты матэрыі.

Вось у чым чыннік найглыбейшай нянавісьці, якую маюць пастары і, наогул, усё сектанты да каталіцкага святара. Усе яны сыходзяцца на варожасьці да яго, бо святар – толькі ён; іншыя разглагольствуюць, ён вучыць.

Каб дапоўніць выяву Яна IV, варта зноў звярнуцца да Карамзіна; завяршаючы сваё апавяданне, я прывяду самыя характэрызуючыя ўрыўкі із дзевятага тома яго “Гісторыі”:

«Гэта месніцтва[131] выяўлялася і ў прыдворнай службе (як бачыце, ва ўлонні драпежнага звера валадарыў своеасаблівы этыкет): ўлюбёнец Яна, Барыс Гадуноў[132], новы краўчы (у 1578 годзе), судзіцца з баярынам, князем Васілём Сіцкім, сын якога не жадаў служыць побач з ім за сталом гасудара; нягледзячы на баярскую годнасць князя Васіля, Гадуноў царскаю граматай быў абвешчаны вышэй яго шматлікімі месцамі, таму што дзед Барыса у старых разрадах стаяў вышэй Сіцкіх. – Дазваляючы Ваяводам спрачацца аб першынстве, Ян не спускаў ім хібы ў ратнай справе: напрыклад, знатнага саноўніка, князя Міхала Наздраватага, высеклі на канюшне за благое кіраванне пры аблозе Шмільтэна”.

Вось як шанаваў цар годнасць дваранства і войска. Апісаны Карамзіным выпадак, які адбыўся ў 1577 нагадвае мне іншы эпізод[133] рускай гісторыі, цалкам нядаўні, бо ён адбыўся ў нашы дні. Я наўмысна параўноўваю разныя эпохі, каб давесьці, што адрозненне паміж мінулым і сучасным гэтай дзяржавы не такое вялікае, як здаецца. Справа адбывалася ў Варшаве пры вялікім князю Кастусю; Расіяй кіраваў імператар Аляксандр, чалавекалюбнейшы із цароў.

Аднойчы Кастусь кіраваў аглядам гвардыі; жадаючы пахваліцца перад нейкім знакамітым іншаземцам дысцыплінай, пануючай ў рускім войску, ён саскоквае з каня, падыходзіць да аднаго із генералаў... ГЕНЕРАЛАЎ!., і, ні ў чым яго не папракаючы, спакойна праколвае яму нагу шпагай. Генерал не зварухнуўся і не выпусціў ніводнага стогну: яго панеслі пасьля таго, як вялікі

---

[131] Карамзін. т. 9. гл. 4

[132] [заўвага аўтара] Той самы, які пазней зарэзаў спадкаемцу і захапіў пасад.

[133] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Шмат хто із рускіх паставілі пад сумнеў верагоднасць гэтага эпізода, пацвярджаючы сваю думку доказамі вельмі дзіўнымі: «Дакладна такі ж выпадак адбыўся пры Яне IV, г. азн., пазнейшы эпізод — хлусня, прыдуманая, каб абгаварыць Кастуся». Падаю людзям думаючым і здольным параўнаць гісторыю Расіі з яе цяперашнім палітычным становішчам ацаніць пераканаўчасць гэтага пярэчання і адначасна сведчу, што перакананы ў шчырасьці тых асоб, ад якіх чуў паведамленне пра падзею, што адбылася ў XIX стагоддзі ў Варшаве, пры брату зараз валадарачага імператара» (пар. таксама ў заўвазе да гэтага тама, стр. 141, заўвагу Кюстына да выдання 1846 г.). Сапраўды, шматлікія крытыкі Кюстына, у прыватнасьці Грэч (Gretch. p. 84) і Лабінскі (Labinski. p. 96) даводзілі, што Кюстын прыпісаў Кастусю Паўлавічу ўчынак Яна Жахлівага, апісаны Карамзіным: калі князь Андрэй Курбскі, пяройшоўшы на бок літоўцаў, выправіў да Яна IV свайго «руплівага слугу» з лістом, які тлумачыў яго ўчынак, «гнеўны цар стукнуў яго ў нагу вострым сваім жазлом: кроў ліўся із раны, слуга, стоячы нерухома, маўчаў» (Карамзін. т. 9. гл. 2). Зрэшты, Кастусь Паўлавіч сапраўды меў у Польшчы рэпутацыю самаўладнага намесніка, схільнага да раптоўных выбліскаў неўтаймаванага гневу (гл.: Карновіч. стр. 125-128).

князь выцягнуў шпагу із раны. Гэты рабскі стаіцызм падцвярджае выслоўе аббата Гальяні[134]: “Адвага – не што іншае, як вельмі моцны жах!”



Гледачы, назіраўшыя гэтую сцэну, таксама не прамовілі ні слова. Нагадваю: гэта здарылася ў XIX стагоддзі, на плошчы пасярод Варшавы.

Як бачыце, цяперашнія рускія вартыя падданых Яна IV, і справа тут зусім не ў вар'яцтве Канстатнына.

Будзем лічыць нават, што ён на самай справе быў пазбаўлены розуму, – бо яго ўчынкі шматразова абражалі грамадзкую прыстойнасць[135]. Але дазваляць чалавеку, які столькі разоў паказваў несумненныя прыкметы вар'яцтва, кіраваць войскам, кіраваць царствам – значыць распісацца ў агіднай пагардзе да чалавецтва, працягваць здзекі над людзьмі, такія ж згубныя для трымаючых уладу, як і абразлівыя для іхных ахвяр. Дарэчы, асабіста я не думаю, што вялікі князь Канстанцін быў не ў сваім розуме; я бачу ў яго ўчынках толькі неабмежаваную жорсткасць.

Я шмат раз чуў, што вар'яцтва – спадчынная хвароба асоб рускай імператарскай сям’і: на мой позірк, тыя, хто так кажуць, проста лісліваць Раманавым. Я лічу, што віной усяму не благое здароўе індывідаў, а заганы ўладкавання самаго грамадства. Абсалютная ўлада, калі яна на самай справе абсалютная, здольная, ў рэшце рэшт, разладзіць самы здаровы розум; дэспатызм асляпляе людзей; выпіўшы із чашы тыраніі, хмялеюць і гасудар і народ. Гісторыя Расіі, на мой позірк, дае неабвержныя доказы гэтай ісьціны.

Працягнем нашы вытрымкі із Карамзіна, які, у сваю чаргу, цытуе Лівонскага летапісца. На гэты раз перад намі паўстануць рабалепныя пасланнік і баярын, цярпеўшыя катаванні, прычым абодва ў роўнай ступені абагаўлялі свайго ўладара і ката.

«Але гэтыя людзі, – піша лівонскі гісторык[136], – ні ад пакаранняў, ні ад абразаў не слабелі ў руплівасьці да іхнага манарха. Ўявім памятны выпадак. Чыноўнік Яна, князь Сугорскі, дасланы (у 1576) да імператара Максіміліяна, занямог ў Курляндыі. Герцаг, із павагі да цара, некалькі разоў дазнаваўся аб

[134] Цытата із дыялогу «Кабеты», надрукаванага ў другім томе «Нявыдадзенага ліставання» італьянскага абата Фердынанда Гальяне (1728-1787), якая выйшаў у Парыжы ў 1818 г. (Galiani F. Correspondance inedite. p., 1818. t. 2. p. 337). Гальяне ўвайшоў у гісторыю літаратуры дзякуючы свайму стылю, у якім спалучаў «атычную ці парыжскую дасьціпнасць з італьянскім буфонствам» (ОА. т. 1. стр. 142). Яго афарызмы, у тым ліку запазычаныя із дыялогу «Кабеты», былі папулярнымі ў пушкінскім атачэнні (гл.: Лотман Ю. М. Да праблемы «Пушкін і ліставанне абата Гальяне» // Лотман. стр. 354-357).

[135] Вялікі князь Кастусь Паўлавіч (1779-1831) нават у атачэнні сваёй сям'і карыстаўся рэпутацыяй чалавека, які пакутуе недахопам «чалавечай годнасьці», валодае характарам «напалову татарскім, напалову рускацывілізаваным» і не саромеецца «жаўнерскі грубых манер і гаворкі» (Сон юнацства. стр. 20); Пар. каларытную характарыстыку, дадзеную вялікаму князю яго ад'ютантам графам В. К. Браніцкім: «у ім існавалі як бы дзьве існасьці; дзівакаватая і буяная, ён у той жа час быў адкрытым і добрым; ён мог растаптаць чалавека ботамі, калі падазраваў у ім таемны намер зрабіць яму шкода, але потым мог зрабіць неверагодны высілак сабраць яго па кавалачках» (Гагарын Я. С. Дзённік… М., 1996. стр. 170.) Зрэшты, не выключаецца, што Кюстын у дадзеным выпадку прыпісвае Кастусю Паўлавічу некаторыя рысы яго бацькі, імператара Паўла I (сведчанні пра «несумнеўныя прыкметы страты розуму»).

[136] Карамзін. т. 9. гл. 4. Гісторык лівонскі — Хрысціян Кельх (1657-1710), аўтар «Гісторыі Ліфляндыі» (1695).

хворым праз свайго міністра, які заўсёды чуў ад яго гэтыя словы: маё жыццё нішто: абы гасудар наш быў здаровы! Міністр выказаў яму здзіўленне. “Як вы можаце, – спытаў ён, – служыць з такой адданасьцю тырану?” Князь Сугорскі адказаў: “Мы, рускія, адданыя царам, і міласэрдным, і жорсткім”. У доказ хворы распавёў яму, што Ян незадолго перад тым загадаў, ЗА МАЛУЮ ВІНУ, аднаго із знатных людзей пасадзіць на кол; што гэты небарака жыў цэлыя суткі, у жахлівых пакутах размаўляў са сваёю жонкай, з дзецьмі і безперапынна паўтараў: Божа, памілуй цара!..[137] Гэта азначае (дадае ад сябе Карамзін) расійцы ганарыліся тым, чым замежнікі дакаралі іх: сляпой, неабмежаванай адданасьцю манаршай волі ў самых яе безрассудных адхіленнях ад дзяржаўных і чалавечых законаў».

Не адважваючыся выпісваць гэтыя дзіўныя эпізоды старонку за старонкай, я імкнуся выбіраць найбольш выразныя. Таму тут я абмяжуюся фрагментамі із ліставання цара з адным із яго прызначэнцаў.

«Адзін із улюбёнцаў Яна[138], Васіль Гразноў, быў захоплены крымцамі каля раз’езда на Малошных водах: хан прапанаваў Цару памяняць гэтага вязьня на мурзу Дзівія. Ян не пагадзіўся, хоць і шкадаваў пра Гразнова, хоць і пісаў да яго дружалюбныя лісты, у якіх, згодна са сваім характарам, міласьціва здзекваўся над яго заслугамі, кажучы: “Ты думаў, што ваяваць з крымцамі так жа лёгка, як жартаваць за маім сталом. Яны не вы: не драмаюць у варожай зямлі і не паўтараюць безперапынна: час вяртацца дадому! Як табе ўздумалася назвацца знатным чалавекам? Праўда, што мы, атачоныя баярамі-здраднікамі, павінны былі, выслаўшы іх, наблізіць вас, нізкіх рабоў, да твару нашага; але не забывайцеся пра бацьку і дзеда свайго! Ці можаш раўняцца з Дывіем? Воля верне табе мяккі ложак, а яму меч на хрысціян. Даволі, што мы, жалуючы руплівых рабоў, гатовы выкупіць цябе нашым скарбам”.

Адказ слугі не саступае лісту гаспадара; мала таго, што ў ім выказалася сэрца чалавека подлага, – па ім можна скласьці ўяўленне аб шпіёнстве, якому з тых часоў і па гэты дзень падвяргаюцца ў Расіі іншаземцы. Вядома, далёка не ўсе рускія былі б здольныя на такія злачынствы, як Гразноў, але я не магу ўстрымацца ад думкі, што шмат хто із іх ахвотна напісалі б пасланне, падобнае, ва ўсякім разе па характары выказанных у іх пачуццяў, на ліст гэтай нікчэмнай істоты; вось яго тэкст: “Не, гасудар[139]; я не драмаў у зямлі варожай: выконваючы загад твой, здабываў языкоў для бяспекі Рускага царства; не верыў іншым: сам дзень і ноч не спаў. Мяне ўзялі параненым, амаль нежывым, пакінутым нясмелымі таварышамі. Пад час змагання я губіў вогараў хрысьціянства, а ў палоне тваіх здраднікаў: ніхто із іх не застаўся тут у жывых; ўсе таемна палі ад рукі маёй!..[140] Жартаваў я за сталом гасударавым, каб весяліць гасудара; зараз

---

[137] [заўвага аўтара] Гэтая адданасць ахвяры тырану – род фанатызму, уласцівага азіятам і рускім.

[138] Карамзін. т. 9. гл. 4.

[139] Карамзін. т. 9. гл. 4.

[140] [заўвага аўтара] Пры двары імператара Мікалая можна кожны дзень бачыць вяльможу, празванага “атручвальнікам”

***(*** <u>29 траўня 1831 г. у Віцебску памёр генерал Ян Янавіч Дзібіч (1785-1831), галоўнакамандуючы рускім войскам, падаўляўшым польскае паўстанне; 15 чэрвеня 1831 г. у тым жа горадзе памёр вялікі</u>

жа паміраю ЗА БОГА і ЗА ЦЯБЕ; яшчэ дыхаю, але адзіна згодна асаблівай ласкі Божай, і то дбаючы пра тваю службу, ды ці можа вярнуся зноў цешыць цара майго. Я целам у Крыму, а душою ў Бога і ў цябе. Не баюся сьмерці: баюся толькі апалы».

**~ 52 ~**

Такую сяброўскую перапіску вёў цар са сваім стаўленікам.

Карамзін дадае: у такіх-та людзях Ян меў патрэбу “для сваёй забавы і (як ён думаў) бяспекі”.

Аднак ўсё, што адбылося падчас гэтага дзіўнага каравання, дзіўнага, перш за ўсё, сваёй працягласьцю і спакоем, блякне перад самым жахлівым учынкам цара.

Мы ўжо сказалі, што, ахоплены недарэчным жахам, дрыжачы пры адным толькі згадванні Польшчы, Ян амаль без супраціўлення саступіў Баторыю Лівонію – край, які руськія ўжо некалькі стагоддзяў спрабавалі адваяваць ў шведаў, палякаў, лівонцаў, а галоўное, у захапіўшых яе і ёю кіраваўшых рыцараў-мечаносцаў. Для Расіі Лівонія была варотамі ў Яўропу[141], сродкам стасункаў з цівілізаваным светам; із незапамятных часоў пра яе марылі рускія цары, за яе пралівалі кроў іхныя падданыя: пад дзеяннем невытлумачальнага прыступу баязьні пыхлівейшы і адначасова баязлівейшы із манархаў пакідае жаданую здабычу суперніку без змагання, без усякай на тое нагоды, адным розчыркам пяра, маючы пад сваім началам вялізнае войска і незлічоныя багацці; паслухайце ж, якім выявілася першае ж наступства гэтай здрады.

Царэвіч, шануемы сын Яна IV, якога ён заўсёды песьціў, якога выхоўваў на сваім прыкладзе, прывучаючы вяршыць зладзействы і аддавацца самаму

---

князь Кастусь Паўлавіч; гэтыя абедзьве сьмерці, адбыўшыяся, “як шапталі тады і потым, адразу ж пасьля вячэры з графам Арловым”, “былі нагодай недарэчных чутак не толькі ў іншаземным, непрыязным да нас друку, але і ў войсковым асяроддзі і ў нашым народзе” (Карновіч. с. 248). Вяльможа, якому інкрымінавалася забойства Дзібіча і Кастуся Паўлавіча – граф Аляксей Фёдаравіч Арлоў (1786-1861), генерал-адз’ютант, сябар і давераная асоба Мікалая I; ў траўні 1831 г. Арлоў быў накіраваны да Дзібіча, каб паведаміць яму пра хуткае звальненне з пасады галоўнакамандуючага. Размовы пра тое, што Арлоў ездзіў атруціць Дзібіча і цэсарэвіча Кастуся, амаль у той жа час пашырыліся ў Берліне і затым неаднаразова абмяркоўваліся на старонках антырускага еўрапейскага друку; так, парыжскі журнал “Le Polonais”, орган польскай эміграцыі, пісаў ў сакавіку 1834 г.: “Дзібіч, пераможца турак, выявіўся не маючым поспехаў ў барацьбе супраць палякаў. Як следства, спатрэбілася яго адазваць. Але адазваць яго, азначала распісацца ва ўласнай паразе. Ад гэтага веліч Расіі зведала б страты. Каб выратаваць славу свайго войска, імператар выправіў у галоўный штаб Арлова – і няшчасны Дзібіч выпусьціў дух” (Le Polonais. 1834. т. 2. p. 101). Грэч, аспрэчваючы зацверджванні Кюстына (і адначасова агучваючы прозвішча Арлова, ад чаго Кюстын устрымаўся), паведамляе, што граф “пасмяяўся над гэтым абвінавачваннем, але не таемна, а публічна, і ўсе навокал смяяліся разам з ім; ён сам жартам стаў называць сябе атручвальнікам. Маркіз жа, хоць у глыбіні душы ўпэўнены ў абсурднасьці гэтага абвінавачвання, тым не менш, карыстаецца ім як сродкам для самага подлага паклёпу” (Gretch. p. 85). Асоба Дзібіча, пры ўсёй яе знешняй нерамантычнасьці, была аточана ў 1830-я гг. самымі неверагоднымі легендамі; пар. у мемуарах французкага легітыміста Фаллу згадку пра тое, што дзве французкія дамы даручылі яму высвятліць падчас паездкі ў Расію (у 1836 г., калі Дзібіча ўжо не было на сьвеце), ці праўда, што пад яго імем хаваўся цудам ацалелы сын караля Людовіка XVI... (Falloux A.-F.-P. Memoires d'un royaliste. P., 1888. т. 1. p. 147).); чуючы гэтую сваю мянушку, ён усміхаецца.

[141] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Яна была для рускіх тым, чым сёння стаў Канстантынопаль».

гнюснаму распутству, адчувае пры выглядзе ганебнага адступлення цара-бацькі прыліў сораму; ён баіцца пярэчыць, бо ведае Яна, але, старанна пазбягае ўсякіх слоў, у якіх можна было б адчуць нязгоду і просіць дазволу выправіцца на вайну супраць палякаў.

“Табе не падабаецца мая палітыка – значыць, ты здраднік! – Усклікнуў цар. – Хто ведае, магчыма, ты ўжо задумаў падняць бунт супраць бацькі?»

Захоплены раптоўнай лютасьцю, ён хапае свой посах і што ёсць моцы б’е сына па галаве; адзін із набліжаных хоча затрымаць руку тырана; Ян б'е яшчэ раз – царэвіч падае: яго раненне смяротнае![142]

Тут адбываецца адзіная ў жыцці Яна IV чуллівая сцэна. Прырода не ведае нічога падобнага: толькі паэзія мае магчымасьці выявіць цноты настолькі велічныя, што яны выходзяць за межы чалавечага разуменя.

Агонія царэвіча працягвалася некалькі дзён; цар, ледзь спасцігшы, што ён уласнай рукою знішчыў самую дарагую для яго істоту, упаў у роспач, такую ж буйную і шалёную, якой шалёнай была яго раз’юшанасць; ён качаўся па пылу, выдаючы дзікія крыкі, ён перамешваў свае слёзы з крывёю сына, цалаваў яго раны, маліў неба і зямлю захаваць няшчаснаму царэвічу жыццё, якое сам жа забраў, зваў да сябе дактароў, ведзьмакоў, абяцаў ім багацці, пашану, уладу, толькі б яны вярнулі яму спадкаемцу пасада, цэнтр яго ласкавых пачуццяў... ласкавых пачуццяў Яна IV!..

Усё дарэмна! Непазбежная сьмерць набліжаецца; бацька падняў руку на сына; Гасподзь вынес прысуд абодвум: сын памрэ!.. Але катаванне скончыцца не адразу; Ян даведаецца, што такое спачуваць чужому болю.

Чатыры дні юнак, поўны жыцця, змагаўся са сьмерцю.

Як жа правёў ён гэтыя чатыры дні? Як, па-вашаму, гэты хлопец, разбэшчаны бацькам, – не забывайцеся пра гэта! – безпадстаўна западозраны ў здрадзе, абражаны і смяротна ім паранены, – як адпомсціў ён за страту ўсіх надзей і чатырохдзённае катаванне, на якое выракла яго неба, каб гэтым даць ўрок ўсім, хто жыве на зямлі і, калі магчыма, наставіць на праўдзівы шлях яго забойцу?

Ён правёў гэтыя чатыры дні ў малітвах: ён прасіў неба за цара, ён суцяшаў свайго згубцу, ні на хвіліну не пакідаўшага яго, апраўдваў яго, паўтараў яму, выказваючы тонкасць пачуццяў, годных сына лепшага бацькі, што адплата, якой бы суровай яна ні здавалася, справядлівая, бо сын, паўстаючы, няхай нават таемна, супраць рашэнняў венцаноснага бацькі, заслугоўвае сьмерці. А сьмерць жа была ўжо каля дзвярэй, і тым, хто гаварыў валодаў не жах, а прымха, палітычная вера.



Чуючы набліжэнне сваёй апошняй гадзіны, царэвіч трывожыцца толькі аб тым, каб схаваць свае жахлівые пакуты ад забойцы, якога ён шануе, як шанаваў бы лепшага із бацькоў і найвялікшага із цароў: ён моліць Яна пакінуць яго.

[142] Гл.: Карамзін. т. 9. гл. 5. Царэвіч Ян памёр 19 лістапада 1582 г.

Калі ж цар, замест таго каб саступіць прашэнням паміраючага, кідаецца ў прыпадку пакаяння на ложак сына, а затым падае на калені, каб папрасіць запозненага прабачэння ў сваёй ахвяры, гэты юнак – гераічны ўзор сыноўняй пашаны – чарпае звышнатуральную моц ў свядомасьці свайго абавязку; стоячы адной нагой у магіле, ён нейкім цудам яшчэ на імгненне працягвае сваё зямное існаванне, каб паўтарыць яшчэ больш пераканаўча і ўрачыста, што ён вінаваты, што сьмерць яго справядлівая і нават залішне лёгкая; магутнасць духа, сыноўняя шанаванне і павага да царскай улады дапамагаюць яму схаваць ад бацькі пакуты юнацкага цела, што гіне ў няраўнай барацьбе са сьмерцю. Сыходзячы ў іншы свет, гладыятар даруе свайму ганіцелю не із нізкай ганарыстасьці, але із міласэрднасьці – адзіна дзеля таго, каб змякчыць згрызоты сумлення, раздзіраючыя злачыннейшага із бацькоў. Да апошняга ўздоху царэвіч пераконвае бацьку ў сваёй адданасьці законнаму правіцелю Расіі і нарэшце, цалуючы забіўшую яго руку, благаслаўляючы Усявышняга, сваю краіну і свайго бацьку, засынае вечным сном.

Тут маё абурэнне пераходзіць у набожнае здзіўленне; я зачароўваюся цудоўнымі дарамі чалавечай душы, памятаючай аб сваім чароўным паходжанні паўсюль, нават там, дзе пануюць самыя заганныя звычаі і ўладкаванні... Але я не адважваюся працягваць: жахліва падумаць, што рабская пакорлівасць не пакінула слаўнага пакутніка нават каля варат рая.

Але не! Сьмерць стараніцца ліслівасьці ўсюды, нават у Расіі; не, не, гэты выпадак пераконвае нас толькі ў той выдатнай думцы, што самае разбэшчанае грамадства не здольна пераіначыць першапачатковую задуму Божую і што чалавек, які з'яўляецца, згодна Платона, паўшым Анёлам[143], заўсёды можа зрабіцца святым.

Царэвіч выпускае дух у падмаскоўным логаве тырана, названым Аляксандраўская Слабада. Якая трагедыя! Ні паганскі Рым, ні Рым хрысьціянскі не бачылі пастаноў, падобных развітанню Яна IV з яго вялікадушным нашчадкам.

Хоць рускія і не ўмеюць быць чалавечнымі, часам ім удаецца падняцца вышэй за ўсё чалавецтва. Яны абвяргаюць агульнавядомую прымаўку: “Хто на шмат што здатны, таму і малое хоць бы што”.

Карамзін, асуджаючы Яна больш строга, чым я, выказвае сумненні ў непрытворнасьці яго гора[144]. На самай справе, гараваў цар нядоўга – але, як мне здаецца, шчыра.

Дарэчы, трэба прызнаць, што гэтае выпрабаванне не змякчыла характар ізувера, і ён працягваў да канца сваіх дзён упівацца крывёю нявінных і касьцянець ў самай гнюснай распусце.

---

[143] Маецца на ўвазе вучэнне Платона пра цела як магілу душы («Федон»).

[144] Карамзін сумняваўся не ў шчырасьці янавага гора, але ў тым, што пакаянне падобнага злачынцы можа паслужыць пачаткам яго вяртання да справядлівага жыцця: «…ёсць, здаецца, мяжа ў зле, за якой ужо няма праўдзівага пакаяння; няма вольнага, незваротнага вяртання да дабра: ёсць толькі пакута, пачатак пякельны, без надзеі і змены сэрца. Ян стаяў ужо далёка за гэтай фатальнай мяжой: выпраўленне такога ката магло б спакусіць людзей слабых…» (т. 9. гл. 5).

Перад сьмерцю цар не раз загадвал аднесьці сябе ў палацавую скарбніцу. Там ён сквапна абводзіў згасаючым позіркам свае скарбы – не маючыя карысьці багацці, выпадаючыя із яго рук разам з жыццём!

На парозе сьмерці дзікі звер становіцца сатырам і ў прыпадку агіднай юрлівасьці абражае ўласную нявестку[145], юную і анёльскі чыстую жонку свайго другога сына Фёдара, стаўшага пасьля сьмерці царэвіча Яна спадкаемцай пасада. Маладая жанчына набліжаецца да смяротнага ложка цара, каб суцешыць яго ў перадсмяротных пакутах... але раптоўна адхіляецца і збягае, выпусьціўшы жахлівы лямант.

Так памёр Ян IV у Крамлі і... як ні цяжка ў гэта паверыць, быў аплаканы, горка аплаканы ўсёй нацыяй: вяльможамі і сялянамі, гараджанамі і святарствам – так, як калі б ён быў найлепшым із манархаў. Гэтыя праявы смутку, вольна або міжвольна, не занадта суцяшальныя для тых манархаў, чыё жыццё ўяўляе сабою ланцуг дабрадзействаў. Паўторым жа яшчэ і яшчэ раз, што нічым не стрымліваемы дэспатызм адурманьвае чалавечы розум. Захаваць розум пасьля дваццацігадовага знаходжання на расійскім пасадзе можа альбо анёл, альбо геній, але яшчэ з вялікім здзіўленнем і жахам я бачу, як заразліва вар'яцтва тырана і як лёгка ўслед за манархам губляюць розум яго падданыя; ахвяры становяцца добрасумленнымі пасобнікамі сваіх катаў. Вось ўрок, які дае нам Расія.

Падрабязная і цалкам праўдзівая гісторыя гэтай дзяржавы з’явілася б, верагодна, павучальнейшай із кніжак, аднак стварыць яе было немагчыма. Карамзін, паспрабаваўшы гэта зрабіць, ліслівіў сваім героям; на дадатак ён не дайшоў да ўступлення на пасад дынастыі Раманавых. Дарэчы, нават майго кароткага і прыглажанага апавядання дастаткова, каб даць вам разуменне аб падзеях і людзях, на якіх падарожнік міжволі звяртае разумовы позірк пры выяве жахлівых крамлёўскіх сьцен.

# Дадатак



Заканчваючы нарыс рускай гісторыі, напісаны мной ўжо пасьля вяртання ў Пецярбург, я хачу яшчэ раз паўтарыць, што мастацтва не здольна адлюстраваць ўражанне, якое выпрацоўвае архітэктурай гэтага пякельнага ўмацавання; стыль палацаў, турмаў і капніц, названых тут саборамі, рашуча не падобны ні на што із бачанага мною раней. Крэмль не мае ўзораў: ён пабудаваны не ў маўрытанскім, не ў гатычным, не ў антычным і нават не ў візантыйскім стылі[146], ён не нагадвае ні Альгамбру, ні ягіпецкія піраміды, ні грэцкія храмы (якую б эпоху мы ні ўзялі), ні архітэктурныя помнікі Індыі, Кітая, Рыма... Гэта, калі так можна сказаць, царская архітэктура.

---

[145] Гл.: Карамзін. т. 9. гл. 7.

[146] Магчыма, палеміка з Ансэла, які ў сваім апісанні падкрэслівае змешванне «індыйскага купала з гатычнай вежай, грэцкіх будынкаў з будынкамі ўсходнімі» (Ancelot. p. 256).

Ян – ідэальны тыран. Крэмль – ідэальны палац тырана. Цар – жыхар Крамля; Крэмль – жыллё цара. Я не аматар новых слоў, асабліва калі сам яшчэ не прывык да іх, але царская архітэктура – словаспалучэнне, неабходнае ўсякаму падарожніку; ніякія іншыя словы не здольны выказаць ўражанне ад Крамля; хто ведае, што такое цар, зразумее мяне.

Уявіце сабе аднойчы, у трывожным трызненні, што вы гуляеце па жыллю людзей, якія толькі што жылі і памерлі на вашых вачах, і вы адразу ў думках пераносіцеся ў Маскву – горад волатаў пасярод горада людзей, горад, дзе пабудовы грувасьцяцца адна на другую, дзе прытулак катаў суседнічае з прытулкам ахвяр. Гісторыя дапамагае зразумець, як яны паўсталі і як здарылася, што адзін із іх размясціўся ўнутры другога.

У сваім апісанні горада, населенага дапатопнымі веліканамі, спадар дэ Ламарцін, які не бачыў Крамля, угадаў яго аблічча. Нягледзячы на хуткасць, з якой была створана "Падзенне анёла", а магчыма, дзякуючы гэтай хуткасьці, набліжаючай паэму да імправізацыі, у ёй ёсць першакласныя месцы; "Падзенне анёла"- фрэска, французкая ж публіка пачала разглядаць яе ў лупу; яна пачала параўноўваць свежы вынік натхнення з завершаннымі творамі паэта; публіка памылілася[147] – гэта іншы раз здараецца і з публікай.

Прызнаюся, мне самаму для таго, каб варта ацаніць гэты эпічны эскіз, давялося дабрацца да сьцен Крамля і перагартаць крывавыя старонкі "Гісторыі дзяржавы Расійскай". Які ні баязьлівы Карамзін, чытанне яго кніжак павучальна, бо, нягледзячы на ўсю асцярожнасць гісторыка, нягледзячы на яго рускае паходжанне і забабоны, прышчэпленыя выхаваннем, гэта кніга напісана сумленным пяром. Гасподзь прызваў Карамзіна адпомсціць за зганьбаваных суайчыннікаў, – магчыма, паза яго і іхнай волямі. Не допусьці ён тых недагавароннасьцей, у якіх я яго папракаю, яму не дазволілі б пісаць: у гэтай краіне сумленнасць здаецца бунтам, а мая шчырасць будзе абвешчана здрадай. "Падобнымі словамі адзывацца пра краіну, дзе вас так выдатна прынялі!" Што б яны сказалі, калі б прынімалі мяне блага? Што мая кніга – нізкая помста. Я аддаю перавагу праславіцца няўдзячным. Із усіх гэтых думак, якія не маюць дачынення да сутнасьці справы, можна зрабіць толькі адзіную выснову: казаць пра Расію праўдзіва дазволена толькі таму, хто наогул не быў там прыняты.

Дадам да ўжо сказанага ўрыўкі, якія, як мне здаецца, выразна падцвярджваюць тое меркаванне аб рускіх і аб іхнай краіне, якое склалася ў мяне пад час майго падарожжа.

Пачну з выбачэнняў, якія Карамзін палічыў сваім абавязкам прынесьці дэспатычнай уладзе пасьля таго, як адважыўся намаляваць тыранічную ўладу; спалучэнне адвагі і баязьні, заўважаемыя ў гэтым фрагменце, выклікае ў вас, як

---

[147] «Падanne анёла» — паэма А. дэ Ламарціна (велічынёй каля 12 000 радкоў), складзена ў два прыёмы: у чэрвені-снежні 1836 г. і ў ліпені-снежні 1837 г.; выдадзена асобнай кнігай у Гасена 9 траўня 1838 г. Рамантычны багаборніцкі сюжэт увасоблены тут у эпічна-апісальнае атачэнне, што абумовіла непапулярнасць паэмы і з'едлівыя водгукі крытыкаў (прыкладам, Сэнт-Бёва). Апісанне дапатопнага горада ўтрымваецца ў сёмым «бачанні» паэмы Ламарціна.

выклікала ў мяне, захапленне, перамешанае са спачуваннем гісторыку, якому абставіны да такой ступені перашкаджалі растлумачыць свае думкі.

“Пасьля іга манголаў[148], Расія павінна была выпрабаваць і навальніцу самаўладцы-мучыцеля: выстаяла з павагай да Арыстакратыі[149], бо верыла, што Бог пасылае і язву, і землятрус, і тыранаў; не пераламіла жалезнага скіпетра ў Янавых руках, і дваццаць чатыры гады[150] цярпела згубцу, узброіўшыся адзіна малітваю і цярпеннем, каб, у лепшыя часы, мець Пятра Вялікага, Кацярыну Другую (гісторыя не любіць называць жывых). З вялікадушнай пакорай пакутнікі паміралі на лобным месцы, як грэкі ў Термапілах[151], за айчыну, за веру і вернасць не маючы нават думкі пра бунт[152]. Дарэмна некаторыя іншаземныя гісторыкі, тлумачачы янаву жорсткасць, пісалі пра змовы, быццам бы ёю знішчаныя, гэтыя змовы існавалі адзіна ў засмучаным розуме цара, згодна ўсім сведчанням нашых летапісаў і дзяржаўных папер. Святарства, баяры, знакамітыя грамадзяне не вызвалі б звера із прытона Аляксандраўскай слабады, калі б замышлялі здраду, ўзводзімую на іх гэтак жа недарэчна, як і чарадзейства[153]. Не, тыгр упіваўся крывёю агнцаў – і ахвяры, здыхаючы ў нявіннасьці, апошнім позіркам на бядотную зямлю патрабавалі справядлівасьці, пяшчотных успамінаў ад сучаснікаў і нашчадкаў!

**~ 55 ~**

Нягледзячы на ўсе абстрактныя тлумачэнні, характар Яна: героя цнотаў ў юнацтве, шалёнага крывапійцу ва ўзросьце мужнасьці і сталым узросьце, ёсць загадка для розуму, і мы б мелі сумненне ў праўдзівасьці самых дакладных звестак пра яго, калі б летапісы іншых народаў не паказвалі нам такіх жа дзіўных прыкладаў”.

Працягваючы сваю абарончую прамову, Карамзін выкарыстоўвае параўнанне, занадта прывабнае для Яна IV, і называе імёны Калігулы, Нярона і Людовіка XI, а затым усклікае: “Ізуверы па-за законам, па-за правіламі і верагоднасцямі розуму: гэтыя жахлівыя метэоры, гэтыя блукаючыя агні неўтаймаваных захапленняў асвечваюць для нас, праз прастору стагоддзяў, бездань магчымай чалавечай разбэшчанасьці, ды, пабачыўшы, здрыганемся! Жыццё тырана ёсць бедства для чалавецтва, але яго гісторыя заўсёды карысная для гасудароў і народаў: выклікаць агіду да зла значыць выклікаць павагу да дабрачыннасьці – і слава часу, калі ўзброены праўдаю дзееапісацель можа, пры

---

[148] Карамзін. т. 9. гл. 7.

[149] [заўвага аўтара] Я маю падазрэнне, што гэта памылка перакладчыка, і замест Арыстакратыі павінна быць напісана Аўтакратыі (Самаўладдзя), аднак я цытую пераклад даслоўна (Кюстын мае рацыю; у Карамзіна напісана: “павагай да самаўладззя”).

[150] [заўвага аўтара] Такім тэрмінам Карамзін абмежаваў тыранію Яна IV, хаця ў агульным гэты цар кіраваў пяцьдзесят гадоў.

[151] [заўвага аўтара] Праўдзіва рускае параўнанне, якое сведчыць, як мала карысьці прыносіць вывучэнне гісторыі, калі з яе робяць такія натужныя высновы. Дарэчы, паўтару яшчэ раз, Карамзін быў чалавек вялікага розуму; аднак ён нарадзіўся і жыў у Расіі. (Кюстыну здаецца неабгрунтаваным параўнанне трох соцень спартанцаў, якія загінулі, абараняючы ад персаў горны пераход Фермапілы (Тэрмапілы), які вёў да іх роднага горада, з рускімі баярамі, якія паміралі згодна з воляй рускага ж цара).

[152] [заўвага аўтара] І вы адважваецеся называць гэтых нізкапаклоннікаў пакутнікамі!

[153] [заўвага аўтара] Перапісваю пераклад слова ў слова.

Самаўладным кіраванні, выставіць на ганьбаванне такага ўладара, ды не будзе ўжо надалей яму падобных! Магілы не маюць пачуццяў; але жывыя страшацца вечнага праклёну ў гісторыі, які, не выпраўляючы злачынцаў, часам папярэджвае злачынствы, заўсёды магчымыя, таму што дзікія захапленні лютуюць і ў стагоддзі грамадзянскай асветы, загадваючы розуму маўчаць або рабскім голасам апраўдваць свае шаленствы".

Далей ідзе пахвальнае слова вылюдку. Усе гэтыя павучальныя выкручванні, усе гэтыя рытарычныя засьцярогі раптам становяцца крывавай сатырай; падобная нясмеласць вартая смеласьці, бо гучыць як выкрыццё – выкрыццё яшчэ больш уражваючае таму што нявольнае.

Тым не менш рускія, натхнёныя ўхвалай імператара, ганарацца талентам Карамзіна і захапляюцца ім із паслухмянасьці[154], хаця б значна правільней з іхнага боку было б выкінуць яго кнігу із усіх бібліятэк і выдаць іншае, выпраўленнае яе выданне, абвясціўшы першае апокрыфам, а яшчэ лепш – сказаць, што гэтага першага выдання ніколі не існавала і першым выйшла ў свет выданне другое.

Хіба не так робяць рускія з усякай непрыемнай для іх ісьцінай? У Санкт-Пецярбургу небяспечным людзям затыкаюць рот, а нязручныя факты абвяшчаюць не адбыўшыміся; дзякуючы гэтаму ўлады могуць дазволіць сабе ўсё, што заўгодна. Калі рускія не зробяць захадаў, каб абараніць дэспатызм ад удараў, якія наносіць яму кніга Карамзіна, гісторыя, амаль дакладна, адпомсціць ім, бо ў гэтай кнізе хоць бы часткова прыадчынена праўда пра Расію.

Еўрапейцы, насупраць, павінны вымаўляць імя Карамзіна з падзякай: хіба чужаземцу дазволена было б вырабляць пошукі сярод тых папер, да якіх атрымаў доступ рускі даследчык, які праліў святло на некаторыя эпізоды самай цёмнай із гісторый? Ужо адной гэтай акалічнасьці дастаткова для таго, каб асудзіць дэспатычнае кіраванне. Дэспат можа ўладарыць толькі ў цішыні і ў прыцемках!!!

Здаецца, аднак, Госпаду заўгодна, каб гэтая дзіўная краіна існавала пад пятою дэспатаў: асляпляючы народ, пісьменнікаў і вяльможаў, ён, аднак, – я вымушаны гэта прызнаць – вучыць абсалютных манархаў сцішаць жар агню ў пекле; тыранія зрабілася сёння менш цяжкай[155], хаця яе прынцыпы, не змяніўшыяся і па гэты дзень, занадта часта прыводзяць да жахлівых наступстваў: ўспомнім Сібір... ўспомнім падзямеллі Пятроўскага ўмацавання ў Пецярбургу, маскоўскія турмы, умацаванне Шлісельбург і шмат якія іншыя, невядомыя мне, нямыя вязніцы, узгадаем Польшчу...

---

[154] Шырокі спектр думак, выказаных сучаснікамі з нагоды «Гісторыі» Карамзіна, абагульнены ў кн.: Эйдэльмана М. Я. "Апошні летапісец". №, 1983; Казлова В. П. «Гісторыя дзяржавы Расійскай» М. М. Карамзіна ў ацэнках сучаснікаў". М., 1989 г.

[155] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «З тых часоў, як гэтыя радкі былі напісаны, факты аспрэчылі меркаванне, выказанае тут вандраўнікам: за мінулыя гады, а асабліва на працягу цяперашняй вайны тыранія зноў уваскрэсла ў Расіі і зрабілася, мабыць, яшчэ больш жудаснай, чым пад час валадарання Паўла І».

Шляхі Госпаднія невыведваемыя: людзі выконваюць яго волю, не разумеючы яе... Аднак, нягледзячы на сваё асляпленне, чалавек вечна адчувае патрэбу ў праўдзе і справядлівасьці: гэтая патрэба, якую нішто не здольна вытравіць із сэрцаў, – залог неўміручасьці, бо не на гэтым свеце наканавана ёй знайсьці задавальненне. Яна жыве ў нашай душы, але вытокі яе – не на зямлі, а на небе, куды яна нас і цягне.

Спірітуалізм, у якім зараз папракаюць хрыстыян тыя людзі, якія імкнуцца знайсьці ў Евангеллі падцверджанне сваёй палітыкі і жадаюць пакласьці задавальненне ў аснову рэлігіі, што грунтуецца на самаадрачэнні, – гэты спірытуалізм, ўяўляецца нам набожнай выдумкай нашых святароў, застаецца, між іншым, тымі адзінымі лекамі, дараванымі нам Госпадам для лячэння непазбежных хвароб, якія памнажае наша жыццё згодна яго і нашай волі.

Рускі народ – той із цівілізаваных народаў, чыё разуменне аб справядлівасьці найбольш хісткае і невызначанае; надаўшы Яну IV такую ж мянушку, якой раней быў узнагароджаны за подзвігі яго продак Ян III, рускія не ацанілі па вартасці ні слаўнага манарха, ні жорсткага сэрцам тырана; нават пасьля сьмерці гэтага апошняга яны працягвалі яму ліслівіць – хіба гэтая дэталь не характэрыстычная? Няўжо праўда, што ў Расіі тыранія безсмяротная? Зноў пасылаю вас да Карамзіна:



“На заключенне скажам[156], што добрая слава Яна перажыла яго худую славу ў народнай памяці: стогны змоўклі, ахвяры спарахнелі, і старыя паданні замяніліся новымі; але імя Яна зіхацела на Судзебніку і нагадвала пра набыццё трох мангольскіх царстваў: доказы жахлівых спраў ляжалі ў кнігасховішчах, а народ на працягу стагоддзяў бачыў Казань, Астрахань, Сібір, як жывыя манументы цара-заваёўніка; паважаў ў ім знакамітага заснавальніка нашай дзяржаўнай магутнасьці, нашага грамадзянскага ўсталявання; адхіліў або забыўся імя ката, дадзенае яму сучаснікамі, і згодна цёмных чутак аб жорсткасьці Яна із гэтага часу называе яго толькі Жахлівым, не разлічаючы ўнука і дзеда, так прызваным старажытнай Расіяй больш у хвалу, чым у дакор. Гісторыя больш злопомнячая чым народ!”

Як бачыце, абодвух, і вялікага правіцеля, і ізувера называюць Жахлівымі!.. Называюць не хто іншыя, як нашчадкі! Вось праведны суд рускага ўзору; сам час у гэтай краіне – памагаты несправядлівасьці. Лекуэнт Лаво у сваім “Даведніку па Маскве”, апісваючы царскі палац у Крамлі, не пасаромеўся выклікаць цень Яна IV і асьмеліўся параўнаць яго з Давідам, аплакваючым памылкі юнацтва[157]. Кніга Лаво напісана для рускіх.

Не магу адмовіць сабе ў задавальненні пазнаёміць вас з апошняй цытатай із Карамзіна; гэта – апісанне характара князя, якім Расія ганарыцца. Толькі рускі можа казаць пра Яна III так, як кажа Карамзін, і пры гэтым меркаваць, што вымаўляе хвалу манарху. Толькі рускі можа апісваць цараванне Яна IV так, як

[156] Карамзін. т. 9. гл. 7.

[157] Пазначанае параўнанне гл. у кнізе «Апісанне Масквы» (Laveau. т. 1. р. 168).

апісвае Карамзін, і закончыць сваё апавяданне словамі, прабачаючымі дэспатызм. Вось сапраўднае меркаванне гісторыка пра Яна III, вялікага продка Яна IV:

“Ганарысты ў стасунках з царамі[158], велічны ў прыёме іхных пасланнікаў, шанаваў пышную ўрачыстасць; уладкаваў звычай цалавання манаршай рукі як знака пахвальнай міласьці; хацеў і ўсімі вонкавымі сродкамі ўзвышаўся перад людзьмі, каб мацней дзейнічаць на іхнае ўяўленне; адным словам, спасцігшы таямніцы самаўладдзя, зрабіўся як бы зямным Богам для расійцаў, якія з гэтага часу (падкрэслена Карамзіным або яго перакладчыкам) пачалі здзіўляць ўсе іншыя народы сваёю бязмежнай пакорнасьцю манаршай волі. Яму першаму далі ў Расіі імя Жахлівы, але ў пахвальным сэнсе: жахлівага для вогараў і свавольных аслушэнцаў. Дарэчы, не будучы тыранам, падобна свайму ўнуку, Яну Васільевічу Другому, ён, без сумнення, меў прыродную жорсткасць у нораве, сцішаную ў ім магутнасьцю розуму. Рэдка заснавальнікі манархій славяцца пяшчотнай адчувальнасьцю, і цьвёрдасць, неабходная для вялікіх дзяржаўных спраў, мяжуе з суровасьцю. Пішуць, што нясмелыя жанчыны гублялі прытомнасць ад гнеўнага, палымянага янавага позірку; што прасіцелі баяліся падыходзіць да пасаду; што вяльможы дрыжалі і на пірах ў палацы баяліся шапнуць слова, ці крануцца з места, калі Гасудар, стомлены шумнай размовай, разгарачоны вінам, драмаў па цэлых гадзінах за абедам: усе сядзелі ў глыбокім маўчанні, чакаючы новага загаду весяліць яго і весяліцца. Ужо пазначыўшы строгасць Яна ў пакараннях, дададзім, што самыя знатныя чыноўнікі, свецкія і духоўныя, пазбаўляемыя сана за злачынствы, не вызваляліся ад жахлівага пакарання на Гандлёвай плошчы: так (у 1491) усенародна секлі пугай Ухтомскага князя, двараніна Хамутава і былога архімандрыта Чудаўскага, за падробленую грамату, складзеную імі на зямлю памёршага брата Яна.

Гісторыя не з’яўляецца пахвальным слова і не паказвае самых вялікіх мужоў дасканалымі. Ян, як чалавек, не меў ветлівых уласьцівасцей ні Манамаха, ні Данскога, але як гасудар стаіць на вышэйшай ступені велічы. Ён часам здаваўся баязлівым, нерашучым, бо хацеў заўсёды дзейнічаць асьцярожна. Гэтая асьцярожнасць з’яўляецца наогул разважлівасцю: яна не зачароўвае нас падобна вялікадушнай сьмеласьці; але павольнымі поспехамі, быццам бы няпоўнымі, надае сваіх тварэнням трываласць. Што пакінуў свету Аляксандр Македонскі? Славу.[159] Ян пакінуў дзяржаву, здзіўляючую прасторамі, моцную народамі, яшчэ нацнейшую духам кіравання, тую, якую зараз мы з павагай і гонарам называем нашай шануемай Бацькаўшчынай”.



Ухвалы гісторыка-царадворца цару-герою здаюцца мне ніколькі не менш выразлівымі, чым яго нясмелыя папрокі цару-тырану. Відавочнае падабенства панегірыка слаўнаму кіраўніку з прысудам вылюдку дазваляе ацаніць, наколькі

---

[158] Карамзін. т. 6. гл. 7.

[159] Імя Аляксандра Македонскага фігуруе толькі ў рускім тэксьце Карамзіна; у французскім перакладзе ў гэтым месцы сказана проста: «Колькі вялікіх герояў пакінулі нашчадкам адну толькі славу!»

цьмяныя ідэі і пачуцці, захапіўшыя лепшыя рускія розумы. У гэтым неразлічэнні дабра і зла – неразуменне таго, якая велікая прорва, падзяляючая Расію і Яўропу.

Сапраўдным заснавальнікам Расійскай імперыі ў тым выглядзе, у якім яна існуе і дагэтуль, быў менавіта Ян III; ён жа загадаў пабудаваць на месцы драўлянага Крамля каменны. Вось яшчэ адзін грозны гаспадар гэтых сьцен, яшчэ адзін дух, які мае поўнае права наведваць гэты палац і апускацца на верхавіны яго вежаў!!!

Ян III, намаляваны Карамзіным, цалкам мог бы вымавіць прыпісваемыя яму словы: "Я пакіну Расію таму, каму пажадаю". Так ён адказаў баярам, калі тыя запатрабаві было, каб ён прызначыў сваім нашчадкам унука, між тым як ён хацеў пакінуць пасад сваёй другой жонцы; дарэчы сказаць, рускія цары да гэтага часу распараджаюцца каронай згодна са сваімі меркаваннямі[160]. Якой жа павінна была быць доля стану, званага знаццю, у краіне, кіруемай падобным чынам?

Пятро Вялікі паўшоў следам за прыкладам Яна III і таксама паставіў спадкаемства пасада ў залежнасць ад царскай волі. Гэты гасудар-рэфарматар стаў падобны на папярэдніка-тырана, забіўшы ўласнага сына і яго так званых саўдзельнікаў. Фрагмент із кнігі спадара дэ Сегюра, із якім я вас зараз пазнаёмлю, даводзіць, што вялікі рэфарматар быў значна большым злыднем, чым лічылі гісторыкі раней. Французскі пісьменнік апавядае пра законы, выдадзеныя Пятром Вялікім, аб каварным абыходжанні гэтага манарха з яго няшчасным сынам, аб пакаранні святароў і іншых асоб, якія падтрымлівалі юнага царэвіча ў яго барацьбе супраць перанятай у Захада цывілізацыі, якую бязлітасны заснавальнік новай Расійскай імперыі загадаў сваім падданым шанаваць як святыню.

"Статут вайсковы, із двух частак і дзевяноста адной главы складаючыся, выдаваўшыся пачынаючы з 1716 года.

Яго пачатак варты ўвагі[161]: ці то праз шчырую набожнасьць, ці то праз палітычныя меркаванні і жаданне захаваць такую дзейсную прыладу ўплыву на падданых, як рэлігія, цар пачынае са сцвярджэння, што із усіх сапраўдных хрыстыян ваяр – той, чые звычаі павінны быць самымі сумленнымі, годнымі і хрысціянскімі; ратнік-хрыстыянін павінен быць заўсёды гатовы паўстаць перад

---

[160] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Абыякавасць да таго, хто будзе тваім наступнікам, — адметная рыса тыранаў. Такая безсаромная пагарда да чалавецтва ўласцівая толькі людзям, разбэшчаным доўгім злоўжываннем абсалютнай уладай». Парадак перадачы пасада ў спадчыну, скасаваны Пятром I (гл. заўвагу. да т. 1, стр. 205), быў адноўлены ў 1797 г. Паўлам I; што ж да перадачы ўлады Мікалаю Паўлавічу (згодна з маніфестам Аляксандра I ад 16 жніўня 1823 г. — гл. заўвагу. да т. 1, стр. 259), то гэты эпізод мог трактавацца як парушэнне ўсталяванага правіла.

[161] «Артыкул вайсковы, выдадзены ў Санкт-Пецярбургу лета Госпадняга 1715 красавіка 26 дня» абвяшчае: «Хотя всем обще и каждому христианину без изъятия надлежит христианско и честно жить и не в лицемерном страхе Божии содержать себя, однако же сии солдаты и воинские люди с вящею ревностию уважать и внимать имеют, понеже оных Бог в такое состояние определил, в котором оные часто бывают, что ни единого часа обнадежены суть, чтоб они наивящим опасностям живота в службе Государя подвержены не были, и понеже всякое благословение, победа и благополучие от единого Бога всемогущего, яко от истинного начала всего блага и праведного победодавца, происходит, и оному только молиться и на него надежду полагати надлежит, и тако сие наипаче всего иметь во всех делах и предприятиях, и всегда благо содержать…» …» (стр. 1-2).

Богам, інакш ён не будзе здольны з поўнай самаадданасьцю ў любую хвіліну аддаць жыццё за бацькаўшчыну. На заключэнне Пятро прыводзіць словы Ксенафонта пра тое, што пад час змаганняў тыя, хто больш за ўсё баіцца бога, менш за ўсё баіцца людзей! Ён прадугледжвае пакаранні за самыя дробязныя злачынствы супраць Госпада, маральнасьці і гонару, за парушэнні дысцыпліны і нават прыстойнасьцей, як быццам бы ён жадаў ператварыць сваё вайска ў нацыю ўнутры нацыі, зрабіць яе ўзорам для ўсіх астатніх падданых.

Але менавіта на гэтай ніве з жахлівай лёгкасьцю разквітнеў яго дэспатычны геній! – Уся дзяржава, – казаў ён, – заключана ў гасудары, усё ў дзяржаве павінна здзяйсняцца яму на блага, абсалютнаму і дэсатычнаму манарху, які не абавязаны даваць справаздачу ў сваіх дзеяннях нікому, акрамя Бога! – Таму ўсякая абраза яго асобы, усякае непрыстойнае меркаванне пра яго ўчынкі і намеры павінны карацца сьмерцю[162].

Ставячы сябе, такім чынам, па-за і вышэй усякіх законаў ў 1716 годзе, цар нібы рыхтаваўся да жахлівага дзяржаўнага перавароту, якім заплямiў сваю славу у 1718 годзе”. (Гісторыя Расіі і Пятра Вялікага, твор спадара графа дэ Сегюра. Другое выданне. Бодуэн, Парыж, Кніга XI, глава VI, с. 489, 490.)

Далей спадар дэ Сегюр піша[163]: “У верасні 1716 года царэвіч Аляксей, жадаючы выратавацца ад нараджаючайся рускай цывілізацыі, шукае прыстанішча ва ўлонні цывілізацыі еўрапейскай. Ён аддае сябе пад заступніцтва Аўстрыі і таемна пасяляецца із палюбоўніцай ў Неапалі.

Пятро раскрывае таямніцу яго месцазнаходжання. Ён піша царэвічу ліст, пачынаючыся яго маючымі рацыю папрокамі і заканчваючы пералікам жахлівых бедстваў, якія пагражаюць Аляксею, калі той не паслухаецца загадаў бацькі.

Вось галоўная думка гэтага ліста: “Будзе ж пабаішся мяне, то я цябе запэўніваю і абяцаю Богам і судом яго, што ніякага пакарання табе не будзе, але лепшую павагу выкажу табе, калі волі маёй паслухаеш і вернешся”[164].

Паверыўшы гэтай урачыстай клятве бацькі і гасудара, Аляксей 3 лютага 1718 года вяртаецца ў Маскву і на наступны ж дзень яго пазбаўляюць зброі і волі, ладзяць допыт і з ганьбай забіраюць ў яго і яго нашчадкаў права спадкаемнічаць расійскі пасад; калі ж ён калі-небудзь асмеліцца выказаць права на карону, яго чакае праклён.



[162] Артыкул 20 паведамляе: «Кто против его величества особы хулительным словом погрешит, его действа и намерения презирать и непристойным образом в том рассуждать будет, оный имеет живота лишен быть и отсечением главы казнен. Толкование. Ибо его величество есть самовластный монарх, который никому на свете о своих делах ответу дать не должен, но силу и власть имеет, свои государства и земли, яко христианский государь, по своей воле и благомнению управлять…» (Артыкул вайковы стр. 15).

[163] Кюстын падзяляе меркаванне Сегюра, які ўскладае адказнасць за забойства царэвіча Аляксея на Пятра; цікава, што і гэта Кюстыну ставілі ў віну, супрацьпастаўляючы яго версіі афіцыйную трактоўку падзей: цар зрабіў для сына ўсё, што мог, але ён не меў права парушыць закон і не перадаць на суд здрадніка радзімы (гэтага патрабавалі суддзі і святарства); калі царэвіч пачуў смяротны прысуд, з ім здарыўся ўдар, і ён памёр на руках у дараваўшага яго бацькі (Duez. p. 29).

[164] Сегюр абапіраўся на «Аб'яву» і «Вышуковую справу» — гісторыю суда і вышуку над царэвічам Аляксеем, надрукаваныя адразу пасьля сьмерці царэвіча згодна з загадам Пятра на рускай і некалькіх еўрапейскіх мовах.

Горш за тое: яго знявольваюць ва ўмацаванні. Там штодня і штоноч венцаносны бацька, парушыўшы сваю клятву, законы прыроды, а таксама і дзяржаўныя законы, уласнаручна ім напісанныя[165], дапытвае празмерна даверлівага сына; наладжанае Пятром палітычнае судзілішча не саступае ў вераломстве і жорсткасьці рэлігійным судзілішчам часоў інквізіцыі. Ён катуе палахлівы розум няшчаснага царэвіча апавяданнямі пра разнастайныя нябесныя і зямныя пакаранні; ён прымушае яго зрабіць даносы на сяброў, сваякоў і нават на ўласную маці, нарэшце, вымушае яго сознацца, што ён вінаваты, не варты жыцця і заслугоўвае сьмерці.

Гэта злачынства, працягвалася пяць месяцаў. Высылка і пазбаўленне маёмасьці шмат каго із вяльможаў, пазбаўленне ад спадкаемства пасада сына, зняволенне ў вязьніцу сястры[166], затачэнне ў кляштар і бічаванне бізуном першай жонкі[167], пакаранне шурына[168] – усяго гэтага цару мала.

Генерал Глебаў, абвінавачаны ў палюбоўнай сувязі з былой царыцай, быў пасаджаны на кол пасярод эшафота, у чатырох кутках якога выстаўлены на ўсеагульны агляд галавы аднаго япіскапа, аднаго баярына і двух саноўнікаў[169], калясаваных і пазбаўленых галоў ў той жа самы дзень[170]. Гэты жахлівы эшафот у сваю чаргу аточаны каламі, на якія насаджаны галавы больш чым пяці дзесяткаў святароў і іншых грамадзян.

Такой жахлівай была помста цара тым, чые інтрыгі і забабоны вымусілі непахіснага манарха прынесьці сына ў ахвяру імперыі! Аднак той, хто абрынуў на людзей усе гэтыя кары, быў стократ больш вінаваты: бо што можа служыць апраўданнем столькім жорсткасьцям? Горш за тое: мяркуючы па ўсім, пад дзеяннем той падазронасьці, што ўласьціва кіраўнікам, парушаючым прыродны парадак, Пятро ўпарта шукаў і знаходзіў змовы там, дзе іх не было; людзі, якіх ён падазраваў у мецяжы, проста-напраста таемна не падтрымлівалі яго рэформы, нічога не робячы і спадзяючыся адзіна на яго сьмерць.

Між тым нават за такое жахлівае кровапусканне цар быў ганараваны лісьлівымі ўхваламі! Герой Палтавы сам ганарыўся гэтым зладзействам, як перамогай у бітве. “Калі агонь знойдзе салому, – казаў ён, – то яе пажырае, але як толькі дойдзе да каменя, то сам сабою згасае”. З гэтымі словамі ён абыякава хадзіў сярод караемых. Кажуць нават, што, ганімы крыважэрнасьцю і трывогай,

---

***165*** [заўвага аўтара] Гл. ў яго Зборы законаў, гл. IV, параграфы 1 і 2.

166 Царэўны Саф'і, якая згодна з загадам Пятра была накіравана ў Новадзявочы кляштар і ў 1698 г. была пастрыжана ў манашкі пад імем Сусанны.

167 Еўдакіі Лапухіной (гл. пра яе заўвагу да гэтага, таму, стр. 180).

168 Аўраама Фёдаравіча Лапухіна, які на падставе сведчанняў царэвіча Аляксея быў пакараны сьмерцю 8 снежня 1718 г.

169 Адначасна са Сцяпанам Глебавым (не генералам, а маёрам гвардыі) 16 сакавіка 1718 г. былі пакараны сьмерцю разстрыжаны архірэй Дасіфей Растоўскі, дзяншчык Пятра І Аляксандр Васільевіч Кікін і ключар Фёдар Пустэльны.

***170*** [заўвага аўтара] Глядзі ў Бруса

(Брус Піцер Генры (1692-1757), шатландзец, у 1710-1723 гг. знаходзіўся на рускай службе, пляменік паплечніка Пятра І Я. В. Бруса, аўтар выдадзеных у Лондане ў 1782 г. “Нататак” пра Расію. У другой палове XIX стагоддзя іхная праўдзівасць была аспрэчана (гл.: Устралаў. с. 293), аднак Сегюр быў перакананы ў іхнай праўдзівасьці (гл.: Segur. p. 548).)

ён працягваў дапытваць Глебава на эшафоце, і той, знакам папрасіўшы свайго ката наблізіцца, плюнуў яму ў твар.

Уся Масква выявілася вузілішчам; выехаць за яе межы без ведама манарха азначала здзейсніць, недаруемае злачынства. Жыхары горада былі абавязаны пад пагрозай сьмерці шпіёніць за суседзямі і даносіць на іх.

Аднак галоўная ахвяра Пятра – яго сын, абяздолены, зламаны гібеллю блізкіх, – быў яшчэ жывы. Цар вырашыў перавезьці яго із маскоўскай вязніцы ў пецярбургскую.

Тут ён працягвае катаваць душу сына, вырываючы ў яго прызнанні ва ўсіх, нават самых нікчэмных, учынках; кожны дзень ён з жахлівай уніклівасьцю запісвае ўспаміны царэвіча аб выказаных ім раздражненні, непакорлівасці або свавольстве; радуючыся кожнаму новаму адкрыццю, збіраючы разам усе стогны і слёзы, ён падводзіць ім вынік, у сваёй несумленнасьці імкнучыся паказаць усе гэтыя непрыемнасьці і нясмелыя спробы непадпарадкавання цяжкім грахом, які і ляжа на чашу вагаў царскага правасудзя[171].

Калі ж, патлумачыўшы словы царэвіча ў патрэбным яму накірунку, ён пераконваецца ў думцы, што стварыў із нічога нешта, ён спяшаецца склікаць сваіх адданейшых рабоў. Ён пасвячае іх у свой д'ябальскі план, раскрывае перад імі сваю лютую і дэспатычную задуму з варварскай прастадушнасьцю, з наіўнасьцю тырана, асьлепленага ўседазволеннасьцю і ўпэўненасьцю, што яго воля вышэй за праўдзівы суд, а яго мэта – на шчасьце, вялікая і карысная – апраўдвае ўсякія сродкі.

Ахвяру, якая прыносіцца палітычным інтарэсам, ён хоча растлумачыць інтарэсамі праўдзівага суда. Ён жадае апраўдаць сябе за кошт загубленага ім сына і прымусіць замаўчаць докучаючыя яму галасы сумлення і прыроды.

Пераканаўшыся, што складзены ім абвінаваўчы акт неаправержны, абсалютны манарх ззывае сваіх набліжаных. Яны, усклікае ён, “зараз ужо дастаткова ведаюць[172] пра малавядомае ў сьвеце злачынства сына майго супраць нас, як свайго бацьку і свайго гасудара”. Адзін толькі цар мае права судзіць злачынцу, аднак ён просіць дапамогі, бо “баіцца Бога, каб не зграшыць”, на дадатак жа “з прысягаю суда Божага пісьмова абяцаў гэтаму свайму сыну прабачэнне і потым славесна пацвердзіў...”. Як следства, ім, набліжаным цара, трэба будзе вымавіць царэвічу прысуд, не бяручы да ўвагі яго званне і думаючы толькі аб выратаванні айчыны. Дарэчы, да гэтага загаду, зразумелага і жахлівага, ён дадае із грубай хітрасьцю, што суддзям патрэбна пастанавіць без ліслівасьці і баязьні, ці не варты яго сын толькі лёгкага пакарання.



Рабы зразумелі гаспадара: яны здагадаліся, пра якую жахлівую паслугу ён іх просіць. Сьвятары, спасылаючыся на Пісанне, прывялі аднолькавую колькасць

[171] [заўвага аўтара] Хіба ў гэтым эпізодзе Пятро Вялікі не больш агідны, чым Ян IV Жахлівы – калі, вядома, можна быць больш агідным?

[172] Цытата із «Аб'явы святарству і грамадзянскім чынам» 13 чэрвеня 1718 г., апублікаванай у «Вышуковай справе» (гл.: Устралаў. стр. 515).

выпісак на карысць прабачэння і на карысць асуджэння і не асмеліліся аддаць перавагу першаму, а пра царскую клятву пабаяліся нават згадаць.

Саноўнікі ж, колькасць якіх у Вярхоўным судзе дасягала ста дваццаці чатырох чалавек, павінаваліся цару. Яны аднагалосна і беспярэчна выказаліся за сьмерць царэвіча; дарэчы, гэты прысуд асуджае іх саміх куды больш сурова, чым іхную ахвяру. Агідна бачыць намаганні гэтага натоўпу рабоў апраўдаць гаспадара – клятвапарушальніка; іхная подлая хлусня, дадаючыся да хлусні Пятра, толькі паглыбляе яго віну!

Цар непахісны: нішто не можа спыніць яго: ні час, утаймоўваючы гнеў, ні згрызоты сумлення, ні пакаянне няшчаснага царэвіча, ні яго слабасць, пакорлівасць, маленні! Адным словам, усё, што звычайна памякчае і абязбройвае нават суддзяў, якія маюць справу са староннімі, з ворагамі, не кранае сэрца бацькі, вырашаючага лёс уласнага сына.

Больш таго: не задавальняючыся роляй суддзі і абвінаваўцы, Пятро становіцца царевічу катам. 7 ліпеня 1718 года, на наступны дзень пасьля абвяшчэння прысуду, ён разам са світай прыходзіць у цямніцу: развітацца з сынам і аплакаць яго; можна падумаць, што сэрца цара нарэшце здрыганулася, але ў гэтую самую хвіліну ён пасылае за моцным напоем, якое падрыхтаваў ўласнаручна! Не маючы магчымасьці стрымаць нецярпенне, ён прыспешвае ганца і выходзіць – дарэчы, у вялікім смутку[173], – толькі напаіўшы няшчаснага, які ўсё яшчэ моліць яго аб памілаванні, атрутай[174]. А затым прыпісвае гібель царэвіча, праз некалькі гадзін выпусціўшага дух у страшных пакутах, жаху, які выклікаў у яго смяротны прысуд! Цар задавальняецца гэтым недарэчным апраўданнем, лічачы, што яно адпавядае грубым норавам яго набліжаных; дарэчы, ён загадвае ім маўчаць, і яны выконваюць загад так старанна, што калі б не запіскі чужаземца (Бруса), сведку і нават удзельніка гэтай агіднай драмы, яе жахлівыя падрабязнасьці засталіся б назаўжды схаванымі ад нашчадкаў”[175]. (Гісторыя Расіі і Пятра Вялікага, твор спадара графа дэ Сегюра, кніга X, глава III, с. 438-444.)

# Ліст дваццаць сёмы

*Англійскі клуб. – Новае наведванне крамлёўскай кладовой. – Асаблівасьці маскоўскай архітэктуры. – Уваскліцанне спадарыні дэ Сталь. – Перавага невядомага падарожніка. – Кітай-горад – купецкі квартал. – Іверская Багамаці. – Рускія цуды, засведчаныя італьянцам. – Помнік Мініну і Пажарскаму. – Храм*

[173] [заўвага аўтара] Аплакваць уласную ахвяру – сапраўдная руская рыса.

[174] Версія пра атручванне царэвіча Аляксея, маючая крыніцай сведчанні Бруса, пазней была аспрэчана. Пра розныя версіі сьмерці царэвіча гл.: Эйдэльман Н. Я. “Із патаемнай гісторыі Расіі XVIII-XIX стагоддзяў”. М., 1993, з. 50-80.

[175] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Ці паставім мы пад сумнеў акалічнасці сьмерці Аляксея толькі таму, што гэтая смерць напамінае смерць царэвіча Яна? Пар. апавяданне пра ўчынак вялікага князя Кастуся» (гл. гэты, том, стр. 122).

*Васіля Блажэннага. – Як цар Ян узнародзіў дойліда. – Святыя вароты. – Чаму, уваходзячы ў іх, трэба абавязкова агаліць галаву. – Перавага веры перад розумам. – Кантрасты ў абліччы Крамля. – Успенскі сабор. – Іншаземныя майстры. – Чаму прыйшлося выпісаць іх у Маскву. – Фрэскі. – Званніца Яна Вялікага. – Царква Спаса на Бары. – Вялізны звон. – Цудаў і Вазнясенскі кляштары. – Магіла царыцы Алены, маці Яна IV. – Шапка Манамаха. – Сібірская карона. – Польская карона. – Разважанні. – Чаканеныя чашы. – Шкляны посуд выключнай прыгажосьці. – Насілкі Карла XII. – Цытата із Мантэня. – Дзіўная гістарычная падрабязнасць. – Параўнанне рускіх вялікіх князёў з сучаснымі ім манархамі. – Святочныя карэты цароў і патрыярха маскоўскага. – Палац сучаснага імператара ў Крамлі. – Іншыя палацы. – Кутні палац. – Асаблівасьці яго архітэктуры. – Новыя пабудовы, пачатыя ў Крамлі згодна загаду імператара. – Апаганьваньне святыні. – Памылка імператара Пятра і імператара Мікалая. – Дзе дарэчы знаходжанне сталіцы Расійскай імперыі. – Чым магла б стаць Масква. – Пажар пецярбургскага палаца – нябесная адзнака. – Задума Кацярыны II, часткова ажыццёўленая Мікалаем. – Від із крамлёўскага ўзвышша на вячэрнюю Маскву. – Заход сонца. – Ход ў падзямелле. – Маскоўскі пыл ноччу. – Вераб'ёвы горы. – Успаміны аб французкім войску. – Словы імператара Наполеона. – У Расіі небяспечнай быць западозраным ў гераізме. – Барацьба пасрэднасцей. – Доўг абсолютных манархаў. – Растопчын. – Ён баіцца праславіцца вялікім чалавекам. – Яго брашура. – Якія высновы можна з яе атрымаць. – Падзенне Напалеона: да чаго яно прывяло ў канчатковым рахунку. – Людовік XIV. – Гістарычны феномен.*

**~ 60 ~**

**Масква, 11 жніўня 1839 года, вечар**[176].

Маё вока баліць менш, і ўчора, пакінуўшы сваю вязніцу, я выправіўся абедаць ў Англійскі клуб[177]. Гэта адмысловы рэстаран, куды госьці дапускаюцца толькі згодна рекамендацыі аднаго із сталых наведвальнікаў, належачых да выбранага маскоўскага грамадства. Гэтая ўстанова, уладкаваная, як і нашы парыжскія гурткі, згодна ангельскага ўзору, адкрылася параўнальна нядаўна. Я распавяду вам пра яго ў іншы раз.

У цяперашняй Яўропе магчымасьці стасункаў паміж краінамі палегчыліся настолькі, што знайсьці самабытныя звычаі або звычаі, якія з’яўляюцца выразам характара, зрабілася рашуча немагчыма. Звычкі ўсіх сучасных народаў пасутнасьці следства шматлікіх перайманняў: змешванне ўсіх нацыянальных характараў у ступе сусветнай цывілізацыі надае норавам аднастайнасць, малапрыемную для вачэй падарожніка; між тым ніколі яшчэ падарожжы не былі ў такой модзе. Уся справа ў тым, што большасць із людзей кранаюцца з места не столькі із павагі да набыцця ведаў, колькі із нуды. Я не належу да ліку падобных вандраўнікоў; мая цікаўнасць бязмежная, і кожны дзень я на ўласным вопыце пераконваюся, што разнастайнасць – самая рэдкая рэч на гэтым сьвеце,

---

[176] Згодна са старым стылем 30 ліпеня.

[177] Ангельскі клуб, прывілеяваная зачыненая ўстанова, заснаваная ў 1770 г., размяшчаўся на Вялікай Зьмітраўцы.

аднастайнасць жа ўражанняў – біч падарожніка, бо ставіць яго ў становішча дурня – становішча самае непрыемнае менавіта таму, што самае распаўсюджанае.

Людзі выпраўляюцца падарожнічаць, каб часова пакінуць той свет, дзе пражылі ўсё сваё жыццё, – і не дасягаюць мэты: сёння цывілізацыя дайшла да самых аддаленых куткоў зямнога шара. Чалавечы род пераплаўляецца ў адзінае цэлае, розніца паміж мовамі сьціраецца, гаворка, на якой мы пішам, знікае, нацыі адмаўляюцца ад саміх сябе, філасофія зводзіць рэлігію да ўнутранай справы кожнага верніка, і гэты млявы каталіцызм будзе служыць людзям аж да таго дня, калі яго новы росквіт азнамянуе нараджэнне новага грамадства. Хто можа сказаць, калі завершыцца гэтае пераўтварэнне рода чалавечага? Нельга не ўбачыць ва ўсім тым, што адбываецца зараз, волю Божую. Вавілонскае змешванне моў хутка сыдзе ў мінулае; нацыі пачнуць разумець адна адну, нягледзячы на ўсе, што іх раз'ядноўвае.

Сёння я пачаў дзень із падрабязнага і грунтоўнага агляду Крамля ў кампаніі с-ра ***, да якога меў рэкамендацыйны ліст[178]; так, я зноў выправіўся ў Крэмль! Для мяне Крэмль – гэта ўся Масква, уся Расія! Крэмль – цэлы свет! Мясцовы слуга з раніцы пайшоў у Збройную палату папярэдзіць храніцеля, і той ужо чакаў нас. Я думаў, што ўбачу звычайнага вартаўніка, але нас сустрэў афіцэр, чалавек адукаваны і пачцівы.

Кремлеўская кладавая – прадмет законнага гонару рускіх; яна магла б замяніць Расіі летапісанне, бо гэта яе гісторыя, напісанная каштоўнымі камянямі, падобна таму, як рымскі форум – гісторыя, напісанная камянямі цёсанымі.

Залатыя чашы, даспехі, старажытная мэбля – усе гэтыя рэчы выстаўлены тут не толькі праз іхную прыгажосць; кожная із іх служыць нагадваннем аб якой-небудзь слаўнай, дзіўнай, незабыўнай падзеі. Але перш, чым адлюстраваць ці, дакладней, коратка пералічыць вам скарбы, якія захоўваюцца ў арсенале, якому, я лічу, няма роўных ў Яўропе, я хачу, каб вы ў думках прарабілі разам са мною

[178] М. Кадо (Cadot. p. 198) выказаў здагадку, што гэтым «даведнікам» Кюстына, роўна як і яго суразмоўцам у Ангельскім клубе (гл. ніжэй, у лісьце дваццаць восьмым), мог быць Чаадаеў. Аспрэчваць гэту кандыдатуру на той падставе, што Чаадаеву было забаронена знаходзіцца ў грамадстве (гл.: Mazour A. G. Petr Jakovlevic Taadaev // Monde slave. 1937, novembre. p. 243-266; Cadot, p. 199), падстаў няма: гвалтоўнае пустэльніцтва пасьля публікацыі ў «Тэлескопе» першага «Філасафічнага ліста» працягвалася год і месяц і скончылася яшчэ ў лістападзе 1837 г. (гл.: Рускае грамадства 30-х гадоў XIX стагоддзя. М., 1989. стр. 102-103); у ліпені 1839 г. А. Я. Тургенеў паведамляў брату, што Чаадаеў «зараз бывае ўсюды» (РАІЛІ. Ф. 309. № 706. л. 11 об.). Аднак прапанаваная версія выглядае не вельмі верагоднай псіхалагічна: Чаадаеў, які надзвычай высока шанаваў самога сябе, наўрад ці пагадзіўся б служыць «чычэронэ» заезджаму французу. У дадатак, да Чаадаева ў Кюстына рэкамендацыйнага ліста не было; А. Я. Тургенеў прасіў стаць пасярэднікам паміж французскім вандроўнікам і «басманным філосафам» П. А. Вяземскага, з якім, аднак, Кюстын у Пецярбургу не сустрэўся (гл.: НЛА. 3. 107-109) і, такім чынам, здабыць ліст да Чаадаева магчымасьці не меў. Пра верагоднасць сустрэчы Кюстына з Чаадаевым гл. таксама ніжэй, заўвагу да гэтага, тома, стр. 446. Із маскоўскіх жыхароў Кюстын меў рэкамендацыйны ліст да ўладальніка моднай крамы Маціяса, брата Тэрэзы Корф, жонкі вядомага лекара і магнетызёра Давыда Фрыдрыха Корфа (1783-1851), які напачатку 1810-х гг. быў каханкам Дэльфіны дэ Кюстын (гл.: Tarn. p. 514), аднак далейшае далучэнне с-ра *** да «найбольш адукаваных із рускіх» не дазваляе атаясамляць суразмоўцу Кюстына з нямецкім купцом.

той шлях, якім я ішоў да гэтай сьвятыні, годнай глыбокай пашаны рускіх і захаплення чужаземцаў.

Выехаўшы із Вялікай Дзьмітраўскі, я перасёк, як і раней, некалькі плошчаў, на якія выходзяць стромкія, але прамыя вуліцы; ва ўмацаванне я праехаў праз вароты, якія карыстаюцца тут такой славай, што мясцовы служка не палічыўшы патрэбным спытаць майго меркавання, загадаў фурману спыніць карэту, каб я мог атрымаць асалоду ад іхнага выгляду!.. Гэтыя варота зроблены ў вежы, такой жа дзіўнай, як і ўсе пабудовы у старым цэнтры Масквы.

Я не быў у Канстантынопалі[179], але лічу, што пасьля яго Масква – самая дзіўная із усіх еўрапейскіх сталіц. Гэта – сухапутны Візантый. Дзякаваць Богу, плошчы старажытнай сталіцы не такія вялікія, як пецярбургскія, сярод якіх згубіўся б нават рымскі сабор Святога Пятра. У Маскве помнікі размешчаны не так далёка адзін ад аднаго і таму вырабляюць куды большае ўражанне. Тут гісторыя і прырода не дазваляюць разгуляцца дэспатызму прамых ліній і сіметрычных планаў; Масква, перш за ўсё, жывапісная. Неба над Масквой хоць і не безвоблачнае, але радуе вачы серабрыстым бляскам; узоры архітэктуры ўсіх гатункаў грувасьцяцца на вуліцах без усялякага ўпарадкавання і плана; ні адна пабудова не можа быць названа дасканалай, але ўсе яны разам выклікаюць калі не захапленне, то здзіўленне. Няроўнасьці глебы памнажаюць выдатныя выявы. Цэрквы, завершаныя купаламі, якіх нярэдка больш, чым патрабуе праваслаўнае вучэнне, зіхацяць чароўным бляскам. Незлічоныя пазалочаныя пірамiды і званніцы ў форме мінарэтаў накіроўваюць свае вяршыні ў лазурнае неба; усходняя альтанка, індыйскі купал пераносяць вас у Дэлі, данжоны і вежачкі вяртаюць ў Яўропу часоў крыжовых паходаў, вартавы на версе вартавой вежы нагадвае муэдзіна, сзываючаго мусульман на малітву; нарэшце, канчаткова перапутваюць вашыя думкі бліскаючыя паўсюль крыжы, загадваючыя народу пасьці ніц перад Словам, здаецца, быццам гэтыя крыжы спусьціліся ў азіяцкую сталіцу з неба, каб пазначыць тутэйшым жыхарам вузкі шлях да выратавання: магчыма, менавіта гэтая паэтычная выява пераканала спадарыню дэ Сталь усклікнуць: “Масква – гэта паўночны Рым!”[180]



Уваскліцанне не надта справядлівае, бо паміж гэтымі двума гарадамі няма рашуча нічога агульнага. Масква выклікае ў памяці хутчэй Нінэвію, Пальміру, Вавілон, чым шэдэўры еўрапейскага мастацтва, няхай гэта будзе тварэнне паганскае або хрысьціянскае; гісторыя і рэлігія гэтай дзяржавы таксама не схіляюць да таго, каб прыпадабняць яе сталіцу Рыму. Паміж Масквой і Рымам падабенства куды менш, чым паміж Масквой і Пекінам, аднак спадарыня дэ Сталь, трапіўшы ў Расію, менш за ўсё цікавілася гэтай краінай; яна імкнулася ў Швецыю і Англію, каб павярнуць свой геній і свае ідэі на барацьбу з ворагам

---

[179] Апісанне Масквы як адмысловага «двайніка» Канстантынопаля паходзіць, магчыма, да адпаведнага апісання ў Лекуэнта дэ Лаво (Laveau. т. 1. р. 97-98; Пар.: Cadot. р. 197-198).

[180] «Мімаволі параўноўваеш Маскву з Рымам, але не таму, што яна мае падабенства з ім у стылі сваіх будынкаў, гэтага няма; але дзіўнае спалучэнне вясковай цішыні і пышных палацаў, шырокасць горада і незлічонае мноства цэркваў зблiжае Рым Азіі з Рымам Яўропы» (Расія. стр. 33).

ўсялякай вольнай думкі – Банапартам[181]. Абавязак вялікага мысляра, з'явіўшагася ў незнаёмую краіну, – намаляваць яе выяву, і спадарыня дэ Сталь выказала ў дачыненні да Расіі тыя некалькі слоў, якія ад яе патрабавіся. Няшчасьце агульнавядомых складаецца ў тым, што яны абавязаны выказвацца афарызмамі, калі ж яны ўхіляюцца ад выканання гэтага абавязку, ім прыпісваюць афарызмы, выказанныя іншымі.

Я давяраю толькі справаздачам нікому не вядомых падарожнікаў; вы скажаце, што я кажу так із карысьці; не буду адмаўляць, вы маеце рацыю – ва ўсякім разе, мне мая невядомасць на руку: яна дазваляе мне шукаць і знаходзіўся ісьціну. Мне дастаткова, калі я буду мець шчасьце пазбавіць ад прадузятасьцей і забабонаў такага чытача, як вы, а таксама выбранае кола людзей, вам падобных. Як бачыце, мае дамаганні вельмі сьціплыя: бо няма нічога лягчэй, чым выправіць памылкі выдатных розумаў. Мне здаецца, што нават той, хто ненавідзіць дэспатызм не так моцна, як я, узненавідзіць дэспатаў за іхныя дзеянні і насуперак іхным чарам, калі прачытае праўдзівае апісанне, прапануемае мною да ўвагі публікі.

Массівная вежа із двума маляўнічымі аркамі, каля падножжа якой мясцовы служка прапанаваў мне выйсці із карэты, аддзяляе Крэмль ад яго прадаўжэння, званага Кітай-горадам, – купецкага квартала старой Масквы, заснаванага маці цара Яна Васільевіча ў 1534 г.[182]. Нам гэтая дата здаецца не вельмі аддаленай, але для рускага народа, самага маладога із усіх еўрапейскіх народаў, гэта – глыбокая старажытнасць.

Кітай-горад, нешта падобна на дадатак да Крамля, – гэта велізарны базар, цэлы горад, багаты цёмнымі скляпеністымі вулачкамі, нагадваючымі падзямеллі; дарэчы, гэтыя купецкія катакомбы менш за ўсё падобныя на могілкі; у лабірынце галерэй, якія саступаюць парыжскім ў вытанчанасьці і бляску, але затое выйграюць ў грунтоўнасьці, шуміць вечная ярмарка. Архітэктура Кітай-горада прыстасавана да тутэйшага клімату: на Поўначы крытыя вуліцы дапамагаюць змагацца з непагодай; дзіўна, што яны тут такія рэдкія. Прадаўцы і пакупнікі ратуюцца тут ад ветру, снегу, холаду і вясновага разліву рэчак; насупраць, лёгкія ажурные каланады і паветраныя порцікі выглядаюць у Расіі смешнай бязглуздзіцай: рускім дойлідам патрэбна было б браць прыклад не з грэкаў і рымлян, але з кратоў і мурашак. Арабы лепш зразумелі неабходнасць суадносіць законы мастацтва з прыроднымі ўмовамі. Вуллі Альгамбры[183] –

---

[181] Жэрмена дэ Сталь (1766-1817), якую Напалеон за апазіцыйныя пагляды выслаў спачатку із Парыжа, а потым із Францыі, 23 траўня 1812 г., асьцерагаючыся далейшых рэпрэсій, таемна пакінула свой швейцарскі замак Копе і праз Аўстрыю накіравалася ў Расію, дзе правяла каля двух месяцаў (з 14 ліпеня да пачатку верасня 1812 г.); із Пецярбурга яна выехала ў Стакгольм і толькі ў чэрвені 1813 г. дасягнула Лондана, канчатковай мэты свайго вандравання; тут яна змагла выдаць забароненую Напалеонам у 1810 г. кнігу «Пра Нямеччыну».

[182] Інфармацыя, запазычаная із кнігі: Laveau. т. 1. p. 92. У 1534 г., пад час кіравання ўдавы Васіля III Алены Глінскай, жыхары Масквы прыступілі да капання вялізарнага рова вакол Вялікага пасада, а выкапаная зямля ўтварыла вал, які яны ўмацавалі частаколам, а ў 1535 г. пачалі ўзводзіць тут каменныя сьцены.

[183] Альгамбра — старажытны квартал арабскіх кіраўнікоў у Грэнадзе.

архітэктура, больш дапасуючая да глебы і клімату Гішпаніі, таксама як і да звычак яе насельнікаў.

У Маскве вы на кожным кроку пабачыце якую-небудзь капніцу – прадмет пакланення для прастанародзя і шанавання для ўсіх жыхароў горада. Гэтыя капніцы, як правіла, ўяўляюць сабою нішы, із засцекленай выявай Божай маці, каля якой заўсёды гарыць лампада. Побач нясе каравул стары жаўнер. Ветэраны ў Расіі служаць вартаўнікамі не толькі ў вяльможаў, але і ў самога Госпада Бога. Іх нязменна сустракаеш каля ўвахода ў багатыя дамы, куды яны не пускаюць староннiх, і ў царкву, адкуль яны вымятаюць смецце. Не будзь на сьвеце заможных і святароў, старым рускім жаўнерам давялося б жыць у галечы.

**~ 62 ~**

Над двухпраязднымі варотамі, праз якія я ўвайшоў у Крэмль, размешчана ікона Божай маці[184], напісаная ў грэцкім стылі і шануемая ўсімі жыхарамі Масквы.

Я заўважыў, што ўсе, хто праходзяць міма гэтага вобраза Госпада і сяляне, і свецкія дамы, і мяшчане, і вайскоўцы, – кланяюцца ёй і шматразова ахінаюць сябе крыжаваннем; шмат хто, не задавальняючыся гэтай данінай ушавання, спыняюцца; добра апранутыя жанчыны схіляюцца перад цудатворнай Божай маці да зямлі і нават у знак пакоры дакранаюцца ілбом да бруку; мужчыны, таксама не належачыя да ніжэйшых станаў, апускаюцца на калені і перахрышчваюцца без стомы; усе гэтыя дзеянні здзясняюцца пасярод вуліцы са спрытам і безтурботнасьцю, выкрываючай не столькі набажэнства, колькі звычку[185].

Мой служка, наняты ў Маскве, – італьянец; няма нічога больш смешнага чым тая сумесь самых разнастайных забабонаў, якая атрымалася ў галаве гэтага няшчаснага іншаземца, які ўжо шмат гадоў жыве ў Маскве, на сваёй другой радзіме; выхаванне, атрыманае ім ў дзіцячыя гады ў Рыме, вымушае яго верыць у тое, што сьвятыя і Багамаці бяруць удзел ў зямным жыцці, таму, не паглыбляючыся ў абмяркаванне багаслоўскіх дэталей, ён, праз адсутнасць лепшага, прымае на веру ўсе гісторыі пра цуды, здзейсненыя машчамі і абразамі грэцкай Царквы[186]. Гэты бедны каталік, стаўшы дбайным прыхільнікам

---

[184] У арыгінале Кюстын згадвае пра «Боскую маці Вівіельскую»; верагодна, гаворка ідзе пра выяву Іверскай Боскай маці — копіі той, якая знаходзіцца на гары Афон. Яна была прывезена ў Маскву ў другой палове XVII стагоддзя і змешчана на Васкрасенскай браме, якая размяшчалася паблізу Сабакінай (Кутняй Арсенальнай) вежы Крамля і фармавала пад'езды да Крамля з боку Цвярской вуліцы (з гэтай пары брама атрымала назву Іверскай); на прыканцы XVIII ст. для выявы была пабудавана надбрамная каменная капліца (гл.: Помнікі. стр. 362-364). Брама разбурана ў 1934 г., адноўлена ў 1995 г.

[185] Вонкавую набожнасць рускіх, якая ніякім чынам не ўплывала на іх штодзённыя паводзіны, адзначаў і Ансэло, які паведамляў, што рускі просталюдзін «ніколі не пройдзе каля царквы ці выявы без таго, каб не спыніцца, агаліць галаву і не ахінуць сябе тузінам крыжоў» (Ancelot. p. 51). На думку сучаснага даследніка, гэты пасаж Кюстына адбіўся ў лісьце Ф. Я. Цютчава да жонкі, дзе паэт, які вярнуўся ў Маскву пасля дваццацігадовай адсутнасьці, апісвае сваё знаходжанне перад Іверскай брамай: «Усё адбылося згодна з правіламі самага патрабавальнага праваслаўя» (Рогаў К. Ю. “Да гісторыі стасункаў Цютчава і Пагодзіна” // Цютчаўскі зборнік. II. Тарту, 1999. стр. 87-88).

[186] Кюстын ставіўся да падобных гісторый з вялікім скептыцызмам; Р. Ржэўская згадвае, як аднойчы ў Рыме, наслухаўшыся апавяданняў пра дзівы, ён прамовіў: «Хутка можна будзе сцвярджаць: неразумны, як дзіва» (Rzeuwska. т. 2. p. 420).

маскоўскай Божай маці, даводзіў мне, што рэлігійныя вераванні паўсюль заснаваны на адных і тых жа падставах; іхнае адзінства, ўсемагутнае, хоць і ўяўнае, вырабляе неадольнае ўздзеянне. Служка ўвесь час паўтараў мне з італьянскай жартоўнасьцю: “Signor, creda a me: questa madonna fa dei miracoli, ma dei miracoli veri, veri verissimi; non i come da noi altri; in questo paese tutti gli miracoli sono veri”[187].

Гэты італьянец, які прывёзшы ў імперыю абачлівасьці і бязмоўя прастадушную жвавасць сваёй айчыны, надзвычай забаўляў, але адначасова і палохаў мяне: яго вера ў іншаземную рэлігію выдавала бязмежны палітычны тэрор, пануючы ў Расіі!

У гэтай краіне балбатун – рэдкасць, каштоўнае выключэнне із правіла; падарожнік, аточаны стрыманымі і асьцярожнымі ўраджэнцамі тутэйшых краёў, адчувае патрэбу ў ім на кожным кроку. Каб разгаварыць майго італьянца, што, дарэчы, не складала вялікай цяжкасьці, я рызыкнуў выказаць некаторыя сумневы ў сапраўднасьці цудаў, зробленых маскоўскай Божай маці: я менш абразіў бы набожнага рымляніна, калі б я засумняваўся ў духоўным аўтарытэце папы.

Слухаючы, як бедны каталік імкнецца пераканаць мяне ў звышнатуральнай магутнасьці грэцкай іконы, я лішні раз пераканаўся: калі што і падзяляе сёння дзве Царквы, то гэта зусім не багаслоўе. Із гісторыі хрысціянскіх нацый мы ведаем, як выкарыстоўвалі гасудары ўпартасць, хітрасьць і дыялектычныя таленты святароў для разпальвання рэлігійных спрэчак.

Выйшаўшы із варот, увянчаных знакамітай мадонай, на невялікую плошчу, бачыш бронзавы помнік, ізваяны ў вельмі кепскім, так званым псеўдакласічным стылі[188]. Мне здалося, быццам я патрапіў ў Луўр, у майстэрню пасрэднага скульптара часоў Імперыі. Помнік адлюстроўваў ў выглядзе двух рымлян Мініна і Пажарскага, выратавальнікаў Расіі, якую яны вызвалілі ад валадарання палякаў на пачатку XVII стагоддзя: не цяжка здагадацца, што рымская тога – не самы прыдатны ўбор для падобных герояў!.. Сёння гэтая пара ў вялікай модзе. Што паўстане перад позіркам далей? Цудоўны сабор Васіля Блажэннага, выгляд якога так уразіў мяне адразу пасьля прыезду ў Маскву, што цалкам пазбавіў спакою. Стыль гэтага мудрагелістага помніка на здзіўленне не падобны на класічныя выявы вызваліцеляў Масквы. Гуляючы па гэтым горадзе ў адзіноце, я яшчэ не меў магчымасьці разгледзець як варта гэты храм ў змяінай скуры, названы Пакроўскім саборам. Зараз ён быў якраз перад мной, але якое разчараванне!!. Шмат цыбулін – купалоў, сярод якіх не знайсьці двух аднолькавых, блюда із фруктамі, дельфтская фаянсавая ваза, полная ананасаў, у кожны із якіх утыркнуты залаты крыж, вялікая гара крышталяў – усё гэта яшчэ не стварае помнік архітэктуры; пабачаная на блізкай адлегласьці, гэтая царква моцна прайграе. Як амаль усе рускія храмы, яна невелікая; яе не маючая формы

[187] [заўвага аўтара] Паверце мне, сіньёр: гэта мадонна творыць цуды, пры гэтым сапраўдныя, самыя сапраўдныя цуды, не тое што ў нас: у гэтай краіне ўсе цуды сапраўдныя (іт.).

[188] Помнік Мініну і Пажарскаму згодна з праектам скульптара Я. П. Мартаса быў усталяваны ў 1818 г.

званніца хораша выглядае толькі здалёк, а невытлумачальная стракасьць хутка надакучвае ўважліваму назіральніку; даволі прыгожая лесвіца вядзе на ганак, адкуль багамольцы трапляюць ўнутр храма – цеснага, вартага жалю, нікчэмнага. Гэты нязносны помнік каштаваў жыцця яго стваральніку. Яго пачалі будаваць ў 1554 годзе, у памяць пра ўзяцце Казані, згодна з загадам Яна IV, празванага Жахлівым[189]. Гэты гасудар, застаючыся, як вы зараз зразумееце, верным сабе, аддзякаваў архітэктара, упрыгожыўхага Маскву, па-свойму: ён загадаў выкалаць небараку вочы, каб той ніколі ўжо не змог стварыць другога такага храма.

**~ 63 ~**

Не атрымай няшчасны поспеху у будаўніцтве, яго б бяспрэчна пасадзілі на кол, аднак вынік яго працы перасягнуў усе чаканні вялікага манарха, таму небарака ўсяго-толькі назаўсёды пазбавіўся зроку: натхняючая перспектыва для мастакоў!

Ад Пакроўскага собора мы накіраваліся да святых варот Крамля; каб не парушаць звычая, апантана вытрымліваемага рускімі, я прайшоў пад гэтымі скляпеннямі, дарэчы, не вельмі шырокімі, з непакрытай галавой[190]. Гэты звычай ўзыходзіць, як мне патлумачылі, да часоў апошняга нашэсьця калмыкаў, якім толькі цудоўнае заступніцтва нябесных абаронцаў перашкодзіла пракрасьціся ва ўмацаванне. Святым таксама выпадае зазявацца, але ў той дзень яны былі на варце, Крэмль застаўся цэлым і непашкоджаным, рускія да гэтага часу знімаюць шапкі ў знак удзячнасьці да сваіх слаўных заступнікаў.

У падобных публічных праявах рэлігійнага пачуцця прыкметна больш практычнай філасофіі, чым у бязвер’і народаў, якія лічаць сябе адукаванейшымі плямёнамі зямлі таму, што, вычарпаўшы магчымасьці розуму, занудзіўшыся простымі ісьцінамі, ва ўсім сумняваюцца і ў гонары сваім прызываюць суседзяў браць із іх прыклад, нібы іхныя ваганні вартыя пераймання!.. Бачыце, кажуць яны, якія мы бездапаможныя; рабіце ж, як мы!..

Вальнадумцы-мерцвякі, абдаючыя магільным холадам ўсіх, хто іх атачае; гэтыя небяспечныя разумнікі забіраюць у нацый здольнасць дзейнічаць; яны разбураюць, не ўмеючы ствараць, бо звычка да раскошы і задавальненняў нараджае ў душы не больш чым ліхаманкавае хваляванне, мімалётнае, як само чалавечае жыццё. У сваім хісткім існаванні матэрыялісты слухаюцца хутчэй біцця крыві, чым асвечанай думкі, і вечна знаходзяцца пад ўладай сумневаў, бо розум

---

[189] [заўвага аўтара] Так сцвярджае Лаво. У іншага аўтара я прачытаў, што гэты храм пабудаваны пры Васілю Блажэнным, і ён-та і аддаў той безчалавечны загад, у якім Лаво абвінавачвае Яна IV. (Гл.: Laveau. т. 1. p. 269; тую ж версію Кюсьтын мог прачытаць у кн.: Schnitzler. p. 63. Пакроўскі сабор на самай справе быў пабудаваны дойлідамі Бармай і Постнікам у 1555-1561 гг. у гонар перамогі над Казанскім ханствам; даўшая назву ўсяму храму прыбудова Васіля Блажэннага, дзе быў пахаваны святы, была ўзведзена ў 1588 г. Другая версія, згадваемая Кюстынам, бяспрэчна, неправўдападобная.).

[190] Гаворка ідзе пра Спаскую браму; звычай здымаць шапкі, праходзячы праз гэтую браму, быў афіцыйна ўзаконены пад час валадарання Аляксея Міхайлавіча; тады ж над брамай, якая да гэтага мела назву Фролаўскай (у гонар некалі знаходзіўшайся побач цэрквы Фрола і Лаўра), была змешчана прывезеная із Вяткі выява Спаса Нерукатворнага, адкуль і назва — Спаская (гл.: Пыляеў М. Я. Старая Масква. М., 1990. стр. 269). Лекуэнт дэ Лаво, паведамляючы пра звычай праходзіць праз Спаскую браму з непакрытай галавой, узводзіць яго пачатак або да цудоўнага выратавання Крамля ад татараў, або да апошняй эпідэміі чумы ў Маскве (Laveau. т. 1. p. 90).

самага сумленнага чалавека, няхай гэта будзе першы мудрэц дзяржавы, няхай гэта будзе сам Гётэ, ні на што, акрамя сумневаў, не здольны, сумневы ж схіляюць сэрца да цярпімасьці, але адварочваюць ад ахвярнасьці. Між тым у мастацтвах, навуках і палітыцы ўсякае значнае тварэнне, усякае ўзвышанае імкненне трымаецца менавіта на ахвярнасьці. Сёння ж ісці на ахвяры ніхто не жадае: хрысціянства папракаюць у тым, што яно прапаведуе самаадданасць – дабрадзейным людзям гэта не па нораву. Хрысьціянскія святары паказваюць шлях, які перш прайшлі толькі абраныя, натоўпу!! Хто адгадае, куды прывядуць народ такія вераломныя настаўнікі?

Я не стамляюся захапляцца агульным выглядам Крамля: яго мудрагелістымі пабудовамі, магутнымі ўмацавальнымі сьценамі, шматлікасьцю стрэльчатых арак, скляпенняў, вежак, званніц, схованак, байніц і праёмаў; ўсе гэтыя каласальныя дзівосы, якія грувасьцяцца адзін каля аднаго, нараджаюць ў душы падарожніка массу ўражанняў і ніколі не наскучваюць. Знешняя ўмацавальная сьцяна, якая абмяжоўвае Крэмль і, згодна з няроўнасьцямі пагорыстай мясцовасьці, то паднімаецца ўверх, то апускаецца ўніз; багацце пабудоў дзіўнай архітэктуры, збудаваных ледзь ці не ўпрытык адна да другой, – усё тут стварае адну із самых арыгінальных і паэтычных выяваў, якія існуюць на сьвеце; адвобразіць падобныя цуды можна толькі мастаку; словы не могуць перадаць вырабляемае імі ўражанне: ёсць рэчы, зразумелаыя толькі позірку.

Але як адвобразіць здзіўленне, якое ахапіла мяне, калі, апынуўшыся ўнутры гэтага чароўнага горада, я падышоў да сучаснай пабудовы, названай Збройнай палатай, і ўбачыў маленькі прастакутны палац з грэцкімі франтонамі і карынфскімі калонамі[191]?

Гэта халоднае і пошлае перайманне антычнасьці, да якога мне патрэбна было б ўжо прывыкнуць, здалося мне настолькі смешным, што я адступіў на некалькі крокаў назад і папрасіў у свайго спадарожніка дазволу адкласьці агляд кладовай і спачатку наведаць некалькі цэркваў. Із тых часоў, як я ў Расіі, я бачыў ужо нямала самых безсэнсоўных і безгустоўных тварэнняў імперскіх архітэктараў, але на гэты раз неадпаведнасць была такой выразнай, што узрушыла мяне занова.

Ітак, мы пачалі знаёмства з Крамлём, накіраваўшыся ва Ўспенскі сабор[192]. У гэтым храме знаходзіцца адна із тых выяваў Панны Марыі, якія прававерныя хрысьціяне ва ўсім сьвеце прыпісваюць пэндзлю апостала Лукі[193]. Сам храм больш падобны на саксонскія або нармандскія пабудовы, чым на нашы гатычныя саборы. Створаны ён у XV стагоддзі італьянскім архітэктарам, якога

[191] Сучасны будынак Збройнай палаты быў пабудавана ў 1844-1851 гг., будынак жа, які бачыў Кюстын, быў пачаты ў 1810 г., а закончаны пасля маскоўскага пажару.

[192] Успенскі сабор быў пабудаваны ў 1475-1479 гг., пад час кіраванне Яна III, італьянскім архітэктарам Арыстоцелем Ф'ёраванці (папярэдні сабор, пабудаваны рускімі дойлідамі Крыўцовым і Мышкіным, разбурыўся пры невялікім землятрусе ў 1474 г.).

[193] Гаворка ідзе пра выяву Боскай Маці Ўладзімірскай, якая, згодна з легендай, была напісана апосталам Лукой яшчэ пры жыцці Панны Марыі, прывезена із Царгорада ў Кіеў, выкрадзена адтуль Андрэем Багалюбскім і змешчана ва ўладзімірскім Успенскім саборы, а потым, у 1395 г., перанесена вялікім князем Васілём I у Маскву для абароны горада ад нашэсьця Тамерлана.

кіраваўшы тады вялікі князь запрасіў ў Маскву, бо рускія ў той час не маглі абыйсьціся ў будаўніцтве без дапамогі іншаземцаў. Пабудова, якую яны ўзводзілі ўласнымі намаганнямі, некалькі разоў разбуралася, харонячы пад сваімі руінамі невуцкіх працаўнікоў, якія выконвалі загады яшчэ больш невуцкіх дойлідаў; нарэшце, пасьля двухгадовых няўдалых спробаў прыйшлося звярнуцца да паслуг італьянцаў: архітэктар, што зьявіўся ў Маскву, падпарадкаваўся валадарачаму тут густу і ўжыў сваё майстэрства толькі на тое, каб зрабіць храм трывалым. Скляпенні яго высокія, сьцены тоўстыя, але пабудову не назавеш ні велічнай, ні светлай, ні прыгожай.

**~ 64 ~**

Мне невядомы ўстанавенні грэка-рускай Царквы ў дачыненні да шавання выяваў[194], але пры выглядзе гэтай царквы, чые сьцены спрэс пакрыты безгустоўным фрэскамі, выкананымі ў той аднастайнай і грубаватай манеры, што называецца сучасным грэцкім стылем, таму што ў аснове яе ляжыць перайманне візантыйскіх узораў, я ўвесь час пытаў сябе: якімі ж выявамі забаронена ўпрыгожваць рускія цэрквы? Верагодна, вырашыў я, у гэтыя свяцілішчы набожнасьці закрыты доступ толькі творам цудоўным.

Калі мы наблізіліся да Багамаці святога Лукі, мой чычэронэ-італьянец запэўніў мяне, што яна на самай справе належыць пэндзлю апостала; з праўдзіва мужыцкай набожнасьцю ён паўтараў мне: “Signore, signore, i il paese dei miracoli! Гэта краіна цудаў!” Ахвотна веру: жах – першы цудатворац! Што за дзіўнае падарожжа я здзейсніў: за два тыдні аддаліўся ад Яўропы на чатыры стагоддзі! Дарэчы, ў нас у сярэднія стагоддзі пачуццё ўласнай годнасьці было развіта куды больш, чым у Расіі сёння. Ў нас хітрыя і двудушныя гасудары, кіраваўшыя Расіяй із Крамля, ніколі б не заслужылі імя вялікіх[195].

Іканастас Успенскага сабора, які працягваецца ад падлогі да высокай зводчатай столі, раскошны і блішчачы пазалотай. Іканастас – гэта жывапісная перагародка, якая аддзяляе алтар, размешчаны за зачыненымі дзвярамі, ад нефа царквы, дзе знаходзяцца вернікі; ва Ўспенскім саборы гэтая перагародка грандыёзная і пышная. Сабор амаль квадратнай формы, вельмі высокі, але не занадта прасторны, так што, абыходзячы яго, адчуваеш сябе так, быццам мераеш крокамі вязьніцу.

У саборы пахаваны шмат хто із патрыярхаў; тут таксама захоўваюцца багата ўпрыгожаныя ракі і славутыя святыні, прывезеныя із Азіі; кожная дэталь па асобку вырабляе вельмі маркотнае ўражанне, але ў цэлым помнік выглядае даволі пераканаўча. Апынуўшыся ўнутры, адчуваеш калі не захапленне, то

---

[194] Відаць, Кюстын прыпісаў рускай праваслаўнай царкве XIX ст. забароны, уведзеныя візантыйскімі іканаборцамі ў VIII-IX у.; у праваслаўнай царкве забаронена толькі скульптура, пра што сам Кюстын згадваў вышэй (гл. т. I, з. 169)

[195] Пярэчанне Я. М. Таўстога: у кожнага народа ёсць свае злыдні і свае крывавыя старонкі: таму што і французскі народ, быў час, называў вялікім не каго іншага, як Марата! (Tolstoy. p. 99-100). Кюстын, аднак, падкрэслівае не толькі жорсткасць рускіх самаўладцаў, але і не маючую прыкладу пакорнасць іх ахвяр, іншым народам у такой ступені, згодна з яго мркаваннем, не ўласьцівую. Пар. падобнае адчуванне Баранта, які адзначае як асноўную, перадусім кідаючуюся ў вочы ўласцівасць рускага народа «мяккасць і цярплівасць, надзвычай зручныя для ўрада і спадароў» (Notes. p. 56).

смутак, а гэта ўжо нямала; смутак схіляе душу да набожнасьці: да каго, як не да Госпада, звярнуцца ў пакутах? Аднак вялікія храмы, узведзеныя ў славу каталіцкай рэлігіі, навяваюць не адзін толькі смутак; у іх увасабляецца трыумфальная песьня перамогшай веры.

У рызніцы захоўваюцца славутасьці, пералічэннем якіх я не буду стамляць ваш слых; не чакайце ад мяне ні пераліку маскоўскіх скарбаў, ні каталогу тамашніх помнікаў. У Маскве ўсё цікава здалёк, агідна зблізку. Я апавядаю толькі пра тое, што мяне ўразіла, што ж да ўсяго астатняга, то я адсылаю вас да Лаво і Шніцлера, а галоўное, да нашым пераемнікаў, якія справяцца са сваёй задачай лепш за мяне. Без сумнення, неўзабаве ў Расію накіруюцца шматлікія вандраўнікі, бо гэтай краіне нядоўга засталося заставацца ў невядомасьці.

Яшчэ адна крамлёўская славутасць – званніца Яна Вялікага. Гэта – самая высокая пабудова ў горадзе; яе купал, згодна з рускім звычаем, пакрыты чырвоным золатам. Мы прамінулі гэтую раскошна ўпрыгожаную вежу мудрагелістага выгляду, свята шануемую маскоўскімі просталюдзінамі. У Маскве ўсякі помнік – святыня: такая вялікая патрэба ў набожнасьці, жывучая ў сэрцах рускага народа!

Мне паказалі здалёк царкву Спаса на Бары – самую старажытную ў Маскве[196], і звон із адбітым кавалкам – наколькі я мог зразумець, самы вялікі звон у сьвеце; ён стаіць на зямлі і па велічыні не саступае царкоўнаму купалу; кажуць, пад час царавання імператрыцы Ганны ён зваліўся на зямлю пры пажары, а затым быў адліты нанова. Спадар дэ Монферран, французкі архітэктар, якія ўзводзіць зараз сабор Святога Ісаака ў Санкт-Пецярбургу, здолеў выцягнуць гэты звон із ямы, куды ён напалавіну праваліўся. Паспяховае завяршэнне гэтай аперацыі, запатрабаваўшай некалькіх спроб і каштаваўшая нямалых грошай, робіць гонар нашаму суайчыннiку.

Наведалі мы і два кляштары, таксама размешчаныя ўнутры крамлёўскай агароджы: Цудаў, дзе ў двух саборах захоўваюцца мошчы святых, і Вазнясенскі, дзе пахаваныя шмат хто із царыц, у тым ліку Алена, маці Яна Жахлівага; маці была годнай свайго сына: такая ж бязлітасная, яна ва ўсім кіравалася выключна разлікам; тут жа пахаваны і некаторыя із жонак гэтага манарха. Саборы Вазнясенскага кляштара ўражваюць іншаземцаў сваёй раскошай.



Нарэшце я перасіліў сябе і, імкнучыся не звяртаць увагу на грэчаскія пёрыстыя і карынфскія калоны – гэтых безгустоўных драконаў, які вартуюць царскія скарбы, увайшоў у славутую збройную палату, дзе, нібы ў музеі старажытнасцей, сабраны самыя цікавыя славутасьці рускай гісторыі.

Які збор даспехаў, чашаў, каштоўнасьцей! Якое багацце карон і пасадаў у сьценах адной пабудовы! Размяшчэнне ўсіх гэтых рэчаў толькі павялічвае вырабляемае імі ўражанне. Немагчыма не захапляцца мастацкім густам, а яшчэ

[196] Звесткі, запазычаныя Кюстынам із кн.: Laveau. т. 1. р. 231. Драўляная царква Спаса на Бару была пабудавана на прыканцы XIII ст.; у 1330 г., пры Яне Каліце, на яе месцы была пабудавана царква із белага каменю, перабудаваная ў XVI ст.; на прыканцы XVIII ст. храм струхлеў, быў разабраны і зноў пабудаваны із цэглы ў формах XVI ст. пад назіраннем М. Ф. Казакова (не захаваўся).

больш – палітычным розумам, із якім арганізатары музея выставілі для ўсеагульнага агляду ўсе ордэны і трафеі – выставілі, бяспрэчна, не без гонару, але патрыятычны гонар – законнейшы із усіх. Захапленне, натхняючае на падобныя здзяйсненні, даравальнае. У царской кладовай рэчы служаць сімваламі глыбокай ідэі.

Кароны размешчаны на падушках, якія ў сваю чаргу спачываюць на асабістых падножжах; пасады стаяць ўздоўж сьцен таксама на адмысловых п'едэсталах. Для паўнаты выявы недастае толькі людзей, згодна з заказам якіх былі выраблены ўсе гэтыя рэчы. Іхная адсутнасць варта красамоўнейшай пропаведзі аб марнасьці ўсяго існуючага. Крэмль без цароў – гэта театр, у якім патушылі святло і адкуль сышлі акторы.

Найбольшай павагі, калі не найбольшага захаплення, заслугоўвае карона Манамаха; яе прывязлі яму ў Кіеў із Візантіі у 1116 годзе.

Другая карона таксама лічыцца Манамахавай, хаця шмат хто лічыць, што яна створана задоўга да царавання гэтага князя.

У Збройнай палаце захоўваюцца кароны, якія некалі належалі ўладыкам дзяржаваў, заваяваных Расіяй. Сярод іх – вянкі казанскага і астраханскага ханаў, грузінскага цара; выгляд гэтых спадарожнікаў імператарскага свяціла, якія ўтрымліваюцца ў дастатковай далечыні ад яго, вырабляе дзівоснае дзеянне; у Расіі ўсё – эмблемы, Расія – краіна паэтычная... паэтычная, як боль! Што можа быць красамоўней чым слёзы, стрымліваемыя чалавекам і абмываючыя яго сэрца? Выстаўлена сярод іншых і сібірская карона; яна зроблена ў Расіі адмыслова для кладовай і размешчана побач з іншымі вянцамі ў памяць аб вялікім подзвігу, які здзейснілі адважныя купцы і жаўнеры ў цараванне Яна IV, калі Сібір была не адкрыта, але заваявана. Усе кароны ўсыпаны каштоўнымі камянямі выключнай велічыні. Недры гэтай журботнай зямлі адчыніліся, каб пацешыць гонар кіруючых ёю дэспатаў.

Польскі пасад і польская карона таксама ззяюць на пышным імператарскім небасхіле[197]... Незлічоныя скарбы, змешчаныя ў такой цеснай прасторы, асьляпляльныя, нібы хвост паўліна! Якое крывавае славалюбства! – паўтараў я сабе кожны раз, калі мае праважатыя вымушалі мяне спыніцца перад чарговым скарбам...

Асабліва ўразілі мяне кароны Пятра I, Кацярыны I і Лізаветы: колькі золата, брыльянтаў... і праху! Царскія дзяржавы, пасады, скіпетры – усё сабранае тут прызначана сведчыць пра веліч рэчаў і нікчэмнасць людзей, зразумеўшы ж, што

---

[197] Польская карона побач з вянкамі іншых гасудароў, параможаных Расіяй, лішні раз нагадвала пра разгром польскага паўстання 1830-1831 гг., што выклікала ў расійскага імператара пачуццё гонару, а ў французаў, якія спачувалі палякам, — смутак. Пар. у лісьце Мікалая I да жонкі ад 11 жніўня 1836 г. выразнае апісанне размовы з Барантам пасьля супольнага наведвання Збройнай палаты: «Я спытаў у яго <Баранта>, ці бачыў ён польскія сьцягі; ён адказваў, што бачыў; тады я спытаў, ці бачыў ён таксама польскую канстытуцыю каля ног Імператара <куфар з канстытуцыяй, падараванай Польшчы Аляксандрам I, размясьцілі каля падножжа яго партрэта>. Ён адказваў з грымасай, якую не здолеў схаваць, што бачыў і яе, і пачаў піць ваду; тады Ярмолаў, які чуў нашу размову, напоўніў яго шклянку, прамовіўшы, што шчаслівы быць яго краўчым, і зрабіў пры гэтым такую фізіяномію, што я ледзь не папярхнуўся ад смеху» (Schiemann. s. 475).

брэнныя не толькі людзі, але і самі імперыі, рашуча перастаешь разумець, куды схавацца ад бегу часу.

Як можна шанаваць свет, дзе жыццё – форма, формы ж знікаюць? Не ствары Гасподзь рай, на зямлі знайшліся б душы дастаткова магутныя, каб запоўніць гэты прабел... Чытаючы ў Платона аб існаванні вечнага свету і асабліва духоўнага – ідэальнага правобраза ўсіх сьветаў, я веру, што гэты свет – не выдумка. Хіба мы маем права выказаць здагадку, што Бог менш багаты, менш шчодры, менш магутны і справядлівы, чым розум чалавека? Хіба можа плён нашага ўяўлення быць большым чым тварэнні Госпада, надзяліўшага нас здольнасьцю думаць? Не, гэта немагчыма... у такім выпадку існавала б відавочная супярэчнасць. Кажуць, што гэта чалавек стварыў Бога па свайму падабенству: так як дзіця гуляе ў вайну, сутыкаючы палкі алавяных жаўнерыкаў; аднак сама гэтая дзіцячая гульня даводзіць, што наша гісторыя – не выдумка. Калі б не існавалі на сьвеце Цюрэн, Фрыдрых II і Напалеон[198], хіба гулялі б нашы дзеці ў цацачныя змаганні?

Посуд, упрыгожаны чаканкай ў манеры Бенвенуто Чэліні[199], чашы, усыпанные каштоўнымі камянямі, зброя і даспехі, разшытая золатам тканіна, шкляны посуд ўсіх краін і стагоддзяў, – гэтымі скарбымі, на пералік якіх не хапіла б, верагодна, цэлага тыдня, уражваецца позірк праўдзіва дапытлівых наведвальнікаў; захапляючая калекцыя, сабраная ў царскай кладоўкі. Акрамя пасадаў і пасадных крэслаў, належаўшых рускім гасударам разных эпох, тут выстаўлены конскія чапракі, царскае адзенне, мэбля: усе гэтыя больш-менш раскошныя, больш ці менш выключныя рэчы сляпілі мой позірк. Апісанне маё нагадвае старонкі "Тысячы і адной ночы" - што ж, у мяне не знайшлося іншага спосабу паказаць вам гэты казачны – калі не чароўны – палац.

**~ 66 ~**

На дадатак усім гэтым цудам прыдае дадатковую цікавасць гісторыя: колькі цікаўных падзей ўвасоблена тут у маляўнічых і годных благагавення рэліквіях!.. Пачынаючы з па-майстэрску зробленага шлема Аляксандра Неўскага і заканчваючы насілкамі, у якіх знаходзіўся Карл XII падчас Палтаўскай бітвы, кожная рэч нагадвае пра чуллівую падзею, пра дзіўнае здарэнне. Сапраўды гэтая кладавая – альбом крамлёўскіх веліканаў.

Заканчваючы агляд ганарыстых рэштках расійскага мінулага, я раптам, нібы праз надхненні, згадаў ўрывак із Мантэня[200], які паведамляю вам, каб

---

[198] Маршал Францыі Анры дэ Ла Тур д'Авернь, віконт дэ Цюрэн (1611-1675), прускі імператар Фрыдрых II (1712-1786, кіраваў з 1740 г.) і французскі імператар Напалеон былі правадырамі войска па пакліканні.

[199] Знакаміты італьянскі ювелір (1500-1571), майстар складаных арнаментальных кампазіцый.

[200] Доследы, I, 48 («Пра баявых коней»); урывак із Мантэня прыводзіцца ў перакладзе А. З. Бабовіча. Сучасныя каментатары Мішэля Мантэня (1533-1592) лічаць крыніцай гэтага пасажу выдадзенага ў 1573 г. французскі пераклад лацінскай кнігі Яна Гербурта Фульсьцінскага «Пра паходжанне і здзяйсненні палякаў», у выданні ж, на якое спасылаецца Кюстын (Paris, Firmin Didot freres, 1836), прыводзімы эпізод мае крыніцай кнігу шведзкага дыпламата Пятра Петрэя дэ Ерлезунда (1570-1622) «Гісторыя пра вялікае княства Маскоўскае, паходжанне рускіх вялікіх князёў, нядаўнія смуты, учыненыя ў пазначаным княстве трыма Лжэзьміцерамі, і пра маскоўскія законы, норавы, кіраванне, веру і звычаі» (1615). Я. Таўсты аспрэчыў эпізод з кроплямі малака, сцвярджаючы, што ён, па-першае, не даказаны, а па-другое,

дапоўніць – па кантрасту – сваё апісанне маскоўскіх скарбаў: "Вялікі князь Маскоўскі ў старыя часы павінен быў выказаць татарам такое шанаванне: калі ад іх прыбывалі пасланнікі, ён выходзіў да іх насустрач пешшу і падносіў ім чашу з кабыліным малаком (гэты напой яны лічаць самым лепшым), а калі, выпіваючы яго, яны пралівалі хоць некалькі кропель на конскую грыву, то быў абавязаны злізаць іх языком[201].

Войска, высланае ў Расію султанам Баязетам, было напаткана такім жахлівым снежным буранам, што для таго, каб схавацца ад яго і выратавацца ад холаду, шмат хто вырашылі забіць сваіх коней, успаролі ім жываты і залезлі туды, сграючыся іхнай жывёльнай цеплынёй».

Я прывожу гэтую апошнюю падрабязнасць, таму што яна нагадвае пышнае і жахлівае апісанне поля маскоўскай бітвы[202], зробленае спадаром дэ Сегюрам ў "Гісторыі рускай кампанні". У другой сваёй працы – "Гісторыя Расіі і Пятра Вялікага"- Сегюр паведамляе аб той жа праяве рабалепства, аб якой згадвае Мантэнь[203].

Справа ў тым, што імператар ўсяе Русі з усімі сваімі пасадамі і ўсёй сваёй ганарыстасьцю – не хто іншы, як нашчадак тых вялікіх князёў, што яшчэ ў XVI стагоддзі[204] зведвалі непамерныя прыніжэньні; дарэчы, нават на гэту спадчыну яго права небязспрэчнае: не кажучы ўжо пра інтрыгі сямейства Раманавых і іхных прыхільнікаў, якія адабралі пасад у выбраных на царства Трубяцкіх[205], нагадаю, што нашчадкі Кацярыны II занялі рускі пасад толькі дзякуючы злачынствам некалькіх пакаленняў манархаў. Такім чынам, кіраўнікі Расіі зусім не без падстаў хаваюць рускую гісторыю ад рускіх і ахвотна схавалі б яе таксама і ад іншаземцаў. Бязспрэчна, цвёрдасць палітычных прынцыпаў гасудара,

---

характэрны далёка не толькі да адных рускіх: «Хіба каралі французскія і ангельскія не поўзалі каля ног рымскіх пап?» (Tolstoy. p. 101).

201 [заўвага аўтара] Гл. "Нататкі пра Масковію" шведа П. Петрэя, надрукаваныя па-нямецку ў 1620 годзе ў Лейпцыгу (ч. II, с. 159). У гэтае своеасаблівае рабства рускія трапілі ў сярэдзіне XIII стагоддзя, працягвалася ж яно каля двухсот шасьцідзесяці гадоў. (Заўвага Кюста да "Вопытаў" Мантэня, кн. I, гл. 48).

202 У кнізе «Гісторыя Напалеона і Вялікага войска 1812 года» (1824; кн. VII, гл. 12) граф Піліп Поль дэ Сегюр (1780-1873), сам браўшы ўдзел у рускай кампаніі, згадвае рускага жаўнера, які, як запэўнівалі сведкі, пасля Барадзінскай бітвы на працягу некалькіх дзён хаваўся ў сярэдзіне трупа каня, чыё пуза разарваў снарад. Між іншым, паступаць падобнай чынам даводзілася не толькі рускім; Пар. ва ўспамінах француза Эжэна Лакоба апавяданне пра параненага французскага жаўнера, які загойваў свае раны, кладучыся ноччу «унутр памёршых коней» (Расія. стр. 273).

203 У «Гісторыі Расіі і Пятра Вялікага» (кн. III, гл. 1 і 2) Сегюр неаднаразова выказваецца пра «подласць» рускіх князёў, якія выкарыстоўвалі ў сваім міжусобных змаганнях дапамогу татар.

204 Варта чытаць: у XV стагоддзі (мангола-татарскае ярмо было канчаткова скасавана на прыканцы гэтага стагоддзя, пад час кіравання Яна III).

205 Князь Зьміцер Цімафеевіч Трубяцкі (?-1625), у 1611-1612 гг. кіраваўшы (супольна з князем З. М. Пажарскім) першым і другім земскімі апалчэннямі і часовым земскім урадам, быў адным із прэтэндэнтаў на рускі пасад на Земскім саборы 1613 г. Версія Кюстына мае крыніцай, відаць, кнігу князя П. В. Даўгарукава «Нататкі пра галоўныя роды ў Расіі» (Notice sur les principales familles de la Russie. p., 1843. p. 30-31; гл. падрабязней заўвагі да гэтага тома, стр. 222), аднак Даўгарукі не называе Трубяцкога законна абраным, а толькі паведамляе, што яго падтрымалі казакі і частка войска. Дарэчы, у другой крыніцы ведаў Кюстына пра падзеі гэтага часу, «Гісторыі Расіі» Левека, эпізод абрання Міхала Раманава выкладзены вельмі лаканічна і іншыя прэтэндэнты на пасад не названы цалкам (гл.: Levesque. т. 4. p. 1-2).

занімаючага пасад, які спачывае на падобных падставах, – адна із здзіўляючых асаблівасцей нашага часу.

У тую пару, калі маскоўскія вялікія князі схілялі калені пад ганебным ярмом манголаў, у Яўропе, а асабліва ў Гішпаніі, дзе праліваліся рэкі крыві ў імя гонару і незалежнасьці хрысьціянства, уладарыў дух рыцарства. Нягледзячы на ўсё варварства сярэднявечных звычаяў, я не думаю, што ў Заходняй Яўропе знайшоўся б хоць адзін кароль, здольны зняважыць манархіческую ўладу прыняццем такіх умоў, на якіх са згоды ўладароў-татар кіравалі сваёй краінай ў XIII, XIV і XV стагоддзях маскоўскія вялікія князі. Лепш страціць карону, чым зняважыць каралеўскі пасад – вось што сказаў бы кароль Францыі, Гішпаніі або ўсякай іншай дзяржавы старой Яўропы. Але ў Расіі паняцце аб славе такое ж маладое, як і ўсё іншае. Татарскае нашэсьце падзяліла гісторыю гэтай дзяржавы на дзве зусім розныя эпохі; паміж незалежнымі славянамі і рускімі, якіх тры стагоддзі рабскай пакоры прывучылі падпарадкоўвацца тыраніі, пралягла бездань, а ў гэтых абодвух народаў няма, па праўдзе кажучы, нічога агульнага, акрамя назвы, з тымі старажытнымі плямёнамі, што сталі нацiей дзякуючы варамгам.

На першым паверсе збройнай палаты выстаўлены парадныя карэты расійскіх імператараў і імператрыц; у гэтую калекцыю ўваходзіць таксама старая карэта апошняга патрыярха[206], із рагавым шклом; гэтая рэліквія належыць да ліку самых цікавых славутасьцей, якімі багата вядомая крамлёўская кладовая.

Мне паказалі таксама маленькі палац, дзе спыняецца імператар, пад час сваіх прыездаў ў Маскву[207], але я не знайшоў у ім нічога вартага ўвагі, акрамя карціны, адлюстроўваючай апошнія выбары польскага караля. Бурны сойм, які пасадзіў на пасад Панятоўскага і асудзіў Польшчу на ярмо, намаляваны французкім мастаком у вельмі цікавай манеры[208].

Бачыў я і шмат іншых цудаў: сенат, імператарскія палацы, старажытны палац патрыярха; дарэчы, усе яны ўяўляюць цікавасць толькі дзякуючы сваім назвам, чаго нельга сказаць пра маленькі гранавіты палац – цацка, каштоўнасьць, часткова нагадваючы шэдэўры маўрытанскай архітэктуры і вылучаючыся сваёй вытанчанасьцю сярод атачаючых массіўных грыбаў, нібы карбункул ў аправе із камянёў; ў гэтым палацы некалькі паверхаў, атачовых галерэямі, прычым кожная наступная больш вузкая чым папярэдняя, а самая верхняя – зусім маленечкі домік; дзякуючы гэтаму пабудова набывае жывапісную пірамідальную форму. Яна абліцавана фаянсавымі ізразцамі, пакрытымі лакам на арабскі манер; на жаль, гэтыя ўпрыгожванні, хоць і выкананыя з вялікім густам, маюць вельмі сучасны выгляд. Недаўняга

---

[206] Апошні патрыярх — Адрыян (у свеце Андрэй; 1627-1700); Пар. заўвагу да т. I, с. 102 и 122.

[207] У 1820 г. для царскага палаца быў куплены двор мітрапаліта, занімаўшы кут Цудава кляштара. У 1824 г. ён быў дабудаваны і з 1831 г. набыў назву Малы Мікалаеўскі палац (гл.: Помнікі. стр. 297).

[208] Панятоўскі Станіслаў Аўгуст — польскі кароль з 1764 г. (гл. заўвагу. да т. I, стр. 171); пад час яго валадарання быў здзейснены першы і другі падзел Польшчы, трэцці ж падзел (1795) пазбавіў караля пасада, а дзяржаву — самастойнасьці. Згаданая карціна належыць пэндзлю Бярнарда Белото (1720-1780); да 1831 г. яна знаходзілася ў Каралеўскім замку ў Варшаве, а пасьля заняцця польскай сталіцы рускім войскам у 1831 г. была дастаўлена ў Маскву; у 1924 г. вернута Польшчы (гл.: Rosja. т. 2. р. 475).

паходжання і ўнутранае ўбранства гранавітага палаца; дарэчы, мэбля, вітражы і фарбы падабраны не без вытанчанасьці.

**~ 67 ~**

Ці змагу я адлюстраваць, што адчувае падарожнік, калі бачыць сярод вялікай колькасьці разнастайных пабудоў, якія ціснуцца ў цэнтры вялізнага горада, гэты маленькі палац, нядаўна адрамантаваны, але захаваўшы свой старажытны напалову гатычны напалову арабскі стыль? Тут грэцкія храмы, там гатычныя формы, далей індыйскія вежачкі і кітайскія альтанкі, а вакол усяго гэтага – цыклапічная агароджа; як растлумачыць вам словамі ўсе гэтыя кантрасты, узнікаючыя перад позіркам?

Словы здольны жывапісаць рэчы толькі з дапамогай абуджаемых імі ўспамінаў; між тым ні адхзін із успамінаў, дрэмлючых у вашай душы, не дапаможа вам уявіць Крэмль. Гэтая архітэктура зразумела толькі рускім.

У пышным маленькім палацы, пра які я вяду гаворку, звод ніжняга паверха спачывае на адным-адзіным слупе[209]. Тут размешчана тронная зала, якую ўдастойваюць сваёю прысутнасьцю імператары пасьля вянчання на царства. Тут усё нагадвае аб старажытнай пышнасьці маскоўскіх цароў, і ўяўленне міжволі пераносіцца ў часы Янаў і Аляксееў. Сьцены размаляваны, як мне здалося, з вялікім густам, хоць і зусім нядаўна; гэтыя выявы нагадалі мне пекінскую фарфоравую вежу, выяву якой мне давялося бачыць.

Гэты гурт помнікаў ператварае Крэмль у дзівосную тэатральную дэкарацыю, аднак паасобку ні адна із пабудоў, загрувашчваючых рускі форум, – як, дарэчы, і пабудовы, што раскіданыя па гораду, – не заслугоўваюць захаплення. На першы погляд Масква здаецца цудам; для курьера, які скача галопам каля яе цэркваў, кляштароў, палацаў і ўмацаванняў, якія не вылучаюцца бездакорным густам, але здалёк нагадваюць прытулак істот звышнатуральных, гэта – прыгажэйшы горад у свеце.

На жаль, сёння ў Крамлі ўзводзяць для зручнасьці імператара новы палац; ці прыходзіла каму-небудзь на розум, што гэтае бязбожнае новаўвядзенне сапсуе непараўнальны выгляд старажытнага святога ўмацавання? Бяспрэчна, цяпершняе жыллё гасудара мае варты жалю выгляд, аднак для таго, каб выправіць становішча, будаўнікі разбураюць нацыянальную святыню: гэта недапушчальна. На месцы імператара я палічыў бы за лепшае пабудаваць новы палац на неба, каб толькі не чапаць ніводнага каменя са старажытных крамлёўскіх сьцен.

У Пецярбургу імператар сказаў мне, калі гаворка зайшла аб гэтых працах, што ён жадае зрабіць Маскву яшчэ больш прыгожай: сумнеўны намер, падумаў я, – ўсё адно як калі б яму захацелася ўпрыгожыць гісторыю. Бяспрэчна,

[209] Кюстын параўноўвае рысы двух розных помнікаў: прыметнік «гранавіты» і згадка пра аднослуповую залу адсылаюць нас да Гранавітай палаты, вонкавае ж аблічча апісваемага будынка падказвае, што гаворка ідзе пра Церамны палац, пабудаваны ў 1635-1636 гг. і адрэстаўраваным у 1836-1837 гг. (падчас рэстаўрацыі ў аканіцы былі ўстаўлены дубовыя рамы з каляровым шклом, а ў памяшканнях усталяваны кафляныя печы і мэбля, стылізаваная пад XVII стагоддзе, — што Кюстын і адчуў). У згаданай Кюстынам верхняй хатцы — залатаверхім церамку, які ўяўляе сабой пяты паверх Церамнога палацу, — адбываліся паседжанні баярскай думы (Помнікі. стр. 333).

старажытнае ўмацаванне пабудавана не ў згодзе з правіламі мастацтва, але ў ім – адлюстраванне звычаяў, падзей і думак народа і эпохі, назаўжды адыйшоўшай ў мінулае і таму святой. На ўсіх гэтых помніках ляжыць адбітак магутнасьці, якая большая за чалавечую, – магутнасьці часу. Аднак у Расіі для ўраду няма нічога немагчымага. Імператар, без сумнення, прачытаўшы на маім твары спачуванне і папрок, паспяшаўся пайсьці, запэўніўшы мяне перад сыходам, што гэты яго новы палац будзе больш прасторным і зручным, чым ранейшы. У краіне, падобнай гэтай, такая падстава здаецца вельмі паважнай.

Між тым, рыхтуючы для двара больш зручнае прыстанішча, будаўнікі ўжо акружылі агароджай маленькую царкву Спаса на Бары. Гэтая сьвятыня, наколькі мне вядома, самая старажытная пабудова ў Крамлі і ва ўсёй Маскве, хутка, да вялікага жалю ўсіх, хто любіць старажытныя пабудовы і маляўнічыя віды, знікне за белымі гладкімі сьценамі.

Больш жа за ўсё для мяне агідна смешнае хваляванне, з якім здзяйсняецца гэтае апаганьваньне святыні: непадробны гонар выклікае той факт, што старажытнейшы помнік не зраўняюць з зямлёй, а пахаваюць зажыва ў палацавай агароджы. Вось якім чынам пагадняюць тут афіцыйны культ мінулага са схільнасьцю да камфорту, нядаўна перанятаму ў англічан[210]. Падобныя дзеянні цалкам вартыя Пятра Вялікага. Хіба недастаткова, што гэты гасудар пакінуў старую сталіцу дзеля новай, ім заснаванай? Зараз яго нашчадкі разбураюць гэтую старажытную сталіцу, бачачы ў гэтым лепшы спосаб яе ўпрыгожыць.

**~ 68 ~**

Каб пакрыць сваё імя славай, імператару Мікалаю патрэбна было б не цягнуцца па дарозе, пракладзенай іншымі, але пакінуць пецярбургскі Зімовы палац, які стаў ахвярай агню, і назаўжды пасяліцца ў Крамлі, нічога тут не змяняючы, пасьля ж пабудаваць для патрэб свайго двара і для вялікіх святаў столькі палацаў, колькі спатрэбіцца, але па-за святымі крамлёўскімі межамі. Тым самым ён выправіў бы памылку цара Пятра, які заахвочваў сваіх баяраў у театральную залу, якая была пабудавана для іх на беразе Балтыйскага мора, замест таго каб асвячаць іх у родных краях, выкарыстоўваючы іхныя пышныя прыродныя багацці – багацці, якія Пятро адкінуў з пагардай і легкадумнасьцю, нявартымі такага выдатнага чалавека, якім быў у некаторых іншых дачыненнях гэты імператар. Чым далей аддаляешся ад Пецярбурга і чым бліжэй пад’язджаеш да Масквы, тым глыбей спасьцігаешь веліч не маючых межаў і шчодрых абшараў Расіі і тым больш расчароўваешся ў Пятры I. Манамах, які жыў у XI стагоддзі, быў праўдзіва рускі князь, Пятро ж, які жыў у стагоддзі XVIII, з

[210] У «Нататках і вандраваннях» Кюстын прысвячае цэлае разважанне словам «камфорт» і «камфартабельны», якія ангельцы «запазычалі ў французаў, цалкам змяніўшы іх сэнс» (на старафранцузскай мове «conforter» азначала «надаць адвагу, маральную магутнасць») і пазначала ім «галоўны занятак большасьці ангельцаў <…> — сталае імкненне да паляпшэння фізічнага дабрабыту. Уладкавацца камфартабельна ёсць мэта высілкаў кожнага ангельца. Гэта чароўнае слова, надаючае накірунак усяму жыццю, узаконьвае прыхільнасць ангельцаў да матэрыяльных задавальненняў і робіцца грунтам хатняга эгаізму, падобна таму як карыснасць занадта часта служыць апраўданнем палітычных несправядлівасьцей» (Memoires et voyages. p. 238).

нагоды свайго фальшывага ўяўлення пра спосабы ўдасканалення нацыі, зрабіўся не кім іншым, як даннікам замежных дзяржаваў, пераймальнікам галандцаў, з датошнасьцю варвара капіраваў чужую цывілізацыю. Альбо Расія не выканае таго прызначэння, якое, згодна з маім перакананнем, ёй наканавана, альбо ў адзін выдатны дзень Масква зноў стане сталіцай імперыі: бо ў гэтым горадзе драмае насенне рускай самабытнасьці і незалежнасьці. Корань дрэва ў Маскве, і менавіта там павінна яно прынесці здабытак; ніколі прышчэпцы не параўнацца моцнасьцю з прышчэпам.

У той дзень, калі расійскі трон будзе з падабаючымі ўшанаваннямі перанесены ў сэрца імперыі, у Маскву, у той дзень, калі Пецярбургская вапна і пазалота рассыплюцца ў прах і паваляцца ў згубную багну[211], на якой быў узведзены гэты горад, а сам ён зробіцца тым, чым яму патрэбна было б заставацца заўсёды, – звычайным ваенным портам з гранітнымі набярэжнымі, цудоўным складам тавараў, якімі гандлююць паміж сабой Расія і Захад, падобна таму як Казань і Ніжні служаць перавалачнымі месцамі ў гандлі Расіі з Усходам, – у гэты дзень я скажу: “нарэшце справядлівы гонар славян узяў верх над марным славалюбствам іхных правадыроў, нарэшце рускі народ зможа зажыць уласным жыццём; ён заслужыў тую ўзнагароду, якой жадае яго славалюбства: Канстатнынопаль чакае яго; тамашнія мастацтва і багацце ўзнагародзяць нацыю, тым больш годную велічы і славы, што доўгія гады яна празябала ў невядомасьці і аддавалася сампрыніжэнню”.

Уявіце сабе веліч сталіцы, размешчанай ў сярэдзіне раўніны, якая працягваецца на многія тысячы лье ва ўсе бакі свету, раўніны, якая цягнецца ад Персіі да Лапонні[212], ад Астрахані і Каспійскага мора да Урала і Архангельска – порта на беразе Белага мора, раўніны, якую амывае Балтыйскае мора із двума партамі-арсеналамі – Санкт-Пецярбургам і Кранштадтам – і якая раскінулася ад Віслы да Басфора, дзе рускіх чакае Канстатнынопаль – злучальнае звяно паміж Масквой, святыняй рускіх, і светам!!. Бяспрэчна, такая сталіца не ўступіла б самым магутным гарадам свету і даказала б, што нездарма захоўвае ў сваёй кладоўцы шыкоўныя царскія вянкі.

Імператар Мікалай, нягледзячы на свой цвярозы розум і глыбокую праніклівасць, не знайшоў найлепшы спосаб дасягнення гэтай мэты[213]; ён

---

[211] Пар. заўвагі да. т. I, стр. 178.

[212] Лапонія, ці Лапландыя — прыродная вобласць на поўначы Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі і ў паўночнай частцы Расіі.

[213] Між тым у прыватных гутарках імператар, згодна са сведчаннем Баранта, прызнаваў недахопы Пецярбурга як сталіцы і адпаведныя перавагі Масквы: «Часам ён выказваўся пра Пецярбург: «Яшчэ пытанне, ці слушна зрабіў Пятро, заснаваўшы сталіцу менавіта тут...» А калі я запярэчыў, што ў тую пару гэта быў адзіны спосаб наладзіць стасункі Расіі з Еўропай, ён прамовіў: «Магчыма, патрэбна было яе цывілізаваць грунтуючыся на ўнутраных рэсурсах». Наогул, гэтая нуда па Маскве вельмі пашырана і па-за патрэбамі маючымі дачыненне да знешняй палітыкі» (Souvenirs. т. 5. p. 259; данясенне герцагу дэ Брою ад 30 студзеня 1836 г.). Дарэчы, Барант пры гэтым вельмі скептычна ацэньваў практычную магчымасць перанясення расійскай сталіцы ў Маскву: «Як бы там ні было, ні эканамічныя меркаванні, ні старанна хаваемае благое месцазнаходжанне не прымусяць рускі ўрад зноў зрабіцца маскавіцкім; больш працяглае знаходжанне двара ў Маскве, змены ў форме прыдворнага адзення, — вось у канчатковым рахунку адзіныя вынікі, якімі могуць скончыцца гэтыя мімалётныя спробы» (Ibid. т. 5. p.259-260). Пра

прыязджае ў Крэмль час ад часу: гэтага недастаткова; яму патрэбна было б зразумець, што ён абавязаны абаснавацца тут назаўжды, калі ж ён гэта разумее, але не знаходзіць у сабе моцы вырашыцца на падобную ахвяру, ён рабіць памылку. Пры Аляксандры рускія спалілі Маскву, каб выратаваць імперыю; пры Мікалаі Гасподзь спаліў палац у Пецярбургу, каб нагадаць Расіі пра яе прызванне, але Мікалай не пачуў кліч Божы. Расія ўсё яшчэ чакае!.. Замест таго каб, быццам кедр, пусціць карані ў той адзінай глебе, якая для гэтага створана, імператар узрыхляе і пераварочвае гэтую глебу, каб пабудаваць на ёй канюшню і палац. Згодна з яго славамі, ён хоча добраўпарадкаваць сваё часовае прыстанішча і дзеля гэтай мелачнай мэты забываецца аб карэнных масквічах, для якіх кожны камень нацыянальнай святыні – прадмет пакланення ці, ва ўсякім разе, павінен такім быць. Ці да твару гасудару, прывучаючаму свой богашануючы народ да беспярэчнага падпарадкавання, хістаць самым святататным дзеяннем пашану масквічоў да іх адзінага сапраўды нацыянальнага помніка? Крэмль – тварэнне рускага генія, аднак зараз гэтай мудрагелістай, але маляўнічай жамчужыне, гонару стольніх стагоддзяў, пагражае небяспека загінуць пад прыгнётам сучаснага мастацтва; у Расіі да гэтага часу пануе густ Кацярыны II.

**~ 69 ~**

Гэтай жанчыне, якая пры ўсім яе розуме нічога не разумела ні ў вытанчаных мастацтвах, ні ў паэзіі, мала было пакрыць усю імперыю не маючымі формы помнікамі, скапіраванымі із шэдэўраў антычнасьці, – імкнучыся надаць Крамлю больш правільны выгляд, яна вызначыла план яго перабудовы[214], сёння ж яе ўнук узнамерыўся здзейсніць частку гэтага жахлівага плана; белыя роўныя паверхні, прамыя лініі і прамыя куты замяняюць выгібы і закавулкі, нараджаўшыя гульню святла і цені; тэрасы, лесвіцы і пярілы, нішы і выступы, нараджаўшыя цудоўныя кантрасты і нечаканасьці, радаваўшыя позірк і прыводзіўшыя да марнасці розум; пафарбаваныя сьцены, фасады, абліцаваныя маўрытанскай пліткай, палацы із дельфтскага фаянса, паланяючыя ўяўленне, – усё асуджана на пагібель. Разбураць ўсё гэта, закапаюць пад зямлёй ці перафарбуюць – не мае значэння; галоўное, што на месцы ўсіх гэтых скарбаў вырастуць выдатныя роўныя сьцены з дакладнымі квадратнымі вокнамі і манументальнымі шырокімі дзвярамі... Не, Пятро Вялікі не памёр: пад кіраваннем свайго цара, які, падобна продку, любіць падарожжы і перайманне ў Яўропы, да чыіх дасягненняў ён ствіцца з пагардай, але пераймае, азіяты працягваюць яго варварскую справу, названую справай цывілізацыі; яны вераць на слова новаму ўладару, чый дэвіз – адзіныя для ўсіх думкі, а эмблема – адзіны для ўсіх мундзір.

---

анты-пецярбургскія настроі ў рускім грамадстве (дарэчы, хутчэй за ўсё невядомыя Кюстыну) і пра супрацьпастаўленне новай і старой сталіц гл.: Аспават А. Л. “Да спрэчак 1830-х гг. пра рускую сталіцу” // Лотманаўскі зборнік. I. М., 1995. стр. 475-487.

[214] У 1768 г. была створана адмысловая Экспедыцыя па перабудове Крамля пад кіраўніцтвам В. Я. Бажэнава; у 1775 г. будаўніцтва было спынена праз празмернасць патрэбных выдаткаў і астуджэнне Кацярыны да Масквы як апоры незадаволеных.

Выходзіць, у Расіі няма мастакоў, няма архітэктараў: бо ўсім людзям, у чыіх грудзях жыве хаця б разуменне аб прыгожым, патрэбна было б упасьці да ног імператара і маліць яго зберагчы Крэмль. Тое, чаго не зрабіў вораг, робіцца імператарам: ён разбурае святыню, якую пашкадавалі снарады Банапарта.

А я – няўжо, патрапіўшы ў Крэмль, я стану сведкам разбурэння гэтага гістарычнага помніка[215], ўбачу, як адбываецца блюзнерства, і не выдам ні адзінага стогну, не ўзмалюся ў імя гісторыі, мастацтва і густу аб выратаванні старажытных пабудоў, асуджаных загінуць дзеля таго, каб на іхным месцы выраслі безгустоўныя вырабы сучасных архітэктараў! Не, я буду пратэставаць, аднак не раней, чым вярнуся ў Францыю, пакуль жа я смуткую аб гэтым замаху на нацыянальнае пачуццё і добры густ, пра гэта грэбаванне гісторыяй – але смуткую таемна; іншы раз сярод дасціпнейшых і адукаванейшых рускіх людзей знаходзяцца такіе, якія асьмельваюцца мяне выслухаць, аднак іхная смеласць не ідзе далей таго, каб спакойна адказаць мне: “Імператару заўгодна, каб яго новая рэзідэнцыя выглядала больш прыстойна, чым ранейшая; на што ж вы скардзіцеся? (вы ж ведаеце, што паняцце “прыстойнасці”- краевугольны камень рускага дэспатызму.) Ён загадал ўзвесці новую пабудову на тым самым месцы, дзе стаяў палац яго продкаў; Крэмль нітрохі не пацерпіць”.

Вось да якой бязглуздасьці даводзіць самых выдатных людзей жах, вось у што ён ператварае іхную мужнасць! Я захоўваю спакой і нічога не адказваю на такія прамовы: бо я іншаземц і павінен трымацца асцярожней, чым мясцовыя жыхары. Аднак калі б я быў рускім, я б заступаўся за кожны камень са старажытных сьцен і чароўных вежаў гэтага ўмацавання, збудаванага Янамі, і пагадзіўся б правесьці астатак дзён у вязніцы, амываемай неўскай вадой, або ў высылцы – абы не адчуваць сябе нямым памагатым гэтага імперскага вандалізма!!! Пакутнік, ахвяраваўшы сабой дзеля добрага густу, варты заняць ганаровае месца крыху ніжэй святых пакутнікаў, пакутаваўшых за веру: хупавыя мастацтвы – гэта рэлігія, прычым рэлігія, якая валодае ў нашы дні не самай малой магутнасьцю і карыстаючаяся не самым малым аўтарытэтам.

Выгляд, бачны із крамлёўскага ўзвышша, пышны, асабліва вечарам; пасьля ранішняга гуляння я, ужо без спадарожнікаў, вярнуўся да падножжа званніцы Яна Вялікага, самай высокай пабудовы ў Крамлі, а можа быць, і ва ўсёй Маскве, каб палюбавацца заходам сонца; я збіраюся яшчэ не раз прыйсьці сюды, бо ў Маскве нішто не цікавіць мяне так моцна, як Крэмль.

Маладыя дрэвы, некалькі гадоў назад пасажаныя пад сьценамі Крамля, служаць старажытнарускаму Алькасару цудоўным упрыгожваннем і ў той жа час ажыўляюць выгляд сучаснага купецкага горада. Зяляніна надае старыжытнаму ўмацаванню дадатковую маляўнічасьць. Унутры велізарных казачных вежаў, чые скляпенні ўражваюць дзёрзкасьцю задумы і трываласьцю выканання, уюцца лесвіцы, чыя круцізна і вышыня ўзрушаюць ўяўленне; у розуме гледача ўзікае цэлая чарга мерцвякоў, якія спускаюцца па спадзістых схілам, выходзяць на гарматныя пляцоўкі, абапіраюцца на балюстрады; гэтыя цені абводзяць

[215] Пар. заўвагу да т. I, стр. 247.

наваколле халодным і пагардлівым позіркам – позіркам сьмерці; чым даўжэй я гляжу на няроўныя і бясканца разнастайныя абрысы крамлёўскіх пабудоў, тым большае захапленне абуджаюць ў маіх грудзях гэтыя біблейскія пабудовы і іхныя паэтычныя насельнікі.

**~ 70 ~**

Я бачыў, як сонца, ужо амаль схаваўшаяся за атачаючым Крэмль паркам, кідае свой апошні прамень на верхавіны палацавых вежак і на купалы цэркваў, бліскаючых разам са званніцамі на фоне цямнеючай нябеснай лазуры: гэтае відовішча мае вядзьмарскую прыцягальнасць.

Пасярод атачаючага ўмацавальных сьцены парка ёсць арка, пра якую я вам ўжо згадваў[216]; сёння яна ўразіла мяне так моцна, нібы я ўбачыў яе ў першы раз: яна вядзе ў жахлівае падзямелле. Пакінуўшы размешчаны на узвышшах горад, горад, з натапыранымі вежамі, чые верхавіны накіроўваюцца да неба, вы цягнецеся пад цёмнымі скляпеннямі па доўгай, крута паднімаючайся ўверх дарозе; дасягнуўшы яе канца, вы выходзіце на свет божы і апынаецеся на ўзгорку, адкуль открываецца выява новай для вас часткі горада; пыльная і шумная, яна, з яе вуліцамі і бульварамі, прасьціраецца каля вашых ног, амываемая напалову высахшай праз летнюю спёку ракой Масквой; калі апошнія прамяні сонцы асвятляюць яе рэчышча, нікчэмны ручаёк успыхвае, нібы ахоплены полымем. Уявіце сабе гэта натуральнае люстэрка ў раме цудоўных пагоркаў – ўражанне незабыўна! Удалечыні віднеецца Выхаваўчы дом і іншыя благачынныя ўстановы, прытулкі, школы – кожны із гэтых помнікаў велізарны, як цэлы горад. Уявіце сабе раку, праз якую перакінуты невялікі каменны мост, уявіце старыя кляштары з іхнымі незлічонымі купаламі, якія, узвышаючыся над Масквой, нясуць да нябёсаў вечную малітву за яе дабрабыт, уявіце іхны не вельмі гучны звон, прасякнуты ў гэтай краіне дзіўнай гармоніяй, – гэты набожны шэпт, так дапасуючы да шолаху тутэйшага натоўпу – спакойнага, хаця і густога, ажыўленага, але не звяртаючаму ніякай увагі на коней і экіпажы, якіх у Маскве так жа шмат, як і ў Пецярбургу, і якія носяцца па вуліцам хутка і ціха, – уявіце ўсё гэта, і вы зразумееце, што такое заход сонца над пыльнай старажытнай сталіцай. Летнім вечарам Масква – горад, якому няма раўных; гэта не Яўропа і не Азія, гэта Расія, само яе сэрца.

За звілістай стужкай Масквы-ракі, над яркімі дахамі ў блёстках пылу позірку бачацца Вераб'ёвы горы. Менавіта з іх вяршыні нашы жаўнеры ў першы раз ўбачылі Маскву...

Што за успамін для француза!! Абводзячы позіркам тыя кварталы гэтага вялізнага горада, я дарэмна шукаў хоць якіх-небудзь слядоў пажару, абудзіўшага Яўропу і загубіўшага Банапарта. Увайшоўшы ў Маскву заваёўнікам, пераможцам, ён выйшаў із гэтага святога для рускіх горада ўцекачом, асуджаным вечна сумнявацца ва ўласным паспеху, раней яму ніколі не змяняўшым.

Словы Наполеона, павядомленыя абатам дэ Прадтам, – словы, у сапраўднасці якіх мы не маем падставаў сумнявацца, – выкрываюць, на мой

---

[216] Траецкі мост (гл. заўвагу да гэтага тама, стр. 91).

погляд, усю жорсткасць, якая таіцца часам ў празмерным славалюбстве жаўнера. “Ад вялікага да смешнага адзін крок!”- усклікнуў у Варшаве герой без войска[217]. Як! У гэты фатальны момант ён думаў толькі аб тым, што скажуць пра яго газеты!.. Значыць, трупы стольkіх людзей, якія загінулі дзеля яго славы, былі смешныя, і не больш таго! Толькі імператар Наполеон з яго найвялікшым славалюбствам мог разгледзець смешны бок у гэтай катастрофе, якую народы свету будуць да сканчэння стагоддзяў згадваць з уздрыганнем і якая вось ужо тры дзесяткі гадоў стрымлівае еўрапейскія дзяржаваўы ад войнаў. Думаць пра сябе ў такую ўрачыстую гадзіну – гэта не эгаізм, гэта злачынства. Фраза, прыведеная мехельнскім архібіскупам, – крык душы себялюбца, на імгненне завалодаўшага цэлым светам, але не здолеўшага справіцца з самім сабой. Такая нялюдзкасць, выяўленая ў такую хвіліну, ўвойдзе ў гісторыю, калі гісторыя нарэшце стане справядлівай.

Я хацеў бы ўявіць сабе абставіны, у якіх адбылася гэтая эпічная пастанова, адна із дзіўнейшых пастаноў у нашай нядаўняй гісторыі: аднак тут усе намагаюцца забыцца пра вялікія падзеі; народ-раб страшыцца ўласнага гераізму; руская нацыя, па прыродзе і па неабходнасьці стрыманая і абачлівая, складаецца із людзей, чыё галоўное жаданне – схавацца ў цень, у невядомасць. Тут кожны робіць ўсё магчымае для таго, каб знікнуць, выпарыцца; калі ў іншых краях славалюбцы папракаюць адзін аднаго ў нізкасьці, то тут супернікам і ворагам прыпамінаюць іхныя прыстойныя ўчынкі і гераічныя здзяйсненні. Я не знайшоў у Расіі ніводнага чалавека, які пагадзіўся б адказаць на мае пытанні, маючыя дачыненне да патрыяычных подзвігаў і вялікадушнасьці рускіх пад час слаўнейшай пары іхнай гісторыі.



Я, нагадваючы іншаземцам аб такіх эпізодах французкай гісторыі, як руская кампанія, не адчуваю сябе прыніжаным ў сваім нацыянальным гонары. Разважаючы аб тым, якой цаной гэты народ абараніў сваю незалежнасць, я радуюся, і мая радасць нікольki не абражае прах нашых жаўнер; па моцы абароны можна меркаваць аб моцы нападзення; гісторыя засведчыць, што адно варта было другога, але, будучы непадкупнай, дадасць, што справядлівасць была на баку абараняўшыхся.

Адказнасць за ўсё гэта ляжыць на імператары Напалеоне; ў той час Францыя падпарадкоўвалася аднаму-адзінаму чалавеку; яна дзейнічала, але не разважала; яе пьяніла слава, як сёння рускіх п'яніць паслушэнства; адказваць за падзеі павінны тыя, хто бярэцца думаць за ўвесь народ. У Расіі ж сёння аб усіх гэтых вялікіх падзеях імкнуцца забыцца, а калі і згадваюць, то не з гонарам, а з выбачэннямі.

[217] Гл.: Pradt D.-D. de. Histoire de l'ambassade dans le grand-duche de Varsovie. 6-me ed. P., 1815. p. 215. Абат Дамінік Дюфур дэ Прадт (1759-1837), французскі прэлат, паплечнік Напалеона, які атрымаў ад імператара месца архібіскупа бельгійскага горада Мехельн (па-французску — Малін), у 1812 г., напярэдадні вайны з Расіяй, быў прызначаны французскім амбасадарам у вялікае герцагства Варшаўскае; гэтай амбасадзе і прысвечана працытаваная кніга, апублікаваная ў 1815 г.

Растопчын, пражыўшы шмат гадоў у Парыжы і нават перавёзшы туды сваю сям'ю, надумаў вярнуцца на радзіму. Аднак, баючыся славы выратавальніка айчыны, ідучай следам – заслужана ці не – за яго імем, ён папярэдзіў сваё вяртанне да двара імператара Аляксандра публікацыяй брашуры, напісанай выключна дзеля таго, каб даказаць: Масква загарэлася сама сабою, без усялякай папярэдняй падрыхтоўкі[218]. Такім чынам, Растопчын выкарыстаў увесь свой розум на тое, каб пераканаць рускіх, што ён не здзяйсняў таго гераічнага ўчынку, у якім яго абвінавачвае Яўропа, дзівіўшаяся спачатку велічы, а потым нікчэмнасьці гэтага чалавека, годнага служыць лепшаму ўраду!.. Якімі б ні былі ў сапраўднасьці заслугі Растопчына, бязспрэчна адно: ён хаваў, адмаўляўся ад свайго мужнага ўчынку і горка скардзіўся на нечувалы паклёп, ператварыўшы яго із невядомага генерала ў вызваліцеля айчыны!

Са свайго боку імператар Аляксандр не пераставаў паўтараць, што ніколі не аддаваў загад спаліць сваю сталіцу.

Гэта суперніцтва за права лічыцца самым нікчэмным характэрыстычна: немагчыма не дзівіцца грандыёзнасьці драмы, ведаючы, якія акторы ў ёй бралі ўдзел. Калі яшчэ выканаўцы так горача імкнуліся пераканаць гледачоў у тым, што яны зусім нічога не разумеюць у тым, што робяць?

Пачаўшы чытаць Растопчына, я тут жа злавіў яго на слове; чалавек, які так баіцца праславіцца вялікім, сказаў я сабе, менавіта такім і з'яўляецца, як ён сцвярджае. У падобных справах людзям патрэбна верыць на слова; падманчывая сціпласць выдае сапраўдную сутнасць чалавека нават супраць яго волі; яна – патэнт на нікчэмнасць; бо выдатныя людзі нічога не робяць напаказ; яны аддаюць сабе належнае цішком, а калі ім даводзіцца казаць пра сябе ў грамадстве, робяць гэта без ганарыстасьці, але і без ілжывага самапрыніжэння. Пасьля таго як я прачытаў гэтую дзіўную брашуру, прайшло ўжо шмат часу, але я ніяк не магу забыцца пра яе, бо яна адкрыла мне вочы на дух рускага ўрада і рускай нацыі.

Я пайшоў із Крамля, калі ўжо амаль зусім сцямнела; маскоўскія пабудовы, шмат якія із іх велізарныя, як цэлыя гарады, і аддаленыя пагоркі зніклі ў цемры; цішыня і ноч спусьціліся на горад; выгібы Масквы-ракі амаль зніклі з вачэй, таму што зіхацячыя сонечныя прамяні ўжо не адлюстроўваліся ад паверхні гэтага напалавіну высахшага патоку; палаючы заходні край неба дагарэў, згас, пафарбаваўся ў карычневыя тоны: маё сэрца сціскалася пры выглядзе гэтага грандыёзнага пейзажа, абуджаючага столькі ўспамінаў; мне здавалася, што вось

---

[218] Маецца на ўвазе кніга графа Фёдара Васільевіча Растопчына (1763-1826), вайсковага губернатара Масквы ў 1812 г., «La verite sur l'incendie de Moscou» («Праўда пра маскоўскі пажар»), выдадзеная ў 1823 г. у Парыжы (у тым жа годзе ў Маскве выйшаў рускі пераклад; амаль адразу ж пасьля французскай публікацыі брашура, якая выклікала ў Еўропе велізарную цікавасць, была перакладзена на асноўныя еўрапейскія мовы). Французскім вандроўнікам, якія былі ў Расіі да Кюстына, пытанне пра адказнасць Растопчына за пажар Масквы ўяўлялася не цалкам вырашаным (гл., напрыклад, у Ансэло аргументы на карысць канцэпцыі, згодна з якой падпальшчыкі былі наняты ангельцамі, якія жадалі такім чынам загубіць сваіх ворагаў-французаў. — Ancelot. p. 314-318). Сучасны погляд на задуму Растопчына (спаліць Маскву яшчэ да прыходу туды французаў) гл. у артыкуле А. Г. Тартакоўскага «Ашуканы Герастрат» (Радзіма. 1992. № 6/7. стр. 88-93).

я бачу, як Ян IV, Ян Жахлівы, паднімаецца на самую высокую із вежаў свайго апусьцелага палаца і з дапамогай сваёй сястры і сяброўкі Елізаветы Ангельскай спрабуе ўтапіць у лужыне крыві імператара Напалеона!.. Здавалася, гэтыя два прывіды пляскаюць у далоні радуючыся падзенню волата, якому рок наканаваў, загінуўшы, дазволіць двум сваім ворагам зрабіцца яшчэ больш магутнымі, чым яны былі пры яго жыцці.

Англія і Расія маюць падставы быць удзячнымі Банапарту і таму не цалкам адмаўляюць яму ў павазе[219]. Не такімі былі для Францыі вынікі царавання Людовіка XIV. Вось праз што нянавісць Яўропы перажыла вялікага караля на паўтары стагоддзя, вялікі ж палкаводзец быў пасьля свайго падзення ўзведзены ў ранг бажаства, і нават яго турэмшчыкі, за рэдкім выключэннем, не баяцца далучыць свае недарэчныя дыфірамбы да хору галасоў, якія ўсхваляюць яго ва ўсіх канцах Яўропы; гэты феномен, падобнага якому, як мне здаецца, не адшукаецца ні ў адной нацыянальнай гісторыі, тлумачыцца выключна духам супярэчнасьці, які ахапіў сёння ўсё цывілізаваныя нацыі. Дарэчы, панаванне гэтага духу падыходзіць да канца, і ў нас ёсць надзея прачытаць неўзабаве творы, аўтары якіх узважаць Банапарта непрадузята, не напаўняючы свае меркаванні з'едлівымі намёкамі на сучасных кіраўнікоў Францыі ці якой-небудзь іншай дзяржавы[220].



Я спадзяюся, што настане дзень, калі гэтаму чалавеку, узрушаўшаму ўяўленне не толькі ўчынкамі, якія ён здзейсніў пры жыцці, але і захапленнямі, якія ён абуджае пасьля сьмерці, будзе вынесены справядлівы прысуд. Пакуль прамень ісьціны не падняўся вышэй падножжа гэтай фігуры, якую па гэты дзень абараняе ад суровага асуджэння нашчадкаў двайны арэал нечувалых поспехаў і такіх жа нечувалых бедстваў.

Усё ж нашым унукам небескарысна будзе даведацца, што вынаходлівасьці у яго было больш, чым высакароднасьці, і што ён лепш умеў карыстацца прыхільнасьцю лёсу, чым змагацца з яго зменлівасьцю. Тады, і толькі тады, страшныя наступствы яго палітычнай амаральнасьці і яго ілжывага, вераломнага кіравання перастануць выяўляць сваё разбэшчваючае ўздзеянне.

Спусціўшыся із крамлёўскіх пагоркаў, я вярнуўся дадому разбіты, як чалавек, толькі што стаўшы сведкам жахлівай падзеі, ці, хутчэй, як хворы, які бачыў кашмарны сон і прачнуўся ў гарачцы.

---

[219] Папулярнасць Напалеона ў Расіі ў 1830-е гг. у самых розных станах, ад найвышэйшых да ніжэйшых, адзначаюць шмат якія мемуарысты; Барант (Souvenirs. т. 5. p. 286) і Марм'е (Marmier. т. 1. p. 327) паведамляюць, што партрэты французскага імператара ўпрыгожваюць сьцены і купецкіх крамаў, і арыстакратычных салонаў, і заездных двароў, прытым часьцяком яны суседнічаюць з партрэтамі яго пераможцы Аляксандра І. Рускія бачылі ў асобе Напалеона ўвасабленне палітычнай велічы, знак «ідэальнай Францыі, Францыі манархічнай і вайсковай, у якой яны хацелі б пераймаць» (Souvenirs. т. 5. p. 449). Некаторыя французскія газеты настойліва прыпісвалі пакланенне перад Напалеонам і самаму расійскаму імператару, які, калі верыць газеце «Commerce» (5 кастрычніка 1839 г.), сцвярджаў, што Раманавы і Банапарты — дзве дынастыі, у роўнай ступені здольныя дараваць сваім народам славу і веліч.

[220] Нататка Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Публікацыя ліставання Напалеона з яго братам Жозэфам апраўдала гэтыя надзеі».

# Ліст дваццаць восьмы

*Усходні выгляд Масквы. – Сувязь паміж архітэктурой гэтага горада і характарам яго насельнікаў. – Што адказваюць рускія, калі іх папракаюць ў зменлівасьці. – Шаўковыя фабрыкі. – Бачнасць волі. – На чым яна заснавана. – Англійскі клуб. – Закінутасць Масквы пасярод велізарнага кантынента. – Руская набожнасць. – Размова на гэтую тэму з чалавекам вострага розуму. – Пра тое, што Англія ўмее здабываць выгаду із ханжаства. – Пра англіканскую царкву. – Пра яе непасьлядоўнасьці. – Чыстыя багамольцы і дзяржаўныя мужы. – Памылкі ліbeралаў, адхіляючых каталіцызм. – Палітыка Англіі. – На што яна адапіраецца. – Безадказны спосаб перамагчы Англію. – Святая ўлада газет. – Ці больш яна маральная, чым улада святарства? – Грэка-руская царква. – Яе маўчанне. – Адсутнасць прапаведнікаў. – Адсутнасць публічнай рэлігійнай адукацыі. – Шматлікія секты. – У іх пануе кальвінізм. – Дрэнная палітыка. – Секта, заахочваючая шматжонства. – Купецкі стан. – Свята ў кляштары на Дзявочым полі. – Цудатворная ікона Божай маці. – Пахаванні царыц і царэвен. – Могілкі. – Натоўп простага люду. – Асаблівасць пейзажаў. – Дрэвы пасярод горада. – П'янства – руская загана. – Што яго апраўдвае. – Эмблема нацыі і яе ўрада. – Плошча, дзе адбывалася свята. – Месцазнаходжанне кляштара. – Асаблівасць гэтага свята. – Выгляд народа. – Схаваная паэзія. – Спевы данскіх казакаў. – Мелодыя, нагадваючая “Гішпанскія безразважнасьці”. – Музыка паўночных народаў. – Казакі. – Іхны характар. – Нявартыя хітрыкі, якія выкарыстоўваюць афіцэры. – Вытаргаваная мужнасць. – “Запрэжка”- пераклад польскай байкі.*

**Масква. 12 жніўня 1839 года**[221].

Перад тым як прыехаць ў Расію, я прачытаў, здаецца, большую частку апісанняў Масквы, складзеных падарожнікамі, якія бывалі тут раней; аднак я не ўяўляў сабе, да якой ступені дзіўны выгляд гэтага горада на ўзвышшах, раптоўна, нібы па чараўніцтве, вырастаючага із-пад зямлі пасярод велізарнай роўнай расторы. Масква нагадвае театральную дэкарацыю. Месца, дзе яна пабудавана, – ледзь ледзь не адзінае ўзвышша, якім можа пахваліцца цэнтр Расіі... Вядома, гэта не Швейцарыя і не Італія, а проста перасечаная мясцовасць. Аднак контраст гэтых няроўнасцей глебы з бясконцымі прасторамі, сярод якіх погляд губляецца, нібы сярод амерыканскай саваны або азіяцскіх стэпаў, вырабляе ўражваючае ўздзеянне. Масква – горад панарам. Са сваімі пышнымі ландшафтамі і мудрагелістымі пабудовамі, якія маглі б паслужыць мадэлямі для фантастычных палотнаў Мартэна, яна ўваскрашае ў розуме тыя ўяўленні, якія невядома як

[221] Згодна са старым стылем 31 ліпеня.

склаліся ў нас пра Персепаліс, Багдад, Вавілон, Пальміру[222] – рамантычныя сталіцах легендарных дзяржаваў, чыя гісторыя – паэзія, а архітэктура – мроя; адным словам, патрапіўшы ў Маскву, вы забываецеся Яўропу. Вось чаго я не ведаў, знаходзячыся ў Францыі.

К следства, мае папярэднікі не выканалі свайго абавязку. Асабліва недаравальна, на мой позірк, нядбайнасць аднаго з іх, які правёў у Расіі нямала часу. Ніводнае апісанне не варта палотнаў мастака, чые працы выразлівыя і адпавядаюць рэчаіснасьці, – такага, як Орас Бернэ. Хто лепш за яго ўмее адчуць і даць адчуць іншым дух атачаючых выяваў? Праўда жывапісу караніцца ў выглядзе рэчаў; Бернэ спасьцігае іх як паэт, а перадае як мастак: таму кожны раз, калі я адчуваю, што мне нехапае слоў, я пачынаю лютаваць і шкадую пра тое, што не магу сказаць: “Зірніце на выявы Ораса Бернэ, і вы зразумееце, што такое Масква”; будзь у мяне такая магчымасць, я б лёгка дасягнуў сваёй мэты, зараз жа я затрачваю вельмі шмат намаганняў, але мэты не дасягаю.

**~ 73 ~**

Масква – царства пейзажаў. Мастацтва мала дапамагло гэтаму гораду, капрызы ж будаўнікоў і рэчаіснасць стварылі тут цуды. Дзівосныя гурты збудаванняў, массіўныя грамады пабудоў захапляюць ўяўленне. Па праўдзе кажучы, асалода, якую дае выгляд Масквы, – ніжэйшага гатунку: гэты горад не з'яўляецца стварэннем генія, і знатакі не знаходзяць у ім ніводнага помніка, годнага ўважлівага вывучэння; не аднясеш Маскву і да ліку тых велічных пустыняў, дзе гадзіна ў цішыні разбурае тое, што стварыла прырода; Масква – горад, пакінуты насяляўшымі яго некалі волатамі – племем, якое стаіць пасярэдзіне паміж Богам і чалавекам; Масква – тварэнне цыклопаў. Яе нельга параўнаць із іншымі еўрапейскімі гарадамі; ў горадзе, дзе ні адзін вялікі мастак не пакінуў адбітак сваёй думкі, адчуваеш здзіўленне, і не больш таго; між тым здзіўленне хутка вычэрпваецца, і душы надакучвае яго выказваць.

Дарэчы, я здабываю некаторы ўрок нават із таго разчаравання, якім змяняецца тут першае ўзрушэнне; справа ў тым, што аблічча ўсякага горада найцяснейшым чынам злучана з характарам яго насельнікаў. Рускія любяць усе, што блішчыць, яны палоняцца знешнасьцю і самі чаруюцца ёю ж; выклікаць зайздрасць, чаго б гэта ні каштавала, – вось мяжа іх мараў! Англію зрызе ганарыстасць, Расію мучыць славалюбства.

Тут мне давядзецца нагадаць вам, што абагульненні заўсёды выглядаюць несправядлівымі. Аднак пастаяннае вяртанне да гэтай рытарычнай засьцярогі, павінна быць, гэтак жа сумна для вас, як стомна для мяне; таму я хачу раз і назаўсёды ўдакладніць, што ўсякае правіла ведае выключэнні, і заверыць, што я поўны павагі да годнасьцей і прывабнасьцей прыватных асоб, ніякім чынам не заслужыўшых маёй крытыкі. У рэшце рэшт, мы ж не ў палаце дэпутатаў, і я не справаздачнік, які ўносіць праект закона, патрабуючага паправак.

[222] Персепаліс — старажытная сталіца персідсзкай імперыі Ахеменідаў; Пальміра — старажытны цэнтр караваннага гандлю і рамяства на тэрыторыі Паўночна-усходняй Сірыі.

Падарожнікі, якія пабывалі ў Расіі раней за мяне, ужо адзначалі, што чым менш ведаеш рускага, тым больш ветлівым яго знаходзіш[223]; ім адказвалі, што гэтыя словы сведчаць супраць іх і што астужэнне, на якое яны скардзяцца, даказвае не што іншае, як іхную ўласную нязначнасць. "Мы прынялі вас ветліва. – адказалі рускія, – таму што ад прыроды гасьцінныя; перамяніліся ж да вам толькі таму, што спачатку былі пра вас больш высокай думкі, чым вы заслугоўваеце". Такі адказ выслухаў шмат гадоў назад адзін француз, чалавек не пазбаўлены таленту, але выказваўшы, з увагай на занімае ім сановішча, празмерную стрыманасьць; я не хачу называць тут ні яго імя, ні загаловак яго кнігі, у якой, нягледзячы на ўсю яе асцярожнасць і безколернасць, аўтар змог трошкі паказаць сапраўднае становішча, што і выклікала крайняе незадавальненне рускіх. Ці варта было ўпакорваць свой розум дзеля людзей, якім немагчыма дагадзіць ні ліслівасьцю, ні безстароннасьцю? З такім жа поспехам можна занядбаць іхнымі інтарэсамі, што я, як бачыце, і раблю. Упэўнены ў тым, што мае меркаванні ва ўсякім выпадку не спадабаюцца рускім, пагэтаму я хачу, ва ўсякім разе, выказаць ўсю праўду без выняткаў.

Масква ганарыцца сваімі фабрыкамі; рускі шоўк супернічае з усходнім і заходнім. Купецкі квартал, названы Кітай-горадам, гэтак жа як і мост Кавалёў – вуліца, дзе размешчаны самыя лепшыя модныя лаўкі, – належаць да ліку маскоўскіх славутасьцей. Я згадваю пра іх таму, што прадбачу сур'ёзныя палітычныя наступствы, якія можа мець для Яўропы жаданне рускага народа перестаць залежыць ад прамысловасьці іншых краін.

Свабода, якая пануе ў Маскве, ілюзорная, аднак немагчыма адмаўляць, што жыхары гэтага горада рухаюцца, дзейнічаюць і думаюць па ўласнай волі, не чакаючы чужога загаду. У гэтым Масква выразна адрозніваецца ад Пецярбурга.

Справа тут, на мой позірк, у першую чаргу ў велізарных памерах Масквы і разнастайнасьці яе ландшафтаў. Няроўнасць (ва ўсякім значэнні гэтага слова) разам із прасторай – складовыя часткі свабоды; насупраць, абсалютная роўнасць – сінонім тыраніі[224], пры якой меншасць стогне пад ярмом большасьці; свабода і

[223] Напэўна, намёк на Ансэло, які ў сваёй кнізе адзначаў: «Немагчыма быць больш гасьцінным, чым рускі барын; ён шукае стасункаў з замежнікамі, асабліва французамі; аднак да гэтых праяваў ветласьці трэба ставіцца з вялікай асьцярожнасьцю, бо ў Расіі яны часьцей, чым у нейкай іншай краіне, выяўляюцца цалкам няшчырымі. Замежніку цалкам не варта прымаць усе запрашэнні, якія ён атрымлівае, бо калі ён паверыць усім выказаным яму перакананням у адданасьці, то вельмі хутка зведае горкае разчараванне. Рускі пачынае з таго, што называе вас сваім лепшым сябрам, потым вы ператвараецеся для яго ў простага знаёмага, а пад канец ён перастае вам кланяцца» (Ancelot. p. 91-92). Жак Ансэло (1794-1854) прыехаў у Расію ў траўні 1826 г. у складзе значнай французскай дэлегацыі, якая ўзначальвалася маршалам Мармонам і прыбыла на каранаванне Мікалая I. Кніга Ансэло «Паўгода ў Расіі» (1827), ставіцца да Расіі значна больш зычліва, чым «Расія ў 1839 годзе», тым не менш выклікала крытычныя водгукі П. А. Вяземскага (Маскоўскі тэлеграф. 1827. № 11) і Я. М. Таўстога (брашура на французскай мове «Ці дастаткова паловы года, каб пазнаць краіну?», 1827); Пар.: Валовіч М. М. Пушкін і Масква. М., 1994. t. I. стр. 142-152; Liechtenhan. p. 127-128.

[224] Тут Кюстын супадае са сваім антаганістам Таквілем (гл. артыкул, т. I, стр. 484), які, разважаючы пра тое, «якога дэспатызму варта асьцерагацца дэмакратычным народам», прыходзіў да высновы, што «лягчэй усталяваць абсалютнае і дэспатычнае кіраванне ў той краіне, дзе ўмовы існавання людзей роўныя, чым у той, дзе гэтага няма, і я думаю, што калі падобнае кіраванне будзе там усталявана, яно не толькі будзе

роўнасць несумяшчальныя; не скажайце і не памякшайце змест гэтых двух разуменняў, і вы зразумееце, што адно выключае другое.

Масква як бы пахавана ў глыбіні Расіі. Адсюль – пячатка самабытнасьці, якая ляжыць на яе пабудовах, адсюль – вольны выгляд, адрозніваючы яе насельнікаў, адсюль, нарэшце, – нелюбоў цароў да гэтага горада, захоўваючага незалежнасць. Цары – старажытныя тыраны, чый дэспатызм ледзь ўмераны модай, ператварыўшай іх у імператараў, больш за тое, у людзей свецкіх, – пазбягаюць Масквы. Нягледзячы на ўсе яе недахопы, яны аддаю перавагу Пецярбургу, бо адчуваюць патрэбу ў пастаянных стасунках із еўрапейскім Захадам. Тая Расія, якую стварыў Пятро Вялікі, не ўмее ні жыць, ні вучыцца, абапіраючыся на саму сябе. У Маскве руская знаць не змагла б ужо праз тыдзень ведаць ўсе кепскія парыжскія анекдоты і быць пастаянна ў курсе ўсіх еўрапейскіх плётак, маючых дачыненне да свецкага грамадства і літаратурных аднадзёнак. Гэтыя падрабязнасьці, як ні варты яны жалю згодна з нашым густам, больш за ўсё цікавяць рускі двор, а значыць, як следства, і ўсю Расію.



Калі б снежныя заносы і растаўшая вада не перашкаджалі рускім на працягу шасьці-васьмі месяцаў ездзіць па чыгунках, рускі ўрад абагнаўбы ўсе іншыя нацыі ў пабудове гэтых дарог, якія скарачаюць адлегласьці, бо ён больш, чым усякі іншы, пакутуе ад немагчымасьці хутка пераадольваць велізарныя прасторы. Але колькі ні будуй чыгунак, колькі ні павялічвай хуткасць цягнікоў, вялізныя памеры Расіі былі і будуць найвялікшай перашкодай для распаўсюджвання ідэй, бо цвёрдая зямля – не мора, па якім можна плаваць ў любым накірунку; вада, якая на першы погляд здаецца разлучніцай, насамрэч сбліжае жыхароў розных кантынентаў. Вось дзівосная супярэчнасць: вязень Госпада, чалавек аднак застаецца, царом прыроды.

Вядома, будзь Масква марскім портам ці хаця б цэнтрам, адкуль разыходзяцца ва ўсе бакі чыгуначныя шляхі – электрычныя праваднікі чалавечай думкі, прызваныя, здаецца, задаволіць некаторыя із нецерпялівых жаданняў таго стагоддзя, у якім нам давялося жыць, тут немагчыма было б назіраць такія выявы, як тая, што паўстала перад маімі вачамі ўчора ў Ангельскім клубе: вайскоўцы ўсіх ўзростаў, франты, важные  спадары і легкадумныя юнакі, на некалькі імгненняў перапыніўшы гутарку, ахіналі сябе крыжом, перш чым сесьці за стол, прычым справа адбывалася не ў месцы жыхарства, не ў коле сям'і, але на людзях, у грамадстве, якое складалася із адных мужчын. Людзі, якія устрымаліся ад выканання гэтага рэлігійнага абавязку (іх было мала), сачылі за дзеяннямі суседзяў без здзіўлення; як бачыце, Парыж нездарма аддзяляюць ад Масквы добрых восемсот лье.

Палац, у якім размясціўся клуб, здаўся мне прасторным і прыгожым; ён пабудаваны і абстаўлены падабаючым чынам, і ў ім можна знайсьці амаль усё,

---

ўціскаць грамадзян гэтай краіны, але надоўга пазбавіць кожнага з іх шматлікіх галоўных чалавечых вартасьцей» (Таквіль А. дэ. Дэмакратыя ў Амерыцы. М., 1992. стр. 499).

што маецца ў іншых клубах. Гэта мяне не здзівіла, але вось набожнасьцю рускіх я быў шчыра захоплены, пра што і паведаміў асобе, якая прывяла мяне ў клуб[225].

Мы размаўлялі адзін на дзін, пайшоўшы ў глыб сада; справа адбывалася пасьля абеда.

– Не варта судзіць пра нас па бачнасьці, – адказваў мой суразмоўца, адзін із самых асвечаных падданых Расійскай імперыі, – у чым вы хутка пераканаецеся.

– Аднак, – запярэчыў я яму, – менавіта гэтая бачнасьць і абуджае ў мяне павагу да вашай нацыі. Ў нас усе баяцца толькі ханжаства, а цынізм жа куды больш згубны для грамадства.

– Так, але ён меней агідны для шляхотных сэрцаў.

– Не спрачаюся, – працягваў я, – але праз гэта выходзіць, што гучней за ўсіх выкрываюць святататствы менавіта бязбожнікі, якія паднімаюць шум, варта ім толькі западозрыць, што ў сэрцы чалавека крыху менш набожнасьці, чым ён яе выказвае ў сваіх учынках і словах? Будзь нашы філосафы паслядоўнымі, яны ўбачылі б у ханжастве адно із апірышч дзяржаўнай машыны. Вернікі куды больш пакладзістыя, чым бязбожнікі.

– Я не чакаў ад вас апалогіі ханжества.

– Я ненавіджу яго як агіднейшую із заганаў, але сцвяржаю, што ханжества, нічым не шкодзячае чалавеку, акрамя яго адносін з Госпадам, менш небяспечнае для грамадства, чым відавочная бязбожнасць, і настойваю на тым, што называць яго апаганьваннем святыні могуць толькі асобы праўдзіва набожныя. Людзям не веруючым, дзяржаўным мужам, якія прытрымліваюцца філасафічных перакананняў, патрэбна было б ставіцца да ханжества паблажліва і нават выкарыстоўваць яго як магутны сродак ўздзеяння на палітыку, аднак французы выбіраюць гэты шлях вельмі рэдка, бо гальская шчырасьць сэрца адмаўляецца кіраваць людзьмі з дапамогай хлусні; насупраць, нашы разважлівыя супернікі навучыліся здабываць карысць із выратавальнай хлусні куды лепш, чым мы. Хіба Англія, краіна, дзе пануе дух асаблівай практыкчнасьці, не атрымала шчодрую ўзнагароду за багаслоўскую непаслядоўнасць і рэлігійную крывадушнасць? Англіканская царква, без усякіх сумневаў, зведала рэформаванне ў значна меншай ступені, чым царква каталіцкая; пасьля таго як Трыдзенскі сабор задаволіў законныя патрабаванні князёў і народаў[226], стала немагчымым вылучаць ў якасьці падставы для разбурення царкоўнага адзінства барацьбу са злоўжываннямі, якую іншыя людзі, прысвоіўшыя сабе ракавае права

[225] У гэтай асобе некаторыя даследнікі (гл.: Quenet Ch. Tchaadaev et les lettres philosophiques. p., 1931. p. 294-295; Cadot. P. 198-199) прапануюць бачыць Чаадаева; гл. нашы пярэчанні ў заўвазе да гэтага тама, стр. 143. Наогул ніжэйзгаданая размова робіць уражанне ўласнага маналога Кюстына, які для большай цікавасьці перабіваецца рэплікамі выдуманага суразмоўцы, некаторыя фразы якога, як, прыкладам, прызнанне ў жаданні лісьлівіць хутчэй газетчыкам, чым святарам, адназначна немагчыма прыпісаць Чаадаеву.

[226] Трыдзенскі сабор (1545-1563; з перарывамі) яшчэ раз перагледзеў і нанова прызначыў усе асноўныя пастулаты каталіцкага веравызнання, надаўшы каталіцкай царкве тое аблічча, якое яна захавала да XX стагоддзя; дзейнасць Сабора спыніла пашырэнне рэфармацыі ў Італіі і Гішпаніі, запаволіла яе развіццё ў Францыі і збольшага ўмацавала пазіцыі каталіцызму ў Нідэрландах і Германіі.

стварываць секты, асуждаюць на словах і памнажаюць на справе; між тым Царква, заснаваная на відавочных супярэчнасьцях і створаная дзякуючы незаконнаму прысвойванню чужых правоў, па гэты дзень дапамагае сваёй краіне пакараць свет, краіна ж адплочвае ёй крывадушным заступніцтвам; гэты спосаб можа здацца агідным, але ён безадказны. Таму я сцвярджаю, што непаслядоўнасць і ханжаскія учынкі, жахлівыя з боку гледжання людзей праўдзіва рэлігійных, не павінны абражаць ні філосафаў, ні дзяржавенных мужоў.

– Не жадаеце ж вы сказаць, што сярод прыхажан англіканскай царквы няма ніводнага шчырага верніка-хрысьціяніна?

– Не, я дапускаю, што ў гэтым выпадку, як і ва ўсіх іншых, правіла зведвае, выключэнне аднак я перакананы, што большасць тамашніх хрысьціян дзейнічаюць непаслядоўна, што, дарэчы, ніяк не перашкаджае мне, французу, зайздросьціць рэлігійнай палітыцы англічан; роўным чынам я захапляюся і набожнай пакорай рускіх. У французаў кожны сьвятар, які карыстаецца даверам народа, здаецца прыгнятальнікам тым вальнадумцам, што вось ужо сто трыццаць гадоў кіруюць краінай[227] і альбо адкрыта, з дапамогай свайго рэвалюцыйнага фанатызму, альбо таемна, з дапамогай сваёй філасафічнай абыякавасьці, прыводзяць яе да хаасу.

**~ 75 ~**

Мой праўдзіва асвечаны суразмоўца, здавалася, глыбока задумаўся; пасьля працяглага маўчання ён сказаў:

– Мае перакананні не такія далёкія ад вашых, як вы думаеце; падарожнічаючы па Яўропе, я ніколі не мог зразумець адной акалічнасьці, якая здаецца мне невытлумачальнай: я кажу пра варожае стаўленне ліберлаў – нават тых, хто называюць сябе хрысьціянамі, – да каталіцкай рэлігіі. Няўжо гэтыя людзі (а сярод іх ёсць такія, якія разважаюць дастаткова разумна і даводзяць свае разважанні да лагічнага канца) не бачаць, што, адракаючыся ад рымскай рэлігіі, яны пазбаўляюць сябе заступніцы, здольнай абараніць іх ад дэспатызма, які ўласьцівы для ўрада ўсякай дзяржавы, якіх бы перакананняў ён ні прытрымліваўся?

– Вы цалкам маеце рацыю, – адказваў я, – але светам кіруе звычка; на працягу шмат стагоддзяў самыя асьвечаныя розумы так гучна выкрывалі нецярпімасць і сквапнасць Рыма, што ніхто ў нас яшчэ не паспеў змяніць свае погляды і зразумець, што папа як духоўны кіраўнік Царквы ёсць непахіснае апірышча рэлігійнай свабоды ва ўсім хрысьціянскім свеце, а як свецкі ўладыка – шаноўны кіраўнік, вікарый Ісуса Хрыста, які нясе свой дваісты цяжар і абараняе сваю незалежнасць з найвялікшымі высілкамі, бо яго палітыка, не маючая моцы ўнутры дзяржавы, ужо даўно нікога не страшыць за яе межамі. Як не разгледзець з першага ж погляду, што ўсякая нацыя, безумоўна прынімаючая

[227] Агучваючы гэты тэрмін, Кюстын выходзіць із пашыранай канцэпцыі, паводле якой французскія філосафы XVIII стагоддзя, скептыкі і матэрыялісты, падпарадкавалі сабе грамадзкую думку і прывялі Францыю да рэвалюцыі 1789-1794 гг., тым самым абумовіўшы яе лёс у XIX стагоддзі.

каталіцкую веру, непазбежна ператвараецца ў праціўніка Англіі[228] [37], чыя палітычная магутнасць грунтуецца выключна на ерасі? Калі Францыя паднімае і абараняе усёй магутнасьцю сваіх перакананняў сцяг Каталіцкай Царквы, яна ўжо адным гэтым абвяшчае ва ўсіх кутках света страшную вайну Англіі. Усё гэта – ісціны, якія ў наш час, здаецца, не могуць не быць відавочнымі для ўсіх, між тым па гэты дзень над імі яшчэ не задумаўся ніхто, акрамя некалькіх асоб – зацікаўленых і таму не карыстаючыхся даверам: бо асаблівасць нашай эпохі складаецца ў тым, што французы уяўляюць, быццам чалавек, колькі-небудзь зацікаўлены ў тым, каб гаварыць праўду, абавязкова хлусіць: здаровы сэнс выклікаў бы большы давер, будзь дакладна вядома, што ён рашуча безкарыслівы[229]... Такім з’яўляецца замяшанне, пераважаючае ў розумах пасьля паўстагоддзя, аданнага рэвалюцыям, і больш за сотню гадоў, якія прайшлі пад знакам філасофскага і літературнага цінізма. Хіба няма ў мяне падстаў зайздросьціць вашай веры?

– Аднак ваша рэлігійная палітыка прызвана заахвоціць ўсю нацыю схіліць калені перад святарамі.

– Перабольшаная набожнасць, на мой позірк, – не самая страшная із небяспек, якія пагражаюць нашаму стагоддзю, аднак будзь нават набожнасць шчыра веруючых людзей сілай жахлівай, я не адступіўся б з гэтай нагоды ад сваіх перакананняў; кожны чалавек, які жадае дамагчыся ў гэтым жыцці чаго-небудзь station... 

– Згодзен, аднак я хутчэй стану ліслівіць газетчыкам, чым святарам; свабода думкі ўтойвае ў сабе больш пераваг, чым недахопаў.

**~ 76 ~**

– Калі б вы мелі магчымасць назіраць тую тыранію думкі, да якой прыводзіць свавольства людзей, кіруючых французкай прэсай, так блізка, як назіраў яе я, вы не вымавілі б гэтую прыгожую фразу: атрымай вы свабоду думкі, вы вельмі хутка даведаліся б, што газетчыкі кіруюць светам так жа зацікаўлена, але куды менш набожна, чым сьвятары. Забудзьцеся на імгненне пра палітыку і паспрабуйце вызначыць, чым кіруюцца газетчыкі, ствараючы рэпутацыю тым ці іншым асобам... Маральнасць улады залежыць ад той школы, якую праходзяць людзі, дамагаючыяся гэтай улады. Не думаеце ж вы, што пачуццё ўласнай годнасьці і незалежнасьці развіта ў газетчыкаў больш, чым ў сьвятароў? А пытанне ж менавіта ў гэтым, і сёняшняя Францыя прызвана вырашыць яго, а таксама і шмат іншых пытанняў, адпаведна з духам часу; дарэчы, якое б меркаванне ні ўзяло верх, я ведаю напэўна, што Гасподзь ніколі не дазваляе

[228] [заўвага аўтара] ***Глядзі нашу прадмову да кнігі*** *(У пятым выданні 1854 г. Кюстын дапоўніў гэтую заўвагу фразай: “**Наша рэлігія заўсёды будзе пакутаваць ад занадта цеснага хаўрусу з Англіяй”).***

[229] Нататка Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Нядаўнія падзеі, якія адбыліся на Таіці, падцвярджаюць думкі, выказаныя аўтарам у гэтай размове». У 1836 г. ангельцы выгналі із выспы Таіці французскіх місіянераў, але ў верасні 1842 г. французскі адмірал Дюпеці-Цюар, у сваю чаргу, прагнаў із Таіці ангельскага місіянера Прычарда, а каралева Паморэ была вымушана прыняць пратэктарат Францыі над Таіці.

чалавечай логіцы непадзельна кіраваць зямным светам і што людзі з непахіснай душой і фанатычнымі ідэямі нядоўга будуць трымаць ў руках незаконна выкрадзеную імі ўладу... аднак пакінем агульныя разважанні і пагаворым аб стане рэлігіі ў вашай краіне; скажыце мне, хто тыя людзі, што прапаведуюць і тлумачаць Евангелле ў Расіі?

Маё пытанне, хай нават зададзенае чалавеку высокага розуму, у Пецярбургу прагучала б нясціпла; у Маскве ж я рызыкнуў задаць яго, бо тут пануе загадкавая свабода, якой мясцовыя жыхары карыстаюцца несвядома, не ўмеючы яе вызначыць і не ведаючы яе падставаў; некаторым людзям, захопленых ёю, здараецца дорага заплаціць за сваю даверлівасць, і ўсё ж гэтая свабода – не выдумка, а рэчаіснасць[230]. Вось што адказаў мне філасафічна настроены рускі (слова “філасафічны” я ўжываю ў самым пахвальным сэнсе). Вы ўжо ведаеце характар яго перакананняў: пасьля шматгадовага знаходжання ў Яўропе ён вярнуўся ў Расію, прытрымліваючыся ліберальных поглядаў, але вельмі здаровых. Вось коратка перададзеная яго вымова:

– У грэцкіх цэрквах пропаведзі заўсёды былі вельмі кароткімі, ў нас жа палітычныя і рэлігійныя ўлады больш, чым дзе б там ні было, працівіліся багаслоўскіх спрэчкам; як толькі знаходзіліся людзі, пажадаўшыя абмяркоўваць супярэчнасьці паміж Рымам і Візантыяй, ім загадвалі маўчаць. Падставы ж супярэчнасьцей такія нікчэмныя, што спрэчкі могуць працягвацца толькі дзякуючы невуцтву бакоў. У шмат якіх навучальных установах для дзяўчынак і хлопчыкаў выхаваўцам, згодна прыкладу езуітаў, давалі дзецям пачатковую рэлігійную адукацыю, але улады дапускалі падобныя ўрокі толькі ў выглядзе выключэнняў, час ад часу забараняючы іх; вось факт, які можа здацца вам неверагодным, але тым не менш цалкам дакладны: публічнага рэлігійнага выхавання ў Расіі не існуе[231]. Адсюль – шматлікасць сект, існаванне якіх ўрад старанна хавае. Адна із іх заахвочвае шматжонства; другая ідзе яшчэ далей: яна прапаведуе агульнасць жонак і мужоў і ператварае свае тэорыі ў жыццё. Нашым святарам забаронена пісаць што б там ні было, нават летапісы; сяляне тлумачаць Біблію, вырываючы выказванні із кантэкста, што прыводзіць да ўтварэння новых ерасей, пераважна кальвіністычных. Калі вясковы поп схамянецца, высвятляецца, што ерась ўжо заразіла вялікую частку мясцовых жыхароў і нават, дзякуючы ўпартасьці невукаў, распаўсюдзілася сярод насельнікаў суседніх вёсак; калі поп б'е трывогу, ерэтыкоў-сялян неадкладна высылаюць ў Сібір, таму землеўласнік, каб не пазбавіцца прыгонных і не збяднець, самымі разнымі захадамі прымушае папа да маўчання; калі ж, нягледзячы на ўсе засьцярогі, чуткі аб новай секце нарэшце даходзяць да вышэйшых уладаў, колькасць ерэтыкоў

---

230 [заўвага аўтара] Незаконнае пазбаўленне волі француза, пра якое я распавяду ніжэй, доказывае небяспеку падобных ілюзій.

231 [заўвага аўтара]Я гэта ведаў раней і ўжо пісаў пра гэта (глядзі т. I, с. 364 і гэты том, с. 15 (і заўв.)). У строгім сэнсе слова гэта сцвярджэнне не мае рацыі: яшчэ ў XVIII стагоддзі для ўсіх, каму надавалася годнасць адукаванасьці, было абавязкова веданне Закона Божага, а напачатку XIX стагоддзя канчаткова ўсталяваўся курс Закона Божага, накіраванасць якога, дарэчы, эвалюцыянавала ад філасофскі-павучальнай і рэлігійна-маралістычнай да царкоўна-дагматычнага.

выяўляецца такой вялікай, што ўсякія захады выяўляюцца не маючымі карысьці: насільства можа прывесці да апавяшчэння, але не здольна выкараніць зло; абвяржэнне веры, вызнаваемай сектантамі, спародзіць дыскусію, а гэта ў вачах рускага ўрада – жахлівейшая із бедаў; такім чынам, адзіным сродкам, які выкарыстоўваюць улады, застаецца маўчанне, хаваючае хваробу, але не лякуючае, а, насупраць, пагаршаючае яе. Менавіта рэлігійныя спрэчкі загубяць рускую імперыю; вы зайздросьціце магутнасьці нашай веры таму, што мяркуеце пра яе згодна чутак!!

Такое меркаванне аднаго із самых праніклівых і шчырых людзей, якіх я сустрэў у Расіі...

Адзін цалкам заслугоўваючы даверу іншаземц, ужо шмат гадоў жыўшы ў Маскве, распавёў мне сёння, што нядаўна здарылася яму абедаць у пецярбургскага купца, таемнага прыхільніка адной із новых сект, у прысутнасьці яго трох жонак: не палюбоўніц, а менавіта законных жонак. Не думаю, каб дзяржава прызнала дзяцей, прыжытых ім ад гэтых трох жонак, законнымі, але яго сумленне хрысьціяніна можа заставацца спакойным.

**~ 77 ~**

Калі б я даведаўся пра гэты выпадак ад мясцовага жыхара, я не стаў бы згадваць вам пра яго, бо сярод рускіх ёсць такія, якія ахвотна марочаць галаву залішне цікаўным і легкаверным падарожнікам[232] і, тым самым, абцяжарваюць ім добрасумленнае выкананне абавязку; важнейшага, але цяжэйшага – абавязку назіральніка.

Купецкі стан – самы магутны, старажытны і шануемы стан ў Маскве; заможныя гандляры вядуць жыццё, падобнае таму, ад якога атрымліваюць асалоду азіяцкія негацыянты: гэта яшчэ раз даказвае падабенства маскоўскіх нораваў з усходнімі звычаямі, так маляўніча адлюстраваных ў арабскіх казках. Паміж Масквой і Багдадам столькі агульнага, што, падарожнічаючы па Расіі, страчваеш жаданне бачыць Персію: падарожжа туды не абяцае нічога новага.

Я пабываў на народным сьвяце каля кляштара на Дзявочым полі. Дзеючымі асобамі у гэтай пастанове былі жаўнеры і мужыкі, гледачамі – свецкія людзі, таксама не пакінуўшыя без увагі гэтую забаву. Шатры і палаткі, дзе прадаюць крэпкія напоі, уладкаваны каля могілак; ушанаванне памёршых служыць для народа падставай для весялосьці. Сьвята было прысвечана не згадаю якому сьвятому, на мошчы і выявы якога просталюдзіны спраўна маліліся паміж кружкамі квасу. У той вечар яны знішчылі казачную колькасць гэтага нацыянальнага напою.

У кляштары на Дзявочым полі восем цэркваў; у адной з іх захоўваецца цудатворная ікона Смаленскай Божай маці, якую некаторыя рускія лічаць ўсяго толькі копіяй.

На прыканцы дня я зайшоў у галоўны сабор кляштара; ён зрабіў на мяне моцнае ўражанне: паўзмрок надаваў яму асаблівую веліч. У абавязак манахінь ўваходзіць упрыгожванне алтароў ў прыдзелах, і гэты абавязак – дарэчы,

[232] Пар. заўвагу да т. I, стр. 123 і 366.

лягчэйшы із усіх, якія вызначаюцца іхным становішчам, – яны выконваюць з вялікай стараннасьцю, абавязкамі ж больш цяжкімі грэбуюць, бо, як кажуць асобы вельмі дасведчаныя, паводзіны маскоўскіх манахінь цяжка назваць бездакорнымі.

У саборы пахаваныя некалькі царыц і царэвен, ў прыватнасьці славалюбівая царэўна Сафія, сястра Пятра Вялікага, і царыца Еўдакія, першая жонка гэтага манарха. Гэтая нешчаслівая жанчына, зведаўшая няласку, калі я не памыляюся, у 1696, была вымушана прыняць пастрыг у Суздалі.

Каталіцкая царква адчувае такую вялікую павагу да непарыўнай шлюбнай сувязі, што дазваляе адружанай жанчыне пайсьці ў кляштар толькі ў тым выпадку, калі яе чалавек ў той жа самы час прымае пастрыг або станавіцца святаром. Такое правіла аднак, ў нас, як і ўсюды, законы нярэдка падпарадкоўваюцца людзкім інтарэсам; тым не менш вядома, што каталіцкае святарства і па гэты дзень лепш за ўсіх у свеце ўмее ахоўваць святую незалежнасць рэлігіі ад дамаганняў палітыкі.

Імператрыца-манахіня памёрла ў Маскве, у Новадзявочым кляштары, у 1731 годзе[233].

Ўнутраны двор сабора часткова заняты вельмі прыгожымі могілкамі. Наогул, рускія кляштары больш падобныя на скопішча невялікіх дамоў, на гарадзкі квартал ў каменнай агароджы, чым на мясьціну веры. Шматразова разбураўшыяся і перабудоўваўшыяся, яны маюць вельмі сучасны выгляд; у краю, дзе няма нічога даўгавечнага, ні адна пабудова не можа супрацьстаяць дзеянню клімата і злосьці стыхій. Усё вельмі хутка прыходзіць у непрыдатнасць і перарабляецца нанова: таму ўся краіна здаецца паселішчам, заснаваным не далей як учара[234]. Адзін Крэмль, здаецца, не баіцца зімовых маразоў і гатовы стаяць цэлым столькі, колькі праіснуе імперыя, чыёй эмблемай і апорай ён з'яўляецца.

Дарэчы, хоць рускія кляштары і не адрозніваюцца прыгажосьцю архітэктуры, увасабляемая імі ідэя непазбежна надае ім веліч. Выйшаўшы за агароджу Новадзявочага кляштара, я паспрабаваў аддаліцца ад натоўпу, чый шум пачаў мне дакучаць. Цемра ўжо ахутала купалы цэркваў, калі я пачаў агляд аднаго із прыгажэйшых кварталаў Масквы – горада, дзе няма недахопу ў маляўнічых выявах. Ідучы па вуліцы, вы не заўважаеце нічога, акрамя стаячых на ёй дамоў, але ступіце на шырокую плошчу, падніміцеся на пагорак, нават зусім невысокі, адчыніце вакно, выйдзіце на балкон або терасу – і перад вашымі вачамі паўстане новы, вялізны горад, які раскінуўся на ўзвышшах, паміж якімі пралягаюць пашні, сажалкі, нават лесы; горад-вёска, атачоны палеткамі,

---

[233] Дату сьмерці Еўдакіі Фёдараўны, народжанай Лапухінай (1669-1731), першай жонкі Петра I, маці царэвіча Аляксея, Кюстын паведамляе дакладна, але памыляецца ў даце яе пастрыжэння (1698 г.), хаця ў яго асноўнай крыніцы (Segur. p. 421) гэта дата пазначана слушна.

[234] Пар. падобнае ўражанне Баранта: «Тула — адзін із найстаражытнейшых рускіх гарадоў, але даведацца пра гэта можна толькі із кніг, бо згодна з выглядам кожнага рускага горада здаецца, што ён пабудаваны толькі ўчора» (Notes. p. 270).

хвалюючыміся, нібы мора, якое, у сваю чаргу, нават у непагоду здалёк заўсёды нагадвае раўніну.

Масква – горад, створаны для майстроў жанра, архітэктарам жа, скульптарам і стваральнікам гістарычных палоцен тут няма на што глядзець і няма чаго рабіць. Гурты пабудоў, згубленыя сярод велізарных абшараў, ствараюць шмат цудоўных і смелых пярэдніх планаў для велічных пейзажаў, якія надаюць старажытнай сталіцы Расіі непаўторнае аблічча, бо ў сьвеце няма іншага горада, які, разрастаючыся, захаваў бы ўсю маляўнічасць вясковай мясцовасьці. У Маскве столькі ж прасёлкавых дарог, колькі і вуліц, столькі ж апрацаваных палеткаў, колькі і пагоркаў, забудаваных дамамі, столькі ж запусьцелых яроў, колькі і шумных плошчаў. У двух кроках ад цэнтра горада вы можаце ўбачыць вясковыя хаты на беразе стаўка і пасярод лесу: перад вашым позіркам паўстаюць то велічныя кляштары са шматлікімі, накіраванымі ў неба саборамі і званніцамі, то хаты на ўзвышшах, то каласячыяся палеткі, то амаль зусім перасохшая праз летнюю спёку рэчка; перавядзіце погляд трохі далей – і вы ўбачыце выспы гарадзкіх пабудоваў, такіх жа незвычайных, як і разнастайных, ўбачыце тэатры з антычнымі перыстылямі, а побач драўляныя палацы – адзіныя тварэнні нацыянальнага архітэктурнага генію, прыдатныя для жыцця, прычым усё гэта будзе напалавіну схавана ад вас зелянінай; не забудзьцеся таксама, што над паэтычнай дэкарацыяй, якую я толькі што апісаў, пануе старажытны Крэмль з яго зубчатымі сьценамі і дзівоснымі вежамі, чые верхавіны нагадваюць заснежаныя вяршыні стагадовых дубоў. Гэты славянскі Парфенон пануе над Масквой і ахоўвае яе; ён падобны да венецыянскага дожа, засядаючага ў атачэнні сената.



Палаткі, дзе тоўпіліся ўдзельнікі гуляння на Дзявочым полі, да вечара насыціліся нясцерпным смуродам; паветра атручвалі пахі юфті, спіртовых напояў, моцнага піва, кіслай капусты, казацкіх ботаў, мускусу і амбры, якімі прыемна пахлі некалькі дваран, зайшоўшых сюды ад няма чаго рабіць і, здаецца, із арыстакратычнай ганарыстасьці вырашыўшых чаго б гэта ні каштавала прабыць тут увесь дзень; што да мяне, я вельмі хутка пачаў задыхацца.

Для рускіх просталюдзінаў галоўнае задавальненне – хмель, інакш кажучы, забыццё. Небаракі! Каб зрабіцца шчаслівымі, ім патрэбна ўпасьці ў забыццё; дарэчы, аб дабрадушнасьці нораваў рускіх мужыкоў сведчыць тое, што, захмялеўшы, гэтыя людзі, якімі б грубымі яны ні былі, мякчэюць і, замест таго каб згодна прыкладу п'яніц за ўсім свеце лезьці ў бойку і збіваць адзін аднаго да паўсьмерці, плачуць і цалуюцца: што за чуллівая і забаўная нацыя[235]!.. Як прыемна было б зрабіць яе шчаслівай. Аднак гэтая задача нелёгкая – каб не сказаць невыконваемая. Пакакажыце мне спосаб задаволіць смутныя жаданні волата – юнага, лянівага, цёмнага, славалюбівага і звязанага па руках і нагах!..

[235] Той факт, што рускія прастачыны, «як бы люта яны ні спрачаліся, ніколі не даходзяць да бойкі і таму на маскоўскіх вуліцах ніколі не пабачыш тых крывавых сцэн, якія з’яўляюцца такімі звыклымі для жыхароў Парыжа і Лондана», зачароўваў і Ансэло (Ancelot. p. 276).

Мне ні разу яшчэ не даводзілася пашкадаваць тутэйшы народ, не паспачуваўшы адначасова ўсемагутнаму чалавеку, кіруючаму гэтым народам.

Я адыйшоў ад піцейных установ і стаў хадзіць па плошчы: натоўпы людзей, якія гулялі паднімалі тут хмары пылу. У Афінах лета працягваецца доўга, але дні там кароткія, а паветра дзякуючы ветру, прылятаючаму з мора, не цяплейшае, чым у Маскве падчас хуткапраходзячага паўночнага лета. У Расіі ж у гэты час года стаіць невыносная спёка: дарэчы, хутка яна скончыцца, наступіць ноч, а ўслед за ёю і зіма, якая вымусіць мяне скараціць знаходжанне ў гэтай краіне, як ні было б цікава пажыць тут даўжэй.

Замёрзнуць ў Маскве немагчыма, паўтараюць ў адзін голас усё абаронцы рускага клімату; магчыма, яны і маюць рацыю, аднак руская зіма – гэта восем месяцаў у памяшканні, мяхі, двайное шкло і засцярогі, якіх патрабуе люты мароз (а ртутны слупок апускаецца тут да 15, а то і да 30 градусаў ніжэй за нуль), – тут ёсць над чым падумаць, ці не так?

Кляштар на Дзявочым полі стаіць на высокім беразе Масквы-ракі; ярмарачная пляцоўка, як кажуць у Нармандыі, а іншымі словамі, – плошча, дзе адбываецца святкаванне, – гэта велізарны пустыр, які спускаецца, часам спадзіста, а часам і крута, да ракі, якая ў гэтым годзе больш паходзіць на пяшчаную дарогу раз-пораз змяняючай шырыню, пасярэдзіне якой струменіцца тоненькі ручаёк. З аднаго боку пляцоўкі ўздымаюцца ўвысь вежы кляштара, з другога – віднеюцца ўдалечыні пабудовы старой Масквы; палеткі і лугі ўперамежку з атачонымі зелянінай хатамі, шэрыя дошкі хацін побач з гіпсам і вапнай раскошных палацаў, хваёвы лес, атачаючы сталіцу жалобным поясам, павольна дагараючы ўдалечыні заход – усё тут надае аднастайнаму паўночнаму пейзажу велічавую прыгажосць. Тут перад позіркам паўстаюць выявы сумныя, але грандыёзныя. Тут усё прасякнута паэзіяй, напісанай на невядомай нам, таемнай мове: папіраючы гэтую прыгнечаную зямлю, я ўслухоўваюся, не разумеючы слоў, у плач невядомага Ераміі; дэспатызм не можа не нараджаць прарокаў: будучыня абяцае райскае жыццё рабам і пякельныя мукі тыранам! Па далятаючых да майго слуха мелодыях гаротных песень, па касых, хітрых, кінутых крадком, крывадушных поглядах я спрабую ўгадаць думку, якая драмае у душы гэтага народа, аднак толькі час і маладосць, якая, колькі б на яе ні паклёпнічалі, больш схільна да навучання, чым сталы ўзрост, дазволілі б мне пракрасьціся ва ўсе таямніцы гэтай паэзіі смутку.



Замест таго каб занімацца сур'ёзнымі даследаваннямі, я – праз адсутнасць дакументаў – забаўляюся, разлядаю твары просталюдзінаў, іхнае напалову ўсходняе, напалову чухонскае адзенне; я рады, што наведаў гэтае свята – невясёлае, але так моцна адрозніваючаеся ад усяго бачанага мною раней.

Сярод тых, хто гуляў і выпіваў на плошчы, было шмат казакаў. Сабраўшыся ў гурток, яны моўчкі слухалі некалькіх спевакоў, якія пранізлівымі галасамі сумна выводзілі пад нягучную, але вельмі меладычную музыку казацкую народную песьню. Здаецца, яна падобна на старынную песьню “Гішпанскія свавольствы”, але гучыць значна больш сумна, далікатна і пранікліва; здаецца, быццам чуеш

даносячыся із глыбіні начнога лесу салаўіны спеў. Слухачы часам падпявалі хорам апошнія словы куплетаў.

Вось даслоўны празаічны пераклад, зроблены для мяне адным рускім.

**Юны казак**: Яны б'юць трывогу, Конь мой капае зямлю; Я чую яго ржанне, Не стрымлівай мяне.

**Юная дзева**: Няхай іншыя рвуцца ў бойку, Ты занадта малады і далікатны; Застанься ў нашай хаціне, Не ездзі за Дон.

**Юны казак**: Вораг, вораг, да зброі!.. Выклікаю цябе на бой; Пяшчотны з табою, надменны з ворагам, Я малады, але адважны; Стары казак пачырванее ад сораму і гневу, Калі паедзе без мяне.

**Юная дзева**: Паглядзі, як плача твая маці, як дрыжаць яе калені; Твая піка ударыць яе і меня Перш, чым праніжа ворага.

**Юны казак**: Ваяры, апавядаючы пра бітву, Назовуць мяне баязліўцам; Калі ж я загіну, браты праславяць маё імя, І гэта суцешыць цябе.

**Юная дзева**: Не, мы ляжам ў адну яму; Калі ты памрэш, я памру ўслед за табой; Ты паедзеш адзін, але загінем мы разам. Бывай, у мяне больш няма моцы плакаць.

Словы гэтай песні гучаць, як мне здаецца, цалкам сучасна, мелодыя ж надае ім водар старыны і прастаты, дзякуючы якому я мог бы без нуды слухаць яе гадзінамі запар.

З каждым куплетам яна вырабляе на слухача ўсё больш глыбокае ўражанне: шмат гадоў назад у Парыжы танчылі рускі танец пад падобную музыку, аднак у краіне, дзе яна нарадзілася, музыка кранае душу куды мацней.

У песнях паўночных народаў больш сумавання, чым захаплення, аднак яны надоўга застаюцца ў памяці, між тым як больш яскравыя ўражанні ад паўднёвых песень хутка забываюцца. Сумаванне больш даўгавечнае чым захапленне. Пасьля таго як я праслухаў казацкую песьню некалькі разоў, яна здалася мне ўжо не такой манатоннай і куды больш выразнай; з простай музыкай гэта здараецца часта: паўтарэнні толькі павялічваюць яе выразнасць. Уральскія казакі спяваюць зусім інакш; шкада, што мне не давялося іх пачуць.

Гэта племя годна адмысловага вывучэння, на якое, аднак, у спяшаючагася іншаземца няма часу; казакі, па большай частцы сямейныя, – гэта ваяўнічы род, не столькі регулярнае войска, колькі ўтаймаваная арда. Адданыя сваім правадырам, як сабакі свайму гаспадару, яны выконваюць загады з вялікім запалам і меншым рабалепствам, чым іншыя рускія жаўнеры. У краіне, дзе нішто не вызначана раз і назаўжды, яны лічаць сябе хаўруснікамі, але не рабамі імператара. Яны спрытныя, звыклыя да качавога ладу жыцця; коні ў іх хуткія, гарачыя, вынослівыя і спрытныя, як і яны самі, так жа лёгка пераадольваюць стому і нястачы. Немагчыма без захаплення думаць пра гэтых дзікуноў-выведнікаў, якія дзякуючы свайму геаграфічнаму нюху знаходзяць дарогу ва ўсякай незнаёмай мясцовасці, як у самай пустэльнай і бясплоднай, так і ў самай цывілізаванай і населенай. Хіба на вайне само слова “казак” не ўсяляе жах ў душу ворага? Генералы, якія ўмеюць з толкам выкарыстоўваць гэтую лёгкую

кавалерыю, атрымліваюць такі магутны сродак атакі, якога не маюць прававадыры, узначальваючыя самае дыстыплінаванае войска ў свеце.

Кажуць, у казакаў ад прыроды мяккі нораў; яны больш адчувальныя, чым можна было б чакаць ад такога грубага народу, аднак бязмежнасць іхнага невуцтва выклікае ў мяне спачуванне і да іх, і да іх правадыроў.

Калі я думаю пра выгаду, якую атрымліваюць тутэйшыя афіцэры із даверлівасьці жаўнераў, усё ўва мне паўстае супраць урада, які апускаецца да падобных выкрутаў і не карае тых са сваіх падначаленых, хто адважваецца іх выкарыстоўваць.

**~ 80 ~**

Я ведаю із надзейнай крыніцы, што ў 1814-1815 гадах камандзіры, якія выводзілі свае атрады за межы айчыны, казалі казакам: "Забівайце як мага больш вогараў, знішчайце суперніка, нічога не бойцеся. Загінуўшы ў баі, вы праз тры дні вернецеся дахаты, да жонак і дзецей; вы ўваскрэснеце ў плоці і крыві, душой і целам; чаго вам баяцца?"[236]

Людзі, якія прывыклі лічыць загады афіцэраў за волю Бога, зразумелі гэтыя абяцанні літаральна; вы ведаеце, як смела яны змагаліся: да таго часу, пакуль магчыма было пазбегнуць небяспекі, яны ўцякалі, як апошнія марадзёры, але, убачыўшы немінучую гібель, сустракалі яе як сапраўдныя жаўнеры.

Што да мяне, я перакананы: калі б мне давялося выкарыстоўваць такія або падобныя сродкі дзеля таго, каб весьці за сабою няшчасных просталюдзінаў, я б не пагадзіўся і тыдзень насіць афіцэрскія пагоны; падманваць людзей, хай нават дзеля таго, каб рабіць з іх герояў, здаецца мне задачай, нявартай ні іх ні мяне; я гатовы карыстацца адвагай падначаленых мне байцоў, але пры гэтым хачу мець права захапляцца імі; абуджаць мужнасць жаўнераў законнымі сродкамі – абавязак камандзіра; штурхаць іх на сьмерць, хаваючы ад няшчасных іхны лёс, – падман, які пазбаўляе подзвіг высакароднасьці, а адданасць – маральнай велічы; вайсковая крывадушнасць нічым не лепшая за рэлігійную крывадушнасць. Калі б вайна выбачала ўсякую няпраўду, як лічаць некаторыя людзі, што прабачала б вайну?

Ці можна, аднак, без жаху і агіды ўявіць сабе маральны стан нацыі, чыё войска не далей чым дваццаць пяць гадоў таму назад кіравалася падобным чынам? Вядома, дзеянне ўсякага падману абмежавана, аднак дзяржаўнай машыне хапае адной выдумкі на ваенную кампанію: у кожнае вайны свая хлусня.

Закончу байкай, якая была складзена, здаецца, спецыяльна да гэтага выпадку. Думка належыць паляку, біскупу Вармійскаму, які жыў у часы Фрыдрыха II і праславіўся сваёй дасьціпнасьцю; французкае перайманне напісана графам Эльзеарам дэ Сабранам[237]:

---

[236] Збольшага падобны варыянт гэтага павер'я пераказвае Бернардэн дэ Сэн-П'ер: «Рускія ўпэўнены, што кожнага, хто памрэ за гасудара, чакае вечная асалода, таму нішто — ні невуцтва іхных генералаў, ні нечаканыя дзеянні суперніка — не могуць іх збянтэжыць» (Voyage en Russie. p. 1179).

[237] Граф Эльзеар дэ Сабран (1774-1846) — дзядзька Кюстына, родны брат яго маці, літаратар-дылетант. Польскі паэт, у якога пераймаў Сабран, — Ігнат Красіцкі (1735-1801), у 1766-1795 гг. — біскуп Бармійскі;

Запрэжка. Майстэрскі фурман правіў экіпажам; Папарна чацвярню ў яго ён запрагаў. І, ведаючы, як яе паскорыць бег, такую вымову трымаў (мы перакажам): “Бяда, калі першыя адыйдуць ад вас наперад”, – Другую павучаў ён пару. “Бяда, калі задняя вас пара абыйдзе, ці хаця б нагоніць: больш жару!”- Пярэдніх коней ён прыспешваў, І тыя беглі, не шкадуючы сябе. Падарожнік, чуючы гэтыя навучанні, сказаў: “Марочыце вы коней сваіх”. А фурман: “Так, я падманваю іх, але коціцца мая карэта добра”[238].

# Ліст дваццаць дзевяты

*Татарская мячэць. – Як жывуць у Маскве нашчадкі манголаў. – Іхная знешнасць. – Разважанні пра лёс разнастайных плямёнаў, якія складаюць род чалавечы. – Прыніжаючая памяркоўнасць. – Маляўнічыя выявы. – Від на Крэмль здалёк. – Цытата із Лаво. – Сухарава вежа. – Прасторны вадаём. – Візантыйская архітэктура. Грамадзкія ўстановы. – Усюдыісны імператар. – Несумяшчальнасць славянскага і нямецкага характараў. – Вялікі маскоўскі манеж. – Дваранскі сход. – Што разумеюць рускія пад цывілізацыяй. – Указы Пятра I якія маюць дачыненне да этікета. – Схільнасць рускіх да мішуры. – Звычкі вяльможаў. – Разбуральнае дзеянне нуды на грамадства, падобнае на маскоўскае. – Рускія кафэ. – Адзенне тамашніх служак. – Пакорлівасць былых прыгонных. – Іхныя рэлігійныя вераванні. – Маскоўскае таварыства. – Загарадныя пабудовы ў межах горада. – Драўляныя хаты. – Абед пад стрэшкай. – Сапраўдная паслужлівасьць. – Рускі характар. – Пагарда рускіх да міласэрднасьці. – Імператар заахвочвае гэтае пачуццё. – Хупавыя манеры рускіх. – Іхнае ўменне прываблівацць суразмоўцу. – Нараджаемыя ім ілюзіі. – Падабенства рускага і польскага характараў. – Жыццё знатных гулякаў ў Маскве. – Чым тлумачацца іхныя вольныя паводзіны. – Ветранасць не маючая прыкладаў. – Што служыць апраўданнем дэспатызму. – Маральныя наступствы гэтага ладу кіравання. – Бязбожнасьць згубная нават для людзей амаральных. – Разважанні пра нашу сучасную літаратуру. – Павага да слова. – Вялікасвецкі п’яніца. – Уніклівасць і непачцівасць рускіх. – Партрэт князя ***. – Яго сьвіта. – Забойства ў жаночым кляштары. – Любоўныя прыгоды. – Размова за табльдотам. – Крамлёўскі лавелас. – Бурлескнае прашэнне. – Сучаснае ханжаства. – Загараднае падарожжа. – Развітанне з князем *** ў двары карчмы. – Апісанне гэтай пастановы. – Элегантны фурман. – Звычаі маскоўскіх мяшчан. – Паблажлівае стаўленне да распутнікаў у гэтых краях. – У чым яго падстава. – Плён дэспатызму. – Агульнае памылковае стаўленне, якое мае дачыненне да наступстваў, да якім прыводзіць самаўладдзе. –*

---

пасля першага падзелу Польшчы (1772 г.) яго епархія адышла да Прусіі, ён падоўгу жыў у Берліне і ў 1791 г. мог сустрэцца там з бабкай Кюстына і яго дзядзькай, якія эміґравалі пад час рэвалюцыі ў Францыі; байка запазычана із яго твора «Байкі і прыповесьці» (1779 г.), які Красіцкі сам пераклаў на французскую мову (пераклад застаўся ў рукапісе). Гл.: Rosja. т. 2. p. 477-478.

[238] [заўвага аўтара] Пераклад М. Грынберга.

*Становішча прыгонных. – Што стварае сапраўдную магутнасць самаўладдзя. – Ілжывы шлях. – Вынік палітыкі Пятра І. – Сапраўдная моц Расіі. – На чым грунтавалася веліч цара Пятра. – Яго ўплыў прыкметны і па гэты дзень. – Якім чынам я хаваю свае лісты. – Пятроўскае. – Спеў рускіх цыган. – Рэвалюцыя ў музыцы, здзейсненая Дзюпрэ. – Выгляд цыганак. – Руская опера. – Французкая камедыя. – Як рускія гавораць па-французку і разумеюць французскую мову. – Падманчывае ўражанне, якое выrabляецца імі на нас. – Рускі ў сваёй бібліятэцы. – Дзяцінства. – Тарантас – мясцовы сродак перамяшчэння. – Што азначае для рускага неабходнасць праехаць чатырыста лье. – Прыемная рыса характару.*

**~ 81 ~**

**Масква,... жніўня 1839 года**

За апошнія два дні я бачыў шмат славутасьцей: перш за ўсё татарскую мячэць. Пераможцы сёння спраўляюць рэлігійную службу ў зацішным кутку сталіцы пераможаных – хрысьціян, якія ў плату за сваю памяркоўнасць маюць вольны доступ у сьвятыню мегамятан.

Мячэць – маленькая нязграбная пабудова; людзі, якім дазваляецца пакланяцца тут Богу і прароку, кволыя, брудныя, бедныя і палахлівыя. Кожную пятніцу яны прыходзяць у гэты храм, каб распрасцёрціся ніц на паношаным ваўняным дыванку, які кожны прыносіць з сабой. Іх прыгожае азіяцкае адзенне даўноператварылася ў лахманы, іхная ганарыстасць стала не маючай карысьці хітрасьцю, ўсемагутнасць – ганебнасьцю; яны імкнуцца трымацца адасоблена, не збліжаючыся з мясцовым насельніцтвам, якое атачае і падаўляе іх. Бяспрэчна, гледзячы на тых ўбогіх, што рабалепнічаюць ў цяперашняй Маскве, ніхто б не здагадаўся пра тое, як тыранічна кіравалі жыхарамі Масквы іхныя продкі.

Маючыя адносіны пераважна са сваімі адзінаверцамі, гэтыя няшчасныя нашчадкі заваёўнікаў гандлююць ў Маскве азіяцкімі таварамі і, каб заставацца прававернымі магаметанамі, пазбягаюць ўжывання віна і больш моцных напояў, утрымліваюць жонак пад замком або, ва ўсякім разе, не дазваляюць ім паказваць твар староннім мужчынам, якія, дарэчы, пераносяць гэтую страту вельмі абыякава, таму што манголаў не назовеш прывабнымі[239]. Выступаючыя наперад скулы, пляскатыя насы, маленькія, глыбока пасаджаныя чорныя вочкі, курчавыя валасы, смуглая блішчачая скура, невялікі рост, беднасць і неахайнасць – вось адметныя рысы гэтага выродзіўшагася племені, як мужчын, так і тых рэдкіх жанчын, чые твары я ўсё-такі здолеў разглядзець.

Хіба не відавочна, што воля нябёсаў, такая загадкавая для ўсякага, чый кругагляд абмежаваны лёсам асоб, робіцца зусім празрыстай, варта перавесьці позірк на лёс нацый? Жыццё кожнага чалавека – драма, завязка якой адбываецца на адных падмостках, а развязка на другіх; з жыццём нацый ўсё

[239] Гэтыя звесткі, напэўна, маюць крыніцай Лекуэна дэ Лаво, падрабязна апісаўшага побыт маскоўскіх татараў, якія «ўтвараюць у Маскве асобную нацыю, харчуюцца канінай, здзяйсняюць абмыванні, наведваюць мячэць і трымаюць жонак пад замком <…> жывуць яны вельмі адасоблена і, можна сказаць, не перамешваюцца з астатнім насельніцтвам горада» (Laveau. т. 1. p. 283).

інакш. Іхная навучальная трагедыя пачынаецца і заканчваецца на зямлі; вось чаму гісторыя – свяшчэнная кніга; ў ёй схавана апраўданне Боскай Волі.

Апостал Павел сказаў: "Ўсякая душа ды будзе пакорнай вышэйшым уладам, бо няма улады не ад Бога"[240]. Гэтак жа і Царква вось ужо дзве тысячы гадоў назад адлучыла чалавека ад адзіноты і наракла яго грамадзянінам таго вечнага грамадства, недасканалымі пераймальнікамі якога з'яўляюцца ўсе грамадствы, якія існуюць на зямлі; ніхто яшчэ не абверг гэтых ісьцін; насупраць, вопыт толькі падцвярждае іх. Чым старанней вывучаешь характары разнастайных нацый, тым цвярдзей пераконваешся у тым, што іхны лёс залежыць ад вызнаванай імі рэлігі; рэлігія – залог даўгавечнасьці грамадства, бо, толькі веруючыя ў звышнатуральнае людзі могуць развітацца з так званым натуральным станам – станам, нараджаючым толькі насільствы і несправядлівасьці; няшчасьці прыгнечаных плямёнаў па-сутнасьці не што іншае, як кара за іхнае нявер'е ці добраахвотныя памылкі ў вобласьці веры; да такіх высноваў я прыйшоў на працягу маіх доўгіх падарожжаў. Кожнаму падарожніку прыходзіцца быць філосафам і нават больш чым філосафам, таму што безстаронне назіраць жыццё разнастайных плямёнаў, разкіданых па зямной паверхні, і разважаць, не паглыбляючыся ў роспач, аб Божым судзе, гэтай таямнічай крыніцы чалавечых нягод, можа толькі хрысьціянін...

Вось пра што я разважаў ў мячэці, дзе маліліся нашчадкі Батыя, якія сталі парыямі на бацькаўшчыне сваіх былых рабоў...

Сёння становішча татарына ў Расіі горшае чым становішча маскоўскага прыгоннага.

**~ 82 ~**

Рускія ганарацца сваёй памяркоўнасьцю ў дачыненні да веры іхных ранейшых прыгнятальнікаў[241], аднак, на мой позірк, у гэтай памяркоўнасьці больш паказнога бляску, чым сапраўднай філасофскай мудрасьці; для народа ж, якому даюць такую паблажку, яна проста зневажальная. На месцы нашчадкаў бязлітасных манголаў, так доўга кіраваўшых Расіяй і наводзіўшых жах на ўвесь свет, я палічыў бы за лепшае маліцца Богу ў глыбіні душы, абы толькі не ўступаць пад скляпенні мячэці, міласьціва дараванай ім іхнымі былымі даннікамі.

Гуляючы па Маскве без мэты і без праважатых, я спадзяюся на выпадак, і ён мяне яшчэ ні разу не падвёў. Хіба можа надакучыць горад, дзе на прыканцы кожнай вуліцы, на задворках кожнай хаты адкрываецца нечаканая выява горада, збудаванага, здаецца, не асобамі, а духамі, горада ў атачэнні карункавых, зубчатых, зрэзанных сьцен, каранаваных шматлікімі вартавымі пляцоўкамі, вежамі і шпілямі, – адным словам, на Крэмль – умацаванне з паэтычным знешнім выглядам і гістарычным імем... Крэмль пастаянна вабіць мяне да сябе, як вабіць нас усё, што вельмі ўражвае наша ўяўленне; аднак прашу вас не забывацца, што гэтую абнесеную агароджай гару, на якой бязладна

[240] Рымл. 13,1.

[241] Падставы гэтай памяркоўнасьці тлумачыць Барант: за мусульманствам у гэты час не стаяла ніякай палітычнай ідэі, таму ўрад ставіўся да яго, у адрозненні ад польскага каталіцызму ці прыбалтыйскага лютаранства, цалкам лаяльна і не пераследаваў (Notes. p. 220). Пар. заўвагу. да т. I, стр. 364.

грувасьцяцца помнікі, не варта разлядаць з блізкай адлегласьці. Вытанчанага густу, інакш кажучы, разумення знайсьці адзіную, цалкам дакладную форму для выяўлення арыгінальнай думкі, рускім нехапае, але калі волаты бяруцца за перайманне, яны ствараюць копіі, не пазбаўленыя зачаравання; плён тварэння генія велічны, тварэнні волата вялікія ў памерах, але і гэта не дробязь.

Для мяне Крэмль – гэта ўся Масква. Ведаю, што я не маю рацыі, але не жадаючы слухаць пярэчанні майго розуму: для мяне ўяўляе цікавасць толькі гэтая дзяржаўная цытадэль, пачатак імперыі і сэрца горада.

Вось як апісвае старажытную сталіцу Расіі аўтар лепшага даведніка па Маскве, Лекуэнт Лаво: “Масква, – кажа ён, – абавязана сваёй самабытнасьцю прыгажосьці зубчатых сьцен Кітай-горада і Крамля[242], своеасаблівай архітэктуры сваіх цэркваў, сваім пазалочаным купалам і шматлікім садам; выдаткуйце мільёны на ўзвядзенне бажэнаўскага палаца[243], зраўняйце з зямлёй крамлёўскія сьцены[244], пабудуйце на фоне ажурных званніц і пяцігаловых сабораў храмы, адпавядаючыя ўсім правілам найноўшага архітэктурнага мастацтва, пабудуйце, падпарадкоўваючыся сучаснай маніі, сады дамамі, – і вы атрымаеце замест Масквы еўрапейскі горад, вялікі, але нічым не захапляючы цікаўнага падарожніка”.

У гэтых радках выказана думка, вельмі мне блізкая і таму ўразіўшая мяне сваёй справядлівасьцю.

Каб ненадоўга забыцца пра грозны Крэмль, я выправіўся зірнуць на Сухараву вежу, пабудаваную на ўзвышшы каля адной із гарадскіх застаў. Другі паверх яе прасторнага памяшкання, дзе ўладкаваны вялізарны вадаём, па якім можна катацца на лодцы; адсюль піццявая вада цячэ ва ўсе кварталы Масквы. Выгляд гэтага возера, абмежаванага чатырмя сьценамі і паднятага на вялікую вышыню, вырабляе дзіўна ўражанне. Архітэктура пабудовы, дарэчы даволі сучасная, цяжкавесная і тужлівая; аднак скляпенні і ўпрыгожванні згодна візантыйскага стылю разам з шырокімі пярыламі ўсходаў надаюць вежы некаторую веліч. У Маскве шмат пабудоў у візантійскім стылі; дапасаваны з розумам, гэты стыль мог бы пакласьці пачатак адзінай магчымай у рускіх нацыянальнай архітэктуры; народжаны ва ўмеранным клімаце, ён блізкі і патрэбам паўночнікаў, і звычкам жыхарам поўдня. Унутранасць візантыійскага храма нагадвае размаляванае падзямелле; дзякуючы таўшчыні яго массіўных сьцен і пануючаму пад яго скляпеннямі паўзмроку; такі храм выратоўвае і ад холаду, і ад спёкі.

Мне паказалі ўніверсітэт, Кадзецскае вучылішча, інстытутут Святой Кацярыны і Святога Аляксандра, Удовін дом і, нарэшце, Выхаваўчы дом; усё гэта прасторныя, цудоўныя пабудовы; рускія ганарацца багаццем грамадзкіх устаноў, якія можна паказваць іншаземцам; што да мяне, я хацеў бы, каб падобныя ўстановы былі менш раскошнымі, бо няма нічога больш сумнага чым агляд гэтых

---

[242] [заўвага аўтара] Кітай-горад – купецкі квартал (гл. яго апісанне ў нашым 27- м лісьце).
[243] Гл. заўвагу. да гэтага. тама, стр. 162.
[244] [заўвага аўтара] Задума Кацярыны II, якая часткова ажыццяўляецца сёння.

белых палацаў, падобных адзін на другі як дзве кроплі вады, – палацаў, дзе пануе вайсковая дысцыпліна, а жыццё чалавечая, здаецца, прыпадабняецца манатоннаму руху маятніка. Хай іншыя апісваюць вам, што адбываецца ў гэтых грандыёзных гадавальнях, дзе песцяць афіцэраў, маці сямействаў і настаўніц; ад мяне вы пра гэта не пачуеце ні слова; скажу толькі, што гэтыя напалову палітычныя, напалову дабрачынныя ўстановы здаліся мне ўзорам парадку, турботы і чысьціні; гэтыя ўстановы робяць гонар як іх арганізатарам, так і вярхоўнаму кіраўніку імперыі.

Немагчыма ні на імгненне забыцца пра гэта адзінага ў сваім родзе чалавека, які думае, судзіць і жыве за ўсю Расію: гэты чалавек увасабляе ў сабе веды і свядомасць ўласнага народа, прадбачыць, узважвае, загадвае і вызначае, у чым маюць патрэбу і чаго маюць права дамагацца яго падданыя, якім ён заменяе розум, волю, ўяўленне, захапленне, бо пад яго цяжкай пятай ні адной істоце не дазволена ні дыхаць, ні пакутаваць, ні кахаць па-за межамі, раней акрэсленымі вярхоўнай мудрасьцю, прадбачучай – ці, ва ўсякім разе, абавязанай прадбачыць – усе патрэбы сваёй дзяржавы.

**~ 83 ~**

Мы, французы, перанасычаныя вольнасьцямі і разнастайнасьцямі, трапіўшы ў Расію, прыходзім у роспач ад пануючай тут аднастайнасьці і халоднага педантызма, неаддзельных ад ідэі парадку і абуджаючых нянавісць да таго, што, наогул кажучы, годна павагі. Уся Расія, нацыя-дзіця, – не што іншае, як велізарны каледж; тутэйшае жыццё нагадвае ваеннае вучылішча, з тым толькі адрозненнем, што вучоба працягваецца да самой сьмерці[245].

Нямецкі склад розуму, уласьцівы расійскім кіраўнікам, агідны славянскаму характару; калі б рускія – гэты ўсходні, бестурботны, капрызны, паэтычны народ – выказалі ўголас свае таемныя думкі, яны горка паскардзіліся б на Аляксея, Пятра Вялікага, Кацярыну II і іхных нашчадкаў, укараняўшых і ўкараняючых ў Расіі германскую дысцыпліну. Як ні імкнецца імператарская сям’я, яна ўсё адно застаецца залішне нямецкай па духу для таго, каб спакойна кіраваць рускімі і адчуваць сябе на пасадзе цалкам упэўнена[246]; яна не кіруе рускімі, а падаўляе іх. Не разумеюць гэтага адны толькі сяляне.

Я так далёка зайшоў ў выкананні абавязкаў падарожніка, што пагадзіўся наведаць манеж – лічу, самы вялікі ва ўсім сьвеце; яго скляпенне

---

[245] Пар. уражанні Баранта ад наведвання маскоўскай кадэцкай вучэльні, якая, згодна з задумай Мікалая I, была заклікана «выхоўваць такіх падданых, якіх хацелася б бачыць імператару. <…> Няшчасныя дзеткі <чатырох-пяці гадоў> выконваюць вайсковую дысцыпліну так выразна і няўхільна, як калі б ім заўтра вызначалася ўступіць у полк. <…> У навучанні пануе поўная аднастайнасць, із-за чаго ўсе вучні заўсёды застаюцца роўныя і не ведаюць, што такое тая іерархія талентаў, здольнасцей да хутчэйшага ці павольнейшага развіцця, стараннасьці ці ляноты, якая ў нас дапамагае адрозніць — можа, нават залішне рэзка, — аднаго вучня ад другога» (Notes. p. 91-92).

[246] [заўвага аўтара] Раманавы па паходжанні прусакі, у дадатак, з тых часоў калі родапачынальнік гэтай дынастыі сеў на пасад, яе прадстаўнікі – у адрозненні ад маскоўскіх князёў – адружваліся часьцей за ўсё з маскоўскімі прынцэсамі (Хутчэй за ўсё, Кюстын запазычыў гэтую версію ад Левека, які паведамляе пра паходжанне Романовых: “Андрэй, сын Яна і, як кажуць, брат аднаго прускага князя, прыехаў у Расію ў сярэдзіне XIV стагоддзя, пад час цараванне вялікага князя Яна Янавіча...”(Levesque. т. 6. ст. 138).).

падтрымліваюць лёгкія жалезныя аркі вельмі смелай канструкцыі, прыдаючыя пабудове даволі цікавы выгляд.

Палац дваранскіх сходаў у гэты час года пустуе, але для ачысткі сумлення я пабываў і там. У цэнтральнай зале стаіць статуя Кацярыны II. Гэтую залу, якая ўмяшчае да трох тысяч чалавек, упрыгожваюць калоны і размешчаныя ў глыбіні паўратонды. Зімой тут ладкуюцца, як я чуў, бліскучыя балы; я лёгка магу паверыць, што маскоўскія балы шыкоўныя; рускія вяльможы цудоўна ўмеюць рабіць разнастайнымі манатонныя забавы, вызначаныя этыкетам; калі справа даходзіць да святаў, яны не шкадуюць ні грошай, ні выдумкі; пышнасць яны прынімаюць за цывілізаванасць, мішуру за вытанчанасць, із усяго гэтага я раблю выснову, што яны яшчэ большыя невукі, чым мы думалі. Крыху больш за ста гадоў назад Пятро Вялікі пачаў навучаць іх правілам добрых паводзін, якія адпавядалі розным станам. Ён ладкаваў асамблеі згодна ўзору еўрапейскіх баляў і сходаў і прымушаў рускіх ладкаваць такія ж балі, якія задавалі жыхары захадніх краін; ён прымушаў сваіх падданых браць ў госьці жонак і агаляць галаву перад тым, як увайсьці ў пакой. Аднак, навучаючы маскоўскіх баяраў і купцоў дробязнай навуцы супольнага жыцця, гэты вялікі выхавацель свайго народа сам апускаўся да самых подлых заняткаў, аж да ремясла ката; яму здаралася ўласнаручна адрубаць на працягу аднаго вечера больш чым дваццаць галоў, а затым пахваляцца сваім спрытам; ён ганарыўся той не маючай прыкладаў жорсткасьцю, з якой караў вінаватых, але таму яшчэ больш няшчасных стральцоў: гэты-та годны нашчадак Янаў навучаў рускіх; яго яны лічылі за бога, у ім бачылі неперавзыдзены ўзор рускага манарха – і ўсё гэта крыху больш за сто гадоў назад, у той самы час, калі ў Парыжы ладзілі “Гафолію” і “Мізантропа”[247].

Рускія – неафіты, нядаўна далучаныя да цывілізацыі, – па гэты дзень не страцілі ўласьцівай выскачкам прыхільнасьці да ўсяго, што блішчыць, захапляючага позірк.

Дзеці і дзікуны любяць мішуру; рускія – дзеці, якія звыкліся з няшчасьцямі, але не набылі з іх ніяк урокаў. Адсюль, заўважым мімаходзь, уласьцівае ім спалучэнне легкадумнасьці і жорсткасьці. Жыццё роўнае, спакойнае, прысвечанае прыватным схільнасьцям і радасьцям разумнай размовы, ім бы хутка наскучыла.

Я не хачу сказаць, што знатныя спадары зусім не адчувальныя да задавальненняў вытанчаных; аднак для таго, каб насыціць гэтых пыхатых і павярхоўных сатрапаў, якія перамянілі толькі сукенку, для таго, каб уразіць іхнае зікаватае ўяўленне, патрэбны ўражанні больш рэзкія. Любоў да гульні, нястрыманасць, распутства і ўцехі славалюбства з цяжкасьцю могуць запоўніць пустэчу гэтых перанасычаных сэрцаў. Божыя тварэнні не здольныя заняць гэтыя безтурботныя, стомленыя безвыніковасьцю і гультайствам розумы, забавіць

[247] «Гафолія», трагедыя Расіна, упершыню пастанова была наладжана ў 1691 г., «Мізантроп», камедыя Мальера, — у 1666 г.

гэтых няшчасных багачэй; у сваёй нікчэмнай ганарлівасьці яны прызываюць сабе на дапамогу дух разбурэння.

**~ 84 ~**

Уся сучасная Яўропа нудзіцца; сведчанне таму – лад жыцця сучаснай моладзі; аднак Расія пакутуе ад гэтага зла больш за іншыя краіны, бо рускія ні ў чым не ведаюць меры; я не бяруся апісваць вам усе спусташэнні, якія вырабляе ў сэрцах масквічоў іхная перасычанасць. Нідзе яшчэ хваробы душы, спароджаныя нудой – гэтым захапленнем людзей без захапленняў, – не здаваліся мне такімі небяспечнымі і такімі распаўсюджанымі, як у Маскве: можна падумаць, што тут грамадства нарадзілася адначасова са злоўжываннямі. Калі загана выяўляецца ўжо не здольнай дапамагчы сэрцу чалавечаму пазбавіцца ад грызучай яго нуды, чалавек ідзе на злачынства. Хутка я вам гэта дакажу.

Унутранае ўбранне рускай карчмы вельмі незвычайнае: уявіце сабе дрээнна асьветлены пакой з нізкай столлю, размешчаны, як правіла, на другім паверхе. Ежу і пітво падаюць слугі ў падобных на тунікі белых рубашках навыпуск, перацягнутых ў поясе, а калі гаварыць менш узнёсла – у блузах, з-пад якіх віднеюцца такія ж белыя штаны. Валасы ў карчмарных служак доўгія і роўныя, як ва ўсіх рускіх просталюдзінаў; іхнае ж адзенне выклікае ў памяці тэофілантропаў эпохі французкай рэвалюцыі[248] ці жрацоў, якія дзейнічалі на опернай сцэне у час моды на паганства. Слугі моўчкі падаюць цудоўную гарбату, якую не знойдзеш ні ў якой іншай краіне, каву і лікёры; ўрачыстасць і таямнічасць, з якой яны трымаюцца, далёкая ад шумнай весялосьці, якая пануе ў парыжскіх кафэ. У Расіі ўсё народныя забавы напаўняюцца меланхаліяй, радасць тут – прывілей, таму яна, згодна з маімі назіраннямі, амаль заўсёды перабольшаная, найграная, ненатуральная і робіць куды больш цяжкае ўражанне, чым смутак.

У Расіі смяюцца толькі камедыянты, лісліўцы або п'яніцы.

Я чуў, што некалі рускія прыгонныя сяляне ў сваёй прастадушнай самаадданасьці верылі, быццам трапіць на неба наканавана толькі іхным гаспадарам: якая жахлівая гэта пакора абяздоленых! Вось хрысьціянскія ўрокі, якія выкладае народу грэцкая Царква.

## Працяг таго ж лісты

**Масква, 15 жніўня 1839 года, вечар**[249].

Маскоўскае грамадства не пазбаўлена прыемнасьці; змешванне старажытных патрыярхальных звычак з сучаснай еўрапейскай натуральнасьцю выглядае вельмі незвычайна. Гасціннасць старажытнай Азіі і вытанчанасць

---

[248] Тэафілаптропы — прадстаўнікі рэлігійна-філасофскай плыні дэісткай арыентацыі, якая паўстала каля 1796 г., плён адной са шматлікіх спроб абнаўлення каталіцызму. Дырэкторыя аддала тэафілантропам пуставаўшыя парыжскія храмы, дзе яны ладкавалі набажэнствы, вонкавым аскетызмам падобныя на пратэстанцкія. Поспеху сярод парыжанаў тэафілантропія не мела і да пачатку XIX стагоддзя была забытай.

[249] Згодна са старым стылем 3 жніўня.

цывілізаванай Яўропы аб’ядналіся ў гэтый месцы зямнога шара, каб зрабіць тутэйшае жыццё больш лёгкім і прывабным. Масква, пабудаваная на мяжы двух частак свету, у цэнтры матэрыка, – пересадачны пункт на шляху паміж Лонданам і Пекінам. Дух пераймання не канчаткова знішчыў тут нацыянальны характар; удалечыні ад узору копія выглядае амаль арыгінальнай.

У Маскве іншаземцу дастаткова некалькіх рекамендацыйных лістоў, каб пазнаёміцца са шматлікімі асобамі, вылучаючыміся альбо велізарным багаццем, альбо высокім становішчам, альбо вострым розумам. Як следства, першыя крокі ў Маскве падарожніку даюцца лёгка.

Недаўна мяне запрасілі на абед ў загарадны дом. Размешчаны ён у межах Масквы, аднак дарога туды ідзе то берагам адасобленага стаўка, то праз палеткі, падобныя на стэпы; праехаўшы цэлае лье і наблізіўшыся нарэшце да сядзібы, вы бачыце ззаду за садам цёмны і густы яловы лес, атачаючы горад[250]. Хто б, падобна мне, не захапіўся гэтымі велічнымі шатамі, гэтай праўдзівай пустыняй ўнутры горада? Каму не прымроілася б у гэтым месцы варварская арда, вайсковы бівак – усё, што заўгодна, толькі не сталіца, якая можа пахваліцца ўсёй раскошай, усімі дасягненнямі сучаснай цывілізацыі? Падобныя кантрасты вельмі характерны для Масквы: ні ў якім іншым горадзе іх не сустрэнеш.

Яшчэ адна акалічнасць: дом, у якім мяне прынімалі, – драўляны. У Маскве заможныя, як і мужыкі, жывуць у драўляных пабудовах; і тыя і другія спяць пад дахам, зладжаным із тых жа абцёсаных дошак на манер першабытных хацін. Жыві я ў Маскве, я хацеў бы мець драўляны дом. Гэта – адзінае жыллё ў нацыянальным стылі і, што яшчэ важней, адзінае, якое адпавядае тутэйшаму клімату. Карэнныя масквічы лічаць драўляныя дамы больш цёплым і зручнымі, чым каменныя. Той, у якім пабываў я, здаўся мне камфартабельным і вытанчаным; дарэчы, яго ўладальнік праводзіць тут толькі лета, а на зіму вяртаецца ў іншы свой дом, размешчаны ў цэнтры сталіцы.

Абедалі мы ў садзе, прычым, для даваршэння арыгінальнасьці, стол быў накрыты пад стрэшкай. Хоць госьці, запар мужчыны, трымаліся вельмі ажыўлена і вольна, размова не выходіла за рамкі прыстойнасцяў: рэч рэдкая нават у народаў, якія лічаць сябе ў вышэйшай ступені цывілізаванымі. У лік гасцей ўваходзілі асобы, шмат што бачыўшыя, шмат чытаўшыя: іхныя меркаванні па разнастайных пытаннях здаліся мне справядлівымі і тонкімі; ў свецкім грамадзкім жыццці рускія, як правіла, – пераймальнікі, аднак нязмушаная размова дазваляе разгледзець ў тых з іх, хто думае (такіх, дарэчы, адзінкі), грэкаў, ад прыроды тонкіх і праніклівых.



Абед працягваўся даволі доўга, але час для мяне праляцеў хутка; заўважце, што ўсіх гасцей я бачыў першы раз у жыцці, а гаспадара хаты – у другі.

Гэта вельмі істотна: бо толькі ў грамадстве людзей праўдзіва пачцівых чужаземец можа адчуваць сябе так нязмушана. Успаміны пра гэты абед – адно із самых маіх прыемных расійскіх ўражаннях.

[250] Відаць, Кюстын пабываў у сядзібе, размешчанай у Сакольніках.

Перад тым як пакінуць Маскву, дзе я другі раз буду толькі праездам, я лічу не лішнім пагаварыць з вамі аб характары людзей, насяляючых Расію – краіну, дзе я прабыў нядоўга, але дзе неадрыўна і ўважліва назіраў за шмат кім із людзей і рэчаў, а таксама з найвялікшай руплівасьцю параўноўваў шмат звестак. Разнастайнасць рэчаў, якія праходзілі перад позіркам цікаўнага падарожніка, якому садзейнічаюць акалічнасьці так жа, як і мне, часткова кампенсуе недахоп вольнага часу, які азмрочыў маю вандроўку. Як я вам ўжо шматразова казаў, мне падабаецца захапляцца; ведаючы гэтую асаблівасць маёй натуры, можна быць упэўненым, што калі я ўжо чымсьці не захапляюся, то не таму, што я залішне прыдзірлівы.

Наогул мне не здалося, што жыхары Расіі пакутуюць ад лішку вялікадушнасьці; яны не вераць у гэтую дабрачыннасць і адмаўлялі б яе існаванне, калі б ў іх хапіла на гэта смеласці; сёння ж яны ёю пагарджаюць, бо яна ім зусім чужая. У іх больш хітрасьці, чым далікатнасьці, больш мяккасьці, чым адчувальнасьці, больш гнуткасьці, чым натуральнасьці, больш прыемнасьці, чым пяшчоты, больш праніклівасьці, чым вынаходлівасьці, больш розуму, чым ўяўлення, больш назіральнасьці, чым розуму, больш жа за ўсё ў іх разважлівасьці. Працуюць яны не дзеля таго, каб прынесці карысць навакольным, але дзеля таго, каб атрымаць узнагароду, агонь тварэння ў іхных грудзях не гарыць, натхнення, якое нараджае ўзнёслыя вынікі, яны не ведаюць, пачуцці, якія не патрабуюць іншых ацэнак і іншых узнагарод, акрамя тых, што выходзяць із уласнага сэрца творцы, ім невядомыя. Пазбаўце іх такіх рухавікоў, як карысьлівасць, баязнь або славалюбства, і яны будуць бяздзейнічаць; ў вытанчаных мастацтвах яны выказваюць сябе рабамі, прыслугоўваючымі ў палацы; святая адзінота генія ім недаступная; чыстая павага да выдатнага іх не насычае.

З іхнымі здзяйсненнямі ў сферы практычнай справы такія ж, як з іхнымі тварэннямі ў сферы думак: там, дзе балям кіруе хітрасць, высакароднасць здаецца падманам.

Веліч душы, я ў гэтым перакананы, не патрабуе ўзнагароды; аднак, нічога не патрабуючы, вялікая душа да шмат чаго абязвязвае, бо імкнецца зрабіць людзей лепшымі: у Расіі ж яна зрабіла б іх горшымі, бо тут вялікадушнасць лічаць прытворствам. У народа, жорсткага ад пастаяннай баязьні, міласэрднасць лічыцца слабасьцю; з такім народам можна зладзіць, толькі запужаўшы яго; непахісная суровасць ставіць яго на калені, мяккасць жа, насупраць, дазволіла б яму падняць галаву; яго нельга пераканаць, але можна прымусіць да пакорлівасьці, ён не ўмее быць ганарлівым, але можа стаць дзёрзкім: ён бунтуе супраць паблажлівай улады і падпарадкоўваецца бязлітаснай, бо лічыць злобу за магутнасць.

Усё гэта тлумачыць, хоць, на мой позірк, і не апраўдвае паводзіны імператара: гэты гасудар ведае, як трэба здабываць паслушэнства, і здабывае яго, аднак у палітыцы захады, выкліканыя неабходнасьцю, не абуджаюць ўва мне захаплення. У іншых краінах дысцыпліна – толькі сродак, тут яна – мэта; між тым мне хацелася б бачыць урады настаўнікамі нацый. Ці добра, што гасудар

упакорвае добрыя парывы свайго сэрца толькі таму, што лічыць небяспечным выказваць пачуцці, занадта рэзка адрозніваючыся ад пачуццяў яго народа?[251] На мой позірк, страшнейшая са слабасцяў тая, якая робіць чалавека бязлітасным. Хто чырванее за сваю вялікадушнасць, той прызнае сябе нявартым вышэйшай улады.

Народы патрабуюць таго, каб ім пастаянна нагадвалі: ёсць нешта вышэйшае за зямныя радасьці; што ж дапаможа ім паверыць у Бога, як не міласэрднасць? Асцярожнасць – дабрачыннасць толькі пастолькі, паколькі яна не выключае цнотаў куды больш узнёслых. Калі ў сэрцы імператара не больш вялікадушнасьці, чым ён выказывае яе ў сваёй палітыцы, мне шкада рускіх; калі ж яго пачуцці больш прыстойныя чым дзеянні, мне шкада імператара.

Калі рускія трымаюцца ласкава, яны чаруюць вас, як бы моцна вы ні былі прадузяты супраць іх: спачатку вы не заўважаеце, што зачараваны, а потым не можаце і не жадаеце пазбавіцца ад гэтых чараў; вызначыць, праз што гэта адбываецца, гэтак жа немагчыма, як растлумачыць дзейнасць фантазіі або пранікнуць у таямніцу чараўніцтва; улада рускіх над намі – вялікая, хаця і незразумелая – караніцца, магчыма, у прыроднай любасьці славян – тым дараванні, які ў грамадстве заменяе ўсе іншыя дараванні, а само не можа быць заменена нічым, бо хараство – гэта, магчыма, і ёсць тая адзіная годнасць, якая дазваляе абыйсьціся без усіх астатніх.

**~ 86 ~**

Уявіце сабе французкую паслужлівасьць ранейшых часоў, уваскросшую ва ўсёй сваёй прыгажосці, уявіце ветлівасць бездакорную і немудрагелістую, самазабыццё нявольнае і натуральнае, прастадушнае прытрымліванне правілаў добрага выхавання, інстынктыўную правільнасць выбрання, элегантны і пазбаўлены засмучэння арыстакратызм, натуральнасць без дамешкі дзёрзкасьці, свядомасць ўласнай перавагі, памягчаная той высокароднасьцю, якая

[251] Гэта супрацьстаўленне рускага імператара народу асабліва закранула Мікалая I; згодна са сведчаннем Вігеля, «Гасудар з дзіўным самавалоданнем перанёс лаянку і крытыку, якая мела дачыненне да яго асобы, і толькі заўважыў, што маркіз крыху нясьціплы… Але калі справа дайшла да частак, дзе аўтар нападае на нацыянальны характар рускіх, якіх малюе хітрымі і хлуслівымі, шпегамі і злодзеямі, яго бровы нахмурыліся, гнеў бліснуў у яго сэрцы, і вельмі хутка, не будучы ў стане стрымаць абурэнне, ён усклікнуў, кінуўшы кнігу на стол: «Нягоднік! І добра б ён нападаў на аднаго мяне!» (Wiegel. p. XI). У запісцы міністра асветы Уварава, якая прапануе асноўныя напрамкі, па якіх варта аспрэчваць Кюстына, падкрэслівалася, што самае небяспечнае ў яго кнізе не «мноства хлуслівых ці смешных анекдотаў, не мноства прыдуманых адзінкавых фактаў», а «запаветная думка аўтара, якую можна сфармуляваць такім чынам: стаўленне імператара да краіны — і краіны да імператара — такой якасьці, што абражаюць усе законы божыя і чалавечыя», заданне ж, якое стаіць перад будучым крытыкам Кюстына, — «паказаць, паводле якога закона ўзаемазахавання імператар знаходзіць апірышча ў нацыянальным пачуцці, а нацыянальнае пачуццё, у сваю чаргу, знаходзіць увасабленне ў Імператары» (цыт. па: Мільчына В. А., Аспават А. Л. “Пецярбургскі кабінет супраць маркіза дэ Кюстына” // Новы літаратурны агляд. 1995. № 13. стр. 274-275). Тую ж тэму працягваў і Грэч, які супрацьставіў французам, якія бачаць у асобе свайго караля толькі дакучлівага апекуна, рускіх, для якіх імператар — бацька, цар-бацюшка (Gretch. p. 39). Думка пра тое, што «гасудар, так бы мовіць, парадніўся са сваёй дзяржавай» і што «ніякая рыса валадарання цяперашняга гасудара не набыла яму столькі павагі, столькі ўхвал, столькі ўсеагульнага адабрэння, як яго сталае імкненне з самага першага дня свайго валадарання да ўзвелічэння ўсяго рускага і да апекавання ўсяму айчыннаму» (ГАРФ. Ф. 109. Оп. 223. № 2. л. 6, 3 — 3об.), увесь час падкрэслівалася ў справаздачах III Аддзялення як свайго роду ідэалагічная дамінанта саравання Мікалая I.

неадрыўна ад сапраўднай велічы[252]... Я дарэмна спрабую адшукаць словы для пералічэння ўсіх гэтых ледзь заўважаемых адценняў; іх нельга апісаць – іх можна толькі адчуць; іх трэба ўгадаць – вызначэнне ім супрацьпаказаны; як бы там ні было, знайце, што ўсе гэтыя, а таксама шмат якія іншыя годнасьці адрозніваюць манеры і гаворку незвычайных рускіх людзей, прычым у найбольшай ступені яны уласьцівы тым рускім, якія не былі за мяжой, але, жывучы ў Расіі, мелі стасункі з адукаванымі іншаземцамі.

Гэтыя чары, гэтая прывабнасць даруюць рускім непадробленую ўладу над сэрцамі: да таго часу, пакуль вы знаходзіцеся ў грамадстве гэтых незвычайных асоб, вы падпарадкоўваецеся іхнай уладзе, якая станавіцца ўдвая мацней праз тое, што вы ўяўляеце, быццам рускія глядзяць на вас гэтак жа, як вы на іх, і гэта дазваляе ім браць верх над вамі. Вы забываецеся пра час і навакольным свет, вы не думаеце ні пра справы, ні пра турботы, ні пра абавязкі, ні пра асалоды, вы жывеце сапраўдным, вы бачыце толькі цяперашняга вашага суразмоўцу, да якога адчуваеце самыя далікатныя пачуцці. Людзі, у якіх патрэба падабацца блізкім развілася да такіх крайніх межаў, падабаюцца абавязкова; іх адрознівае бездакорны густ, вытанчаннейшая элегантнасць і абсалютная натуральнасць; у іх бязмежнай ласцы няма нічога фальшывага, яна – талент, які шукае прымянення; каб падоўжыць ілюзію, ва ўладзе якой вы з’яўляецеся, дастаткова было б, магчыма, атрымаць асалоду ад грамадства рускіх даўжэй, але вы з’язджаеце, і ўсё знікае, акрамя застаючыхся ў вашай душы ўспамінаў. З’язджайце – з’язджайце – гэта надзейна.

Рускія – выдатныя акторы; яны ўмеюць гуляць і без падмосткаў.

Усе вандроўцы абвінавачваюць іх у зменлівасьці; гэты папрок больш чым маючы падставы: варта рускім развітацца з вамі, і яны адразу ж выкідваюць вас са свайго сэрца; я тлумачу гэтую загану не толькі іхнай легкадумнасьцю і ветранасьцю, але і недахопам адукацыі. Рускія аддаюць перавагу хутчэй развітацца з іншаземным госьцем, таму што баяцца колькі-небудзь працяглы час існаваць побач з ім: таму-та іхнае палкае захапленне тымі хто прыязджае так імкліва ператвараецца ў абыякавасць. Гэтая ўяўная зменлівасць – толькі

[252] Нягледзячы на скептычнае стаўленне да сучаснай яму Францыі, Кюстын усё ж быў перакананы, што «ў адным толькі Парыжы яшчэ часам здараюцца тыя сходы, па якіх можна скласьці сабе ўяўленне пра радасьці і хараство жыцця ранейшага французскага грамадства» (Ethel. т. 2. p. 85). Прадстаўнікам іншых еўрапейскіх нацый Кюстын у гэтым дачыненні да традыцый «добрага грамадства» адмаўляў. Пра немцаў ён пісаў 15 жніўня 1816 г. Рахілі Варнгаген: «У Германіі я вучуся шанаваць вартасьці таго, што называецца светам і супраць чаго я нястомна паўставаў у Францыі. Ёсць шмат рэчаў, якія тутэйшыя дваране засвойваюць толькі з дапамогай разумовых намаганняў, пасьля заканчэння доўгага перыяду і дзякуючы набытай спрактыкаванасьці, тады ж як у Францыі кожны дурань з добрага грамадства ведае іх проста таму, што ў гэтым грамадстве народжаны» (Lettres a Varnhagen. p. 39). Пра ангельцаў Кюстын паведамляў у рамане «Этэль»; «Ці магчыма паверыць <…> што самыя шляхетныя ангельскія вяльможы захавалі звычку пасьля абеду, калі жанчыны ўжо пяройдуць у суседні пакой, падняцца із-за стала — таго самага стала, да якога яны ставяцца з поўнай глыбокай пашаны павагай… — і для чаго ж? для таго каб у тым жа самым пакоі, іншы раз за фіранкай ці за шырмай, а іншы раз і проста ў куце задаволіць на вачах усіх сатрапезнікаў патрэбу, якая робіцца вельмі настойлівай з нагоды ўжывання віна і іншых моцных напояў» (Ethel. т. 1. p. 59-60; да гэтага пасажу зроблена нататка: «Праўдзівае здарэнне. Аўтар сам быў яго сведкам у 1836 годзе на абедзе ў герцага *** і графа ***»). На гэтым фоне асабліва пахвальна выглядаюць ідучыя ніжэй ухвалы асьвечаным рускім.

засцярога, прадыктаваная дакладна зразумелымі інтарэсамі славалюбства і дастаткова распаўсюджанная сярод вялікасвецкіх асоб ва ўсім свеце. Старанней ўсяго людзі хаваюць не заганы, а пустэчу; чалавек саромеецца не сваёй разбэшчанасьці, а сваёй мізэрнасьці; прытрымліваючыся гэтага правіла, рускія вяльможы ахвотна выстаўляюць напаказ тыя ўласьцівасьці розуму і характару, якія чаруюць з першага погляду і дазваляюць на працягу некалькіх гадзін падтрымліваць зацікаўленую гутарку; аднак паспрабуйце зазірнуць за ўразіўшыя вас дэкарацыі – і гасцінныя гаспадары перакрываюць вам шлях як нясціпламу выведніку, які асмеліўся трошкі адчыніць дзьверы ў спальню, хупава аздобленую толькі знадворку. Прынімаюць нас рускія із цікаўнасьці, а адштурхоўваюць – із асцярожнасьці.

Так робяць як мужчыны так і жанчыны, як ў сяброўстве,  так і ў каханні. Абмалёўваючы аднаго рускага чалавека, вы абмалёўваеце ўсю нацыю; так па адным жаўнеры пад ружжом можна скласьці ўяўленне пра ўвесь полк. Нідзе аднастайнасць у кіраванні дзяржавай і адукацыі юнацтва не адчуваецца так моцна, як тут. У гэтай краіне ўсе розумы зацянутыя ў аднолькавы мундзір. О! Як, павінна быць, цяжка юнай істоце, адчувальнай і прастадушнай жыць у асяроддзі гэтага народа, чыё сэрца халоднае, а розум абвостраны прыродай і грамадствам! Варта мне ўявіць, што адбываецца, калі сентыментальныя немцы, даверлівыя і шалапутныя французы, пастаянныя ў сваіх прыхільнасьцях гішпанцы, захапляючыся англічане, нязмушаныя і дабрадушныя, як у добрыя старыя часы, італьянцы сустракаюцца з прыроджаным какецтвам рускіх, якая мяне ахоплівае жалоба да гэтых незадачлівым чужаземцаў, здольным хоць на імгненне паверыць, што яны могуць выканаць ролю ў тутэйшай пастанове. У сардэчных справах рускія – пяшчотнейшыя із драпежнікаў, іх старанна схаваныя кіпцюры, на жаль, ніколькі не памяншаюць іхнай прывабнасьці.

**~ 87 ~**

Акрамя Расіі, дзеянне падобных чар мне здарылася адчуць, дарэчы, толькі ў Польшчы – яшчэ адна праява сувязі рускага і польскага народаў! Якія б грамадзянскія супярэчнасьці ні падзялялі рускіх і палякаў, прырода аб'ядноўвае гэтыя дзве нацыі супраць іхнай волі. Не будзь адна із іх вымушанай із палітычных меркаванняў прыгнятаць другую, яны праніклісь б узаемнай павагай і ўдзячнасьцю.

Палякі – рускія, поўныя рыцарскага духу і прытрымліваючыяся каталіцскай веры, з той толькі розніцай, што ў Польшчы жывуць, а дакладней сказаць, кіруюць жанчыны, а ў Расіі – мужчыны.

Аднак гэтыя ж самыя людзі, такія ветлівыя, такія здольныя і чароўныя, часам уцягваюцца ў такія памылкі, якіх пазбеглі б людзі самыя звычайныя.

Вы і ўявіць сабе не можаце, якое жыццё вядуць некаторыя маскоўскія юнакі, выхадцы са знатных сямействаў, вядомых ўсёй Яўропе. Яны паглыбляюцца ў абуральныя бязладдзі; без стамлення яны зазнаюць задавальненні, годныя ці то канстатнынопальскага сераля, ці то парыжскага рынку.

Да канца дзён яны вядуць жыццё, якое цяжка вытрымаць на працягу паловы года, выказваючы такое пастаянства, якое было б прыемна небу, будзь яно заснавана на цнотах. Яны нібы та спецыяльна створаны для прыжыццёвага пекла – так я называю існаванне шматвопытнага маскоўскага распутніка.

У фізічным дачыненні клімат, у маральным – урад знішчаюць у гэтых краях ўсіх слабых і нямоглых; ўсе, хто не вызначаюцца ні магутным целаскладам, ні тупым розумам, гінуць; выжывае толькі быдла або моцныя натуры, якія ўмеюць тварыць і дабро і зло. Расія дае жыццё шалёным захапленням альбо бездапаможным характарам, мяцежнікам альбо аўтаматам, змоўшчыкам або тупіцам; прамежкавыя стадыі паміж тыранам і рабом, дурнем і быдлам рускім невядомы; пра залатую сярэдзіну не можа быць і гаворкі: яна непажаданая для прыроды; лішак холаду, як і лішак цяпла, штурхае людзей на крайнасьці. Я не хачу сказаць, што моцныя душы сустракаюцца ў Расіі радзей, чым у іншых краінах; насупраць, тут яны больш прыкметны, бо вылучаюцца на фоне млявага натоўпу. Далёка не ўсе славалюбівыя намеры рускіх падмацаваныя адпаведнымі здольнасцямі: захапленне да перабольшанняў – прыкмета слабасці.

Дарэчы, нягледзячы на кантрасты, якія я толькі што пазначыў, у адным дачыненні ўсе рускія падобныя: усе яны легкадумныя, усе жывуць сёняшнімі інтарэсамі, забываючыся зранку пра планы, якія нарадзіліся напярэдадні вечарам. Можна сказаць, што сэрца ў іх – царства выпадку; з абязбройваючай лёгкасьцю яны згаджаюцца на ўсякую справу і так жа лёгка ад яе адмаўляюцца. Яны – выявы, яны мрояць і навяваюць мары, яны не зямныя істоты, а прывіды; яны жывуць і паміраюць, не паспеўшы заўважыць, што жыццё – серьёзная рэч. Ні дабро ні зло для іх не мае вялікага значэння; яны ўмеюць плакаць, але не ўмеюць адчуваць сябе няшчаснымі. Палацы, горы, волаты, сільфы, захапленні, адзінота, бліскучы натоўп, вышэйшае задавальненне, бязмернае гора: пагутарыце з імі чвэрць гадзіны, і перад вамі прамільгне цэлы сусвет. Іхны хуткі і зневажальны погляд спакойна прабягае па тварэннях чалавечага розуму, чый ўзрост налічвае стагоддзі; яны думаюць, што, ўсім пагарджаючы, над усім узвысяцца; іхныя ўхваленні па-сутнасць абразы; яны разхвальваюць, сумуючы ад зайздросьці, яны прасьціраюцца ніц перад тымі, каго лічаць моднымі кумірамі нехаця. Пры першым жа подыху ветра выява перайначваецца – да наступнай змены надвор'я. Прах і дым, хаос і бездань – вось усё, што могуць вывесьці на свет гэтыя непастаянныя розумы.

Нішто не можа ўкараніцца на такой неустойлівай глебе. Тут, усё адрозненні сьціраюцца, усе здольнасьці ўраўнаважваюцца: туманны свет, у якім рускія існуюць самі і дазваляюць існаваць нам, з'яўляецца і знікае па узмаху рукі гэтых бедных вырадкаў. З іншага боку, у такой зменлівай атмасферы нішто не спыняецца назаўжды; сяброўства ці каханне, якія мы лічылі назаўсёды страчанымі, ажываюць ад аднаго погляду, аднаго слова ў тое самае імгненне, калі мы менш за ўсё гэтага чакаем, – з тым, дарэчы, каб зноў згінуць, толькі толькі мы паверым у іхную трываласць. Рускія – ведзьмакі: пад дзеяннем іхнай чароўнай палачкі жыццё ператвараецца ў бесперапынную фантасмагорыю; гэтая гульня стамляючая, але бяднеюць ў ёй толькі нэдарэкі, бо там, дзе ўсе

махляраць, ніхто не застаецца ў пройгрышы: адным словам, калі выкарыстаць паэтычны выраз Шэкспіра, чые шырокія мазкі дапамагаюць спасцігнуць самую сутнасць прыроды, рускія хлуслівыя, як вада[253].

**~ 88 ~**

Усё гэта тлумачыць мне, чаму па гэты дзень рускія, здаецца, асуджаны вышэйшай сілай падпарадкоўвацца дэспатычнай уладзе: манархі таксама прыгнятаюць іх столькі ж згодна звычкі, колькі са спачування.

Прызначай сваё апавяданне толькі такому філосафу, як вы, мне патрэбна было б паказаць тут эпізоды із летапісу звычаяў, пра якія вам беспрэчна не даводзілася чытаць нават у Францыі, дзе, аднак, пішуць пра ўсё і апісваюць ўсе без выключэння; але за вашай спіной я бачу публіку, і гэта думка мяне спыняе: пагэтаму ўяўленне дамалюе вам ўсё, пра што я змоўчу; дарэчы, я не маю рацыю: ваша ўяўленне тут не мае значэння. Больш таго, паколькі пра злоўжыванні дэспатызму – падставе пануючай тут маральнай анархіі – вы ведаеце толькі па чутках, вы можаце не паверыць таму, што я распавяду вам пра яе наступствы.

Дзе недастае законнай свабоды, там расцвітае свабода беззаконная; дзе ўжыванне абмежавана, там пануюць злоўжыванні; адхіляючы права, вы заахвочваеце падман, адкінуўшы правасудзе, палягчаеце жыццё заганам. З некаторымі палітычнымі ўладкаваннямі і грамадзкімі строгасьцямі справа ідзе так як з цэнзурай, у якую намаганнямі мытнікаў дасылаюцца толькі шкодныя кнігі: бо ніхто не хоча рызыкаваць праз няшкодныя кнігі.

Адсюль вынікае, што Масква – той еўрапейскі горад, дзе вялікасвецкі сваволькнік адчувае сябе найбольш прывольна. Расійскі ўрад дастаткова асвечаны, каб разумець, што абсалюцьйная ўлада не выключае мецяжоў; ён лічыць за лепшае, каб гэтыя мецяжы адбываліся не ў палітыцы, а ў маральнасьці. Вось падстава распутства адных і памяркоўнасці другіх. Дарэчы, вольнасць звычак ў Расіі выклікана і некаторымі іншымі абставінамі, даследаваць якія я не маю ні часу, ні сродкаў.

Дарэчы, вось адна з іх, на якую я абавязаны звярнуўся вашую ўвагу. Справа ў тым, што шмат асоб са шляхетных сямей, але благой вядомасьці, трапіўшы ў няласку праз свае заганы, пакідаюць Пецярбург і селяцца ў Маскве.

Пасьля таго, як сучасныя літаратары жывапісалі нам ва ўсіх падрабязнасьцях – хаця, калі ім верыць, з самымі прыстойнымі намерамі – самыя нястрыманыя із оргій, мы, здавалася б, павінны лічыць сябе знатакамі разбэшчанасьці. О Божа! Я гатовы прызнаць, што падобныя творы прыносяць карысць, я абавязуюся выслухоўваць падобных прапаведнікаў, але я не веру ў дзейснасць іхных пропаведзяў, бо калі дрэнная літаратура амаральная, то яшчэ больш жахлівая літаратура подлая; той, хто на падставе паскарэння жыватворных пераменаў у ніжэйшых станах разбэшчвае густы вышэйшых, дзейнічае ганебна. Вымушаць жанчын выказвацца на мове табажні ці хаця б выслухоўваць прамовы на гэтай мове, абуджаць у свецкіх людзей любоў да непрыстойнасьцей – значыць рабіць шкоду звычкам нацыі, якую не выправіць ні

[253] Шэкспір. Атэла, д. 5, з’ява. 2.

адна палітычная рэформа. Наша літаратура асуджана на пагібель, таму што дасціпнейшыя із нашых аўтароў: забыўшыся пра паэзію і павагу да выдатнага, улагоджваюць пасажыраў амнібусаў і жыхароў прадмесьцяў і, замест таго каб узвышаць гэтых нановаз’явіўшыхся судзьдзяў да людзей прыстойных і далікатных, самі апускаюцца да невукаў, якім звычка да грубай ежы перашкаджае знаходзіўць асалоду ў вытанчаных задавальненнях. Гэтыя творцы замяняюць літаратуру эстампамі, таму што разам з адчувальнасьцю страцілі прастадушнасьць; падобная загана куды больш жахлівая, чым усе заганы старадаўніх законаў і звычак; гэта – яшчэ адзін із вынікаў сучаснага матэрыялізму, таго, хто шукае паўсюль адну толькі карысць, карысцю ж лічыць толькі самыя непасрэдныя, самыя станоўчыя вынікі сказаннага слова. Гора краіне, дзе мастакі апускаюць сябе да памочнікаў паліцэйскага прэфекта!!! Калі пісьменнік лічыць сваім абавязкам жывапісаць заганы, яму варта, ва ўсякім разе, падвоіць клопаты пра густ і малюючы самыя вульгарные постаці, мець ў розуме ідэальную ісьціну. Аднак часцей за ўсё абурэнне стваральнікаў нашых раманаў – маралістаў, а дакладней сказаць, маралізатараў, – выклікае не столькі павага да дабрачыннасьці, колькі цынізм і абыякавасць людзей, якія не маюць ні перакананняў, ні густу. Іхным раманам нехапае паэзіі, таму што іхным сэрцам нехапае веры. Той, хто надае высакароднасць выявам парокаў так, як гэта зрабіў Рычардсан, малюючы Лоўласа, той не разбэшчвае душы, а, насупраць, асьцерагаецца збянтэжыць ўяўленне, зняважыць розум[254]. Падобныя выявы, выкананыя маральнага сэнсу і павагі да пачуццяў чытача, ўяўляюцца мне куды больш надзённымі для цывілізаваных грамадстваў, чым дакладны пералік гнюсных выхадак разбойнікаў і не маючых прыкладаў цнотаў прастытутак! Ды даруюць мне чытачі гэты экскурс у вобласць літаратурнай крытыкі; я спяшаюся вярнуцца да добрасумленнага выканання нялёгкіх абавязкаў праўдзівага падарожніка – абавязкаў, якія, да няшчасьця, занадта часта супярэчаць законам літаратурнай кампазіцыі, пра якія я толькі што вам нагадаў з павагай да маёй мовы і маёй радзімы.

**~ 89 ~**

Творы самых дзёрзкіх із нашых апісальнікаў звычаяў – па-сутнасьці не што іншае, як слабыя перайманні з тым арыгіналаў, якія пастаянна паўстаюць перада мною ў Расіі.

Вераломства згубна ва ўсім, асабліва ж у справах гандлёвых; між тым у гэтай краіне яно распаўсюджана так шырока, што нават распутнікі, заключаючы паміж сабой таемныя пагадненні, не могуць быць упэўнены ў добрасумленнасьці саўдзельнікаў.

---

[254] Кюстын супрацьстаўляе маралістычны раман Сэмюэля Рычардсана (1689-1761) «Кларыса» (1747-1748) «апантаным» французскім раманам 1820-1830-х гг., такім, як «Мёртвы асёл і гільятынаваная жанчына» (1829) Ж. Жанэна ці «Парыжскія таямніцы» (1842) Эжэна Сю, пра якія аўтар «Расіі ў 1839 годзе» абурана пісаў Варнгагену 24 снежня 1842 г.: «У якой жудаснай літаратуры мы патанаем. «Парыжскія таямніцы» супернічаюць з дакладамі паліцэйскага прэфекта. Поспех гэтай кнігі, аўтар якой вызначаецца сваім талентам, цынізмам і ўменнем прыдумляць інтрыгу, адбівае ў мяне жаданне пісаць» (Lettres a Varnhagen. p. 438-439).

Пастаянныя перамены грашовага курса садзейнічаюць шматлікім падманам; ад рускага вы не пачуеце дакладнага слова, вызначанага і выразнага абяцання, прычым недакладнасць яго прамоваў заўсёды ідзе на карысць яго кішэні. Гэтая вечная заблытанасць абцяжарвае нават стасункі паміж каханкамі, бо кожны з іх, ведаючы наперад ілжывасць другога, жадае атрымаць плату наперад, і з гэтага ўзаемнага недаверу вынікае немагчымасць дамовіцца да чаго б там ні было, нягледзячы на добрую волю дамаўляючыхся бакоў.

Сялянкі ў Расіі куды хітрэйшыя чым жыхаркі горада; часам гэтыя юныя дзікункі, разбэшчаныя ўдвая, парушаюць асноўнейшыя запаведзі свайго рамяства, якія паважаюцца ўсякай прастытуткай, і збягаюць са сваёй здабычай, нават не выканаўшы таго ганебнага абавязку, за які атрымалі плату.

У іншых краінах разбойнікі прытрымліваюцца дадзенага слова; яны выконваюць свае зладзейскія законы, рускія ж куртызанкі або апусціўшыяся жанчыны, якія вядуць сябе так жа заганна, як і разбойнікі, не маюць нічога святога і не паважаюць нават той рэлігіі разбэшчанасьці, што абяцае поспех іхнай справе. Нездарма ж гаворыцца, што ў самых ганебных справах патрэбна нейкая сумленнасць.

Адзін афіцэр, чалавек са знатнага сямейства і вялікага розуму, распавёў мне сёння раніцай, што некалі атрымаў і вельмі дорага заплаціў за падобнае навучанне, што зараз ніводная вясковая прыгажуня, якой бы прастадушнай і цёмнай яна ні здавалася, не можа дамагчыся ад яго нічога, акрамя абяцанняў. “Ты не верыш мне, а я – табе!” Вось словы, якія ён спакойна супрацьпастаўляе ўсім дамаганням.

У іншых краях цывілізацыя ўзвышае душы, тут – разбэшчвае. Рускія былі б больш сумленнымі, калі б даўжэй заставаліся дзікімі; асвячаць рабоў – значыць разбураць асновы грамадства. Каб далучыцца да культуры, чалавеку неабходны некаторы запас цнотаў.

Намаганнямі свайго ўрада рускі народ зрабіўся маўклівым і хітраватым, хаця ад прыроды ён мяккі, вясёлы, паслухмяны, міралюбны і прыгожы; усё гэта, вядома, вартыя павагі ўласьцівасьці, аднак без шчырасьці іхная каштоўнасць невялікая. Мангольская сквапнасць гэтага племені і яго незнішчальная падазронасць выказваюць сябе як у самых дробязных, так і ў самых значных жыццёвых абставінах. У лацінскіх краінах абяцанне лічыцца справай святой, а слова – залогам, які шануецца ў аднолькавай ступені як тым, хто дае абяцаннне, так і тым, каму яно даецца. У грэкаў жа і іхных вучняў – рускіх слова не што іншае, як адмычка злодзея, якая выкарыстоўваецца для таго, каб пракрасьціся ў чужое жыллё.

Хрысьціцца на выявы святых з усякай нагоды прама на вуліцы, а так жа сядаючы за стол і падымаючыся із-за стола (як робяць тут нават вялікасвецкія спадары) – вось і ўсё, чаму вучыць грэцская рэлігія; пра астатняе здагадацца не цяжка.

Празмернасць (я маю на ўвазе не толькі просталюдзінаў, шмат хто із якіх – горкія п'яніцы) даходзіць тут да такіх межаў, што адзін маскоўскі весяльчак, душа грамадства, штогадова знікае з горада на месяц з паловай, ні больш ні менш;

калі ж вы пацікавіцеся, што з ім здарылася, то атрымаеце вычарпальны адказ: “Ён запіў!..”

Рускія занадта лёгкадумныя, каб быць помслівымі; яны – элегантныя марнатраўцы. Я з задавальненнем паўтару: яны ў вышэйшай ступені ветлівыя, але іхная ветлівасьць, якой бы лісьлівай яна ні была, нярэдка страчвае меру і становіцца стамляючай. У такіх выпадках я пачынаю марыць аб грубасьці: яна, ва ўсякім разе, натуральная. Першае правіла таго, хто жадае быць пачцівым, – прамаўляць толькі тыя кампліменты, якія суразмоўца мае права прыняць; усе астатнія па-сутнасці абразы. Сапраўдная ветлівасьць – збор прамоваў, якія поўняцца лісьлівасьцю, але лісьлівасьцю, старанна схаванай; няма нічога больш гожнага ўхвалення, чым сардэчнасць, бо для таго, каб яе выказаць, трэба перапоўніцца да чалавека сапраўднай сімпатыяй.

Сярод рускіх ёсць людзі вельмі пачцівыя, але ёсць і зусім невыхаваныя; гэтыя апошнія трымаюцца з абразлівай нясціпласьцю; згодна прыкладу дзікуноў яны пытаюць ні з таго ні з гэтага пра самыя значныя справы так, нібы гэта самыя нікчэмныя дробязі; яны засыпаюць вас пытаннямі, якія задаюць толькі дзеці і шпіёны; яны дакучаюць вам дзіцячымі або безцырымоннымі прашэннямі, цікавяцца самымі нязначнымі дробязямі вашага жыцця. Прырода стварыла славян цікаўнымі, і толькі добрае выхаванне і свецкія звычкі здольныя ўтаймаваць іхную дапытлівасць; тыя ж, хто не маюць гэтых перавагаў, ні за што не выпусцяць магчымасці зрабіць вам допыт: іх цікавяць мэта і вынікі вашага падарожжа; задаючы пытанне за пытаннем да той пары, пакуль ім не надакучыць, яны без усялякага сораму пытаюцца, “Ці аддаеце вы перавагу Расіі перад іншымі краінамі, ці знаходзіце вы Маскву значна больш прыгожай, чым Парыж, пецярбургскі Зімовы палац будынкам больш цудоўным, чым замак Цюільры, Царскае Сяло рэзідэнцыяй больш прасторнай, чым Версаль”, прычым кожная новая асоба, з якой вас знаёмяць, вымушае вас зноў браць удзел у падобным дыялогу, дзе нацыянальнае славалюбства асуджае на крывадушнае дазнанне чужаземную супольнасць. Гэтае дрэнна прыхаванае славалюбства тым больш раздражняе мяне, што яно заўсёды хаваецца пад маскай слашчавай, хоць і грубаватай сціпласьці, якая прызвана падмануць суразмоўцу. Мне здаецца, быццам я размаўляю з хітрым, але неадукаваным шкаляром, які ніколькі не саромеецца сваёй нясціпласьці, бо сам мае справу выключна з людзьмі пачцівымі, якія не ўмеюць ні ў чым яму адмовіць.



Мяне пазнаёмілі з нейкім юнаком, мяркуючы згодна чутак, чалавекам вельмі цікаўным; гэта князь ***, адзіны сын вельмі заможнага бацькі; дарэчы, гэты сын выдаткуе ўдвая больш, чым мае, транжырачы не толькі сваю маёмасць, але таксама свой розум і здароўе[255]. Васемнаццаць гадзін у суткі ён праводзіць у

[255] Вызначыць асобу гэтага маскоўскага валацугі (як Кюстын называе яго ніжэй, «крамлёўскага лавеласа») спрабавалі ўжо першыя чытачы «Расіі ў 1839 годзе». «Каго апісвае ён <Кюстын> пад імем Lovelace de Creml?» — пытаў Жукоўскі ў А. Я. Булгакава 10/22 кастрычніка 1843 г. (Жукоўскі В. А. Творы Выд. 7. СПБ., 1878. т. 6. стр. 556). Паводле версіі, прынятай М. Кадо (Cadot. p. 203-204) і маючага крыніцу ў французскага літаратара Іпаліта Ажэ (1796-1881), аўтару рамана «Пятруша. Рускія норавы» (1845) і

кабаку; кабак – яго вотчына; там ён пануе, там, на гэтых подлых падмостках, ён выказвае цалкам натуральна і міжволі манеры самыя велічныя і прыстойныя; выгляд у яго разумны і чароўны, што карысна ўсюды, нават у краіне, дзе пачуццё выдатнага развіта вельмі слаба; ён добры і не дурны; кажуць, яму здаралася здзяйсняць ўчынкі дабрадзейныя і нават чуллівыя.

Выхаваны старым французам-аббатам, чалавекам вельмі шаноўным, ён цудоўна асвечаны: яго жывы розум на рэдкасць праніклівы, жарты заўсёды самабытныя, але прамовы і ўчынкі перапоўнены цынізмам, які здаўся б невыносным ва ўсякім горадзе, акрамя Масквы; твар яго, прыемны, але неспакойны, выкрывае супярэчнасць паміж натурай і паводзінамі; ён смела аддаецца разбэшчанасьці, якая, дарэчы, не выказвае прыхільнасці да смеласьці.

Распутнае жыццё пакінула на чале валацугі пячатку ранняга старэння; аднак гэтыя сляды – плён не часу, а неразумнасьці – не пазбавілі яго прыстойныя і правільныя рысы амаль дзіцячага выразу. Прыроджанае характво пакідае чалавека толькі разам з жыццём, і, як ні імкнецца чалавек, узнагароджаны такой любасьцю, вынішчыць яе, яна ўсё адно яго не пакіне. Ні ў адной іншай краіне вы не знойдзеце чалавека, падобнага маладому князю ***... Але тут такіх, як ён, нямала.

Яго заўсёды атачае натоўп маладых людзей, яго вучняў і пераймальнікаў, якія, саступаючы яму ў розуме і сардэчнасьці, маюць з ім некаторае падабенства: дарэчы, усе яны – рускія, і з першага погляду відавочна, што яны не могуць належаць ні да якога іншага племені. Вось чаму я абмяжуюся выкладаннем толькі некалькіх эпізодаў іхнага жыцця... аднак пяро зараней выпадае ў мяне з рукі, бо мне давядзецца апавядаць пра сувязі гэтых гуляк не з дзявіцамі лёгкіх паводзінаў, але з юнымі манахінямі, вельмі дрэнна, як вы хутка пераканайцеся, разумеючымі свой абавязак; прабачце, пачынаючы распавядаць пра гэтыя здарэнні, аддалена нагадваючыя нашу рэвалюцыйную літаратуру 1793 года; то вы адчуеце сябе на пастанове “Манахінь” у театры Фейдо[256] і пацікавіцеся ў мяне, навошта я адважыўся прыпадняць пакрывала і агаліць непатрэбнае відовішча, якое патрэбна было б, насупраць, усімі магчымасьцямі імкнуцца ўтаіць ад староннік позіркаў? Магчыма, павага да праўды асляпляе мяне, але я перакананы, што да таго часу, пакуль зло застаецца таемным, яно перамагае, агалашэнне ж гэтых таямніц – залог нашай перамогі; да таго ж хіба я не абяцаў вам маляваць праўдзівыя выявы рускага жыцця? Я не прыдумляю, а апісваю ўбачанае з магчыма большай паўнатой. Я выпраўляюся ў падарожжа, каб

---

«Мемуары» (выд. 1891), пад «крамлёўскім лавеласам» варта разумець «Пятрушу» — князя Пятра Аляксеевіча Галіцына (1792-1842); аднак такі дасведчаны сучаснік, як А. Я. Тургенеў, упэўнена ідэнтыфікаваў гэтага персанажа з іншым валацугай, князем Ільвом Андрэевічам Гагарыным (гл.: НЛА. 3. 121, 135). Пра Ільва Гагарына, згодна з водгукамі сучаснікаў, «ільва», «валацугу» і «жэўжыка», чалавека «найвялікай самаўпэўненасьці, адвагі і прадпрымальнасці з жанчынамі», гл.: Герштэйн Э. Г. Лёс Лермантава. стр. 283-284.

[256] Гаворка ідзе пра камічную оперу на словы Пікара і музыку Дзеўена, пастанова якой упершыню была наладжана 7 ліпеня 1792 г. У разгар рэвалюцыі гэтая п'еса, пабудаваная на памылцы слугі, які прыняў кляштар за заезджы двор, мела вялікі поспех. Тэатрам Фейдо звалася Камічная опера, якая размяшчалася ў гэты час на вуліцы Фейдо.

паказваць грамадствы такімі, якімі яны з’яўляюцца, а не такімі, якімі яны павінны быць. Адзінае абмежаванне, якое я ўзяў сабе за правіла із далікатнасьці, мае дачыненне да намёкаў на асобы, якія пажадалі застацца невядомымі; я свята шаную іхную волю. Што ж да чалавека, якога я намаляваў, каб на яго прыкладзе пазнаёміць вас з жыццём самых безсаромных маскоўскіх распутнікаў, вы хутка пераканаецеся, што ён да такой ступені пагарджае меркаваннем атачаючых, што, згодна з яго ўласнымі словамі, жадае, каб я апісаў яго, нічога не прапускаючы, і быў, наколькі я магу меркаваць, вельмі разачараваны, калі я адказваў, што не маю намеру пісаць што-небудзь пра Расію. Я тут паказваю толькі тыя із пачутых ад яго апавяданняў, дакладнасць якіх мне падцвердзілі і іншыя мае суразмоўцы. Я, не жадаючы падманваць вас патрыятычнымі байкамі рускіх, якія маюць добрыя намеры, бо не хачу, каб вы нарэшце паверылі, быццам бы грэцкая царква выхоўвае сваю паству больш строга і з большым поспехам, чым некалі каталіцкая царква ў Францыі і ў іншых краінах.

**~ 91 ~**

Таму, калі воляю лёсу мне даводзіцца даведацца аб жахлівым, крывавым злачынстве, падобным на тое, пра якое вы зараз пачуеце, я лічу сябе абавязаным не трымаць яго ў таямніцы. Ды будзе вам вядома, што гаворка ідзе не пра што іншае, як пра смерць нейкага юнака, забітага ў кляштары *** самімі манахінямі. Я пачуў пра гэта забойства ўчара за табльдотам, у прысутнасьці шмат каго із паважаных асоб сталага ўзросту, якія занімаюць высокія пасады, – усе яны слухалі гэтую і іншыя, такія ж амаральныя гісторыі, з дзівосным спакоем; заўважце, што яны не пацярпелі б самага дробязнага жарту, які б абражаў іхную годнасць. Вось чаму я лічу, што гэтае здарэнне, дакладнасць якога падцвердзілі некалькі маладых людзей із атачэння князя ***, не прыдуманае.

Я ахрысціў гэтага дзіўнага юнака ветхазаветным Дон Жуанам, бо, на маю думку, яго неразважлівасць і дзёрзкасць выходзяць далёка за межы сучаснай безсарамнасьці; не стамляюся паўтараць: у Расіі няма нічога маленькага і ўмеранага; калі гэта і не краіна цудаў, як запэўніваў мяне мой італьянскі чычэронэ, гэта безумоўна краіна волатаў!..

Ітак, вось пачутае мной апавяданне: юнак, які таемна пражыў цэлы месяц у жаночым кляштары ***, нарэшце насыціўся сваім шчасьцем і насыціў святых дзеў, якім і быў абавязаны як сваімі радасьцямі, так і наступіўшай затым нудой. Ён зусім знясілеў; тады манахіні, жадаючы пазбавіцца ад яго, але баючыся, што ён памрэ, выйшаўшы ад іх, і пачнецца скандал, вырашылі пакончыць з ім самастойна. Сказана – зроблена... праз некалькі дзён труп няшчаснага, разрубаны на кавалкі, быў знойдзены на дне калодзезя[257]. Агалашэння справа не атрымала.

---

[257] Гэтая гісторыя, якая здаецца запазычанай із рамана жахаў, мела, аднак, адпаведнасьці ў рэальных пецярбургскіх плётках 1830-х гг.; Пар. у нядаўна апублікаваным лісьце Дантэса да Геккерна ад 28 снежня 1835 г.: «Ледзь не забыўся распавясьці гісторыю, якая з’яўляецца прадметам усіх гутарак у Пецярбургу вось ужо некалькі дзён <…> у наваколлі Ноўгарада ёсць жаночы кляштар, і адна із манашак на ўсю акругу славілася хараством. У яе да вар'яцтва закахаўся адзін афіцэр із драгунаў. Прамучыўшы яго больш за год, яна пагадзілася нарэшце яго прыняць, з умовай, што ў кляштар ён прыйдзе адзін і без праваднíц. У прызначаны дзень ён выйшаў із хаты каля поўначы, прыйшоў на назначае месца і сустрэў там гэту

З тых самых крыніц мне вядома, што ў шмат якіх маскоўскіх кляштарах інакі і манашкі вядуць жыццё зусім не манашаскае; адзін з сяброў юнага князя *** учора хваліўся ў маёй прысутнасьці перад цэлым натоўпам гуляк чоткамі, якія, згодна яго слоў, забылася ў яго ў спальні нейкая юная паслушніца; іншы выстаўляў на паказ малітоўнік, атрыманы, калі верыць яму, ад манахіні, якая ўваходзіла ў суполку *** і меўшая вядомасць сапраўднай святой... і гэтыя апавяданні былі сустрэты апладысментамі.

Калі б я меў намер пераказаць вам усе падобныя гісторыі, якія былі пачуты мной за табльдотам, я ніколі не давёў бы сваё апавяданне да канца; кожны меў у запасе ўласны скандальны анекдот і выкладаў яго пад гучны смех атачаючых; ўсеагульную весялосць падагравала віно, што лілося ракой ў шырокія кубкі, якія маглі значна лепш задавальняць смагу нястрыманых масквічоў, чым нашыя старадаўнія бакалы для шампанскага; вельмі хутка ўсе канчаткова захмялелі; не страцілі разуму толькі двое: князь *** і я; ён – таму, што можа перапіць усякага, я – таму, што зусім не ўмею піць і не выпіў ні кроплі.

Раптам крамлёўскі лавелас з урачыстым выглядам падняўся і ўладна, як падабае чалавеку, які мае велікае багацце, слаўнае імя, прыгожы твар, а галоўное, незвычайныя розум і характар, папрасіў усіх заціхнуць; да майго здзіўлення, усе паслухаліся. Здавалася, паганскі бог са старажытнай эпічнай паэмы адным словам упакорвае раз’юшаныя хвалі. Юны бог прапанаваў сваім сябрам, адразу ж прыціхнуўшым ад яго сур'ёзнага тону, далучыцца да заявы на імя маскоўскіх уладаў, у якой тутэйшыя распутніцы пакорліва паказалі б на тое, што старынныя жаночыя кляштары, самым заганным чынам супернічаючы з “мірскімі абшчынамі”, пазбаўляюць жрыц кахання прыбыткаў, пры гэтым паколькі, пачціва заўважылі б гэтыя дзяўчаты, іхныя выдаткі змяншаюцца зусім не так жа імкліва, як прыбыткі, яны спадзяюцца, што спадары такія-та і такія-та, вырашыўшы справу згодна справядлівасьці, запатрабуюць у вышэйзгаданых кляштпроў неабходныя сумы, у адваротным жа выпадку затворніцы, якія знаходзяцца ў кляштарах, будуць пастаянна забіраць хлеб у затворніц, якія жывуць у свеце. Прапанова была пастаўлена на галасаванне і прынята аднагалосна, а затым юны шалапут, узброіўшыся пяром і паперай, з веліччу, годнай дзяржаўнага мужа, склаў на выдатнай французкай мове паперу, занадта скандальную і бурлескную, каб я дазволіў сабе перепісаць яе тут слова ў слова. Яе копію я захаваў, але нам з вамі цалкам дастаткова і таго, што вы зараз прачыталі.



манашку, яна ж, не кажучы ні слова, павяла яго ў кляштар. Прыйшоўшы ў яе келлю, ён знайшоў цудоўную вячэру з самымі разматымі вінамі, <…> яна <…> спытала, якія доказы свайго кахання ён можа даць. Ён <…> даведзены да крайнасьці, адказаў, што зробіць усё, чаго яна ні папросіць. Прымусіўшы яго прынесьці клятву, яна ўзяла яго за руку, падвяла да шафы, паказала мяшок і сказала, што калі ён аднясе яго і кіне ў раку, то пасьля вяртання яму ні ў чым не будзе адмовы. Афіцэр згаджаецца, яна выводзіць яго із кляштара, але ён не зрабіў і 200 крокаў, як адчуў сябе блага і зваліўся. <…> няшчасная атруціла яго, і пражыў ён толькі столькі, каб паспець пра ўсё паведаміць. Калі ж паліцыя адкрыла мяшок, яна знайшла ў ім палову манаха, жудасна знявечанага» (Зорка. 1995. № 9. стр. 185).

Згодна прашэння прысутных аўтар неадкладна выразным і гучным голасам продэкламаваў свой шэдэўр; чытанне паўтарылася тройчы пад ухвальныя воклічы ўсёй кампанні.

Вось што адбылося на маіх вачах у карчме ***, аднай із самых бойкіх маскоўскіх устаноў падобнага роду, учора, на наступны дзень пасьля таго, як я абедаў у цудоўнай сядзібе ***. Як бачыце, хоць згодна з законам у Расійскай дзяржаве пануе аднастайнасць, прырода, якае прагне разнастайнасьці, усякімі сродкамі абараняе свае правы.

Улічыце, прашу вас, што я пазбавіў вас ад шматлікіх падрабязнасьцей і паменшыў тыя, без якіх не змог абысьціся. Калі б я быў больш праўдзівым, мяне б не ўзяліся чытаць; калі б Мантэнь, Рабле, Шэкспір і шмат хто іншыя із вялікіх аўтараў жылі ў наш час, яны куды б больш старанна выбіралі б словы; нам жа, якія маюць значна менш правоў пагарджаць меркаваннем публікі, і падаўна даводзіцца дагаджаць яе пачуццямі.

Невукі, размаўляючы на двухсэнсоўныя тэмы, знаходзяць словы цалкам нявінныя, выпадаючыя із пад увагі шматвопытных людзей нашага стагоддзя, чыё ханжаства выклікае не столькі павагу, колькі трывогу. Дабрачыннасць чырванее, крывадушнасць звярэе – гэта куды больш жахліва.

Правадыр банды распутнікаў, якія стаяць лагерам ў карчме *** (гэтыя людзі не жывуць асела, як іншыя, а вандруюць), такі элегантны, такі вытанчаны, трымаецца так ласкава, захоўвае столькі добрага густу нават у шаленствах; твар яго выказвае такую дабрыню, а манеры і нават самыя рызыкоўныя прамовы перапоўнены такай высокароднасьцю, што гэтага знатнага вертапраха не столькі асуджаеш, колькі шкадуеш. Ён – не раўня сваім саўдзельнікам; здаецца, што ён зусім не створаны для распусты, і немагчыма не спачуваць яму, немагчыма не перапоўніцца спагадай да яго, хаця ён у значнай ступені адказны за грахі сваіх пераймальнікаў; перавага, хай нават у дрэнных справах, заўсёды выклікае павагу; якія таленты, якія здольнасьці прападаюць марна! – Разважаў я, слухаючы яго...

Сёння ён запрасіў мяне паехаць з ім за горад на пару дзён. Аднак я наведаў раніцай яго бівуак і, спаслаўшыся на неабходнасць паскорыць свой ад'езд у Ніжні, атрымаў свабоду.

Перш чым развітацца з гэтым неразважлівым гулякай, я хачу апісаць вам нашу апошнюю сустрэчу. Вось выява, якая чакала мяне ў двары карчмы, дзе мне давялося атрымаць асалоду ад відовішча арды распутнікаў, якая пакідала сваё месца. Развітанне ператварылася ў сапраўдную вакханалію.

Уявіце сабе тузін напалову п’яных малайцоў, з шумнымі спрэчкамі рассядаючыміся ў тры запрэжаныя чацвярнёй карэты: правадыр утаймоўваў іх жэстамі, голасам, мімікай. Натоўп зявак, які складаўся із гаспадара карчмы, лакеяў і конюхаў, глядзеў на яго з захапленнем, зайздрасьцю, а іншы раз і з усмешкай, але калі хто і пасьмейваўся, то ціха, напаўголаса. Што ж да правадыра гуляк, то ён, стоячы ў адкрытым экіпажы, выконваў сваю ролю з сур'ёзнасьцю, у якой не было прыкметна нічога наўмыснага, і на галаву пераўзыходзіў сваю сьвіту; каля яго ног размяшчалася вядро, а дакладней сказаць, вялікі чан з

лёдам, поўны бутэлек шампанскага. Гэты пераносны склеп змяшчаў дарожныя прыпасы; паколькі дарога павінна была быць вельмі пыльнай, тлумачыў вертапрах, патрэбна мець чым прамачыць горла. Перад самым ад'ездам адзін із яго адзьютантаў, якога ён ахрысьціў "пробкавым генералам", ужо адкупорыў дзве ці тры бутэлькі, і юны дзівак шчодра частаваў ўсіх жадаючых напоем сапраўды вельмі каштоўным – лепшым шампанскім з усіх, якія можна купіць у Маскве. Пробкавы генерал, самы дбайны із яго паплечнікаў, пастаянна напаўняў дзве чашы, якія знаходзіліся ў руках валацугі, але гэтыя чашы зноў і зноў станавіліся пустымі. Адну ён выпіваў сам, а другую працягваў каму-небудзь із атачаючых. Яго людзі былі апрануты ў парадныя ліўрэі; выключэнне складаў толькі фурман – юны селянін, толькі нядаўна прывезены із вёскі[258]. Адзенне гэтага юнака, на першы погляд зусім простае, але на дзіва вытанчанае, рэзка вылучалася на фоне абабітых галунамі ліўрэяў астатніх лакеяў. Малады фурман быў апрануты ў кашулю із шаўка-сырцу – каштоўнейшай персідзкай тканіны, сабранай у ледзь прыкметныя складкі, і напалову разхрыстаны на грудзях кафтан із вельмі тонкага казіміра, абабітага першакласным бархатам. У пецярбургскіх дэндзі прынята на святы апранаць самых юных і прыгожых са сваіх служак падобным чынам. Астатнія дэталі адзення не саступалі ў раскошы ўжо пазначаным: скураныя боты із Таржка, расшытыя пышнымі залатымі і сярэбранымі колерамі, сваім бляскам прыводзілі да здзіўлення самога абутага ў іх мужлана, які на дадатак быў надушаны так шчодра, што, нават знаходзячыся на свежым паветры і стоячы ў некалькіх кроках ад карэты, я не мог не адчуць духмянасьці, якую выдзялялі яго валасы, барада і сукенка. Ў нас самы элегантны із арыстакратаў не носіць такога выдатнага адзення, якім выхваляўся гэты ўзорны фурман.



Напаіўшы ўсю карчму, правадыр вертапрахаў дзеля забавы нахіляецца да разадзетага селяніна і падносіць яму пенячуюся чашу. "Пі!"- загадвае ён. Бедны мужык, які не меў ніякага вопыту ў падобных справах, не ведаў, на што вырашыцца... "Пі ж, – паўтарыў яму гаспадар (мне пераклалі яго словы), – пі, нягоднік: я даю табе шампанскае не дзеля цябе, а дзеля тваіх коней: калі фурман не будзе п'яны, ён не зможа прымусіць іх ўсю дарогу імчацца ускачь!" На што ўсе прысутныя адказалі рогатам, крыкамі "ура!" і апладысментамі. Пераканаць фурмана не патрабавала вялікіх высілкаў; ён дапіваў трэцюю чашу, калі яго гаспадар подаў знак рушыць і зноў з бездакорнай пачцівасьцю пераканаў мяне ў тым, што мая адмова шчыра яго засмуціла. Тон у майго суразмоўцы быў настолькі вытанчаны, што, слухаючы яго, я на імгненне забыўся, дзе адбываецца наша размова, і вырашыў, што апынуўся ў Версалі часоў Людовіка XIV.

Нарэшце мой повеса з'ехаў у маёнтак, дзе збіраўся правесці тры дні. Яго паплечнікі называюць гэтую ўцеху летнім паляваннем.

---

[258] Рэпліка Вяземскага: «Я вельмі шкадую, што с-р дэ Кюстын з'явіўся ў Расію для таго, каб адшукваць там крамлёўскіх лавеласаў, старазапаветных донжуанаў і элегантных вазніц, у грамадстве якіх ён распіваў шампанскае падчас оргіі, пра якую ён мог бы прамаўчаць із павагі да чытачак…» (цыт. па: Cadot. p. 273).

Няцяжка здагадацца, чым забаўляюцца гэтыя вертапрахі у вёсцы; яны праводзяць час, ва ўсякім разе так жа, як і ў Маскве: пастановы паўтараюцца ранейшыя, але з новымі актрысамі. З сабой яны вязуць цэлыя стосы гравюр, якія пераймаюць самыя славутыя палотны французкіх і італьянскіх майстраў; яны збіраюцца ладзіць іхныя пастановы ў тварах, злёгку змяніўшы вопратку.

Вёскі і ўсе, хто ў іх жывуць, непадзельна належаць гэтым знатным распутнікам; можаце не сумнявацца у тым, што правы сеньёра ў Расіі прасьціраюцца значна далей, чым на падмостках парыжскай камічнай оперы.

Карчма ***, адкрытая для ўсіх жадаючых, размешчана на адной із самых вялікіх маскоўскіх плошчаў, у двух кроках ад кардэгардыі, дзе разквартыраваны казакі, чыя бездакорная выпраўка разам з сумным і строгім выглядам выклікаюць у чужаземца думку, што ў краіне, куды ён трапіў, ніхто не асьмельваецца смяяцца нават над самымі нявіннымі рэчамі.

Паколькі я абавязаў сябе паказаць вам Расію такой, якой пабачыў яе сам, я вымушаны распавясьці яшчэ сёе-тое пра размовы тых людзей, з забавамі якіх я вас толькі што пазнаёміў.

Адзін выхваляецца тым, што і ён, і яго браты – дзеці гайдуков і фурманаў свайго бацькі, і паднімае бакал за здароўе ўсіх гэтых бацькоў... дарэчы, невядомых! Другі ставіць сабе ў заслугу сваяцтва – па бацьку – з усімі пакаёўкамі сваёй маці.

Не ўсе з гэтых гнюснасьцей адпавядае рэчаіснасьці, шмат што, бяспрэчна, па-сутнасьці чыстай вады бахвальства, аднак сам факт, што людзі кічацца такімі подлымі выдумкамі, сведчыць пра глыбокую разбэшчанасць розумаў, якая, на мой позірк, куды большая небяспечная чым учынкі гэтых гуляк, якімі б бездумнымі яны ні былі.

Мяркуючы па апавяданнях спадароў вертапрахаў, маскоўскія мяшчанкі паводзяць сябе ані не больш прыстойна, чым знатныя дамы[259].

Пакуль іхныя мужы гандлююць на Ніжагародскай ярмарцы, афіцэры мясцовага гарнізона ў сваё задавальненне бавяць час у горадзе. Спатканні ў гэтую пару ладзяцца лёгка: прыгажуні з'яўляюцца на іх у суправаджэнні шаноўных сваячак, чыёй апецы іх даверылі пры ад'ездзе прадбачлівыя мужы. Справа даходзіць да таго, што за паблажлівасць і маўчанне гэтыя дуэнні атрымліваюць плату; тое, што адбываецца пры іхным заступніцтве, нельга назваць каханнем: каханне не бывае без цноты – такі прысуд стагоддзяў тым жанчынам, якія шукаюць шчасьця не там, дзе трэба, і замест таго, каб узвышацца да пяшчоты, апускаюцца да распутства. Абаронцы рускіх сцвяржаюць, што маскоўскія жанчыны не маюць палюбоўнікаў; не буду спрачацца: сябры, якіх яны заводят ў адсутнасць мужоў, вартыя якога-небудзь іншага наймення.

---

[259] Пар. нарыс рускіх нораваў у лісьце мастака О. Бернэ да жонкі із Расіі ад 26 лістапада 1842 г.: «Дабра б каб усё гэта <вымушаны і халодны выгляд усіх наведвальнікаў рускіх гасьціных> спрыяла паляпшэнню нораваў, аднак тут столькі ж курваў, колькі ва ўсіх іншых краінах. Проста тут здрадам надаюць менш увагі і завуць іх прамахамі. На жанчыну, якая мае дзесяць каханкаў, глядзяць дакладна гэтак жа, як на тую, якая мае толькі аднаго» (Durande. p. 215).

Паўтараю, я схільны сумнявацца ў праўдзівасьці падобных гісторый, аднак у мяне няма падстаў сумнявацца і у тым, што радасны і ганарлівы выгляд, які напускаюць рускія, паведамляючы гэтыя гісторыі кожнаму іншаземцу, азначае: “Et anch'io son pittore!”[260] – і мы таксама людзі цывілізаваныя!

Чым больш я даведваюся пра лад жыцця гэтых знатных распутнікаў, тым менш разумею, чаму, нягледзячы на ўсе іхныя грахі, яны захоўваюць тут, калі выказацца на сучаснай мове, тое грамадзкае становішча, якое страцілі б ва ўсякай іншай краіне, дзе перад імі зачыніліся б дзьверы ўсіх салонаў. Мне невядома, як ставяцца да гэтых грахаводнікаў, якія не сарамеюцца свайго бяспутства, іх родныя, але я магу засведчыць, што ў грамадстве іх сустракаюць ахвотна; пры з'яўленні гэтых вертапрахаў ўсіх ахоплівае весялосьць, іхная прысутнасць дадае задавальненне нават асобам больш сталага ўзросту, якія, бяспрэчна, не бяруць з іх прыклад, але заахвочваюць іх сваім памяркоўным стаўленнем. Усе запабягаюць перад імі, імкнуцца паціснуць ім руку, жартаўліва даведацца пра іхныя прыгоды, нарэшце, ўсе імкнуцца выказаць ім – праз адсутнасць павагі – сваё захапленне.

**~ 94 ~**

Назіраючы стаўленне, якое выказваецца ім паўсюль, я задаюся пытаннем, што ж трэба зрабіць у гэтай краіне, каб страціць павагу грамадства.

Калі ў асяроддзі свабодных народаў па меры таго, як демакратыя заваёўвае сабе ўсё большую і большую уладу, звычаі робяцца ўсё больш нявіннымі – калі не па сутнасьці, то хаця б па бачнасьці, то тут свабоду блытаюць з разбэшчанасьцю, праз што знатныя шалапаі маюць тут такі ж поспех, якім ў нас карыстаецца гурток людзей бездакорных.

Юны князь *** зрабіўся павесай пасьля трохгадовага знаходжання ў высылцы на Каўказе; тамашні клімат сапсаваў яго здароўе. З Пецярбурга ён быў высланы адразу пасьля заканчэння вучобы за тое, што разбіў шкло ў некалькіх сталічных лаўках; урад ўгледзеў у гэтым нявінным свавольстве палітычны змест і сваёй празмернай суровасьцю ператварыў юнага шалапая ў сталага распутніка, які загінуў для айчыны, сямейства і сябе самога[261].

Такое асляпленне, на якое выракае розумы дэспатычная ўлада, самая амаральная з усіх.

У Расіі ўсякі бунт здаецца законным, нават бунт супраць розуму, супраць Бога! Нішто із таго, што служыць прыгнятальнікам, не лічыцца тут годным павагі, нават тое, што ва ўсіх іншых краінах лічыцца святым. Там, дзе парадак ляжыць у аснове прыгнёту, людзі ідуць на гібель дзеля адсутнасьці парадку; там усё, што вядзе да паўстання, прынімаецца за самаадданасць. Лоўлас і Дон Жуан выглядаюць ў такой краіне вызваліцелямі выключна праз тое, што парушаюць закон: калі правасудзе не карыстаецца павагай, у пашане выяўляецца зладзейства!.. Уся віна ў гэтым выпадку перакладаецца на суддзяў! Злоўжыванні

[260] [заўвага аўтара] Et anch'io son pittore! (іт.) (“І я таксама мастак!”- выказванне, якое, згодна з паданнем, паходзіць ад ускліцання Карэджо (каля 1489-1534) пры позірку на карціну Рафаэля “Святая Цэцылія” (часам называецца іншая карціна таго ж аўтара).)

[261] [заўвага аўтара] Дарэчы, я чуў, што пасьля майго ад’езду із Расіі ён адружыўся і пасталеў.

ўрада такія вялікія, што ўсякае падпарадкаванне яму сустракаецца ў штыкі, у пагардзе да добрых паводзін тут прызнаюцца дакладна такім тонам, якімі ў любым іншым месцы сказалі бы: “Я ненавіджу дэспатызм!”

Я прыехаў ў Расію, знаходзячыся пад уладай аднаго забабона, ад якога сёння вызваліўся[262]; ўслед за шматлікімі разумнымі людзьмі я лічыў, што самаўладдзе знаходзіць апірышча для сваёй магутнасьці, перш за ўсё, ў роўнасьці паміж усімі падданымі самаўладцы; аднак гэтая роўнасць – не больш чым іллюзія; я казаў сабе і чуў ад іншых: “Калі аднаму чалавеку дазволена ўсё, усе астатнія роўныя, гэта значыць роўна нікчэмныя; гэта – калі і не шчасьце, то суцяшэнне”. Маё разважанне было залішне лагічным, і жыццё, натуральна, яго абвергла. На гэтым свеце абсалютнай улады не існуе, аднак існуюць улады дэспатычныя і капрызныя; дарэчы, якімі б злоўжываннямі яны ні грашылі, ім ніколі не ўдаецца падпарадкаваць ўсіх падданых настолькі, каб ураўняць іх паміж сабою цалкам.

Расійскаму імператару дазволена ўсё. Аднак, калі гэтая ўсемагутнасць гасудара і прывучае да цярпення некаторых вяльможаў, прыцішаючы грызучую іх зайздрасць, натоўп, запэўніваю вас, мае зусім іншыя пачуцці. Імператар не здзяйсняе ўсяго што можа, бо, рабі ён заўсёды ў адпаведнасьці са сваімі жаданнямі, ён вельмі хутка пазбавіўся б пасада; між тым, пакуль ён не пачне рабіць ўсё, на што мае права, становішча землеўладальніка, надзеленага не малой уладай, будзе рашуча адрознівацца ад становішча падпарадкаваных гэтаму землеўладальніку мужыкоў або дробных гандляроў. Я перакананы, што сёння ў Расіі сапраўдная няроўнасць станаў куды большая, чым ва ўсякай іншай еўрапейскай краіне. Роўнасць пад ярмом тут – правіла, а няроўнасць – выключэнне, але там, дзе валадарыць капрыз, выключэнне перацягвае.

Чалавечыя ўчынкі занадта складаныя для таго, каб падпарадкаваць іх строгаму матэматычнаму разліку, таму паміж кастамі, якія стаяць у грамадскай іерархіі ніжэй імператара, пануе варожасць, маючая вытокі выключна ва злоўжываннях, якія дапускаюцца чыноўнікамі, легендарнай жа роўнасьці, пра якую мне столькі распавядалі, няма і ў згадцы.

Наогул людзі тут размаўляюць з найвялікшай манернасьцю; самым слашчавым тонам яны запэўніваюць вас, што рускія сяляне – самыя шчаслівыя істоты ў свеце[263]. Не слухайце іх, яны хлусяць; у аддаленых абласьцях шмат хто із сялян не маюць дастатковай колькасьці ежы; шмат якія паміраюць ад галечы і благога абыходжання; ўсе людзі ў Расіі вядуць існаванне вартае жалю, але людзям, якія прадаюцца разам з зямлёй, прыходзіцца цяжэй за іншых; аднак, пярэчаць мне, у іх ёсць права атрымліваць рэчы першай неабходнасці – на жаль, гэтае падманлівае права не мае ніякага дачынення да сапраўднага жыцця.



[262] Гл. т. I, стр. 179 і заўвагу.

[263] Пар. у Баранта: «Цярплівая пакорнасць і пакорлівая адданасць сялян імператару ці ўладальніку — тэма, пра якую рускія нават у прыватных размовах выказваюцца ў тоне напышлівым і сентыментальным, захопленым і замілаваным» (Notes. p. 400).

Землеўладальнікам, кажуць мне таксама, выгадна турбавацца пра патрэбы сялян. Аднак ці кожны чалавек добра разумее ўласную выгаду? Ў нас той, хто робіць бяздумныя ўчынкі, губляе багацце, і гэтым справа і абмяжоўваецца; тут жа заможнасць аднаго чалавека – гэта жыццё шмат каго із людзей, і той, хто дрэнна кіруе сваім маёнткам, выракае на галодную сьмерць цэлыя вёскі. Урад, заўважыўшы занадта відавочныя злоўжыванні, – а аднаму Богу вядома, колькі часу павінна прайсьці, каб ён іх заўважыў, – уладкоўвае над маёнткам дрэннага землеўладалька апеку, спадзяюся такім чынам выкараніць зло, аднак гэты захад – нязменна спазняючыся – не можа ўваскрэсіць памёршых. Ўяўляеце вы сабе, колькі нікому не вядомых пакут і несправядлівасьцей нараджаюць такія звычаі пры такім кіраванні і ў такім клімаце? Сэрца замірае, калі падумаеш пра гэтыя невыносныя пакуты.

Рускія раўныя, але не перад законамі, якія не маюць у іхнай краіне роўна ніякага значэння, а перад самавольствам самаўладцы, які, аднак, што б там ні казалі, робіць далёка не ўсё, што яму захочацца; іншымі словамі, за дзесяць гадоў яму выпадае даказаць існаванне гэтай роўнасьці ўсіх яго падданых ад сілы адзін раз. Між тым, не смеючы часта ўжываць грамушку замест скіпетра, самаўладзец сам згінаецца пад цяжарам абсалютнай улады; слабы чалавек, ён залежыць ад велізарных адлегласьцей і няведання фактаў, ад мясцовых звычаяў і нораваў падданых.

Заўважце, аднак, што кожны землеўладальнік ў сваім вузкім свеціку сутыкаецца з тымі ж цяжкасьцямі, з тымі ж спакусамі, якім яму, дарэчы, значна цяжэй супрацьстаяць, бо, карыстаючыся значна меншай вядомасьцю, чым імператар, ён куды больш абыякавы да меркавання Яўропы і сваіх суайчыннікаў: із гэтага грамадзкага ўладкавання, а дакладней сказаць, бязладдзя, якое грунтуецца на непарушных падмурках, пачынаюцца неадпаведнасьці, несправядлівасьці і няроўнасць, невядомыя грамадствам, дзе адносіны людзей паміж сабой можа змяняць толькі закон.

Як следства, няправільна сцвярджаць, што магутнасць дэспатызма заснавана на роўнасьці паміж яго ахвярамі; яе крыніца – не што іншае, як няведанне свабоды і баязь тыранні. Абсалюцыйная улада – пачвара, заўсёды гатовая нарадзіць на свет пачвару яшчэ больш жахлівую – тыранію народа.

Дарэчы, кажучы адкрыта, дэмакратычная анархія недоўгавечная, тады як лад, які ўсталёўваецца самаўладнай уладай з усімі яе злоўжываннямі, доўжыцца са стагоддзя ў стагоддзе, нараджаючы сваёю ўяўнай дабрачыннасьцю маральную анархію – горшую із заганаў, і матэрыяльную пакорлівасць – небяспечнейшую із даброт: грамадзянскі лад, хаваючы падобнае маральнае бязладдзе, – лад хлуслівы.

Вайсковая дысцыпліна ў кіраванні дзяржавай таксама з'яўляецца магутным сродкам прыгнёту; менавіта на ёй, а не на ўяўнай роўнасьці, грунтуецца неабмежаваная ўлада расійскага манарха. Аднак ці не абарочваецца нярэдка гэтая страшная магутнасць супраць таго, хто пускае яе ў ход? Вось дзве небяспекі, якія пагражаюць Расіі ўвесь час: народная анархія, даведзенная да крайніх ступеняў, – у тым разе, калі нацыя падніме бунт; у адваротным жа

выпадку – умацаванне тыранічнай улады, прыгнятаючай гэтую нацыю больш ці менш жорстка, у залежнасьці ад часу і месца.

Каб правільна ацаніць палітычнае становішча Расіі, варта памятаць, што помста яе жыхароў будзе асабліва страшнай праз іхнае невуцтва і шматгадовае цярпенне, якому рана ці позна можа наступіць канец. Урад, які нічога не саромеецца, бо робіць выгляд, што ні пра што не ведае, і чарпае магутнасць ў гэтай ўяўнай недасведчанасьці, не столькі трывалы, колькі жудасны: пакуты нацыі, атупенне войска, жах трымаючых уладу, асабліва тых із іх, хто самі наводзяць найвялікшы жах, рабалепства царквы, крывадушнасць знаці, невуцтва і галеча просталюдзінаў, пагроза высылкі, вісячая над усімі без выключэння, – вось краіна, якой яе стварылі нястача, гісторыя, прырода і Ўсявышні, чые шляхі спакон вякоў невыведныя...

І з гэтымі-та кволымі сродкамі волат, ледзь які пакінуў сваю старажытную азіяцкую калыску, жадае сёння парушыць раўнавагу еўрапейскай палітыкі!..

У якім асляпленні дзяржава, чые звычаі прыдатныя самае большае для таго, каб цівілізаваць бухарцаў ці кіргізаў, асьмельваецца дамагацца сусветнага панавання? Неўзабаве Расія захоча не толькі параўняцца ў правах з іншымі нацыямі, але і ўзнесьціся вышэй за іх. Не звяртаючы ўвагу на поспехі, якіх дасягнула еўрапейскай дыпламатыя за апошнія трыццаць гадоў, яна пажадае, яна ўжо жадае кіраваць заходнімі сходамі. У Яўропе дыпламатыя ўзяла сабе за правіла быць шчырай, рускія ж паважаюць шчырасць толькі ў паводзінах іншых і лічаць яе карыснай толькі для таго, хто сам ёю не карыстаецца.

**~ 96 ~**

У Пецярбургу сказаць няпраўду – значыць выканаць свой грамадзянскі абавязак, а сказаць праўду, нават у дачыненні да рэчаў на першы погляд цалкам нявінных, – значыць зрабіцца змоўшчыкам. Апавясьціўшы, што ў імператара насмарк, вы трапляеце ў няласку, а сябры замест таго, каб вас пашкадавць, стануць казаць: “Трэба прызнацца, ён быў вельмі неасьцярожны”[264]. Хлусьня –

---

[264] [заўвага аўтара] Менавіта такі лёс напаткаў ў гэтым годзе князя Даўгарукага, аўтара нявіннай брашуры “Нататкі пра галоўныя сямействах Расіі” (Князь Пятро Ўладіміравіч Даўгарукаў (1817-1868) на пачатку лютага 1843 надрукаваў у Парыжы на французкай мове пад псеўданімам граф д'Альмагро брашуру “Нататкі пра галоўныя сямействы ў Расіі” (презэнтавана ў “Bibliographie de la France” 11 лютага 1843 г.), у якой, згодна са словамі значнага саноўніка М. А. Корфа, “адкрыта распавёў пра паходжанне і сямейныя таямніцы некаторых высокіх нашых сямействаў” і якую Я. М. Таўсты расцаніў як ”знявага і паклёпы з вялікімі прэтэнзіямі на праўдзівасць” (Лежке. с. 531, 530). Заўвага ў “Journal des Debats”, на якую спасылаецца Кюстын і да якой адносіцца яго заўвага, была надрукавана 28 сакавіка 1843 года. Тут паведамляецца, што “князь Д..., які належыць да аднаго із слаўнейшых сямействаў Расіі і некаторы час жыўшы ў Парыжы, толькі што атрымаў загад пакінуць Францыю і неадкладна вярнуцца ў Маскву”. Падставай для гэтага, тлумачыць аўтар заўвагі, з’явілася брашура князя, якая ўяўляла із сябе не што іншае, як просты пералік тытулаў, які ва ўсякай іншай краіне мог бы напалохаць толькі людзей, якія не маюць на свае тытулы ніякага права, у Расіі ж вырабіла вялікі шум, бо тут усё залежыць ад волі аднаго чалавека – імператара, і ніякія дзеянні вышэйшай улады ніколі не абмяркоўваюцца публічна. Спасылаючыся на “свайго карэспандэнта ў Пецярбургу”, газета паведамляла, што асаблівы гнеў імператара выклікалі два месцы ў брашуры. Першае – “дадатак да біяграфічнай спраўкі пра сямейства князёў Трубяцкіх, адзін із прадстаўнікоў якога так жорстка расплочваецца ў Сібіры за спробу зрабіць рэвалюцыю, пачатую пасьля сьмерці імператара Аляксандра”. У гэтым “дадатку” князь Д... апавядае пра выбранне на царства Міхала Раманава і, назваўшы іншых прэтэндэнтаў на рускі пасад – Мсціслаўскага,

гэта спакой, парадак; законапаслухмяны падданы – найлепшы із патрыётаў!.. Расія – хворы, якога лечаць атрутай.

---

Пажарскага і Трубяцкога, якія адмовіліся ад гэтага гонару на карысць Раманавых, нагадвае пра "канстытуцыю", якой пакляўся захоўваць вернасць Міхал Раманаў: "Палата баярская складалася із баяраў і пэўнай колькасьці чыноўнікаў, выбранных царом думных дваран, палата суполак – із прадстаўнікоў святарства, дваранства і буржуазіі (г. зн. купецства)". Канстытуцыя, якой Міхал Раманаў пакляўся прытрымлівацца ў 1613 г., а Аляксей Міхайлавіч ў 1645 г., пісаў "Journal des Debats", не дазваляла цару "ўводзіць новыя падаткі, абвяшчаць вайну, заключаць мір і прысуджаць да смяротнага пакараня без згоды палат. Да Пятра І на пачатку ўсіх загадаў значылася: "цар загадаў, і баяры прысудзілі". Пятро І, мала схільны да канстытуцыйных формаў кіравання, знішчыў абедзве палаты, і з таго часу ні адна руская кніга не асьмельвалася пра іх згадваць. Але афіцыйныя паперы, якія захоўваюцца ў архівах імперыі, сведчаць пра іхнае існаване" (на самай справе "абмежаванні" ўлады Міхала Фёдаравіча – познейшая легенда, узнікшая ў 1720-1730-х гг.; падрабязней гл: Платонаў С. Ф. "Лекцыі па рускай гісторыі". М, 1993. стр. 336-344). Другой нагодай вышэйшага незадавальнення газета называе згадванне Даўгарукім пра яго больш падрабязны твор "Гісторыя Расіі пасьля ўсшэсьця на пасад Романовых", які "да траўня месяца будзе скончаны і застанецца на захаванні ў гасьціннай Францыі аж да таго часу, калі ён будзе надрукаваны, удакладніць жа, калі менавіта гэта адбудзецца, аўтару пакуль сказаць цяжка". Расійскага імператара, сведчыла парыжская газета, раззлавала згадка Францыі ў такім кантэксце. У аўтарстве заўвагаі ў "Journal des Debats" падазравалі самога Даўгарукага (рускі паверан ў справах Н. Д. Кісялёў, згодна з паведамленнем Я. М. Таўстога, ведаў гэта "з надзейнай крыніцы"- ГАРФ. Ф. 109. СА. Оп. 4. № 195. л. 89 аб.) Даўгарукі ж "не прызнаваў сябе аўтарам" (А. Я. Тургенеў – М. Я. Тургеневу, 26 траўня 1843; РО ІРЛІ. ф. 309, № 950. л. 235). "Нататкі пра галоўныя сямейства ў Расіі" выклікалі ў Францыі вялікую цікавасць як ва ўрадавых, так і ў легітымістскіх колах. Згодна са сведчаннем А. Я. Тургенева, "Шатабрыян і Цьеры ўгаворвалі яго ‹Даўгарукага› пісаць гісторыю сваёй дзяржавы" (РА ІРЛІ. Ф. 309. № 950. л. 238; ліст да М. Я. Тургенева ад 18/30 чэрвеня 1843 г.), а сам Даўгарукі ў пакаянным лісьце да Мікалая І хваліўся: "Старац Шатабрыян – гэтая жывая харугва гонару і вялікадушнасьці – сказаў мне: "Князь! Рускаму дваранству патрэбна было б пабудаваць вам помнік; да вас ніхто із нас нічога і не ведаў пра гэтае дваранства!" (Лежке. с. 535). 16/28 лютага 1843 г. Даўгарукі за публікацыю брашуры быў выкліканы ў Расію, куды прыбыў 1 траўня, і адразу пасьля прыбыцця быў арыштаваны. 20 траўня Мікалай І загадаў выслаць Даўрукага ў Вятку з абавязакам служыць. Ад службы князь адмовіўся, спасылаючыся на закон, даючаму права кожныму дваранiну служыць або не служыць згодна з ўласным жаданнем, але ў высылку выправіўся (у Вятку ён прыбыў 1 чэрвеня 1843 года).). У гэтай брашуры аўтар, за якога заступіўся "Часопіс дэ Дэба", адважыўся надрукаваць тое, што вядома ўсяму свету, а менавіта, што род Раманавых саступае ў знатнасьці роду Даўгарукіх, што выбранне Раманавых на расійскі пасад на пачатку XVII стагоддзя не зусім законнае, бо яго аспрэчвалі Трубяцкія, абраныя першымі, і шмат якія іншыя баярскія сямейства. Раманаў быў прызнаны царом толькі ў абмен на некаторыя ліберальныя перамены ў кіраванні дзяржавай. Увесь свет сведка таго, да чаго гэтыя паслабленні, адмененыя неўзабаве Пятром І, давялі Расію. І за падобнае злачынства ў нашы дні знатны дваранін можа быць высланы ў Сібір, у Вятку! Пакуль ён яшчэ не асуджаны да высылкі, імператар толькі параіў (гл. "Франкфуртскую газету" і "Аўгсбургскую газету") яму выправіцца туды (Франкамоўная газета "Journal de Francfort", часткова фінансуемая рускім урадам, пісала 5 траўня 1843: "Берлін, 26 красавіка. Рускія, якія наведваюць нашу сталіцу, мала распавядаюць пра тое, што адбываецца ў іхнай краіне, бо ў іх ёсць усе падставы дзейнічаць асьцярожна і абачліва. Тым не менш нярэдка яны дапамагаюць нам выправіць ілжывыя чуткі, якія іншыя людзі ахвотна распаўсюджваюць пра Расію за мяжой і асабліва ў Францыі. Дык, рускія запэўніваюць, што няправільна, быццам князі Даўгарукі і Мірскі, толькі што вярнуўшыяся із Парыжа ў Пецярбург, асуджаны на апалу. Усім рускім землеўладальнікам, якія знаходзіліся некаторы час у чужых краях, прыходзіцца рана ці позна вяртацца ў Расію. Калі рускі ўрад імкнецца перашкодзіць заможным землеўладальнікам доўга жыць у Яўропе, то падставай для гэтага служаць выключна фінансавыя меркаванні".). Такі патрыярхальны спосаб выгнання магчымы толькі пры бацькоўскай самаўладнай уладзе, якая пануе ў Расіі.

Менавіта такі ж лёс напаткаў А. Я. Тургенева, які ў красавіку 1843 г. быў выкліканы із Масквы ў Пецярбург па падазрэнні ў тым, што падаў рукапісныя матэрыялы для брашуры Даўгарукава (гл. наступную заўвагу). Тургенеў здолеў пераканаўча давесьці сваю недатычнасць да гэтай справы, і ўсё ж летам 1843 г. на водах у Марыенбадзе рускія, улючна з вялікай княгіняй Аленай Паўлаўнай, цураліся яго як «саўдзельніка д'Альмагро» (ОА. т. 4. стр. 256).

Зразумела, што Яўропа, саспяваўшая ў трохсотгадовых больш-менш свабодных спрэчках і амалоджаная напаловустагоддзявай эпохай рэвалюцый, павінна даць рашучы адпор таемнаму націску падобнай дзяржавы. Вы ведаеце, як выконвае яна гэты абавязак!

Але, спытаю я сябе яшчэ раз, што ж магло заахвоціць так кепска ўзброеннага коласа з'явіцца на поле бойкі без даспехаў, рынуцца ў бой за ідэі, яго не хвалюючыя, за інтарэсы, для яго па гэты дзень не існуючыя (бо прамысловасць у Расіі яшчэ не нарадзілася).

Падахвочвае яго выключна капрыз самаўладцаў і дробязнае славалюбства некаторых вяльможаў-падарожнікаў. І вось юны народ у хаўрусе са спарахнелым урадам, згубіўшы галаву кідаецца ў бойку, не баючыся перашкод, якія спыняюць сучасныя грамадствы, з жалем згадваючыя пра тыя часы, калі людзі вялі вайны цалкам палітычныя. Няшчасныя выскачкі, ахвяры ўласнага славалюбства! – Вы знаходзіліся ў бяспецы, але самі без ніякай патрэбы асудзілі сябе на пакуты.

Як жахлівы наступствы палітычнага славалюбства, ахапіўшага жменьку людзей!.. Гэтая краіна, ахвяра славалюбства, сутнасць якога ледзь зразумела ёй самой, краіна бурляшчая, кроватачывая, абліваючаяся слязамі, жадае даказаць суседзям, што ў яе межах пануе поўны спакой, і тым памножыць сваю магутнасць; якой бы яна ні была параненай, яна хавае свае язвы!.. І якія язвы? Выкрываючыя, што цела хворага з'едзена страшнай ракавай пухлінай! Урад, абцяжараны народам, які або знясільваецца пад прыгнётам, або бунтуе супраць усякай аброці, не здрыгануўшыся, выступае супраць вогараў, у якіх сам жа і абуджае нянавісць без усякіх да таго падстаў, ён выходзіць на бойку са спакойным і ганарлівым чалом, ён настойвает, пагражае, або, ва ўсякім разе, намякае на сваю сур’ёзнасць... ён ламае гэтую палітычную камедыю, а тым часам сэрца яго грызе чарвяк[265].

О! як шкада мне галаву, якая кіруе рухамі так цяжка хворага цела і залежачую ад гэтых рухаў!.. Якую ролю ёй даводзіцца выконваць! Яе доля – абараняць з дапамогай бясконцых падманаў славу, што грунтуецца на выдумках ці ў лепшым выпадку на спадзяваннях! Як подумаешь, што коштам куды меншых намаганняў можна было б выхаваць праўдзіва вялікі народ, праўдзіва вялікіх людзей, сапраўдных герояў, сэрца запаўняе жалоба да няшчаснага прадмета жахаў і зайзрасьці ўсяго свету – імператара Расіі, як бы яго ні звалі – Павел, Пятро, Аляксандр або Мікалай!

Больш таго, мая жалоба прасьціраецца на ўсю нацыю ў цэлым; я страшуся, як бы гэтае грамадства, аслепленае бяздумнай ганарыстасьцю яго правадыроў, не ўпілося да поўнага ап’янення цывілізацыяй яшчэ раней, чым стане цывілізаваным; з народам усё здараецца так жа, як і з асобным чалавекам: каб сабраць ураджай, генію патрэбна перш падрыхтаваць глебу; каб годна знесьці цяжар славы, яму варта пачаць з глыбокіх адасобленых даследванняў.

[265] Нататка Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «З 1839 года гэты ўрад цалкам не змяніўся: і зараз, у 1854 годзе, ён дакладна такое ж, як было раней».

Сапраўдная магутнасьць, магутнасьць дабрадзейная, не мае патрэбы ў хітрыках. Чаму ж вы хітруеце без стамлення? Таму што ў вашых жылах цячэ атрута, якую вы нават не лічыце патрэбным хаваць ад атачаючых вас. Колькі выкрутаў, колькі нязграбных падманаў, колькі пакрывалаў, якія на паверку выяўляюцца вельмі празрыстымі, даводзіцца вам выкарыстоўваць, каб схаваць хоць бы частку вашых мэтаў і пакінуць за сабой незаконна прысваенную ролю! Вы маеце намер вырашаць лёс Яўропы?! Ці магчымая гэта справа? Яшчэ нядаўна вы былі ардой, скаванай жахам, яшчэ нядаўна падпарадкоўваліся загадам дзікуноў, ледзь вывучыўшых пачцівыя прамовы, – а сёння вы маеце намер абараняць цывілізацыю ад народаў вельмі цывілізаваных! О! гэтую задачу вырашаць вельмі небяспечна; яна вышэй за чалавечыя магчымасьці. Шукаючы корань зла, разумееш, што ўсе пазначаныя памылкі – не што іншае, як непазбежны вынік фальшывай цывілізацыі, якую паўтара стагоддзя назад пачаў усталёўваць Пятро І. Расія даўжэй будзе адчуваць наступствы ганарыстасьці гэтага чалавека, чым захапляцца яго славай; мне ён здаецца асобай хутчэй звычайнай, чым гераічнай, і шмат хто з разважлівых рускіх падзяляе гэтае меркаванне, хоць і не асьмельваецца выказаць яго ўслых.

**~ 97 ~**

Калі б расійскія гасудары, замест таго каб, падобна Пятру І, дзеля забавы апранаць мядзведзяў малпамі або, падобна Кацярыне ІІ, займацца філасофіяй, напаткалі, што далучаць рускі народ да цывілізацыі варта спакваля, павольна развіваючы тыя цудоўныя задаткі, якія Гасподзь ўклаў у душы тутэйшых жыхароў, апошніх выхадцаў із Азіі, – калі б яны напаткалі гэта, тады, не так моцна ўражваючы Яўропу, яны заваявалі б славу даўгавечную, сусветную, тады б сёння на нашых вачах рускі народ працягваў бы выконваць сваё прызначэнне, бяручы верх над старажытнымі азіяцкімі ўрадамі. Нават еўрапейская частка Турцыі адчула б на сабе ўплыў Расіі, а іншыя дзяржавы не змаглі б скардзіцца на павелічэнне гэтага сапраўды добрачыннага ўплыву, – насупраць, зараз Расія моцная толькі настолькі, наколькі мы прызнаём за ёй магутнасць, інакш кажучы, яна мае выгляд выскачкі, які імкнецца, блага, ці добра, выкінуць із памяці атачаючых сваё паходжанне і становішча і пераканаць усіх у сваёй ўяўнай магутнасьці. Улада над народамі больш дзікімі і рабскімі, чым яна сама, належыць Расіі па праву; гэта ўлада – яе прызначэнне, яна, прабачце мне гэты выраз, вызначана ў кнізе яе будучыні; што ж да ўплыву Расіі на народы больш асвечаныя, ён вельмі сумнеўнае.

Дарэчы, сёння гэтая нацыя *выбілася із каляіны*[266] на вялікай дарозе цывілізацыі, і ніхто не можа ёй дапамагчы. Адзін Бог ведае, што яе чакае: я адчуваў гэта ў Пецярбургу, а трапіўшы ў Маскву, пераканаўся, што прадчуванні мяне не падманулі.

---

[266] [заўвага аўтара] Глядзі Рабле, кніга III, частка 3. (<u>У гэтай частцы, якая апавядае “Пра тое, як Панург усхваляе пазычаючых і пазыкадаўцаў”, сцвярджаецца, што, калі ніхто нікому нічога не будзе пазычаць, свет “выб'ецца із каляіны”. Ужытае Рабле, а ўслед за ім Кюстынам французкае слова derayer ў слоўнікавым значэнні – сельскагаспадарчы тэрмін, які абазначае “праводзіць баразну праз пашню” ці “праводзіць мяжу”.)</u>

Паўтараю, Пятро Вялікі ці, дакладней сказаць, Нецярпялівы, стаў першым вінаватым гэтай памылкі; нашчадкі гэтага напаловугенія, хутчэй заклятага ворага шведаў, чым рэфарматара Расіі, па гэты дзень слепа ім захапляюцца і таму каснеюць ў тых жа палітычных памылках, якімі грашыў ён сам. Вечна пераймаць у іншых народаў, каб здавацца адукаванымі, не стаўшы імі на самай справе, – вось што завяшчаў Расіі Пятро I.

Не стану спрачацца, непасрэдны вынік дзейнасьці Пятра падобны на цуд. Як дырэктар театра цар Пятро не мае сабе роўных; аднак сапраўднае ўздзеянне гэтага генія, варварскага і безсардэчнага, хоць і больш адукаванага, чым тыя рабы, якіх ён прывучаў да парадку, было павольным і пагубным; плён Пятровай палітыкі выяўляецца толькі зараз, і толькі мы маем права вынесці пра іх канчатковае меркаваньне. Свет не забудзе, што дзве палаты – адзіныя ўстановы, якія маглі б даць жыццё рускай свабодзе, – былі знішчаны менавіта гэтым гасударом.

Ўсё вялікае, ці ў мастацтве, ці ў навуках, ці ў палітыцы, пазнаецца ў параўнанні. Вось чаму ў іншыя стагоддзі і ў іншых краінах вялікім чалавекам зрабіцца зусім няцяжка. Цар Пятро ўзышоў на пасад у адно із такіх стагоддзяў і ў адной із такіх краін; не тое каб ён не быў надзелены узнёслым характарам і незвычайнай магутнасьцю, але дробязны розум абмяжоўваў яго гарызонты і скоўваў яго волю.

Зло, створанае царом, перажыло яго: ён прымусіў сваіх нашчадкаў выконваць без стамлення тую ж камедыю, якую выконваў і сам. Калі законы пазбаўлены чалавечнасьці і, што яшчэ горш, практычнае іх ужыванне пазбаўлена гнуткасьці, гасудар рызыкуе стаць ахвярай уласнага правасудзя; дарэчы, гэта не перашкаджае рускім ганарліва паўтараць з ўсякай нагоды, што ў іх адменена смяротнае пакаранне; адсюль нам прапануецца зрабіць выснову, што з усіх еўрапейскіх дзяржаваў Расія – самая цывілізаваная... з юрыдычнага боку гледжання.

Гэтыя людзі, давяраючыя толькі ўяўнасьцям, забываюцца пра пугу ad libitum[267] і яе сто адным удары! Яны па свойму маюць рацыю: бо Яўропа не бачыць гэтага пакарання. У царстве фасадаў, невядомых нягод, бязгучных крыкаў і бязплённых прашэнняў сама юрыстпрудэнцыя ператварылася ў спакушэнне славалюбства і ўносіць свой дадатак ў стварэнне таго пышнага аптычнага падману, той дэкарацііі, якую паказваюць іншаземцам пад імем Расійскай імперыі. Вось як нізка могуць упасьці палітыка, рэлігія, правасудзе, міласэрднасць, святая ісьціна, калі народ так нястрымана імкнецца як мага хутчэй з'явіцца на старажытных падмостках свету, адмаўляецца марнець ў плённай невядомасьці і аддае перавагу быць нічым – абы не чакаць, абы неадкладна зрабіць ўражанне на суседзяў! Сонечныя прамяні дапамагаюць паспець ураджаю, але спапяляюць насенне.

---

[267] [заўвага аўтара] Згодна з маім меркаваннем, колькі заўгодна (лат.)

Заўтра я еду ў Ніжні, інакш мне не паспець на знакамітую ярмарку, якая ўжо падыходзіць да заканчэння. Я закончу гэты ліст сёння вечарам, пасьля вяртання з Пятроўскага, дзе мне давядзецца слухаць рускіх цыган.

**~ 98 ~**

Я выбраў пакой у гасьцёўні, які застанецца за мной на ўвесь час маёй адсутнасьці: мне атрымалася ўладкаваць у ім таемнае месца, дзе я пакіну свае паперы, бо не хацеў рызыкаваць выпраўляючыся ў дарогу па Казанскаму шляху з усім, што напісаў пасьля ад'езду з Пецярбурга, а тут я не ведаю нікога, каму мог бы даверыцца. У Расіі дакладнасць ў выкладанні фактаў і незалежнасць у меркаваннях – адным словам, праўда здаецца ў вышэйшай ступені падазронай; менавіта яна прыводзіць у Сібір... гэтак жа, дарэчы, як крадзяжы і забойствы, што выракае палітычных злачынцаў на яшчэ большыя пакуты і падманвае суседнія народы.

## Поўнач таго ж дня

Я толькі што вярнуўся з Пятроўскага, дзе бачыў выдатную танцавальную залу; завецца яна, калі не памыляюся, Waux-Hall. Перад пачаткам балю, які здаўся мне даволі маркотным, я змог паслухаць рускіх цыган. Іхныя дзікія і захапляльныя спевы маюць некаторае падабенства са спевамі гішпанскіх gitanos. Паўночныя мелодыі менш палкія і жывыя, чым андалузкія, але сум іх здаецца куды больш глыбокім. Іншыя із гэтых мелодый прызначаны выклікаць весялосць, але гучаць яшчэ больш сумна чым астатнія. Маскоўскія цыгане співаюць без суправаджэння харавыя песьні, не пазбаўленыя самабытнасьці, – дарэчы, не разумеючы слоў гэтых выразных народных напеваў, шмат губляеш.

Дзюпрэ [268] адвярнуў мяне ад спеваў, якія ўздзейнічаюць толькі з дапамогай гукаў; яго манера вылучаць музычныя фразы і падкрэсліваць словы надае музыцы выключную выразлівасць; захапляльнае выкананне стократ памнажае магутнасць адчування, а думка, якая носіцца на крылах мелодыі, ляціць ўвысь, дасягаючы крайніх межаў чалавечай адчувальнасьці, якая бярэ пачатак на мяжы паміж душой і целам; тыя, хто звяртаюцца толькі да аднаго розуму, добіваюцца куды менш. Вось заслуга Дзюпрэ: ён стварыў лірычную трагедыю, якую так доўга спрабавалі падарыць Францыі людзі, якія не мелі для гэтага дастатковага таленту; бо для таго, каб зрабіць рэвалюцыю ў мастацтве, трэба спачатку навучыцца свайму рамяству так, як яго не ведае ніхто. Той, каму давялося атрымліваць асалоду ад такога цуда, як спевы Дзюпрэ, становіцца пераборлівым! І часта бывае несправядлівы да ўсяго астатняга. Ёсць шмат галасоў, якія, на мой густ, не саступаюць інструментам. Пагарджаць словам як сродкам музычнай перадачы – значыць не бачыць, колькі паэзіі хавае ў сабе вакальная музыка, значыць добраахвотна пазбавіць сябе той магутнасьці, пра якую французкая публіка даведалася толькі пасьля таго, як Дзюпрэ ўваскрасіў "Вільгельма Тэля"[269].

[268] Дзюпрэ — гл. заўвагу. да т. I, стр. 112.
[269] «Вільгельм Тэль» (1829) — опера Джаакіна Расіні (1792-1868).

Новая італьянская школа спеваў, якую сёння ўзначальвае Ранконі[270], таксама звяртаецца да старадаўняй музыкі, запазычваючай магутнасць ў паэзіі, і абавязаны гэтым італьянцы менавіта Дзюпрэ, бліскуча дэбютаваўшаму на неапалітанскіх падмостках: бо ён творыць на ўсіх мовах і пакарае сваім мастацтвам ўсе народы.

Цыганкі, якая спявала ў хоры, – сапраўдныя дочкі Усходу; вочы ў іх незвычайна жывыя і бліскучыя. Самыя юныя здаліся мне чароўнымі; астатнія, з іхнымі цёмнымі тварамі, пакрытымі дачаснымі маршчынамі, і чорнымі косамі, прасіліся на палатно. Іхныя песьні разнастайныя і выказваюць цэлую гамму пачуццяў; цудоўней за ўсё ўдаецца ім гнеў. Мне сказалі, што той цыганскі хор, які я змагу пачуць ў Ніжнім, лічыцца адным із лепшых у Расіі. Сваё меркаванне пра гэтых бадзяжных віртуозаў я выкажу вам пасьля, што ж да маскоўскага хора, то ён даў мне вялікае задавальненне, асабліва некаторымі мелодыямі, вельмі складанымі і выкананымі, на мой позірк, вельмі па-майстэрску.

Аб нацыянальнай оперы я магу сказаць толькі адно: гэта агіднае відовішча, наладжанае ў выдатнай зале; мне давялося ўбачыць пастанову “Бог і баядэра”[271] ў перакладзе на рускую мову!.. Ці варта выкарыстоўваць родную мову дзеля таго, каб выканаць перакаверканае парыжскае лібрэта?

Ёсць у Маскве і французкі тэатр, дзе спадар Эрве, сын актрысы, некалі меўшую ў Парыжы нейкую вядомасць, вельмі нязмушана выконвае ролі Буфэ[272]. Я бачыў яго ў “Мішэлі Перэнэ”- п'есе згодна навэлы с-ні Бауер: ён трымаўся проста і натуральна, чым прынёс мне вялікае задавальненне, хаця я выдатна памятаю пастанову на падмостках “Жымназ”. Непадробна дасціпную п'есу можна выконваць па-разному: у чужой краіне блякнуць толькі тыя творы, аўтары якіх, у адрозненні ад спадароў Мельвіля і Дюверье, патрабуюць, каб актор розумам і характарам быў абсалютна падобны на свайго героя.

Не ведаю, да якіх межаў зразумелы рускім нашы п'есы[273]; я не занадта давяраю таму радаснаму выгляду, з якім яны сочаць за пастановай французкіх

---

[270] Ранконі Джорджа Алясандра (1812-1875) — італьянскі спявак, які дэбютаваў у 1831 г. у Парыжы; у 1843 г., пасля выступаў у Лондане, зноў вярнуўся на падмосткі парыжскай Італьянскай оперы. Кюстын быў з ім асабіста знаёмы (гл.: Tarn. p. 491).

[271] «Бог і баядэра» (1830) — опера-балет на музыку Абера (словы Скрыба).

[272] Буфэ Мары (1800-1888) — французскі камічны актор, адной із славутых прац якога была роля ў вадэвілі «Мішэль Перэн» (1834), складзеным Ан Анарэ Жозэфам Мельвілем (сапр. прозвішча. Дзювер’е; 1787-1865) і яго братам Шарлем Дзювер’е (1803-1866) згодна з аднайменнай навэлай Александрыны Сафі Баўер (народжаная Куры дэ Шангран; 1773-1860).

[273] Падобныя сумневы зведаў і Барант, які, згодна са сведчаннем Вяземскага, на пастанове ў Пецярбургу восенню 1837 г. новай камедыі Скрыба «Прыяцелі» («La Camaraderie») «дзівіўся, як публіка добра лавіла спірт гэтай піесы» (РО ІРЛІ. ф. 309. № 4715. л. 66; ліст А. Я. Тургеневу ад 22 лістапада/4 снежня 1837 г.; «спірт» — каламбур Вяземскага, заснаваны на падвойным значэнні французскага слова esprit — спірт і дасьціп). Зрэшты, пазней, пабываўшы ў рускай правінцыі, норавы якой здаліся яму вельмі падобнымі на правінцыйныя норавы ў Францыі, Барант перастаў дзівіцца спачувальнай рэакцыі рускай публікі на французскія камедыі: «Не ведаю, ці таму, што ў рускага і французскага характараў шмат агульнага, ці таму, што рускіх зблізіла з намі звычка чытаць нашы кнігі і размаўляць на нашай мове, але «Мястэчка» Пікара <знакамітая французская камедыя, упершыню пастаўленая ў 1801 г.> у Расіі здалася б такой жа верагоднай, як і ў нас» (Notes. p. 269). Пар. у д'Арленкура: «Я зведаў сапраўднае пачуццё гонару і радасьці, калі, зайшоўшы ў тэатр, які знаходзіцца на адлегласьці пяціста лье ад Парыжа, раптам апынуўся

камедый; ў іх такі вытанчаны нюх на моду, што яны ўгадваюць яе загады яшчэ раней, чым гэтыя загады будуць агалошаны; гэта пазбаўляе іх ад ганебнага прызнання у тым, што яны ідуць за ёю. Тонкасць іхнага слыху, разнастайнасць галосных і зычных і багацце шыпячых ў іхнай мове – усё гэта з дзяцінства прывучае іх пераадольваць усякія цяжкасці ў вымаўленні. Нават тыя, хто ведаюць па-французку ўсяго некалькі слоў, вымаўляюць іх дакладна так жа, як і мы. Тым самым яны выклікаюць у нас вераломную ілюзію: мы думаем, што яны так жа добра разумеюць нашу мову, як і размаўляюць на ёй, а гэта зусім няправільна. Толькі жменьцы рускіх, якія пабывалі за мяжой або тым, хто нарадзіўся ў знатных сем'ях, дзе прынята даваць дзецям выдатную адукацыю, зразумелы ўсе тонкасьці парыжскага говару; натоўпу ж незразумелыя ні нашы жарты, ні нашы намёкі. Мы не давяраем іншым іншаземцам, таму што іхны акцэнт нам непрыемны альбо смешны, аднак, як ні цяжка ім размаўляць на нашай мове, сутнасць справы яны разумеюць значна лепш, чым рускія, чыя непатрабавальная і ласкавая кантылена адразу чаруе нас і ўводзіць у зман, хаця на справе часьцей за ўсё выяўляецца, што нашы разуменні пра іхныя ідэі, адчуванні і кемлівасць уяўныя. Прымусьце рускіх разгаварыцца, распавясьці гісторыю, выказаць ўласныя ўражанні – туман развеецца і таемнае стане відавочным. Вядома, рускія па-майстерску ўмеюць хаваць ўласную абмежаванасць, але пры блізкім знаёмстве гэты дыпламатычны талент хутка надакучвае.

**~ 99 ~**

Учара адзін рускі пахваліўся перада мной сваёй дарожнай бібліятэкай, якая здалася мне ўзорам цудоўнага густу. Я падышоў бліжэй да паліцы, каб разгледзець адзін із тамоў, які меў незвычайны выгляд; то быў арабскі рукапіс у незвычайнай пергаментнай вокладцы. “Шчаслівчык, вы ведаеце арабскі?”- спытаўся я ў гаспадара хаты. “Не, – адказваў ён, – але я імкнуся атачыць сябе самымі разнастайнымі кнігамі; гэта вельмі ўпрыгожвае пакой”.

Не паспелі гэтыя прастадушныя словы зляцець з яго вуснаў, як па змяніўшамуся выразу майго твара ён адчуў, што вельмі недарэчна разгаварыўся шчыра. Тады, будучы ўпэўненым ў маім невуцтве, ён пачаў дэкламаваць мне спешна прыдуманыя ўрыўкі з гэтага рукапіса з бегласьцю, павольнасьцю і красамоўствам, годнымі латыні із “Лекара нехаця”[274]; яго спрытнасць увяла б мяне ў зман, не будзь я настарожаны; аднак я выразна бачыў, што ён хоча схаваць сваю неабачлівасць і паціху пераканаць мяне, што яго прызнанне было проста жартам. Хоць і мастэрскі прыдуманая, гэтая хітрасць не мела поспеху.

І вось дзіцячыя забавы, якім аддаюцца народы згодна волі абражанай самапавагі, вымушаючай іх супернічаць ў асвеце са старажытнейшымі із нацый!..

---

ў французскай глядзельнай зале, а перада мной на падмостках французскія акторы ладзілі французскія п'есы. «Францыя ўсюдыісная», — прамовіў я сам сабе і адмаўляўся верыць, што мяне аддзяляе ад яе велізарная адлегласць» (Arlincourt. т. 1. p. 201).

[274] «Лекар нехаця» (1666) — камедыя Мальера, у якой Зганарэль, які выдае сябе за лекара, сыпле «лацінскімі» тэрмінамі ўласнага вынаходніства (д. 2, паст. 4).

Няма такага хітрыка, няма такага падману, які б не выкарысталі рускія, рухомыя ўсёпаглынаючым славалюбствам, дзеля выканання сваёй запаветнай мары: каб, вярнуўшыся дадому, мы сказалі, што іх дарэмна клічуць паўночнымі варварамі. Гэта вызначэнне не выходзіць ў іх із галавы; яны штохвілінна нагадваюць пра яго іншаземцам з іранічным самапрыніжэннем, не заўважаючы, што сама гэтая крыўдлівасць дае перавагу іхным недругам.

Больш жа за ўсё мяне ўразіў ў тым кароткім эпізодзе, пра які я толькі што распавёў, непахісны спакой майго суразмоўцы. На твары рускага, калі ён сочыць за сабой, не адлюстроўваецца роўна нічога, а кожны рускі сочыць за сабой амаль увесь час. З юных гадоў кожны рускі – я кажу пра рускую знаць – знаходзіцца пад уладай двух стыхій – баязні і карысьці; на свінцовым або нават медным твары, пазбаўленым захапленняў, быццам камень, немагчыма прачытаць ні аднаго пачуцця, хвалюючага сэрца; вы не можаце зразумець, паважае вас чалавек, з якім вы размаўляеце, або невыносіць, слушае ён вас з задавальненнем або з усмешкай; самы дасведчаны назіральнік не змог бы, гарантую, разгадаць, што хаваюць гэтыя рысы, якія не ў стане зрабіць ніводнага міжвольнага руху, рысы, якія часам нямыя, як сьмерць, а часам хлуслівыя, як мастацтва; гэтыя рысы паказваюць толькі тое, што заўгодна іхнаму гаспадару, а яму заўгодна запэўніць вас у тым, што ён амаль ніколі – а можа быць, і зусім ніколі – не грашыць супраць ісьціны. Дабро рускі робіць напаказ, зло – ціхенька; галоўны яго талент – талент прытворшчыка, прычым лепш за ўсё яму ўдаецца роля чалавека зусім шчырага: яе ён выконвае з чароўнай вытанчанасьцю; мяккасць яго павадак нават празмерная – ён падобны на ката, які імкнецца з’есьці мыш, нават не пацарапаўшы.

Што ж дзіўнага ў тым, што народ, адароны падобнымі талентамі, пастаянна нараджае спрытных дыпламатаў?

**~ 100 ~**

Для паездкі ў Ніжні я нанял мясцовы экіпаж; дарэчы, тарантас на рысорах[275] не на шмат больш трывалы за маю каляску, якую я такім чынам хачу зберагчы ад трасяніны; толькі што мяне папярэдзіў пра гэта адзін масквіч, які прысутнічаў пры маіх зборах.

– Вы пужаеце мяне, – адказваў я яму, – мне зусім не хочацца рамантаваць экіпаж на кожнай станцііі.

– Для доўгай вандроўкі я б параіў вам знайсьці што-небудзь больш трывалае, калі б, вядома, у Маскве ў гэты час года можна было знайсьці што-небудзь больш трывалае, але для такой кароткага паездкі падыдзе і тарантас.

Гэты кароткі шлях налічвае чатырыста лье туды і назад з улікам збочвання, якое я збіраюся зрабіць, каб заехаць ў Сямуху і Яраслаўль, прычым з чатырохсот лье сто пяцьдзесят мне, згодна апавяданням відавочцаў, прыйдзецца пераадолець па агіднай дарозе; мяне чакаюць гаці з круглых бярвенняў, торф, адкуль тырчаць пні, зыбучыя пяскі і інш. Слухаючы водгукі рускіх пра

[275] [заўвага аўтара] Сапраўдны тарантас, як я вам ўжо паведамляў, гэта кузаў, пастаўлены без рысор на дзве дрогі, якія злучаюць пярэднюю вось і заднюю.

адлегласьці, лішні раз пераконваешся, што яны жывуць у краіне, якая – без Сібіры – равняецца ўсёй Яўропе.

Адна із самых чароўных рыс, вылучаючых рускіх, гэта, на мой густ, іхная здольнасць пагарджаць усякімі пярэчаннямі; для іх не існуе ні цяжкасцей, ні перашкод. Яны ўмеюць жадаць[276]. У гэтых просталюдзіны не адрозніваюцца ад дваран з іхным амаль гасконскім норавам; рускі селянін, узброены нязменнай сякеркай[277], выходзіць непашкоджаным са шмат якіх цяжкіх становішчаў, якія паставілі б у тупік нашых сялян, і адказвае згодай на ўсякае прашэнне.

# Ліст трыццаты

*Ад'езд із Масквы ў Ніжні. – Дарогі ва ўнутраных абласьцях Расіі. – Сядзібы, вясковыя хаты. – Выгляд паселішчаў. – Аднастайнасць ландшафтаў. – Пастушыны побыт сялян. – Вясковыя жанчыны ахайна апранутыя і прыгожыя. – Прыгажосць рускіх старых. – Асаблівы выгляд, які надаюць яны селішчам. – Дарожная сустрэча. – Вытанчаная хітрасць, прыпісваемая палякам. – Ноч у гасцёўні, што ў Троіцы. – Што такое неахайнасць. – Песталоцці. – Унутранае ўладкаванне кляштара. – Паломнікі. – Кібітка. – Прэпадобны Сергій. – Патрыятычныя ўспаміны. – Выява прэпадобнага Сергія. – Грабніца Барыса Гадунова. – Кляштарская бібліятэка: манахі не жадаюць яе паказваць. – Нязручнасць язды па ўнутраных абласьцях Расіі. – Дрэнная якасць вады па ўсёй Расіі. – Навошта людзі ездзяць па гэтай краіне. – Што такое ў Расіі захапленне да крадзяжоў.*

**У Траецкай лаўры, у дваццаці лье ад Масквы, 17 жніўня 1839 года**[278].

Калі верыць рускім, улетку ў іх добрыя ўсе дарогі, нават і невялікія тракты; як здаецца мне, яны ўсе благія. Няроўная каляіна, то шырынёю з поле, то зусім вузкая, пралягаючая па пяску, дзе коні загрузаюць вышэй каленяў, задыхаюцца, ірвуць пастаронкі і праз кожныя дваццаць крокаў спыняюцца; варта ж выбрацца з пяску, як трапляеш ў бруд, а ў ім раз-пораз натыкаешся на буйныя камяні і велізарныя карчакі, якія, выскокваючы із-пад колаў, разбіваюць экіпаж і заліваюць брудам коннікаў; такія дарогі гэтай дзяржавы ва ўсякую пару, выключаючы тую пару года, калі па іх і зусім немагчыма ездзіць альбо праз

---

[276] Вызначэнне бяручае пачатак ад Ж. дэ Местра: «Пішучы гэтыя радкі не раз жартам выказваўся (але ў гэтым жарце, мяркую, была доля праўды), што калі б можна было заняволіць рускае жаданне ва ўмацаванне, яно б гэтае ўмацаванне разарвала. Няма чалавека, які ўмеў бы жадаць так горача, як рускі. Паназірайце за тым, як ён выдаткуе грошы, як гоніцца за прымроіўшыміся яму асалодамі, і вы пабачыце, як ён здольны жадаць» (Maistre J. de. Quatre chapitres sur la Russie. p., 1859. p. 21). Праца Местра «Чатыры часткі пра Расію» была ўпершыню надрукавана ў 1859 г., але фраза пра «рускае жаданне», здольнае разарваць умацаванне, працытавана, са спасылкай на «аднаго выбітнога чалавека», с-ня дэ Сталь у кнізе «Дзесяць гадоў у выгнанні», якую Кюстын добра ведаў.

[277] Пар. у Ансэло: «Рускі рамеснік не цягае за сабой той набор удасканаленых прылад, без якога кроку не могуць ступіць нашы майстры; яму хапае яго сякеркі. Вострая, як брытва, сякерка ў руках рускага мужыка выконвае працы як самыя грубыя, так і самыя тонкія; гэтая сякерка, якой рускі просты чалавек валодае з дзіўным майстэрствам, замяняе яму і гэбель, і пілу, і малаток» (Ancelot. p. 280).

[278] Згодна са старым стылем 5 жніўня.

маразы, сваёю суровасьцю робячыя падарожжы небяспечнымі для жыцця, альбо праз распуціцу і паводкі, калі вялікая колькасць безсцёкавых вод на дватры месяцы у год – шэсць тыдняў на зыходзе зімы і шэсць тыдняў на зыходзе лета – ператварае нізінную раўніну ў возера... астатні ж час там проста балота. Усе гэтыя дарогі падобныя паміж сабой, і мясцовасць ўздоўж іх заўсёды аднолькавая. Дзва шэрагі драўляных хатак, сяк-так упрыгожаных каляровай разьбой і нязменна глядзячых фасадам на вуліцу, нібы жаўнеры па команде “на каравул”; збоку кожнай хаткі – доўгая пабудова накшталт крытага дворыка ці ж трохсценнага хлява: так выглядаюць рускія сядзібы! Заўсёды і ўсюды ўражвае гэтая аднастайнасць! Чым больш населеная губернія, тым бліжэй стаяць вёскі; толькі часта ці рэдка яны сустракаюцца, а ўсё адно паўтараюць адзна адну; так і ландшафт – адна і тая ж пагорыстая раўніна, то з балоцістай, то з пяшчанай глебай; дзе-нідзе, паблізу або ўдалечыні ад дарогі, палеткі і выганы, атачоныя хваёвымі лясамі, часам квітнеючыя, звычайна ж чахлыя і худыя; вось і ўся прырода гэты шырокай дзяржавы[279]!! Зрэдку сустракаюцца хаты і сядзібы даволі прыгожа выглядаючыя; гэтыя барскія маёнткі, да якіх вядуць шырокія бярозавыя аллеі, радуюць вочы падарожніка, нібы аазісы ў пустыні.

У некаторых губерніях хаціны будуюцца із гліны, але і тады выглядам сваім, яшчэ больш жабрацкім, яны ўсё адно паходзяць на драўляныя хаты; большасць жа вясковых пабудоў ад края да края імперыі будуюцца із доўгіх тоўстых бярвенняў, груба абцёсаных і старанна праканапачаных мохам і смалою. Выключэнне складае Крым – край зусім паўднёвы; аднак у параўнанні з супольнай працягласьцю імперыі ён уяўляе толькі кропку, згубіўшуюся пасярод не маючых краю абшараў.

**~ 101 ~**

Аднастайнасць – вярхоўнае бажаство ў Расіі; дарэчы, і аднастайнасць не пазбаўлена вядомай любасьці для душ, здольных знаходзіць асалоду ў адзіноце. Гэтыя нязменныя абшары поўныя глыбокага спакою, якія часам, пасярод пустыннай раўніны, абмежаванай толькі межамі нашага позірку, напаўняюцца веліччу.

Няхай гэтыя бчскоцыя лясы пазбаўлены разнастайнасьці і прыгажосьці, затое хто вымерае іхную глыбіню? Варта толькі згадаць, што яны не заканчваюцца да самой Кітайскай сьцяны, і вас захоплівае пачуццё павагі; прырода, падобна музыцы, сваю магутнасць часткова здабывае із паўтарэнняў. Дзіўна і таямніча! Сваёй аднастайнасьцю яна памнажае нашы ўражанні; калі звыш меры імкнуцца да новых эфектаў, то апускаешся ў пошласць і цяжкаважнасць, – менавіта так здараецца з сучаснымі музыкантамі, калі ім не хапае геніяльнасьці; калі ж мастак, насупраць, не баіцца прастаты, яго мастацтва

---

[279] Падобныя ўражанні плоскі рускі краявід выклікаў нярэдка і ў рускіх вандроўнікаў. Гл., напрыклад, адчуванні З. М. Свярбеева, які вяртаўся із Яўропы напачатку 1826 г.: «…захапіла ўсяго мяне нуда і сум па нашай аднастайнай плоскай прыродзе, па нашай крайняй народнай галечы не толькі ў параўнанні з народным побытам Германіі, але і ў параўнанні з побытам Царства <Польскага>, якое на кожным кроку выяўляла галечу краю спустошанага да канца частымі войнамі…» (Свярбееў З. М. Нататкі. М., 1899. т. 2. стр. 340).

робіцца вялікім, як сама прырода. Класічны стыль – слова гэта ўжываецца тут у сваім старадаўнім значэнні – пазбаўлены шматвобразнасьці.

Пастушыны побыт заўсёды захапляе; яго мірная і размеранная праца абпавядае пачатковай пары чалавецтва, у іх надоўга захоўваюць маладосць расы. Пастухі, ніколі не пакідаючыя сваіх родных месцаў, – вось, бясспрэчна, тыя із рускіх, хто менш за ўсё варты жалю. Сама іх прыгажосць, асабліва заўважаючаяся з набліжэннем да Яраслаўскай губерніі, сведчыць на карысць іхнага ладу жыцця.

Для мяне ў навінку было сустрэць ў Расіі, вельмі прывабных сялянак – светлавалосых, белатварых, з ледзь прыкметным загарам на пяшчотнай скуры, з вачамі бледна-блакітнымі і разам з тым выразнымі дзякуючы азіяцкаму разрэзу і млявасьці погляду. Будзь у гэтых юных паннаў, сваімі рысамі нагадваючых Багародзіцу на праваслаўных іконах, постаць і жвавасць гішпанак, цудоўней іх не было б на сьвеце. Як мне здалося, шмат хто із жанчын ў гэтай губерніі добра апрануты. Паверх палатнянай спадніцы яны носяць абшыты футрам сюртучок; гэта кароткая шубка, не даходзячая да каленяў, шчыльна ахоплівае талію і прыдае вытанчанасць ўсёй постаці.

Нідзе больш, чым у гэтай частцы Расіі, я не бачыў столькі выдатных твараў састарэлых асоб – і позбаўленых валосся, і сівых. Выявы Іеговы, выдатна напісанныя першым вучнем Леанарда да Вінчы, – тварэнні не такія ідэальныя, як думалася мне пры выглядзе фрэсак Луіні[280] ў Лайнаце, Лугана, Мілане. Тут такія твары сустракаюцца ўжывую на парозе ўсякай хаціны; гэтыя прыгажуны-старыя – румяныя, круглашчокія, з бліскучымі блакітнымі вачамі, з ўлагоджаным выразам на твары, з серабрыстай, пераліваючайся на сонцы барадой, адцяняючай ціхамірна-дабрадзейную ўсмешку на вуснах, – яны нагадваюць ідалаў-абаронцаў, якія стаяць на вясковай весніцы. Велічна седзючы пасярод роднай зямлі, гэтыя прыстойныя старцы вітаюць праязджаючых – падобна старажытным статуям, сімвалам гасьціннасьці, якім пакланіўся б язычнік; хрысціянін жа глядзіць на іх з міжвольнай павагай, бо ў старасьці прыгажосць перастае быць цялеснай – гэта святкуючая песьня душы якая перамагла цела...

Патрэбна пабываць сярод рускіх сялян, каб спасьцігнуць чысты ўзор патрыярхальнага грамадства і падзякаваць Госпада за той блажэнны лёс, што дараваў ён, не звяртаючы ўвагі на ўсе памылкі ўрадаў, гэтым рахманым стварэнням, паміж нараджэннем і сьмерцю якіх пралягае толькі доўгая чарада гадоў, пражытых у нявіннасьці.

Ах, ды даруе мне анёл ці ж дэман прамысловасці і асветы, але як не знайсьці вялікага зачаравання ў недасведчанасьці сьвету, калі бачыш вынік гэтага няведання на боскіх тварах старых рускіх сялян!

Нібы патрыярхі нашага часу, яны на схіле сваіх гадоў велічна зазнаюць спакой; як працаўнік, пасьля працоўнага дня скідае з плячэй цяжкую ношу, яны, пазбавіўшыся ад баршчыны, з годнасьцю садзяцца на парозе сваёй хаціны –

[280] Луіні Бернардына (каля 1480/1490-1532) — італьянскі мастак, аўтар фрэсак, у якіх заўважаецца моцны ўплыў Леанарда ды Вінчы.

верагодна, не раз ужо адбудаванай імі нанова, бо ў тутэйшым суровым клімаце чалавечае жыллё менш даўгавечнае, чым сам чалавек. Калі б са свайго падарожжа ў Расію я прывёз адны толькі ўспаміны пра гэтых ціхамірных старцаў, якія сядзяць каля незамыкаючыхся дзвярэй, – я і тады б не пашкадаваў бы аб цяжкасьцях падарожжа, у якім пабачыў людзей, такіх непадобных на сялян усякай іншай дзяржавы. Высокароднасць вясковых хацін заўсёды абуджае ў мяне глыбокую павагу.

Ўсякае ўстойлівае кіраванне, якім бы дрэнным яно ні было, мае сваё благое дзеянне, і кожнаму народу, які жыве ва ўмовах грамадзянскага ўпарадкавання, ёсць чым узнагародзіць сябе за ахвяры, якія яны зведваюць дзеля грамадскага жыцця.

**~ 102 ~**

Аднак жа колькі самавольства таіцца ў гэтай цішыні, якая мяне так цягне і захапляе! Колькі насільстваў! Якая падманчывая гэтая ўстойлівасць!..[281]

Пакуль я пісал гэты ліст, на паштовую станцыю ў Троіцы прыбыў адзін мой знаёмы, слову якога можна давяраць[282]. Ён выправіўся із Масквы на некалькі гадзін пазней за мяне; ведаючы, што мне давядзецца тут начаваць, ён папрасіў аб сустрэчы са мной, пакуль яму будуць перапрагаць коней. Ён пацвердзіў тое, што я ўжо ведаў: зусім нядаўна ў Сімбірскай губерніі, з нагоды сялянскага бунту,

---

*281* [заўвага аўтара] Ужо пасьля выхаду ў свет першага выдання гэтай кнігі мне стала вядома наступнае здарэнне, – здольнае паменшыць захапленне, якое выклікаюць патрыятычныя дабрачыннасьці рускіх сялян. Даю вынятку із “Gazette de Saint-Petersbourg” ад 4/16 сакавіка 1837 года (На рускай мове тое ж паведамленне было надрукавана ў “Санкт-Пецярбургскіх ведамасьцях” 26 лютага/10 сакавіка 1837 г. (“Journal de Saint-Petersbourg” - газета, выходзіўшаяся ў Пецярбургу з 1813, – уяўляла сабой скарочаны французкі варыянт гэтай афіцыйнай рускай газеты). У нашым перакладзе тэкст заўвагі прыводзіцца згодна з “Санкт-Пецярбургскімі ведамасьцямі”.): “Знаходзячыся на пасадзе разанскага грамадзянскага губернатара паведаміў с-ру міністру ўнутраных спраў, што сялянка Ражскага ўезда, вёскі Ўхолава Марыя Мікіфарава перадала начальству атрыманыя ёю – ад свайго сына Яна Мікіфарава, служыўшага ў Тамбоўскім ўнутраным гарнізонным батальёне шэраговым – лісты, у якіх ён паведамляў ёй пра свой намер збегчы, і што потым, калі ён сапраўды збег, яна паведаміла вясковаму начальству пра яго прыбыцьё да яе. С-р міністр унутраных спраў паведаміў пра гэта с-ру вайсковаму міністру, які зараз паведамляе яму, с-ру міністру, што гасудар імператар, пасьля справаздачы яго імператарскай вялікасьці пра пазначаны ўчынак гэтай сялянкі, найвышыйша загадаў зрабіць ласку: сялянку Мікіфараву, за такі яе ўхвальны ўчынак, узнагародзіць срэбным медалём, з надпісам “за стараннасць”, на Аненскай стужцы, для нашэння на грудзях”. Вось для чаго служаць ў Расіі ўзнагароды.

282 У навуковай літаратуры паўтараюцца доказы таго, што «траецкім» суразмоўцай Кюстына быў А. Я. Тургенеў (гл.: Cadot. р. 180-182); гэта версія падрабязна і з паведамленнем шматлікіх прыдуманых дэталяў разглядаецца ў артыкуле Е. Цымбаевай «Рускія суаўтары «Расіі ў 1839 годзе». — Веснік МДУ. Серыя 8. Гісторыя. 1994. Ks I. с. 43-44, і паўторана ў яе ж кнізе: Цымбаева К. М. Рускі каталіцызм. М., 1999. с.47. Аднак, гэтая версія супярэчыць храналогіі: Тургенеў, які прыбыў із-за мяжы ў Пецярбург 10/22 жніўня 1839 г. (гл.: РО ІРЛІ. ф. 309. № 706. л. 21), заставаўся ў «паўночнай сталіцы» безадлучна (за выключэннем падарожжаў у Царскае Сяло) да лютага 1840 г., калі і з'ехаў у Маскву. У Расіі Тургенеў, які даваў Кюстыну парады і рэкамендацыйныя лісты напярэдадні падарожжа (гл. заўвагу. да т. І, с. 73 і 148), сустрэўся з французскім вандроўнікам толькі пасьля вяртання таго із Ніжняга Ноўгарада ў Пецярбург 7/19 верасня 1839 г. Можна было б выказаць здагадку, што падобная гутарка сапраўды адбылася ў Кюстына з Тургеневым, але не ў Сямусе, а ў іншым месцы, напрыклад, у Пецярбургу, аднак некаторыя рэплікі «траецкага суразмоўцы» (перадусім рэзка незычлівыя выказванні пра палякаў) цяжка ўявіць у вуснах Тургенева; далёкая ад размовы, апісанай у каментуемым фрагменце, і тэматыка рэальнай размовы Кюстына з Тургеневым, зафіксаваная ў дзённіку апошняга: «пра спусташэнне ай<чынных> помнікаў і пра адрозненні ў тэрміне: усе на адзін твар» (НЛА. с. 108).

было спалена восемдзесят вёсак. Рускія прыпісваюць гэтыя бязладдзі польскім інтрыгам[283].

– Якая ж выгада палякам ад пажараў ў Расіі? – спытаў я суразмоўцу.

– Ды хоць бы тая, – адказваў ён, – што яны спадзяюцца наклікаць на сябе гнеў рускага урада; яны ж баяцца аднаго – што іх пакінуць ў спакоі.

– Вы мне нагадвае, – усклікнуў я, – тыя шайкі падпальвальшчыкаў, якія на пачатку нашай першай рэвалюцыі вінавацілі арыстакратаў у тым, што тыя самі паляць свае замкі.

– Дарэмна вы мне не верыце, – запярэчыў рускі, – я за гэтым сачу і ведаю па вопыту, што кожны раз, як гасудар імператар схіляецца да міласэрднасьці, палякі ладкуюць новыя падкопы: засылаюць да нас пераапранутых лазутчыкаў, калі ж сапраўдных злачынстваў не хапае, то ствараюць бачнасць змоў; а ўсё толькі для таго, каб распаліць ў рускіх нянавісць і наклікаць новыя кары на сябе і сваіх суграмадзян; словам, іх больш за ўсё застрашвае дараванне – бо ад мяккасьці рускага ўрада маглі б змяніцца пачуцці польскіх сялян да ворага і, атрымліваючы ад яго дабраты, яны, нарэшце, маглі б яго палюбіць.

– Як мне здаецца, гэта нейкі гераічны макіавелізм, – адказваў я, – толькі мне ў яго цяжка паверыць. Ды і чаму б вам тады не дараваць іх, каб дакладней пакараць? Так вы пераўзышлі б іх адразу і ў хітрасьці і ў вялікадушнасьці. Аднак жа вы іх ненавідзіце; а таму мне хутчэй думаецца, што рускія вінавацяць ва ўсім сваю ахвяру, каб апраўдаць ўласнае злапамятства, і ва ўсіх няшчасных здарэннях у сваёй хаце шукаюць падставу, каб абцяжарыць ярмо на шыі свайго суперніка, недаравальна правініўшагася перад імі сваёю былою славай; тым больш што польская слава, згодзен, была вельмі гучная.

– Як і французская... – лукава падхапіў мой прыяцель (я ведаў яго яшчэ ў Парыжы), – ды толькі вы зацікаўлена судзіце пра Расійскую палітыку, бо не ведаеце ні рускіх, ні палякаў.

– Гэта кожны раз паўтараюць вашы суайчыннікі, калі нехта вырашыцца сказаць ім непрыемную праўду; палякаў-та даведацца няцяжка – яны ж гавораць безперапынна, а я хутчэй давяраю гаварунам, якія высказываюць ўсё, што ў іх у галаве, чым маўчунам, якія выказваюць толькі тое, што нікому і не цікава ведаць.

– Аднак жа мне вы як быццам бы давяраеце.

– Асабіста вам – так; але варта мне ўспомніць, што вы рускі, і я, нават ведаючы вас ўжо дзесяць гадоў, пачынаю дакараць сябе за неабачлівасць, гэта значыць за адкрытасць.

– Прадбачу, як распішаце вы нас, калі вернецеся дадому.

– Так, калі б я стаў пра вас пісаць; але калі вы кажаце, што я не ведаю рускіх, то я ўстрымаюся судзіць наўздагад пра вашу скрытную нацыю.

– Лепш вы і не маглі б зрабіць.

---

[283] Кюстын цалкам дакладна пераказвае чуткі, якія мелі пашырэнне ў грамадстве; Пар. у справаздачы III Аддзялення «пра ўнутранае становішча і сялянскі рух у сувязі з пажарамі» летам 1839 г.: «Агульная думка дапасуе злачынныя дзеянні да палякаў» (Сялянскі рух. с. 349).

– Добра ж; толькі не забывайцеся, што нават самы асьцярожны чалавек, аднойчы абвінавачаны ва ўтоенасьці, тым самым ўсё адно што раскрыты.

– Для такіх варвароў, як мы, вы занадта сатырычны і занадта праніклівьны.

З гэтымі словамі мой былы сябар сеў у экіпаж і паехаў прэч, а я вярнуўся да сябе ў пакой, каб запісаць для вас нашу з ім размову. Свае апошнія лісты я хаваю сярод абгортачнай паперы, бо ўвесь час баюся якога-небудзь схаванага або нават адкрытага вобыску з мэтай даведацца пра мае таемныя думкі; Спадзяюся, што, не знайшоўшы нічога ні ў лістовым наборы, ні ў партфелі, яны супакояцца. Я ўжо казаў у іншым месцы, што, калі сажуся пісаць, абавязкова імкнуся выслаць фельд’егера; звыш таго я загадаў, каб ён ніколі не ўваходзіў да мяне ў пакой, не спытаўшы майго дазвалення праз Антоніа. Італьянец ў хітрасьці не саступіць рускаму, а гэты чалавек служыць мне ўжо пятнаццаць гадоў, ён кемлівы, як сучасныя рымляне, і высакародны душою, як рымляне старажытныя. Са звычайным служкай я б не адважыўся ехаць у гэтую краіну ці ж устрымаўся б ад нататак; Антоніо ж, перашкаджаючы шпіёнству фельд’егера, запяспечвае для мяне нейкую свабоду.

# Працяг ліста

**Троіца, 18 жніўня**

Калі б мне давялося прасіць прабачэння за свае паўторы і манатоннасць выкладання, то я павінен быў бы прасіць прабачэння за тое, што наогул падарожнічаю па Расіі. Кожны добрасумленны падарожнік вымушаны часта вяртацца да адных і тых жа ўражанняў, але ў Расіі гэта больш непазбежна, чым дзе б там ні было... жадаючы даць вам як мага больш дакладнае ўяўленне аб краіне, па якой падарожнічаю, я вымушаны падрабязна, гадзіна за гадзінай, распавядаць пра перажытае; толькі так я магу падмацаваць тыя думкі, што прыйдуць мне ў галаву пасьля. Пры гэтым, кожная новая рэч, якая выклікае ранейшыя думкі, падцвяржае іхную справядлівасць; кожнаму праўдзіваму апавяданню аб падарожжы ўласьціва няскладнасць. Метадычны пераказ абараніў бы мяне ад крытыкі, затое паменшыў бы колькасць чытачоў.



Троіца з’яўляецца ў Расіі самым галоўным і часта наведваемым месцам паломніцтва, за выключэннем Кіева. Я вырашыў, што ў гэтай гістарычнай лаўры, размешчанай ў дваццаці лье ад Масквы, варта застацца на дзень і ноч, каб больш падрабязна агледзець святыні, шануемыя рускімі хрысціянамі.

Сёння раніцай, аднак, для выканання маёй задумы давялося мне прымушаць сябе: таму што пасьля падобнай ночы ўжо не адчуваеш цікавасьці ні да чаго, усё пераважвае фізічная агіда.

У Маскве людзі, якія лічацца безстароннімі, запэўнівалі мяне, што ў Троіцы я найду ніштаватае пристанішча. На самай справе, дом для прымання паломнікаў – нешта накшталт гатэля пры кляштары, але за межамі асвечанай зямлі, – пабудова вельмі прасторная, і пакоі ў ім на выгляд даволі прыдатныя

для жылля; аднак варта было мне легчы, як высветлілася, што мае пастаянныя засьцярогі не дапамагаюць; як звычайна, я не тушыў свет, і ўся ноч для мяне прайшла ў барацьбе з полчышчамі казявак; былі сярод іх і чорныя, і карычневыя, усякага выгляду і, павінна быць, усякай пароды. Разгарэлася жаркая бойка; смерць адной з іх нібы абуджала помсту супляменнікаў, і яны накіроўваліся на мяне, да таго месца, дзе пралілася кроў; адчайна адбіваючыся, я ў лютасьці ўсклікнуў: "Яшчэ б ім крылы – і было б сапраўднае пекла!" Пакінутыя паломнікамі, якія з'язджаюцца ў Сямуху з усіх канцоў імперыі, гэтыя казулькі кішма кішаць пад шатамі мошчаў прэпадобнага Сергія, заснаваўшага гэтую знакамітую лаўру. Нябеснае заступніцтва распаўсюджваецца і на іхны дабрабыт, і ў гэтай святой мясьціне яны пладзяцца больш, чым дзе б там яшчэ ні было на сьвеце. Бачачы, як на мяне наступаюць ўсё новыя і новыя іхныя полчышчы, я ўпаў духам і пакутаваў ад баязьні яшчэ больш, чым ад сапраўднага болю; мяне не пакідала падазрэнне, што ў гэтым гнюсным войску тояцца нябачныя воку атрады, якія выяўляцца толькі пры свеце дня. Я губляў розум пры думцы, што ад маіх вышукаў яны абараняюцца колерам сваёй амуніціі; мая скура гарэла, кроў бурліла, я адчуваў, як мяне з'ядаюць нябачныя ворагі; і ў той момант, калі б у мяне быў выбар, я, напэўна, аддаў бы перавагу змагацца з тыграмі, чым з гэтым рушэньнем, якім так багатыя жабракі; сапраўды, мы кідаем жабраку грошы з баязні атрымаць ад адрынутага бедняка нейкі дар ў натуры. Гэтым рушэньнем часта славяцца і святыя ўгоднікі, злучаючы крайнюю аскетычнасць з неахайнасьцю, – бязбожнае спалучэнне, якое не можа не абураць сапраўдных прыхільнікаў Госпада. Што ж будзе са мною, грэшным, якога паломнічыя паразіты з'ядаюць без усякай карысці для нябёсаў? – Так казаў я сабе ў роспачы, якую ў іншым месцы палічыў бы камічнай; я падняўся, крочыў пасярэдзіне пакоя, адчыняў вокны, на імгненне гэта мяне супакойвала; але напасьць насьцігала мяне паўсюдна. Крэслы, сталы, столь, падлога, сьцены – усё кішэла жыўнасьцю; я баяўся падыходзіць да чаго б там ні было, баючыся потым занесьці заразу ў свае ўласныя рэчы. Мой слугажка, які зьявіўся раней дамоўленай гадзіны; яму давялося выпрабаваць такія ж пакуты, і нават горшыя, бо ён, бедалага, каб не абцяжарваць наш багаж, не ўзяў з сабою ложак; свой цюфяк ён кладзе прама на падлогу, пазбягаючы мясцовых дываноў і іншых ляжанак з усім іхным начыненнем. Я так падрабязна распавядаю пра гэтыя нязручнасьці, каб паказаць вам, чаго варта славалюбства рускіх і на якой вышыні знаходзіцца матэрыяльны побыт у насельнікаў самай паспяховай часткі імперыі. Выгляд небаракі Антоніо з заплыўшымі вачамі і распухшым тварам гаварыў сам за сябе; я не стаў дакучаць яму роспытамі, а ён, ні слова не кажучы, паказаў мне свой плашч, які за ноч з сіняга зрабіўся бурым. Разцягнуты на крэсле, гэты плашч, здавалася, калыхаўся, ён быў нібы расшыты каляровымі ўзорамі, нагадваючы фарсі дыван; пры гэтым відовішчы нас абодвух агарнуў жах; былі выкарыстаны ўсе даступныя нам стыхіі – паветра, вада, агонь; але ў падобнай вайне пакутліва і сама перамога; нарэшце, як можна старанней пачысціўшыся і апрануўшыся, я з'еў падабенства сняданку і накіраваўся ў лаўру, дзе мяне чакала новае полчышча вогараў; але гэтая лёгкая кавалерыя, хаваўшаяся ў складках рас

праваслаўных манахаў, ужо ані мяне не страшыла – незадоўга перад тым я вытрымаў націск куды больш грозных ваяроў; пасьля начной бітвы волатаў дзённыя сутычкі і вылазкі фланкераў здаваліся сапраўднай забавай; а кажучы без хітрыкаў, ўкусы блашчыц і жах перад вошамі настолькі загартавалі мяне, што цэлыя хмары блох, падымаемыя нашымі крокамі ў цэрквах і кляштарскіх скарбніцах, ужо турбавалі мяне не больш чым дарожны пыл ці пячны попел. Мая абыякавасць была такой вялікай, што я сам яе саромеўся; бываюць напасьці, зміраццa з якімі ганебна – ты як быццам згаджаешся, што іх заслужыў... Сёння раніцай і мінулай ноччу я зноў адчуў вострую жалобу да тых няшчасных французаў, што засталіся ў рускім палоне пасьля маскоўскага пажару і адыходу нашага войска. Паразіты, з’яўляючыся непазбежным следства галечы, – адна із тых фізічных хвароб, якія выклікаюць ўва мне самае глыбокае спачуванне. Калі пра каго-небудзь кажуць “ён так бядуе, што ходзіць неахайным”, – сэрца маё разрываецца. Неахайнасць – нешта большае, чым здаецца; у вачах уважлівага назіральніка яна выкрывае маральны ўпадак, які горш за ўсякія цялесныя хваробы; будучы ў вядомай ступені добраахвотнай, гэтая парша тым толькі агідней; гэтая з'ява мае дачыненне адразу і да нашай душэўнай і да фізічнай прыроды; яна бярэ пачатак адначасова і ад душэўнай і ад цялеснай немачы; гэта загана і разам з тым хвароба.

**~ 104 ~**

Не аднойчы пад час маіх падарожжаў мне даводзілася ўспамінаць пранікліваe назіранне Песталоцы[284] – вялікага практычнага філасофа, які задолга да Фур'е і сен-сіманістаў ўзяўся за адукацыю масьцеравых; із яго назіранняў над побытам просталюдзінаў вынікае, што із двух чалавек, якія маюць аднолькавыя звычкі, адзін можа жыць ахайна, а другі не. Цялесная ахайнасць залежыць ад іхнага здароўя і тэмпераменту не ў меншай ступені, чым ад таго, наколькі яны сочаць за сабой. Хіба не сустракаюцца ў свеце людзі вельмі вытанчаныя і, аднак жа, вельмі нядобрасумленныя? Як бы там ні было, сярод рускіх пануе самая агідная неахайнасць; асвечанай нацыі не падабае так пакорліва гэта пераносіць; рускія ж, як мне здаецца, навучылі казюлек выжываць нават у гарачай бані.

Нягледзячы на кепскі настрой, я ўсё ж старанна агледзеў нутро Траецкай лаўры, якая з’яўляецца гонарам рускіх. На выгляд яна менш значная, чым нашы старажытныя гатычныя кляштары. Хаця да святых месцаў ездзяць і не дзеля архітэктуры, але ўсё ж калі б гэтыя славутыя сьвятыні каштавалі таго, каб іх агледзець, то яны ніколькі не страцілі б у святасьці, а паломнікі – у набожным запале.

На нізенькім ўзгорку ўзвышаецца гарадок, атачоны магутнай зубчатай сьцяной, – гэта і ёсць лаўра. Падобна маскоўскім кляштарам, яна ўпрыгожана шпілямі і пазалочанымі купаламі, якія сваім бляскам, асабліва ўвечары, іздалёк гавораць паломнікам пра мэту іхнага набожнага падарожжа.

---

[284] Песталоцы Ёган Гейнрых (1746-1827) — швейцарскі педагог, філантроп, прапагандыст і практычны заснавальнік школ для народа; хаця яго тэорыі саступалі ў фантастычнасьці і ўніверсальнасьці тэорыям французскага філасофа і эканаміста Шарля Фур'е (1772-1837), распрацоўваўшага падрабязныя планы перабудовы на разумных падставах усяго грамадства, адценне ўтапічнасьці было ўласціва і ім.

У летнюю пару навакольныя дарогі напаўняюцца ідучымі чарадою падарожнікамі; у вёсках купкі багамольцаў ядуць ці спяць, лежачы ў цяньку бяроз; гэтыя сяляне, абутыя ў падабенства сандаляў із ліпавай кары, сустракаюцца на кожным кроку; часта побач з мужыком ідзе і баба, несучы свае чаравікі ў руцэ і прыкрываючыся парасонам ад сонечных прамянёў, якіх летам маскоўцы асьцерагаюцца больш, чым жыхары паўднёвых краін. Следам за гэтай пешаю парай ідзе павольна конь, запрэжаны ў буду, – у ёй вязуць прыналежнасьці для спання і для падрыхтоўкі гарбаты! Руская кібітка, павінна быць, паходзіць на павозкі старажытных сарматаў. Гэты экіпаж адрозніваецца першабытнай прастатой – кузаў калясьніцы складаецца із вялікай бочкі, разрэзанай напалову ўздоўж і пастаўленай на дзьве аглоблі з васямі нападобе гарматнага лафета; часам яна мае яшчэ і верх, г. зн. вялікую перакуленую ўверх дном драўляную міску. Звычайна гэты дзікаваты на выгляд дах змяшчаюць уздоўж збоку на аглоблі, і яна закрывае палавіну павозкі, як імперыял швяйцарскага шарабана.

Вясковыя мужыкі і бабы, якія ўмеюць спаць дзе заўгодна, акрамя ложка, падарожнічаюць, лежачы ў поўны рост у гэтай лёгкай і маляўнічай павозцы; бывает, адзін із паломнікаў, прыглядаючы за тымі хто спіць, садіцца звесіўшы ногі на краю кібіткі і навявае сваім спячым спадарожнікам патрыятычныя сны. Ён зацягвае глухую і жалобную песьню, дзе гучыць хутчэй смутак, чым надзея, – смутак сумны, а не захапляльны; ў душы гэтага народа, па натуре сваёй безклапотна-вясёлага, але выхаванага ў маўклівасьці, усё сдаўлена і нясмела. Калі б я не лічыў, што лёс кожнай расы вызначаны на нябёсах, то сказаў бы, што славяне былі народжаны жыць на зямлі больш благадатнай, чым тая, дзе яны аселі, прыйшоўшы із Азіі – вялікага расадніка народаў.

Выйшаўшы із кляштарскага гатэлю і перасёкшы плошчу, апынаешся ў сьвятым месцы. Спачатку ідзеш па драўлянай алеі, затым насустрач трапляюцца некалькі невялікіх цэркваў, якія завуцца саборамі, высокія званніцы, якія стаяць асобна ад храмаў, да якіх яны адносяцца, і яшчэ некалькі капніц, не лічачы шматлікіх жылых будынкаў, раскіданых там і сям без плану і ўпарадкаванасьці; у гэтых пабудовах, якія не маюць ні стылю, ні характэрнага выгляду, жывуць цяперашнія паслядоўнікі прападобнага Сергія.

**~ 105 ~**

Гэты знакаміты пустэльнік заснаваў у 1338 годзе Траецкі кляштар, чыя гісторыя не адзін раз злівалася з гісторыяй ўсёй Расіі; падчас вайны з ханам Мамаем святы манах дапамог парадай князю Дзьмітрыю Янавічу, і той, здабыўшы перамогу, у падзяку шчодра адарыў мудрагелістых манахаў; пазней іхны кляштар быў разбураны новымі ордамі татар, аднак мошчы прападобнага Сергія, цудоўна захаваўшыяся пад развалінамі, надалі новую славу гэтай мясьціне малітваў, адбудаванай Ніканам дзякуючы царскім дарам; яшчэ пазней, у 1609 годзе, кляштар, дзе схаваліся абаронцы айчыны, на шаснаццаць месяцаў аблажылі палякі; непрыяцель так і не змог узяць прыступам святое ўмацаванне і быў вымушаны зняць аблогу да большай славы прападобнага Сергія і да радасьці яго набожных пераемнікаў, якія здолелі атрымаць выгаду са сваіх

дзейсных малітваў[285]. Па кляштарскай сьцяне цягнецца крытая галерэя; я абышоў яе кругом – сьцены маюць у акружнасьці прыкладна палову лье і ўмацаваны вежамі. Із патрыятычных успамінаў, якімі славіцца гэтая мясьціна, выклікае цікавасць, на мой погляд, гісторыя бегства Пятра Вялікага і яго маці ад паўстаўшых стральцоў; мяцежныя жаўнеры гналіся за імі ад Масквы да самага Траецкага сабора[286], да алтара прападобнага Сергія, але там пры выглядзе дзесяцігадовага героя вымушаныя былі скласьці зброю.

Усе праваслаўныя цэрквы падобныя адна на другую; іконы ў іх заўсёды візантыйскія, гэта значыць ненатуральныя, безжыццёвыя і таму аднастайныя; скульптур няма нідзе, іх замяняюць разьба і пазалота, пазбаўленыя стылю – багатыя, але непрыгожыя; кажучы коратка, бачны адны толькі рамы, у якіх губляюцца выявы, – пышна, але безгустоўна.

Усе вядомыя дзеячы расійскай гісторыі ахвотна памнажалі багацце лаўры, і яе скарбніца поўніцца золатам, дыяментамі і жэмчугамі; гэтая груда каштоўнасьцей, сабраных з усяго свету, лічыцца вялікім дзівам; я, аднак, гляжу на яе хутчэй здзіўлена, чым з захапленнем. Цары, імператрыцы, набожныя вяльможы і сапраўдныя сьвятыя спаборнічалі ў шчодрасьці, каб памножыць, кожны па-свойму, скарбы Троіцы. У гэтым пышным сабранні гістарычных падарункаў кідаюцца ў вочы сваёю вясковай прастатой грубыя рызы і драўляныя чашы прападобнага Сергія, годна адцяняючы пышнае царкоўнае адзенне, паднесенае князем Пацёмкіным, які таксама не абышоў сваёй увагай Троіцу.

Грабніца прападобнага Сергія ў Траецкім саборы блішчыць асляпляльнай раскошай. Гэты кляштар мог бы стаць багатай здабычай для французаў; бо з XIV стагоддзя ён ні разу не быў захоплены ворагам.

Ён заключае ў сябе дзевяць храмаў, ярка зіхацячых сваімі купаламі і званіццамі; аднак усе яны невялікія і губляюцца, раскіданыя на шырокай прасторы.

Мошчы святога захоўваюцца ў рацы з пазалочанага срэбра; яе накрывае сярэбраны балдахін на срэбных стаўбах – падарунак імператрыцы Ганны. Выява прападобнага Сергія славіцца цудадзейнасьцю; Пятро Вялікі вазіў яго за сабою ў кампаніях супраць Карла XII[287].

Неподалёку, пад шатамі мошчаў святога пустэльніка, спачывае цела ўзурпатара і забойцы Барыса Гадунова разам з рэшткамі некалькіх яго сваякоў. Ёсць у лаўры і шмат іншых знакамітых магіл. Выгляд ва ўсіх іх бязформенны; мастацтва тут знаходзіцца адначасова ў дзяцінстве і ў састарэласьці.

Я агледзеў дом архімандрыта і царскія палаты. Гэтыя пабудовы нічым не цікавыя. Колькасць манахаў зараз, як мне сказалі, дасягае толькі сотні; раней іх было больш за трыста[288].

---

[285] Інфармацыю пра гісторыю Троіцка-Сергіевай лаўры Кюстын мог запазычыць у кн.: Schnitzler. p. 96-97.

[286] Гл.: Segur. p. 290-291 (кн. VII, гл. I); у Сегюра, дарэчы, указанне на выключную мужнасць дзесяцігадовага Пятра адсутнічае; наадварот, стаяўшыя на яго боку ваяры цудам выратоўваюць падлетка ад сьмерці.

[287] Амаль даслоўнае паўтарэнне апавядання Шніцлера (гл.: Schnitzler. p. 99).

[288] Пар.: «Раней у кляштары жыло трыста манахаў; зараз іх не больш сотні» (Schnitzler. p. 101).

Нягледзячы на мае доўгія і зацятыя прашэнні, мне так і не дазволілі зірнуць на бібліятэку; мой перакладчык кожны раз адказваў адно і тое ж: “Не дазволена!..”[289]

Дзіўна было бачыць такую сьціпласць манахаў, якія хавалі скарбы навукі, але затое выстаўлялі напаказ скарбы свецкай мітусні. Із гэтага я зрабіў выснову, што на іхных каштоўнасьцях менш пылу, чым на іхных кнігах.

**Тым жа вечарам у Дзерніках, вёсачцы па дарозе із павятовага гарадка Пераяслаўля ў Яраслаўль – сталіцу аднайменнай губерніі.**

Дзіўная, аднак, манера – знаходзіць задавальненне ў падарожжы па краіне, дзе няма ні вялікіх дарог[290], ні корчмаў, ні ложкаў, ні нават саломы для сенніка (бо свой сяннік, як і сяннік майго служкі, мне даводзіцца набіваць сенам), ні белага хлеба, ні віна, ні пітной вады, дзе не зможаш назіраць ні маляўнічага пейзажу на шляху, ні твораў мастацтва ў гарадах; дзе ўзімку, калі не прытрымліваცца асьцярожнасьці, можна абмарозіць сабе шчокі, нос, вушы, галаву, ногі; дзе ў летнюю пару ўдзень даводзіцца жарыцца на сонцы, а ноччу дрыжаць ад холаду; і вось за такімі-та пацехамі я і забраўся ў самае сэрца Расіі!



Будзь у тым патрэба, я лёгка мог бы прывесьці доказы на ўсе свае скаргі. Пакінем пакуль у баку благі густ, што пануе тут у мастацтвах. Я ўжо казаў і яшчэ буду казаць і ў іншых месцах аб візантыйскім стылі ў жывапісе, які нібы ярмом прыгнятае ўяўленне мастакоў, робячы із іх раменснікаў; абмяжуюся зараз толькі назіраннямі над матэрыяльным уладкаваннем жыцця... Ні ўзаранае поле, ні ямісты луг, ні пяшчаная каляіна, ні бяздонная прорва бруду, з чахлым рэдкалессем па боках, – усё гэта нельга назваць дарогай; а яшчэ часам сустракаецца барвенчатая гаць, гэтакі вясковы паркет, дашчэнту разбіваючы павозкі разам з седакамі, якія скачуць уверх і ўніз як на арэлях, – столькі пругкасьці змяшчаецца ў гэтых калодах. Такія дарогі. Паглядзім на жыллё. Ці можна назваць карчмой распаўсюджвальнік казюлек, кучу смецця? Між тым будынкі, якія стаяць уздоўж гэтай дарогі, нічога іншага сабою не ўяўляюць: з кожнай дзіркі іхных сьцен вылазяць гады; удзень вас кусаюць там мухі, бо рашотчатыя стаўні лічацца паўднёвай раскошай і амаль нікому не вядомы ў гэтых краях, дзе пераймаюць толькі тое, што блішчыць; ноччу ж... вам ужо вядома, што за ворагі падсьцерагаюць падарожніка, які адважыўся спаць не ў сябе ў экіпажы... Хоць пшаніца ў тутэйшым клімаце расце на славу, у вёсках не ведаюць белага хлеба. Віно ў карчмах – звычайна белае маючае назву “сотэрн”-

[289] Каментар Грэча: «Маркіз запэўнівае, быццам, нягледзячы на яго настойлівыя прашэнні, яму не пажадалі паказаць бібліятэку Траецкага кляштара, а перакладчык быццам бы паведаміў яму, што яе аглядаць забаронена. Магчыма, так яно і было. Аднак жа ў 1833 годзе я наведваў кляштар разам са с-ром Б'юкэнанам, амерыканскім пасланнікам, і с-ром Герэра, сакратаром партугальскай амбасады, і нам з вялікай ласкавасьцю паказалі бібліятэку» (Gretch. p. 87).

[290] [заўвага аўтара] Тое, што называецца гэтым імем ва ўсёй астатняй частцы Яўропы, у Расіі пракладзена пакуль толькі ад Пецярбурга да Масквы і часткова ад Пецярбурга да Рыгі.

сустракаецца рэдка, каштуе дорага, а якасць благая; вада амаль ва ўсіх частках Расіі дрэнная – можна страціць здароўе, калі яе піць, паверыўшы запэўніванням мясцовых жыхароў і не абязшкоджваючы яе шыпучым парашком. Праўда, ва ўсіх буйных гарадах вы знойдзеце сельтэрскую ваду – вытанчаны замежны напой, чым і падцверджваецца ўсё сказаннае вышэй пра кепскую якасць мясцовай вады.

Гэтая сельтэрская вада, вядома, добра выручае, але ёю прыходзіцца запасацца часам вельмі надоўга, што вельмі нязручна. “Навошта ж вы робіце прыпынкі? – кажуць рускія. – Рабіце як мы: мы ездзім не спыняючыся”. Нічога сабе задавальненне – праехаць па вышэйапісанай дарозе сто пяцьдзесят, дзвесьці, трыста лье запар, ні разу не выйдучы із карэты!

Што да пейзажаў, то яны трохі адрозніваюцца; жыллё ж настолькі падобнае на выгляд, што здаецца, быццам на ўсю Расію ёсць толькі адна вёска і адна сялянская хата. Адлегласьці тут непамерныя; праўда, расійцы іх скарачаюць сваёй манерай падарожнічаць; з экіпажа яны выходзяць толькі пасьля прыбыцця на месца, а ўвесь час шляху спяць, як быццам у сябе ў ложку; іх здзіўляе, што нам не падабаецца такі спосаб падарожнічаць ў сне, запазычаны імі ад продкаў – скіфаў. Не варта верыць, быццам ездзяць яны заўсёды так ужо хутка: дабраўшыся да мясца, гэтыя паўночнікі па-гасконскі не згадваюць пра затрымкі, якія здараліся ў дарозе. Калі можна, фурманы едуць хутка, але іх спыняюць ці, ва ўсякім разе, часта стрымліваюць самыя моцныя перашкоды, што не перашкаджае рускім нахвальваць прыемнасьці, якія чакаюць падарожніка ў іхнай краіне. Яны нібы ўсе згаварыліся – спаборнічаюць у хлусьні, каб спакусіць чужаземцаў і ўхваліць сваю бацькаўшчыну ў меркаванні далёкіх народаў.

Сам я выявіў, што нават па тракту ад Пецярбурга да Масквы ехаць прыходзіцца то хутка, то павольна; таму ў выніку паездкі часу зберагаецца не на шмат больш, чым у іншых краінах. У баку ж ад тракта нязручнасьці памнажаюцца стократ, зменных коней не хапае, а ад дарожных ухабаў рвецца ўся вупраж; так што да вечара хочацца прасіць літасьці; а паколькі твая адзіная мэта – пабачыць краіну, то пачынаеш лічыць сябе вар'ятам, які стварае сабе дарма шмат нязручнасцей, і збянтэжана задумваешся, дзеля чаго ты забраўся ў такі дзікі край, прытым пазбаўлены паэтычнай велічы пустыні. Такімі-та пытаннем я і задаваўся сёння вечарам. Цемра застала мяне на дарозе ўдвая нязручнай, так як яна напалову пакінутая праз перасякаючы яе праз кожныя пяцьдзесят крокаў недабудаваны тракт; штохвілінна то з’язжаеш з гэтай так-сяк пракладзенай шырокай каляіны, то ізноў на яе ўз’язджаеш; для з’езду і заезду ўладкаваны часовыя бярвенчатыя масткі – расхістаныя, як клавішы старога фартэпіано, няроўныя і небяспечныя, так як часта ў іх недастае самых галоўных звённяў; і вось як адказаў на маё пытанне нейкі ўнутраны голас: “Каб заехаць сюды так, як ты, без пэўнай мэты, без патрэбы, патрэбна мець стальны целасклад і шалёнае ўяўленне”.



Пачуўшы гэты адказ, я адважыўся зрабіць прыпынак і, да вялікага абурэння фурмана і фельд’егера, выбраў сабе для начоўкі сялянскую хатку,

адкуль зараз вам і пішу. Гэтае прыстанішча не такое мярзотнае, як гасьцёўні; у такой глухой вёсачцы не спыняецца ні адзін праязджаючы, і пагэтаму ў драўляных сьценах хаваюцца толькі тыя казюлькі, што занесены з лесу; мой пакой – гарышча, на якое вядзе драўляная лесвіца з тузінам прыступак, – нагадвае квадратную скрыню даўжынёй і шырынёй у дзевяць ці дзесяць футаў і вышынёй ў шэсць ці сем; гэтая нічым не абабітая; каморка падобная на каютку на ніжняй палубе судна і прыводзіць мне на памяць хаціну страціўшага розум у гісторыі Целенева; ўся хата пабудавана із яловых бярвённяў а шчыліны паміж імі, як корпус шлюпкі, законапачаны прамочаным смалою мохам; мне перашкаджае пах, які ідзе ад гэтай сумесі і злучаецца са смуродам ад кіслай капусты і нязменна пануючым ў расійскіх вёсках пахам дубленых скур; але лепш ужо пакутаваць ад галаўнога болю, чым ад млоснасьці, і такое прытанішча мне падабаецца куды больш, чым тая вялікая толькі што атынкованая зала, якую я занімаў у гасцёўні ў Троіцы.

Аднак жа ложкаў ні ў гэтай, ні ў іншых хатах няма; сяляне спяць, закруціўшыся ў свае аўчыны, на лаўках ўздоўж сьцен ніжняга пакою. Навярху для мяне толькі што паставілі мой жалезны ложак і набілі цюфяк свежым сенам, ад паху якога яшчэ мацней баліць галава.

Антоніо начуе ў брычцы і разам з фельд’егерам, не пакінуўшым свайго сядзення, вартуе яе. Вялікія дарогі ў Расіі дастаткова бяспечныя; затое ў вёсках славянскія сяляне лічаць павозкі і іхнае аздабленне сваёю законнай здабычай, і калі не пільнаваць каляску самым старанным чынам, то раніцай я цалкам магу знайсьці яе без вярха і наогул абабранаю – без пасоў, без занавесак, без фартука, адным словам, ператворанаю ў звычайны тарантас, ці павозку; і ва ўсей вёсцы ні адна душа не будзе ведаць, куды дзелася скрадзеная збруя; калі б, пасьля доўгіх вышукаў яе знайшлі ў каго-небудзь у хляве, то злодзей адгаварыўся б тым, што знайшоў яе і прынёс! Такое апраўданне вельмі распаўсюджана сярод рускіх; крадзяжы ўкараніліся ў іхных норавах; а таму злодзеі жывуць з зусім чыстым сумленнем, а іхны твар да канца дзён выказвае ціхамірны спакой, здольны падмануць нават анёла. На памяць мне раз-пораз прыходзіць наіўна-характэрная пагаворка, якія безперапынна чуецца ў іхных вуснах: “І Хрыстос бы краў, каб за рукі не прыбілі”[291].

Не думайце, быццам загана крадзяжоў характэрна для адных толькі сялян: крадзяжы маюць столькі ж відаў, колькі ёсць прыступак у грамадзкай іерархіі. Кожны губернатар ведае, што яму, як і большасьці яго калег, пагражае правесьці астатак сваіх дзён у Сібіры. Калі, аднак, за час свайго губернатарства ён змог

---

[291] [заўвага аўтара] “Лікург лічыў, што для таго, каб скрасьці нейкую рэч у свайго суседа, трэба выказаць кемлівасць, смеласць і спрыт, а з іншага боку, ён лічыў, што для грамадства будзе карысна, калі кожны будзе старанна ахоўваць сваё дабро; таму ён вырашыў, што выхаванне абодвух гэтых якасьцей – уменне нападаць і ўменне абараняцца – прынясе вялікую карысць пры навучанні вайсковай справе (якая з'яўляўся галоўной навукай і дабрадзейнасьцю, якія ён меў жаданне выхаваць у асяроддзі свайго народа) і што гэта пакрые тыя страты і тыя несправядлівасьці, якія будуць наступствам прысвойвання чужых набыткаў”. («Досведы Мантэня», кн. 2, частка XII, “Апалогія Раймуіда Сабундскага”, с. 299. Парыж, выданне братоў Дзідо, 1836).

накрасьці столькі, што у патрэбны момант зможа абараніць сябе ў судзе, то ён выпутаецца; калі ж (выпадак немагчымы) ён застаўся сумленны і бедны, то прапаў бы. Гэтая заўвага не мая, мне даводзілася чуць яе ад некалькіх рускіх, якіх я лічу годнымі даверу, але ўстрымаюся называць іхныя імёны. Падумайце самі, наколькі варта верыць іхным паведамленням.

Крыгс-камісары абкрадаюць жаўнераў і нажываюцца на іхным голадзе; наогул, сярод тутэйшых чыноўнікаў сумленне было б такім жа небяспечным, як і сатыра, і такім жа смешным, як глупства.

Заўтра я спадзяюся даехаць да Яраслаўля; гэта галоўный горад губерніі; спынюся там на дзень-два, каб знайсьці нарэшце ў глыбіні дзяржавы сапраўдных рускіх; на гэты выпадак я яшчэ ў Маскве паклапаціўся запасьціся некалькімі рекамендацыйнымі лістамі ў сталіцу гэтай губерні – адной із самых цікавых ва ўсёй імперыі, як згодна са сваім становішчам, так і па занятках сваіх насельнікаў.

# Ліст трыццаць першы

*Значэнне Яраслаўля для ўнутранага гандлю. – Меркаванне аднаго із рускіх аб архітэктуры сваёй дзяржавы. – Смешныя прэтэнзіі народа-выскачкі. – Выгляд Яраслаўля. – Прыбярэжны бульвар каля Волгі. – Выгляд з горада на вясковыя наваколлі. – Яшчэ раз пра захапленне рускіх да рабскога пераймання класічнай архітэктуры. – Падабенства Яраслаўля з Пецярбургам. – Прыгажосць вёсак і іхных жыхароў. – Аднастайнасць ландшафту. – Спевы волжскіх матросаў удалечыні. – Саркасьцічнасць свецкіх людзей. – Яшчэ адзін погляд на характары рускіх. – Першабытныя дрожкі. – Абутак сялян. – Старажытныя статуі. – Рускія лазні недастатковыя для падтрымання чысьціні. – Візіт да Яраслаўскага губернатара. – Два хлопчыкі: рускі і нямецкі. – Салон губернатара. – Я ў здзіўленні. – Успаміны пра Версаль. – С-ня дэ Паліньяк. – Неверагодная сустрэча. – Вытанчаная паслужлівасьць. – Уплыў нашай літаратуры. – Падарожжа ў Прэабражэнскі кляштар. – Набожнасць князя ***, майго правважатага. – У сучаснай Расіі працягваюцца традыцыі візантыйскага мастацтва. – Дробязнасць праваслаўнай царквы. – Недарэчныя размежаванні. – Спрэчка пра тое, як даваць благаславенне. – Закуска, лёгкае ежа, падаваемая перад самым абедам. – Сцерлядзь, волжская рыба. – Руская ежа. – Абед доўжыцца нядоўга. – Добры густ у гутарцы. – Памяць пра старую Францыю. – Вечар у сямейным атачэнні. – Размова з дамой-француженкай. – У Расіі жонкі пераўзыходзяць сваіх мужоў. – Апраўданне божага промыслу. – Розыгрышы дабрачыннай латарэі. – У Францыі свецкі тон скажоны палітыкай. – Глыбокая прорва паміж заможнымі і беднымі ў Расіі. – Адсутнасць дабрадзейнай арыстакратыі. – Хто ў рэчаіснасьці кіруе Расіяй. – Сам імператар сьціснуты ў здзяйсненні сваёй улады. – Руская бюракратыя. – Паповічы. – Уплыў Напалеона на дзяржаўнае кіраванне ў Расіі. – Яго макіавелізм. – План імператара Мікалая.*

*– Урад іншаземцаў. – Праблема, патрабуючая вырашэння. – Аб адной своеасаблівай цяжкасьці.*

**~ 108 ~**

**Яраслаўль, 18 жніўня 1839 года**[292].

Тое, што прадказалі мне ў Маскве, ужо сбываецца, а між тым я ледзь пераадолеў чвэрць свайго шляху. Да прыбыцця ў Яраслаўль ні адна частка маёй каляскі не засталася ў цэласьці; яе будуць зараз рамантаваць, але наўрад ці яна давязе мяне да канца.

Надвор’е ўставалася восеньскае; тут кажуць, што такім яно і павінна быць у гэтую пару; за адзін дзень ўсю летнюю спёку змыла халодным дажджом. Зараз, кажуць, жарка ўжо не будзе да будучага года; але я настолькі прывык да нязручнасьцей летняй спёкі – пылу, мухам, камарам, – што мне нават не верыцца, каб адна-адзіная навальніца магла пазбавіць мяне ад усіх гэтых непрыемнасьцей... занадта падобна на чараўніцтва... Гэты год незвычайна засушлівы, і я перакананы, што мы яшчэ застанем дні спякотныя і душныя, бо на поўначы спёка бывае не столькі рэзкай, колькі давячай.

Горад, куды я прыехаў, служыць важнай перавалачнай станцыяй ва ўнутраным гандлі Расіі. Праз яго Пецярбург злучаецца таксама і з Персіяй, Каспійскім морам і усёю Азіяй. Тут працякае Волга – вялікі і ажыўлены прыродны шлях, і Яраслаўль служыць нацыянальнай сталіцай водных стасункаў, па-майстэрску наладжаных і з’яўляючыхся прадметам гонару рускіх і адной із галоўных крыніц іхнага дабрабыту. Да Волгі далучаецца шырокая сетка каналаў, якія складаючых багацце Расіі.

Горад Яраслаўль, сталіца адной із самых прыкметных губерніяў ва ўсёй імперыі, заўважаецца ўжо іздалёк, як і прадмесьці Масквы. Падобна ўсім правінціяльным гарадам у Расіі, ён шырокі і выглядае бязлюдным. Яго шырыня – не столькі ад шматлікасьці насельнікаў і пабудоў, колькі ад велізарнай шырыні вуліц і плошчаў і таму, што пабудовы тут звычайна размешчаныя далёка адна ад другой, так што жыхароў амаль і не відаць. Ад края да края імперыі пануе адзін і той жа архітэктурны стыль. Вось вам прыклад таго, наколькі цэняць самі рускія свае псеўдакласічныя пабудовы.

У Маскве нейкі вострaслоў казаў мне, што ў Італіі ён не пабачыў нічога такага, што здалося б для яго навіной.

– Вы сур'ёзна гэта кажаце? – усклікнуў я.

– Цалкам сур’ёзна, – адказваў ён.

– Мне, аднак жа, здаецца, – запярэчыў я, – што калі ўпершыню спускаешся па паўднёваму схілу Альпаў, то выгляд мясцовасьці проста не можа не здзейсніць пераварот у тваёй душы.

– Чаму ж? – спытаў рускі, сваім тонам і выглядам выказваючы грэбаванне, якое так часта тут прынімаюць за прыкмету адукаванасьці.

– Як жа, – адказваў я, – а навізна ўсяго пейзажу, якому архітэктура служыць галоўным упрыгожваннем? А роўныя схілы пагоркаў, засаджаных лазой,

[292] Згодна са старым стылем 6 жніўня.

тутам і алівамі і перамяжаючаяся кляштарамі, палацамі, селішчамі? А гэтыя доўгія шэрагі белых слупоў, якія падтрымліваюць вінаградныя шпалеры пад назвай pergola і даносячыя прыгажосць архітэктуры нават у сэрца самых суровых гор? А ўся гэтая пышнасць прыроды, больш нагадваючая вялікі парк, уладкаваны Ленотрам для каралеўскіх гулянняў, чым абробленыя нівы, якія даюць хлеб штодзённы земляробу? І вам не здаліся навіной усе гэтыя творы чалавечай думкі, упрыгожваючыя сабою Божую задуму? А хупавыя абрысы храмаў, у чыіх званніцах распазнаецца класічны густ, перароблены феадальнымі звычаямі, а шмат незвычайных і велічных пабудоў, што раскіданыя ў гэтым раскошным натуральным парку, падобна таму як пасярод прыроднага ландшафту знарок, каб адцяніць яго прыгажосць, пастаўлены млыны, – усё гэта вас ніколькі не здзівіла?

**~ 109 ~**

Але ж адзін толькі выгляд гэтых выяваў здольны выклікаць у нам пачуццё гісторыі! Паўсюль новыя пабудовы высяцца на грандыёзных руінах старажытнасьці, дарогі праходзяць па аркадах, трывалых, хоць на выгляд і лёгкіх[293]; паўсюль пагоркі служаць апораю для кляштароў, палацаў і селішчаў, нагадваючы, што ў гэтай краіне мастацтва ўпэўнена кіруе прыродай. Гора таму, хто здольны ступаць па зямлі Італіі, не распазнаўшы па велічнасьці яе пейзажаў і пабудоў, што гэтая краіна – калыска цывілізацыі.

– Я рады, што нічога гэтага не пабачыў, – іранічна запярэчыў мой суразмоўца, – калі ж мая неназіральнасць дае вам нагоду выявіць сваё красамоўства.

– Не мае значэння, калі маё захапленне здалося вам смешным, – працягваў я ўжо спакайней, – толькі б атрымалася ў мяне абудзіць у вас пачуццё выдатнага... Прыродны мастацкі талент народа бачыцца мне ўжо ў выбары маляўнічых месцаў для вылучаючыхся прыгажосьцю паселішчаў, кляштароў і большасьці гарадоў Італіі; а як выкарысталі людзі назапашаныя скарбы ў тых краях, дзе іхнае багацце павялічылася з дапамогай гандалю – напрыклад, у Генуі, Венецыі або каля падножжа ўсіх галоўных альпійскіх перавалаў? Яны пабудавалі ўздоўж азёр, рэк, марскіх берагоў, горных цясьнін зачароўваючыя палацы, фантастычныя набярэжныя, мармуровыя сьцены, складзеныя нібы чараўнікамі; і гэтыя цуды можна назіраць не толькі на берагах Брэнты: за кожнай горнай градой сустракаеш новыя прыгажосьці. Шмат храмаў, якія ўзвышаюцца адзін над адным, прываблівaюць цікаўных сваёй вытанчанасьцю і велічным стылем сваіх роспісаў; шмат мастоў здзіўляюць позірк дзёрзкасьцю і трываласьцю сваёй пабудовы; кожны кляштар, горад, замак, паселішча, віла, пустэльнічы скіт, мясьціна пакаяння ці ж прытулак асалоды, заможнасьці і пяшчоты – усё настолькі ўражвае ўяўленне раскошнай архітэктурай, што зачароўвае і вочы і думкі вандруючых па гэтай самай славутай із краін. Велічныя грамады, гарманічныя лінні – усё гэта навіна для паўночніка; іншаземцу ў Італіі дадае

[293] [заўвага аўтара] Прыклад таму горад Бергамо, возера Маджорэ і Комо і інш., а таксама ўсе паўднёвыя даліны Альпаў.

Адрозненні паміж людзьмі ў гэтай краіне такія рэзкія, што здаецца, быццам селянін і землеўладальнік выраслі не на адной і той жа зямлі. У прыгоннага свая бацькаўшчына, у барына – свая. Дзяржава тут ўнутрана расколатая, і яе адзінства толькі вонкавае; знаць па ўзроўню сваёй адукацыі нібы прызначана жыць у іншых краях; а селянін неадукаваны і дзікі, быццам бы пакараецца такім жа гаспадарам, як ён сам.

Загана рускага ладу кіравання бачыцца мне не ў празмерным арыстакратызме, а хутчэй у адсутнасьці прызнанай арыстакратыі, правы якой дакладна вызначаліся б Канстытуцыяй. Мне заўсёды ўяўлялася, што палітычна ўзаконеная арыстакратыя – жыватворная, тады як арыстакратыя, падтрымліваемая толькі аднымі хімерамі ды несправядлівымі прывілеямі, – шкодная, паколькі яе правы нявызначаны і блага ўпарадкаваны. Сапраўды, рускія землеўладальнікі – поўныя, нават занадта поўныя гаспадары ў сябе ў маёнтках; адсюль выцякаюць самавольствы і насільствы, баязліва і крывадушна прыкрываемые чалавекалюбівымі фразамі, чый слашчавы тон падманвае падарожнікаў, а нярэдка і саміх кіраўнікоў дзяржавы. Але, па праўдзе сказаць, хаця гэтыя людзі і ўсемагутныя ў сваіх маёнтках, далёкіх ад засяроджавання палітычных спраў, у дзяржаве яны ніхто; у сябе дома яны робяць разнастайныя безчынствы і ні ў грош не ставяць імператара, падкупляючы ці ж запалохваючы выконваючых яго волю другарадных чыноўнікаў; аднак жа краінай кіруюць зусім не яны; ўсемагутныя ў дробных зладзействах, вытвараемых таемна ад вярхоўнай улады, яны нямоглыя і не маючыя ўлады ў агульным кіраванні дзяржавай. У Расіі нават носьбіт самага гучнага прозвішча не ўяўляў сабою нічога, акрамя сябе самога, не карыстаецца ніякай пашанай акрамя сваіх асабістых заслуг, пра якія мяркуе выключна імператар, і, якімі бы знатным вяльможай ён ні быў, уладу ён мае толькі тую, што сам сабе незаконна прысвоіць ў сваіх маёнтках. Затое ён валодае ўплывам, які можа стаць велізарным, калі ён зможа ім спрытна скарыстацца, паднімаючыся ў чынах пры двары і дзякуючы двару[314]; угодніцтва – занятак не горшы за іншыя. Але ўсякі занятак, а гэты асабліва, дае толькі хісткі дабрабыт; у жыцці царадворца няма месца для высокіх пачуццяў, духоўнай незалежнасьці, праўдзіва чалавекалюбівым і патрыятычным позіркам і вялікім палітычным задумам – яны цалкам належаць такому арыстакратычнаму стану, які законна зацверджаны ў межах дзяржавы, прызначанай пашыраць сваё панаванне і забяспечваць сабе доўгае жыццё. З другога боку, няма места ў ёй і справядліваму гонару чалавека, які набыў сабе багацце ўласнай працай; ітак, у ёй злучаюцца – недахопы демакраты і дэспатызма і адсутнічае ўсё, што ёсць добрага ў гэтых двух грамадскіх уладкаваннях.

**~ 118 ~**

Тут маецца адмысловы стан людзей, адпаведны нашай буржуазіі, але не маючы яе цвёрдага характару – следства незалежнасьці, і яе дасьведчанасьці – следства свабоды думкі і адукаванасьці розуму; гэта стан ніжэйшых чыноўнікаў, як бы другое дваранства. Па сваіх пераканнях гэтыя людзі большаю часткай

---

[314] [заўвага аўтара] Глядзі ліст девятнадцаты.

прыхільнікі новаўвядзенняў, тады як па ўчынкам яны самыя жорсткія дэспаты у гэтай дэспатычнай дзяржаве; выхадцы з народных вучэльняў, якія пайшлі ў стацкую службу, яны кіруюць імперыяй насуперак імператару. Кожны із гэтых людзей – часьцей за ўсё сын іншаземца – атрымлівае дваранства разам з крыжом у пятліцу, прычым узнагароду можа даваць не толькі імператар; здабыўшы гэты магічны знак, яны робяцца землеўладальнікамі, атрымліваюць ва ўласнасць маёнткі і сялян; і гэтыя новаспечаныя землеўладальнікі, дабіўшыся ўлады, але не атрымаўшы ў стадчыну ад бацькоў звычку кіраваць, а з ёю і гаспадарскую велікадушнасць, – карыстаюцца ўладай як сапраўдныя выскачкі. Яны дамагаюцца навучаць народ, а самі тым часам толькі смешаць старых і малых; іхныя дзівацтвы сталі прадметам жартаў; ўсе, хто мае справу з гэтымі напаловудваранамі, якіх пасада і становішча ўзвялі ў чын, які дае зямельную маёмасць, плацяць ім за пыхатае стаўленне злымі дасьціпнасьцямі. Сваё феадальнае права гэтыя людзі ажыццяўляюць з такой суровасцю, што выклікаюць да сябе нянавісць сваіх нешматлікіх сялян. Дзіўная справа! У тутэйшым грамадстве дэспатычнае кіраванне выяўляецца нясцерпным дзякуючы ліберальнаму, рухомаму пачатку, які занесены ў яго ўладкаванне! “Будзь ў нас адны старыя паны, нам бы не было б на што скардзіцца”, – кажуць сяляне. Гэтыя новыя людзі, так ненавісны сваім нешматлікім прыгонным, уладараць і над самой вярхоўнай уладай, бо ў шмат якіх выпадках яны навязваюць імператару сваю волю; менавіта яны рыхтуюць ў Расіі рэвалюцыю адразу двума шляхамі – прамым, праз свае перакананні, і ўскосным, праз тую нянавісць і пагарду, што абуджаюць яны ў народа да арыстакратыі (таму што да яе могуць ўзвысіцца падобныя людзі!) і да прыгоннага права, канчаткова зацвердзіўшагася ў Расіі ў той самы час, калі ў старой Яўропе феадальны лад ужо пачаў разбурацца. Што за спалучэнне двух ліхаў – тут кіруюць падначаленыя, тут пад самаўладнай тыраніяй хаваецца тыранія рэспубліканская!..

Такіх-та вогараў добраахвотна стварылі сабе расійскія імператары, не давяраючы старадаўняй знаці; а арыстакратыя ж прызнаная, укараніўшаяся ў краіне са старых часоў чые звычаі і памкненні памякчэлі дзякуючы грамадзкаму прагрэсу, – хіба не была б яна лепшай прыладай асветы, чым крывадушна-паслушная і ўсё разбураючая армія загадчыкаў, у большасці сваёй іншаземцаў па паходжанню, у глыбіні душы запар больш ці менш прасякнутая рэвалюцыйнымі ідэямі і ў таемных сваіх думках такая ж дзёрзкая, як і спагадлівая ў словах і паводзінах?

Са сваіх канцылярыйяў гэтыя незаўважаемыя тыраны, гэтыя дэспатычныя пігмеі безпакарана прыгнятаюць краіну, нават імператара, абмяжоўваючы яго ў дзеяннях[315]; той хоць і разумее, што не такі ўсемагутны, як пра яго кажуць, але,

[315] Пар. разважанні Баранта пра змены, якія абяцае Расіі з'яўленне трэццяга стану: урад не жадае даваць гэтаму стану ніякіх палітычных правоў, што рана ці позна прывядзе да рэвалюцыі, закліканай змяніць не носьбітаў улады, а саму структуру грамадства, інакш кажучы, рэвалюцыі самай жахлівай (Notes. p. 315). Барант спецыяльна спыняеццца і на хабарніцтве ўрадоўцаў; хабары ў Расіі, піша ён, рэч да такой ступені звыклая, што калі суддзям павялічылі пенсіён, яны роўна на столькі ж павялічылі памер хабараў (Notes. p. 137). Пра хабарніцтва расійскіх урадоўцаў французскія вандраўнікі, якія прыбывалі ў Расію на

да свайго здзіўлення (якое хацеў бы сам ад сябе схаваць), часам не зусім ведае, наколькі абмежавана яго ўлада. Хваравіта адчуваючы гэтыя мяжы, ён нават не асьмельваецца скардзіцца, а стварае яму гэтыя межы бюракратыя, страшная ўсюды, бо яе злоўжыванні называюць павагай да парадку, але ў Расіі больш страшная, чым дзе б там ні было. Бачачы, як тыранія чыноўнікаў падмяняе сабою дэспатызм імператара, уздрыгаеш ад баязьні за гэтую краіну, дзе, нічым не ўраўнаважваемая, зацвердзілася тая сістэма кіравання, якая распаўсюдзілася ў Яўропе пры Французкой імперыі.

**~ 119 ~**

У Расіі адсутнічалі і дэмакратычныя звычкі – плён саціяльных і юрыдычных пераменаў, адбыўшыхся у Францыі, – і друк, вынік і разам з тым зачатак палітычнай свабоды, якую яна падтрымлівае, сам жа ёю народжаны. Расійскія імператары, аднолькава памыляючыся як ў сваім даверы так і ў недаверлівасьці, бачылі ў знаці толькі сваіх супернікаў, а ў тых, каго прызначалі сваімі міністрамі, жадалі мець толькі рабоў; і так, ў сваім дваякім асляпленні, яны без баязьні далі вышэйшым чыноўнікам і іхным падначаленым поўную свабоду апутваць сеткамі безабаронную краіну. Адсюль паўстаў рой дробных служак, якія імкнуцца кіраваць краінай згодна з чужымі ёй разуменнямі, якія не здольны задаволіць яе сапраўдных патрэбаў. Гэты чынавенскі стан, у глыбіні душы варожы таму ладу, якому ён служыць, папаўняецца па большай частцы паповічамі[316], пахабнымі славалюбцамі, няздарнымі выскачкамі – бо, каб прымусіць дзяржаву працаваць на сябе, ім не патрабуецца заслугаў; яны сбліжаюцца з людзьмі ўсякага звання, але свайго звання не маюць; ў душы падзяляюць ўсе забабоны простанародзя і ўсе прадузятасьці знаці, не валодаючы ні энергіяй першых, ні мудрасьцю другіх; словам, сыны святароў у Расіі – гэта рэвалюцыянеры, згодна са сваёй пасадай абавязаныя падтрымліваць існуючы лад.

Як вам зразумела, такія чыноўнікі становяцца бедствам для дзяржавы.

Напалову адукаваныя, якія злучаюць лібералізм славалюбаў з дэспатычнасьцю рабоў, напічканные блага ўзгодненымі паміж сабой філасофскімі ідэямі, зусім непрыдатнымі для краіны, якую яны называюць сваёй Бацькаўшчынай (усе свае пачуцці і сваю напаловуасвечанасць яны ўзялі на баку), – гэтыя людзі падштурхоўваюць Расію да мэты, якую яны, магчыма, і самі не ведаюць, якая невядома імператару і да якой зусім не павінны імкнуцца сапраўдныя рускія, сапраўдныя сябры чалавецтва.

Кажуць, што іхная шматгадовая змова пачынаецца ад часоў Напалеона. Гэты палітык прадчуваў, якой небяспечнай можа быць магутнасьць Расіі; і вось, жадаючы паслабіць суперніка мяцежнай Яўропы, ён спачатку звярнуўся да магутнасьці ідэй. Скарыстаўшыся сяброўскімі адносінамі з імператарам Аляксандрам і прыроднай схільнасьцю гэтага гасудара да ліберальных пачаткаў, ён заслаў ў Пецярбург, нібыта для дапамогі ў ажыццяўленні задум імператара,

---

параўнальна кароткі тэрмін, маглі рабіць высновы хутчэй згодна з чужымі апавяданнямі, чым на ўласным прыкладзе; самаму Кюстыну, як і Марм'е, які заўважае ў сваёй кнізе, што асабіста з яго ніхто хабараў не патрабаваў (Marmier. т. 1. p. 261), з чынавенскімі паборамі мець справу не давялося.

[316] [заўвага аўтара] Сынамі праваслаўных святароў.

шмат палітычных агентаў – цэлае перапранутае войска, прызначанае таемна пракласьці шлях для нашых жаўнераў[317]. Гэтыя спрытныя праныры павінны былі трапіць ва ўрад і, перш за ўсё, падпарадкаваўшы сабе народную асвету, навучаць моладзь вучэнням, супярэчачым палітычным вераванням дзяржавы. Так наш вялікі правадыр, нашчадак Французкай рэвалюцыі і вораг свабоды ва ўсім сьвеце, здалёку закідваў сюды насенне смуты, бачачы ў адзінстве дэспатычнага ладу грозную апору ваеннага кіравання, складаючага магутнасць Расійскай дзяржаваўы. З тых часоў і пачалі стварацца таемныя таварыствы, якія пасьля паходаў у Францыю і пачасьціўшыхся стасункаў рускіх з Яўропай настолькі шырока ахапілі Расію, што іхнюю нябачную ўладу шмат хто разлядае як нагоду немінучай рэвалюцыі.

Зараз Расійская імперыя адчувае плён маруднай і глыбока прадуманай палітыкі свайго суперніка – здавалася б, ён пераможаны, але яго макіавелеўская хітрасць не знікла і пасьля яго сьмерці, перажыўшы нечувалыя ў гісторыі вайнаў паразы.

Рэвалюцыйныя ідэі, саспяваючыя ў шмат якіх сямействах і нават у палках рускага войска, у вялікай ступені тлумачацца менавіта нябачным уплывам гэтых выведнікаў нашага войска, а таксама іхных дзяцей і навучэнцаў; вырываючыся вонкі, такія ідэі параджаюць мецяжы, якія да гэтага часу, як мы бачылі, разбіваліся, сутыкаючыся з магутнасьцю ўрада. Магчыма, я і памыляюся, але мне думаецe, што цяперашні імператар здолее адолець гэтыя ідэі, пакараўшы ці ж выслаўшы ўсіх да апошняга чалавека, якія іх абараняюць.

Зусім я не чакаў сустрэць у Расіі такія наступствы нашай палітыкі і пачуць ад рускіх папрокі, падобныя на тыя, якія вось ужо трыццаць пяць гадоў накіроўваюць да нас гішпанцы. Калі тыя лукавыя задумы, што прыпісваюць рускія Наполеону, сапраўды існавалі, то іх нельга растлумачыць ніякай палітычнай зацікаўленасьцю, ніякім патрыятызмам. Немагчыма выратоўваць адну краіну, падманваючы другую. Наколькі захапляе мяне наша рэлігійная прапаганда – бо панаванне каталіцкай царквы адпавядае ўсякай форме кіравання і ўсякай ступені асветы, узвышаючыся над імі так жа недасягальна, як душа над целам, – настолькі ж ненавісна мне місіянерства палітычнае, гэта значыць вузкалобае заваёўніцтва, а дакладней сказаць, дух захопаў, спрытна апраўдваемы сафістыкай славы; гэтае вузкакарысталюбнае дамаганне, замест таго каб аб'яднаць род людзкі, падзяляе яго; адзінства можа нарадзіцца толькі ад ўзвышанасьці і шыраты ідэй; між тым знешняя палітыка заўсёды мелачная, яе

[317] Пярэчанні Грэча: «Абсурдна думаць, што Напалеон задумваў такія далёка ідучыя планы: ён занадта добра разумеў, што пяці-шасьці гадоў недастаткова, каб дэмаралізаваць цэлае пакаленне; таму ён паслаў у Расію толькі вайсковых інжынераў, якія, прыбыўшы, па большай частцы, пад выглядам камівояжораў, павінны былі маляваць планы для французскага войска. Амаль усе гэтыя агенты, таксама як і некаторыя са шпіёнаў, былі апазнаны, арыштаваны і паселены пад наглядам у нашым тыле, дзе былі вольнымі працягваць свае пошукі; аднак пасьля заканчэння вайны ўрад выправадзіў іх за межы Расіі» (Cretch. p. 88). Напалеон меў намер выпусціць пракламацыі для ўзрушэння рускіх сялян супраць рускага дваранства і нават загадаў шукаць у маскоўскіх архівах дакументы пра Пугачова, спадзеючыся потым знайсьці прадаўжальніка яго справы, але на прыканцы ўсё ж не адважыўся здзейсніць гэты захад (гл.: Траецкі Н. А. 1812. Вялікі год Расіі. М., 1988. с. 220).

свабодалюбства крывадушна ці ж тыранічна; яе дабрачыннасьці заўсёды падманлівыя – бо кожны народ у сабе самім павінен знаходзіць сродкі для патрэбнага яму ўдасканалення. Веданне гісторыі іншых краін карысна тэарэтычна, але шкодна, калі яно вядзе да прыняцця чужых палітычных вучэнняў; такім чынам сапраўдную веру падмяняюць забабонам.

**~ 120 ~**

Паўтару коратка: задача, якая не асобамі, а падзеямі, ланцугом абставін, самой рэчаіснасьцю ставіцца перад усякім расійскім імператарам, – садзейнічаць развіццю асветы ў сваім народзе, каб паскорыць вызваленне прыгонных, прычым дабівацца гэтай мэты памякчэннем нораваў, павагай да чалавецтва, да свабоды і законнасьці, адным словам, дзеля памякчэння лёсаў людзей выпраўляць іхныя сэрцы – такая абавязковая ўмова, без якой зараз ніхто не можа цараваць, нават у Маскве; асобны ж абавязак, які ляжыць на расійскіх імператарах, выяўляецца ў тым, што да гэтай мэты ім патрэбна ісьці, не паддаючыся, з аднаго боку, маўклівай і добра наладжанай тыраніі рэвалюцыйнага чінавенства, а з другога – высокамернасьці і зламыснасьці знаці, якая тым больш недаверлівая і небяспечная, чым менш вызначаны межы яе ўлады.

Варта прызнаць, што ні адзін самаўладзец яшчэ не спраўляўся з такой цяжкай задачай так цвёрда, натхнёна і удала, як імператар Мікалай.

Першым із расійскіх кіраўнікоў новага часу ён нарэшце зразумеў: каб зрабіць дабро рускім, трэба самаму быць рускім. Гісторыя, верагодна, скажа пра яго: то быў вялікі гасудар.

Спаць ўжо некалі, мае коні запрэжаны ў каляску, і я еду ў Ніжні.

# Ліст трыццаць другі

*Выгляд волжскіх берагоў. – Як рускія ездзяць на павозках па стромкіх дарогах. – Моцная трасяніна. – Паштовая станцыя. – Рускі пераносны замак. – Кастрама. – Памяць пра Аляксея Раманава. – Паром праз Волгу ў Кінешме. – Дабрадзейнасць, пераходячая ў загану. – Вымушаны прыпынак ў лесе. – Цывілізацыя пашкодзіла рускім. – Падцвярджэнне ідэй Русо. – Адметныя рысы характару і выгляду рускіх. – Паходжанне слова “сірамед”- выраз Тацыта. – Тонкая натура сялян. – Іхныя промыслы. – Мужыцкая сякера. – Тарантас. – Шчырасць рускага селяніна. – Яго адрозненне ў поглядх ад сялян іншых краін. – Характар народных песень. – Музыка-выкрывальніца. – Неабачлівасць урада. – Чым замяніць зламанае кола. – Сібірскі гасьцінец. – Рускія сяляне. – Берагі Волгі. – Сустрэча з трыма высланымі. – Шпіёнства майго фельд’егера. – Апошнія станціі перад Ніжнім. – Цяжкая дарога.*

**Юрьевец-Подольскі[318], гарадок паміж Яраслаўлем і Ніжнім Ноўгарадам, 21 жніўня 1839 года[319].**

---

[318] Юрьевец-Павольскі — у Кюстына: Юрьевец-Повойскі.

Дарога наша ідзе ўздоўж Волгі. Учара я перасёк раку ў Яраслаўлі, а сёння – яшчэ раз у Кінешме[320]. Яе берагі ў шмат якіх месцах непадобныя адзін на другі; з аднаго боку цягнецца бясконцая раўніна, якая амаль роўная з узроўнем вады; з другога – круты абрыў. Гэты прыродны вал мае часам сто-сто пяцьдзесят футаў вышыні; суцэльнай сцяной ён узвышаецца над ракой, а з другога боку пераходзіць у паруслае кустамі пласкагор'е, спадзістым схілам ідучае ўдалечыню. Дзе-нідзе гэтую цьвярдыню, ашчаціні̇ўшуяся галінамі вербаў і бяроз, прабіваюць прытокі вялікай ракі; прарываючыся скрозь берагавы адхон, каб зліцца з Волгай, яны вырабляюць у ім дастаткова глыбокія цясьніны. Сам жа берагавы вал, як ужо сказана, настолькі шырокі, што нагадвае сапраўднае горнае плато, лясістае ўзвышша, тады як расколіны, пракапаныя ў ім водамі прытокаў, – сапраўдныя даліны, прымыкаючыя да галоўнога рэчышча Волгі. Калі едзеш ўздоўж берага ракі, гэтыя прорвы немагчыма аб’ехаць бокам: прыйшлося б кожны раз рабіць крук у цэлае лье, калі не больш; таму выяўляецца лягчэй пракласьці дарогу так, што яна спускаецца са стромы да дна папярочных расколін; перасякаючы бягучую там рэчку, яна зноў паднімаецца па супрацьлегламу схілу, які працягвае сабою вал, ўзведзены прыродай уздоўж галоўной рускай ракі.

**~ 121 ~**

Рускія фурманы, ці, дакладней сказаць, вазніцы, на раўніне вельмі майстэрскія, становяцца вельмі небяспечнымі на круцізне. Дарога, якою мы едзем уздоўж Волгі, падвяргае выпрабаванню і іхную асцярожнасць, і мой спакой. Коньмі ў гэтай краіне кіруюць так, што бесперапынныя пад'ёмы і спускі, будзь яны даўжэшыя, пагражалі б бядою. На пачатку схіла вазніца пускае коней павольна; калі ззаду застаецца траціна вышыні (звычайна гэта самае крутое месца) і фурману і мала звыклым да цугляў коням нехапае асцярожнасьці, каляска разганяецца ва ўвесь спрыт і нясецца ўсё хутчэй да самай сярэдзіны маста з тоўстых брусаў – нетрывалых, дрэнна прыгнаных, няроўных і хісткіх, паколькі яны не замацаваны, а проста пакладзены на апоры і накрыты жэрдкамі, якія ледзь-ледзь агароджваюць па боках усё гэтае ўздрыгаючае збудаванне; а ўжо далей павозка, калі толькі кузаў, колы, рысоры і пасы ў ёй яшчэ трымаюцца разам (да людзей справы нікому няма), коціцца, устрасаючыся, больш павольна. Падобны мост маецца на дне кожнай расколіны; калі б коні, пушчаныя галопам, не перасякалі яе строга па прамой, то экіпаж перакуліўся б, і невядома, што сталася б з жывёлай і людзьмі; гэта сапраўдная цыркавая пастанова, ад выканання якой залежыць жыццё падарожніка. Варта каню спатыкнуцца, варта недзе выпасьці цвіку або лопнуць пастарунку – і ўсё прапала. Ваша жыццё залежыць ад ног чатырох смелых, але слабых і стаміўшыхся коней.

Пры трэццім паўтарэнні падобнай азартнай гульні я запатрабаваў тармазіць, але выявілася, што мая каляска, нанятая ў Маскве, не мае тармазнога башмака; пры ад'ездзе мяне запэўнівалі, што ў Расіі ў ім ніколі не бывае

---

[319] Згодна са старым стылем 9 жніўня.

[320] Кінешма — у Кюстына: Кунеша.

патрэбы. Наўзамен тормаза прыйшлося выпрагчы аднаго із чатырох коней і, пусціўшы яго на волю, трымаць за пастрамкі. Да вялікага здзіўлення фурманаў, я заставляў іх паўтараць гэтую аперацыі кожны раз, калі схіл па сваёй вышыні і крутасьці здаваўся небяспечным для каляскі; ў нетрываласці якой я ўжо дастаткова пераканаўся. Як фурманы ні дзівіліся, яны ні разу не пярэчылі маім дзіўным прыхацям і ніяк не супраціўляліся загадам, якія я ім перадаваў праз фельд’егера; але іхныя думкі я чытаў па іхных тварах. Дзякуючы прысутнасьці ўрадавага чыноўніка мне ўсюды выказваюць пашану, у маім твары паважаюць волю таго, хто даў мне такага заступніка. Падобны знак ушанавання ўладаў робіць мяне прадметам народнай павагі. Ні аднаму такому маладасведчанаму іншаземцу як я, я б не параіў пускацца ў шлях па расійскіх дорогам без такага праваднікa, асабліва калі ён хоча дабрацца да дастаткова аддаленых ад сталіцы губерніяў.

Спусціўшыся да дно расколіны, трэба затым зноў узбірацца на кручу з процілеглага боку; вазніца, які ўсякі касагор пераадольвае толькі з лёту, папраўляе вупраж і зноў пускае сваю чацвёрку наперад ва ўвесь апор. Рускія коні ўмеюць скакаць не інакш як галопам; і калі пад'ём не працяглы, круцізна кароткая, а павозка лёгкая, то вы уз’яджаеце наверх адзіным парывам; але калі, як часта здараецца, схіл пяшчаны ці ж даўжэйшы, чым коні могуць адужаць не пераводзячы дух, то яны хутка спыняюцца, задыхаючыся і паводзячы бакамі, на яго сярэдзіне; пад ударамі пугі яны ўпарцяцца, брыкаюцца і абавязкова адступаюць назад, пагражаючы перакуліць экіпаж ў канаву; затое пры кожнай такой затрымцы я насмешліва згадваю пахвальбу рускіх: быццам бы у Расіі не існуе адлегласьцей!

Такая манера ехаць рыўкамі заўсёды адпавядае характару тутэйшых людзей, блізкая па нораву коням і амаль заўсёды адпавядае асаблівасьцям рельефа. І ўсё ж калі раптам здарыцца вам ехаць па моцна няроўнай мясцовасьці, то вы на кожным кроку будзеце застраваць праз гарачнасць коней і недасведчанасць фурманаў. Апошнія спрытныя і растаропныя, але кемлівасць не пакрывае ім недахопу ведаў; народжаныя для раўнін, яны не ўмеюць толкам прывучыць коней да язды па гарах. Пры кожнай няпэўнай сітуацыі ўсе коннікі злазаць на зямлю, слугі штурхаюць калёсы экіпажа, праз кожныя тры крокі даводзіцца рабіць прыпынак, каб даць запрэжцы перавесьці дух; павозку пры гэтым утрымліваюць на месцы, падкладваючы ззаду тоўсты чурбак; потым, каб рушыць далей, коней хлешчуць вожкамі, падганяюць крыкамі, хлопаюць па боках, цягнуць за морду, націраюць ім ноздры воцатам, каб лягчэй дыхалася; нарэшце, з дапамогай усіх гэтых сродкаў, а таксама дзікіх крыкаў і ўдараў пугі, раздаваемых звычайна на здзіўленне дакладна, вы так-сяк дабіраецеся да вяршыні грознага пад’ёму, куды ў іншай краіне падняліся б, нават не заўважыўшы калі.

Дарога з Яраслаўля ў Ніжні – адна із самых ярыстых дарог ва ўсіх унутраных губерніях Расіі; аднак нават у тых местах, дзе ўзнёслы бераг Волгі глыбей за ўсё прарэзаны яе прытокамі, гэтая прыродная сцяна ад узроўню вады да грэбня наўрад ці перавышае пяці-шасьці павярховы парыжскій дом.

Берагавое ўзвышша, праз якое прабіваюцца да ракі прытокі, выглядае велічна, але панура: гэты краж мог бы служыць асновай для цудоўнай дарогі, але калі аб’ехаць яры немагчыма, то яны павінны былі б альбо пераадольвацца па арачных мастах (якія абышліся б так жа дорага, як скляпенныя акведукі), або спускацца на дно кожнай такой вузкай расколіны; а паколькі спускі не зроблены спадзістымі, то часам яны небяспечны праз круцізну схілу.

**~ 122 ~**

Рускія распісывалі мне радасны і разнастайны выгляд мясцовасці, які адкрываецца, калі едзеш ўздоўж берага Волгі; насамрэч гэта ўсё той жа самы ландшафт, што ў наваколлі Яраслаўля, ды і надвор’е ўсё тое ж.

Калі і ёсць нешта неспадзяванае ў паездках па Расіі, то, вядома ж, не выгляд мясцовасьці; чаго ні вы, ні я не маглі б сабе ўявіць зараней, дык гэта адна небяспека – зараз скажу якая: разбіць сабе галаву аб кузаў уласнай каляскі. Не смейцеся – гэта на самай справе грозная беда; масты, а часта і сама дарога, выбрукавана тут бярвеннямі, ад якіх экіпаж так трасе, што неспрактыкаваны яздок можа вылецець з яго вон, калі каляска адкрытая, ці ж разбіць сабе чэрап, калі ў ёй узняты кузаў. Пагэтаму ў Расіі лепш карыстацца такімі экіпажамі, у якіх верх паднімаецца як мага вышэй. Штуршкі такія моцныя, што ў куфры пад маім сядзеннем толькі што разбілася бутэлька сельтэрскай вады, хоць і была старанна абложана сенам (ды і самі гэтыя бутлі, як вам вядома, трывалыя).

Учара я начаваў на паштовай станцыі, дзе адчуваў недахоп рашуча ва ўсім; каляска такая жорсткая, а дарогі такія трасучыя, што амаль немагчыма праехаць больш дваццаці чатырох гадзін запар, не зарабіўшы моцнага галаўнога болю; і тады, аддаючы перавагу кепскаму прыстанішчу перад запаленнем мозгу, я раблю прыпынак дзе прыйдзецца. Цяжэй за ўсё на гэтых стаянках, ды і наогул у Расіі, раздабыць чыстую бялізну. Як вам вядома, я важу з сабою ложак, але шмат бялізны ўзяць з сабой не магу, а ручнікі, якія даюць на паштовых станцыях, заўсёды нясвежыя; не ведаю, хто меў гонар іх забрудзіць. Учара ў адзінаццатай гадзіне вечара станцыённы наглядчык паслаў за чыстым бялізнай для мяне ў вёску, размешчаную больш чым за лье ад яго жытла. Я б запрацівіўся б такой празмернай стараннасьці фельд’егера, але сам даведаўся пра гэта толькі зранку. У акенца сваёй будкі, праз прыцемак, якія называецца ў Расіі ноччу, я мог у сваё задавальненне разглядаць абавязковы рымскі порцік з пабеленым вапнай франтонам і ляпнымі калонамі, што ўпрыгожваюць з боку канюшні фасады рускіх паштовых станцый. Гэтая нязграбная архітэктура – неадчэпны кашмар, які гоніцца за мной па ўсёй імперыі. Класічная калона стала ў Расіі знакам усякай казённай пабудовы.

Неабходная засцярога пры падарожжы па Расіі – мець пры сабе адну рэч (вам ні за што не здагадацца якую): рускі замок із двух колаў, прылада простая і адначасова хітрая. Вы прыязджаеце ў карчму, поўную разнастайных людзей; вам ужо вядома, што рускія сяляне крадуць – калі не на вялікай дарозе, дык дома; сваю паклажу вы пакідаеце ў сваім пакоі, а самі хочаце прагуляцца. Аднак жа перад сыходам вы жадаеце, і не без падставы, замыкнуць дзверы і забраць з сабою ключ – але ключа няма! няма нават і замка! Хіба што клямка, цвік на

вяровачцы, гэта значыць ўсё адно што нічога; нейкі пячорны залаты век... Адзін із вашых людзей пільнуе каляску; і вось, каб не ставіць другога ахоўваць пакой – што і не вельмі надзейна, бо, сеўшы, вартавы засынае, і не вельмі па-чалавечы, – вы можаце скарыстацца наступным сродкам: у дзвярны налічнік закруціць жалезнае кала, другое такое ж кола – у дзверы, як мага бліжэй да першага; а затым праз гэтыя два колы, якія служаць дужкамі, прадзяваецца дужка навяснога замка, які таксама забяспечваецца шрубай; шруба, якім замок адкрываецца і закрываецца, служыць яму ключом; вы бярэце яе з сабою, і вашы дзверы надзейна закрыты; бо колы, закручаныя у дзверы, можна выкруціць назад толькі паасобку, а гэта немагчыма, пакуль яны скаваны разам замком. Запор дзейнічае даволі хутка і вельмі зручна; начуючы ў падазроным доме, можна імгненна засцярэгчы сябе ад небяспекі з дапамогай гэтага немудрагелістага прыстасавання – годнага дзяржавы, якая кішма кішыць вельмі пранырлівымі і нахабнымі злодзеямі! Злачынстваў тут адбываецца так шмат, што правасуддзе не адважваецца быць строгім да злачынцаў, ды і наогул усё тут робіцца не па правілу, а згодна капрыза! Такі капрызный дзяржаўны лад, на жаль, вельмі згодзен з наравістымі ўяўленнямі народа, абыякавага і да ісьціны, і да справядлівасьці.

**~ 123 ~**

Учара раніцай я наведаў кляштар у Кастраме, дзе мне паказалі пакоі Аляксея Раманава і яго маці; з гэтага прыстанішча ён выправіўся, каб сесьці на пасад і заснаваць кіруючую дагэтуль дынастыю[321]. Кляштар быў падобны на ўсе іншыя; па пабудове мяне вадзіў малады манах, які відавочна не мардаваў сябе пастамі і іздалёк пахнуў моцным віном; такія сытыя маладыя манахі падабаюцца мне менш, чым сівабародыя старцы манахі ці ж безвалосыя папы. Скарбы кляштара таксама паходзяць на бачаныя мной у іншых местах. Ведаеце, што такое Расія, у двух словах? Расія – гэта краіна, дзе паўсюль бачыш адно і тое ж, сустркаеш адных і тых жа людзей. Гэта настолькі дакладна, што па прыездзе куды-небудзь заўсёды здаецца, быццам перад табою тыя ж рэчы і твары, з якімі разлучыўся ў іншым месцы.

У Кінешме мы зноў пераехалі праз Волгу на ненадейным пароме – гэты човен так мала выступае із вады, што ад усякай дробязі можа перакуліцца. Сумна было глядзець на гэты гарадок пад шэрым небам; надвор’е стаяла сырое і халоднае, ліў дождж, праз што ўсе жыхары сядзелі па хатах; дзьмуў рэзкі вецер; калі б хваляванне на рацэ ўзмацнілася, перапраўляцца стала б зусім небяспечна. Я прыгадаў, як у Пецярбургу, калі чалавек упадзе ў Няву, ніхто і не падумае яго выцягваць[322]; і я казаў сабе: “Калі я буду тапіцца ў Волзе ў Кінешме, ні адзін

---

[321] Памылка Кюстына: у Іпацьеўскім кляштары пад Кастрамой жыў Міхал Фёдаравіч Раманаў з маці Ксеніяй Янаўнай, народжанай Шастовай, якая прыняла пастрыг пад імем Марфы пасля таго, як гвалтоўна пастрыглі ў манахі (пад імем Філарэта) яе чалавека, Фёдара Мікіціча Раманава; Ксенія і Міхал пакінулі кляштар у 1613 г., калі Міхал Раманаў быў абраны на царства.

[322] Згодна з Барантам, абыякавасць пецярбургскага простага люду да ахвяр няшчасных выпадкаў тлумачылася тым, што народ баяўся рабіць што б там ні было да з'яўлення паліцыі: «Калі чалавек страціць пачуцце на вуліцы, ніхто не кідаецца яму на дапамогу: падняць яго павінен хто-небудзь із паліцыі. Калі пачынаецца пажар, ніхто і не думае яго тушыць: спачатку павінна прыбыць паліцыя».

чалавек не кінецца ў ваду да мяне на дапамогу... ні адзін выкрык спачування не пачуецца на гэтых берегах, якія густа заселены, але здаюцца бязлюднымі – столькі засмучэння і маўклівасьці ў гэтых гарадах і нябёсах, у гэтай зямлі і ў яе насельнікаў”. У рускіх такі сумны выгляд, што здаецца, быццам яны абыякавыя не толькі да чужога жыцця, але і да свайго ўласнага.

Адно толькі пачуццё ўласнай годнасьці, адна толькі свабода вымушае чалавека шанаваць сябе, сваю бацькаўшчыну, наогул што б там ні было; тут жа людзі жывуць у такой патрэбе, што, ўяўляецца, кожны таемна адчувае жаданне куды-небудзь з’ехаць – і не можа гэтага зрабіць. У знаці няма пашпартоў, у сялян – грошай, і чалавек жыве як ёсць, з цярплівасьцю адчаю, абыякавы і да свайго жыцця і да сьмерці. Пакора, якая ва ўсякім іншым краю з'яўляецца цнотаю, у Расіі становіцца заганай, бо падтрымлівае рэчаіснасць жорсткую і косную.

Я кажу не пра палітычную вольнасць, але пра асабістую незалежнасць, пра лёгкасць перамяшчэнняў, ды хоць бы нават аб бесперашкодным выяўленні сваіх натуральных пачуццяў; усё гэта недаступна ў Расіі нікому, выключаючы вярхоўнага ўладара. Рабы нават сварацца адзін з адным ціха; права злавацца тут складае адну із прывілеяў улады. Чым больш я пераконваюся, што людзі пры такім ладзе захоўваюць вонкавы спакой, тым больш мне іх шкада; безгалоснасць або бізун – такі тут чалавечы лёс! Для знаці ж замест бізуна – Сібір!! Ды і сама Сібір – тая ж Расія, толькі яшчэ жахлівей.

# працяг ліста

**У лесе, вечарам таго ж дня.**

Вось мы і застралі на пяшчанай, брукаванай бярвеннямі дарозе; пясок такі глыбокі, што нават самыя тоўстыя бярвенні ў ім тонуць. Мы завязлі пасярод лесу, у некалькіх лье ад усякага жылля. У калясцы, хоць яна і руская, адбылася паломка, не выпускаючая нас із гэтай глухамані, і вось мой камердынер, з дапамогай нейкага пасланага нам Богам селяніна, рамантуе пашкоджанне – я ж, прыгнечаны тым, як мала ад мяне карысьці ў такіх абставінах, адчуваючы, што буду толькі перашкаджаць працы, калі мне ўздумаецца дапамагчы, пачынаю пісаць вам ліст, каб даказаць, якая непатрэбная адукаванасць, калі чалавек, пазбаўлены ўсіх дасягненняў цывілізацыі, вымушаны адзін на адзін, распараджаючыся толькі ўласнымі магчымасьцямі, змагацца з дікай прыродай,

---

Барант згадвае нават выпадак, бачаны ім асабіста: тонучага дзіцёнка выцягнулі із ракі, маці намерылася аднесьці яго дахаты перапрануць у сухое, але ёй давялося спачатку выправіцца з ім у паліцэйскі ўчастак, каб здарэнне занеслі ў пратакол (гл.: Notes. p. 38-40). Пар. падобныя тлумачэнні ў рускага мемуарыста: калі 2 лютага 1836 года пачаўся жахлівы пажар у масленічным балагане штукара Лемана, «народ, які тоўпіўся на пляцы з нагоды святочных дзён, кінуўся да балагана, каб разабраць яго і вызваліць людзей. Раптам з'яўляецца паліцыя, разганяе народ і забараняе што б там ні было распачынаць да прыбыцця пажарнікаў: бо апошнім належала афіцыйнае права тушыць пажары. Наш народ, прызвычаяны да безпярэчнага падпарадкавання, адыйшоў ад балагана, спыніўся на некаторай адлегласьці і ператварыўся ў спакойнага гледача жахлівага відовішча. Пажарная ж каманда паспела якраз к таму часу, каб выцягваць крукамі із агню абгарэлыя трупы» (Мікіценка. т. 1. с. 181).

якая па-ранейшаму магутна первазданнай магутнасьцю, атрыманай ад стваральніка. Вы гэта ведаеце лепш за мяне, але вы гэтага не адчуваеце так, як адчуваю зараз я.

Рускія сялянкі рэдка бываюць прывабнымі – я гэта паўтараю кожны дзень; але ў тых, якія прыгожыя, прыгажосць бездакорная. Іх міндалявідныя, незвычайна выразныя вочы маюць разрэз чысты і выразны, а замутнёныя блакітам зрэнкі нярэдка нагадваюць апісанні сарматаў у Тацыта, які кажа, што іхныя вочы колеру марской вады; гэтае адценне, засьцілаючы позірк, надае яму надзвычайна чароўную пяшчоту і нявіннасць[323]. У іх прысутнічае разам і вытанчанасць паветраных прыгажунь Поўначы, і юрлівасць жанчын Усходу. Добрасардэчныя сваім выглядам гэтыя дзівосныя стварэнні выклікаюць дзіўнае змяшанае пачуццё павагі і даверу. Заехаўшы ў глыбіню Расіі, разумееш, як шмат, добрых якасьцей у першабытнага чалавека і як шмат ён страціў праз вытанчанае грамадскае жыццё. Я ўжо казаў, паўтараю зноў і гатовы паўтараць надалей у спрэчцы з усімі філосафам: у гэтай патрыярхальнай краіне чалавека псуе цывілізацыя. Славянін ад прыроды кемлівы, музычны, ледзь ледзь не спачуваючы людзям; асвета зрабіла рускага двудушным, дэспатычным, пераймальным і славалюбівым. Каб прывесці тут нацыянальныя звычаі ў адпаведнасць з найноўшымі еўрапейскімі ідэямі, спатрэбіцца стагоддзя паўтары, ды і то пры ўмове, што ўвесь гэты доўгі час рускімі будуць кіраваць адны толькі асвечаныя гасудары – як зараз кажуць, змагары за прагрэс. У чаканні ж гэтых шчаслівых пераменаў выразная няроўнасць станаў робіць грамадскае жыццё ў Расіі жорсткім і амаральным; здаецца, быццам менавіта гэтая краіна навеяла Русо першы нарыс яго сістэмы, – бо няма нават патрэбы ў яго цудоўным красамоўстве, каб даказаць, што мастацтва і навукі прынеслі рускім больш зла, чым дабра[324]. Будучыня пакажа сьвету, ці здолее гэты народ замясьціць сабе вайсковай і палітычнай славай, тое шчасьце, якога пазбаўляе яго грамадскае ўладкаванне і безперапыннае перайманне ў чужаземцаў.

**~ 124 ~**

Чыстакроўных прадстаўнікоў славянскай расы адрознівае прыродная вытанчанасць. У іхным характары чароўна перамяшаны прастадушнасць, мяккасць і адчувальнасць; часам да гэтага далучаецца яшчэ і вялікая частка іроніі і трошкі прытворства, але ў здаровых натурах падобныя заганы робяцца прывабнымі – ад іх застаецца толькі неперамальна хітраваты выраз твару; адчуваеш сябе пад уладай невядомага зачаравання – пяшчотнага, без горычы, суму і рахманай пакуты, амаль заўсёды народжанай таемнай хваробай, якую чалавек, каб надзейна схаваць ад чужых вачэй, хавае і ад самаго сябе. Карацей кажучы, рускія – народ пакорлівы... гэтым простым словам сказана ўсё. Чалавек,

---

[323] Слова glaucus (шэра-блакітны, зеленаваты, колеру марской хвалі), ад якога паходзіць французскае слова glauque, ужытае Кюстынам, у Тацыта адсутнічае (гл.: Thesaurus linguae latinae. Lipsiae. t. 6. s. 2040). Відаць, Кюстын проста спаслаўся на Тацыта як аўтара самага вядомага складання старажытнасьці, прысвечанага жыццю варвараў, — «Пра паходжанне германцаў».

[324] Маецца на ўвазе трактат Русо «Развагі пра навукі і мастацтвы» (1750), напісаны ў адказ на пытанне Дыжонскай акадэміі: «Ці спрыяе развіццю навук і мастацтваў паляпшэнне нораваў?» — пытанне, на якое Русо, як вядома, адказаў адмоўна.

пазбаўлены волі (тут яна азначае яго прыроднае права, яго сапраўдныя патрэбы, – нават калі б у яго былі ўсе іншыя правы) падобны на расліну, якой не хапае паветра; колькі ні палівай вадою яе карані, на сцябле ўсё адно з'явяцца толькі некалькі чэзлых лісткоў без кветак.

У сапраўдных рускіх ёсць нешта своеасаблівае ў настроі думак, у выразе твару і ў манерах. Хада ў іх лёгкая, і ўсе рухі паказваюць на незвычайнасць натуры. Вочы ў іх глыбока пасажаны, прачэрчаны ў выглядзе падоўжанага авала; ў позірку амаль ва ўсіх прысутнічае адметная рыса, якая надае асобе выраз хітраватай адчувальнасці. Грэкі на сваёй паэтычнай мове называлі насельнікаў тутэйшых краёў "сірамедамі", што азначае вочы падобныя на яшчаркіны; адсюль пайшло лацінскае слова "сарматы"[325]. Ітак, гэтая выразная рыса ў позірку ўражвала ўсіх уважлівых назіральнікаў. Лоб у рускіх не вельмі высокі і не вельмі шырокі; але форма яго чыстая і вытанчаная; у іхным характары ёсць адначасова і асцярожнасць і наіўнасць, і куцельства і ласкавасць; і ўсе гэтыя супрацьлегласьці чароўна злучаюцца; затаённая адчувальнасць рускіх хутчэй даверлівая, чым таварыская, яна адкрываецца толькі пры душэўнай блізкасьці; бо павагу да сябе яны выклікаюць міжвольна, несвядома, без слоў. У адрозненні ад большасьці паўночнікаў, яны не грубыя і не вялыя. Паэтычныя, як сама прырода, яны надзелены ўяўленнем, якое адбіваецца ва ўсіх іхных дамаганнях; кахане для іх хутчэй падобна да забабонаў і перажываецца хутчэй тонка, чым яскрава; заўсёды вытанчаныя нават у саіх захапленнях, яны, можна сказаць, разумныя пачуццём. Усе гэтыя няўлоўныя адценні і выказваюцца ў іхным позірку, так дакладна вызначаным грэкамі.

Сапраўды, старажытныя грэкі валодалі выключным уменнем схопліваць годнасьці людзей і рэчаў і даваць ім жывапісныя імены; дзякуючы гэтаму іхная мова непараўнальна багатая, а паэзія – чароўна цудоўная.

З маім нарысам характару рускіх сялян добра пагадняецца іхнае захапленне гарбатай, выказваючае тонкасць натуры. Гарбата – напой вытанчаны. У Расіі ж гэты напой стаў першай неабходнасьцю. Жадаючы ветліва папрасіць трохі грошай, просталюдзін тут кажа "на чай", падобна таму як у іншых краінах кажуць "на стаканчык віна".

Такі інстынктыўна добры густ не залежыць ад адукацыі; ён не выключае ні варварства, ні жорсткасьці, але выключае нават намёк на пошласць.

Тое, што я бачу зараз перад сабой, падмацоўвае праўдзівасць не раз мною чутага меркавання аб надзвычайным спрыце і кемнасьці рускіх.

Рускі селянін узяў сабе за правіла: не лічыцца ні з якімі перашкодамі – толькі не дзеля сваіх жаданнях, бедны сляпы! – а ў выкананні панскай волі. Узброіўшыся сякерай, якую паўсюль носіць з сабой, ён ператвараецца ў сапраўднага чараўніка і стварае у імгненне вока якую заўгодна рэч, якую не магчыма знайсьці ў глухамані. Ён здолее здабыць вам сярод пустыні ўсе

[325] Версія Кюстына пра паходжанне слова «сарматы» (інакш «саўраматы») ад грэцкага «сеўра» — «яшчарка», сучаснымі даследаваннямі не пацвярджаецца і належыць, хутчэй за ўсё, да сферы «народнай этымалогіі». Гл.: Ільніцкі Л. А. Скіфія еўразійскіх стэпаў. Новасібірск, 1977. с. 106-107; Пар.: Забелін І. Е. Гісторыя рускага жыцця з найстаражытных часоў. М., 1876. ч. І. с. 267-268.

здабыткі цывілізацыі; ён выправіць вашу каляску; ён знойдзе замену нават зламанаму колу, замест яго спрытна прапусьціўшы пад кузавам жэрдку, так каб адзін канец быў прывязаны да папярочкі, а другі валачыўся па зямлі; калі ж, нягледзячы на гэтыя хітрыкі, ваша павозка не зможа ехаць, то ён імгненна пабудуе вам замест яе іншую, з надзвычайным спрытам выкарыстоўваючы парэшткі старой для пабудовы новай. У Маскве мне раілі ездзіць у тарантасе, і лепш бы мне зрабіць так як раілі, бо ў такім экіпажы ніколі няма небяспекі застраць у шляху!.. Кожны рускі селянін здольны яго выправіць і нават збудаваць новы.

**~ 125 ~**

Калі вы вырашылі заначаваць ў лесе, гэты майстар на ўсе рукі пабудуе вам прыстанішча для адпачынку; і спехам зробленая хаціна будзе лепшай за ўсякую гарадзкую карчму. Размясціўшы вас з усімі магчымымі зручнасьцямі, ён сам закруціцца ў вывернутую аўчыну і ляжа спаць на парозе вашага новага жылля, ахоўваючы ўваход у яго, падобна вернаму сабаку; ці ж, уладкаваўшы для вас прытулак, сядзе насупраць пад дрэвам і, гледзячы ў неба, будзе развейваць ваш сум спевам народных песень, якія сваёй журботай адпавядаюць самым прыемным памкненням вашага сэрца, таму што яшчэ адной годнасьцю гэтай адоранай, але абяздоленай расы з'яўляецца таксама і прыродны музычны талент... і яму ніколі не прыйдзе ў галаву, што па справядлівасьці ён і сам бы мог заняць месца побач з вамі ў той хаціне, якую толькі што для вас пабудаваў.

Ці доўга яшчэ гэтыя выбраныя людзі будуць заставацца схаванымі ў глушы, дзе трымае іх усявышні... і дзеля якой мэты? Гэта вядома толькі яму аднаму!.. Калі праб'е для іх час вызвалення і, больш за тое, валадарання? Гэта – божая таямніца.

Мяне захапле прастата іхных разуменняў і пачуццяў. Бог – уладар нябёсаў, цар – уладар зямлі; вось і ўся тэорыя; а ўся практыка – панскія загады, а то і капрызы, падмацаваныя пакораю раба. Рускі селянін лічыце сябе целам і душою адданым свайму пану.

Адпаведна такім сацыяльным вераванням, ён жыве безрадастна, але і не без гонару; а чалавеку дастаткова ганарыцца, каб жыць на сьвеце; гонар – душэўны пачатак розуму. Формы ён прынімае самыя разнастайныя, аж да зняважальнасьці, да рэлігійнага самапрыніжэння, вынайдзенага хрысьціянамі.

Рускі не разумее, як можна пярэчыць пану, прадстаўніку двух невымяральна наймагутнейшых спадароў – Бога і імператара, – і ўвесь свой розум, усю сваю доблесць накіроўвае на тое, каб адолець тыя дробныя жыццёвыя цяжкасьці, якімі з перабольшанай павагай адгаворваюцца звычайныя людзі іншых народаў: бо тыя выкарыстоўваюць падобныя перашкоды ў адплату заможным, бачачы ў іх ворагаў і называючы выбраннікамі лёсу гэтага свету.

Рускія настолькі пазбаўленыя ўсіх жыццёвых даброт, што не могуць быць зайздросьлівымі; хто сапраўды варты спачування, сам ужо не наракае; зайзроснікамі становяцца няўдалыя славалюбцы, і Францыя, дзе дабрабыт лёгкадаступны, дзе набываюць багацце вельмі хутка, служыць распаўсюджвалькам іх; у мяне няздольны выклікаць спачуванні зласлівыя стогны

падобных людзей, чыя душа стомлена ад жыццёвых асалод; затое цярплівасць тутэйшага народа абуджае ў ва мне спачуванне – я ледзь не сказаў глыбокую павагу. У палітыцы самапрыніжэнне рускіх нізка і абуральна; у справах жа хатніх іхная пакора прыстойная і чуллівая. Што для ўсёй нацыі загана, для прыватнага чалавека становіцца дабрачыннасьцю.

Рускія песні ўражваюць ўсіх іншаземцаў сваёй журботай; аднак іхная музыка не проста сумная, але яшчэ і па-майстэрску – замыславатая; натхнёная меладычная, яна ў той жа час мае вельмі вытанчаныя гармнічныя спалучэнні, якіх ў іншых краях дасягаюць толькі навучаннем і разлікам. Нярэдка, праязджаючы праз якую-небудзь вёску, я спыняюся паслухаць, як співаюць песьню – на тры-чатыры галасы і з такой дакладнасьцю і музыкальным нюхам, якімі я не стамляюся дзівіцца. Выканаўцы гэтых вясковых квінтэтэм натхненнем разумеюць законы контрапунктаў, правілы кампазіцыі, гармонію, эфекты разнастайных галасоў; спевам жа ва ўнісон яны грэбуюць. Адно за другім здабываюць яны вытанчана-нязвыклыя сугучанні, перамяжаючы іх руладамі і вытанчанымі ўпрыгожваннямі. Аднак жа, нягледзячы на тонкасць сваіх органаў, яны не заўсёды співаюць зусім дакладна; гэта і нядзіўна, калі за цяжкія п'есы бяруцца людзі са стомленнымі хрыплымі галасамі; затое калі спевакі маладыя, то ўражанне, якое яны вырабляюць, па-майстэрску выконваючы такія складаныя мясьціны, атрымліваецца, згодна майго меркавання, значна мацнейшае, чым ад народных песень усякай іншай дзяржавы.

Песні рускіх сялян співаюцца жалобно-гнусава, што малапрыемна пры выкананні на адзін голас; пры выкананні ж хорам гэтая жалобная песьня набывае нейкую рэлігійную сур'ёзнасць і вырабляе ўражваючыя гарманічныя эфекты. У театры мы б назвалі іх, нягледзячы на іхную грубасць ці ж дзякуючы ёй, замыславатымі сугучнасьцямі. Узаеманакладанне разнастайных партый, нечаканае спалучэнне аккордаў, кампазіцыйны малюнак, увядзенне новых галасоў – усё гэта чулліва і заўсёды незвычайна; толькі тут я ў народных песнях ў вялікай колькасьці чуў рулады. Такія ўпрыгожванні заўсёды дрэнна выконваюцца сялянамі і непрыемныя для слыху! – І ўсё ж у агульным гучанне гэтых вясковых хораў своеасаблівае і нават прыгожае.



Я лічыў, што руская музыка завезена ў Масковію із Візантыі, але тут мяне запэўніваюць, што яна, насупраць, мясцовага паходжання; магчыма, гэтым і тлумачыцца глыбокая жалоба такіх мелодый, асабліва тых, якія сваёю прастатой і рухомасьцю выяўляюць весялосць. Не ўмеючы паўстаць супраць прыгнёту, рускія затое ўмеюць таміцца і стагнаць.

На месцы імператара я б не толькі забараняў падданым скардзіцца, але не дазваляў бы ім і співаць, бо іхныя спевы – схаваная жалоба; гэтыя гукі, поўныя болю, складаюць прызнанне і могуць стаць выкрываннем – сапраўды, пры

дэспатычным кіраванні нават мастацтвы, прысутнічаючы ў народзе, не могуць лічыцца чымсьці нявінным; у іх хаваецца абурэнне[326].

Адсюль, верагодна, і паходзіць схільнасць рускага ўрада і двара да іншаземных кніг, аўтараў і мастакоў: бо заёмная паэзія мала пранікае ў народ. У краіне рабоў апасаюцца глыбокіх адчуванняў, нараджаемых патрыятычнымі пачуццямі; праз гэта ўсё нацыянальнае, нават музыка, робіцца тут зброяй апазіцыі. Такая музыка ў Расіі, у самых аддаленых і пустынных кутках якой голас чалавека звяртае да неба свае песьні помсты і журботы, просячы сабе ў Бога хоць часьціну той асалоды, ў якай адмоўлена яму на зямлі... Ітак, маючы дастатковую магутнасьць, каб прыгнятаць людзей, патрэбна быць і дастаткова паслядоўным, каб сказаць ім: “Не адважвайцеся толькі спяваць”.

Нішто так не выяўляе штодзённыя пакуты народа, як маркотнасць яго забаў. Рускія ж наогул забаў не маюць, у іх ёсць толькі ўцехі. Дзіўна, як яшчэ ніхто да мяне не папярэдзіў улады ад той неасцярожнасьці, якую яны робяць, дазваляючы рускім адводзіць душу ў занятку, выкрываючым іх няшчасьце і паказваючым ўсю ступень іхнай пакоры; такая глыбокая пакора – гэта бездань болю.

# працяг ліста

**22 жніўня 1839 года, на апошняй станцыі перад Ніжнім**

Даехалі мы сюды на трох калах і з цягнучайся па зямлі яловай жэрдкай замест чацвёртага. Не перастаю здзіўляцца мудрагелістай прастаце гэтага дарожнага прыёма: жэрдка лёгка дапасуецца да пярэдняй восі, быўшы устаўленай ў паз і прывязанай вяроўкай, і валочыцца так, праходзячы пад задняй восевай падушкай і замяняючы нехапаючае задняе кола; са стратай аднаго із пярэдніх колаў справіцца было б складаней.

У значнай сваёй частцы дарога із Яраслаўля ў Ніжні ўяўляе сабою шырокую паркавую алею; прачэрчаную амаль усюды па прамой лініі, гэтая дарога шырэйшая за галоўную алею Елісейскага поля ў Парыжы, а па яе баках ідуць дзве іншыя алеі, пакрытыя натуральным газонам і абсажаныя бярозамі. Язда тут нятруская, бо коцішся амаль увесь час па траве, акрамя багністых нізін, якія мы пераязджаем па зыбкаму насьцілу – нешта падобнае на плывучы паркет, нязвыклы і нязручны. Такая гаць з няроўных бярвенняў небяспечна і для коней і для павозак. Калі на дарозе так густа расьце трава – значыць, па ёй мала ездзяць, гэта значыць яе лягчэй утрымліваць ў парадку. Учора, перад паломкай,

---

[326] Каментар А. Я. Тургенева: «Як справядліва, што Кюст<ын> распавядае пра спевы рускіх: але ён не ведаў, што спевы ў сапраўднасьці былі забаронены п<ецяр>бугскай паліцыяй у П<ецяр>бурзе, асабліва на лодках, веслярам на Няве: я дакладна не памятаю, каб рускія песьні калі-небудзь чуліся ў П<ецяр>бурзе!» (НЛА. с. 121). Дарэчы, у дадзеным выпадку гаворка, напэўна, ідзе пра спевы «неарганізаваныя»; хор спевакоў і выкананне духавога аркестра нярэдка спадарожнічалі гулянням заможных жыхароў Пецярбурга па Няве (гл.: Пыляеў М. І. Забытае мінулае наваколля Пецярбурга. СПБ., 1889. с. 114), што знайшло адлюстраванне ў першай частцы «Яўгена Анегіна»: «Толькі лодка, вёсламі махаючы, // Плыла па дрымотнай рацэ, // І нас чаравалі ўдалечыні // Ражок і песня адважная…»

мы імчаліся ва ўвесь апор, і мне ўздумалася пахваліць прыгажосць гэтай дарогі свайму фельд’егеру. “Вядома, прыгожа, – адказваў мне гэты кволы чалавечак з асінай таліяй, з прамою вайсковай выпраўкай, з рухомымі шэрымі вачамі, са сьціснутымі губамі, ад прыроды беласкуры, але абветраны, загарэлы і чырвоны ад звычкі да язды ў адкрытых павозках, на выгляд і нясмелы і грозны, як падаўленая жахам злосць. – Вядома, прыгожы... Гэта ж Сібірскі гасьцінец!”

Ад яго слоў я ўвесь пахаладзеў. Я-та, падумалася мне, езджу па гэтай дарозе дзеля ўласнага задавальнення; а з якімі думкамі і пачуццямі цягнуліся па ёй раней шмат гаротных? І зноў мяне пачалі мучыць думкі і пачуцці, народжаныя ўяўленнем. Каб пазабавіцца, развеяцца, я еду па слядах чужога адчаю... Сібір!.. Увесь час перада мною гэтае пекла Расіі... І ад яго прывідаў я ўвесь драньцвею, нібы птушка пад позіркам васіліска!.. Што за краіна!.. Прырода тут нішто, бо прыходзіцца забыцца пра прыроду на гэтай бясконцай не маючай выразных выяваў раўніне, дзе няма ні пераходаў, ні ліній, не ўлічваючы нязменна роўныя лініі, акрэсліваючыя свінцовае кола нябёсаў над стальной паверхняй зямлі!! Па такой-та раўніне, толькі дзе-нідзе ўзгорыстай, і еду я з той самай пары, як пакінуў Пецярбург: вечныя балоты, часам перамяжаемыя дзялянкамі аўса або жыта, якія растуць на адным узроўні з чаротам; часам, бліжэй да Масквы, квадрацікі агародаў, з агуркамі, дынямі і рознай іншай гароднінай, якія не парушаюць сабою аднастайнасьці краявідаў; а удалечыні – чэзлыя хваёвыя лясы ці ж кволыя вузлаватыя бярозы; нарэшце, уздоўж дарогі – шэрыя вёскі з прысадзістымі драўлянымі хаткамі, праз кожныя дваццаць, трыццаць ці пяцьдзесят лье – крыху больш высокія, хоць і такіяж ж прысадзістыя, гарады, дзе людзі губляюцца пасярод прасторных вуліц, нагадваючых вайсковы лагер, выбудаваны на адзін дзень манеўраў; такая, паўтаруся ўжо ў соты раз, Расія, як яна ёсць. Дадайце да гэтага разныя прыкрасы, пазалоту і шмат, на славах нізкапаклонных, а ў душы насмешлівых людзей, і вось вам Расія, як нам яе хочуць паказаць; скажам прама – тут увесь час прысутнічаеш на пышнай пастанове. Ведаеце, што такое рускія вайсковыя вучэнні? Гэта сапраўдныя паходы, нібы на вайне, праўда, без славы, затое з вялікімі выдаткамі, так як немагчыма карміць войска за кошт непрыяцеля.

Сярод гэтай безаблічнай мясцовасьці працякаюць велізарныя, але не маючыя адметных рыс рэкі; разліваючыся на шэраватай раўніне, сярод пяшчаных пустак, яны знікаюць із-пад увагі за пагоркамі, вышынёю не пераўзыходзячымі нашых дамбаў і цямнеючым лесам. Паўночныя рэкі заняпалыя, як неба, якое ў іх адлюстроўваецца; ўздоўж берагоў Волгі дзе-нідзе стаяць вёскі, якія лічацца заможнымі, але і гэтыя штабелі шэрых дошак пад замшэлымі дахамі не ажыўляюць выгляд мясцовасьці. Над усімі ландшафтамі як быццам вітаюць зіма і сьмерць; ад цьмянага свету і паўночнага клімату ўсе прадметы маюць нейкую магільную афарбоўку; вандроўкі тут цягнуцца некалькі тыдняў, з жахам адчуваеш, быццам ты зажыва пахаваны; хочацца парваць свой саван і бегчы прэч з бясконцых могілак, якія цягнуцца наколькі хапае вока апошнімі намаганнямі прыпадняць свінцовае пакрывала, якое аддзяляе цябе ад

жывых людзей. Не надумайце ездзіць на Поўнач дзеля задавальнення – хіба што задавальненне вы знаходзіце ў навуцы, бо для навукі тут непачаты край.

**~ 127 ~**

Ітак, я ехаў, разчарваны, Сібірскім трактом, як раптам заўважыў здалёк гурт вайскоўцаў, якія спыніліся на адной із бакавых аллей каля дарогі.

– Што тут робяць гэтыя жаўнеры? – Спытаў я курьера[327].

– Гэта казакі, – адказваў ён, – яны вядуць высланых ў Сібір!!

Ітак, гэта быў не сон, не газетныя небыліцы; я бачыў перад сабою сапраўдных гаротнікаў, сапраўдных выгнаннікаў, якія цяжка цягнуліся пешшу ў край, дзе наканавана ім памерці забытымі ўсім светам, удалечыні ад усяго ім дарагога, адзін на адзін з Богам, які стварыў іх не дзеля такіх пакутаў. Магчыма, я ўжо сустракаў ці яшчэ сустрэну іхных маці, іхных жонак; то былі не злачынцы – о не, то былі палякі, беззаветныя і няшчасныя героі; слёзы навярнуліся мне на вочы з набліжэннем гэтых пакутнікаў, побач з якімі я нават не адважыўся спыніцца, каб не выклікаць падазрэнняў свайго вартавога[328]. Ах! пры выглядзе такіх бедстваў пачуццё няздольнага спачування было мне зневажальным, і спачуванне ў маім сэрцы заглушалася гневам! Хацелася быць ўдалечыні ад гэтай дзяржавы, дзе мізэрны халоп, які служыць мне пасланцам, можа забраць сабе такую магутнасць, каб яго прысутнасць вымушала мяне таіць самыя натуральныя душэўныя парывы. Дарэмна паўтараў я сабе, што нашы французкія катаржнікі, хутчэй за ўсё, вартыя спачування больш чым сібірскія высланнікі; бо ў такой далёкай высылцы ёсць і нешта паэтычнае, суровасць законаў афарбоўваецца ў ёй ўсемагутным ўяўленнем, і гэтае нечалавечае спалучэнне дае надзвычайны вынік. Дарэчы, нашых катаржнікаў асуджае сур'ёзны суд; калі ж пражывеш некалькі месяцаў у Расіі, то перастаешь верыць у магутнасць закона.

Высланых было шасцёра, і гэтыя вязні, хоць і закаваныя ў кайданы, былі ў маіх вачах нявінныя, бо пры дэспатызме няма іншага злачынцы, акрамя ката. Шасьцярых вязняў вялі дванаццаць конных казакаў. Кожух маёй каляскі быў закрыты, і чым бліжэй мы набліжаліся, тым уважлівей назіраў за маім тварам фельд’егер: ён у мяне так і ўтаропіўся. Надзвычайна, як ён намагаўся пераканаць мяне, што сустрэтыя намі людзі былі звычайнымі злачынцамі і што сярод іх не было ніводнага палітычнага арыштанта. Я захоўваў панурае маўчанне; з якім жа паказальным ікненнем, думалася мне, адказвае ён на маю думку – значыць, ён прачытаў яе ў мяне на твары ці ж здагадаўся зыходзячы са сваіх уласных думак.

---

[327] Кур'ерам Кюстын час ад часу называе свайго фельд'егера.

[328] Каментар Грэча: «Аўтар распавядае, як паміж Яраслаўлем і Ніжнім Ноўгарадам спытаў у вазніцы, куды вядзе дарога, па якой яны едуць, і пачуў у адказ: «У Сібір». Вы без цяжкасьцей уявіце сабе жах, які скаваў пры гэтых словах чальцы маркіза. Раптам ён заўважае трох высланых, якія суправаджаюцца да месца прызначэння, і бачыць у гэтых злодзеях ці разбойніках нязвычайных герояў дабрачыннасьці, ахвяр дэспатызму. Вызваліся гэтыя героі пры з’яўленні карэты маркіза ад сваіх ланцугоў, яны не прамінулі б на справе паказаць яму свае ліберальныя перакананні» (Gretch. p. 89). Нататка Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Шматлікія аўтары крытыкуючыя маю кнігу палічылі патрэбным аспрэчыць нашы ўяўленні пра бедствы, якія перажываюцца высланыя ў Сібіры. Яны малююць нам жыццё ў гэтых аддаленых асадах у самых ідылічных тонах. Шкада, што іхная бацькаўшчына не заўсёды можа пахваліцца тымі чарамі, якія рускія прыпісваюць сваім азіяцкім уладанням».

Жахлівая праніклівасць падданых дэспатычнай улады! Тут усе шпіёняць, хай нават па-аматарску і бязвыплатна.

**~ 128 ~**

Апошнія перагоны на дарозе ў Ніжні даўгія і цяжкія праз ўсё больш глыбокі пясок[329][58], у якім вязнеш ледзь ці не з галавой; а ў пяску пад коламі і пад капытамі коней варочаюцца вялізныя камяні і драўляныя калоды; падобна на пяшчаны пляж, усеяны абломкамі. Дарогу тут абступае лес, а ў ім праз кожную палову – лье стаяць казачыя заставы для аховы купцоў, якія едуць на ярмарку. Такое ўладкаванне не столькі падбадзёрвае, колькі ўражвае сваёю дзікасьцю – як быццам ты трапіў у сярэдневечча.

Маё кола адрамантавана, яго як раз ставяць на месца, так што спадзяюся прыбыць у Ніжні яшчэ да вечара. Апошні перагон складае восем лье па вышэйапісанай нязручнай дарозе; яшчэ раз згадваю пра гэта, таму што слоў не хапае апісваць гэтыя рэчы, якія забіраюць ў мяне столькі часу.

# Ліст трыццаць трэці

*Мясцовасць, дзе размешчаны Ніжні Ноўгарад. – Заўвага імператара Мікалая. – Асаблівая павага гэтага гасудара да Ніжняга. – Ніжагародзкі крэмль. – Народ, які з’ехаўся з усіх канцоў свету на тутэйшую ярмарку. – Шмат іншаземцаў. – Ніжагародзкі губернатар. – Губернатарскі павільён на ярмарцы. – Мост праз Аку. – Судны, перагарадзіўшыя раку. – Агульны выгляд ярмаркі. – Цяжкасці ў знаходжанні жылля. – Я спыняюся на начлег у кавярні. – Невядомыя дагэтуль казюлькі. – Пых фельд’егера. – Месцазнаходжанне ярмаркі. – Аблічча разнастайных народаў. – Размяшчэнне ярмаркі. – Падземны горад. – Выдатная клаака: грандыёзнасць гэтага будынку. – Незвычайны выгляд жанчын. – Наваколлі ярмаркі. – Гарбатны гарадок. – Веташны гарадок. – Гарадок карэтнага лесу. – Гарадок сібірскага жалеза. – Паходжанне Ніжагародскай ярмаркі. – Фарсі паселішча. – Салёная рыба з Каспійскага мора. – Скуры. – Футры. – Паўночныя лаццароні. – Унутранасьць ярмаркі. – Дрэнны выбар месца. – Гандлёвы крэдыт расійскіх прыгонных. – Народны спосаб лячэння. – Добрасумленнасць сялян. – Як землеўладальнікі падманваюць прыгонных. – Барацьба самаўладдзя і арыстакратыі. – Кошт тавараў на Ніжагародскай ярмарцы. – Біруза, прывозімая бухарцамі. – Кіргізкія коні: іхная неразлучнасць. – Ярмарка пасьля заходу сонца. – Чароды ламавых возчыкаў, якія едуць стоячы на восі. – Сур'ёзнасць рускіх. – Яшчэ пра рускія песні.*

**Ніжні Ноўгарад, 22 жніўня 1839 года[330], вечар**.

Месца, дзе размешчаны Ніжні, – прыгажэйшае з усіх бачаных мною ў Расіі; тут ужо не проста нізкія скалы, якія прысадзістым валам цягнуцца ўздоўж берага вялікай ракі, не проста хвалепадобныя складкі мясцовасьці пасярод шырокай

[329] [заўвага аўтара] Із Масквы ў Ніжні будуюць брукаваны гасьцінец: хутка ён будзе завершаны.
[330] Згодна са старым стылем 10 жніўня.

раўніны, названыя пагоркамі; тут цэлая гара, сапраўдная гара, утвараючая мыс каля зліцця Волгі і Акі – двух аднолькава паўнаводных рэк, бо ў сваім вусьці Ака здаецца такой жа шырокай, як і Волга, і сваю назву яна страчвае тут толькі таму, што цячэ не так іздалёк. Ніжагародзкі верхні горад, пабудаваны на гэтай гары, узвышаецца над неабсяжнай, нібы мора, раўнінай; каля падножжа гэтага мыса пачынаецца цэлы не маючы краю свет, па суседстве ж з ім ладкуецца найвялікшая ў сьвеце ярмарка; штагод на працягу шасьці тыдняў каля зліцця Волгі і Акі сустракаюцца купцы абедзвюх самых заможных частак свету. Гэтае месца сапраўды маляўнічае; да гэтай пары ў Расіі я любаваўся па-сапраўднаму маляўнічымі выявамі толькі на маскоўскіх вуліцах ды ўздоўж пецярбургскіх набераэжных, але тыя ландшафты былі стварэннем чалавека; тут жа цудоўная сама прырода; а між тым старажытны ніжагародзкі пасад, замест таго каб стаяць тварам да абедзвюх речак, выкарыстоўваючы іх для свайго узбагачэння, застаецца зусім схаваным за гарою; губляючыся ўдалечыні ад берагоў, ён нібы пазбягае таго, што магло б скласьці яго славу і квітненне; такое яго неудалае размяшчэнне ўразіла імператара Мікалая, які ўсклікнуў, упершыню пабачыўшы тутэйшае месца: “У Ніжнім прырода зрабіла ўсё неабходнае, людзі ж усё сапсавалі”. Каб выправіць памылку заснавальнікаў Ніжняга Ноўгарада, зараз пад абрывам, на адным з двух мысаў, падзяляючых Волгу і Аку, будуецца новае прадмесьце ў выглядзе набярэжнай. Гэтае прадмесьце з кажным годам разрастаецца, становіцца больш значным і шматлюдным чым сам горад; старадаўні ж ніжагародзкі крэмль (які ёсць у кожным рускім горадзе) аддзяляе Стары Ніжні ад новага, размешчананага на правым беразе Акі.

Ярмарка размешчана на другім беразе той жа ракі, на нізіннай трохкутнай пляцоўцы паміж ёю і Волгай. Гэтая зямля складаецца із рачных наносаў ў тым самым месцы, дзе зліваюцца два патокі, г. зн. адным сваім бокам яна служыць берагам Ацэ, а другім – Волзе; тое ж адносіцца і да ніжагародскай скалы на правым беразе Акі. Гэтыя два берагі злучаны пантонным мастам, які вядзе із горада на ярмарку; ён здаўся мне такім жа доўгім, як мост праз Рэйн каля Майнца. Два мысы, падзеленыя толькі воднай прасторай, моцна адрозніваюцца адзін ад другога; адзін уздымаецца гарою над роўнай паверхняй, імя якой Расія, і паходзіць на велічэзны памежны слуп, на прыродай складзеную піраміду; гэты ніжагародзкая скала велічна ўзвышаецца пасярод навакольных абшараў; другі ж мыс, ярмарачны, туліцца ўровень з вадой, якая штогод яго затапляе; незвычайная прыгажосць такога кантрасту не схавалася ад погляду імператара Мікалая; гасудар, з уласцівай яму празарлівасьцю, адчуў, што Ніжні – адна із важнейшых мясьцін яго імперыі. Ён адчувае асаблівую павагу да гэтага сярэдзінага горада, якому садзйнічае сама прырода і ў якім сыходзяцца і збіраюцца разам народы самых дальніх краёў, прывабленыя ўладнай гандлёвай зацікаўленасьцю. У сваёй няспыннай турботлівасьці імператар не забываецца ні пра што, толькі б зрабіць горад больш прыгожым, больш шырокім і заможным; згодна яго волі вядуцца земляныя працы, будуюцца набярэжныя, усяго раздадзена падрадаў на семнадцаць мільёнаў, і сочыць за іх выкананнем асабіста гасудар. Для карысьці кароны і губерніі была зачынена Макарьеўская

ярмарка, якая некалі ладкавалася ва ўладаннях аднаго баярына на дваццаць лье ніжэй па цячэнню Волгі, бліжэй да Азіі; пазней імператар Аляксандр перанёс яе ў Ніжні[331]. Мне шкада той азіяцскай ярмаркі, якая праходзіла ў вотчыне старамаскоўскага князя: павінна быць, яна была маляўнічай і своеасаблівай, хоць і не такой грандыёзнай і спарадкаванай, як бачаная мною тут.

**~ 129 ~**

Я ўжо пісаў вам, што ў кожным рускім горадзе ёсць свой крэмль – як у кожным гішпанскім горадзе ёсць свой алькасар; ніжагародзкі крэмль мае ў акружнасьці каля паловы лье, з непадобнымі адна на другую вежамі і зубчатымі сьценамі, ідучымі змяёй па гары, куды больш высокай, чым пагорак маскоўскага Крамля.

Пабачыўшы гэтае ўмацаванне іздалёку, падарожнік не можа не здзівіцца; бліскучыя шпілі і белыя контуры цьвярдыні па частках адкрываюцца яму па-над чахлымі хвоямі; яна нібы маяк, на які ён накіроўваецца пасярод пяшчаных пустак, абцяжарваючых пад'езд да Ніжнім з боку Яраслаўля. Гэтая нацыянальная архітэктура вырабляе моцнае ўражанне; зацейлівыя вежы, нешта падобнае на хрысьціянскія мінарэты, якімі абавязкова аздоблены ўсякі крэмль, здаюцца тут яшчэ больш прыгожымі дзякуючы незвычайнаму рэльефу мясцовасці – сям-там побач з гэтымі творамі дойлідаў пачынаюцца сапраўдныя бяздонні. Унутры ўмацавання, як і ў Маскве, пракладзены лесвіцы, па якіх можна, ідучы ўздоўж умацавальных зубцоў, падняцца да верхняга грэбня скалы, завершанага высокай сьцяной; гэтыя велізарныя прыступкі, з вежамі па баках, з нахільнымі пад'ёмамі, з падтрымліваючымі іх скляпеннямі і аркадамі, утвараюць жывапісную выяву, адкуль ні паглядзі.

На Ніжагародскай ярмарцы, якая зараз стала буйнейшай у сьвеце, сустракаюцца самыя чужыя адзін аднаму народы, г. зн. самыя непадобныя па выгляду, па вопратцы і мове, па сваім вераванням і норавам. Жыхары Тыбета і Бухары – краін, суседніх з Кітаем, сыходзяцца тут з персамі, фінамі, грэкамі, англічанамі, парыжанамі; тут нібы сабраліся на Страшный суд купцы з усяго свету. Лік іншаземцаў, пастаянна знаходзячыхся ў Ніжнім на ўсім працягу ярмаркі, складае дзьвесьці тысяч[332]; людзі некалькі разоў змяняюцца, але агульная колькасць застаецца прыкладна аднолькавай; у некаторыя ж дні гэтага з'езду негацыянтаў у Ніжнім бывае адначасова да трохсот тысяч чалавек; сярэдні расход хлеба ў гэтым мірным лагеры – чатырыста тысяч фунтаў у дзень; пасьля ж заканчэння прамыслова-гандлёвых сатурналій горад вымірае. Уявіце, як дзіўна выглядае такі рэзкі пераход!.. Дзевяць месяцаў на год, пакуль ярмарка пустуе, у Ніжнім ледзь ці набіраецца дваццаць тысяч жыхароў, губляючыхся сярод яго шырокіх вуліц і бязлюдных плошчаў.

Падчас ярмаркі не здараецца асаблівых беспарадкаў; у Расіі беспарадак рэч немагчымая – то быў бы нават прагрэс, бо беспарадак – плён волі; імкненне ж да нажывы і патрэба ў раскошы, безперапынна ўзрастаючыя ўсюды аж да

---

[331] Макар'еўскі кірмаш быў перанесены із Макар'ева ў Ніжні Ноўгарад у 1817 г., пра што Кюстын мог прачытаць у Шніцлера (Schnitzler. p. 113).

[332] Лічба запазычана ў Шніцлера (Schnitzler. p. 119).

варварскіх плямёнаў, вядуць да таго, што нават напалову дзікія народы, накшталт тых, што прыязджаюць сюды із Персіі і Бухары, знаходзяць сваю выгаду ў грамадзкім спакоі і добрасумленнасьці; патрэбна ж да гэтага дадаць, што магометанам наогул уласьціва сумленнасць ў грашовых справах.

Я ўсяго некалькі гадзін ў гэтым горадзе і ўжо паспеў павідаць губернатора[333]; мне далі на яго імя некалькі вельмі вялікіх рекамендацыйных лістоў; для рускага ён здаўся мне гасьцінным і таварыскім. Мне будзе ўдвая цікава ўбачыць Ніжагародскую ярмарку пад яго кіраўніцтвам і з яго пункту гледжання – па-першае, азнаёміцца з ходам спраў, амаль невядомых французу, а па-другое, пракрасьціся ў лад думак тых людзей, якія служаць рускаму ўраду.

**~ 130 ~**

Гэты губернатар мае прозвішча слаўнае ў расійскай гісторыі з даўніх часоў: ён завецца Бутурлін. Бутурліны – старажытны баярскі род; зараз такое знатнае паходжанне сустракаецца рэдка. Заўтра расскажу вам пра свой прыезд у Ніжні, пра тое, як цяжка было мне знайсьці прыстанішча і як я нарэшце ўладкаваўся, калі толькі наогул можна сказаць, што я ўладкаваўся.

# працяг ліста

**23 жніўня 1839 года, раніца**

У Ніжнім на мосьце праз Аку мне ўпершыню ў Расіі сустрэўся натоўп народу; сапраўды, гэты вузкі пераход уяўляе адзіны шлях з горада на ярмарку; па ім жа трапляюць ў Ніжні з боку Яраслаўля. Пры ўездзе на ярмарку трэба звярнуць направа на мост, пакінуць злева ярмарачныя лаўкі і павільёны губернатара, які кожны ранак пакідае свой палац у верхнім горадзе і уладкоўваецца тут, каб з гэтага назіральнага паста ўлады вяршыць надзор і ўправу над усімі радамі, усімі лаўкамі і ўсімі справамі ярмаркі.

Слепячы вочы пыл, аглушальны шум, павозкі, пешаходы, жаўнеры, выстаўленыя для падтрымання парадку, – усё гэта абцяжарвае пераезд па масту, а паколькі судоў на рацэ так шмат, што не відаць вады, то пытаеш сябе – а, навошта ж гэты мост, калі рачное рэчышча здаецца сухім. Пры зліцці Волгі і Акі лодкі стаяць так шчыльна, што Аку можна перайсці пешшу, пераходзячы із джонкі ў джонку. Гэтым кітайскім словам я карыстаюся таму, што большая частка судоў, прыбываючых ў Ніжні, служыць для дастаўкі на ярмарку тавараў із Кітая, асабліва гарбаты. Усё гэта зачароўвае маё ўяўленне; не скажу, аднак, што ў аднолькавай ступені быў задаволены і мой позірк. На ярмарцы, якая складаецца цалкам з новых пабудоў, недастае маляўнічых выяваў.

Учора, пры ўездзе ў горад, здавалася мне, што нашы коні задавят чалавек дваццаць, перш чым мы дабяромся да прыбярэжнай Акі; гэтая прыбярэжная – новае прадмесьце Ніжняга, якое праз некалькі гадоў павінна разрасьціся. Доўгі шэраг дамоў цягнецца паміж Акой, набліжаючайся да свайго вусця, і абрывістым берагам, які сціскае з гэтага боку рачное рэчышча; грэбень абрыву натапырыўся

[333] Ніжагародзкім вайсковым і грамадзянскім губернатарам у 1831-1843 гг. быў Міхал Пятровіч Бутурлін (1786-1860), адружаны з Ганнай Пятроўнай, народжанай князёўнай Шахаўскай (1793-1861).

ўмацавальнымі сьценамі, утвараючымі знешні абвод ніжагародзкага крамля; сьцены і гара цалкам хаваюць ад погляду верхні горад. Ступіўшы нарэшце на жаданы бераг, я сутыкнуўся з новымі цяжкасьцямі: трэба было перш за ўсё недзе прытуліцца, а карчмы былі перапоўненыя. Мой фельд'егер стукаўся ва ўсе дзверы, але кожны раз вяртаўся з аднолькава нерухомай злой усмешкай, кажучы, што не здолеў знайсьці ні адзінага пакоя. Ён раіў мне прасіць прытылку ў губернатара; я ж не жадаў гэтага рабіць.

Нарэшце, доехаўшы да краю гэтай доўгай вуліцы, дзе пачынаецца дарога, крутым пад'ёмам вядучая ў Стары горад і праходячая пад цёмнай аркай ў тоўстай зубчатай умацавальнай сьцяне, а сама вуліца звужаецца, ідучы далей паміж прыбярэжным молам і падошвай скалы, мы заўважылі кавярню, што стаяла бліжэй за ўсё да Волгі. Наблізіцца да яе перашкаджаў рынак – невялікія крытыя рады, якія выдзялялі не вельмі прыемныя пахі. Тут я загадаў спыніцца і правесьці мяне ў кавярню, якая складалася не з адной залі, а з цэлага торжышча, занімаўшага доўгі шэраг памяшканняў. Гаспадар прыняў мяне з павагай і ветліва правёў скрозь шумны натоўп, які запаўняў усю гэтую чараду пакояў, дайшоўшы разам са мною да апошняй залы, як і іншыя застаўленую сталамі, за якімі сядзелі наведвальнікі ў шубах і пілі гарбату і моцныя напоі, ён паказаў, што не мае ні адзінага пакою, які б пуставаў.

– Гэтая зала знаходзіцца ў куце дома, – сказаў я яму, – у яе ёсць асобны ўвоход?

– Так.

– Ну дык зачыніце дзьверы, якія аддзяляюць яе ад іншых залаў кавярні і аддайце яго мне для прыстанішча.

Паветра ў гэтым пакоі было такое непрадыхлівае, што я адразу ж пачаў задыхацца; то было агіднае спалучэнне разнастайных вылучэнняў: тоўсты смрад аўчыны, мускусны пах дублёных скур (так званай рускай скуры), пахі змазаных ботаў, кіслай капусты (галоўной ежы сялян), кавы, гарбаты, лікёраў, гарэлкі – усё гэта пагушчала атмасферу. Я ўдыхаў сапраўдную атруту – але што рабіць? – То была апошняя магчымасць. Да таго ж я спадзяваўся, што, як толькі пакой вызваляць і добра вымыюць, дурныя пахі развеюцца разам з натоўпам наведвальнікаў. Ітак, я прымусіў фельд'егера растлумачыць гаспадару кавярні маю прапанову.

– Я страчу ў грошах, – адказваў той.



– Я заплачу столькі, колькі патрэбна; найдзіце толькі якое-небудзь прыстанішча для майго камердынера і кур'ера.

Наша пагадненне адбылося, і я нямала ганарыўся гэтым захопленым з бою смярдзючым пакойчыкам, за які з мяне ўзялі даражэй, чым за лепшыя апартаменты ў парыжскім "Гатэлі прынцаў". Хоць я і панёс страты, але суцяшаўся думкай аб атрыманай перамозе. Толькі ў Расіі, краіне, дзе чалавек, які лічыцца магутным, не ведае перашкод для сваіх жаданняў, можа ў імгненне вока ператварыць залу кавярні ў спальню.

Фельд’егер загадаў наведвальнікам выйсці вонкі; яны падпарадкаваліся без усякіх пярэчанняў і былі так-сяк размешчаны ў суседняй зале, дзверы якой зачынілі на той самы замок, які я апісаў вышэй. Уздоўж сьцен пакоя стаяла штук дваццаць сталоў; імгненна налятела цэлая хмара папоў у расах, г. зн. карчмарных палавых ў доўгіх рубахах, і вынесла ўсё абсталяванне. Але што я бачу? – із-пад кожнага стала, із-пад кожнага стуліка вылазіць процьма стварэнняў, якіх я яшчэ ні разу не бачыў, – чорных казюлек даўжынёю ў палову цаля, даволі тоўстых, друзлых, паўзучых, ліпкіх, смярдзючых і вельмі спрытных. Гэты смуродны гад вядомы ў некаторых краінах Усходняй Яўропы, на Валыні і Ўкраіне, у Расіі, а таксама, здаецца, і ў вялікай Польшчы; называюць яго там як быццам “персіка”[334], паколькі ён занесены із Азіі; якое імя яму давалі палавыя із ніжагародзкай кавярні, я не пачуў. Убачыўшы, што падлога ў маім прыстанішчы паўсюдна ўсеяна гэтымі кішачымі стварэннямі, якіх палавыя наўмысна і незнарок давілі нават не сотнямі, а тысячамі, асабліва ж адчуўшы дадатковы смурод, які выраблявцца пры іхным зьнішчэнні, я прыйшоў у роспач, хутка выскачыў із пакоя і памчаўся прэч з гэтай вуліцы прадстаўляцца губернатару. У маё гнюснае прыстанішча я вярнуўся толькі пасьля таго, як мяне не аднойчы запэўнілі, што яно вычышчана самым старанным чынам. Мой ложак, набіты нібыта свежым сенам, стаяў пасярод залі, усе яго чатыры ножкі былі пастаўлены ў міскі з вадой, і я ўсю ноч правёў пры свеце. Нягледзячы на ўсе гэтыя засцярогі, прачнуўшыся зранку пасьля цяжкага, трывожнага сну, я выявіў у сябе на падушцы двух-трох “персік”. Гэтыя стварэнні няшкодныя; але немагчыма перадаць, якую агіду яны ў мяне выклікаюць. Прысутнасць падобных казюлек ў людзкім жытле кажа пра такую неахайнасць і нядбайнасьць, што я міжвалі пашкадаваў пра сваю задуму – ездзіць па тутэйшых краях. На мой позірк, падпускаць да сябе нячыстыя стварэнні ёсць душэўнае прыніжэньне; фізічная гідлівасць тут выяўляецца мацнейшай за ўсе довады розуму.

Зараз, паведаміўшы вам пра свае няшчасьці і апісаўшы свае ліхія прыгоды, я больш не буду пра іх гаварыць. Для паўнаты выявы толькі скажу, што вакно ў пакоі, адвояваным мною ў кавярні, занавешана настольніцамі, прымацаванымі да рам жалезнымі вілкамі; ўнізе яны перацягнуты вяровачкай; два чамаданы, накрытыя персідзкім дываном, служат мне канапай; і ўсё іншае ў тым жа родзе.

Сёння раніцай мяне наведаў маскоўскі купец, гаспадар аднаго із самых заможных і буйных на ярмарцы магазінаў шаўковых тканін: ён пажадаў паказаць мне тут усё па парадку і ў падрабязнасьцях; пра вынікі гэтага агляду распавяду вам пазьней.

# працяг ліста

**24 жніўня 1839 года, вечарам**

[334] Пярэчанне Я. Таўстога гл. у заўвазе. да т. I, с. 374.

Тут зноў стала па-паўднёваму пыльна і задушліва горача, а таму на ярмарку мне параілі ехаць абавязкова ў экіпажы; але ў Ніжнім зараз такое нашэсьце іншаземцаў, што знайсьці сабе экіпаж я не змог; давялося выкарыстаць тую ж самую каляску, у якой я прыехаў із Масквы, і запрэгчы ў яе толькі двух коней, што мяне раззлавала так моцна, як быццам я ператварыўся ў рускага; у гэтай краіне зусім не із славалюбства ўсе ездзяць чацвёркамі; мясцовая парода коней – гарачая, але не вельмі дужая; яны могуць доўга скакаць, калі нічога не вязуць, у запрэжцы ж хутка стамляюцца. Як бы там ні было, ездзіць у калясцы з параю коней выявілася зручна, хоць і не занадта вытанчана; так я і катаўся ўвесь дзень па ярмарцы і па гораду.

Сядаючы ў гэтую каляску разам з купцом, ласкава выклікаўшымся мяне праводзіць, і з яго братам, я загадаў фельд’егеру кіравацца за мной. Той, не вагаючыся, не пытаючыся дазволу, рашуча ўскочыў у экіпаж і з уражваючай самаўпэўненасьцю сеў побач з братам с-ра ***, які, нягледзячы на мае запрашэнні, захацеў ехаць на пярэднім сядзенні.

У гэтай краіне нярэдка можна бачыць, як гаспадар экіпажа, нават калі побач з ім няма жанчыны, займае заднія месцы, у той час як яго сябры сядзяць наперадзе. Такая непачцівасць, ў нас дазвеная толькі пры вельмі цесным знаёмстве, нікога тут не здзіўляе.

Баючыся, што ехаць бок аб бок з кур'ерам будзе зазорным для маіх ласкавых праважатых, я палічыў сваім абавязкам высадзіць гэтага чалавека і вельмі мякка прапанаваў яму залезці на перадок, побач з фурманам.



– Не буду я гэтага рабіць, – адказваў мне фельд’егер з халодным спакоем.

– Чаму вы не слухаецеся? – спытаў я яшчэ спакайней, ведаючы, што, маючы стасункі з гэтай напалову ўсходняй нацыяй, варта дзеля падтрымкі свайго аўтарытэту нікому не саступаць ў безстароннасьці.

Мы размаўлялі па-нямецку.

– Для мяне гэта будзе непрыстойна, – адказаў мне рускі ўсё тым жа тонам. Тут мне прыйшлі на розум баярскія спрэчкі пра месцы ў думе, наступствы якіх у часы царавання Янаў бывалі такімі сур'ёзнымі, што ім адведзена шмат старонак расійскай гісторыі.

– Што азначае непрыстойна? – запытаў я. – Хіба гэта не тое месца, якое вы мелі з самага нашага ад’езду із Масквы?

– Так, спадар, гэта маё месца ў дарозе; пры гулянні ж я павінен сядзець ўнутры. Я ж нашу мундзір.

Мундзір яго, апісаны мной ў іншым месцы, – проста-напраста адзенне паштовага рассыльнага.

– Я, спадар, нашу мундзір, у мяне ёсць чын; я не лакей, я слуга імператара.

– Мне мала справы да таго, хто вы такі; ды я і не казаў, што вы лакей.

– Я б так выглядаў, калі б сеў на гэтае месца падчас гуляння па гораду. Я служу ўжо не першы год, у якасьці ўзнагароды за прыкладныя паводзіны мне абяцаюць дваранства; і я хачу атрымаць яго, у мяне ёсць сваё славалюбства.

Мяне ўразіла такое змешванне нашых старадаўніх арыстакратычных разуменняў з найноўшым славалюбствам, якое недаверлівы дэспат абуджае ў хваравіта зайзроcлівых просталюдзінах. Перада мною быў узор пагоні за адрозненнямі ў самым горшым яго выглядзе, калі выслугоўваючыся напускае на сябе выгляд ужо выслужыўшагася.

Імгненне памаўчаўшы, я загаварыў зноў:

– Адабраю ваш гонар, калі ён абаснаваны; але, быдучы мала абазнаным ў звычаях вашай дзяржавы, я хачу, перш чым дазволіць вам сесьці ў экіпаж, паведаміць пра вашы дамаганні спадару губернатару. Я маю намер патрабаць з вас не больш за тое, што вы абавязаны, згодна з атрыманым вамі загадам; так як з’явіліся сумненні, то на сёння я вызваляю вас ад службы; я паеду без вас.

Мне самаму быў смешным той велічны тон, якім я прамаўляў; але я лічыў, што такая вонкавая значнасць неабходна, каб адгарадзіць сябе ад нечаканасьцей да канца паездкі. Няма такага камізма, які б не прабачаўся ўмовамі і непазбежнымі наступствамі дэспатызма.

Гэты чалавек, прэтэндуючы на дваранства і старанна пільнуючы дарожны этыкет, пры ўсёй сваёй ганарыстасьці абыходзіцца мне ў трыста франкаў жалавання штомесяц; пасьля апошніх маіх слоў ён пачырванеў і, не адказаўшы ні слова, вылез нарэшце з калaскі, у якой да таго часу такі непачціва сядзеў; моўчкі вярнуўся ён дадому. Не адмоўлюся коратка распавясьці губернатару пра вышэйапісаннае здарэнне.

Месца, дзе размяшчаецца ярмарка, вельмі шырокае, а жыву я вельмі далёка ад маста, які вядзе да гэтага мястэчка, якое засяляецца на адзін месяц у год. Прыйшлося прызнаць, што я правільна зрабіў, паехаўшы ў калясцы, я б знямог, яшчэ не дабраўшыся да ярмаркі, калі б быў вымушаны пераадолець гэты шлях пешшу па пыльных вуліцах, па адкрытай набярэжнай і праз мост, дзе сонца паліць цэлы дзень, а дні пакуль яшчэ доўжацца прыкладна па пятнаццаць гадзін, хаця з наступленнем восені яны пачнуць імкліва памяншацца.

На ярмарцы сустракаюцца людзі з усіх краін свету, асабліва з дальніх краёў Усходу; аднак гэтыя людзі больш незвычайныя іменамі, чым абліччам. Усе азіяты паходзяць адзін на другога, ці, ва ўсякім разе, іх можна падзяліць на дзве катэгорыі: у адных, твары як у малпаў (калмыкі, манголы, башкіры, кітайцы), у другіх грэцкі профіль (чаркесы, персы, грузіны, індыйцы і інш.).

Ніжагарадзкая ярмарка размяшчаецца, як я ўжо казаў, на велізарным трыкутніку пяшчанай, цалкам плоскай сушы, які ўтварае мыс паміж Акою і шырокім рэчышчам Волгі, куды гэтая рака упадае. З абодвух бакоў гэтая пляцоўка прымыкае, такім чынам, да адной із рэк. Зямля, на якой збіраецца столькі багаццяў, амаль не ўзвышаецца над узроўнем вады; таму ўздоўж берагоў Акі і Волгі стаяць адны толькі хлявы, хаткі і таварныя склады, сам жа ярмарачны гарадок размяшчаецца дастаткова далёка ад вады, каля асновы ўтвараемага двума рекамі трохкутніка; з боку бясплоднай раўніны, просьціраючайся на захад і паўночны-захад, у напрамку Яраслаўля і Масквы, ён абмежаваны толькі тымі межамі, якія пажадаюць паставіць яму людзі. Гэты шырокі гандлёвы гарадок складаецца із шырокіх, доўгіх і зусім прамых вуліц; такое ўладкаванне шкодзіць

маляўнічасьці цэлага; над лаўкамі ўзвышаецца каля тузіна павільёнаў мудрагелістага стылю, названых кітайскімі, але іх недастаткова, каб скрасіць маркотную аднастайнасць агульнага выгляду ярмаркі. Гэты прастакутны базар здаецца бязлюдным, настолькі ён вялікі: варта паглыбіцца ў шэрагі яго лавак, як натоўпу ўжо больш не відаць, у той час як у падыходах да гэтых вуліц месцяцца цэлыя арды. Ярмарочны гарадок, як і ўсе сучасныя горады Расіі, занадта прасторны для свайго насельніцтва, а між тым вам ужо вядома, што сярэдняя колькасць гэтага насельніцтва складае дзвесьці тысяч душ штодня; праўда, у гэтую велізарную колькасць прыезджых варта ўключыць і ўсіх тых, што размяшчаецца на рэкам, на суднах, якія даюць прытулак цэламу народу вадаплаваючых істот, а таксама па палаткавых лагерах, што атачаюць ярмарку як такую. Жыллё купцоў стаіць паверх другога, падземнага гораду – гэта цудоўная скляпеністая клаака, велізарны лабірынт, дзе без дасведчанага правадніка можна заблудіцца. Кожнаму ярмарачнаму раду адпавядае падземная галерэя, якая цягнецца пад ім на ўсю яго даўжыню і служыць сцёкам для бруду. Гэтыя сцёкі, выкладзеныя цёсаным камнем, некалькі разоў на год прамываюцца з дапамогай шматлікіх насосаў, пампуючых ваду із бліжэйшых рэк. У падземныя галерэі можна прабрацца па шырокіх лесвіцах, складзеных із выдатнага каменя. Калі нехта надумаецца смяціць на вуліцах базарнага гарадка, то назіраючыя за парадкам на ярмарцы казакі ветліва запрашаюць яго спусціцца ў гэтыя катакомбы для бруду. Гэта адно із самых грандыёзных збудаванняў, бачаных мною ў Расіі. Тут ёсць узоры, якія маглі б пераняць будаўнікі парыжскіх сцёкаў. Па сваёй велічыні і трываласьці гэта нагадвае Рым. Падзямеллі былі пабудаваныя імператарам Аляксандрам, які згодна з прыкладам сваіх папярэднікаў меў намер перамагчы прыроду, уладкаваўшы ярмарку на месцы, шэсць месяцаў на год залітаму вадой. Ён выдаткаваў шматлікія мільёны, каб выправіць наступствы свайго неабачліва рашэння перанесьці ў Ніжні Макар’еўскую ярмарку.

**~ 133 ~**

Пры ўпадзенні ў Волгу Ака разы ў чатыры шырэйшая за Сену; рака аддзяляе пастаянны горад ад ярмарачнага гарадка; на ёй стаіць столькі суднаў, што на працягу паловы лье праз іх не відаць вады. На суднах, ператвораных ў шатры плавучага бівуака, кожную ноч сяк-так знаходзяць прытулак сорак тысяч чалавек. Гэты водаплаваючы люд можа ўладкавацца дзе заўгодна – на мяшку, на бочцы, на лаўцы, на дошцы, на дне лодкі, на скрыні, на палене, на камені, на згорнутым парусе; усякі ложак прыдатны для іх, і спяць яны не распранаючыся; выбраўшы сабе ляжанку, разсьцілаюць на ёй аўчынны кажух і лажацца на ім як на цюфяку. Навала судоў нібы пакрывае раку рухомым паркетам. Вечарамі з гэтага воднага гарадка даносяцца глухія гукі, людская галасы, зліваюцца з бурленнем хваль; часам з незаселенай на выгляд выспы, складзенай із лодак, чуюцца песьні; сапраўды, асабліва цікава тое, што на знешні погляд судны, адкуль раздаюцца гукі, пустыя – ва ўсякім выпадку ўдзень; іхныя насельнікі толькі начуюць на іх, ды і то залазаць ў трумы і хаваюцца пад вадой, як мурашкі пад зямлёй. Дакладна такая ж навала лодак знаходзіцца і на Волзе каля вусця

Акі, сустракаюцца яны таксама і па плыні Акі, значна вышэй ніжагародзкага пантоннага маста. Адным словам, куды ні кінеш позірк, ён усюды натыкаецца на шэрагі судоў, іншыя з якіх адрозніваюцца дзіўнай формай і афарбоўкай; над усімі суднамі ўзвышаюцца мачты, і ўсё гэта разам падобна на амерыканскае балота – гэта затоплены лес, заселены людзьмі, з'ехаўшыміся з усіх куткоў зямлі і апранутымі так жа мудрагеліста, як і іхны выгляд і фізіяноміі. Больш за ўсё ўразілі мяне на гэтай велізарнай ярмарцы менавіта заселеныя людзьмі рэкі, нагадваючыя апісанні тых кітайскіх гарадоў, дзе рэкі становяцца вуліцамі і людзі, пра недахоп места на сушы, жывуць на вадзе.

У гэтай часцы Расіі сяляне часта носяць белыя з чырвонай вышыўкай рубахі навыпуск; такая вопратка запазычана ў татар. Удзень ён блішчыць на сонцы, а ноччу белая тканіна прывідам выступае із цемры; ў цэлым ярмарка мае выгляд надзвычай маляўнічы, але занадта ўжо шырокі і плоскі; яна не дазваляе агледзець сябе з першага погляду і тым падманвае маю цікавасць. Ніжагарадзкая ярмарка хоць і вартая ўвагі, але зусім не маляўнічая: як чарцёж адрозніваецца ад малюнка; тут больш спраў для чалавека, які занімаецца палітычнай эканоміяй, прамысловасьцю, арыфметыкай, чым для паэта або мастака; бо тут адбываецца гандлёвы абмен паміж двума галоўнымі часткамі сьвету – не больш і не менш. Паўсюль у Расіі я бачу, як яе па-галандзкі дробязны урад ханжаскі заглушае прыродныя якасьці свайго народа – кемлівых, вясёлых, паэтычных жыхароў Усходу, прыродных мастакоў.

На прасторных вуліцах ярмаркі можна знайсьці разам розныя тавары з усяго свету, аднак усе яны неяк губляюцца; самы рэдкі тавар – пакупнікі; што б я ні бачыў у гэтай краіне, я кожны раз усклікаю: "Занадта шмат месца і вельмі мала людзей". Тут усё інакш, чым у краінах са старажытным мінулым, дзе для цывілізацыі не хапае зямлі. Самыя хупавыя і вытанчаныя лаўкі на ярмарцы – французкія і ангельскія; там ты нібы трапляеш ў Парыж або Лондан; але не гэтая левантыйская Бонд-стрыт, ці не гэты стэпавы Пале-Руаяль[335] складаюць сапраўднае багацце ніжагародскай ярмаркі; каб дакладна зразумець значенне ярмаркі, трэба ўспомніць аб яе паходжанні, пра тое, дзе яна ўладкоўвалася першапачаткова. Да Макарьева яна размяшчалася ў Казані[336]; у Казань з'язджаўся народ з абодвух канцоў Старога Свету: Заходняя Яўропа і Кітай сустракаліся разам у старажытнай сталіцы рускай Татарыі, каб абмяняцца сваімі вырабамі. Тое ж самае адбываецца зараз у Ніжнім; але скласьці поўнае ўяўленне пра гэты рынак, куды дасылаюць свае вырабы два кантыненты, нельга, не адышоўшы прэч ад прамалінейных гандлёвых шэрагаў і вытанчаных "кітайскіх" павільёнаў, што упрыгожваюць базар, збудаваны Аляксандрам; трэба перш за ўсё агледзець стойбішчы, якія абступаюць з разных бакоў добраўпарадкаваную ярмарку. Лінейка і шнур архітэктара ўслед за гандлем даходзяць да гэтых ускаін,

[335] Бонд-стрыт — гандлёвая вуліца Лондана, Поле-Руаяль — парыжскі палац, рэзідэнцыя герцагаў Арлеанскіх; на прыканцы XVIII стагоддзя тагачасны ўладальнік палаца, Піліп-Эгалітэ, прыбудаваў да яго тры галерэі, якія здаваў у наймы разнастайным гандлярам, ператварыўшы Поле-Руаяль у адзін із «камерцыйных» цэнтраў Парыжа.
[336] Гл.: Schnitzler. p. 117.

уяўляючых як бы задні двор замка ці ж ферму пры ім; якой бы пышнай і бліскучай ні была асноўная пабудова, у гаспадарчых пабудовах пануе вечнае бязладдзе – плён прыроджанай неахайнасці і непазбыўнай нястачы.



Агледзець нават бегла гэтыя ўскрайныя склады – нямалая праца, бо велічынёю яны не ўступаюць цэлым гарадам. У іх адбываецца бесперапынны, сапраўды уражваючы рух-хаос куплі-прадажы, дзе можна заўважыць такое, у што цяжка паверыць, пакуль не ўбачыш сваімі вачамі альбо не пачуеш апавяданні сур'ёзных і годных даверу людзей, дададзеныя разлікамі.

Пачнем з гарбатнага гарадка: гэтае азіяцкае стойбішча раскінулася па берегах абедзвюх рэк, на самай стрэлцы каля іхнага зліцця. Гарбату прывозяць у Расію праз Кятку[337], размешчаную ў глыбіні Азіі; пры гэтай першай пералвалцы яго абменьваюць на тавары; адсюль яго вязуць у цюках, падобных на скрыні-кубікі, велічынёю каля двух футаў у кожны бок; гэтыя цюкі складаюцца з асновы, абцягнутай скурай, і пакупнікі пратыкаюць іх адмысловымі шчупамі, каб, выцягнуўшы свой зонд, даведацца пра якасць тавара. З Кяткі гарбата па сушы перавозіцца да Томска; там яго загружаюць на караблі і вязуць па некалькіх рэках, галоўныя з якіх Іртыш і Табол; так ён прыбывае ў Турмін[338], адкуль едзе зноў па сушы да сібірскага горада Перм, адтуль па рацэ Каме ўніз да Волгі і затым зноў уверх да Ніжняга; кожны год Расія атрымлівае ад сямідзесяці пяці да васьмідзесяці тысяч скрынь гарбаты, з якіх палова застаецца ў Сібіры і перавозіцца ў Маскву зімой на санях, а другая палова прыбывае на тутэйшую ярмарку.

Гэты маршрут запісаў для мяне найбуйнейшы гарбатны гандляр Расіі. Не ручаюсь ні за арфаграфію, ні за геаграфію гэтага заможнага чалавека; але часцей за ўсё міліянеры выяўляюцца правымі, бо яны купляюць чужую вучонасьць.

Як бачыце, гэтая знакамітая караванная гарбата, нібыта тонкая на смак таму што перавозіцца па сушы, на самай справе ж амаль усю дарогу падарожнічае па вадзе; вядома, гэтая вада прэсная, і рачныя туманы ўздзейнічаюць на яе куды слабей марскіх... А дарэчы, калі я не ў сілах што-небудзь растлумачыць, то абмяжоўваюся тым, што проста пазначаю гэта.

Сорак тысяч скрынь гарбаты – гэта лёгка сказаць, але немагчыма сабе ўявіць, колькі часу забірае іхны агляд, нават калі проста, не пералічваючы, хадзіць уздоўж наваленых кучаю цюкоў. У гэтым годзе іх прадалі за тры дні трыццаць пяць тысяч. Я паглядзеў навесы, пад якімі яны складзеныя; чатырнаццаць тысяч із іх купіў адзін чалавек – мой купец-географ – за дзесяць мільёнаў рублёў срэбрам (папяровых рублёў больш няма), з аплатаю часткова на месцы, а часткова праз год.

Коштам на гарбату вызначаюцца цэны на ўсе іншыя тавары ярмаркі; да таго часу пакуль яна не стане вядомай, астатнія пагадненні заключаюцца толькі ўмоўна. Другі ярмарачны гарадок, такі ж вялікі, але не такі вытанчаны і пахучы,

---

[337] Кятка — Кяхта, заснаваны ў 1727 г. цэнтр гандлю з Кітаем.

[338] Турмін — відаць, кантамінацыя назваў двух портаў на рацэ Туры (прытоку Табола): Цюмені і Турынска.

як гарбатны, – гэта веташны гарадок. Сюды зносяць рыззё з усёй Расіі – добра яшчэ, што папярэдне яго адбельваюць. Гэты тавар, неабходны для вырабу паперы, так падняўся у кошце, што руская таможня з надзвычайнай строгасьцю забараняе вывозіць яго за мяжу.

Яшчэ адзін гарадок прыцягнуў маю ўвагі сярод усіх прылягаючых да ярмаркі торжышчаў: там прадаюць сталярную драўніну. Падобна прадмесцям Вены, гэтыя ярмарачныя прыгарады буйнейшыя за сам горад. У тым, пра які я апавядаю, ідзе гандаль сібірскай драўнінай для павозачных колаў і конскіх дуг. Гэта тое самае паўкола, якое замацоўваецца такім самабытным і маляўнічым манерам на канцы аглабель і ўзвышаецца над галавой карэнніка; робяць яго із суцэльнага куска дрэва, выгнутага пад парам, таксама з суцэльных кавалкаў вырабляюць і колавыя абады; запасы ашкуранай драўніны, патрэбныя каб забяспечыць усю Заходнюю Расію дугамі і абадамі, грувасцяцца тут гарамі, якім нашы парыжскія лясныя двары не складаюць нават слабога падабенства.

**~ 135 ~**

Яшчэ адно ярмарачнае прадмесьце, здаецца самае шырокае і цікавае з усіх, служыць складам сібірскага жалеза. На чвэрць лье цягнуцца тут навесы, пад якімі маляўніча разкладзены жалезныя пруты розных гатункаў, за імі ідуць краты, за імі скабяныя вырабы; цэлыя пірамідзы складзеныя із земляробчых прылад і прылад хатняга побыту. Ёсць тут і пабудовы, застаўленыя чыгуннымі гаршкамі, – сапраўднае царства металу; тут разумееш, як шмат ён значыць для дабрабыту ўсёй імперыі. Гэтае багацце абуджае жах. Колькі ж патрабуецца зняволеных, каб распрацоўваць такія руднікі! А калі злачынцаў нехапае, даводзіцца памнажаць іх спецыяльна – дакладней, памнажаць няшчасных; ў падземным свеце, дзе здабываецца жалеза, гіне палітыка прагрэсу, радуецца дэспатызм – дзяржава ж квітнее!! Цікава было б даведацца – калі б толькі гэта дазвалялася іншаземцам, – якому абыходжанню падвяргаюцца ўральскія рудакопы; толькі патрэбна агледзець ўсе самастойна, не давяраючы напісаным паперам. Выканаць гэты намер для заходняга европейца было б так жа складана, як хрысціяніну пабываць ў Мецы.

Усе гэтыя гандлёвыя мястэчкі, мяжуючыя з галоўным, утвараюць толькі знешняе атачэнне; яны бязладна раяцца вакол самой ярмаркі; калі ж іх ахапіць аднай агульнай гарадзкой рысай, то яе даўжыня выявіцца такой жа, як у буйной еўрапейскай сталіцы. Каб абыйсьці ўсе гэтыя хутка пабудаваныя прадмесьці, якія з’яўляюцца прыдаткамі асноўнай ярмаркі, не хапіла б і ўсяго дня. Немагчыма усё пабачыць ў гэтай бездані багацця; даводзіцца выбіраць; ды да таго ж духата апошніх спякотных дзён, пыл, даўка і благія пахі забіраюць ўсе фізічныя магчымасьці і прытупляюць працу розуму.

Тым не менш я глядзеў на ўсе вочы, як быццам мне дваццаць гадоў – так жа сапраўды ўсё заўважаючы, хоць і з меншай цікавасьцю.

Буду апавядаць карацей – у Расіі, прывыкаешь да аднастайнасьці, такое тут жыццё, але вы ж будзеце чытаць мае лісты ў Францыі, і я не магу спадзявацца, што вы будзеце такімі ж памяркоўнымі, як я тут. Вы і не абавязаны

быць церпялівымі – вы ж не праехалі тысячу лье, каб вучыцца гэтай цноце пераможаных.

Забыўся сказаць пра мястэчка кашамірвай воўны. Гледзячы на гэтую запыленную, непрывабную на выгляд кудзелю, звязаную ў велізарныя стосы, я разважаў пра цудоўныя плечы, якія яна аднойчы атуліць, пра цудоўнае адзенне, якое яна сабою ўпрыгожыць, ператварыўшыся ў шалі на мануфактурах барона Цёрна[339] і іншых.

Пабачыў я таксама футравае мястэчка і мястэчка паташнае; я намерана карыстаюся словам ”мястэчка”- таму што толькі яно передае, як шырока раскінуліся розныя сховішчы вакол ярмаркі, надаючы ёй грандыёзнасць, якой не ведаюць ярмаркі ў іншых краінах.

Падобны камерцыйны цуд мог паўстаць толькі ў Расіі; каб стварыць Ніжагародзкую ярмарку, павінна быць моцная цяга да раскошы ў напалову дзікіх народаў, якія жывуць празмерна далёка адзін ад другога, без хуткіх і лёгкіх сродкаў для стасункаў; патрэбна такая краіна, дзе праз суровы клімат кожнае паселішча частку года выяўляецца адрэзаным ад усяго астатняга свету; злучэнне гэтых абставінаў, а таксама, магчыма, і іншых, якіх я не здолеў распазнаць, неабходна было для таго, каб купцы гэтай шчодрай імперыі не маглі весці гандаль паўсядзённа і патроху і вымушаны былі затрачваць магчымасьці і сродкі на штогадовае звязенне ўсіх багаццяў зямлі і прамысловасьці ў адзін час і ў адно месца дзяржавы. Можна уявіць, што ў будучым – думаецца, даволі хуткім, – з развіццём матэрыяльнай цывілізацыі ў Расіі Ніжагародзкая ярмарка страціць сучаснае значэнне. Сёння ж, паўтараю, гэта самая вялікая ярмарка ў сьвеце.

У адным із ярмарачных прадмесьцяў, за рукавом Акі, размяшчаецца фарсі паселішча, усё лаўкі ў якім запоўнены толькі таварамі із Персіі; сярод найбольш прыкметных рэчаў, прывезеных іздалеку, асабліва захапілі мяне дываны, на выгляд проста цудоўныя; а таксама скруткі шоўку-сырцу і тэрмаламы – нешта накшталт шаўковага кашаміру, які нібыта выробляюць толькі ў Персіі. Дарэчы, мяне б не здзівіла, калі б самі рускія выраблялі гэтую тканіну у сябе, выдаючы яе за прывазны тавар. Але гэта ўсяго толькі здагадка, і падмацаваць яе нейкімі фактамі я не магу.



Твары пярсідцаў не вельмі ўражваюць ў тутэйшых краях, дзе мясцовыя жыхары – самі азіяты і захоўваць адбітак свайго паходжання.

Мяне правялі па мястэчку, адведзенаму адзіна для сушанай і салёнай рыбы, якую прывозяць із Каспійскага мора, каб есьці падчас рускіх пастоў. Праваслаўныя ў вялікай колькасьці спажываюць гэтых марскіх мумій. За чатыры месяцы свайго пасту маскоўцы ладна ўзбагачаюць магаметан із Персіі і Татарыі. Рыбнае мястэчка размяшчаецца на самым беразе; вытрыбушаныя марскія чудішчы часткай разложаны на сушы, часткай ляжаць навалам ў трумах караблёў, якія іх прывезлі; калі б рыбных тушак не налічвалася тут мільёны, то

---

[339] Церна Луі Гіём, барон (1763-1833) — прамысловец, уладальнік фабрык, дзе выробляўся французскі кашмір.

ўся выява была б падобнай на музей натуральнай гісторыі. Называюць іх, здаецца, “сордак”. Нават на адкрытым паветры ад іх зыходзіць непрыемны пах. Яшчэ адно мястэчка – гарбарнае, якое ў Ніжнім надзвычайна вялікае, бо сюды звозяць скуры для задавальнення патрэб ўсёй Заходняй Расіі. Іншае мястэчка – футравае; тут можна знайсьці скуры разнастайных звяроў, пачынаючы ад собаля, блакітнага пясца і дарагіх мядзвежых скур, шуба з якіх абыходзіцца ў дванаццаць тысяч франкаў, і да звычайнай лісы і ваўка, якія ідуць за бясцак; ахоўнікі гэтых скарбаў на ноч ладкуюць сабе шатры са свайго тавара – маляўнічыя прыстанішчы дзікуноў. Гэтыя людзі, хоць і жывуць ў халодных краях, задавальняюцца малым: апрануты яны блага, спяць у яснае надвор'е пад адкрытым небам, а ў час дажджу хаваюцца ў норы пад кіпамі тавараў; яны прама-такі паўночныя лацароні – не такія вясёлыя, вострыя на язык і рухомыя асобы, як лацароні неапалітанскія, затое яшчэ больш неахайныя, так як адсутнасць чысьціні цела злучаецца ў іх з брудным адзеннем, якое ім немагчыма з сябе зняць.

Вышэйпрачытаннага вам будзе дастаткова, каб скласьці сабе ўяўленне аб знешнім выглядзе ярмаркі; нутро ж яе, паўтараю, куды менш цікавае; сваім выглядам яно рэзка і непрыемна адрозніваецца ад знешніх мястэчак. Там, знадворку, раз’язджаюць павозкі, ручныя каляскі, там сумятня, шум, даўка, крыкі, спевы – увогуле, вольнасць! Тут жа, ўнутры, зноў правільны парадак, цішыня, бязлюддзе і паліцыя – адным словам, Расія!

Бясконцыя шэрагі дамоў, дакладней лавак, стаяць тут паміж доўгіх шырокіх вуліц, якіх усяго ці то дванаццаць, ці то трынаццаць і ў канцы якіх размяшчаецца руская царква і дванаццаць кітайскіх павільёнаў. Калі абыйсьці ўсю ярмарку, прайшоўшы па кожнай вуліцы, ад лаўкі да лаўкі, то давядзецца пакрыць дзесяць лье. Так мне сказалі, але я з цяжкасьцю магу ў гэта паверыць. Майце на ўвазе, што тут гаворка ідзе толькі пра асноўнае ярмарачнае мястэчка, – мы пакінулі шум і гам яго прадмесцяў, каб апынуцца ў цішы базара, ахоўваемага казакамі, якія сур'ёзнасьцю і скаванасьцю рухаў і строгай выканаўчасьцю – ва ўсякім разе ў службовы час – не вельмі саступаюць нямым прыслужнікам сераля.

Імператар Аляксандр, выбраўшы для ярмаркі новае месца, даў загад аб неабходных для яе ўладкавання працах; сам ён ніколі ярмаркі не бачыў і таму не ведаў, наколькі велізарныя выдаткі прыйдзецца дадаць да іншых выдаткаў скарбу і ўжо пасьля яго сьмерці закапаць у зямлю на гэтай пляцоўцы, занадта нізіннай для прызначанага ёй выкарыстаня. Дзякуючы нечувалым намаганням і вялізным выдаткам ярмарка зараз прыгодна для жылля ў летні час; для гандлю больш і не патрэбна. Тым не менш, яна размешчана дрэнна: у сонечнае надвор'е тут пыльна, а ў дажджлівае – брудна; да таго ж пры любым надвор'і гэтае месца нezздаровае – нямала нязручнасцьцей для купцоў, вымушаных на працягу паўтара месяца начаваць ў верхніх паверхах сваіх лабазаў.

Пры ўсёй любові рускіх да прамых ліній шмат хто тут лічаць, што лепш было б размясціць ярмарку па суседству са старым горадам, на грэбні горы; для под’ёму туды можна было б пракласьці выдатную дарогу з неадчувальна спадзістым схілам і з цудоўным выглядам на наваколлі; унізе ж, на беразе Акі,

складваліся б толькі самыя цяжкія і грувасткія рэчы, якія цяжка цягнуць на пагорак. Такім чынам, жалеза, лес, поўсць, рыззё, гарбата заставаліся б блізу судоў, на якіх прывезены, а гандаль вёўся б з поўным бляскам на прасторным ўзвышшы каля брамы верхняга горада; месца ва ўсіх адносінах больш зручнае, чым цяперашняе! Толькі ўявіце сабе высокі бераг, заселены адразу ўсімі народамі Азіі і Яўропы! Такая шматмоўная гара выраблялa б цудоўнае ўражанне; балота ж, дзе зараз корпаюцца ўсе гэтыя качавыя плямёны, уражвае мала.

Сучасныя інжынеры, такія майстэрскія ва ўсіх краінах, знайшлі б тут прымяненне сваім здольнасьцям; прыхільнікі механікі задавальнялі б сваё захапленне выглядам разнастайныях машын, якія давялося б вынайсьці для падымання тавараў на гару; а паэты, мастакі, аматары прыгажосьці і маляўнічых краявідаў, проста цікавыя вандроўцы, якія складаюць цэлае племя ў наша стагоддзе, у мностве параджаючыя не толькі людзей справы, але і фанатыкаў бяздзейнасьці, – усе гэтыя людзі, карысныя грамадству дзякуючы грашам, якія яны выдаткуюць, атрымалі б цудоўне месца для гуляння, куды больш прывабнае, чым тое, што адведзена ім на цяперашнім базары, дзе няма ніякага кругагляду, а дыхаць даводзіцца смуродам; нарэшце, заслугоўвае ўвагі і тое, што імператару гэта абышлося б куды больш танна, чым ён выдаткаваў на сваю прыбярэжную ярмарку – мястэчка, заселенае адзін месяц на год, плоскае як настольніца, летам раскаленае як саванна, зімою ж сырое як скляпенне.

**~ 137 ~**

Галоўнымі купцамі на гэтай небачанай ярмарцы выступаюць рускія сяляне. Між тым закон забараняе прыгоннаму прасіць, а вольным людзям даваць яму крэдыт больш чым на пяць рублёў. І вось з некаторымі з іх заключаюцца пагадненні пад слова сумлення на дзвесці-пяцьсот тысяч франкаў, прычым тэрміны плацяжоў бываюць вельмі аддаленымі. Гэтыя рабы-мілліянеры, прыгонныя Агуадо[340], не ўмеюць нават чытаць. Сапраўды, у Расіі чалавек часам замяшчае сваё невуцтва незвычайнымі затратамі кемлівасьці. У краінах асвечаных нават тупіцы ў дзесяцігадовым ўзросьце ведаюць тое, што ў адсталых грамадствах спасьцігаецца толькі людзьмі вялікага розуму, ды і то толькі к гадам трыццаці.

Народ у Расіі не ведае арыфметыкі; усе разлікі ён са старадаўніх часоў выконвае з дапамогай драўлянай рамкі, унутры якой змешчаны рады рухомых шарыкаў. Кожны рад афарбаваны ў свой колер, азначаючы адзінкі, дзесяткі, сотні і так далей. Гэта надзейны і хуткі спосаб лічэння.

Не забывайце, што ўладальнік такога прыгоннага мілліянера хоць заўтра можа адабраць у яго ўсё, што той мае; ён абавязаны толькі клапіцца пра яго харчаванне; праўда, выпадкі падобнага насільства рэдкія, але яны магчымыя.

Ніхто не памятае, каб хоць адзін купец, даверыўшыся сумленнаму слову сяляніна, быў падмануты ў гандлёвым пагадненні: сапраўды ва ўсякім

[340] Агуадо Алехандра Марыя (1784-1842) — іспанскі фінансыст, які выратаваў Гішпанію ад банкруцтва пасля крушэння напалеонаўскай імперыі дзякуючы сваім камерцыйным сувязям з Францыяй.

стасавацца паміж сабой. Таму я быў вельмі рады, падняўшыся ад стала, ў кутку паразмаўляць адзі на адзін са с-ром ***. Наша размова набліжалася да канца, так як усе госьці губернатара збіраліся разыходзіцца, калі да майго суайчынніка падышоў знаёмы з ім малады лорд ***[352] і цырымонна папрасіў яго пазнаёміць нас адзін з другім. Гэтая прыемная просьба была выказана юным англічанінам з уласцівай яго краіне пачцівасцю, якая хоць і не вытанчаная, але, нягледзячы на тое ці, магчыма, дзякуючы гэтаму, не пазбаўлена своеасаблівай высокароднасьці, якая складаецца ў стрыманасьці пачуццяў і халоднасьці манер.

**~ 146 ~**

– Я ўжо даўно, мілорд, – адказваў я, – жадаў знайсьці выпадак звесці з вамі знаёмства і ўдзячны вам за тое, што вы самі гэта прапанавалі. Нам у гэтым годзе нібы лёсам вызначана часта сустракацца: спадзяюся, у будучыні я здолею лепш скарыстацца выпадкам, чым удавалася мне да гэтага часу.

– Вельмі шкада з вамі развітвацца, але я неадкладна зараз ад’язджаю, – адказаў англічанін.

– Мы яшчэ сустрэнемся ў Маскве.

– Не, я еду ў Польшчу; карэта ўжо каля пад’езда, і я выйду з яе толькі ў Вільні.

Я ледзь не засмяяўся, бачачы па твары с-ра ***, што ён думаеце пра тое ж, пра што і я: пасьля таго як мы цэлых тры месяцы – пры двары, у Пецяргофе, у Маскве, ды наогул паўсюль – бачыліся з маладым лордам, ні разу не загаварыўшы адзін з адным, ён мог бы і не дастаўляць адразу тром людзям дакуку свецкага знаёмства, не маючага як для яго так і для нас ніякага значэння. Здавалася, пасьля сумеснага абеду ён пры жаданні мог бы і пагаварыць з намі хоць чвэрць гадзіны – нішто не перашкаджала яму прыняць удзел ў нашай размове. Педантычна-цырыманіяльны ангелец пакінуў нас у здзіўленні ад сваёй запозненай, сарамлівай і нікчэмнай пачцівасьці[353]; сам жа ён, выходзячы, здавалася быў задаволены як тым, што звёў знаёмства са мною, так і тым, што ніяк не скарыстаўся гэтай перавагай, калі толькі то была перавага.

Яго няёмкі ўчынак выклікаў у мяне ў памяці іншы выпадак, які здарыўся з адной дамой.

Справа была ў Лондане. Галоўную ролю ў гэтай гісторыі выканала адна прывабная і дасьціплая полька, якая сама мне яе і рапавяла. Вытанчанасць прамоваў, глыбіня ведаў, не кажучы ўжо пра радавітасьць, дазваляюць ёй вызначацца, калі нават не першынстваваць, у вышэйшым свеце, нягледзячы на

---

[352] Сын маркіза Энглезі (гл. заўваг. да т. I, с. 232).

[353] Пар. у рамане Бальзака «Банкірскі дом Нусінгена» (1838) пра «вялікі закон непрыстойнага, кіраваўшым Францыяй»: «У Ангельшчыне, Фіно, ноччу ты можаш блізка пазнаёміцца з жанчынай на балі ці ў іншым месцы; але калі ты назаўтра пазнаеш яе на вуліцы, — непрыстойна! За абедам ты знаходзіш у сваім суседзе злева чароўнага чалавека — дасьціп, натуральнасць, ніякай фанабэрыі, — нічога ангельскага; трымаючыся правіл даўнейшай французскай пачцівасьці, заўсёды ветлівай і ласкавай, ты загаворваеш з ім, — непрыстойна! <…> Адзін із самых праніклівых і дасьціпных людзей нашага часу — Стэндаль выдатна ахарактарызаваў гэта ангельскае ўяўленне пра непрыстойнасць, распавёўшы пра нейкага брытанскага лорда, які, седзячы ў адзіноце каля свайго каміна, не адважваецца пакласьці нагу за нагу баючыся выявіцца непрыстойным» (Бальзак О. дэ. Збор. твор. у 15 т. М., 1953. т.8. с. 310).

нешчасьці яе дзяржавы і сямейства. Я намерана кажу “нягледзячы”: бо, што б ні думалі і ні сцвярджалі аматары гучных фраз, няшчасьце нічым не дапагае нават і ў лепшым грамадстве; насупраць, яно шмат чаму перашкаджае. Аднак жа даме, пра якую ідзе гаворка, яно не перашкаджае славіцца як у Парыжы, так і ў Лондане адною із самых вытанчаных і ласкавейшых жанчын нашага часу. Будучы запрошанай на вялікі званы абед, яна нудзілася, седзячы за сталом паміж гаспадаром дома і нейкім незнаёмцам; нудзіцца ёй давялося доўга – хоць у Англіі і пачынае праходзіць мода на бясконцыя абеды, яны ўсё ж да гэтага часу цягнуцца там даўжэй, чым у іншых краінах; церпяліва выносячы гэтую пакуту, дама спрабавала разнастаіць кола сваіх стасункаў, і як толькі гаспадар на імгненне пакідаў яе ў спакоі, павярталася да свайго суседа справа; але кожны раз яна бачыла перад сабою каменны твар, і такая непадатлівасць яе бянтэжыла, нягледзячы на ўсю яе арыстакратычную натуральнасць і жывы дасьціп. Так, у маркоце, і прайшоў гэты абед; але і пасьля яго ўсё захоўвалі змрочную сур'ёзнасць; безрадастны выгляд так жа неаддзельны ад твару англічан, як мундзір ад жаўнера. Вечарам мужчыны зноў сустрэліся з жанчынамі ў салоне, і тут, не паспела апавядальніца гэтай гісторыі заўважыць свайго суседа злева, такога непраніклівага за абедам, як той, нават не зірнуўшы на яе, накіраваўся праз увесь пакой да гаспадара і з урачыстым выглядам папрасіў пазнаёміць яго з ветлівай іншаземнкай. Калі адбыліся ўсе патрэбныя цырымоніі, сусед нарэшце адкрыў рот і, набраўшы поўныя грудзі паветра, вымавіў з пачцівым паклонам: “Мне не цярпелася, сударыня, пазнаёміцца з вамі”.

**~ 147 ~**

Ад такой паспешнасьці дама ледзь не засмяялася, стрымала сябе толькі дзякуючы свецкай дасьведчанасьці; у далейшым яна выявіла, што цырыманійны госць насамрэч чалавек адукаваны і нават прывабны, – так мала значаць знешнія формы ў краіне, дзе ганарыстасць робіць большасць людзей нерашучымі і негаваркімі.

Гэта даказвае нам, што натуральнасць манер, лёгкасць у стасунках, адным словам, сапраўдная элегантнасць, патрабуючая дабівацца для ўсякага сустрэтага ў салоне чалавека такога ж задавальнення, як і для сябе, – што ўсё гэта зусім не пустая і не маючая значэння справа, як лічаць тыя, хто разважае пра свет толькі згодна з чуткамі, але карысны і нават неабходны навык для жыцця ў вышэйшым грамадстве, дзе ўчынкі ці ж уцехі безперапынна зводзяць разам незнаёмых паміж сабой людзей. Калі б для знаёмства з імі патрабавалася б кожны раз затрачваць столькі ж цярпення, колькі спатрэбілася мне ці ж польскай даме, каб атрымаць права абмяняцца парай слоў з ангельцам, то давялося б проста адмовіцца ад такіх знакёмстваў... якія часта бываюць вельмі пазнавальныя або цікавыя.

Сёння раніцай губернатар, чыя ласкавасць не ведае межаў, заехаў за мной, каб паказаць славутасьці старога горада. Пры ім былі слугі, што пазбавіла мяне ад неабходнасьці другі раз выпрабоўваць паслухмянасць свайго фельд’егера, з дамаганнямі якога губернатар схільны лічыцца.

Гэты мой курьер, не жадаючы больш выконваць свае абавязкі, паколькі ўжо смакуе наперад жадаемыя ім дваранскія прывілеі, – вельмі камічны ўзор той пароды людзей, якую я апісаў вышэй і якую не сустрэнеш нідзе, акрамя Расіі.

Хацеў бы я апісаць вам яго тонкую талію, дагледжаную сукенку – дагледжаную не таму, каб мець лепшы выгляд, але ў якасьці адзнакі, якая паказвае, што чалавек дасягнуў паважаемага становішча ў грамадстве; выраз яго твару – хітры, жорсткі, сухі і нізкі, якому яшчэ патрэбна будзе зрабіцца ганарыстым; нарэшце, увесь характар гэтага не вельмі разумнага чалавека, які жыве ў краіне, дзе глупства зусім не безкрыўднае, як ў нас, бо ў Расіі яно заўсёды праб'е сабе шлях, калі толькі будзе заклікаць на дапамогу лісьлівасць; аднак гэтая асоба ўвільвае ад усякага апісання, як вуж увільвае ад погляду... Мяне гэты чалавек пужае, нібы нейкая пачвара; ён спараджэнне двух палітычных магутнасьцей, вонкава зусім процілеглых, але на справе шмат у чым блізкіх і ў сваім спалучэнні асабліва жахлівых, – дэспатызму і рэвалюцыі!! Я не адважваюся глядзець ў яго вочы мутна-блакітнага колеру з бялявымі, амаль бясколернымі вейкамі; не магу бачыць яго твар, загарэлы на сонцы і пацямнеўшы ад кіпячай ў душы ўвесь час стрымліваемай злосьцю; не магу бачыць яго бялявыя паджатыя вусны, не магу слухаць яго манерную і разам адрывістую гаворку, інтанацыя якой прама супярэчыць сэнсу выказанага, – кожны раз мне думаецца, што гэта прыстаўлены да мяне шпіён – праважаты, з якім лічыцца нават сам ніжагародзкі губернатар; пры гэтай думцы мне хочацца ўзяць паштовых коней і бегчы прэч із Расіі, не спыняючыся да самай мяжы.

Магутны ніжагародзкі губернатар не асьмеліўся прымусіць самалюбівага курьера сесьці на перадок маёй каляскі; у адказ на маю скаргу гэты важны і магутны чыноўнік, які прадстаўляе тут вярхоўную ўладу, толькі параіў мне быць церпялівым!! Дык хто ж мае магутнасць ў падобнай дзяржаве?

Як вы зараз ўбачыце, нават сьмерць не дае трывалага спакою ў гэтай краіне, беспрестанна ўстрасаемай дэспатычнымі капрызамі.

**~ 148 ~**

У Ніжнім пахаваны Мінін, той самы селянін-герой, вызваліцель Расіі, чыю памяць сталі асабліва шанаваць пасьля французкага нашэсьця. Грабніцу яго можна бачыць у гарадзкім саборы побач з грабніцамі ніжагародзкіх вялікіх князёў.

Менавіта з Ніжняга ў той час, калі краіна была захвачена палякамі, пачуўся заклік да вызвалення.

Просты прыгонны селянін Мінін прыйшоў да знатнага двараніна Пажарскага; прамовы яго былі поўныя натхнення і надзеі. Заахвочаны суровым і святым словам Мініна, Пажарскі сабраў невялікую дружыну; сваёй мужнасьцю гэтыя прыстойныя героі прыцягнулі да сябе іншых, апалчэнне рушыла паходам на Маскву, і Расія была вызвалена.

Пасьля адступлення палякаў сцяг Пажарскага і Мініна нязменна быў у рускіх прадметам шавання; яго берaглі як агульнанародную рэлііквію сяляне адной із вёсак паміж Яраслаўлем і Ніжнім. Аднак у 1812 годзе, імкнучыся падняць дух жаўнераў, улады вырашылі ажывіць гістарычныя ўспаміны, асабліва

памяць пра Мініна, і запрасілі ў захавальніка мінінскага стяга гэты палладыум, каб найноўшыя вызваліцелі айчыны няслі яго на чале войска. Ахоўнікі нацыянальнага скарбу згадзіліся разлучыцца з ім толькі із павагі да радзімы і пад прысяжным абяцанннем вярнуць ім сцяг пасьля перамогі пакрытым славай новых перамог. Ітак, сцяг Мініна параследаваў наша адступаючае войска; затым ён быў прывезены ў Маскву, аднак законным уладальнікам яго не вярнулі; не звяртаючы ўвагі на ўрачыстыя абяцанні, яго перадалі ў скарбніцу Крамля; а ў адказ на справядлівыя скаргі сялян, пазбаўленых свайго збабытку, ім даслалі копію цудоўнага сьцяга – як сказалі ім з насмешлівай паблажлівасьцю, у дакладнасьці падобную на арыгінал.

Такія ўрокі маральнасьці і добрасумленнасьці, якія рускі ўрад дае свайму народу. Дарэчы, у іншай краіне такі ж урад зрабіў па іншаму: махляры заўсёды дакладна ведаюць, з кім маюць справу; паміж падманшчыкам і падманутым існуе дакладнае падабенства, і разлічаюцца яны толькі магутнасьцю.

Мала таго, зараз вы пераканаецеся, што ў гэтай краіне з гістарычнай праўдай лічацца не болей, чым з прысяжным абяцанннем; тут гэтак жа немагчыма вызначыць сапраўднасць святых камянёў, як і дакладнасць слоў і дакументаў. Пры кожным новым кіраўніцтве гістарычныя пабудовы перарабляюцца занава, нібы яны із не маючай формы гліны, па волі гасудара; і дзякуючы недарэчнаму захапленню, гучна названаму прагрэсіўным развіццём цывілізацыі, ні адна пабудова не застаецца стаяць на тым месцы, дзе была пастаўлена пры заснаванні; нават магілы не абаронены ад бур імператарскіх капрызаў. У Расіі і мёртвыя павінны пакарацца прыцудам таго, хто пануе над жывымі. Так і імператару Мікалаю, які пажадаў заняцца архітэктурай і перабудоўвае Крэмль у Маскве, падобныя учынкі ўжо не ўпершыню; яму ўжо здарылася занімацца імі ў Ніжнім.

Увайшоўшы сёння раніцай у гарадзкі сабор, я быў усхваляваны яго бачнай старажытнасьцю; я разважаў, што калі хутка тут знаходзіцца грабніца Мініна, то, значыць, гэтая пабудова стаіць ў недатыкальнасці больш за дзьвесці гадоў; ад такой упэўненасьці я знаходзіў яго выгляд яшчэ больш велічным.

Губернатар падвёў мяне да ўсыпальніцы героя; яго магіла не адрозніваецца ад намагільных помнікаў старадаўніх уладальнікаў Ніжняга, і імператар Мікалай, прыйшоўшы наведаць яе, у сваім патрыятызме зрабіў ласку спусьціцца прама ў сутарэнні, дзе спачывае цела.

– Вось адзін із самых прыгожых і прыкметных храмаў, якія мне давялося бачыць у вашай краіне, – сказаў я губернатару.

– Гэта я яго пабудаваў, – адказваў с-р Бутурлін.

– Як? Што вы хочаце сказаць? Вы, верагодна, адрамантавалі яго?

– Ды не: стары храм зусім заняпаў; гасудар палічыў за лепшае не рамантаваць яго, а адбудаваць цалкам занава; яшчэ менш за два гады назад ён стаяў на пяцьдзесят крокаў далей і выступаў із шэрагу іншых пабудоў, так што псаваў план нашага крамля.

– А як жа косткі Мініна, яго парэшткі? – усклікнуў я.

– Іх выкапалі разам з парэшткамі вялікіх князёў, пахаваных раней; зараз усе яны ў новай пахавальні – вось пад гэтым каменем[354].

Мне немагчыма было б адказаць ніжагародзкаму губернатару, не перавярнуўшы ўсе разуменні ў галаве чалавека, так апантана адданага абавязку; моўчкі я рушыў услед за ім глядзець невялічкі абеліск на плошчы і велізарныя ўмацавальных сьцены гэтага крамля.

Зараз вы ведаеце, як разумеюць тут павагу да праху мёртвых, шанаванне помнікаў старажытнасьці і пакланенне вытанчаным мастацтвам! Прытым імператар, ведаючы, што старажытнасць заслугоўвае павагу, пажадаў, каб царкву-новабудоўлю шанавалі нараўне з ранейшай; як жа ён зрабіў? Абвясціў яе старажытнай, і яна такою стала; так урад бярэ тут на сябе ролю Бога. Новы храм Мініна ў Ніжнім з'яўляецца старажытным, а калі вы сумняваецеся у гэтай праўдзе, то вы проста бунтаўшчык.

**~ 149 ~**

Адзінае мастацтва, у якім рускія атрымалі поспех, – гэта мастацтва перайманне дойлідства і жывапісу Візантыі; лепей чым усякі іншы сучасны народ яны ўмеюць вырабляць старажытнасць, – таму якраз самі яе і не маюць.

Ўсюды тут адно і тое ж уладкаванне, заснаванае Пятром Вялікім і працягнутае яго пераемнікамі, якія ўсяго толькі вучыліся ў яго. Гэты жалезны чалавек палічыў і даказаў, што воляю маскоўскага цара можна замяніць ўсё – законы прыроды, правілы мастацтва, ісьціну, гісторыю, чалавечнасць, кроўныя повязі, рэлігію. Ушаноўваючы і зараз гэтага бесчалавечнага чалавека, рускія выказваюць сябе больш славалюбівымі, чым разважлівымі. "Паглядзіце, – кажуць яны, – чым была Расія для Яўропы да прышэсьця вялікага гасудара і чым яна стала пасьля яго царавання; вось чаго можа дамагчыся геніальны ўладар..." Падобным чынам нельга вызначаць славу народа. Ганарыстае імкненне ўплываць на чужое жыццё – гэта матэрыялізм ў палітыцы. У ліку цывілізаванейшых краін свету ёсць дзяржавы, якія маюць уладу толькі над сваімі ўласнымі падданымі, ды і тое нешматлікімі; у сусветнай палітыцы гэтыя дзяржавы нічога не значаць; іхныя ўрады па праву дамагліся ўсеагульнай павагі не крывавымі заваёвамі і не прыгнётам іншых народаў, а толькі добрым прыкладам, мудрымі законамі, асвечаным кіраўніцтвам. Маючы такія годнасьці, невялікі народ можа зрабіцца не захопнікам і не прыгнятальнікам, але светачам для ўсяго свету, што стократ лепш.

Даводзіцца толькі пашкадаваць, што гэтыя простыя, але мудрыя разуменні яшчэ такія чужыя нават самым лепшым, самым бліскучым розумам, і не толькі ў Расіі, але і ва ўсіх краінах, асабліва ж у Францыі. Мы па-ранейшаму заварожаны вайною і захопамі, мы па-ранейшаму не робім высноваў з урокаў, атрыманых ад Бога нябеснага, і ад бога зямнога, імя якому – выгада; і ўсё ж я не губляю надзеі, бо пры ўсіх памылках нашых мысляроў, пры ўсёй цынічнасьці нашага языка і пры ўсёй звычцы паклёпнічаць на саміх сябе мы ўсё-такі застаемся народам глыбока

---

[354] Прэабражэнскі сабор ніжагародскага крамля быў знішчаны і пабудаваны нанова у 1834 г. Працэдура перанясення магільні Мініна так уразіла Кюстына, што ён адмыслова абмяркаваў яе па дарозе назад у Пецярбургу з А. Я. Тургеневым (гл.: НЛА. с. 108).

веруючым... Сапраўды ж, тут няма парадоксу: мы самаадданей ўсіх на сьвеце верныя сваім ідэям; а хіба для хрысціянскіх народаў ідэі не заменяюць сабою куміраў?

На жаль, у нашых асноўных жаданнях мы недастаткова разборлівыя і незалежныя; ранейшага куміра, які стаў пагарджаным, мы не ўмеем адрозніць ад таго, якому трэба пакланяцца. Спадзяюся дажыць да таго часу, калі ў нас будзе разбіты крывавы ідэал вайны, грубай магутнасьці. Народу заўсёды хапае і магутнасьці і зямлі, калі ў яго ёсць мужнасць жыць і паміраць за праўду, няспынна пераследуючы памылкі, праліваючы кроў у барацьбе супраць хлусні і несправядлівасьці і па праву маючаму вядомасць дзякуючы гэтым высокім цнотам! Афіны былі нікчэмнай кропкай на зямлі; але гэтая кропка зрабілася свяцілам ўсёй старажытнай цывілізацыі; і ў той час як гэтае свяціла ззяла яркім бляскам, калі шмат іншых народаў, больш магутных сваёю колькасцю і шырынёй зямельных уладанняў, жылі вайнамі і захопамі і паміралі ад нікчэмнага і невядомага знясілення! Перегной людзкіх пакаленняў дае вынік толькі на глебе, якая апрацавана асьветай. Якое б значэнне мела зараз Германія, калі б паўсюдна валадарылі састарэлыя разуменні заваёўніцкай палітыкі? А між тым, нягледзячы на сваю раздробленасць, на матэрыяльную слабасць складаючых яе дробных дзяржаў, Германія зараз, дзякуючы сваім паэтам, мыслярам, навукоўцам, дзякуючы разнастайнасці ў дзяржаўным уладкаванні яе частак, дзе ёсць і князі і рэспублікі, супернічаючыя паміж сабой не ў магутнасьці, але ў асвеце, ў вышыні пачуццяў, у пранікліваасьці розуму, – па ўзроўню цывілізацыі варты ніяк не ніжэй за самыя перадавыя краіны свету[355].

Народы набываюць права на ўдзячнасць чалавецтва не тады, калі сквапна пазіраюць на суседзей, а калі ўсе магчымасьці звяртаюць на саміх сябе, дабіваючыся вышэйшых дасягненняў як у духоўнай, так і ў матэрыяльнай цывілізацыі. Подобная заслуга настолькі ж больш ганаровая, чым доблесць, здабытая мячом, наколькі наогул дабрачыннасць стаіць вышэй за славу...

Састарэлы выраз "першаступенчатая дзяржава", які ўжываецца ў палітыцы, яшчэ доўга будзе падставай нашых бед. Самашанаванне – звычка, якая глыбей за усі ўкаранілася ў чалавека; а таму Бог, заснаваўшы сваё вучэнне

---

[355] Заўвага Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Да няшчасьця, у апошнія гады нямецкія гасудары зрабіліся васаламі расійскага імператара». Хоць Прусія была злучана з пецярбургскім дваром роднасна-палітычнымі сувязямі (у 1840 г. прускім каралём стаў родны брат імператрыцы Аляксандры Фёдараўны, Фрыдрых Вільгельм IV), у прускай прэсе, якая захоўвала некаторую незалежнасць, былі моцнымі антырускія настроі. «Супраць Расіі ў Няметчыне моцна прадузяты, — сведчыла справаздача III Аддзялення за 1841 год. — крыніцай незычлівага стаўлення да рускіх можна лічыць, з аднаго боку, паданні старадаўняй палітыкі германскіх народаў, з другой — зайздрасць, якая выклікаецца веліччу і магутнасьцю нашай Імперыі, і меркаванне, што ёй звыш наканавана рана ці позна далучыць да сябе ўсе славянскія плямёны, і нарэшце, злосць супраць Расіі партыі рэвалюцыянераў, якія няспынна з'яўляючыміся ў Ангельшчыне, Францыі і Няметчыне пасквілямі, малююць Расію самымі чорнымі фарбамі, гнюснымі паклёпамі імкнуцца пашырыць агульную нянавісць народаў да яе» (ГАРФ. Ф. 109. Оп. 223. № 6. л. 81-81об.); у 1842 г. тэма была працягнута: «Водгукі прускіх публіцыстаў пра Расію, — не толькі не саступаюць, але яшчэ і перавышаюць сваёй запальчывасьцю пасквілі французскай і брытанскай журналістыкі! Асабліва рэйнскія і кёнігсбергскія газеты абсыпаюць нас паклёпамі, а цэнзура хаўрусных нам урадаў дае ім поўную волю» (Тамсама. № 7. л. 137об.)

на пакоры, – сапраўдны Бог нават са здаровага палітычнага пункту гледжання, бо толькі ён адзін паказаў нам шлях бясконцага прагрэсу, прагресу цалкам духоўнага, гэта значыць ўнутранага; аднак свет вось ужо васемнаццаць стагоддзяў ніяк не паверыць яго слову; і ўсё ж гэтае слова, як бы яго ні адмаўлялі і ні аспрэчвалі, складае для нас крыніцу жыцця; як жа шмат дало б гэтае слова неўдзячнаму свету, будзь яно прынята ўсімі з вераю? Выкарыстаць евангельскую мараль ў межнароднай палітыцы – такая задача будучыні! Яўропа, з яе старымі, глыбока цывілізаванымі народамі, паслужыць тым свяцілішчам, адкуль ззянне веры зноў разальецца па сусвету[356].

**~ 150 ~**

Магутныя ўмацаванні ніжагародзкага крамля ўюцца ўздоўж абрыва значна больш высокага і стромкага, чым пагорак Крамля маскоўскага. Прыступкавыя сьцены, зубцы, адхоны, аркі гэтых ўмацаванняў даюць шмат маляўнічых краявідаў; і ўсё ж, нягледзячы на прыгажосць мясцовасьці, дарэмна было б чакаць тут таго захаплення, якое выклікае маскоўскі Крэмль – свяшчэннае ўмацаванне, сам выгляд якога заслугоўвае гістарычнага апісання; там гісторыя адбіта ў камяні. Маскоўскі Крэмль – рэч непаўторная, адзіная ў Расіі і ва ўсім сьвеце.

Дарэчы, мне хацелася б дадаць тут адну падрабязнасць, ўпушчаную ў ранейшых лістах.

Як вы памятаеце з майго апісання, стары царскі палац у Крамлі, са сваімі ўступчатымі паверхамі, рэльефнымі ўпрыгожваннямі і азіяцкімі роспісамі, нагадвае індыйскую піраміду. Мэбля ў палацы забрудзілася і састарэла; і вось у Маскву былі накіраваны майстэравыя чырвонадзярэўшчыкі і абівальнікі, якія вырабілі дакладныя копіі старадаўніх рэчаў. Гэтая мэбля, застаўшаяся ранейшаю, хаця і цалкам прыгатаваная занава, упрыгожвае зараз адноўлены, нановаатынкаваны, распісаны і разам з тым застаўшыся старадаўнім палац – сапраўднае цуда! Дык вось, калі занова пабудаваная старая мэбля размясьцілася ў абноўленым палацы, то рэштткі сапраўднай старой мэблі быўшай там жа, у Маскве, былі прададзены з малатка ва ўсіх на вачах. У краіне, дзе пашана да вярхоўнай улады з'яўляецца святой, не знайшлося нікога, хто пажадаў бы зберагчы рэчы царскага абсталявання ад лёсу звычайнага ламачча або ж проста абурыўся б такой абуральнай непачцівасьцю. Калі тут кажуць “трымаць у сябе старадаўнія рэчы”, то гэта значыць, што новым вырабам даюцца старыя назвы; папраўляць старажытныя рэчы – значыць рабіць з іхных парэштак сучасныя вырабы; на мой позірк, такая “папраўка” з’яўляецца проста варварствам.

Мы наведалі прыгожы жаночы кляштар; самі манахіні выглядаюць бедна, але ў іхным жыллі пануе ўзорнейшая чысьціня. Ўслед за гэтым прытулкам набожнасьці губернатар павёз мяне глядзець свой вайсковы лагер: тут усюды пануе захапленне вайсковымі практыкаваннямі, парадамі і бівуакамі. Губернатары жывуць так жа, як і імператар, – гуляюць у жаўнерыкаў, кіруючы

[356] Заўвага Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Хіба ўсе падзеі апошніх пятнаццаці гадоў не пацвярджаюць гэтае прадказанне?»

палкавымі вучэннямі; і чым больш збіраецца пры гэтым войска, тым больш яны ганарацца сваім падабенствам на гасудара. У ніжагародзкім вайсковым лагеры стаяць палкі, сабраныя із жаўнерскіх сыноў; быў ужо вечар, калі мы пад’ехалі да іх палатак; яны размешчаны на раўніне, прадаўжаючай сабой узнёслы бераг, на якім стаіць стары горад.

Удалечыні, на адкрытым паветры, шэсьцьсот чалавек разам спявалі малітву, і гэты вайскова-рэлігійны хор вырабляў вялікае ўражанне: як быццам пад чыстым і глыбокім небам велічна падымалася ўвысь духмянае воблака; малітва, выходзячая із чалавечай душы, поўнай пакут і захапленняў, падобна на слуп агню і дыма, што ўздымаецца із разварочанага кратэра вулкана і дасягае небасхілу. І хто ведае – ці не ў гэтым сэнс вогненнага ступа, які бачылі сыны ізраелевы ў сваіх бясконцых блуканнях па пустыні[357]? Галасы бедных славянскіх жаўнераў здалёк гучалі мякчэй і як бы з вышыні; калі да нашага слыху данесліся першыя сугуччы, іхныя палаткі яшчэ былі схаваныя складкаю раўніны. Гэтыя нябесныя галасы адзываліся слабым рэхам на зямлі, і іхная музыка перарывалася ваяўнічым аркестрам – стрэльбавымі залпамі, што чуліся ў далечыні, гучачы, здавалася, не мацней чым барабаны ў Оперы, і прытым куды слушней. Калі ж нашаму позірку адкрыліся хаціны, адкуль даносіліся такія гарманічныя гукі, то апаліўшыя палаткавую халсціну прамяні заходзячага сонца дадалі да чаруючых гукаў яшчэ і чараўніцтва фарбаў.

Губернатар, бачачы, з якім задавальненнем я слухаю гэтую музыку пад адкрытым небам, даў мне магчымасць удосыць атрымаць ад яе асалоду, атрымліваючы асалоду і сам, бо гэтага сапраўды гасьціннага чалавека нішто так не радуе, як магчымасць задаволіць гасьцей. Лепшы спосаб засведчыць яму сваю ўдзячнасць – паказаць, што вы задаволены.

З нашай паездкі мы вярнуліся ўжо на змярканні і, зноў трапіўшы ў ніжні горад, спыніліся каля царквы, якая прыцягвала маю ўвагу з самага майго прыезда ў Ніжні. Гэта сапраўдны ўзор рускай архітэктуры – не ў старажытнагрэцкім, не ў грэка-візантыйскім стылі, а накшталт фаянсавай цацкі, як маскоўскі Крэмль ці ж храм Васіля Блажэннага, толькі не такі стракаты па афарбоўцы і формах. Гэтая пабудова, часткава цагляная, часткава атынкованая, упрыгожвае сабою ніжнюю вуліцу, самую прыгожую ва ўсім горадзе; дарэчы, яна пакрыта такімі мудрагелістымі ляпнымі ўзорамі, такой колькасьцю ілжывых калонак, кветак, разетак, што пры поглядзе на такі вельмі ўпрыгожаны храм мімаволі прыходзіць на розум вялікая настольная ваза саксонскага фарфора. Гэты шэдэўр пераборлівага стылю пабудаваны нядаўна, ад шчадротаў сямейства Страганавых – знатных вяльможаў, якія вядуць свой род ад першых рускіх купцоў, якіх узбагаціла заваяванне Сібіры пры Яне IV. Тагачасныя браты Страганавы самі набралі войска адважных заваёўнікаў, якія і далучылі да Расіі цэлае царства[358]. Іхныя жаўнеры былі нібы сухапутныя флібусцьеры.

---

[357] Гл.: Сыход. 13, 17-21: «Бог жа ішоў прад імі днём у слупе хмарным, паказваючы ім шлях, а ноччу ў слупе полымевым, свецячы ім, каб ісьці як уі дзень, так і ноччу».

[358] Пра паходжанне рода Страганавых і ролю купцоў Якава і Рыгора Страганавых у заваёве Сібіры атрадам Ярмака гл.: Карамзін. т. 9. гл. 6.

Унутранае аздабленне Страганаўскай царквы не адпавядае яе знешнасьці, і ўсё ж, у цэлым, я рашуча аддаю перавагу гэтаму мудрагелістаму збудаванню перад тымі няёмкімі копіямі рымскіх храмаў, што грувасцяцца на плошчах Пецярбурга і Масквы.

Наш дзень завершыўся наведваннем опернага тэатра на ярмарцы, дзе выконваўся рускі вадэвіль. Падобныя вадэвілі зноў-такі не што іншае, як пераклады з французкага. Мясцовыя жыхары, здаецца, вельмі ганарацца гэтай замежнай навінкай. Аб уздзеянні пастановы на душы гледачоў я меркаваць не мог, паколькі зал быў у поўным сэнсе слова пусты. Акрамя пачуцця нуды і жалю да незадачлівых актораў, выконваўшых ролі без публікі, гэтая пастанова ізноў абудзіла ў ва мне тое непрыемнае ўражанне, якое заўсёды вырабляе ў нашых театрах змешванне размаўляльных і музычных пастаноў; уявіце ж сабе гэта варварства, але без французкай вастрыні і калючасьці; калі б не было побач губернатара, я б збег яшчэ ў першым акте; аднак давялося цярпець да канца пастановы.

Каб развеяць нуду, я цэлую ноч пісаў вам ліст, але ад такіх намаганняў зрабіўся зусім хворы. Мяне калоціць, кладуся спаць.

*Маніфест яго Імператарскай Велікасьці*[359]

*Мы, Мікалай Першы, ласкай Божай імператар і самаўладзец, і г. д.*

*Розныя перамены, часам і магутнасьцю абставін у нашай грашовай сістэме выраблены, мелі наступствам не толькі прысваенне дзяржаўнымі асігнацыямі, насуперак першапачатковаму іхнаму прызначэнню, першынства над срэбрам, складаючым асноўную манету нашай імперыі, але і адраджэнне, праз тое самае, шматлікіх недарэчнасьцей, у кожнай мясцовасьці розных.*

*Пераканаўшыся ў неабходнасьці пакласьці, без усякага адкладання, канец гэтым ваганням, парушаючым адзінства і складнасць нашай грашовай сістэмы і вабячым за сабою страты і разнастайныя цяжкасьці для ўсякіх станаў у дзяржаве, мы, у паўсядзённых клапатах пра карысьці нашых вернападданых, прызналі за лепшае прыняць рашучыя захады да спынення адбываючыхся праз гэта нязручнасцей і да папярэджвання іх на будучыя часы.*

*З гэтай нагоды, пасьля падрабязнага абмеркавання ўсіх маючых дачыненне да гэтага пытанняў у Дзяржаўнай радзе, пастанаўляем наступнае:*

*1. У аднаўленне правіла Маніфеста блажэннай памяці імператара Аляксандра 1-га ад 20 чэрвеня 1810 года, срэбная расійскай чаканкі манета з гэтага часу надалей вызначаецца галоўнай дзяржаўнаю плацёжнай манетай, а срэбны рубель, сапраўднай годнасьці і з сапраўднымі яго падраздзяленнямі, галоўнаю, неперамяняемаю законнаю мераю (манетнай адзінкай) будучых у абарачэнні ў дзяржаве грошай; адпаведна чаму ўсе падаткі, павіннасьці і зборы, а таксама разнастайныя плацяжы і штатныя выдаткі, у свой час маюць быць пералічаны на срэбра.*

*2. Пры такім устанаўленні срэбра галоўнай плацёжнай манетай, дзяржаўныя асігнацыі, згодна іхнаму першапачатковаму прызначэнню, застаюцца дапаможным*

---

[359] Французскія пераклады маніфеста і ўказа Сенату, якія ўводзілі новую фінансавую сістэму, былі надрукаваны ў «Journal de Saint-Petersbourg» 11/23 ліпеня 1839 г. Рус. тэкст друкуецца згодна з: Санкт-Пецярбургскія ведамасьці. 1839. 7 ліпеня.

*знакам каштоўнасці, з вызначэннем ім з гэтага часу надалей аднойчы і назаўжды пастаяннага і неперамяняемага на срэбра курсу, лічачы сярэбраны рубель, як у буйной, так і ў дробнай манеце, у тры рублі пяцьдзесят капеек асігнацыямі.*

*3. Па гэтаму пастаяннаму і неперамяняемаму курсу аддаецца на волю плацельшчыкаў ўносіць як срэбнымі манетамі, так і асігнацыямі: а) усе казённыя падаткі і павіннасьці, земскія, мірскія і іншыя зборы і ўсе наогул скарбам вызначаныя і яму належныя плацяжы; б) усе плацяжы па асабных таксах, як напрыклад паштовыя і вагавыя грошы, прагоны, за соль, за адкупныя напоі, гербавую паперу, пашпарты, бандэролі (тытунёвыя) і інш., і в) усе плацяжы, належачыя дзяржаўным крэдытным установам, установам грамадскага дагляду і прыватным, урадам зацверджаных, банкам.*

**~ 152 ~**

*4. Раўным чынам і ўсё штатныя выдаткі, а таксама ўсе наогул плацяжы са скарбу і крэдытных установ і адсоткі па білетах Дзяржаўнага казнчэйства і па дзяржаўных фондах, на асігнацыі вылічаныя, будуць выраблены па таму ж самаму пастаяннаму курсу, срэбрам ці асігнацыямі, у залежнасьці ад наяўнасьці таго ці іншага роду грошай.*

*5. Усе плацяжы і выдачы вышэйпазначаныя маюць быць вырабляцца па азначанаму курсу з дня абнародавання гэтага маніфеста. Але курс падаткавы, які на гэты год – у чаканні прыняцця канчатковых па гэтыму пытанню захадаў – пакідаючы быў у 360 капеек, як ужо зацверджаны, захоўваюць гэты памер свой і надалей па 1840 год ў дачыненні да ўласна падаткаў, павіннасцяў і іншых плацяжоў, у арт. 3, літ. а і б, пазначаных, роўна як і па ўсіх штатных і таму падобных вызначаных са скарбу выдачах. На той жа падставе, праз нязручнасць для гандлёвага стану ўсякай перамены ў сярэдзіне года, пакідаюць па 1840 і дзейнічаючы курс мытны.*

*6. Усе рахункі, умовы і наогул усякія пагадненні, як у справах скарбу з прыватнымі асобамі і наадварот прыватных асоб са скарбам, так і ва ўсіх наогул справах прыватных людзей паміж сабою, з гэтага часу маюць быць вырабляемы, адзіна ў срэбнай манеце. Паколькі ж, па шырокасці імперыі, правіла гэтае не можа ўступіць у дзеянне сваё раптам на ўсім яе кутках, то яно робіцца ва ўсёй сваёй магутнасьці абавязковым з 1 студзеня 1840 года, і з таго часу ні прысутныя месцы, ні маклеры і натарыусы не павінны прынімаць да здзеяння і засведчання ніякія пагадненні на асігнацыі, пад уласную іхную у тым адказнасць. Але самыя плацяжы па ўсіх, як ранейшых, на ассігнацыі палічаных, так і новых, на адно толькі срэбра вылічаных абавязках, пагадненнях і ўмовах, дазваляецца вырабляць без разлічэння срэбрам і асігнацыямі, па курсу, вышэй у 2 артыкуле вызначанаму, і ніхто не мае права адмовіцца ад выплаты, паводле гэтага курсу, таго ці іншага роду грошамі без розніцы.*

*7. Памер пазык з дзяржаўных крэдытных установ (пад залог землеўладальніцкіх зямель) з гэтага часу вызначаецца раўнамерна на срэбра, лічачы па сямідзесяці пяці, шасцідзесяці і сарака рублёў срэбрам на рэвізскую мужчынскай стаці душу.*

*8. Для адкрыцця ўсіх шляхоў да свабоднага размену ставіцца павятовым скарбавым установам ў абавязак вырабляць, па меры знаходзячыхся ў іх на гэты час сум, абмены згодна таго ж курса, у 3 р. 50 к., ассігнацый на срэбра і назад серебра на*

*асігнацыі, кожныму прынасіцелю, суму ў адны рукі да ста рублёў срэбрам, ассігнацыямі ж у суразмернасьці з гэтай сумай.*

*9. Засім прысваенне асігнацыям нейкага іншага курсу, акрамя вышэйвызначанага, роўна і надбаўка на срэбра і на асігнацыі нейкага лажа, або ўжыванне пры новых пагадненнях так званага разліку на манету строга забараняецца. Біржавы ж вэксэльны курс, а таксама разнастайныя паказанні у біржавых ярлыках, прейскурантах і інш. вызначаць з гэтага часу на срэбра, і курса ассігнацыямі на біржах надалей зусім ўжо не пазначаць .*

*10. Залатая манета ў скарб і ў крэдытныя ўстановы прынімаецца і пад іх выдаецца 3% вышэй вызначанай яе каштоўнасці, менавіта: імперыял ў 10 р. 30 к. і палавінны імперял ў 5 р. 15 к. срэбрам.*

*11. Каб знішчыць усякую падставу да абмежаванняў, скарбавым і крэдытным установам ставіцца ў абавязак зусім не адмаўляць прынасіцелям ў прыёме манеты расійскай, як старай, так і новай чаканкі, пад адной падставай невыразнасьці знакаў або лёгкаважкасьці, калі толькі можна распазнаць вонкавыя выявы штэмпеля, вяртаючы толькі манеты абрэзаныя, праколатыя або пілаваныя.*

*12. Медная манеце, якая знаходзіцца зараз у абарачэнні, надалей да вызначэння яе адноснага ліку да срэбра, прысвойваецца абарачэнне на наступнай аснове: а) у дачыненні да срэбра лічыць тры з палавінай капейкі меддзю (як 36, так і 24- рублёвага ў пуде годнасьці) за адну капейку срэбрам, і б) манету гэтую прынімаць у скарб – за падаткі, за павіннасьці і за ўсе іншыя плацяжы, па-ранейшаму, ва ўсякай колькасьці, акрамя тых толькі плацяжоў, дзе колькасць унёскаў гэтай манеты вызначана менавіта ў саміх кантрактах; крэдытным установам – не больш як на дзесяць капеек срэбрам, а паміж прыватнымі асобамі па ўзаемнаму ў дачыненні да колькасьці пагадненню.*

*Дадзена ў Санкт-Пецярбургу, першага дня ліпеня месяца года ад Нараджэння Хрыстова тысяча васемсот трыццаць дзевятага, ад царавання ж нашага пачатак четырнаццатага.*

*Подпіс: Мікалай*

У той жа дзень яго імператарская вялікасць зрабіў ласку накіраваць наступны загад уладарачаму Сенату:

*Згодна справаздачы міністра фінансаў, у Дзяржаўнай радзе разгледжанай, загадваем: для памнажэння легкаабарачальнасьці знакаў заснаваць з 1-га студзеня 1840 года пры Дзяржаўным камерцыйным банку асобную дэпазітную касу срэбнай манеты, на наступнай падставе:*



*1. У кассу гэтую прынімаць ад прыносіцелей для захавання ўклады срэбнаю манетаю расійскай чаканкі.*

*2. Паступаючую ў дэпазітнуюя касу манету захоўваць недатыкальна і асобна ад сродкаў Камерцыйнага банку, пад адказнасць гэтага банка і пад назіреннем асобных дырэктараў із сябраў Рады дзяржаўных крэдытных устаноў, і ні на нікія іншыя выдаткі, як толькі для зваротнага абмену, не выкарыстоўваць.*

*3. Наўзамен укладаў Дэпазітная каса выдае квіткі пад назвай "квіток дэпазітнай касы", на першы раз вартасьцю ў тры, пяць, дзесяць і дваццаць пяць рублёў срэбрам; пасьля ж, згодна бліжайшай патрэбы, могуць быць выпушчаны квіткі ў адзін, пяцьдзесят і сто рублёў срэбрам.*

*4. Квіткі гэтыя вырабляюцца згодна адмысловай формы, з подпісам таварыша ўправіцеля Камерцыйнага банку, аднаго дырэктара і касіра і з пазначэннем на звароце вынятку із правілаў аб дэпазітных укладах. Міністр фінансаў узоры гэтых квіткоў прадставіць ў свой час уладарачаму Сенату і дашле ва ўсе міністэрствы, галоўныя установы і казённыя палаты. Яны павінны быць прыбітыя і на ўсіх купецкіх біржах.*

*5. Білетам дэпазітнай касы дазваляецца абарачэнне па ўсёй імперыі нараўне са срэбнай манетай, без усякага лажа, па ўсіх унутраных плацяжах і абавязацельствах як прыватных асоб са скарбам і крэдытнымі ўстановамі, і узаемна скарбу і крэдытных установаў з прыватнымі асобамі, так роўна гэтаму апошніх паміж сабою.*

*6. Па прад'яўленню білетаў у дэпазітную касу прад'яўніку выдаецца неадкладна, без усякай затрымкі і без усялякага вылічэння за абмен і захаванне, належная колькасць срэбнай манеты.*

*7. Выплачаныя квіткі захоўваюцца асобна і, у выпадку прыдатнасьці да выкарыстання, выдаюцца зноў пад новыя дэпазіты або на абмен папсаваных білетаў у кассу падаваемых.*

*8. Пересылка квіткоў дэпазітнай касы праз пошту вырабляецца з плацяжом страхавых выдаткаў і вагавых з пакетаў.*

*9. За падробку іх падлягаюць той жа адказнасьці, якая існуе для падробкі дзяржаўных папер.*

*Прыкмета. Прыём у Камерцыйны банк каштоўных металаў ў злітках і посуду для захавання здзясняецца на падставе дзеючых аб гэтым правілаў.*

*10. Для выканання спраў дэпазітнай касы, роўна як і па ўносячымся на захаванне каштоўным металам ў злітках і посуду (арт. 9), ствараецца пры Камерцыйным банку, згодна прыкладаемаму пры гэтым штату, асобая экспедыцыя дэпазітнай касы, пад агульным назіреннем управіцеля банка і пад бліжэйшым кіраваннем таварыша ўправіцеля, із двух дырэктараў: старэйшага і малодшага, і двух выбарных ад купечаства, з пэўнай колькасцю чыноўнікаў і з пакрываннем выдаткаў з рахунку прыбыткаў банка.*

*11. Выпрацоўка падобных правілаў, як па ўладкаванню ўнутранага парадку здзяйснення пісьмовых і падліковых спраў, так роўна па захаванню сродкаў і наогул па ўсёй дзейнасьці дэпазітнай касы і яе экспедыцыі, надаецца міністру фінансаў, на аснове падобных дзеючых правілаў, існуючых для крэдытных устаноў, і па папярэдняй згодзе з Дзяржаўным кантралёрам, з тым каб аб зробленых распараджэннях даведзена было, у свой час, да ведама Рады дзяржаўных крэдытных установаў.*

*12. Для праверкі дзеянняў Дэпазітнай касы, звыш ўнутранага кантролю, уладкаўваецца яшчэ іншы, вышэйшы, з боку Рады крэдытных устаноў, а для назірання за цэласнасьцю захоўваемых укладаў гэтай Радзе выбіраць штогадова із асяроддзя свайго па аднаму дэпутату ад дваранства і ад купечаства, якія павінны ўдзельнічаць ў штомесячных праверках сум і абаротаў і рабіць раптоўные рэвізіі. Аперацыі дэпазітнай касы ўключаюцца ў справаздачу Камерцыйнага банка.*

*Санкт-Пецярбург, 1 ліпеня 1839 года.*

*Подпіс: Мікалай*

*(Дадаюцца штаты і выдаткі дэпазітнай касы.)*

# Ліст трыццаць пяты

*Забойства немца-пана. – Да чаго даходзіць непрыязнасць рускіх да новаўвядзенняў. – Дробныя бунты і іх наступствы. – Уплыў урада: заганнае кола. – Безкарыслівае раболепства сялян. – Супярэчнасць паміж захадамі і звычаямі. – Памылкі рускіх прыгонных. – Высылка ў Сібір с-ра Гібаля. – Апавяданне пра ведзьму. – Словы аднаго вяльможы, сялянскага ўнука. – Як рускія сябры выходжвалі ад хваробы маладога іншаземца. – Выпадак з француржанкай, якая праваліліся ў люк. – Павага да бліжняга у рускіх. – Прыхільнасць рускай дамы да магіл сваіх мужоў. – Славалюбівая прыцуда разбагацеўшага афіцэра. – Апошнія дні майго знаходжання ў Ніжнім. – Спеў цыганак на ярмарцы. – Аддзяка ніжэйшым станам і прыніжаным народам. – Галоўная ідэя драм Віктора Гюго. – Вячэрняя навальніца ў Ніжнім. – Хвароба, выкліканая ніжагародзкім паветрам. – Я адмаўляюся ад паездкі ў Казань. – Парада лекара. – Фельд'егер і слуга. – Што думаюць рускія пра ставовішча Францыі. – Уладзімір. – Яго наваколлі. – Збядненне лясоў. – Чаму цяжка вандраваць без фельд'егера. – Несапраўдная далікатнасць, якую рускія спрабуюць навязаць іншаземцам. – Шкодная цэнтралізацыя ўлады. – Сустрэча з вялікім чорным сланом, якога паслаў імператару фарсі шах. – Мне пагражае небяспека. – Мой камердынер-італьянец не губляе прысутнасці духу. – Апісанне слана. – Вяртанне ў Маскву. – Развітанне з Крамлём. – Як дзейнічае атачэнне імператара. – Заразлівасць прыкладу. – Вайсковыя ўрачыстасьці ў Барадзіне. – Часовыя мястэчкі. – Якім чынам імператар загадаў разыгрываць пастанову Маскоўскай, або Барадзінскай, бітвы. – Чаму я не паслухаўся імператара. – Помнік ў гонар князя Багратыёна; князь Вітгенштэйн забыты. – Уздзеянне хлусні. – Імператарскі загад. – Пераіначванне гісторыі.*

**~ 154 ~**

**Уладзімір, паміж Ніжнім і Масквою, 2 верасьня 1839 года**[360].

У Ніжнім нехта с-р Жаман распавёў мне, што нядаўна у сябе ў маёнтку – па суседству з уладаннямі с-ра Мерліна, яшчэ аднаго іншаземца, дзякуючы якому гэтая гісторыя стала вядома, – быў забіты новы землеўладальнік-немец, вядомы знаўца земляробства і заўзяты прапаведнік новых спосабаў севазвароту, да гэтага часу невыкарыстоўвашыхся у тутэйшых краях.

Да пана з'явіліся двое нібыта для куплянне коней, вечарам ўвайшлі да яго ў пакой і забілі яго. Як сцвяржаюць, усё гэта падрыхтавалі належачыя забітаму сяляне ў адплату за новаўвядзенні пры апрацоўцы зямлі, якім іншаземец спрабаваў іх навучыць. Народ у гэтай краіне адчувае непрыязнасць да ўсяго нярускага. Мне не аднойчы казалі, што ў адзін выдатны дзень ён перарэжа ўсіх безбародых ад края да края імперыі: рускія пазнаюць адзін аднаго па барадзе.

---

[360] Згодна са старым стылем 21 жніўня. Дата недакладная, таму што захаваўшыся ліст Кюстына да с-ні Рэкам'е датаваны: «3 верасня. Ніжні Ноўгарад» (гл.: Cadot. p. 219).

У вачах сялян калі рускі галіць сабе падбародак, то ён здраднік, які прадаўся іншаземцам, і сам варты падзяліць іхны лёс. Як жа, аднак, пакараць арганізатараў такой “маскоўскай вячэрні”[361]? Бо ўсю Расію ў Сібір не вышлеш. Можна выселіць насельнікаў адной вёскі, але немагчыма выправіць ў высылку цэлую губернію. Дарэчы, у адносінах да сялян падобнае пакаранне не мае сэнсу. Для рускага радзіма – усюды, дзе доўга цягнуцца зімы; снег усюды выглядае аднолькава – як белы саван, ахутваючы зямлю, калі б ён быў толькі таўшчынёю ў шэсць цаляў або шэсць футаў; таму рускія адчувае сябе як дома, куды б яго ні выслалі, абы яму далі б там магчымасць пабудаваць сабе сані і хату. У пустынях Поўначы стварыць сабе новую радзіму каштуе не дорага. Для чалавека, не бачыўшага ў жыцці нічога, акрамя мёрзлых раўнін, парослых больш ці менш чэзлымі іглічнымі дрэвамі, ўсякая халодная і пустынная краіна здаецца роднай. Да таго ж насельнікі тутэйшых шырот і па сваім звычках – качэўнікі, яны ад прыроды схільныя да перамены месца.

Выпадкі беспарадкаў у вёсках адбываюцца усё часцей; кожны дзень чуеш пра якое-небудзь новае злачынства; але весткі пра злачынствы даходзяць са спазненнем, што прытупляе ўражанне ад іх; таму нават такія шматлікія злачынствы не парушаюць глыбока ціхае жыццё дзяржавы. Я ўжо пісаў, што спакой у асяроддзі гэтага народа падтрымліваецца дзякуючы маруднасьці і цяжкасьці стасункаў, а таксама з дапамогай бачных і таемных дзеянняў урада, які мірыцца са злом дзеля захавання існуючага ўладкавання. Акрамя таго, грамадзкая бяспека забяспечваецца сляпым падпарадкаваннем войска; яго пакорлівасць з’яўляецца вынікам поўнага невуцства вясковага люду. Але вось якая справа – падобныя лекі выяўляюцца адначасова і першай нагодай хваробы! І незразумела, як рускаму народу выйсьці із гэтага заганнага кола, куды загналі яго акалічнасьці. Да гэтага часу дабро і зло, пагібель і выратаванне мелі для яго адну агульную крыніцу – раз’яднанасць і невуцтва, якія ўзаемна абумаўляюць, узнаўляюць і ўвекавечваюць адзін аднаго.

Вам немагчыма ўявіць сабе, як сустракаюць сяляне свайго новага ўладальніка, які прыбывае у толькі што набыты маёнтак; жыхарам нашых краёў такое рабалепства будзе здавацца неверагодным: усё – мужчыны, жанчыны, дзеці – падаюць на калені перад новым барынам, усе цалуюць яму рукі, бывае нават што ногі; больш за тое – што за прыніжэньне! што за блюзнерства! – тыя з іх, хто па свайму ўзросту здольны грашыць, добраахвотна прызнаюцца ў сваіх грахах землеўладальніку, бачачы ў ім выяву і пасланца Божага на зямлі, які ўвасабляе адразу і цара нябеснага і гасудара! Такі рабскі фанатызм, такое захапляючае халопства рана ці позна непазбежна ўводзіць у зман самага барына, асабліва калі ён толькі нядаўна дасягнуў гэтага стану; аслеплены пераменаю ў сваім становішчы, ён пераконваецца у тым, быццам належыць да іншага разраду істот, чым гэтыя людзі, якія перад ім ляжаць ніц і якімі ён раптам

[361] Кюстын прыпадабняе бунт супраць гвалтоўнага галення барод «сіцылійскай вячэрні» — паўстанню, падчас якога жыхары Сіцыліі вынішчылі заваёўнікаў-французаў, якія размясьціліся на выспе з 1266 г.; паўстанне пачалося з першым ударам звана, які склікаў да вячэрні ў першы дзень Вялікадня, 30 сакавіка 1282 г.

выявіўся ўправе распараджацца. Зусім не дзеля парадокса я сцвяржаю, што адна толькі спадчынная арыстакратыя магла б змякчыць долю рускіх прыгонных і з дапамогай павольных, неадчувальных пераменаў падрыхтаваць іх да жадаемага вызвалення. А сёння прыгонны стан пры ўладарах-выскачках для сялян проста невыносны. Старадаўнія гаспадары з самага нараджэння стаяць вышэй за іх, і гэта пераносіць цяжка, але затое яны растуць побач з сялянамі, разам з сялянамі, і гэта пераносіцца лягчэй; ды і наогул гаспадары так жа звыкліся з уладай, як прыгонныя – з няволяй, а звычка ўсё прытупляе і памякчае; ёю сцішаецца несправядлівасць моцных, ёю палягчаецца ярмо слабых; вось чаму ў краіне, якая жыве ва ўмовах прыгонніцтва, зменлівасць ў заможнасьці і грамадзкім становішчы людзей робіць уздзеянне сапраўды жахлівае; тым не менш менавіта такая пераменлівасць робіць устойлівым сучаснае ўладкаванне ў Расіі, так як прыцягвае да сябе ў хаўруснікі шмат людзей, якія ўмеюць ёю карыстацца; зноў прыклад таго, як лекі бяруцца із той жа крыніцы, адкуль пачынаецца хвароба. Жахлівае кола, у якім асуджаны круціцца ўсе народы неабсяжнай імперыі!.. Падобны стан грамадства – нібы вераломная сетка, кожная ячэйка якой стягваецца вузлом, калі спрабуеш із яе выбрацца. За што так ушаноўваюць, так паважаюць сяляне свайго новага пана? За тое, што ён здолеў здабыць шмат грошай і спрытнымі інтрыгамі здолеў купіць зямлю, да якой прымацаваны ўсе гэтыя людзі, падаючыя перад ім ніц. У краіне, дзе чалавек з’яўляецца маёмасьцю іншага чалавека, дзе заможны, можна сказаць, мае права распараджацца жыццём і сьмерцю бедняка, – у такой краіне заможныя выскачкі здаюцца мне проста жахлівымі. Спалучаючыся ў адным і тым жа грамадстве, развіццё прамысловасьці і коснасць прыгонніцтва прыводзяць да абуральных наступстваў; аднак жа дэспат дагаджае выскачкам – бо гэта ён іх спарадзіў!.. Уяўляеце, у якім становішчы знаходзіцца тут наваяўлены землеўладальнік? Яшчэ ўчора цяперашні яго раб быў яму роўны; і вось дзякуючы больш ці менш сумленнай дзейнасьці, больш ці менш нізкаму і спрытнаму дагаджальніцтву ён выявіўся ў стане купіць пэўную колькасьць сваіх таварышаў, якія зараз – яго прыгонныя. Стаць працоўным быдлам для роўнага сабе – пакута сапраўды невыносная. Аднак жа менавіта да гэтага можа прывесьці ў асяроддзі народа блюзнерскае спалучэнне самаўладных звычаяў і ліберальных – дакладней сказаць, няўстойлівых – уладкаванняў; бо ў іншых краінах разбагацеўшы чалавек не прымушае сваіх пераможаных супернікаў цалаваць сабе ногі. У аснове дзяржавеннага ўладкавання Расіі закладзена недапушчальная неадпаведнасць.

**~ 155 ~**

Заўважце дарэчы, якое дзіўна змешванне разуменняў вырабляе ў розумах рускага народа лад, пры якім ён жыве. Пры гэтым ладзе чалавек моцна прывязаны да зямлі, паколькі яго прадаюць з ёю заадно; аднак, замест таго каб прызнаць, што сам ён запрыгонены, а зямля свабодна прадаецца, гэта значыць зразумець і асэнсаваць, што ён прыналежнасць зямлі, з дапамогай якой некаторыя людзі тыранічна ім распаджаюцца, – ён, насупраць, думае, быццам зямля належыць яму. Па сутнасьці, такая памылка ўяўляе сабою проста падман разумення: бо, лічачы сябе ўладальнікамі зямлі, селяне не бяруць ў галаву, што

зямлю-та можна прадаць і без жывучых на ёй людзей. А таму, трапляючы да новага пана, ён не лічыце, што гэтаму новаму ўладальніку прадалі зямлю; ў яго ўяўленні прадалі перш за ўсё яго самага уласнаю пярсонай, а ўжо ў прыдачу аддалі і зямлю – зямлю, на якой ён нарадзіўся, якую апрацоўвае і ад якой корміцца. Вось і паспрабуйце даць свабоду такім людзям, якія згодна існуючых грамадскіх законаў стаяць прыкладна на адным узроўні з дрэвамі і травой!..

С-р Гібаль (кожны раз, калі мне дазволена назваць чыё-та імя, я гэтым дазволам карыстаюся), сын школьнага настаўніка, быў без падставы – ва ўсякім разе без тлумачэнняў, не будучы нават у стане здагадацца, у чым яго абвінавачваюць, – высланы ў сібірскую вёску паблізу Арэнбурга. Каб развеяць тугу, ён склаў песьню; пачутаю наперш наглядчыкам, а затым перададзеная губернатару, яна прыцягнула да сябе ўвагу гэтай высокапастаўленай асобы; да сасланага быў накіраваны адзь'ютант, каб даведацца пра яго справу, пра яго стан і паводзіны і вырашыць, ці не спатрэбіцца ён для чаго-небудзь. Небарака здолеў выклікаць у адзь'ютанта спачуванне, і той, вярнуўшыся ў горад, склаў вельмі прыхільную для Гібаля справаздачу. Апошні быў неадкладна вернуты із высылкі, так і не даведаўшыся, у чым была сапраўдная нагода яго бедстваў, – магчыма, то была іншая, раней складзеная песня.

**~ 156 ~**

Ад такіх-та абставін можа залежыць ў Расіі лёс чалавека[362]. А вось яшчэ адна гісторыя, у іншым родзе.

Ва ўладаннях князя ***, на ўсход ад Ніжняга, жыла сялянка, якая мела славу ведзьмы; слава пра яе хутка пашырылася па наваколлі. Апавядалі, што гэтая жанчына творыць цуды, ды вось толькі яе чалавек незадаволены: гаспадарку закінула, на працу не ходзіць. Упраўляючы ў сваёй справаздачы падцвердзіў абвінавачванне сялянкі ў вядзьмарстве.

У той час у маёнтак прыехаў сам князь, яго уладальнік; адразу па прыбыцці ён перш за ўсё пацікавіўся пра знакамітую вядзьмарку. Поп паведаміў

---

[362] Каментар Грэча: «Не; справа адбывалася іншым чынам: я гэта ведаю напэўна. Гібаль не француз, ён нарадзіўся рускім падданым і знаходзіўся ў чыне тытулярнага дарадцы. Бацька яго быў не школьным настаўнікам, а інспектарам выхаваўчай установы ў Маскве. Напачатку 1831 г., калі дух мяцяжу бянтэжыў насельніцтва большай часткі Еўропы, а ў Польшчы разгарэлася вайна, разнастайныя фатальныя і грозныя весткі, разнастайныя чуткі, прынесеныя із самых розных куткоў, хвалявалі пецярбургскую публіку і выклікалі абгрунтаваныя асьцярогі ўраду. Вось у гэтую пару Гібаль вёў у грамадзкім месцы, калі не памыляюся, у рэстарацыі Андрые, неабачлівыя перамовы і, больш таго, пісьмова паведаміў нейкаму французу нейкае паведамленне. Пра тое даведалася паліцыя, і Гібаль стаў ахвярай ўласнай неасьцярожнасьці. Будзь ён французам, яго б выправадзілі із краіны, але ён — рускі падданы і таму быў выпраўлены на жыхарства ў адзін із гарадоў Арэнбургскай губерніі, вайсковым губернатарам якой быў у тую пару граф Сухтэлен, адзін із самых паважаемых і добрадзейнейшых людзей, у Расіі. Ён прызначыў Гібалю для жыхарства Кагалу, а праз паўгода вярнуў яго ў Арэнбург і выкарыстаў у сваёй канцылярыі. Пераканаўшыся, што Гібаль не меў благіх намераў, што ён не прыняў у разлік таго зла, якое магло быць наступствам яго прамоваў, і што нагодай яго няшчасьцяў з'явілася адзіная неасцярожнасць, граф пад час свайго знаходжання ў Санкт-Пецярбургу ў 1832 годзе дамогся для Гібаля імператарскага прабачэння і дазволу вярнуцца ў сталіцу. Пасьля вяртання ў Арэнбург граф абвясьціў Гібалю літасць імператара, але высланаму так спадабаўся Арэнбург, што ён адмовіўся яго пакінуць і з'ехаў адтуль толькі пасьля смерці свайго дабрадзея, якая здарылася ў красавіку 1833 года. Вось простае і праўдзівае апавяданне пра гэту справу. Што ж да памянёнай песьні, Гібаль склаў яе ўжо пасьля таго, як усталяваўся ў Арэнбургу» (Gretch. p. 91-92).

яму, што бабе ўсё горш, яна ўжо не можа гаварыць, і ён мае намер выгнаць з яе дэманаў. Гэты абрад адбыўся ў прысутнасці пана, але поспеху не меў; тады князь, вырашыўшы дакапацца да разгадкі гэтай незвычайнай гісторыі, выкарыстаўшы чыста рускі загойваючы сродак – загадаў высякчы апантаную розкамі. Такое лячэнне не замедліла выказаць дзеянне.

Пасьля дваццаць пятага ўдара баба папрасіла літасьці, пакляўшыся распавясьці ўсю праўду. Яна растлумачыла, што адружылася з некаханым і прыкідвалася апантанай, каб не працаваць на чалавека.

Сваім прытвоствам яна забяспечыла сабе гультайскае жыццё, а заодно і вяртала здароўе шматлікім жадаючым, якія прыходзілі да яе з надеяй і даверам і сыходзілі назад вылячэннымі.

Ведзьмакі нярэдка сустракаюцца сярод рускіх сялян, замяняючы ім лекараў: гэтыя махляры вылечваюць шмат каго із людзей, у тым ліку і ў цяжкіх выпадках, як прызнаюць самі лекары.

Вось бы сляткаваў Мальер! І што за бездна сумневаў бачыцца перад намі!.. Ўяўленне!.. Хто ведае, ці не ўтварае яно той рычаг ў руцэ Божай, з дапамогай якой Гасподзь узвышае стварэнні, закаваныя ў межы плоці? Пра сябе скажу, што мяне сумненні заводзяць далёка – назад да веры, бо мне ўяўляецца, наперакор розуму, што ў чараўніка ёсць незаўважальная, але бяспрэчная магутнасць, якая дазваляе лекаваць нават тых, хто ў яе не верыць[363]. З дапамогай слова “ўяўленне” нашы навукоўцы знімаюць з сябе абавязак тлумачыць тыя з'явы, якіх не могуць ні адмаўляць, ні зразумець. У некаторых метафізікаў “уяўленне” становіцца чымсьці накшталт “нерваў” у некаторых лекараў.

Незвычайнае відовішча тутэйшага грамадскага ўладкавання прымушае чалавечы розум да безперапынных разважанняў. На кожным кроку ў гэтай краіне захапляешся тым, як шмат выйграе дзяржава, дабіваючыся ад падданых безпярэчнага падпарадкавання; але гэтак жа часта шкадуеш, не бачачы тых выгод, што атрымала б ўлада, заснаваўшы падпарадкаванне на высокіх маральных пачуццях.

Дарэчы мне прыпамінаецца адно выказванне, якое пацвердзіць вам, як я правы, калі сцвяржаю, што іншых – і нават даволі шматлікіх – людзей здольна падмануць абагаўленне пана прыгоннымі. Настолькі ўладарыць над нашымі сэрцамі ліслівасць, што ў канчатковым рахунку нават самыя дрэнныя із усіх лісліўцаў – жах і выгода – не горш за самых хітрых знаходзяць спосаб дасягнуць свайго і прымусіць да сябе прыслухацца; таму вось шмат якія рускія і лічаць сябе належачымі да іншай пароды, у параўнані са звычайнымі людзьмі.

Адзін вельмі заможны рускі – хоць, здаецца, і вопытны ў пытаннях раскошы і ўлады, бо яго сямейнае багацце склалася ўжо два пакаленні таму назад, – ехаў із Італіі ў Германію; у нейкім мястэчку ён даволі сур'ёзна захварэў і загадаў пазваць да сябе лепшага лекара ў акрузе; спачатку ён выконваў назначэнні лекара, але хвароба ўсё пагаршалася, і пасьля некалькіх дзён лячэння

---

[363] Нататка Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Круцячыяся сталы і стукаючыя духі могуць служыць пацверджаннем слоў аўтара».

хвораму надакучыла падпарадкоўвацца і ён у гневе падняўся з ложку; парваўшы покрыва цывілізаванасьці, у якое лічыў патрэбным ахінацца ў звычайным жыцці, ён зноў стаў самім сабою і, мераючы крокамі пакой, усклікнуў: “Не разумею, як гэта мяне тут лечаць; ўжо тры дні кормяць рознымі лекамі без усякага паляпшэння; што за лекара вы мне прывялі? Ён што, не ведае, хто я такі?”

Раз ужо я пачаў гэты ліст з анекдота, то вось вам яшчэ адзін, не такі забаўны, але ўсё ж здольны вам дапамагчы скласьці дакладнае ўяўленне пра характар і звычкі вялікасвецкіх людзей у Расіі. Тут любяць толькі ўдачлівых, і такая выбіральная павага часам прыводзіць да смешных выпадкаў.

Адзін малады француз карыстаўся вялікім поспехам у грамадстве вясковых землеўладальнікаў. Усе яго заўважалі – звалі то на абед, то на гулянне, то на паляванне, то на хатнія пастановы; наш іншаземец быў вельмі зачараваны. Усім сустрэчным ён хваліў рускую гасціннасць і пачцівыя манеры несправядліва абгавораных “паўночных варвараў”! Праз некаторы час захоплены юнак, знаходзячыся ў суседнім горадзе, захварэў; яго хвароба зацягвалася і рабілася усё цяжэйшай, між тым нават бліжэйшыя яго сябры не выказвалі ніякай зацікаўленасьці. Праходзілі тыдні, прайшло цэлых два месяцы, і хіба што зрэдку хто-небудзь прысылаў справіцца пра яго; нарэшце маладосць ўзяла сваё, і падарожнік, насуперак мясцоваму лекару, ачуняў. Ледзь ён паправіўся, як да яго хлынуў паток гасьцей, каб адсвяткаваць яго папраўку, як быццам на працягу ўсёй яго хваробы яны толькі пра яго і думалі; трэба было бачыць радасць тых, хто раней яго прынімаў, – здавалася, яны самі толькі што паўсталі із памёршых!.. Усе запэўніваюць яго ў сваім спагадзе, зноў клічуць на ўсякія забавы, ласьцяць яго як кошкі – схаваўшы кіпцюры сваёй легкадумнасьці, сябялюбства і забыўчывасьці; садяцца гуляць ў карты побач з яго крэслам, з няшчырай турботай прапануюць прыслаць дыванчык, варэнне, віно... З той пары як яму больш нічога не патрэбна, усё ў яго распраджэнні... Ён, аднак, не паддаўся на гэтую старую прыманку, сеў хутчэй у карэту і з'ехаў, спяшаючыся, згодна яго слоў, бегчы з дзяржавы, дзе гасціннасць выказваецца толькі шчаслівым людзям, забаўным ці ж карысным!..

**~ 157 ~**

Адна француженка-эмігрантка, сталая і разумная, выбрала месцам свайго жыхарства рускі правінцыяльны горад. Нeяк аднойчы яна выправілася ў госьці да адной асобы із ліку мясцовых жыхароў. У некаторых рускіх дамах лесвіцы маюць люк, і хадзіць па іх небяспечна. Француженка, не заўважыўшы аднаго такога люка, правалілася з вышыні пятнаццаць футаў на драўляныя прыступкі. Што ж зрабіла гаспадыня дому? Вам будзе нялёгка здагадацца. Не пажадаўшы нават пераканацца, жівая ці мёртвая злашчасная жанчына, не кінуўшыся яе агледзець, не пазваўшы на дапамогу, не паслаўшы хоць бы за лекарам, яна пакінула пацярпеўшую і набожна паспяшалася ў хатнюю часоўню, каб памаліцца святой панне за бедную нябожчыцу... можа, загінуўшую, а можа, і параненую, на то ўжо воля Божая. Між тым пацярпеўшая, якая засталася жывой і нават не атрымаўшая пераломаў, паспела стаць на ногі, падняцца назад ў пярэдні пакой і з'ехаць да сябе дадому, перш чым яе багамольная сяброўка выйшла із часоўні. Да той ледзь дазваліся ў яе прытулку, крычучы праз дзверы, што здарэнне не мела

ніякіх цяжкіх наступстваў, што француджанка вярнулася дадому і хоць і лягла ў ложак, але толькі на ўсякі выпадак. Тут-та ў журботным сэрцы набожной рускай дамы прачнулася пачуццё дзейснай павагі да бліжняга, і яна, дзякуючы Бога, які пачуў яе малітву, паслужліва паспяшалася да сяброўкі, прымусіла, каб яе ўпусьцілі, кінулася да ложку хворай і не менш гадзіны выказвала ёй спачуванне, не даючы ёй адпачыць, што так было неабходна пацярпелай.

Пра гэтыя яе недарэчныя паводзіны разпавяла мне тая самая асоба, з якою здарылася бяда. Калі б яна зламала сабе нагу ці страціла свядомасць, яна магла б так і памерці там, дзе пакінула яе богашануючая сяброўка.

Ці варта пасьля гэтага здзіўляцца, што ніхто і не думае дапамагчы людзям, якія тонуць ў Няве, што ніхто нават не асьмельваецца распавясьці пра іхную пагібель!

У рускім вялікасвецкім асяроддзі вельмі часта сустракаюцца ўсялякія незвычайныя пачуцці, бо розумы і сэрцы тут занадта ўсім перасычаныя.

У Пецярбургу жыве знатная дама, якая некалькі разоў была адружанай; лета яна праводзіць у цудоўнай вясковай сядзібе ў некалькіх лье ад горада, дзе ўвесь сад заняты пахаваннямі яе мужоў, – як толькі яны паміралі, яна пачынала захоплена іх кахаць; ушаноўваючы іх, яна будуе маўзалеі, часоўні, пралівае слёзы над іхнымі парэшткамі... словам, пакланяецца памёршым, абражаючы тым самым жывых. Такім чынам парк каля яе сядзібы ператварыўся ў сапраўдныя могілкі Пер-Лашэз; і кожнаму, хто не адчувае, падобна прыстойнай ўдаве, пяшчотнага кахання да нябожчыкаў чалавекаў і іхных пахаванняў, гэтае месца здаецца вельмі змрочным[364].

Ніякая адсутнасць пачуццяў або, што тое ж самае, слязлівасць не павінна здзіўляць ў народа, які вучыцца тонкасьці адчуванняў так жа старанна, як мастацтву вайны або кіраванню дзяржавай. Вось прыклад таго, з якой сур'ёзнай цікавасьцю ўспрымаюць рускія самыя пустыя рэчы, калі толькі гэтыя рэчы маюць дачыненне да іх асабіста.

У падмаскоўнай вёсцы жыў сталы і заможны землеўладальнік із старажытнага баярскага роду. У яго сядзібе квартыраваў атрад гусар са сваімі афіцэрамі. Прыйшла Паска. У рускіх гэтае свята святкуецца з асаблівай урачыстасьцю. На царкоўную службу, якая ў гэты дзень выпраўляецца роўна ў поўнач, збіраецца ўсё сямейства, іхныя сябры і суседзі.



Землеўладальнік, пра якога ідзе гаворка, быдучы самай значнай асобай у акрузе, чакаў у пасхальную ноч наплыву гасьцей, тым больш што як раз у тым годзе ён з вялікай пышнасьцю абнавіў царкву ў сваім мястэчку.

---

[364] Каментар Грэча: «Шляхетная дама, графіня ?…, пабудавала ў сваім маёнтку непадалёк ад Пецярбурга, каля царквы, дзе быў пахаваны яе першы чалавек, рускі, надмагільны помнік свайму другому чалавеку, паважанейшаму чалавеку, выхадцу із французскай Швейцарыі. Гэтага с-ру дэ Кюстыну было дастаткова, каб сцвярджаць, быццам бы сад гэтай дамы поўніцца надмагіллямі ўсіх яе чалавекаў, да якіх яна пачынае адчуваць палымянае кахання, як толькі яны выпускаюць дух, і ў памяць якіх узводзіць маўзалеі і капліцы, аплакваючы іх парэшткі горкімі слязьмі і ўпрыгожваючы іх магілы сентыментальнымі эпітафіямі. Якое перабольшанне» (Gretch. p. 93).

За два-тры дні да свята яго абудзіць ноччу шум ад коней і экіпажа, які ехаў праз плаціну побач з яго сядзібай. Сядзіба, як гэта робіцца звычайна, размешчана на беразе невялікай сажалкі; царква ж месціцца на процілеглым беразе, так што плаціна служыць дарогаю із сядзібы у вёску.

Здзівіўшыся такому незвычайнаму шуму сярод ночы, землеўладальнік падбег да вакна, і якім жа было яго здзіўленне, калі пры свеце шматлікіх факелаў ён пабачыў выдатную каляску чацвярнёй ў суправаджэнні двух верхавых кур'ераў.

Ён пазнаў гэтую новенькую каляску, таксама як і яе ўладальніка; то быў адзін із гусарскіх афіцэраў, якія жылі на пастоі ў яго ў сядзібе, – ладны сумазброд, незадоўга да таго атрымаўшы вялікую спадчыну; гэты задавасты повеса як раз нядаўна купіў сабе коней і каляску і прывёз іх у сядзібу. Стары землеўладальнік, бачачы, як афіцэр у поўнай адзіноце, сярод ночы, у бязлюднай вясковай глушы, красуецца ў сваёй адкрытай калясцы, вырашыў, што той звар'яцеў; гледзячы ўслед вытанчанаму экіпажу і яго сьвіце, ён убачыў, як яны стройна пад’язджаюць да царквы і спыняюцца каля яе варот; там уладальнік каляскі з важным выглядам выйшаў з яе, дачакаўшыся, каб слугі адчынілі яму дзверцы і дапамаглі спусьціцца, хаця афіцэр, такі ж малады і яшчэ больш спрытны, чым яны, бяспрэчна мог бы абыйсьціся і без іхных паслуг.

Ледзь ступіўшы на зямлю, ён зноў павольна і велічна залез ў каляску, праехаў назад па плаціны, зноў вярнуўся да царквы і разам са сваёю чэляддзю пачаў нанова тую ж цырымонію, што і раней. Такая камедыя працягвалася да самага ранку. Паўтарыўшы ўсё ў апошні раз, афіцэр загадаў ціха, павольна вярнуцца ў сядзібу. Яшчэ праз некалькі хвілін усе ляглі спаць.

Ранкам гаспадар адразу ж пасьпяшаўся распытаць свайго госьця, гусарскага ротмістра, што б такое азначала яго наная язда і навошта слугі так мітусяцца вакол каляскі і яго асобы. “Нічога, – адказваў малады афіцэр, ніколькі не збянтэжыўшыся, – проста слугі ў мяне не маюць вопыту, а на Паску у вас збярэцца шмат народу, прыедуць з усёй акругі і нават іздалёк; і я вырашыў зрабіць рэпетыцыю свайго пад’езда да царквы”.

Што да мяне, то мне застаецца распавясьці вам пра свой ад'езд із Ніжняга; як вы ўбачыце, бляску ў ім было менш, чым у начным гулянні гусарскага ротмістра.

У той вечар, калі я разам з губернатарам глядзеў пастанову на рускай мове ў зусім пустой зале, мне сустрэўся пасьля выхаду із тэатра адзін знаёмы і павёў у трактыр з цыганкамі, размешчаны ў найбольш ажыўленай частцы ярмарачнага гарадка; набліжалася поўнач, але ўнутры было яшчэ людна, шумна і светла. Цыганскія жанчыны здаліся мне прыгожымі; іхнае адзенне, вонкава тое ж самае, што і ў іншых рускіх жанчын, выглядае неяк незвычайна; ў позірку і ў іхных рысах ёсць нешта вядзьмарскае, у рухах жа вытанчанасць спалучаецца з велічавасьцю. Адным словам, у іх ёсць своеасаблівы стыль, як у сівілл Мікеланджэло[365].

---

[365] Маюцца на ўвазе фігуры сівіл на бакавых частках звода Сікстынскай капэлы ў Ватыкане.

Спявалі яны прыкладна так жа, як і маскоўскія цыгане, але, на мой густ, яшчэ выразней, мацней і разнастайней. Кажуць, што душа ў іх гордая; яны захапляючыяся і ўлюбчывыя, але не легкадумныя і не прадажныя і часта з пагардай адкідваюць выгадныя абяцанні.

Чым далей, тым больш у сваім жыцці я дзіўлюся, як захоўваецца часьцінка цнотаў нават у тых, хто іх пазбаўлены. Нярэдка людзі самага пагарджанага стану падобныя на народ, прыніжаны сваім урадам, але поўны схаваных вялікіх вартасцяў; і насупраць, у людзей знакамітых з непрыемным здзіўленнем выяўляеш слабасць, а ў народаў, нібыта жывучых пад добрым кіраўніцтвам, – сварлівы характар. Чым абумоўлена чалавечая дабрачыннасць – гэта амаль заўсёды таямніца, непраніцаемая для нашага розуму.

На гэтую ідэю аддзякі пакорным, толькі бегла пазначаную тут мною, пралівае яркае святло адзін із самых дзёрзкіх і таленавітых розумаў нашага часу, ды і ўсіх часоў наогул. Віктар Гюго, магчыма, усё свае драмы прысвяціў таму, каб выявіць свету чалавечае, г. зн. боскае, пачатак, захоўваючыся у душах тых божых стварэнняў, што больш за ўсіх адкінуты нашым грамадствам; высокамаральная, мала таго – богашануючая задача[366]! Пашыраць межы нашай спачувальнасьці – значыць тварыць богаўгодную справу; натоўп часта бывае жорсткім праз адсутнасць разважлівасьці, згодна звычкі, праз перакананні, яшчэ часьцей проста праз неабдуманасць; той, хто па магчымасьці загойвае гэтыя раны ў неацэненых сэрцах, не ранячы прытым яшчэ глыбей іншыя сэрцы, таксама заслугоўваючыя спагады, той дзейнічае ў згодзе з задумай провіду, пашырае царства Божае на зямлі.

**~ 159 ~**

Із карчмы з цыганкамі мы выйшлі ўжо позна ноччу; тым часам на зямлю пралілася ліўнем навальнічная хмара, праз што паветра раптоўна пахаладала. Доўгія шырокія вуліцы бязлюднай ярмаркі былі затоплены вялікімі лужынамі, і коні, скакаўшыя не сбаўляючы бег па гэтай твані, якая ўтварылася ў размокшай зямлі, забрызгвалі нас брудам прама ў кузаве маёй адкрытай калясцы; чорныя хмары пагражалі новымі дажджамі да раніцы, а рэзкія парывы ветру раз-пораз абдавалі нас вадою, якая лілася па сцёкавых жалабах.

– Вось і лета прайшло, – сказаў мой праваднік.

– Ды ўжо ж бачу, – адказваў я. Мне было зябка, нібы зімой. Я быў без плашча; раніцай выязджаў ў задушлівую спёку, а вярнуўся ў пранізваючы холад; дзве гадзіны пісаў вам ліст, затым лёг спаць ўвесь закачанеўшы. Ранкам, паспрабаваўшы падняцца, адчуў галавакружэнне і ўпаў назад ў ложак, не маючы моцы апрануцца і выйсьці.

Гэтая непрыемнасць здалася мне тым больш прыкрай, што як раз у той дзень я збіраўся ехаць у Казань; жадаючы хоць нагою ступіць на зямлю Азіі, я наняў лодку, каб спусьціцца на ёй ўніз па Волзе, фельд’егер жа павінен быў без мяне даставіць ў Казань мой экіпаж для вяртання ў Ніжні ўверх уздоўж берага.

---

[366] Персанажы драм В. Гюго «Марыён Дэлорм» (1831), «Лукрэцыя Борджыа» (1833)», «Руі Блез» (1838): куртызанка, распусніца, слуга — па ходзу развіцця пастановы выяўляюцца ўзорамі шляхетнасьці і велікадушнасьці.

Праўда, з тых часоў як ніжагародзкі губернатар не без гонару паказаў мне малюнкі Казані, я ўжо не так горача туды рваўся. Выявілася, гэта ўсё той жа самы горад, што і паўсюль у Расіі, ад аднаго яе края да другога: былі тут і казарма, і саборы ў форме язычніцкіх храмаў; я ўжо адчуваў, што дзеля гэтай вечна паўтараючайся архітэктуры не варта ехаць лішнія дзвесце лье[367]. Але ўсё ж хацелася побываць на мяжы Сібіры і зірнуць на горад, які некалі абложваў Ян IV. Зараз жа прыйшлося адмовіцца ад гэтай паездкі і цэлых чатыры дні ціха сядзець дома.

Губернатар з вялікай пачцівасьцю наведаў мяне на ложы нядуга; на чацвёрты дзень, адчуваючы, што мне робіцца ўсё горш, я адважыўся паклікаць лекара. Лекарь сказаў:

– Ліхаманкі ў вас няма, і вы яшчэ не хворы, але захварэеце цяжка, калі хаця б на тры дні затрымаецеся ў Ніжнім. Я ведаю, як тутэйшае паветра дзейнічае на людзей вядомага тэмпераменту; ад’язджайце – ужо праз дзесяць лье вы адчуеце палёгку, а праз дзень і зусім паправіцеся.

– Але ж я не магу ні есьці, ні спаць, ні стаяць, ні рухацца – пачынаецца моцны галаўны боль, – запярэчыў я, – што ж са мною будзе, калі здарыцца застрасьці ў дарозе?

– Загадайце аднесці сябе ў каляску; пачынаюцца восеньскія дажджы; паўтараю, я не ручаюся за ваша жыццё, калі вы затрымаецеся ў Ніжнім.

Доктар быў вучоны і дасьведчаны; ён некалькі гадоў правёў у Парыжы, а перад тым атрымаў грунтоўную адукацыю ў Германіі. Я паверыў яму і згодна з яго парадай на наступны дзень пад праліўным дажджом і ледзяным ветрам сеў у свой экіпаж; надвор’е здольна была збянтэжыць нават самага бадзёрага падарожніка. Аднак ужо пасьля другой станцыі прадказанне лекара збылося: я пачаў дыхаць вальней, хоць і адчуваў сябе зусім разбітым. Заначаваць давялося ў нейкай кепскай хаціне... а ранкам я быў здаровы.

Увесь час, пакуль я ляжаў у ложку ў Ніжнім, мой шпіён-заступнік нудзіўся зацягнуўшымся знаходжаннем на ярмарцы і ўласным вымушаным бяздзеяннем. Неяк раніцай ён прыйшоў да майго камердынера і спытаў па-нямецку:

– Калі ж мы ад’язджаем?

– Не ведаю: гаспадар жа хворы.

– Ён праўда хворы?

– А па-вашаму, ён дзеля задавальнення не ўстае з ложка і нікуды не выходзіць з той кватэры, што вы яму тут знайшлі?

– А што з ім?

– Не ведаю.

– Праз што ён хворы?

– Божа! Ды спытайце ў яго.

Гэта “праз што” здаецца мне заслугоўваючым згадвання.

---

[367] Пар. водгук Я. С. Аксакава на гэты і шмат якія іншыя падобныя пасажы Кюстына: «Незвычайна прыгожы гэты сабор <у Астрахані>. Ён не той казённай архітэктуры, над якой так смяецца Кюстын і ўзоры якой вы сустракаеце ў кожным мястэчку, бо ўсюды рэкамендаваны: каменная пабудова для службовых месцаў і каменны сабор!» (Аксакаў І. С. Лісты да родных. М., 1988. с. 55; ліст ад 27 сакавіка 1844 г.).

Ён ніяк не можа дараваць мне сцэну з каляскай.

З таго дня ён перамяніўся і ў паводзінах, і ў выразе твару; гэта з’яўляецца доказам, што нават у самых схаваных характерах заўсёды застаецца нешта натуральнае і непрытворнае. Я нават часткова задаволены яго злапамятствам. Я-та лічыў, што ён зусім не здольны на міжвольныя перажыванні.

Рускім, як і ўсім навічкам ў цывілізаваным сьвеце, уласьціва крайняя крыўдлівасць; яны не выносяць нават агульных меркаванняў, усё адносячы на свой кошт; нідзе так дрэнна не згадваюць аб Францыі; менш за ўсё ў Расіі разумеюць свабоду думкі і слова; як я чуў ад тых, хто з напускною разважлівасьцю кажа аб нашай краіне, яны не могуць зразумець, як гэта кароль не карае парыжскіх пісак, якія штодзённа яго хаяць.

– Аднак жа гэта так, пераканайцеся самі, – пярэчу я.

– Так, на словах-то кажуць пра памяркоўнасць, – адказваюць яны з хітраватым выглядам, – але гэта ўсё для натоўпу ды для іншаземцаў; а таемна занадта дзёрзкіх журналістаў ўсё ж караюць.

**~ 160 ~**

Калі ж я запэўніваю, што ў Францыі ўсё абмяркоўваецца галосна, яны хітра смяюцца ў адказ, ветліва змаўкаюць і не вераць ніводнаму майму слову.

Горад Уладзімір часта згадваецца ў гісторыі; з выгляду гэта ўсё такі ж самы нязменны рускі горад, выгляд якога вам ўжо больш чым добра знаёмы. Мясцовасць, якою я ехаў з Ніжняга, таксама паходзіць на тую, што вам ужо вядома пра Расію: лес, дзе не відаць дрэваў, ды зрэдку горад, дзе не відаць руху. Уявіце сабе жаўнерскія казармы, якія стаяць сярод балот ці ж верасавых пустак – у залежнасьці ад глебы; ажыўляе іх адзін толькі дух муштры!! Калі я кажу рускім, што лясы ў іх блага даглядаюцца і што так у краіне хутка не застанецца дроў, то яны смяюцца мне ў твар. У іх вылічана, колькі мільёнаў гадоў спатрэбіцца, каб звесьці лясы, якія займаюць велізарную частку імперыі, і гэтым падлікам кожны раз і адгаворваюцца. Тут, як і ва ўсім такім іншым, рускія задавальняюцца словамі. У рэестрах, дасылаемых ў сталіцу кожным губернатарам, запісана, што ў такой-та губерніі маецца столькі-та дзесяцін лесу! Далей статыстыка выконвае свае арыфметычныя абавязкі; ды толькі лічыльнік, перш чым вывесці агульную суму, не правярае на месцы, із чаго складаецца пазначаны на паперы лес. Часьцей за ўсё яму сустрэліся б замест дрэў адны кусты, прыдатныя хіба на галлё, ці ж бясконцыя пусткі, дзе-нідзе парослыя чаротам і папаратнікам! Між тым ужо пачынае адчувацца абмяленне рэк, і гэта трывожная з'ява, якая пагражае суднаходству, можа тлумачыцца толькі тым, што вельмі шмат лесу вырубаецца каля вытокаў і ўздоўж берагоў, адкуль яго лягчэй сплаўляць. Аднак рускія, блага партфель напоўнены супакойваючымі справаздачамі, мала заклапочваюцца разбазарваннем адзінага прыроднага багацця сваёй зямлі. З міністэрскіх кабінетаў лясы здаюцца не маючымі краю... і рускім гэтага дастаткова. Дзякуючы такому самазаспакаенню чыноўнікаў можна прадбачыць час, калі печы давядзецца паліць старымі паперамі, назапашанымі ў канцылярыях; гэта-та багацце павялічваецца з кожным днём.

Мае словы вельмі дзёрзкія і нават абуральныя, хоць гэта і не відавочна; педантычная самапавага рускіх прад'яўляе іншаземцам такія патрабаванні, якім я не падпарадкоўваюся, а вы пра іх нават не здагадваецеся. У вачах тутэйшых людзей мая шчырасць робіць мяне злачынцам. Глядзі якая няўдзячнасць! Міністр даў мне фельд’егера, які адным выглядам свайго мундзіра пазбаўляе мяне ад дарожных клопатаў, значыць, лічаць рускія, я абавязаны ўсе ўхваляць ў іхнай краіне. “Гэты іншаземец, – думаюць яны, – парушыў бы ўсе законы гасьціннасьці, калі б дазволіў сабе ганьбаваць краіну, дзе да яго так добра ставяцца...” Ды што за трызненне!.. Я па-ранейшаму лічу, што вольны апісваць і выносіць меркаванне пра тое, што бачу!! А калі так, то яны будуць крычаць, што гэта нявартa... Не, няхай грошы ці ж рекамендацыйныя лісты дапамаглі мне атрымаць курьера для вандровак па краіне, але я ўсё ж хачу, каб вы ведалі: калі б я выправіўся ў Ніжні са звычайным слугою, нават размаўляўшым па-руску, як я па-французкі, то мы б спыняліся на кожнай трохі аддаленай паштовай станціі праз выхадакі і каверзы наглядчыкаў. Спачатку б нам адмовілі ў конях, потым, у адказ на нашы настойванні, сталі б вадзіць із аднаго стойла ў другое, паказваючы, што яны пустыя; нас гэта больш злавала б, чым здзіўляла, так як мы б загадзя ведалі – хоць поскардзіцца тут немагчыма, – што наглядчык адразу пасьля нашага прыбыцця на станцыю пасьпяшаўся схаваць ўсіх коней ў недаступнае для іншаземцаў сховішча. Праз гадзіну перамоваў нам бы прывялі нібыта свабодную запрэжку, і селянін, якому яна нібыта належыць, міласьціва саступіў бы яе нам за плату ў два-тры разы большую, чым на дзяржаўнай пошце. Спачатку мы б адмовіліся і выслалі яе прэч; але потым, не вытрымаўшы, сталі б слёзна маліць прывесьці назад гэтых каштоўных кляч і заплацілі б гаспадарам усё, што яны захочуць. Тое ж самае паўтаралася б на кожнай станціі. Вось што азначае ездзіць па гэтай краіне іншаземцу, які не мае вопыту і высокага заступніцтва. Між тым, усюды вядома і прызнана, што паштовыя коні ў Расіі каштуюць вельмі танна і ездзяць на іх вельмі хутка.

Ці не здаецца вам, як і мне, што, ацаніўшы па-справядлівасьці ветлівасць, выказанную мне загадчыкам шляхамі стасункаў, я маю права распавесьці вам пра тыя дакукі ад якіх ён пазбавіў мяне сваёй ласкай?

Рускія ўвесь час асьцерагаюцца праўды, бо яна іх пужае; я ж прыбыў із дзяржавы, дзе жыццё цячэ на вачах ва ўсіх, дзе ўсё аддаецца галоснасьці і публічна абмяркоўваецца, і зусім не саромеюся педантычнасці тутэйшых людзей, нічога не выказваючых напрамую. У Расіі казаць услых – прыкмета дрэннага выхавання; каб засведчыць вам свой такт і добры тон, людзі шэпчуць вам на вуха якія-небудзь словы, не маючыя сэнсу, заканчваючы самую пустую фразу просьбай захоўваць ў таямніцы нават тое, што зусім не было сказана... У гэтай краіне, дзе не толькі забаронена выказваць сваё меркаванне, але забараняецца перадаваць нават самыя засведчаныя факты, усякае дакладнае і выразнае слова становіцца сапраўднай падзеяй; французу застаецца толькі адзначыць гэтую цікавую звычку, засвоіць яе для яго немагчыма.



У Расіі ёсць парадак; аднаму Богу вядома, калі ў ёй з'явіцца цывілізацыя.

Гасудар, нікольki не спадзяючыся на магутнасць пераконванняў, бярэцца за ўсе справы самастойна, выстаўляючы ў якасьці падставы неабходнасць моцнай цэнтральнай улады ў такой неабсяжнай імперыі, як Расія; здаецца, падобнае ўладкаванне складае заканамерны дадатак да прынцыпа сляпога падпарадкавання; іншае, свядомае падпарадкаванне абвергла б ілжывую ідэю ўсеагульнай спрошчанасьці, якая ўжо больш за стагоддзе пераважае ў розумах пераемнікаў цара Пятра і нават у розумах іхных падданых. Калі ўсё так бязмерна спрашчаецца, то гэта не магутнасьць, а сьмерць. Самаўладная ўлада, маючы справу з умоўнымі адзінкамі нападобе людзей, сама перестае быць рэальнаю і ператвараецца ў прывід.

Расія толькі тады стане сапраўднай нацыяй, калі яе гасудар па сваёй добрай волі выправіць зло, зробленае Пятром I. Але ці знойдзецца ў такой краіне ўладар, якому хопіць мужнасьці прызнаць, што ён усяго толькі чалавек?

Толькі побываўшы ў Расіі, разумееш, наколькі цяжкая падобная палітычная рэформа і якая моц характару патрэбна, каб яе ажыццявіць.

# працяг ліста

**На паштовай станцыі паміж Уладзімірам і Масквою, 3 верасня 1839 года[368].**

Вам ні за што не здагадацца, якой небяспецы я падвергнуўся сёння раніцай. Можаце перабіраць ўсе здарэнні, здольныя паставіць пад пагрозу жыццё вандраўніка на вялікай дарозе ў Расіі, – ні ведаў, ні ўяўлення не хопіць вам, каб здагадацца, чаму я сёння ледзь не загінуў. Пагроза была такая вялікая, што калі б не спрыт, моцнасць і спакой майго слугі-італьянца, то пра прыгоду, пра якую вы зараз прачытаеце, давялося б выкладаць ўжо не мне.

Трэба ж было здарыцца, каб у пярсідзкага шаха з’явілася патрэба ў сяброўскім хаўрусе з імператарам расійскім, і з гэтаю мэтай, лічачы, што падарунак чым большы, тым больш каштоўны, ён паслаў царю аднаго із самых вялікіх азіяцскіх чорных сланоў; трэба ж было, каб гэтая хадзячая вежа выявілася пакрытай пышным дыванам, які служыў гiганту папонай і іздалёк нагадваў развяваючуюся на вятру саборную драпіроўку; трэба ж было, каб пачвара ішла ў суправаджэнні чарады коннікаў, падобных на статак саранчы, а за ім ішоў караван вярблюдаў, якія здаваліся не больш чым аслы побач з гэтым сланом, які далёка пераўзыходзіць ўсіх мною бачаных і з'яўляецца адным із самых буйных на свеце; ды яшчэ трэба ж было, каб на вярху гэтага жывога манумента быў відаць смугласкуры чалавек ва ўсходнім адзенні, трымаўючы над сабою разкрыты парасон ад сонца і сядзеўшы ў дзіўнай позе, скрыжаваўшы ногі, на пляцоўцы, што была прыладжана на спіне ў грамадзіны; трэба ж было, нарэшце, каб у той самы час, калі гэтага ўладара пустыняў вялі пешым ходам у накірунку

368 Згодна са старым стылем 22 жніўня.

Масквы і Пецярбурга, дзе дзякуючы мясцоваму клімату ён хутка выявіцца ў зборы мастадонтаў і мамантаў, сам я ехаў на паштовых з Ніжняга ў Маскву па Ўладзімірскаму тракту, прычым выехаў ў адзін час з персіянамі, так што ў пэўным месцы бязлюднай дарогі, па якой яны рухаліся так жа павольна, як крочыла царственная жывёла, я не мог іх не нагнаць, і маім скачучым галопам рускім коням давялося праехаць побач з іспалінам; дык вось, патрэбна ж было каб збег ўсіх гэтых абставінаў, спарадзіў гамерычны перапалох маіх рысакоў пры выглядзе жывой піраміды, якая нібы па чараўніцтву рухаецца сярод цэлага натоўпу мудрагелістых на выгляд людзей і жывёл.

Іздалек спужаўшыся гэтага коласа, у якога ногі металічнага колеру, а на спіне пурпурнае пакрывала, мая чацвёрка задрыжала ўсім целам, пачала гучна ржаць, паводзіць ноздрамі і не хацела везці далей. Неўзабаве, аднак, фурман, крычучы і хлешчучы коней пугай і рукою, зацугляў іх і прымусіў абагнаць фантастычнага звера, якога яны так баяліся; яны падпарадкаваліся, уздрыгаючы і ўзняўшы грывы; але як толькі адзін жах перамог другі, коні, насілу наблізіўшыся да пачвары і марудлівым аллюрам праехаўшы побач з яго вялізарнай тушай, нібы засаромеліся ўласнай смеласьці; задаўлены жах вырваўся вонкі, і тут ужо крыкі і лейцы вазніцы перасталі выказваць нейкае ўздзеянне. Чалавечая воля была пераможана ў тое самае імгненне, калі яна, здавалася, перамагла; ледзь адчуўшы пачвару ў сябе за плячамі, коні закусілі цуглі і панеслі ва ўвесь апор, не разбіраючыся, куды цягне іх сляпы парыў. Гэта шаленства жаху магло каштаваць нам жыцця; збянтэжаны і не могучы што-небудзь зрабіць фурман сядзеў на козлах, не рухаючыся і выпусьціўшы павады; фельд’егер побач з ім быў у такой жа аслупянелай бяздзейнасьці. Мы з Антоніо ў закрытай праз неўстойлівае надвор'е і маю хворабу калясцы пабялелі і анямелі; у нашым тарантасе няма дзвярэй, ён як лодка – каб ўлезці або вылезці, трэба паднімаць нагу праз борт, а пры паднятым і прышпіленым да пярэдняй сядушкі кажуху гэта становіцца зрабіць даволі цяжка; раптоўна коні, зусім ашалеўшы, з’ехалі з дарогі і панесліся ўверх па вельмі стромкаму адхону, дзе адно із пярэдніх колаў завязло ў друзе; два кані, не парваўшы пастрамкі, ужо залезлі на самы верх; я бачыў іхныя капыты ўровень з нашымі галовамі; яшчэ намаганне, і каляска паддасца; але так як уз’ехаць наверх яна не зможа, то перакуліцца, разаб’ецца, і яе парэшткі разам з намі коні пацягнуць ў разныя бакі, пакуль не загінуць самі і не загубяць нас; я ўжо думаў, што з намі ўсё скончана. Казакі, які супраўаджалі магутнага падарожніка, які стаў нагодаю бяды, бачачы, у якім небяспечным становішчы мы апынуліся, абачліва ўстрымаліся скакаць за намі ўслед, каб яшчэ больш не распаліць нашых коней, – толькі такая асцярожнасць нам і патрабавалася! Я, не думаючы нават пра тое, каб выскачыць із каляскі, ужо даручыў душу Богу, як раптам Антоніо знік... я лічыў, ён загінуў; ўсё, што адбывалася было схавана ад мяне кажухом і скуранымі шторамі; але ў той жа момант я адчуў, што коні спыніліся. “Мы выратаваны!”- крыкнуў Антоніо; мяне кранула гэта “мы”, бо сам-та ён апынуўся ў бяспецы, як толькі здолеў шчасліва выбрацца вонкі. Дзякуючы рэдкаму спакою ён змог выбраць адзіны прыдатны момант, каб выскачыць з найменшай рызыкай; затым, паказваючы незвычайны спрыт, які ўзнікае ад

моцных пачуццяў і ўсё ж не асэнсаваны ім, ён апынуўся, сам не ведаючы як, навярху адхона, наперадзе двух коней, што залезлі туды і сваімі адчайнымі рыўкамі пагражалі ўсе разнесьці ўшчэнт. Каляска ўжо вось-вось павінна была перакуліцца, калі коней атрымалася спыніць; тут ужо і фурман з кур'ерам, падбадзёраныя прыкладам Антоніо, у сваю чаргу паспелі саскочыць на зямлю; фурман ў імгненне вока схапіў за аброць двух задніх коней, застраўшых на дарозе і адстаўшых ад пярэдняй пары праз лопнуўшы нашыльнік дышла[369], а курьер тым часам затрымаў экіпаж. Амаль у той жа самы момант казакі, што былі пры слане, прыпусцілі сваіх коней і прымчаліся нам на выручку; яны высадзілі мяне з павозкі і дапамаглі маім людзям стрымаць нашых коней, якія ўсё яшчэ рваліся наперад. Немагчыма пабываць бліжэй да непапраўнай бяды, але немагчыма і пазбегнуць няшчасьця з меншымі стратамі: не згубілася ні адзінага цвіка ў павозцы і, што яшчэ больш дзіўна, ні адзінага рамяня са збруі; лопнуў адзін із нашыльнікаў, дзе-нідзе парвалася скура, разарваліся лейцы, у аднаго із коней зламаліся цуглі; вось і ўсё, што патрабавала рамонту.

**~ 162 ~**

Праз чвэрць гадзіны Антоніо ўжо зноў спакойна сядзеў са мною на задняй сядушцы, а яшчэ праз чвэрць гадзіны ўжо спаў, як быццам і не выратаваў усім нам жыццё.

Пакуль папраўлялі вупраж, мне захацелася падыйсьці бліжэй да асноўнага вінаватага ўсіх няшчасьцяў. Паганяты із асцярожнасці адвёў слана ў лес паблізу ад бакавой каляіны тракта. Грозная жывёла здалася мне яшчэ буйней, з тых часоў як праз яго я зведаў такую небяспеку; хобат, якім яна мацала па верхавінах бяроз, здаваўся ўдавам боа, абвіўшымся вакол пальмавых галін. Я пачынаў разумець сваіх коней – і сапраўды было праз што моцна перепужацца. У той жа час слон смяшыў мяне тым грэбаваннем, якое выклікалі ў яго, павінна быць, нашы маленечкія целы; высока падняўшы сваю магутную галаву, ён няўважліва глядзеў на людзей разумнымі і рухомымі вачамі; побач з ім я быў як мурашка; забаяўшыся такога пераўтварэння, я паспяшаўся прэч ад гэтага дзіва; дзякуй Богу за тое, што ён пазбавіў мяне ад жахлівай гібелі, якая ў нейкі момант ужо здавалася мне непазбежнай.

# працяг ліста

**Масква, 5 верасня 1839 года, увечары**[370].

У Маскве ўжо некалькі месяцаў запар стаіць мацнейшая спякота; пасьля вяртання я застаў тут такое ж надвор'е, што было і да адʼезду; сёлятняе лета незвычайнае. Ад засухі над самымі людныя гарадзкімі кварталамі паднімаецца да неба чырванаваты пыл, які ўвечары афарбоўвае неба ў фантастычныя колеры, быццам святло бенгальскіх агнёў; якраз як воблакі ў Оперы. Сёння на зыходзе

[369] Нашыльнік — шырокі рэмень, які ідзе ад хамута ці гужа да пярэдняга канца дышла.
[370] Згодна са старым стылем 24 жніўня.

дня я вырашыў палюбавацца гэтым відовішчам ад сьцен Крамля, абыйшоўны вакол іх са знешняга боку з пачуццём такага ж захаплення і амаль такага ж здзіўлення, што і ў першы раз.

**~ 163 ~**

Зіхацячы арэол, нібы на палатне Корэджо, аддзяляў людзкі горад ад палаца веліканаў; тут цудоўна злучыліся цуды жывапісу і паэзіі.

Апошнія сонечныя прамяні падалі на Крэмль – самую ўзнёслую кропку ўсёй выявы, – тады як астатняя частка горада ўжо ахутвалася начной смугой. Зніклі, здавалася, усё перашкоды для ўяўлення; бясконцасць Сусвету, сам Бог належалі ў той момант паэту, назіраючаму гэтае велічнае відовішча... то быў нібы жывапіс Марціна, ці, дакладней, то была жывая мадэль самых цудоўных яго палотнаў. Сэрца ў мяне білася баязліва і захоплена; перада мною, здавалася, паўсталі із-пад зямлі тагасветныя насельнікі Крамля; іхныя постаці ззялі, нібы дэманы, пісанныя на залацістым фоне; пылаючы, яны накіроўваліся ва ўладанні ночы і вось-вось павінны былі прарваць яе пакрывала; я чакаў толькі, што вось-вось блісне маланка: такая гэта была грозная прыгажосць.

Ад белых нястройным масс палаца раўнамерна адбіваліся касыя промні ветранага заходу сонца; адрозненні ў адценнях адбываліся праз няроўны нахіл сьцен і праз чарадаванне суцэльных паверхняў і пустэч, у якіх і заключаецца ўся прыгажосць гэтай варварскай архітэктуры, дзёрзкімі сваімі прыцудамі калі і не зачароўваючымі наш позірк, то даючымі выдатную ежу для розума. Усё гэта было так уражваючы, так прыгожа, што я не ўстрымаўся яшчэ раз разпавясьці вам пра Крэмль.

Але не турбуйцеся, тут я з ім развітваюся.

Часам з пляцовак, напалову схаваных за будаўнічымі лясамі, чуліся і адзываліся рэхам у насценных байніцах маркотныя песьні працаўнікоў; яны несьліся ўздоўж скляпенняў, зубчатых сьцен, рукатворных абрываў і адбіваліся ад іх прама мне ў сэрца, поўнае невыказваемага смутку. У глыбіні вокнаў царскіх палат мільгацелі блукаючыя агеньчыкі; па пустых галереях, па доўгіх пралётах паміж пабудовамі, побач з пустымі байніцамі і назіральнымі шчылінамі далёка разносіліся людзкія галасы, дзіўна гучаўшыя ў такі час сярод бязлюдных палацаў, і начныя птушкі, патрывожаныя ў таемных сваіх стасунках, ляцелі прэч ад свету факелаў, на самы верх званніц і ўмацавальных вежаў, каб пракрычаць адтуль вестку пра нейкае нечувалае бедства.

Уся гэтая мітусня была выклікана працамі, якія вяліся згодна з загадам гасудара імператара, напярэдадні ўрачыстага прыбыцця гасудара імператара[371]; наведваючы Маскву, ён сам сабе ладзіць урачысты прыём і іллюмінацыю ў Крамлі; пакуль што толькі ў паглыбленні над аднымі з галоўных варот святога палаца яго чакала Божая маці з непагаснай лампадай; але вось, па меры наступлення ночы, горад пачаў асвятляцца; як па чараўніцтву, са змроку

---

[371] Мікалай І павінен быў прыбыць у Маскву на святкаванне Барадзінскіх угодкаў: ён выехаў із Царскага Сяла 15/27 жніўня 1839 г. і прыбыў у Барадзіно ноччу з 16/28 на 17/29 жніўня (гл.: Journal de Saint-Petersbourg. 22 жніўня/3 верасня 1839 г.). Урачыстае адкрыццё манумента адбылося 26 жніўня/7 верасня 1839 г., бітва, якая передавала Барадзінскую бітву, — 29 жніўня/10 верасня 1839 г.

выступілі яго лаўкі, кавярні, вуліцы, тэатры. У той дзень як раз Была гадавіна вянчання гасудара на царства[372] – лішняя нагода для святочнай іллюмінацыі; рускім даводзіцца за год спраўляць столькі святаў, што на іх месцы я б наогул не тушыў лампіёны.

Набліжэнне вялікага чарадзея ўжо пачынае адчувацца: тры тыдні назад Масква была населена аднымі толькі купцамі, якія ездзілі па сваіх справах на дрожках; зараз жа на ўпрыгожаных вуліцах поўна пышных рысакоў, карэт, што запрэжаны чацвярнёй цугам, пазалочаных мундзіраў; у театрах і каля театральных пад'ездаў штурхаюцца знатныя спадары і слугі. “Гасудар ўжо ў трыццаці лье; а раптам ён вось-вось прыедзе; гасудар можа прыехаць ўжо сёння ноччу; магчыма, гасудар будзе ў Маскве заўтра; кажуць, гасудар быў тут ужо ўчора інкогніта; а што, калі ён і зараз тут?” Гэтыя сумневы, спадзяванні, успаміны хвалююць сэрца, ад іх ажыўляецца ўвесь горад, усё прынімае новае аблічча – словы людзей, выраз іх твараў. Масква, горад купецкі і горад спраў, сёння ўзхваляваны і збянтэжаны, нібы сціплая гаражанка, якая чакае ў сваім доме знатнага вяльможу. Палацы, якія звычайна стаяць пустымі, адкрыты і асветлены; усюды прыхарошваюцца сады; кветкі і факелы спаборнічаюць у бляску выпрабленай весялосьці; дагадлівы шэпт прабягае па натоўпу, у розумах абуджаюцца яшчэ больш ўгодлівыя і яшчэ больш патаемныя думкі; усе сэрцы б'юцца ад непрытворнай радасьці, бо людзі, прагнучыя адзнакаў, спакушаюць самі сябе і пережываюць тыя задавальненні, што выяўляюцца прытворна, амаль сур'ёзна.

Мяне жахае такое вядзьмарскае дзеянне ўлады, я баюся сам адчуць на сабе яе чары і зрабіцца лісліўцам – няхай не па разліку, а проста праз прыхільнасць да цудаў.

Расійскі імператар прыбывае ў Маскву, нібы асірыйскі цар у Вавілон.

Кажуць, яшчэ большыя цуды рыхтуюцца да яго прыбыцця ў Барадзіно, дзе ў імгненне вока паўстаў цэлы горад, і гэтаму наваз’яўленаму мястэчку сярод лясоў патрэбна будзе праіснаваць ўсяго тыдзень; там нават пасажаны сад вакол палаца; дрэвы, асуджаныя на хуткую пагібель, прывезены іздалёку і з вялікімі выдаткамі, каб выглядаць як стогадовыя пушчы; што старанней за ўсё падрабляюць ў Расіі, дык гэта старажытны ўзрост; у гэтай краіне, якая не мае мінулага, людзі пакутуюць ад усіх мучэнняў самалюбства, якія ўласцівы выскачцы, які ведае жыццё і выдатна разумее, што думаюць навакольныя пра яго раптоўнае ўзбагачэнне. У гэтым зачараваным сьвеце, каб намаляваць вечнае, карыстаюцца самым што ні на ёсць часовым: замест стогадовых дрэваў – дрэвы, выкапанныя з каранямі! Замест палацаў – багата прыбраныя балаганы, замест садоў – размалёваныя палотны. На Барадзінскім полі пабудавана некалькі театраў, і вайсковыя пастановы там будуць перамяжацца камедыямі; мала таго, па суседству з вайсковым гарадком імператара вырас із нічога яшчэ і гарадок мяшчанскі. Дарэчы, гаспадары спехам пабудаваных там корчмаў нясуць страты, так як паліцыя з вялікай неахвотай дапускае ў Барадзіно цікаўных.

---

[372] Мікалай І вянчаўся на царства ў Маскве 22 жніўня/3 верасня 1826 г.

Святкаванне павінна заключацца ў дакладным паўтарэнні той бітвы, якую мы называем Маскоўскай, а рускія назвалі Барадзінскім змаганнем; каб усё было як мага бліжэй да рэчаіснасьці, із самых далёкіх куткоў імперыі склікалі ветэранаў 1812 года – усіх тых удзельнікаў падзеі, хто яшчэ жывы. Уявіце ж сабе здзіўленне і збянтэжанасць гэтых бедных старых-герояў, якіх раптоўна сарвалі ад іхных салодкіх успамінаў і маркотнага спакою і прымусілі з далёкай Сібіры, з Камчаткі, з Каўказу, з Архангельска, з лапландскай мяжы, з каўказскіх далін, з каспійскіх берагоў з’ехацца сюды, дзе на месцы іхнай славы вырабляецца пастанова, прызначаная, як іх пераконваюць, давяршыць іхны трыумф. Тут ім давядзецца нанова вырабіць жахлівую камедыю бітвы, дзе яны сдабылі сабе не багацце, а славу – вартую жалю ўзнагароду за звышчалавечую вернасць абавязку; стамленне і невядомасць – вось усё, што яны атрымалі за сваё падпарадкаванне, якое называюць слаўным, каб танней ад іх адкупіцца[373]. Навошта варушыць гэтыя пытанні і ўспаміны? Навошта дзёрзка выклікаць із нябыту столькі забытых і нямых прывідаў? Гэта нібы Страшны суд, куды прызваны душы жаўнер 1812 года. Хто пажадаў бы стварыць сатыру на вайскавае жыццё, не знайшоў бы лепшага сродку, чым гэты; так Гольбейн ў сваіх скоках мерцвякоў стварыў карыкатуру чалавечага жыцця. Некаторыя із гэтых людзей, раптоўна абуджаныя ад перадсмяротнай дрымоты, ужо шмат гадоў не садзіліся на каня, зараз жа іх застаўляюць, для забавы ніколі не бачанага імі ўладара, нанова выконваць сваю ролю, хоць сваё рамяство яны даўно забыліся; няшчасныя так баяцца падмануць чаканні наравістага гасудара, які патрывожыў іхную старасць, што, згодна іхных слоў, выява бітвы палохае іх больш, чым палохала сама бітва. Гэтая непатрэбная ўрачыстасць, гэтая пацешная вайна канчаткова даб'е старых жаўнер, ацалелых у баі і за доўгія гады пасьля яго; жорсткія забавы, годныя пераемніка таго цара, які запусьціў жывых мядзведзяў на маскарад, зладжаны з нагоды вяселля свайго шута; гэтым царом быў Пятро Вялікі[374]. Усе падобныя забавы маюць крыніцай адну і тую ж думку – грэбаванне чалавечым жыццём.

Вось да чаго здольная дайсьці ўлада чалавека над іншымі людзьмі; хіба можа параўнацца з ёю ўлада закона над грамадзянінам? Паміж імі заўсёды будзе вялікая адлегласьць.

Мяне здзіўляе, колькі выдумак патрабуецца, каб пагадзіць паміж сабою той народ і той урад, якія існуюць у Расіі. Ад такіх хітрыкаў, ад такіх перамог над здаровым сэнсам распачаўшая падобную барацьбу краіна можа заўчасна загінуць; ды толькі хто ж здольны разчітываць далёка наступствы цуда?

---

[373] Каментар Грэча: «Ветэраны Барадзінскай бітвы не былі прывезены ў Барадзіно сілком; іх запрасілі на ўрачыстасьці і ўтрымлівалі ў Маскве на грошы імператара; ніякага ўдзелу ў манеўрах яны не бралі і былі на іх у якасьці простых гледачоў, размешчаных на адмысловым узвышэнні вакол помніка. Я бяру ў сведкі сваіх слоў усё войска, усіх рускіх і ўсіх замежнікаў, якія былі на свяце» (Gretch. p. 95).

[374] Гаворка ідзе пра штукарскае вяселле «князя-папы», «усёблазнерскага патрыярха» Мікіты Зотава (1644-1718), якое адбылося напачатку 1715 г.

У свой час імператар дазволіў мне – гэта значыць загадаў – наведаць Барадзіно. Зараз я думаю, што не варты падобнай міласьці; па-першае, спачатку я не ўлічыў, якой цяжкай будзе роля француза у гэтай гістарычнай пастанове; па-другое, тады я яшчэ не бачыў жахлівых прац па перабудове Крамля, якія мне давялося б хваліць; нарэшце, я яшчэ не ведаў гісторыю княгіні Трубяцкой, якую быў бы не ў стане забыць, а яшчэ менш за тое – згадаць пры размове; узяўшы ў разлік ўсе гэтыя мяркаванні разам, я адважыўся не нагадваць пра сябе. Гэта лёгка, бо як раз у адваротным выпадку мяне б напаткала нямала турбот, мяркуючы па тым, як мітусяцца – і прытым дарэмна – шмат французаў і іншых іншаземцаў, дамагаючыся дазволу паехаць у Барадзіно.

Паліцэйскія парадкі ў вайсковым лагеры раптоўна зрабіліся надзвычай суровымі; такую падвоеную пільнасць тлумачаць нейкімі толькі што стаўшымі вядомымі трывожнымі звесткамі. Паўсюль пад попелам свабоды не згасае агеньчык паўстання. Не ведаю нават, ці атрымалася б у мяне ў цяперашніх абставінах скарыстацца абяцанннем, якое даў мне імператар ў Пецярбургу, а затым паўтарыў у Пецяргофе, пры той сустрэчы: “Мне было б прыемна бачыць вас на Барадзінскім святкаванні, дзе мы пакладзем першы камень помніка ў гонар генерала Багратыёна”. То былі яго апошнія словы[375].

**~ 165 ~**

Я ўжо сустракаў тут людзей запрошаных, але так і не дапушчаных у лагер; у дазволе адказваюць ўсім, акрамя некаторых высокапастаўленых ангельцаў ды іншых прдстаўнікоў дыпламатычнага корпусу, вызначаных быць гледачамі гэтай грандыёзнай пантамімы[376]. Усе іншыя – старыя і маладыя, вайскоўцы і дыпламаты, іншаземцы і рускія – вярнуліся ў Маскву, замучаныя безвыніковымі клопатамі. Я напісаў адной із асоб імператарскай сям’і, што, нажаль, не магу скарыстацца ласкай, выказаннай мне яго вялікасцю, які дазволіў мне прысутнічаць пры вайсковай эвалюцыі, – у сваё апраўданне выставіў недалечанную хваробу вачэй.

---

[375] [заўвага аўтара] Пазней, у Пецярбургу, я даведаўся, што быў выданы загад дапусьціць мяне ў Барадзіно і што мяне там чакалі.

[376] Пар. у справаздачы Баранта ад 16/28 жніўня 1839 г.: «Адзін толькі шведзкі пасланнік атрымаў афіцыйнае запрашэнне ў Барадзіно. Кіраўнікі дыпламатычнага корпуса ў сваёй большасьці жадалі б быць пры гэтым грандыёзным відовішчы із цікаўнасьці, а таксама дзеля таго, каб потым паведаміць сваім гасударам цікавячыя тых падрабязнасьці. Імператар спачатку адказваў на прашэнні, адрасаваныя яму праз трэцція асобы, адмовай, выстаўляючы падставай тую акалічнасць, што ў эпоху Барадзінскай бітвы хаўрусніцай Расіі была толькі адна Швецыя. Але гэты прынцып цалкам не пагадняўся з наяўнасьцю эрцгерцага прускага і прынца із прускага каралеўскага дома <братоў імператрыцы Аляксандры Фёдараўны>. Дзіўна выглядала таксама выключэнне із ліку хаўруснікаў Расіі ў 1812 г. Ангельшчыны. І ўсё ж імператар стаяў на сваім. Тады ангельскі амбасадар, які неадменна жадаў сваімі вачамі пабачыць ўсю вайсковую пышнасць гэтага свята, заявіў, што калі ён не атрымае запрашэння, то выправіцца ў Барадзіно ў фраку, як просты абывацель. Калі гэтыя выказванні ангельскага амбасадара зрабіліся вядомымі пры двары, графу Баранцову было загадана перадаць амбасадару неафіцыйна, што імператар будзе шчаслівы пабачыць яго ў Барадзіно. Аналагічнае апавяшчэнне атрымалі пасланнікі вюртэмбергскі і сардзінскі. Акрамя лорда Кленрыкарда «ангельскага амбасадара», у Барадзіно паедзе дзясятак ангельскіх афіцэраў. Упэўненыя ў ласкавым прыёме, яны прыбылі ў Расію, рухомыя цікаўнасьцю. За выключэннем сьвіты эрцгерцага і прынца прускага больш ніводнага замежнага афіцэра на сваце не будзе» (Souvenirs. т. 6. р. 311-312).

У лагеры, як кажуць, невыносна пыльна нават і для здаровых людзей; я ж ад такога пылу магу пазбавіцца зроку. Герцаг Лейхтэнбергскі, трэба думаць, надзелены ладным халоднакроўем, калі можа спакойна прысутнічаць на рыхтуемай пастанове. Як сцвяржаюць, падчас пацешнай бітвы імператар павінен будзе камандаваць корпусам прынца Яўгена – бацькі маладога герцога[377].

Я пашкадаваў бы пра сваю адсутнасць на пастанове такой цікавай ў дачыненні да цяперашніх нораваў і абставін, калі б толькі мог назіраць яе як староннні назіральнік; але хаця я і не прымушаны тут турбавацца пра вайсковую славу свайго бацькі, я сын Францыі і адчуваю, што мне не да падобы забаўляцца такой дарагой вайсковай рэпетыцыяй, якая прызначана адзіна распаліць нацыянальны гонар рускіх за кошт бедстваў нашай дзяржавы. Само ж відовішча мне няцяжка сабе уявіць – у Расіі я дастаткова пабачыў прамых ліній. Да таго ж ні на парадах, ні на пацешных бітвах вечна нічога не відаць праз хмары пылу.

Калі б яшчэ акторы, удзельнічаючыя ў пастанове, былі на гэты раз верныя праўдзе!.. Але хіба можна спадзявацца, што людзі, якія ўсё жыццё прывыклі ні ў грош не ставіць ісьціну, раптам пачнуць яе ахоўваць?

Рускія па праву ганарацца вынікам кампанніі 1812 года; аднак жа генерал, які вызначыў яе план і які першым прапанаваў паступова адводзіць рускае войска ў глыб імперыі, заманьваючы туды знясіленых паходам французаў; адным словам, той, чыёму генію Расія абавязана сваім выратаваннем, – князь Вітгэнштэйн – не будзе ўдзельнічаць у грандыёзнай пастанове; справа ў тым, што ён, на сваю бяду, яшчэ жывы... Ён жыве ў сябе ў маёнтку, напаловувысланым; ітак, імя яго не будзе згадвацца на Барадзінскай гадавіне, затое будзе пастаўлены помнік вечнай славы генералу Багратыёну, які загінуў на поле бітвы[378].

---

[377] Памылка Кюстына, які пераблытаў двух Яўгенаў — Яўгена Багарнэ (гл. зашвагу да т. І, с. 196), бацьку герцага Лейхтэнбергскага, і герцага Яўгена Вюртэмбергскага (1768-1857), пляменіка ўдавай імператрыцы Марыі Фёдараўны, які камандаваў корпусам пад час Барадзінскай бітве; з пачатку 1830-х гг. прынц Яўген жыў па-за Расіяй, але ў жніўні 1839 г. «пакінуў сваё мірнае сховішча ў Сілезіі для гэтага поля, такога знаёмага яму» (РС. 1891. № 1. с. 106).

[378] Згадванне Кюстынам у такім кантэксце найсвятлейшага князя (з 1834 г.) Пятра Хрысьціянавіча Вітгэнштэйна (1769-1843), які ў 1812 г. камандаваў корпусам на пецярбургскім накірунку, а ў лютым 1829 г. згодна з уласным прашэннем быў звольнены ў адстаўку, выклікала рэзкія пярэчанні Грэча і Я. Таўстога: «Увесь гэты пасаж з першага да апошняга слова выдае поўнае няведанне фактаў, злучанае са зламысным імкненнем перакруціць тую самую праўду, якую аўтар называе найсвятой для Бога і для людзей. Князь Вітгэнштэйн быў адным із герояў 1812 года <…> Ён перамог шмат каго із выбітных маршалаў напалеонаўскага войска: Удына, Віктора, Урэдэ, ён выратаваў Пскоў і Санкт-Пецярбург, але галоўная слава нашага войска па праве належыць тром галоўнакамандуючым: Кутузаву, Барклаю-дэ-Толі і Багратыёну. Князь Вітгэнштэйн не меў ніякага дачынення да плана кампаніі. <…> Генерал жа Багратыён пры Барадзіно і перадусім пры Барадзіно давёў, што талент вайсковага правадыра гарманічна злучыўся ў ім з самаадданай адвагай жаўнера. Кутузаву і Барклаю пастаўлены помнікі ў Санкт-Пецярбургу. Імператар выканаў абавязак справядлівасьці, пабудаваўшы на самым полі бітвы помнік Багратыёну. Усё войска, уся нацыя апладыруюць шчасліваму выбару месца. Спытайце ў рускіх. Шкада, што князь*** памёр; ён несумнеўна таксама пацвердзіў бы правільнасць маіх слоў» (Gretch. p. 97-98); «Мы не будзем папракаць с-ра дэ Кюстына за ўражанне, зробленае на яго паўторам Барадзінскай бітвы: патрыятызм выбачае шмат чаго; але мы раім яму прачытаць рэляцыі пра кампанію 1812 года і пераканацца, што фельдмаршал Вітгэнштэйн не мог браць удзел у гэтай генеральнай рэпетыцыі, бо камандаваў вайсковым корпусам, які бараніў Пецярбург ад Удына і Макдональда» (Tolstoy. p. 110).

Пры дэспатычным кіраванні памёршыя ваяры маюць перавагу перад жывымі; так і тут героем кампанні абвешчаны чалавек, які загінуў пад час гэтай кампаніі, а не той хто яе выйграў.

Такая гістарычная нядобрасумленнасць, калі адзін чалавек згодна сваёй волі навязвае ўсім свой погляд і вызначае народам сваё меркаванне нават пра падзеі агульнанацыянальнага значэння, ўяўляецца мне абуральнейшым із беззаконняў самаўладнага кіравання!! Карайце і здзеквайцеся із цела чалавека, але не калечце хаця б ягоны дух; дайце людзям магчымасць меркаваць аб усім згодна волі Божай, згодна свайго сумлення і розуму. Бязбожнымі патрэбна лічыць тыя народы, якія пакорліва церпяць такую пастаянную непавагу да таго, што ёсць самае святое ў вачах Божых і людскіх, – да ісціны.

# працяг ліста

**Масква, 6 верасня 1839 года.**

Мне прыслалі справаздачу пра Барадзінскія вайсковыя практыкаванні, і ад яе мой гнеў зусім не сціх.

Аб Маскоўскай бітве чытаў усё, і гісторыя лічыць яе сярод тых, што выйграна намі: імператар Аляксандр зацеяў яе наперакор мяркаванням сваіх генералаў як апошнюю спробу выратаваць сталіцу, якая праз чатыры дні была ўсё-такі ўзята[379]; аднак гераічны пажар Масквы ў спалучэнні з марозам, смяротным для людзей, народжаных у больш мяккім клімаце, нарэшце, недальнабачнасць нашага правадыра, аслепленага на гэты раз непамернай верай у сваю шчаслівую зорку, – усё гэта вырашыла справу да нашай бяды; і вось зараз, благо кампанія закончылася ўдала, расійскаму імператару заўгодна лічыць паразу свайго войска ў чатырох пераходах ад сталіцы перамогай! Сапраўды, дэспатызм злоўжывае тут тою свабодай адвольна пераіначваць факты, якую ён сабе прысвоіў; дзеля пацверджання сваёй выдумкі імператар, нібыта ладзячы пастанову бітвы старанна і дакладна, зусім перавярнуў яе выяву[380]. Зірніце, як перавярнуў ён гісторыю на вачах ва ўсёй Яўропы.

---

[379] Барадзінская бітва, перамогу ў якой кожны із бакоў прыпісваў сабе, адбылася 26 жніўня/7 верасня 1812 г., у Маскву Напалеон зайшоў 2/14 верасня 1812 г.

[380] Рускія крыніцы адпрэчвалі гэты папрок: «Адзінае адрозненне гэтай бітвы было ў тым, што імператар, з драгунскім корпусам паўтараўшым перамяшчэнні вершнікаў Уварава на правым флангу, павёў яго так рашуча, што ён зайшоў у тыл непрыяцельскага войска, — рух, які, будзь ён завершаны, можа, і прывёў бы да гэтага выніку» (Запіска віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара князя Галіцына // РС. 1891. № 1. с. 109). У Яўропе, аднак, глядзелі на справу інакш: «Хіба ёсць на сьвеце больш дзёрзкі падман, агіднейшая безсаромнасць, больш цынічная пагарда да праўды, чым тыя, якія выявіў цар чатыры гады назад у Расіі, калі прадэманстраваў Еўропе Барадзінскую пастанову?.. — пераказвае французскі дыпламат Ф. дэ Кюсі рэакцыю іншага француза, дастаткова добразычлівага да рускіх літаратара А. дэ Сіркура. — Там былі наладжаны манеўры, маючыя на мэце дакладна паўтарыць крывавую бітву 1812 года, вядомую ў Францыі пад назвай «Маскоўская бітва»; там была пабудавана піраміда ў гонар перамогі рускіх!.. — Якое безсаромнае аспрэчванне ўсёй сучаснай гісторыі! Хіба не французы выйгралі гэту бітву і хіба не гэтая перамога адкрыла ім доступ у Маскву? Бо калі б французы не пабілі ў той памятны дзень рускіх, хіба знайшлі б яны дарогу ў святы горад цалкам вольнай?.. У Расіі на

У той момант бітвы, калі французы, грамімыя агнём рускай артылерыі, кідаюцца на збіваючыя іх батарэі, каб, як вам вядома, смела і ўдала захапіць варожыя гарматы, імператар Мікалай, замест таго каб даць ім выканаць гэты знакаміты манеўр, які дзеля справядлівасьці ён павінен быў дапусціць, а дзеля ўласнай годнасьці – сам скамандаваць, – імператар Мікалай, лісліваючы самым нікчэмным сваім падданым, прымусіў адступіць на тры лье той корпус нашага войска, якому ў рэчаіснасьці мы былі абавязаны паразай рускіх, пераможным маршам на Маскву і яе ўзяццем. Судзіце ж самі, як я дзякую Бога, што мне хапіла розуму адмовіцца ад прысутнасьці пры падобнай ілжывай пантаміме!..

Гэтая вайсковая камедыя дала нагоду для імператарскага загаду, які вырабіць скандал ў Яўропе, калі толькі будзе там абнародаваны у тым выглядзе, у якім мы прачыталі яго тут[381]. Немагчыма больш рэзка адмаўляць самыя

---

такія дробязі ўвагі не звяртаюць: там пішуць гісторыю так, як хоча імператар, і менш за ўсё клапоцяцца пра адпаведнасць праўдзе» (Cussy F. de. Souvenirs. p., 1909. t. 2. p. 231).

[381] Загад імператара гучаў так: «Дзеці! перад вамі помнік, які сведчыць пра слаўны вычын вашых таварышаў! Тут, на гэтым самым месцы, за 27 гадоў перад гэтым напышлівы вораг марыў перамагчы рускае войска, якое стаяла за Веру, Цара і Бацькаўшчыну? Бог пакараў неразважлівага: ад Масквы да Нёмана раскіданы косткі дзёрзкіх прыхадняў — і мы ўвайшлі ў Парыж. Зараз надышоў час ушанаваць славу вялікай справы. Такім чынам, ды будзе вечная памяць несмяротнаму для нас імператару Аляксандру I — яго цвёрдай воляй выратавана Расія; вечная слава паўшым геройскай сьмерцю вашым таварышам, і ды паслужыць іхны вычын прыкладам нам і пазнейшым нашчадкам. Вы ж заўсёды будзеце надзеяю і апорай нашаму гасудару і агульнай маці нашай Расіі. Мікалай» (РС. 1891. № 1. с. 108). Загад сапраўды шакаваў Еўропу і, згодна з выказваннем прускага пасланца Лібермана ў справаздачы ад 6/18 верасня 1839 г., «азмрочыў бліскучую пастанову, якую ўяўляў вялікі Барадзінскі агляд у дачыненні вайсковым». Гэты загад, працягвае Ліберман, «плён пяра імператара, выказванне яго запаветнай думкі, не толькі абразіў усіх французаў, якіх зараз так шмат у Пецярбургу, але і зрабіў нядобрае ўражанне на рускую суполку, бо ў мясцовых вышэйшых станах нямала людзей, якія цудоўна адчуваюць, наколькі гэты зварот імператара да войска непрыемны для замежных дзяржаў і, як следства, мала дыпламатычны; з другога боку, усе, хто падзяляе варожыя пачуцці, якія імператару заўгодна сілкаваць да Францыі, і якія, без сумневу, ненавідзяць нават мацней, чым імператар, усё замежнае і ўсіх, маючых не рускія імёны, — усе гэтыя асобы знайшлі ў загадзе новую нагоду паўстаць супраць адружання яго імператарскай высокасьці вялікай князёўны Марыі і выказаць шкадаванне пра тое, што родны сын аднаго із галоўных «дзёрзкіх прыхадняў, чые косткі раскіданы ад Масквы да Нёмана», быў на адкрыцці помніка ў гонар Барадзінскай бітвы ў якасьці камандуючага рускай брыгадай і зяця яго імператарскай вялікасьці. Нарэшце, сам граф Нэсэльродэ <…> не толькі прызнаўся мне шчыра, наколькі засмуціў яго тэкст гэтага загаду і наколькі недарэчны ён у дачыненні палітычным, асабліва ў цяперашні момант, — але і папярэдзіў мяне, што, прачытаўшы загад, адразу распарадзіўся, каб у французскім перакладзе, які будзе надрукаваны ў французскай «Санкт-Пецярбургскай газеце», самыя моцныя выказванні былі, наколькі магчыма, памякчаны. Гэтыя дырэктывы былі выкананы <…> але гэта не змагло знішчыць сам дух загаду, які, нават калі пра яго будуць мяркаваць толькі згодна з французкім перакладам, усё адно будзе мець наступствам у Францыі вельмі жывое абурэнне і тым непазбежней дасць замежнай прэсе нагоду да нападкаў і аспрэчванняў, што ў ім Барадзінская бітва малюецца як значная і поўная перамога рускіх, тады як менавіта пасля яе французы занялі Маскву і прасунуліся ў глыб Расіі ў кірунку Калугі!» (Schiemann. т. 3. s. 502-503; «зяць яго імператарскай вялікасьці» — герцаг Лейхтэнбергскі, бацька якога, Яўген дэ Багарнэ, пад час Барадзінскай бітвы кіраваў корпусам напалеонаўскага «Вялікага войска»). Французскі тэкст загаду быў апублікаваны ў «Journal de Saint-Petersbourg» 5/17 верасня 1839 г. (іншы варыянт перакладу, пасланы Барантам кіраўніку кабінета маршалу Сульту, гл. у: Cadot. p. 217, note 155) і, згодна з паведамленнямі А. Я. Тургенева, даўся нялёгка перакладчыкам — «Нэсэльродэ і Лавалю, якіх вельмі абцяжарыла передача лаканічных слоў арыгінала: так, «жаўнеры» — цалкам не тое, што дзеці» (РАІЛІ. Ф. 309. № 706. л. 35; арыгінал, па-фр., апроч слова, вызначанага курсівам). Французскі амбасадар Барант апісаў уражанне, зробленае загадам, у тым жа тоне, што і амбасадар Прусіі: «Грамадства глядзіць са

дакладныя факты і больш дзёрзка здзеквацца над сумленнем людзей, а перш за ўсё над сваім уласным. Згодна з гэтым цікавым загадам, выкладаючым разуменне свайго аўтара, але зусім не сапраўдныя падзеі кампанні, “рускія намеранна адступілі за Маскву, а значыць, не зведалі паразу пры Барадзіне (але тады навошта яны наогул пачыналі бітву?), і, – гаворыцца ў загадзе, – косткі дзёрзкіх прышэльцаў, разкіданы ад святой сталіцы да Нёмана, сведчаць пра перамогу абаронцаў айчыны”.

Не чакаючы ўрачыстага ў’езду імператара ў Маскву, я праз два дні еду ў Пецярбург.

Тут заканчваюцца мае дарожныя лісты; усё ніжэй напісаннае ўключае ў сябе мае заўвагі; яны пісаліся ў разных месцах – спачатку ў Пецярбургу ў 1839 годзе, затым у Германіі і яшчэ пазней у Парыжы.

# Выкладанне далейшага шляху

*Зваротны шлях із Масквы ў Берлін праз Санкт-Пецярбург. – Гісторыя аднаго француза, с-ра Луі Перно. – Яго арыштоўваюць ў карчме пасярод ночы.*

---

здзіўленнем, асуджэннем і смуткам на ўчынак, які можа мець вельмі сур'ёзныя наступствы, бо выкліча вялікае раздражненне ў Францыі. Усе тыя кіраўнікі дыпламатычнага корпуса, якія засталіся ў Пецярбургу, шкадуюць пра гэтае здарэнне, якое можа парушыць дачыненні дзвюх дзяржаў і ўскладніць і без таго няпростае становішча. Я не шукаў сустрэчы са с-ром Нэсэльродэ. Гэтая падзея здаецца мне занадта сур'ёзнай, каб я мог узяць на сябе адвагу вырашыць самастойна, у якіх словах абмяркоўваць яе. <…> Зрэшты, мне вядома, што с-р Несэльродэ вельмі збянтэжаны і засмучаны дэманстрацыяй, так мала адпавядаючай яго палітычным паглядам. <…> Не ў маіх магчымасьцях было зрабіць выгляд, быццам я не надаю гэтаму загаду ніякага значэння. Ён зрабіў тут такое моцнае ўражанне, што, выяві я абыякавасць, гэта было б раўназначна заняццю вызначанай пазіцыі, на што я цалкам не маю ўказанняў» (AMAE. Т. 195. Fol. 112, справаздача Баранта ад 4/16 верасня 1839). Дарэчы, ніякіх катастрафічных змен у дачыненях Расіі і Францыі барадзінскі інцыдэнт, як праз месяц, 9 кастрычніка 1839 г., паведамляў французскі прэм'ер Сульт Баранту, не зрабіў: «У Вене, у Берліне і паўсюль у Германіі ўсе былі прыгнечаны гэтым <барадзінскім загадам>. Можа здацца дзіўным, але ў Францыі ніхто не звярнуў ніякай увагі на гэтае дзіўнае здарэнне. Газеты, больш іншых схільныя адказваць на замежныя правакацыі, змясьцілі дакумент, пра які ідзе гаворка, без якіх бы то ні было каментараў, і ён меў наступствам такое нікчэмнае ўздзеянне, што я сам не ведаў пра яго існаванне да таго, як атрымаў вашу дэпешу. Імператар Мікалай здаўна валодае прывілеем, успадкаваным, здаецца, ад некаторых яго папярэднікаў, — а менавіта прывілеем выказаць і рабіць рэчы, надзвычайныя, не прыцягваючы да іх вялікай увагі. Магчыма, ён быў моцна чымсьці заклапочаны, калі не аддаў сабе справаздачы ў тым, наколькі дзіўна спяваць пераможную песьню на полі не маючай прыкладу паразы, калі ён не згадаў, што сама меней палова таго войска, чый разгром ён святкуе, належала дзяржавам, якія ён безумоўна не жадаў абразіць, калі ён забыўся, што выказваецца пры сваім зяцю, чый бацька не раз паспяхова адбіваў падчас адступлення із Масквы атакі рускага войска» (AMAE. Т. 195. Fol. 143). Французы, асабліва тыя, якія з нагоды палітычных перакананняў не вельмі сімпатызавалі Расіі, і раней былі схільныя разглядаць кожнае рускае свята, маючае дачыненне да святкавання ўгодкаў вайны 1812 г., як формы праявы антыфранцузскіх настрояў; так, 22 лістапада 1837 г. газета «Constitutionnel», паведаміўшы пра службу ва Ўспенскім саборы ў гонар дваццаціпяцігоддзя адступлення французскага войска із Расіі, рабіла выснову: «Падобнымі ўрачыстасьцямі самаўладны ўрад імкнецца абудзіць у асяроддзі напалову цывілізаванага народа, які падпарадкоўваецца яго скіпетру, нянавісць да французаў. Вось, як следства, тыя сяброўскія пачуцці, якія цар-дэспат сілкуе да ліберальнай і прагрэсіўнай Ліпеньскай манархіі».

*– Незвычайная сустрэча. – Крайняя асьцярожнасць другога француза, спадарожніка арыштаванага. – Французкі консул у Маскве. – Яго абыякавасць да лёсу вязня. – Мае безвыніковыя захады. – Уздзеянне ўяўлення. – Размова з уплывовым рускім. – Што ён мне параіў ў дачыненні да вязня. – Ад'езд ў Пецярбург. – Павольная язда. – Ноўгарад Вялікі. – Што ацалела ад старажытнага горада. – Успаміны пра Яна IV. – Апошнія парэштки наўгародзкай славы. – Прыбыццё ў Пецярбург. – Маё апавяданне с-ру Баранту. – Заўвага. – Завяршэнне гісторыі с-ра Перно. – Унутранае ўладкаванне маскоўскіх турмаў. – Абяцанне, дадзенае арыштанту рускім генералам. – Мае апошнія дні ў Пецярбургу. – Поездка ў Колпіна. – Цудоўны арсенал. – Хлусня не маючая мэты. – Анекдот, які мне распавялі ў карэце. – Паходжанне расійскага сямейства Лаваль. – Прыклад спагадлівасьці імператара Паўла. – Збіты герб. – Акадэмія жывапісу. – Яе вучні-рэкруты. – Пейзажысты. – Гістарычны жывапісец Брулоў, яго выява "Апошні дзень Пампеі". – Выдатныя копіі Брулова з выяваў Рафаэля. – Уплыў поўначы на дух мастакоў. – Паэзія менш чым жывапіс страчвае пад небам Поўначы. – Мадемуазель Тальёні ў Пецярбургу. – Уплыў тутэйшага жыцця на мастакоў. – Знішчэнне ўніяцтва. – Пераслед, які адчувае каталіцкая царква. – Бяспрэчныя перавагі прадстаўнічага кіравання. – Я ад'язджаю із Расіі; пераправа праз Нёман; Тыльзіт. – Адкрыты ліст. – Выпадак з немцам і ангельцам. – Чаму я не стаў вяртацца ў Германію праз Польшчу.*

**Берлін, у першых датах кастрычніка 1839 года.**

Перад самым ад'ездам із Масквы ўсю маю ўвагі прыцягнула адно надзвычайнае здарэнне, якое прымусіла мяне адтэрмінаваць ад'езд.

Я заказаў сабе паштовых коней на сем гадзін раніцы; да вялікага майго здзіўлення, камердынер разбудзіў мяне, калі не было яшчэ і чатырох; я спытаў пра падставу такой паспешнасьці, і ён адказаў, што хацеў як мага хутчэй апавясціць мяне пра здарэнне, пра якое сам толькі што даведаўся і якое яму здаецца дастаткова сур'ёзным, каб абавязкова далажыць мне без прамаруджвання. Вось коратка яго апавяданне:

Нейкі француз, с-р Луі Перно[382], які некалькі дзён таму назад прыбыў у Маскву і ўладкаваўся у карчме Коппа, толькі што быў арыштаваны пасярод ночы

[382] Пернэ Луі Мары (1815-1846) — адвакат па адукацыі, літаратар, з 1842 г. супольна з Фердынандам Франсуа — рэдактар часопіса рэспубліканскай арыентацыі «Revue independante»; памёр ад сухотаў. Пабываў у Расіі двойчы, у 1838 і ў 1839 гг. Здарэнне з Перне служыла для чытачоў Кюстына самым яркім прыкладам расійскага дэспатызму і няправасьці. Жуль Мішле пісаў у 1851 г. у цыкле «Пакутнікі Расіі», што гэтае здарэнне — не выпадковасць, а плён усвядомленага жадання рускага ўрада «зламаць француза, надаць яму моцнае і працяглае адчуванне жаху. Сапраўды, ёсць над чым задумацца замежніку, які пераканаўся, што дыстанцыя паміж вольным чалавекам і рабом такая малая, што найнікчэмнейшы із паліцыянтаў можа схапіць вольнага чалавека і збіць яго»: бо мадысткі ж, якіх каралі на з'езджай, «не былі прыгоннымі; хутчэй за ўсё яны былі француженкамі; усе мадысткі — француженкі» (Michelet J. Legendes democratiques du Nord. P., 1968. p. 118). Апавяданне пра ліхтугі Пернэ не маглі абыякава чытаць і безстаронніія рускія чытачы; так, П. В. Аненкаў, згодна са сведчаннем М. Я. Тургенева, «чытаючы чацвёрты том Кюстына ў сваім пакоі адзін, вечарам, адчуваў, як ён чырванее і саромеецца пры апісанні таго, што адбывалася на з'езджай, куды зняволілі француза дні на два» (НЛА. с. 122). Наадварот, Грэч не бачыў у стаўленні ўлад да француза Пернэ нічога заганнага: «У жніўні 1839 г. віцэ-канцлер, інакш кажучы,

(гэтай самай ночы); яго схапілі, забралі ўсе паперы і адвезлі ў гарадзкую турму, дзе пасадзілі ў асобную камеру; усё гэта майму слузе распавёў лакей з нашай карчмы, які размаўляе па-нямецку. Распытаўшы болей, камердынер даведаўся таксама, што гэты с-р Перно – малады чалавек гадоў дваццаці шасьці, што здароўя ён слабога, чаму даводзіцца баяцца за яго яшчэ больш[383]; што ў мінулым годзе ён ужо бываў ў Маскве і нават жыў тут разам са сваім рускім сябрам, які потым павёз яго да сябе ў вёску; зараз гэтага рускага тут няма, і адзінае апірышча нешчаслівага арыштанта – француз па імені с-р Р ***, разам з якім ён, як кажуць, толькі што вярнуўся із паездкі па поўначы Расіі. Жыве гэты с-р Р ***[384] ў той жа карчме, што і арыштаваны. Яго імя адразу мяне ўразіла, бо так звалі чалавека-статую, з якім я абедаў за некалькі дзён да таго ў ніжагародзкага губернатара. Як вы памятаеце, мяне яшчэ моцна азадачыў выраз яго твару. Тое, што гэты спадар апынуўся зараз замешаным ў здарэнне цяперашняй ночы, было нібы нейкая сцэнай із рамана; я з цяжкасьцю верыў пачутаму. Мне ўявілася, што апавяданне Антоніо – выдумка, што ўсё гэта прыдумалі спецыяльна, каб выпрабаваць мяне; тым не менш я паспяшаўся падняцца і сам распытаў карчмарнага лакея, каб пераканацца ў праўдзівасьці ўсёй гісторыі і ў дакладнасці імя с-ра Р ***, чыю асобу хацеў вызначыць перш за ўсё. Лакей растлумачыў, што, маючы даручэнне да аднаго іншаземца, які адʼязджаў із Масквы той ноччу, ён з'явіўся ў карчму Коппа як раз тады, калі туды наляцела паліцыя, і дадаў, што с-р Копп сам распавёў яму пра гэтую справу прыкладна ў тых жа выраз, у якіх Антоніо распавёў яе мне.

**~ 167 ~**

Я апрануўся і неадкладна накіраваўся да с-ра Р ***. Выявілася, што гэта сапраўды чалавек-статуя з Ніжняга. Праўда, у Маскве ён быў ужо не такім спакойным і здаваўся ўстрывожаным. Я застал яго ўжо падняўшымся з ложка;

---

начальнік дэпартамента замежных спраў, паведаміў вышэйшым чынам паліцыі паведамленне графа Медэма, нашага паверанага ў справах у Парыжы, у якім звярталася ўвагу на двухсэнсоўныя паводзіны француза Луі Пернэ, чалавека небяспечных ідэй і перакананняў. Пернэ тым часам ужо выклікаў падазрэнні паліцыі супярэчлівымі звесткамі пра сваю прафесію, бо абвяшчаў сябе то грамадзянскім інжынерам, то ранцʼе, які вандруе згодна з уласным жаданнем, то негацыянтам, які прыбыў у Расію па справах. З нагоды гэтых супярэчнасцей у яго сведчаннях ён быў змешчаны пад нагляд паліцыі; дакументы яго вывучылі і, не знойшоўшы ў іх нічога ў поўным сэнсе заганнага, абмежаваліся тым, што параілі яму пакінуць Расійскую імперыю і больш сюды не вяртацца» (Gretch. p. 100). Гісторыя турэмнага зняволення Пернэ выкладзена вельмі падрабязнае ў кнізе Ф. Лакруа «Расійскія таямніцы» (Lacroix F. Les mysteres de la Russie. P., 1845. p. 254-262) — магчыма, са слоў сакратара французскай амбасады ў Пецярбургу барона д'Андрэ (Cadot. p. 151). Спасылаючыся на Кюстына і галоўным чынам пацвярджаючы паведамленыя ім факты, Лакруа адрасуе аўтару «Расіі ў 1839 годзе» некалькі папрокаў; першае, дарэмна маркіз так гучна абвяшчаў пра свае заслугі ў справе вызвалення Пернэ, бо за няшчаснага француза клапаталі яшчэ некалькі яго выпадковых знаёмых; па-другое, Пернэ сапраўды слабы здароўем, але зусім не мае таго хваравітага выгляду, які прыпісаў яму Кюстын. Лакруа прыводзіць ліст Бенкендорфа да Баранта ад 5/17 кастрычніка 1839 г., у якім пазначаецца тая ж нагода зняволення французскага падданага ў турму, на якую спасылаецца Грэч: супярэчлівасць сведчанняў Пернэ, які называў сябе то інжынерам, то камерсантам.

[383] Заўвага Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Пасьля герой гэтай гісторыі абсыпаў мяне з нагоды гэтых слоў вельмі камічнымі папрокамі».

[384] С-р Р*** — доктар Рабер (гл. заўвагу. да гэтага, тама, с. 332).

мы адразу пазналі адзін аднаго, і, калі я растлумачыў яму нагоду такога свайно ранняга візіту, ён прыкметна збянтэжыўся.

– Я сапраўды вандраваў разам са с-ром Перно, – сказаў ён, – але так выйшла выпадкова; мы сустрэліся ў Архангельску і ехалі адтуль разам; целаскладу ён кволага, і ў дарозе яго слабае здароўе віклікала ў мяне трывогу; я клапаціўся пра яго, як таго патрабуе чалавечнасць, вось і ўсё; я з ім зусім не сябрую, нават не знаёмы.

– Я знаёмы з ім яшчэ менш, – запярэчыў я, – але мы ўсе трое французы і абавязаны дапамагаць адзін аднаму ў краіне, дзе наша свабода і жыццё ва ўсякі момант могуць выявіцца пад пагрозай, – бо ўрад тут дае пра сябе ведаць толькі караючымі ўчынкамі.

– Магчыма, с-р Перно наклікаў на сябе гэтую непрыемнасць нейкім неасьцярожным учынкам, – працягваў с-р Р ***. – Я тут таксама іншаземец, ўплыву не маю, што ж я магу зрабіць? Калі ён невінаваты, яго арышт застанецца без наступстваў; калі ж вінаваты, то яго пакараюць. Я не маю магчымасьці яму дапамагчы, нічым яму не абавязаны, ды і вам, спадар, раю быць вельмі стрыманым, калі пачнеце пра яго клапаціцца, а таксама і апавядаць пра гэта.

– Ды хто ж вызначыць, вінаваты ён ці не? – ускліркнуў я. – Перш за ўсё трэба было б пабачыцца з ім, даведацца, чым ён сам тлумачыць свой арышт, і спытаць, што можна зрабіць і як дапамагчы яму.

– Вы забываецеся, у якой мы краіне, – сказаў с-р р *** – А ён у асобнай камеры, як да яго дабрацца? Гэта немагчыма.

– Немагчыма іншае, – адказваў я ўстаючы, – каб французы, мужчыны, пакінулі ў адчайным становішчы свайго суайчынніка, нават не высветліўшы, чым выклікана яго няшчасьце.

Выйшаўшы ад гэтага звышасьцярожнага спадарожніка, я пачаў разумець, што справа больш складаная, чым уяўлялася спачатку, і вырашыў, што калі хачу дакладна даведацца прв становішча арыштаванага, то павінен звярнуцца да французкага консула. У чаканні гадзіны, калі будзе прыстойна накіравацца да гэтай асобы, я загадаў прывесьці сабе нанятых коней – да вялікага незадавальнення і здзіўлення фельд’егера, бо, калі я даваў гэта новае распараджэнне, у двары карчмы ўжо стаялі для мяне паштовыя коні.

Каля двух гадзін я паехаў распавясьці ўжо вядомую вам гісторыю с-ру французкаму консулу. Гэты афіцыйны заступнік французаў выявіўся такім жа асьцярожным і яшчэ больш халодным, чым доктар Р ***. З тых часоў як ён пасяліўся ў Маскве, французкі консул сам стаў амаль рускім. Я не змог распазнаць, ці былі яго адказы мне вынікам абгрунтаваных асьцярог, якія вынікаюць ад ведання мясцовых звычак, ці ж пачуццём зачэпленага самалюбства, дрэнна зразуметага пачуцця ўласнай годнасьці.

– С-р Перно, – сказаў ён, – паўгода пражыў у Маскве і ў ваколіцах і за ўвесь гэты час так і не палічыў патрэбным хоць неяк заявіць пра сябе французкаму консулу. Раз так, то зараз, каб выйсьці са становішча, у якое ён трапіў дзякуючы сваёй бестурботнасьці, с-р Перно павінен разлічваць толькі самаму на сябе. “Безтурботнасць”- слова, магчыма, нават занадта мяккае, – дадаў консул; у

заключэнне ён паўтарыў, што не можа, не павінен і не хоча браць удзел ў гэтай справе[385].



Дарэмна пераконваў я яго, што ў якасьці консула Францыі ён абавязаны заступацца за кожнага француза, не гледзячы на асобу, у тым ліку нават і за таго, хто парушае законы этікету; што гаворка зараз ідзе не пра пачцівасьць, не пра дамоўленыя цырымоніі, а пра свабоду, а то і жыццё аднаго із нашых суайчыннікаў; што перад тварам такой бяды ўсякая крыўда павінна замоўкнуць, ва ўсякім разе да таго часу, пакуль не міне небяспека; я так і не дамогся ад яго ні слова, ні руху на карысць вязня; тады я стаў прасіць яго прыняць да ўвагі няроўнасць двух бакоў, паколькі правіна с-ра Перно, які не зрабіў належачага с-ру французкаму консулу візіту, ніяк не ідзе ў параўнанне з пакараннем, якому той яго падвяргае, пакідаючы ў вязніцы і не цікавячыся падставамі такага незаконнага арышту, не спрабуючы папярэдзіць яшчэ больш цяжкія наступствы, якія можа пацягнуць за сабой бязлітаснасць улад; у заключэнне я сказаў, што ў падобных выпадках мы павінны думаць не пра тое, у якой спупені с-р Перно варты нашай спагады, а пра годнасць Францыі і пра бяспеку ўсіх французаў, якія ездзяць ці яшчэ будуць ездзіць у Расію.

Мае ўгаворы не мелі ніякага дзеяння, і з гэтага другога візіту я здабыў так жа мала карысьці, як і з першага.

Тым не менш, мне здавалася, што хаця я зусім не ведаю с-ра Перно і не маю ніякай асабістай нагоды пра яго клапіцца, але калі я ўжо па волі выпадку даведаўся пра яго няшчасьце, мой абавязак патрабуе аказаць яму ўсякую дапамогу, якую я ў стане яму прапанаваць.

У той момант мяне моцна ўразіла ісьціна, якая, верагодна, усім часта прыходзіла ў галаву, але мне да таго часу з’яўлялася толькі цьмяна і бегла, – а менавіта, што спачуванне ў нас робіцца больш спагадлівым і вастрэйшым дзякуючы ўяўленню. Мне нават падумалася, што чалавек, цалкам пазбаўлены ўяўлення, быў бы і безсардэчным. Увесь творчы дух, які ёсць у ва мне, міжволі намагаўся ўявіць няшчаснага незнаёмца, якога апаноўваюць тыя прывіды, якія нараджае адзінота і няволя; я пакутаваў разам з ім, адчуваў тыя ж пачуцці, тыя ж жахі; я бачыў, як ён, усімі пакінуты, аплаквае сваю адарванасць ад людзей і разумее, што яна невыпраўная, бо каму ёсць справа да вязня ў такой далёкай і чужой нам краіне, у грамадстве, дзе сябры сыходзяцца разам толькі ў дабрабыце і разыходзяцца ў бядзе? Падобныя думкі толькі мацней распальвалі ўва мне спачуванне! “Ты лічыш, што ты адзін у цэлым сьвеце, але ты несправядлівы да Ўсявышняга, які пасылае табе сябра і брата” - вось што паўтараў я пра сябе і яшчэ шмат чаго іншага, як бы звяртаючыся да няшчаснага.

Між тым, разважаў я, небарака, не спадзяюся ні на чыю дапамогу, усё глыбей апускаецца ў роспач, па меры таго як цякуць гадзіны ў жахлівай аднастайнасьці, у нязменнай цішыні; хутка прыйдзе ноч, а з ёю шэраг прывідаў;

---

[385] Нагодай абыякавасьці консула Вэйера да лёсу Пернэ Ф. Лакруа лічыць, з аднаго боку, тую акалічнасць, што Вэйер за гады службы адружыўся з рускай і «абрусеў», а з другога — неабачлівасць Пернэ, які не зрабіў консулу візіт ветлівасьці (Lacroix F. Les Mysteres de Russie. P., 1855. p. 238).

колькі жахаў, колькі шкадаванняў будуць яго трывожыць! Як хацелася мне даць яму ведаць, што з гэтага часу ён павінен разлічваць не на вераломных заступнікаў, а на намаганні невядомага сябра! Але ў мяне не было ніякіх сродкаў з ім знесьціся; і ад такой немагчымасьці суцешыць яго я адчуваў сябе ў два разы мацней абавязаным яму дапамагаць; сярод белага дня мяне пераследвалі змрочныя выявы цямніцы; маё ўяўленне, знаходзячыся пад змрочнымі скляпеннямі, засьціла мне ззянне нябёсаў над галавою і пазбаўляла мяне волі, зноў і зноў уяўляючы бачанне цёмнага сутарэння і ўмацавальных вежаў; ў сваёй роспачы забываючы, што рускія нават турмы будуюць у класічным стылі, я уяўляў сябе зняволеных пад зямлёю; мне ўяўлялася не рымская каланада, а гатычныя каменныя мяшкі; я сам адчуваў сябе змоўшчыкам, пакараным і высланым злачынцам, мяне пакідаў розум разам з вязнем... зусім мне незнаёмым! Дык вось, калі б ўяўленне не так жыва малявала мне ўсе гэтыя выявы, я б не так актыўна, не так настойліва турбаваўся за небараку, які, акрамя мяне, не меў ніякай падтрымкі і ўжо тым самым выклікаў маё спачуванне. Мяне нібы пераследаваў прывід, і, каб пазбавіцца ад яго, я гатовы быў прабіць сьцены; ад адчаю і не маючай моцы злосьці я пакутавыаў, магчыма, не менш чым нешчаслівы вязень; спрабуючы спыніць яго пакуты, я сам іх адчуваў.

Дабівацца пропуску ў турму было б захадам настолькі ж небяспечным, як і не маючым сэнсу. Пасьля доўгіх і цяжкіх сумневаў я спыніўся на іншай думцы: у Маскве я звёў знаёмства з некаторымі ўплывовымі асобамі, і хаця ўжо два дні таму як я з усімі развітаўся, але ўсё ж вырашыў звярнуцца да аднаго із тых, хто выклікаў у мяне найбольшы давер.



Тут я не толькі не павінен называць яго імя, але і наогул магу казаць пра яго толькі самым нявызначаным чынам.

Калі я ўваходзіў да яго ў пакой, ён ужо ведаў, якая нагода мяне прывяла; і не паспеў я растлумачыць яму гэтую нагоду, як ён сказаў, што згодна дзіўнай выпадковасьці сам асабіста знаёмы са с-ром Перно, лічыць яго ні ў чым не вінаватым і не ўяўляе, чым можна растлумачыць здарыўшаяся з ім; ён, аднак, упэўнены, што падобны арышт мог быць выкліканы толькі палітычнымі думкамі, бо руская паліцыя заўсёды, калі можа, дзейнічае таемна; па ўсёй верагоднасьці, да гэтага часу лічылася, што ў Маскве ніхто не ведае пра прыезд гэтага іншаземца; зараз жа, калі справа ўжо зроблена, яго сябры, як выявілася, здольныя толькі пашкодзіць – як толькі высвятлліцца, што ў яго ёсць заступнікі, яго становішча адразу пасьпяшаюцца пагоршыць, перавёўшы куды-небудзь далей каб пазбегнуць тлумачэнняў і скаргаў; таму, дадаў мой знаёмы, для блага самаго пацярпеўшага пры яго абароне патрабуецца вялікая абачлівасць. “Варта яму трапіць ў Сібір – і Бог ведае калі ён адтуль вернецца!”- усклікнуў мой дарадца; пасьля чаго стаў запэўніваць мяне, што яго самага падазраюць ў схільнасьці да ліберальных перакананняў, і дастаткова толькі яму заступіцца за выклікаючага падазрэнні француза або нават проста сказаць, што ён з ім знаёмы, як няшчаснага тут жа вышлюць на край свету. У заключенне ён сказаў: “Вы яму не сваяк і не сябар; лёс яго турбуе вас толькі да таго часу, пакуль вы лічыце гэта

сваім абавязкам перад кожным суайчыннікам, перад кожным чалавекам, трапіўшым у бяду; усё, што патрабавала ад вас гэта пачуцце, годнае ўхвалення, вы ўжо выканалі – перагаварылі са спадарожнікам вязня, з вашым консулам, са мною; зараз жа, паверце мне, устрымайцеся ад усякіх далейшым клопатаў; што б вы ні сталі рабіць, гэта не пойдзе на карысць, вы толькі скампраметуеце сябе без усякай карысьці для чалавека, якога бескарысліва ўзяліся абароняць. Ён вас не ведае, нічога ад вас не чакае – дык едзьце ж; вам няма чаго баяцца, што вы падманулі яго надзеі, – ён на вас і не спадзяваўся; за яго справай я буду назіраць – самаму мне браць у ёй удзел нельга, але у мяне ёсць сродак даведацца бокам, як яна ідзе, і ў некаторай ступені паўплываць на яе вынік; абяцаю вам выкарыстаць гэтыя сродкі найлепшым чынам; яшчэ раз паўтараю – паслуйце мяне і едзьце”.

– Калі б я з'ехаў, то не ведаў бы ні хвіліны спакою, – усклікнуў я, – мяне б мучыла сумленне пры думцы аб тым, што, акрамя мяне, не было каму дапамагчы гэтаму небараку, а я яго кінуў у бядзе, нічога для яго не зрабіўшы.

На гэта ён запярэчыў:

– Застаючыся тут, вы ж не можаце нават суцешыць яго, таму што аб вашым існаванні ён не ведае, роўна як і пра вашу да яго спагаду, і гэтае няведанне будзе доўжыцца да таго часу, пакуль яго трымаюць ў няволі.

– Значыць, няма ніякага сродку патрапіць да яго ў камеру? – зноў спытаў я.

– Ніякага, – пачынаючы ўжо губляць цярпенне, адказваў той, чыёй дапамогі лічыў я сваім абавязкам так настойліва дабівацца. – Будзь вы яму хоць братам, вы ўсё адно не здолелі б тут зрабіць для яго больш, чым ужо зрабілі. А вось знаходзічыся ў Пецярбургу, вы маглі б быць карысным для с-ра Перно. Паведаміце ўсё, што ведаеце пра гэты арышт, с-ру французкаму амбасадару – бо са справаздач вашага консула ён наўрад ці даведаецца аб тым, што здарылася. Калі такая высокапастаўленая асоба, як ваш амбасадар, ды яшчэ чалавек з такім характарам, як у с-ра Баранта, заявіць пра ўсё міністру, то гэта больш здольна дапамагчы вызваленню вашага суайчынніка, чым усе клопаты, якія маглі б зрабіць у Маскве вы, я і яшчэ хоць дваццаць чалавек.

– Але ж імператар са сваімі міністрамі знаходзіцца ў Барадзіне ці ж у Маскве, – запярэчыў я, усё ніяк не даючы сябе выправадзіць.

– Не ўсе міністры суправаджаюць яго вялікасць ў гэтай паездцы, – адказалі мне пачцівым тонам, хоця і з павялічваючайся, не без цяжкасьцей хаваемай незадаволенасьцю. – Ну, а ў горшым выпадку давядзецца дачакацца іхнага вяртання. Паўтараю, іншага шляху ў вас няма, калі толькі вы не жадаеце шкоды чалавеку, якога спрабуеце выратаваць, сабе ж самаму прытым – вялікіх непрыемнасцей, а то і чаго-небудзь горшага, – было дададзена са шматзначным выглядам.

Калі б асоба, да якой я звяртаўся, знаходзілася на службе, мне ўжо мроілася б, што мяне забіраюць казакі і вядуць у такую ж цямніцу, у якую заключаны с-р Перно.

Адчувалася, што цярпенне майго суразмоўцы на зыходзе; я і сам быў збянтэжаны і не ведаў, што запярэчыць на яго довады; ітак, я пайшоў,

паабяцаўшы з'ехаць і з усёю прызнательносцью падзякаваў за дадзеную мне параду.

Так як высветлілася, што тут я нічога не магу зрабіць, пагэтаму патрэбна неадкладна ехаць, вырашыў я. Рэштку раніцы забралі ў мяне правалочкі фельд’егера, які, верагодна, павінен быў скласьці пра мяне апошнюю справаздачу; атрымаць зноў паштовых коней змаглі толькі каля чатырох гадзін папаўдні – і ў чвэрці пятай я ўжо ехаў па Пецярбургскаму тракту.

**~ 170 ~**

Нядобрасумленнасць майго курьера, разнастайныя бязладзі, якія адбываліся не то выпадкова, не то згодна злой волі, паўсюдны недахоп падстаўных коней, якіх трымалі толькі для імператарскага двара і вайсковых афіцэраў, а таксама для кур'ераў, безперапынна раз’язджаўшых паміж Барадзіным і Пецярбургам, – усё гэта зрабіла пераезд павольным і цяжкім; праз нецярпенне я не жадаў спыняцца на начлег, але гэтай паспешлівасьцю нічога не здабыў, бо адсутнасьць коней – сапраўдная або ўяўная – вымусіла мяне на цэлых шэсць гадзін затрымацца ў Ноўгарадзе Вялікім, за пяцьдзесят лье да Пецярбурга.

Я мала быў размешчаны да агляду парэшткаў гэтага горада, дзе зарадзілася імперыя славян і знайшла сабе магілу іхная свабода. У знакамітым храме Святой Сафіі тут знаходзіцца грабніца Ўладзіміра Яраславіча, памёршага ў 1051, маці яго Ганны, аднаго із канстантынопальскіх імператараў[386], а таксама яшчэ некалькі цікавых пахаванняў. Храм паходзіць на ўсе рускія царквы; магчыма, і ён не больш сапраўдны, чым “старадаўні” сабор ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе спачывае прах Мініна; я не давяраю больш ўзросту ні аднаго з помнікаў старажытнасьці, якія мне паказваюць ў Расіі. Назвам рэк я пакуль яшчэ веру; пры позірку на Волхаў  мне ўявіліся жахлівыя ідовішчы аблогі горада-рэспублікі, які быў двойчы ўзяты і спустошаны Янам Жахлівым. Мне бачылася, як гэтая венцаносная гіена, якая ўляглася на парэштках, радуецца пры выглядзе вайны, пошасьці і расправы, а з заваленай мерцвякамі ракі, здавалася, выступалі крывавыя трупы падданых цара, нагадваючы мне пра жахі грамадзянскіх вайнаў і пра тое шаленства, да якога даходзяць грамадствы, названыя цывілізаванымі – таму толькі, што злачынствы расцэньваюцца ў іх як справа доблесьці і робяцца з чыстым сумленнем. Сярод дзікуноў захапленні такія ж распушчаныя, нават яшчэ больш грубыя і жорсткія; аднак там яны не маюць такой пашыранасьці; там чалавек, разлічваючы звычайна толькі на сваю асабістую моц, робіць зло ў значна меншых памерах; да таго ж бязлітаснасць пераможцаў калі і не мае прабачэньня, то тлумачыцца жорсткасьцю пераможаных; ва ўпарадкаваных жа

---

386 Кюстын, напэўна, недакладна перапісаў фразу Шніцлера, які паведамляе: «У Сафійскім саборы знаходзяцца магільні Ўладзіміра Яраславіча, які памёр у 1051 г., і Ганны, яго маці, бацькам якой быў канстантынопальскі імператар…» (Schnitzler. p. 173), прытым пасьля слоў «канстантынопальскі імператар» у Шніцлера пачынаецца новы радок. Насамрэч Ганна, жонка вялікага князя Яраслава і маці наўгародскага князя Уладзіміра Яраславіча, была дачкой шведзкага караля Олафа; перад сьмерцю (1051) яна пастрыглася ў манашкі і перасялілася ў Ноўгарад; там, у Сафійскім саборы, і спачываюць яе парэшткі. Шніцлер пераблытаў гэту Ганну з іншай — сястрой візантыйскіх імператараў Васіля II і Кастуся IX, якая адружылася з вялікім князем Уладзімірам I, дзедам Уладзіміра Яраславіча.

дзяржавах адлегласць паміж жахлівасьцю зробленых дзеянняў і марнатраўствам прыгожых слоў робіць злачынства асабліва абуральным і показывае нам чалавецтва ў вельмі непрыемным выглядзе. Занадта часта тут некаторыя схільныя да аптымізму розумы, а таксама і іншыя, із выгады, палітычнага разліку ці самападману ліслівячыя массам, прынімаюць кожны рух за прагрэс. Мне ўяўляецца вартым увагі, што грозную помсту, ад якой трыццаць тысяч жыхароў загінулі ў бойках альбо сталі бязвіннымі ахвярамі прыдуманых царом і прыведзеных у выкананне пад яго кіраваннем катаванняў і пакаранняў, былі накліканы на Ноўгарад зносінамі архіепіскапа Пімена і некалькіх знатных гараджан з палякамі. У тыя дні на вачах у цара каралі да шасьцісот чалавек у дзень; і ўсе гэтыя жахі рабіліся ў якасьці адплаты за злачынства, з тых самых часоў караўшаяся самым бязлітасным чынам, – за сувязь з палякамі. Здарылася ўсё гэта каля трохсот гадоў назад, у 1570 годзе.

Пасьля гэтага ўзрушэння Ноўгарад Вялікі так і не ачуняў; ён мог бы папоўніць свае страты, але не перажыў знішчэнне демакратычных установаў; на гарадзкіх сьценах, пафарбаваных з той руплівасьцю, з якой рускія ўсюды імкнуцца пад прыкрыццём ілжывага абнаўлення схаваць залішне праўдзівыя сляды гісторыі, – на сценах гэтых няма больш плямаў крыві; яны як быццам адбудаваны толькі ўчора; але на шырокіх прамых вуліцах бязлюдна, а тры чвэрці старынных развалін раскіданыя за межамі цеснай умацавальнай сцяны і губляючыяся сярод навакольных раўнін, канчаткова разбураючыяся наводдаль ад сучаснага горада – не больш чым цені ранейшага, з якім яго парадняе адна назва. Вось і ўсе парэшткі знакамітай сярэднявечнай рэспублікі. Некалькі цьмяных успамінаў пра славу, пра моц – прывіды, назаўжды адыйшоўшыя ў нябыт. Які ж плён рэвалюцый, безперапынна паліваўшых крывёю гэтую амаль пустынную зараз зямлю? Чый поспех варты тых слёз, што праліваліся у гэтым краі праз палітычныя захапленні? Сёньня ўсё тут маўчыць, нібыта да пачатку гістарычных часоў. Як жа часта Бог нагадвае нам, што людзі, падманваючыся сваёю ганарыстасьцю, прынімаюць за годную мэту намаганняў тое, што на справе дазваляе проста даць выхад залішняй магутнасьці, якая бурліць у хваляваннях маладосьці. У гэтым – глыбінны сэнс шмат якіх героічных учынкаў.

Зараз Ноўгарад Вялікі – гэтую больш-менш знакамітая груда камянёў сярод непладзючай на выгляд раўніны, на беразе маркотнай, вузкай і неспакойнай ракі, падобнай на канал для асушэння балот. А тут жа жылі людзі, вядомыя сваёю схільнасьцю да буянай вольніцы; тут адбываліся трагічныя падзеі; бліскучыя лёсы перарываліся раптоўнымі катастрофамі. Ад усяго гэтага грохату, крыві, варажнечы зараз застаўся дрымотна сумны гарнізонны горад, не выказваючы цікаўнасьці больш ні да чаго на сьвеце – ні да міру, ні да вайны. У Расіі мінулае аддзелена ад сучаснасьці безданьню!

**~ 171 ~**

Ужо трыста гадоў як вечавы звон[387] не ззывае больш на нараду жыхароў некалі слаўнейшага і непакорлівейшага із рускіх гарадоў; згодна волі цара ў

[387][заўвага аўтара] Звон збіраўшы народны сход.

сэрцах задушана нават спачуванне, сцёрта нават сама памяць пра яго былую славу. Некалькі гадоў назад у ваенных паселішчах, размешчаных вакол наўгародскіх руін, адбыліся жорсткія сутычкі паміж казакамі і мясцовымі жыхарамі. Але бунт быў падаўлены, і ўсё зноў ўвайшло ў звычайную каляіну – паўсюль усталявалася магільная цішыня і спакой. Турцыя нічым не саступае Ноўгараду[388].

Я ўдвая быў рады – за маскоўскага вязня і за сябе самога – пакінуць гэтыя мясціны, некалі знакамітыя сваёю нястрыманай вольнасьцю, а сёння спустошаныя так званым "парадкам", які тут раўназначны сьмерці.

Як ні спяшаўся, у Пецярбург я прыбыў толькі на чацвёрты дзень; і, ледзь выйшаўшы з каляскі, адразу паспяшаўся да с-ра дэ Баранта.

Ён яшчэ не ведаў пра зняволенне с-ра Перно і быў, здавалася, здзіўлены, што даведаўся пра гэта ад мяне, тым больш што я затраціў на дарогу амаль чатыры дні. Ён яшчэ больш здзівіўся, калі я паведаміў яму пра свае безвыніковыя размовы з консулам, пра спробы ўгаварыць гэтага афіцыйнага заступніка французаў паклапаціцца пра арыштанта.

Уважлівасць, з якой выслухаў мяне с-р дэ Барант, яго абяцанні распачаць усё неабходнае для высвятлення справы і ні на хвіліну не ўпускаць яе із-пад увагі, не распутаўшы ўвесь вузел інтрыгі; значнасць, якую ён, здавалася, надаваў самым нязначным здарэнням, якія мелі дачыненне да годнасьці Францыі і бяспекі нашых суграмадзян, – усё гэта супакоіла маё сумленне і развеяла прывіды, народжаныя маім ўяўленнем. Лёс с-ра Перно быў зараз у руках яго афіцыйнага заступніка, чый розум і цвёрдасць давалі няшчаснаму больш надзейную падтрымку, чым мае намаганні і нямоглыя захады[389].

Я адчуў, што зрабіў усё магчымае і належнае, каб вызваліць чалавека із бяды і, згодна сваіх магчымасьцяў не выходзячы за межы, вызначаныя маім становішчам простага падарожніка, абараніць гонар сваёй дзяржавы. Маё "вар'яцкае" ўяўленне выканала благую ролю. Таму я палічыў разумным за тыя дванаццаць ці пятнаццаць дзён, што яшчэ правёў ў Пецярбургу, не прамаўляць больш імя с-ра Перно ў прысутнасьці с-ра пасланніка і з'ехаў з Расіі, не ведаючы, як развівалася далей гісторыя, на сваім пачатку так моцна мяне заклапаціўшая і ўсхваляваўшая.

---

[388] [заўвага аўтара] Глядзі ліст васемнаццаты, гісторыя Целенева.

[389] «Натуральнаму апекуну» французскіх падданых — амбасадару Баранту — было далёка не заўсёды лёгка іх бараніць; разважаючы пра прагнасць рускіх урадоўцаў, ён распавядае, у прыватнасьці, гісторыю нейкага страсбургскага гандляра, арыштаванага ў Кранштаце, ужо на борце рыхтуючагася адплываць пакетбота, нібы-та згодна са скаргай пабітай ім жанчыны. Барант запатрабаваў, каб гандляра вызвалілі пад заклад, да справы былі далучаны найвышэйшыя ўрадаўцы, аж да замяшчаўшага ў гэты момант Нэсэльродэ кіраўніка Азіяцкага дэпартаменту К. К. Родафінікіна, але «нішто не магло прымусіць паліцыю выпусціць са сваіх рук здабычу, і ўсе навокал казалі мне: «Яны хочуць выцягнуць із небаракі гандляра пяцьсот рублёў», а гандляр, між тым, сядзеў у камеры разам са злоўленымі на вуліцы зладзеямі. І падобныя выпадкі — не рэдкасць» (Notes. p. 133-134).

Але, хутка і вольна накіроўваючыся ў Францыю, я не раз у думках вяртаўся ў маскоўскую вязніцу. Калі б я ведаў, што там адбывалася ў тыя дні, я б непакоіўся яшчэ мацней[390].

---

[390] [заўвага аўтара] Каб не пакідаць чытача ў недасведчанасьці адносна лёсу маскоўскага зняволенага, пра якога я сам нічога не ведаў амаль паўгода, распавяду тут тое, што даведаўся толькі пасьля вяртання ў Францыю пра арышт і вызваленне с-ра Перно.

Аднойчы, на прыканцы зімы 1840 года, мне паведамілі пра прыход нейкага незнаёмца, які жадае са мной пагутарыць; я спытаў яго імя; ён адказваў, што паведаміць яго толькі асабіста мне. Я адмовіўся яго прыняць; ён настойваў, я зноў адмовіўся. Тады, не жадаючы адступацца, ён напісаў мне некалькі слоў без подпісу, кажучы, што я не магу не выслухаць чалавека, абавязанага мне жыццём і жадаючага толькі аддзякаваць мяне.

Такія словы былі для мяне нечаканымі, і я загадаў пусціць незнаёмца. Увайшоўшы ў пакой, ён прамовіў: "Спадар, я толькі ўчара даведаўся ваш адрас і сёння ж паспяшаўся да вас: мяне завуць Перно, і я хацеў бы выказаць вам сваю ўдзячнасць, бо ў Пецярбургу мне сказалі, што менавіта вам я абавязаны свабодай, а значыць і жыццём".

Пасьля першых бурных пачуццяў, якіх не маглі не выклікаць у мяне гэтыя словы, я пачаў разглядаць с-ра Перно; то быў адзін са шматлікіх маладых французаў, па выгляду і складу розуму нагадваючых паўднёўцаў; чарнавокі і чарнавалосы, скуласты, з гладкім і белым тварам; невысокага росту, худы, кволы і хваравіты на выгляд, але хваравіты ад пакут хутчэй душэўных, чым цялесных. Выявілася, што я ведаю некалькіх яго сваякоў, якія жывуць у Савойі і належаць да ліку самых годных людзей у тым краі, дзе прыстойны ўсе людзі без выключэнняў. Ён распавёў мне, што па адукацыі ён адвакат і што ў Маскве яго тры тыдні трымалі ў турме, у тым ліку чатыры дні ў адзіночнай камеры. З яго апавядання вы пабачыце, як ставяцца ў гэтай установе да арыштаваных. У сваім уяўленні я нават не змог наблізіцца да рэчаіснасьці.

Першыя два дні яму не давалі есьці; можаце сабе ўявіць, якія пакуты ён трываў! Ніхто яго не дапытваў, ён быў цалкам адзін; на працягу сарака васьмі гадзін ён разважаў, што яму наканавана так і памерці ад голаду, забытым ў сваёй вязніцы. Адзіным гукам, які даносіўся да яго, былі ўдары розкамі, якімі з пяці гадзін раніцы і да самага вечара секлі няшчасных прыгонных, накіраваных туды сваімі гаспадарамі для пакарання. Дадайце да гэтых жахлівым гукаў стогны, плач і выццё ахвяр, пагрозы і лаянку катаў, і вы можаце скласьці сабе прыблізнае ўяўленне пра тое, якія душэўныя пакуты адчуваў наш няшчасны суайчыннік на працягу чатырох нудных дзён, сам не ведаючы за што.

Даведаўшыся такім чынам, зусім не праз сваё жаданне, пра таямніцы рускіх турмаў, ён цалкам апраўдана палічыў, што асуджаны скончыць тут свае дні, небезпадстаўна разлічыўшы: "Калі, б мяне збіраліся выпусціць, то не зняволілі б у такім месцы – бо гэтыя людзі больш за ўсё баяцца, каб іхная схаваная ад старонніх позіркаў жорсткасць не стала вядомай".

Адна толькі тонкая і лёгкая перагародка аддзяляла цесную каморку с-ра Перно ад унутранага двора, дзе адбываліся экзэкуцыі.

Розкі, якія дзякуючы памякчэнню нораваў замянілі сабой нядобрай памяці мангольскую пугу, ўяўляюць сабой расчэплены натрое трыснёг; пры кожным удары гэтая прылада разрывае скуру; пасьля пятнаццаці ўдараў караемы звычайна ўжо не мае моцы крычаць: яго паслабеўшы голас выдае толькі глухія працяглыя стогны; гэты жахлівы хрып караемых разрываў сэрца вязню і прадракаў яму долю, пра якую ён не асьмельваўся нават падумаць.

С-р Перно разумее па-руску; яму адразу прыйшлося стаць сведкам шмат якіх нябачных для яго і нікому не вядомых пакутаў; у турму прывялі двух дзяўчат, працаваўшых у знакамітай ў Маскве мадысткі; няшчасных секлі прама на вачах у гаспадыні – тая обвінавацiла іх у тым, што яны маюць каханкаў і настолькі забываюцца, што прыводзяць іх у дом... да яе, уладальніцы моднай лаўкі!! Які непарадак! Пры гэтым злобная жанчына яшчэ і загадвала катам секчы больш балюча; адна із дзяўчат папрасіла злітавацца; было відавочна, што яна не далёка ад сьмерці, уся ў крыві, – не мае значэння! Яна мела дзёрзкасць сказаць, што сама гаспадыня паводзіць сябе горш чым яна, праз што тая раззлавалася ўдвая больш ранейшага. Як сцвярджаў с-р Перно (дадаючы пры гэтым, што я, вядома, не паверу яго славам), кожная із няшчасных зведала на працягу некалькіх захадаў па сто восемдзесят бізуноў. "Мне занадта балюча было іх лічыць, – паведаміў мне былы вязень, – каб я мог збіцца!!"

Калі прысутнічаеш пры такіх жахах і нічога не можаш зрабіць, каб дапамагчы ахвярам, то пачынаеш страчваць розум.

Затым пачалі секчы сялян, якіх прыслаў управіцель нейкага пана; дваровага слугу з гарадзкой сядзібы, караемага згодна з прашэннем барына; суцэльны шэраг жорсткіх і несправядлівых адплат, чарга людзей, чыя роспач невядома свету (гл. уна прыканцы гэтага тома вынятку із кнігі Лаво спіс асобаў, якія ўтрымліваліся ў маскоўскай турме на працягу 1836 года; гл. таксама у дадатку да "Амеріканскіх нататкаў" Дікенса выняткі із амерыканскіх газет, маючых дачыненне да стаўлення да рабоў у Злучаных Штатах; відавочна характэрнае падабенства паміж бязчынствамі дэспатызму і злоўжываннямі дэмакратыі.) Бедны вязень чакаў ночы, так як разам з цемрай наступала і цішыня; але тады ён пачынаў пакутаваць ад ўласных думак; і тым не менш, ён аддаваў перавагу жорсткім пакутам ад ўяўлення перад больш чым сапраўднымі пакутамі злачынцаў ці ж нявінных ахвяр, якіх прыводзілі на турэмны двор на працягу дня. Трапіўшага ў сапраўдную бяду не столькі пужае думка, як рэчаіснасць. Адны толькі сытыя і спячыя ў мяккім ложку аматары памарыць запэўніваюць, быццам ўяўныя пакуты мацнейшыя чым сапраўды адчуваемыя.

Нарэшце, пасьля гэтага чатырохдзённага катавання, жахлівасць якога наўрад ці падуладна намаганням нашага ўяўлення, с-р Перно, па-ранейшаму без усялякіх тлумачэнняў, быў пераведзены са сваёй камеры ў іншую частку турмы.

Адтуль ён напісал с-ру дэ Баранту, перадаў ліст праз генерала ***, на сяброўства якога ён, як думаў, мог разлічваць.

Ліст па прызначэнню не дайшоў, а калі пазней, напісаўшы яго папрасіў у вераломнага генерала тлумачэнняў, той адказаў адгаворкамі і ў рэшце рэшт пакляўся с-ру Перно на Евангеллі, што яго ліст не быў і ніколі не будзе передадзена міністру паліцыі! Такой была вышэйшая выява адданасьці, якой здолеў дамагчыся вязень ад свайго сябра. Вось у што ператвараюцца лепшыя людзкія пачуцці, прайшоўшы праз горан дэспатызму.

Тры тыдні прайшлі ва ўсё павялічваўшымся хваляванні, бо, здавалася, асьцерагацца можна чаго заўгодна, а спадзявацца не было на што.

Пасьля заканчэння гэтага тэрміну, які с-ру Перно здаўся целай вечнасьцю, ён быў вызвалены без усялякага суда, так і не даведаўшыся, якой была падстава яго зняволення.

Шматлікія запыты, накіраваныя ім у Маскве дырэктару департамента паліцыі, нічога не патлумачылі: яму адказвалі, што яго вызваленне патрабаваў пасланнік, і загадалі пакінуць Расію. Ён папрасіў і атрымаў дазвол ехаць праз Пецярбург.

Яму хацелася паддзякаваць французкага пасланніка за свабоду, якою ён яму абавязаны. Ён жадаў таксама дазнацца, чаму з ім так абышліся. Дарэмна с-р дэ Барант адгаворваў яго ад задумы ісьці за тлумачэннямі да с-ра Бенкендорфа, міністра паліцыі. Вызвалены вязень папрасіў сабе аудыенцыю і яму яе далі. Ён сказаў міністру, што не ведае, за што быў арыштаваны, і, перш чым пакінуць Расію, жадае даведацца, у чым заключалася яго злачынства. Міністр коратка адказаў, што с-ру Перно лепш не занімацца далейшымі вышукамі на конт гэтай справы, пасьля чаго адаслаў яго дадому, паўтарыўшы загад неадкладна пакінуць імперыю.

Вось і ўсе звесткі, якія я сам змог атрымаць ад с-ра Перно.

У маладога чалавека, як і ва ўсіх тых, хто хоць бы нядоўгі час правёў у Расіі, з'явіўся таямніча-ўтойлівы тон, ад якога іншаземцы, якія жывуць у тых краях, так жа не могуць пазбавіцца, як і самі мясцовыя жыхары. У Расіі ўсё розумы нібы прыдаўлены сакрэтнасьцю.

У адказ на мае пытанні с-р Перно нарэшце паведаміў мне, што пры першай паездцы ў Расію яму паставілі ў пашпарце званне негацынта, пры другой жа паездцы – адваката; ён дадаў і нешта больш сур'ёзнае; яшчэ да прыбыцця ў Пецярбург, плывучы на параходзе па Балтыйскаму мору, ён адкрыта выказаўся супраць рускага дэспатызму ў прысутнасьці некалькіх незнаёмых людзей.

На развітанне ён запэўніў мяне, што не можа згадаць ніякіх іншых абставінаў, якія маглі б растлумачыць тыя непрыемнасьці, якія ён зведаў у Маскве. З тых часоў я яго не сустракаў

***(***Стасункі Кюстына з Перно працягваліся пасьля выдання "Расіі ў 1839 годзе": летам 1843 г. Перно прапанаваў Кюстыну друкавацца ў выдаваемым ім журнале, аднак Кюсьтын прапановы не прыняў; "Мая кніга настолькі прасякнута каталіцкім духам, – пісал ён 9 ліпеня 1843 г. Варнгагену, – а яго газета настолькі поўніцца духам рэвалюцыйным і антыхрысьціянскім, што палітычная неабходнасць, я думаю, у хуткім часе пераважыць у яго душы над пачуццямі" (Lettres a Vamhagen. p. 457).); толькі праз два годы, дзякуючы такой жа дзіўнай выпадковасьці, як і акалічнасьць, якая вымусілі мяне узяць удзел у гэтым здарэнні, я сустрэў адну асобу, якая належала да яго сямейства; яна распавяла мне, што ведае, якую паслугу я зрабіў яе юнаму сваяку, і падзякавала мяне. Патрэбна дадаць, што гэтая асоба прытрымліваецца кансерватыўных рэлігійных перакананняў; яшчэ раз паўтару, што яна сама і ўся яе сям'я карыстаюцца ўсеагульнай павагай і пашанай у Сардзінскім каралеўстве (Савойя, дзе жылі родныя

Апошнія дні свайго знаходжання ў Пецярбургу я выкарыстаў для наведвання некаторых устаноў, якіх не змог пабачыць пры першым прыездзе ў гэты горад.

Князь *** паказаў мне ў ліку іншых славутасьцей велізарны Колпінскі завод – галоўны рускі арсенал, размешчаны ў некалькіх лье ад сталіцы. На гэтым заводе вырабляецца ўсё неабходнае для імператарскага флоту. Ехаць у Колпіна сем лье, прычым другая палова дарогі вельмі дрэнная. Заводам кіруе ангелец, с-р Вільсан, ганараваны генеральскім званнем (у Расіі ўсё носяць мундзір)[391]; ён добрасумленна, як заўзяты рускі інжынер, паказаў нам свае машыны, не даючы прапусціць ні адзінага цвіка або гайкі; ў суправаджэнні яго мы абышлі каля дваццаці цэхаў вялізнага памеру. З боку кіраўніка такая надзвычайная ветлівасць заслугоўвала, верагодна, асаблівай падзякі; я ж захапляўся вельмі стрымана, ды і то паказваў энтузіязму болей, чым адчуваў на самай справе: стамленне робіць неўдзячным, амаль так жа, як і маркота.

Самае цікавае, што сустрэлася нам падчас нехаця доўгага агляду колпінскіх механізмаў, – гэта машына Брамаха[392], з дапамогай якой выпрабоўваюцца на трываласць якарныя ланцугі для найбольш цяжкіх караблёў; магутныя стальныя звёны, выстаяўшыя супраць намаганняў гэтай машыны, змогуць утрымаць і судны пры самых рэзкіх парывах ветру і ўдарах хваляў. У машыне Брамаха для вымярэння трываласьці жалеза дасціпна выкарыстоўваецца ціск вады; гэта вынаходніцтва мяне захапіла. Агледзелі мы таксама шлюзы, прызначаныя для спуску залішняй вады пры асабліва магутных паводках. Гэтыя незвычайныя шлюзы дзейнічаюць галоўным чынам вясной; інакш ручай, які рухае машыны, не прыводзіў бы ў дзянне ўвесь завод, а вырабляў бы незлічоныя разбурэнні. Дно каналаў і шлюзавыя апоры пакрытыя тоўстымі лістамі медзі, так як гэты метал нібы-та лепш чым граніт пераносіць зіму. Нас запэўнівалі, што падобнага не ўбачыш больш нідзе.

**~ 172 ~**

Колпіна зноў уразіла мяне тою празмернай грандыёзнасьцю, што дапасуе ўсім карысным збудаванням, якія былі пабудаваны рускім урадм. Гэты ўрад амаль заўсёды прысовокупляе да неабходнага нямала залішняга. У яго так шмат сапраўднай моцы, што нізкія хітрыкі, з дапамогай якіх ён звычайна пускае пыл у вочы іншаземцам, не павінны выклікаць ў нас толькі пагарду; такая хітрасць зусім не мае вартасьці, яе варта аднесці да прыроджаных схільнасцей нацыянальнага характару: бо людзі хлусяць не толькі праз маладушнасць, але часта і таму, што ад прыроды надзелены падарункам па-майстэрску падманваць; гэта асаблівы талент, а любы талент жадае выказаць сябе.

---

Перно (гл. наст, тым, с. 390), у 1814-1860 гг. належала Сардзінскаму каралеўству. У пятым выданні 1854 Кюстын дадаў да гэтага месца наступную заўвагу: "Ад сяброў с-ра Перно я даведаўся, што пераказ гэтага эпізода ў маёй кнізе яго вельмі шакіраваў. Ён жадаў бы паўстаць перад публікай пакутнікам, які ганарыцца выпаўшымі на яго долю пакутамі; яго самалюбства было абражана нават такой дробяззю, як згадка пра яго хілы целасклад. Выходзіць, ісьціну прызнаюць з цяжкасьцю не ў адной Расіі".).

*391* [заўвага аўтара] Нагадаю сказанае вышэй пра "чыны" (том першы, ліст дзевятнаццаты)

392 Брэмах Джозэф (1749-1814). — ангельскі механік, стваральнік шматлікіх тэхнічных прыстасаванняў.

Калі мы селі ў экіпаж, каб ехаць назад у Санкт-Пецярбург, ужо сцямнела і пахаладала. Адваротны шлях быў скарочаны прыемнай размовай; асабліва запомнілася мне наступная гісторыя. Яна дапамагае зразумець, наколькі ўсяўладны над рэчаіснасьцю абсалюцыйны манарх. Да гэтага часу я бачыў, як рускі дэспатызм кіруе памёрлымі, храмамі, гістарычнымі падзеямі, катаржнікамі, вязнямі – наогул усімі тымі, хто не можа загаварыць і запрацівіцца злоўжыванням улады; на гэты раз мы ўбачым, як імператар расійскі навязаў адной са знатнейшіх сем'яў Францыі такое сваяцтва, пра якое яна і не думала.

У цараванне Паўла I жыў у Пецярбургу француз на імя ці то Лаваль, ці то Ловель[393]; будучы маладым і прыемным сабою, ён спадабаўся адной вельмі заможнай дзяўчыне, у якую сам быў закаханы; сямейства юнай асобы мела тады немалую магутнасць і пашану; яно запярэчыла адружанню з не маючым знатнага паходжання і вялікага багацця іншаземцам. У адчаі двое закаханых вырашыліся на ўчынак, годны рамана. Яны падпілнавалі імператара, калі той ехаў па вуліцы, кінуліся яму ў ногі і папрасілі яго заступніцтва. Павел I – які бываў добры, калі не бываў раз’юшаны, – паабяцаў дамагчыся згоды сям'і і пераканаў яе такую згоду даць – пераканаў, трэба думаць, рознымі довадамі, але асабліва ж наступным: “Барышня ***, – сказаў ён, – адружвайся са спадаром графам дэ Лаваль, маладым французкім эмігрантам, спадкаемцай знатнага рода і ўладальнікам вялага багацця”[394].

Атрымаўшы такім чынам – хоць, вядома, толькі на словах – добры пасаг, малады француз адружыўся з барышняй ***, сваякі якой, бяспрэчна, не сталі пярэчыць імператару.

У пацверджанне слоў гасудара новаяўлены граф дэ Лаваль горда загадаў намаляваць свой герб на пад'ездзе радавога майнтка, дзе пасяліўся з маладою жонкай.

Да няшчасьця, здарылася так, што праз пятнаццаць гадоў, ужо пры Рэстаўрацыі, у Расію прыехаў нехта із роду Манмарансі-Лаваль; неяк выпадкова

---

[393] Ян Сцяпанавіч Лаваль (1761-1846), французскі дваранін у рускай службе, адружыўся з Аляксандрай Рыгораўнай, народжанай Казіцкай, а тытул графа атрымаў, як нагадвае Грэч, ад Людовіка XVIII за паслугі, выказаныя каралю падчас знаходжання таго ў эміграцыі ў Мітау (суч. Елгава) у 1798-1800 гг.

[394] [заўвага аўтара] Пасьля выхаду ў свет першага выдання гэтай кнігі я атрымаў ліст ад спадарыні графіні Касахоўскай, дачкі пецярбургскага графа дэ Лаваля; ў ім яна паказвае на памылкі, да распаўсюджвання якіх я меў дачыненне, распавёўшы гэты анекдот так, як сам яго пачуў. Яна прызнае тым не менш, што пецярбургскі с-р дэ Лаваль не належыць да славутага французкага роду, дзякуючы шлюбным повязям злучыўшым сваё імя з імем Манмарансі ў якасьці доказу нават дадае, што тытул графа дэ Лаваля яму дараваў Людовік XVIII; адзін гэты факт сведчыць, што Лавалі, якія ўладкаваліся ў Пецярбургу з часоў эміграціі, не маюць нічога агульнага ні са старажытным домам Лавалей, ні наогул са старажытнай французкай знаццю. Аднак жа сваімі заслугамі яны нікому не саступяць; іхнае імя ўвайшло ў гісторыю дзякуючы нядаўняй даставернай падзеі – пецярбургскі граф дэ Лаваль прыходзіцца бацькам княгіні Трубяцкой, дабраахвотна выправіўшайся ў сібірскую высылку. Выдаючы сваю кнігу, я не ведаў, што гераічны ўчынак гэтай святой ахвяры шлюбнага абавязку пакрывае славай таксама і Францыю. (дваранскі род Лавалей, названы згодна з аднайменным горадам, існуе з IX ст.; з XIII ст. тытул сеньёраў Лаваля перайшоў да найстаражытнейшага французкага роду Манмарансі. Так узнікла галіна герцагаў дэ Манмарансі-Лавалей, якую ў эпоху, апісваемую Кюстынам, прадстаўлялі пэр Францыі Анн Аляксандр дэ Манмарансі, герцаг дэ Лаваль (пам. 1827) і яго сын Адрыян дэ Манмарансі, герцаг дэ Лаваль (1767-1837), пэр Францыі і дыпламат).

пачачыўшы герб на пад'ездзе, ён стаў наводіць спраўкі; яму распавялі гісторыю с-ра дэ Лаваля.

Паводле яго патрабавання імператар Аляксандр неадкладна загадаў прыбраць герб Лавалей, і пад'езд застаўся голым.

На другі дзень пасьля паездкі ў Колпіна я ўважліва агледзеў Акадэмію жывапісу – велічную, пышную пабудову, дзе захоўваюцца пакуль што няшмат добрых прац; ды і чаго можна чакаць ад мастацтва ў краіне, дзе маладыя мастакі носяць мундзір[395]? Лепш бы ўжо проста адмовіцца ад усякай працы, для якой патрэбна ўяўленне. Усе выхаванцы Акадэміі, як выявілася, знаходзяцца на службе, адпаведна апранутыя, выконваюць загады, нібы кадзеты марской вучэльні. Ужо гэта адно кажа аб глыбокай пагардзе да таго, за што тут нібыта заступаюцца, ці, дакладней, аб поўным неразуменні законаў прыроды і таямніц мастацтва; нават у адкрытай пагардзе да мастацтваў было б не так шмат варварства; у Расіі свабодна толькі тое, да чаго няма справы ўраду; да мастацтва ж у яго занадта шмат патрабаванняў, ды толькі ён не ведае, што мастацтву патрэбна свабода і цесная сувязь паміж геніяльнасцю творчасьці і незалежнасцю творцы ўжо сама па сабе служыць залогам высокароднасьці мастацкай прафесіі.

Прайшоўшыся па шматлікіх майстэрнях, я знайшоў нядрэнных пейзажыстаў; іх кампазіцыі адрозніваюцца ўяўленнем і нават удалымі фарбамі. Асабліва я любаваўся карцінай с-ра Вераб’ёва, паказваючай Санкт-Пецярбург у час летняй ночы: гэта прыгожа, як сама прырода, паэтычна, як сама праўда[396]. Я стаяў перад гэтай карцінай, і мне здавалася, што вось я толькі што прыбыў у Расію; у думках я перанёсся ў той час года, калі летнія ночы сладаліся із пераходзячых адна ў другую вячэрняй і ранішняй зарак; на карціне як нельга лепш перададзены эфект гэтага незгасаючага святла якое прабіваецца скрозь цемру, нібы прамяні лампы, прыкрытай лёгкім флёрам.

**~ 173 ~**

Са шкадаваннем адыйшоў я ад гэтай выявы, дзе прырода дакладна схоплена чалавекам, якому ўяўленне дапамагае прайграваць убачанае. Сваімі працамі ён нагадаў мне мае першыя ўражанні пры выглядзе Балтыйскага мора. Мне бачылася не звычайнае маляўнічае асвятленне, але блеклае святло палярных краін. Так дакладна перадаць своеасаблівыя з'явы прыроды – заслуга немалая.

Шмат чутак выклікае ў Расіі талент Брулова. Кажуць, што сваім “Апошнім днём Пампеі” ён нарабіў шуму ў самой Італіі[397]. Гэтае велізарнае палатно

[395] Імператарская Акадэмія майстэрстваў была заснавана ў 1757 г. будынак яе ў стылі ранняга рускага класіцызму (архітэктар А. Ф. Какорынаў) пабудаваны ў 1764-1788 гг. на Кадэцкай набярэжнай (у XIX ст. называлася набярэжнай Вялікай Нявы, з 1887 г. — Універсітэцкая набярэжная). Сябры Акадэміі насілі мундзір з 1766 г. (гл.: Шэпелеў Л. Е. Тытулы, мундзіры, ордэны. Л., 1991. с. 143), у XIX ст. мундзіравы сурдут Акадэміі майстэрстваў быў цёмна-сіняга колеру (Кірсанава. с. 267).

[396] Максім Нічыпаравіч Вараб'ёў (1787-1855) быў аўтарам шматлікіх краявідаў — архітэктурных выглядаў Масквы і Пецярбурга.

[397] Карціна Карла Паўлавіча Брулова (1799-1852) «Апошні дзень Пампеі» была створана ў 1827-1833 гг. у Рыме, дзе ў гэты час жыў і працаваў мастак, і мела ў Італіі вялікі поспех. «Сем брашур ужо напісана з нагоды гэтай карціну: усе да гонару Брулова; яе апелі і ў вершах», — паведамляў А. Я. Тургенеў (Тургенеў

складае зараз гонар рускай школы ў Санкт-Пецярбургу; не смейцеся – я сам бачыў, аглядаючы Акадэмію жывапісу, як на дзвярах аднаго із залаў напісаны гэтыя словы – “Руская школа”!!! На мой позірк, у карціне Брулова неправільныя фарбы; праўда, выбраны мастаком сюжэт здольны схаваць гэтую загану, бо хто можа ведаць, якога колеру былі пабудовы ў апошні дзень Пампеі? Почырк жывапісца рэзкі, мазок жорсткі, але ў ім ёсць творчая моц; яго задумы не пазбаўлены ні ўяўлення, ні самабытнасьці... Твары ў яго разнастайныя і праўдзівыя; калі б ён валодаў мастацтвам светацені, ён, магчыма, і заслужыў бы калі-небудзь тую славу, якою тут карыстаецца; зараз жа яму недастае натуральнасьці, каларыту, лёгкасьці і вытанчанасьці, ды і пачуццё выдатнага яму неўласціва; ён не чужы своеасаблівай дзікай паэзіі, і ўсё ж агульны выгляд яго карцін непрыемны для позірку, а нацягнутасць свайго стылю, хоць і не пазбаўленага моцы, ён нагадвае пераймальнікаў школы Давіда; малюнак выкананы старанна, нібы па гіпсавай мадэлі, а расцвечаны як прыйдзецца.

На картіне “Успенне”[398], якою прынята захапляцца ў Пецярбургу, так як гэта праца знакамітага Брулова, я заўважыў хмары такія цяжкія, што ў пару іх аддаць ў Оперу для стварэння вобразу скал.

Тым не менш у “Пампеі” выраз некаторых асобаў кажа пра сапраўдны талент. Гэтая карціна, пры ўсіх недахопах кампазіцыі, выгадала б ў выглядзе гравюры; бо больш за ўсё яна грашыць па частцы фарбаў.

Кажуць, што, вярнуўшыся ў Расію, аўтар ўжо ладна згубіў сваю захопленасць мастацтвам. Як мне яго шкада – ён пабачыў Італію і павінен быў вяртацца на Поўнач! Працуе ён мала, яму ставяць ў заслугу лёгкасць пэндзля, але яна, нажаль, занадта выразна праступае ў яго працах. Толькі ўпартымі, узмоцненымі практыкаваннямі мог бы ён пазбавіцца ад жорскасьці малюнка і рэзкасьці фарбаў. Вялікія жывапісцы ведаюць, колькі працы каштуе адвучыцца маляваць пэндзлем, набыць ўменне пісаць паслабленымі танамі, майстэрства сьціраць на палатне лініі, якіх у прыродзе няма нідзе, і затае паказваць паветра, якое разліта паўсюдна, майстэрства хаваць сваё мастацтва і, перадаючы рэчаіснасць, безперапынна надаваць ёй годнасць. Падобна на тое, што рускі Рафаэль не падазравае аб гэтай цяжкай задачы мастака.

Як кажуць, сваё жыццё ён праводзіць больш у папойках, чым у працы; я яго не столькі дакараю, колькі шкадую. Усе сродкі тут добрыя, каб сагрэцца; ў Расіі віно – замена сонца. Калі вы, на бяду сваю, не толькі рускі, але яшчэ і адчуваеце сябе мастаком, вам трэба ехаць за мяжу. Хіба не высылка для жывапісца – жыць у гэтым горадзе, дзе тры месяцы на год цёмна, а снег зіхаціць ярчэй за сонца?

Хто-небудзь із жанравых жывапісцаў, старанна прайграваючы асаблівасьці побыту пад тутэйшымі шыротамі, яшчэ мог бы знайсьці сабе пашану і заваяваць мястэчка на паперці храма мастацтваў, у старонцы ад усіх; гістарычны ж

---

А. Я. Хроніка рускага. М.; Л., 1964. с. 45). У Расію карціна прыбыла летам 1834 г. і была спачатку выстаўлена згодна з загадам імператара ў Эрмітажы, а пазней пераведзена ў Акадэмію мастацстваў.

[398] «Прачыстая Боская маці» — карціна Брулова (1837).

жывапісец, калі ён жадае развіць свае атрыманыя ад неба схільнасьці, павінен бегчы прэч з гэтага клімата. Што б ні казаў і ні тварыў Пятро Вялікі, прырода ставіць мяжу чалавечым задумам, хоць бы нават дваццаць цароў узаконілі іх сваімі ўказамі.

Адно із пабачаных мною тварэнняў с-ра Брулова сапраўды цудоўнае; гэта, без сумнення, лепшая карціна сучаснага жывапісу, якая ёсць у Санкт-Пецярбургу; праўда, гэта толькі здымак з дастаткова старога шэдэўра – а менавіта з "Афінскай школы"[399]. Памерам яна не ўступае арыгіналу. Мастак, здольны так перадаць, магчыма, самае неперараймальнае тварэнне Рафаэля пасьля яго мадонн, абавязаны вярнуцца ў Рым, каб навучыцца там пісаць нешта лепшае, чым "Апошні дзень Пампеі" і "Успення Божай маці"[400][ 66 ].

Суседства з полюсам дрэнна для мастацтваў, выключаючы паэзію, якой часта не патрэбна нічога, акрамя чалавечай душы; тады гэта нібы вулкан, скаваны ільдамі. Затое музыка, жывапіс, танец – усе пачуццёвыя задавальненні, у вядомай ступені незалежныя ад думкі, у гэтым суровым клімате разам з патрэбнымі для іх органамі губляюць і сваё зачараванне. Што мне карысьці ад Рэмбрандта ноччу або ж ад Каррэджо, Мікеланджело і Рафаэля ў цёмным пакоі? У Поўначы, вядома, ёсць свая прыгажосць, але ў гэтым палацы не хапае свету. Каханне тут больш вольнае ад пачуццёвасьці і нараджаецца не столькі із цялесных жаданняў, колькі із патрэб сардэчных; але, не ў крыўду будзь сказана пустой раскошы заможнасьці і ўлады, юнацтва з яе чаруючай світай гульняў, грацыі і смеху не ідзе далей тых благаслаўленных краеў, дзе сонечныя прамяні не слізгаюць, ледзь датыкаючыся да зямлі, але саграваюць і апладняюць глебу, асвечваючы яе із вышыні нябёсаў.

**~ 174 ~**

У Расіі ўсё сумна ўдвая – ад баязні ўлады і ад адсутнасьці сонца!.. Народныя скокі паходзяць тут на карагод ценяў, які паныла цягнецца ў слабым свеце нескончаемага змяркання; а калі скачуць іх бойка – то на практыкаванні, якія робяць із баязьні задрамаць і замёрзнуць ў сне. Нават мадемуазель Тальёні, і тая... нажаль[401]!..

Бо нават мадемуазель Тальёні ў Санкт-Пецярбургу пературылася проста ў цудоўную танцаўшчыцу! Якое падзенне для нашай Сільфіды!.. Згадваецца легенда пра Ўндзіну, якая стала звычайнай жанчынай... А калі яна ходзіць па вуліцах – бо зараз яна ходзіць пешшу! – за ёю ідуць лакеі ў параднай ліўрэі з залатым шыццём і з какардамі на капелюшы, а ў газетных артыкулах яе кожную раніцу абсыпаюць самымі недарэчнымі ўхваламі, якія мне толькі даводзілася чытаць. Вось як рускія, пры ўсім сваім розуме, могуць абыходзіцца з мастацтвам

---

399 «Афінская школа» — копія фрэскі Рафаэля, выкананая Бруловым у 1823-1827 гг.

***400*** [заўвага аўтара] С-р Брулоў напісаў некалькі вельмі добрых здымкаў із прац Рафаэля; але гэты ўразіў мяне сваёй прыгажосьцю больш за ўсе іншыя.

401 Славутая балярына Марыя Тальёні (1804-1884) у жніўні 1839 г. прыбыла ў Пецярбург (гл.: Journal de Saint-Petersbourg, 19/31 жніўня 1839 г.) і да 1842 г. выступала ў паўночнай сталіцы, што, на думку Кюстына, згубна адбілася на яе таленце, аднак не перашкодзіла ёй потым выступаць з ранейшым поспехам на падмостках шматлікіх іншых еўрапейскіх сталіц.

і мастакамі. Мастак павінен быць народжаным небёсамі, зразуметы публікай, натхнёны грамадствам... Вось што яму неабходна; узнагароды ж – справа неабавязковая; як сказана ў Евангеллі[402], гэта ўсё дадасца. Але дарэмна шукаць гэтых неабходных рэчаў у імперыі, народ якой, сілком загнаны ледзь не на мяжу Лапландыі, сілком жа быў далучаны Пятром І да парадку. Каб даведацца, на што здольныя рускія па частцы прыгожых мастацтваў і цывілізацыі, я буду чакаць, пакуль яны дойдуць да Канстатнынопаля.

Лепшы спосаб падтрымліваць мастацтва – мець непрытворную патрэбу ў задавальненнях, імі даваемых; калі народ дасягнуў такой ступені цывілізаванасьці, яму нядоўга давядзецца зазываць да сябе мастакоў із-за мяжы.

У той час, калі я збіраўся адʼязджаць із Санкт-Пецярбурга, некаторыя асобы таемна аплаквалі знішчэнне ўніяцтва[403] і распавядалі пра самаўладныя захады, загадзя рыхтаваўшыя гэтае бязбожнае дзеянне, праслаўляемае тут як ўрачыстасць рускай царквы[404]. Таемныя ганенні, якім падвергліся некаторыя ўніяцкія святары, здольны абурыць нават самыя абыякавыя сэрцы; аднак у краіне, дзе вялікія адлегласьці і сакрэтнасць спрыяюць самаўпраўству і кожны раз садзейнічаюць самым тыранічным дзеянням, усякія насільствы застаюцца пад спудам. Мне гэта нагадвае выразную прымаўку, так часта паўтараемую рускімі, за якіх няма каму заступіцца: “Да Бога высока, да цара далёка!”[405]

---

[402] Мацв, 6, 33.

[403] [заўвага аўтара] Уніяты – праваслаўныя, якія далучыліся да каталіцкай царквы і с тых часоў разлядаемыя праваслаўнай царквой як раскольнікі.

[404] Уніяцкая царква існавала з 1596 г., калі на Саборы ў Бярэсьці было аформлена падначаленне праваслаўнай царквы паўднёва-заходняй Расіі, якая знаходзілася пад уладай каталіцкай Польшчы, рымскаму папе і прыняцце ёю каталіцкай дагматыкі пры захаванні праваслаўнай звычаёвасьці. Знішчана ўказам Мікалая І Сінодам ад 1/13 сакавіка 1839 г., выдадзеным нібы ў адказ на прашэнне ўніяцкіх біскупаў, падпісанае ў Полацку 12/24 лютага 1839 г.; імператар загадаў ім разам з паствай вярнуцца ва ўлонне «іх праўдзівай маткі, праваслаўнай царквы». Пра сапраўдныя акалічнасьці гэтага «самаахвотнага ўз'яднання» Кюстын ведаў із кнігі д'Арэра (гл. заўвагу. да т. І, с. 6, 350) і артыкулаў у «Journal des Debats».

[405] [заўвага аўтара] Глядзі кнігу “Перaслед і пакуты каталіцкай царквы ў Расіі” і цудоўныя артыкулы ў “Журналь дэ Дэба” за кастрычнік 1842 г. года (Маюцца на ўвазе кніга графа д'Арэра (гл. заўв. да т. І, с. 6, 350) і чатыры артыкулы пра праследаванні каталіцкай і ўніяцкай цэркваў у Расіі, надрукаваныя ў гэтай газеце 13, 15, 23 і 30 кастрычніка 1842 г. і ўяўляўшыя сабой рэферат двух тэкстаў: згаданай кнігі д'Арэра і звароту рымскага папы Рыгора XVI да сабора кардыналаў 22 ліпеня 1842 г. “Аб нястомных намаганнях Яго Свяцейшаства дапамагчы каталіцкай царкве Расіі і Польшчы ў зведваемых ёю цяжкіх выпрабаваннях”, выдадзенага ў Рыме ў тым жа 1842 г. Аўтар артыкулаў падкрэслівае, што Мікалай «жадае знішчэння католіцізма ў Расіі, але баіцца шуму, які гэта знішчэнне можа выклікаць», і таму інформацыя пра становішча расійскіх каталікоў выходзіць за межы Расіі з вялікімі цяжкасьцямі; сам папа скардзіцца на недахоп дакладных звестак. «У Францыі, – заўважае аўтар» Journal des Debats», – дзе ўсё, і ілжывае, і праўдзівое, той жа час зведвае галоснасць, дзе пресса чуе і паўтарае нават скаргі на прыдуманыя няшчасьці, ніхто не можа уявіць, што стогны ахвяр могуць не мець водгукаў, прападаюць марна. Тым не менш у Расіі рэчаіснасць менавіта такая». Спасылаючыся на маніфест папы, аўтар артыкулаў пералічвае канкрэтныя захады, з дапамогай якіх рускім урадам вядзецца барацьба з каталікамі: у лютым 1832 г. 202 із 291 каталічных кляштароў былі знішчаны (нібыта з нагоды адсутнасьці манахаў); каталічным святарам забаронена прычашчаць прыхожан із іншых прыходаў; праваслаўные сяляне, згодна з указам ад 11 ліпені 1836 г., не маюць права служыць каталіцкім святарам; чалавек, які перайшоў із праваслаўя ў каталіцтва, губляе згодна з указам ад 21 сакавіка 1840 г. права валодаць сваёй маёмасьцю, выхоўваць сваіх дзяцей і павінен дажываць свой век у кляштары; больш за тое, пераход у

Ітак, праваслаўныя пачалі мучыць людзей за веру. Дзе ж тая рэлігійная памяркоўнасць, якою пышыліся яны перад тымі, хто не ведае Усходу? Сёння слаўныя змагары за каталіцкую веру пакутуюць ў кляштарах-турмах, і пра іхную барацьбу, захапляючую нябёсы, не ведае нават сама царква, за якую яны так прыстойна змагаюцца на зямлі, – маці ўсіх цэркваў, адзіная на сьвеце сусветная

каталіцства згодна з указам ад 16 снежня 1839 г. пераследуецца не толькі царквой, але і дзяржаай, так як для рускага урада «ўсякае вераадступніцтва прыраўноўваецца да бунта»; сялян, не пытаючыся іхнай згоды, гвалтоўна запісваюць ў праваслаўныя цэлымі вёскамі, а пры спробах вярнуцца да веры бацькоў караюць за вераадступніцтва; павучанні каталіцкіх святароў зведваюць папярэднюю цэнзуру; у каталіцкай царквы ў скарб забраны маёнткі, якія прыносяць 250000 рублёў у год, – нібыта для зручнасьці самага святарства, якому цяжка імі кіраваць. Гэтак жа гвалтоўна адбывалася і далучэнне ўніятаў да праваслаўнай царквы ў 1839 г., якое насіла, на думку аўтара артыкулаў, выключна палітычны характар; у ход ішлі і подкуп, і абяцанне свабоды прыгонным, і зняволенне непакорлівых уніятскіх святароў у турму ці праваслаўныя кляштары. Гэтыя ж моманты былі больш падрабязна разгледжаны ў кнізе д'Арэра, дзе ў дадатак была высветлена палітычная падстава ганенняў на каталікоў (імкненне стварыць унітарную рускую дзяржаву, а для гэтага – знішчыць нацыянальныя, моўныя, рэлігійныя адрозненні на ўсіх тэрыторыях, якія ўваходзяць у склад Расійскай імперыі, – перш за ўсё ў Польшчы) і прыведзены шматлікія дакументы, напрыклад, «прапановы», зробленыя са снежня 1839 па студзень 1840 гг. кіраўнікім міністэрства ўнутраных спраў Строгановым і дырэктарам дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў Вігелем рымска-каталічнаму калегіуму; сярод захадаў, якія калегіуму прапаноўвалася неадкладна ажыццявіць, існавала абмежаванне колькасьці храмаў у прыходах, абмежаванне свабоды перамяшчэння каталіцкіх святароў, прызнанне несапраўднымі змешаныя адружванні, здзейсненыя толькі каталіцкімі святарамі, і інш. Кюстын працягваў выказваць цікавасць да літаратуры маючай дачыненне да становішча каталікоў у Расіі і ў трэцім выданні сваёй кнігі (1846) змясціў на прыканцы каментаванай главы шырокія урыўкі із выйшаўшага ў 1843 г. французкага пераклада кнігі Тэйнэра (гл. дадатак 2). Пра рэакцыю рускага святарства на артыкулы ў «Journal des Debats» дае ўяўленне водгук мітрапаліта Філарэта, перададзены А. Я. Тургеневым у лісьце да М. Я. Тургенева ад 27 кастрычніка 1842 г.: «Вось што напісаў Філарэт Булгакаву, вяртаючы яму два нумары «Дэбатаў» з артыкуламі пра наша стаўленне да рымскіх двароў: Хто хоць некалькі ведае гісторыю пачатку ўніі ў Расіі, той лёгка пабачыць у маніфесьце папы, што непахібны грашыць супраць ісьціны, як казка, і таму не ведаючы можа здагадацца пра паклёп на сучасныя падзеі. (Логіка не зразумелая.) Шкада, што Яўропа ахвотна верыць паклёпам на Расію, так як страціўшыя дабрачыннасць ахвотна вераць паклёпам на добрых» (РА ІРЛІ. Ф. 309. № 950. № 192 аб.; арыгінал на фр., за выключэннем слоў, вылучаных курсівам). Дарэчы, нават III Аддзяленне прызнавала, што не ўсе папрокі цалкам не маюць падставаў. «Мясцовыя выканаўцы загадаў урада перайначваюць яго загады, – гаворыцца ў справаздачы за 1841 г., – і нараджаюць безперапынныя гул і скаргі. Бывалі выпадакі, калі дзеці заставаліся два гады без святога хрышчэння, нябожчыкі без звычая пахавання! Ад іх адмаўляліся святары праваслаўнай царквы, з нагоды іхнага незакончанага да іх далучэння, а каталікі пазбягалі выконваць іхныя трэбы, лічачы іх па-за межамі сваёй паствы ‹...› такім чынам, дзеянні ‹праваслаўнага› святарства нарадзілі агульную, не маючую падставаў думку, што урад мае намер далучыць ўсіх без выключэння да праваслаў'я, так што ўсе знаходзяцца ў нейкім жаху і займаюць абарончую пазіцыю»(ГАРФ. Ф. 109. Оп. 223. № 6. Л. 123, 126 аб.). У наступным, 1842 г. становішча, згодна са сведчаннямі III Аддзялення, зрабілася яшчэ больш напружаным, праз "узнікненне і распаўсюджванне плётак пра тое, што Расія мае намер перавесьці яго ‹польскі народ› ў грэка-расійскае веравызнанне»; «павелічэнню таемнага азлаблення» польскага святарства садзейнічала, як вынікае із таго ж дакумента, і згаданая вышэй прамова папы: «Пры ўсёй пільнасьці паліцэйскага назірання шматлікія асобнікі гэтай прамовы праніклі ў Варшаву і ходзяць па руках сярод грамадства. Каталіцызм, так паслабеўшы за апошні гады як у Царстве, так і ў Заходніх губернях і захаваўшы ўжо амаль адну толькі цень свайго існавання, раптоўна так загарэўся, што зараз цэрквы гэтага веравызнання не могуць умясьціць у сабе натоўпы, імкнучыяся ў іх. Вось якія наступствы мелі сапраўдныя ці ўяўныя засьцярогі наконт пераследавання іхнай рэлігіі" (Там жа. № 7. л. 149-150). Справа не палепшылася і ў 1843 г.: «Вышукі з нагоды перайшоўшых у каталіцызм уніятаў мелі неступствам пашэрэнне за мяжой чутак пра пераследы каталіцкай царквы. Невуцкае і нават жорсткае стаўленне мясцовых чыноўнікаў да далучыўшыхся надалі гэтым водгукам некаторую дакладнасць" (Там жа. № 8. Л. 202 аб.).

царква, бо адна толькі яна не заражана духам мясцовай абмежаванасьці, адна толькі яна застаецца вольнай і не належачай ніякай дзяржаве[406].

Калі над Расіяй ўзыйдзе сонца галоснасьці, увесь свет здрыганецца ад высвечаных ім несправядлівасьцей – не толькі мінулых, але і адбываючыхся штодзённа і дагэтуль. Ды толькі слабым будзе гэтае ўздрыганне, бо такі ўжо лёс праўды на зямлі: народы не ведаюць яе, калі ім больш за ўсё патрэбна яе ведаць, а калі пра яе даведваюцца, выяўляецца, што яна ім ужо больш не патрэбна. Злоўжыванні скінутай улады выклікаюць толькі млявыя возгласы; апавядаючыя пра іх лічацца людзьмі азлобленымі, якія б'юць ўжо зрынутага суперніка, – пакуль жа гэтая неправедная ўлада стаіць на нагах, яе свавольствы старанна хаваюцца, бо сваю магутнасць яна выкарыстоўвае перш за ўсё для того, каб заглушыць стогны сваіх ахвяраў; вынішчаючы і губячы людзей, яна імкнецца не выказваць гневу, ды яшчэ і сама сабе апладыруе за незласлівасць – бо яна дазваляе сабе адны толькі непазбежныя жорсткасьці. Аднак няма чаго ёй хваліць сваю мяккасць: калі турьма глуха непранікальная, як магіла, то няцяжка абыйсьціся і без эшафота!..

**~ 175 ~**

Удзень і ноччу не давала мне спакою думка, што я дыхаю адным паветрам са столькімі людзьмі, несправядліва прыгнечанымі і адрэзанымі ад усяго свету. Я ад’язджаў із Францыі ў жаху ад бясчынстваў падманувўшай нас свабоды, вяртаюся ж дадому ва ўпэўненасьці, што прадстаўнічае кіраванне хай і не самае маральнае з лагічнага боку гледжання, але ўсё ж на справе больш мудрае і разумнае, чым іншыя; калі бачыш, што яно асьцерагае народы, з аднаго боку, ад разбэшчанай дэмакратыі, а з другога – ад крічашчых злоўжыванняў дэспатызму, тым больш брыдкіх, чым вышэй матэрыяльная цывілізацыя ў цярпячых іх грамадствах, – калі бачыш гэта, задаешься пытаннем, ці не патрэбна заглушыць сваю непрыязнасць і пакорліва знесьці гэтую палітычную неабходнасць, якая прыгатаваным да яе народам ў канчатковым рахунку прыносіць больш добра, чым зла.

Праўда, да гэтага часу такая новая і складаная форма кіравання зацвердзілася толькі праз пасярэдніцтва ўзурпацыі. Магчыма, гэтая канчатковая ўзурпацыя станавілася непазбежнай праз ўсі грахі, дапушчаныя раней; на такое рэлігійна-палітычнае пытанне адкажа нашым нашчадкам толькі час,

---

406 [заўвага аўтара] Бо цэлых тры гады спатрэбілася, каб лямант гэтых пакутнікаў даляцеў да Рыма! (Маецца на ўвазе тэрмін, які прайшоў ад далучэння ўніятаў да праваслаўнай царквы (1839) і да зварота папы рымскага да кардыналаў (1842). Пар. таксама ніжэй заўв. да гэтага тома, с. 435.) Цікава, што расійская палітычная эліта злучала памяркоўнасць праваслаўнай царквы менавіта з тым яе падначаленым становішчам да свецкай улады пры Пятру, якое так абурала Кюстына (пар. т. I, с. 122, гэты, том, с. 68-70): «Агульная думка сведчыць, — паведамляла справаздача III Аддзялення за 1841 год з нагоды пераследаў, якія зведваюць каталікі, — што святарства, пастаўленае Пятром Вялікім у вядомыя межы, уціхамірылася і паводзіла сябе з даволі бачнай прыстойнасьцю. Зараз жа, імкнучыся непрыкмента захапіць уладу ў свае рукі, яно ўжо пачало выказваць дух пераследаў, якога нельга было чакаць у XIX стагоддзі, і пераконвае, што адрозненні паміж каталікамі, лютаранамі і праваслаўнымі ў адным і тым жа царстве несумяшчальныя з агульнымі законамі, з норавамі і звычаямі, і супярэчаць духу грамадства …» (ГАРФ. Ф. 109. Оп. 223. № 6. л. 127 об. — 128).

наймудрэйшы з выканаўцаў волі Бога на зямлі[407]. Мне згадваецца тут глыбокая думка, выказанная адным із самых асвечаных і адукаваных розумаў Германні – с-ром Варнгагенам фон Энзэ[408]. “Я доўга даследваў, – пісал ён мне аднойчы, – якімі людзьмі здзяйсняюцца рэвалюцыі, і пасьля трыццаці гадоў роздумаў прыйшоў да высновы, пра якую разважаў яшчэ ў маладосці, – што ў канчатковым рахунку яны здзяйсняюцца тымі самымі, супраць каго яны накіраваны”.

Ніколі не забудуся пра свае пачуцці пры пераправе праз Нёман у Тыльзіце; тут-та я зразумеў усю правату майго любекскага карчмара. Нават птушка, вырваўшаяся із клеткі або ж із-пад паветранага каўпака, не была б такая шчаслівая. “Я магу гаварыць і пісаць што думаю, я вольны!..” - усклікнуў я. Першы мой адкрыты ліст у Парыж быў высланы з гэтай мяжы; здаецца, ён нарабіў шуму ў вузкім коле маіх сяброў, да тых часоў падманутых маімі афіцыйнымі пасланнямі.

Вось спіс з гэтага ліста:

“Тыльзіт, чацвер 26 верасня 1839 года.

Спадзяюся, чытанне гэтай геаграфічнай паметы дасць вам не меншае задавальненне, чым мне дало яе напісанне: вось я і выбраўся із імперыі, дзе пануе аднастайнасць, дробязнасць і ненатуральнасць. Тут ужо можна гаварыць свабодна, і ты нібы захоплены віхуром радасьці; ты ў свеце, які вабіць новымі ідэямі да нічым не скованай свабоды. Між тым я знахожуся ў Прусіі; але, выехаўшы із Расіі, зноў бачыш хаты, пабудаваныя не рабом згодна загаду няўмольнага гаспадара, хаты хоць і бедныя, але пабудаваныя вольна; бачыш гожыя, вольна абробленыя палеткі (не забывайцеся, што гаворка ідзе пра прускае герцагства[409]), і ад такой перамены сэрца радуецца. У Расіі несвабода адчуваецца не толькі ў людзях, але нават і ў прастакутна выцесанных камянях, у правільна выпілаваных страпілах... Нарэшце-та можна ўздыхнуць! Можна пісаць вам без рытарычных прыкрас, якія ўсё адно не падмануць паліцыю, бо ў рускім шпіёнстве столькі ж самапаважнага раздражнення, колькі і палітычнай пільнасці. Расія – самая маркотная краіна на сьвеце, населеная самымі прыгожымі людзьмі, якіх я бачыў; не можа быць вясёлай краіна, дзе амаль не прыкметны жанчыны... І вось нарэшце я выехал із яе, і без усялякіх здарэнняў! Дзьвесьці пяцьдзесят лье я пакрыў за чатыры дні – па дарогах месцамі кепскіх, месцамі цудоўных, бо рускі дух хоць і імкнецца да аднастайнасьці, але сапраўднага парадку дамагчыся не ў стане; дзяржаўнаму кіраванню тут уласьцівыя нерашучасць, нядбайнасць і прадажнасць. Абурае думка, што да ўсяго гэтага

---

[407] Заўвага Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Відавочна, што з той пары, калі пісалася гэтая кніга, аўтар стаў вельмі стрыманым прыхільнікам парламенцкага спосабу кіравання».

[408] Варнгаген фон Энзе Карл Аўгуст (1785-1858) — нямецкі дыпламат і літаратар; ён і яго жонка Рахіль (нарodж. Левін; 1771-1833) пазнаёміліся з Кюстынам і яго маці ў 1816 г. у Карлсруэ; лісты Кюстына да Варнгагенаў, выдадзеныя ў 1870 г., — найважнейшы біяграфічны і гісторыка-літаратурны дакумент (Пар. заўвагу да т. I, с. 6, 8, 10, 20, 71, 262).

[409] Прускае герцагства — Усходняя Прусія (галоўны горад — Кёнігсберг): у 1525 г. гэтая тэрыторыя, якая раней належала Тэўтонскаму ордэну, была абвешчана свецкім герцагствам і перададзена ў спадчыннае валоданне маркграфу Брандэнбургскаму, а ў 1618 г. была далучана да курфюрства Брандэнбургскага. Уся гэта тэрыторыя стала ў 1701 г. Прускім каралеўствам (Пар. заўвагу. да т. I, с. 288).

можна прызвычаіцца і людзі звюкаюцца. Чалавек шчыры ў гэтай краіне лічыўся б вар'ятам.

Зараз я дам сабе адпачынак, падарожнічаючы ў сваё задавальненне; да Берліна мне адсюль яшчэ дзвесці лье, затое на ноч ўсюды ёсць ложак, усюды добрыя карчмы і роўная, шырокая, дагледжаная дарога – усё гэта робіць пераезды сапраўдным адпачынкам”.

Усё здавалася мне нязвыклым і чаруючым: чыстыя ложкі і пакоі, парадак, падтрымліваемы ў доме гаспадынямі... Больш за ўсё ўразілі мяне вольны выгляд сялян і весялосць сялянак: іхная дабрадушнасць ледзь не палохала; я баяўся, што ім дорага адгукнецца іхная незалежнасць, – бо я зусім ад яе адвык. Тут бачыш гарады, якія ўзніклі самі па сабе; відавочна, што будаваліся яны без усяляга вызначанага ўрадам плана. Бяспрэчна, Прусія не лічыцца краінаю вольнасцей, але ўсё ж, праязджаючы па вуліцах Тыльзіта, а затым Круляўца, я нібы прысутнічаў на венецыянскім карнавале. Тут я прыгадаў, як адзін мой знаёмы немец, правёўшы некалькі гадоў па справах ў Расіі, нарэшце ад’язджаў із гэтай дзяржавы назаўсёды; разам з ім быў яго сябар; і ледзь ступілі яны на палубу паднімаўшага якар ангельскага карабля, як ва ўсіх на вачах абняліся ўсклікнуўшы: “Слава Богу, можна зараз свабодна дыхаць і казаць што думаеш!..”

**~ 176 ~**

Верагодна, шматлікія падарожнікі адчувалі тыя ж пачуцці; так чаму ж ніхто іх не выказаў? Здзіўленне і неразуменне захопліваюць мяне пры думцы аб тым, наколькі шмат розумаў зачароўвае рускі ўрад. Мала таго, што ён прымушае да маўчання сваіх падданых, ён дабіваецца павагі да сябе нават на адлегласьці – ад іншаземцаў, вырваўшыхся із-пад яго жалезнай пугі. Усе яго хваляць ці ж, ва ўсякім разе, маўчаць – разгадаць гэтую загадку я не магу. Калі мне ў гэтым дапаможа калі-небудзь абнародаванне майго падарожжа, то ў мяне з'явіцца лішняя нагода парадавацца маёй шчырасьці.

Вяртацца із Пецярбурга ў Германію я збіраўся праз Вільню і Варшаву. Але потым перадумаў.

Нешчасьці, падобныя тым, што перажывае Польша, нельга аднесьці на кошт року; калі ліхтуга доўжыцца так доўга, у іх заўсёды трэба бачыць як дзеянне абставінаў, так і чалавечую віну[410]. Народы, падобна прыватным людзям, пачынаюць да вядомай ступені саўдзельнічаць дакучаючаму іх лёсу; яны як бы самі нясуць адказнасць за даймаючыя іх паразы, бо пры ўважлівым назіранні выяўляецца, што іхная доля – толькі развіццё іхнага характару. Бачачы, да чаго прыводзяць памылкі народа, які панёс за іх такую суровую кару, я б не змог устрымацца і выказаў бы некаторыя думкі, якіх сам жа і засаромеўся б; казаць праўду ў твар прыгнятальнікам – абавязак па-свойму радасны; узяўшы яго на сябе, знаходзіш апірышча ў свядомасці ўласнай мужнасьці і высакароднасьці, злучаных з выкананнем цяжкага, а то і небяспечнага абавязку; але папракаць

[410] Паводле досыць пашыранага (у Францыі і ў Расіі) пагляду, падзенню незалежнай Польшчы шмат спрыялі фанабэрыстасць і анархічнае буянства самой шляхты; гл. прыкладам, кнігу Н. Сальвандзі «Гісторыя Польшчы» (1827-1829) ці «Праўду пра Расію» Адама Тураўскага, а таксама: Schnitzler. p. 520-521.

ахвяру, бічаваць прыгнечанага – хай нават і бізуном ісьціны, – да падобнай экзэкуцыі ніколі не прынізіцца пісьменнік, які не хацеў бы пагарджаць сваім пяром.

Вось чаму я адмовіўся ад думкі пабачыць Польшчу[411].

## 2. Да трэцяга выдання 1846

(Завяршэнне главы "Выкладанне далейшага шляху")

Гэтыя ўрыўкі, якія маюць дачыненне да захадаў, якія здзейснілі Кацярына II і яе нашчадкі супраць уніятаў, падцвярджаюць нават з залішняй выразнасьцю факты, якія я ўжо паказаў, і высновы, на якія гэтыя факты мяне натхнілі.

*Урыўкі із кнігі "Выпрабаванні каталіцкай царквы абодвух звычаяў у Польшчы і ў Расіі", перакладзенай із нямецкай мовы графам дэ Манталамберам[412].*

"Няма такой жорсткасьці, якая б не была выкарыстана для гэтых няшчасных (уніятаў), каб прымусіць іх перайсьці ў шэрагі схізматыкаў; калі яны адмаўляліся пакідаць свае храмы, іх выганялі адтуль пугай і катавалі да таго часу, пакуль боль не прымушала іх пагадзіцца з патрабаваннямі катаў[413]. Але гэта яшчэ не ўсё: у няшчасных забіралі маёмасць, пазбаўлялі іх быдла, якое складала ўсё іхнае багацце, а часам, нібы і гэтага было недастаткова, адразалі ім насы і вушы, вырывалі валасы і выбівалі зубы ўдарамі стрэльбавых прыкладаў"(т. I, с. 196).

«Калі імператрыца, выдаючы свае законы[414], дабівалася, каб ніхто не перашкаджаў тым, хто па добрай волі захоча прыняць праваслаўе, навошта ж забараняць святарам-уніятам дапамагаць душам тых, хто хоча захаваць вернасьць рэлігіі сваіх бацькоў? Не, не гэтага, жадала імператрыца, якая столькі разоў голасна заяўляла пра сваю цярпімасць ў дачыненні да ўсякага веравызнаня, якая так урачыста абяцала ўніятам, што ніколі не будзе рабіць замах ні на іхнае выравызнанне, ні на злучаныя з ёю правы, і якая, нарэшце, абяцала захаваць за імі іхныя цэрквы"(т. I, с. 198).

«Сьмерць напаткала Кацярыну як быццам знарок для таго, каб выратаваць уніяцкую царкву. Імператрыца памёрла ў лістападзе 1796 года; калі б не гэта, вельмі хутка кволыя рэшткі гэтай царквы былі б цалкам знішчаны, і Кацярына пазбавіла б сваіх нашчадкаў (імператара Мікалая I) ад сумнай неабходнасьці

---

[411] У трэцім выданні 1846 г. Кюстын змясьціў пасьля гэтай фразы тэкст, надрукаваны намі ў Дадатку 2.

[412] Кніга нямецкага багаслова А. Тейнера «Выпрабаванні каталіцкай царквы абодвух звычаяў у Польшчы і ў Расіі» (1841; фр. пер. Манталамбера, які цытуе Кюстын, — 1843). Граф Шарль Форб Манталамбер (1810-1870) — пэр Францыі і вядомы каталіцкі публіцыст, быў гарачым абаронцам палякаў; у 1839 г. рускі амбасадар у Парыжы граф Пален паведамляў у III Аддзяленне «пра створанае ў Парыжы, праз намаганні графа Манталамбера, таварыства, якое мае назву каталіцкае, із самых адчайных рэвалюцыянераў, якое мае на мэце рыхтаваць місіянераў і пасылаць іх у Польшчу для павучанняў, з укрыжаваннем у руках, вольнасьці палякам» (Справаздача III Аддзялення за 1839 год — ГАРФ. Ф. 109. Оп. 223. № 4. л. 85 пра.).

[413] Гаворка ідзе пра перасьледы ўніятаў пры Кацярыне.

[414] Маецца на ўвазе артыкул восьмы Гарадзенскай дамовы, падпісанай Кацярынай 13 ліпеня 1793 г., падчас другога падзелу Польшчы. У ёй імператрыца абяцала ўсім уніятам і каталікам, якія пераходзяць у яе падданства, права вольна вызнаваць сваё веравызнанне.

браць на сябе перад Богам і людзьмі віну за злачынства, якое назаўсёды заплямiць яго імя”(т. I, с. 200-201)[415].

“Пераслед уніятаў быў жорсткім пры Кацярыне II, але пры існуючым цараванні гэтая жорсткасць толькі ўзрасла. Кацярына I, ва ўсякім разе, пакідала святарам-уніятам і іхнай пастве магчымасць нерадаснага выбару: альбо перайсьці ў каталіцтва, або папоўніць шэрагі схізматыкаў. Дзякуючы актыўнай руплівасьці вялікай колькасьці кюрэ, якія прынялі каталіцтва, шмат якія прыходы засталіся ва ўлонні Касцёла. Існуючы ўрад не толькі забараняе святарам пераходзіць у каталіцтва, але, насупраць, прымушае ўсіх тых уніятаў, якія пры Кацярыне II, Паўле I і Аляксандры прынялі лацінскае веравызнанне, вяртацца да веры схізматыкаў.

Указ Кацярыны II, падпісаны ў 1789 годзе, быў адноўлены ў 1833-м годзе, са шматлікімі вельмі жорсткімі дадаткамі; згодна з гэтым указам, падлягае пакаранню, як паўстанец кожны каталік, святар або свецкі чалавек, становішча высокага ці нізкага, які ўспрацівіцца на словах або ўчынкамі распаўсюджванню асноўнага веравызнання або перашкодзіць якім-небудзь чынам ўваходжанню ва ўлонне рускай царквы асобных семей або цэлых вёсак.

Абапіраючыся на гэты жахлівы закон, урад пасылае святароў ва ўладанні тых землеўладальнікаў, якія славяцца сваёй прыхільнасьцю да каталіцкай царквы: гэтыя святары, накіраваныя ў якасьці носьбітаў слова Божага, ужываюць ўсе магчымыя сродку для таго, каб прымусіць сялян прыняць схізматычнае веравызнанне; задача, якая стаіць перад імі, не занадта складаная: бо кожнага, хто будзе пярэчыць іхнай волі ці прызываць сваіх адзінаверцаў не здраджваць каталіцкаму веравызнанню, можна неадкладна абвясціць бунтаўшчыком і кінуць у турму. Але і гэты закон, нягледзячы на ўсю яго дэспатычную жорсткасць, не здольны пераадолець дбайнае імкненне вернікаў захаваць веравызнанне сваіх бацькоў. Пакажам са шматлікіх прыкладаў толькі адзін. У 1836 годзе рускія святары прыбылі ў маёнтак с-ра Макавецкага, заможнага землеўладальніка Віцебскай губерніі, і прыступілі да выканання сваёй місіі; сяляне, падтрымліваемыя сваім гаспадаром, выказалі ім рашучае супраціўленне. Рускія святары (папы) паведамілі пра гэта ўраду, і імператар аддаў загад неадкладна пазбавіць с-ра Макавецкага ўсіх яго маёнткаў і выслаць у Сібір; пры падтрымцы войска святары працягвалі сваю справу; нягледзячы на нечуваныя жорсткасьці, няшчасныя сяляне працівіліся на працягу двух гадоў, але затым нарэшце згадзіліся прыняць схізматычнае веравызнанне. Тады імператар дасылае

---

[415] [заўвага аўтара] Польскі паэт Нямцэвіч

(Нямцэвіч Юліян Урсын (1757 ці 1758-1841) – польскі паэт, удзельнічаў у паўстанні 1794 як аддзь’ютант Т. Касьцюшкі; быў паранены, трапіў у палон, адбываў заключенне ў Петрапаўлаўскім умацаванні; пасьля задушэння паўстанія 1830-1831 гг. эміграваў; памёр у 1841 годзе. “Нататкі пра маё зняволенне ў Санкт-Пецярбургу ў 1794, 1795 і 1796 годах” былі выдадзены ў Парыжы (на фр. мове) пасмяротна, у жніўні 1843 года.) апавядаюць пра тое, якім дзіўным чынам абвясьціў яму пра сьмерць Кацярыны турэмшчык таго ўмацавання, у якім Нямцэвіч утрымліваўся больш за тры гады згодна з загадам імператрыцы. Гэты чалавек сказаў яму аднойчы раніцай: “Ды будзе вам вядома, што наша безсмяртная імператрыца пажадала памерці”. Гл.: “Заўвагі пра маё турэмнае зняволенне ў Пецярбургу ў 1794, 1795 і 1796 годах”, твор Юліяна Ўрсына Нямцэвіча.

міністру ўнутраных спраў, ‹Зьміцеру› Мікалаевічу Блудаву, указ наступнага зместу, поўнага горкай насмешкі: “Вярніце Макавецкаму свабоду і маёнткі, бо ўсе яго сяляне зараз – праваслаўныя”.

Падобныя прыклады адбываліся і ў уніятскіх прыходах Радомскім і Азімекскім. Жыхары Радома з выключным гераізмам тры дні і тры ночы абаранялі ад рускіх жаўнер свой храм, але нарэшце, вымушаныя падпарадкавацца пераўзыходзячай моцы суперніка, здаліся і прынялі веравызнанне схізматыкаў. Азімекскі землеўладальнік с-р Мірскі быў пазбаўлены маёнтка і высланы ў Сібір за тое, што адмовіўся аддаць ключы ад царквы нават пасьля таго, як яго сялян звычайнымі гвалтоўнымі захадамі вымусілі перамяніць веравызнанне.

Рускіх святароў часта пасылаюць ў маёнткі тых дваран, якія прытрымліваюцца каталіцкага веравызнныння; там гэтыя пасланцы з найвялікшай жорсткасьцю прымушаюць сялян прыняць веравызнанне схізматыкаў: бо згодна з вельмі своеасаблівай діялектыкай рускага ўрада землеўладальнікі-каталікі не маюць ніякіх правоў на сялян-уніятаў. У вёсках, жыхары якіх, каб захаваць сваё веравызнанне, яшчэ пры Кацярыне II перайшлі ў каталіцтва, рускія святары прад'яўляюць указ 1833 года, які сцвярджае: “Усе сямействы, якія пры Кацярыне II і яе святых нашчадках, імператарах Паўле I і Аляксандры I, прынялі лацінскае веравызнанне, зараз лічацца належачымі да рускай праваслаўнай царквы”. У мэтах выканання гэтага ўказу цэлыя вёскі выяўляюцца вымушанымі пераходзіць з каталіцства ў праваслаўе. Рускія папы і агенты ўрада ажыццяўляюць гэты указ з найвялішай жорсткасьцю. Вось адзін із прыкладаў: “Нехта с-р Бурачок, уніят, продкі якога былі праваслаўнымі, пажадаў узяць у жонкі дзяўчыну, якая вызнае тое ж веравызнанне, што і ён, і атрымаў яе згоду, аднак ні адзін са сьвятароў-уніятаў не адважыўся абвянчаць маладых; ўсеківалі на імператара, які забараніў падобныя адружанні; параязджаючы із горада ў горад, маладыя нарэшце знайшлі у ваколіцах Смаленска святара-ўніята, які, крануты такой адданасьцю веравызнанню бацькоў, таемна абвянчаў маладых. Урад, даведаўшыся пра акалічнасьці заключэння гэтага адружання, абвясціў яго несапраўдным. С-ра Бурачка і святара пазбавілі маёмасьці і выслалі ў Сібір.

Рускі ўрад спрабаваў апраўдаць гэтыя жорсткасці[416], сцвярджаючы, што аб'яўляць тую ці іншую сям'ю, таго ці іншага чалавека праваслаўным не азначае абмяжоўваць свабоду сумлення, што такім чынам гэтых людзей проста вяртаюць да веравызнання іхных продкаў, веравызнання, якае яны нібыта пакінулі праз невуцтва і не маючы на тое ніякага права”(т. I, с. 240-242).

“Падобныя і нават больш жорсткія прыклады гвалту ажыццяўляліся агентамі рускага ўрада ў вайсковых паселішчах, дзе большасць складалі палякі і

[416] III Аддзяленне тлумачыла гэтыя жорсткасьці залішняй стараннасьцю мясцовых урадаўцаў: «У Беларускай губерні заўважна нейкае празмернае жаданне павяртаць уніятаў у праваслаўе, — гаворыцца ў справаздачы за 1836 год. — Тамтэйшае начальства, вядома, думае дагадзіць гэтым ураду, але што ж яно мае ў выніку? Хваляванні і свавольствы паміж сялянамі. Тады звяртаецца да сілы для прывядзення іх у падпарадкаванне і нарэшце з урачыстасьцю паведамляе, што гэтулькі сот сялян добраахвотна прынялі праваслаўе» (ГАРФ. Ф.109. Оп. 223. № 2. л. 171).

русіны, якія прытрымліваліся каталіцкага веравызнання. Дастаткова згадаць толькі пра тое, што адбылося ў 1835 годзе ў Старасельскім вайсковым паселішчы Віцебскай губерніі. Аднойчы камандзір сабраў усіх жаўнер і абвясціў, што ім трэба прыняць тое ж веравызнанне, якае вызнае імператар, бо такое яго жаданне, выконваць якое – іхны сьвяты абавязак. Большасць жаўнер адказалі, што ім лягчэй памерці, чым здрадзіць свайму веравызнанню, але не паспелі яны вымавіць гэтыя словы, як рускія жаўнеры таго ж полка згодна загаду камандзіра кінуліся на сваіх таварышаў і абрынулі на іх палачныя і шабельныя ўдары, ад якіх шмат хто із няшчасных неўзабаве памёр”(т. І, с. 244-245).

«Больш за 160 святароў заплацілі жыццём за гераічную вернасць свайму веравызнанню: іх падвергнулі разнастайным знявагам, а затым выслалі ў Сібір, дзе большасць з іх памёрла”(т. І, с. 249). “Паслухаем пераможную песьню, якую затягнуў пасьля таго, як уніяты здрадзілі свайму веравызнанню, рускі ўрад; вось што пісала з гэтай нагоды “Паўночная пчала”[417], газета афіцыйная:

“У гэтай дзівоснай падзеі кожны бачыць падцверджванне бясспрэчнай ісьціны, што ўсё імкнецца да свайго пачатку і ўз'яднанне былой грэка-ўніяцкай царквы з праваслаўнай не ўяўляе, па-сутнасьці сваёй, нічога новага для абедзвюх: роднае вярнулася да роднага, законны набытак да законнай улады. Зараз святарства абедзвух, ці, дакладней кажучы, адной і той жа царквы, прыносіць сукупную бяскроўную ахвяру Усемагутнаму, на ўсёй прасторы ўз'яднаных епархій, там, дзе некалі падалі няшчасныя ахвяры лютага ізуверства. Блюзьнерскім сродкам злапомнага ранейшага часу былі супрацьпастаўлены захады пераканання, і якім жахлівым было адарванне дзяцей ад улоння маці, гэтак зараз ўсюды лёгка і радасна адбылся іхнае вяртанне да яе. Старажытныя балячкі загоены, дагматы веравызнання зацверджаны, дух і сумленне заспакоены, цэлая галіна расійскай царквы ад так званай Уніі вернута да сапраўднага адзінага Ўсяленства, і Расія, маючая поспех ў справах веравызнання мудрымі захадамі і набожнымі прыкладамі аўгусьцейшага манарха, імкнецца, падобна яму, выказаць удзячныя пачуцці перад Нябесным заступнікам гэтай сваёй мірнай перамогі, добрыя наступствы якой нельга пералічыць. З гэтага часу можна смела сказаць, што, акрамя толькі ўласна так званай Літвы і Жмудзі[418], усё асноўнае насельніцтва заходніх абласцей Імперыі ёсць не толькі рускае, але і праваслаўнае; і дарэмнымі былі б высілкі яе вогараў сцвярджаць адваротнае насуперак гістарычнай праўдзе і сапраўднай сутнасці рэчаў. Іхнае меркаванне не знойдзе сабе водгуку ў карэнных тамашніх жыхароў, якія згадалі свой пачатак, сваю мову і сваю старажытную Веру”(т.1, с. 267-268).

“Яшчэ адзін указ, ад 2 студзеня 1839 года, абяцае кожнаму каталіку, прысуджанаму за забойства або іншае злачынства да накарання пугай, да каторжнай працы або турэмнага зняволення, дараванне, калі ён пяройдзе ў праваслаўе. Вераадступнікі атрымліваюць дазвол насіць на аненскай стужцы

---

[417] «Паўночная пчала» апублікавала артыкул «Знішчэнне Ўніі» ў нумарах за 25-27 кастрычніка 1839; Тейнер прыводзіць у перакладзе артыкул з № 242 за 26 кастрычніка; у нашым выданні тэкст пададзены згодна з «Паўночнай пчалой».

[418] Жмудзь — тэрыторыі паміж нізоўем Нёмана і ракой Віндавой (Вентай).

медаль ў памяць пра адрачэнне ад веры бацькоў. Так каталіцкая царква губляе паству, маёмасць і правы”(т. І, с. 333).

# Ліст трыццаць шосты с-ру ***

*Вяртанне ў Эмс. – Што характэрна для зайздраснікаў. – Восень у даліне Рэйна. – Параўнанне рускага і германскага пейзажа. – Успаміны аб “Рэнэ”. – Маладосць душы. – С-ня Санд. – Што такое мізантрапія. – Таямніца жыцця святых. – Пралік падарожніка, выправіўшагася ў Расію. – Кароткая справаздача аб падарожжы. – Заключная выява рускіх. – Канчатковая мэта ўсіх іхных намаганняў. – Таямніца іхнай палітыкі. – Агляд хрысціянскіх цэркваў. – Як небяспечна ў Расіі казаць праўду аб праваслаўнай царкве. – Параўнанне Гішпаніі і Расіі.*

**На водах ў Эмсе, 22 кастрычніка 1839 года.**

Я ўжо прывык не прапускаць шмат часу, не нагадаўшы вам пра сябе; чалавек, падобны вам, становіцца неабходным для ўсіх, хто змог аднойчы яго ацаніць і ўмее карыстацца яго асвечанасьцю без баязні. У нянавісьці, якую абуджае талент у людзей невялікага розуму, больш баязьні, чым зайзросьці: што б яны рабілі, будзь яны таленавітымі самі? Затое ім увесь час даводзіцца асьцерагацца ўплыву талента і праніклівасьці генія. Ім незразумела, што разумовая перавага, якая дапамагае пазнаць сутнасць рэчаў і зразумець іхную неабходнасць, заахвочвае да ласкавага абыходжання; асьвечаная паблажлівасць цудоўная, як сам Усявышні; ды толькі дробныя розумы не прызнаюць нічога чароўнага.

Выехаўшы із Эмса ў Расію пяць месяцаў назад, я зноў вярнуўся ў гэтае прыгожае паселішча, праехаўшы некалькі тысяч лье. Вясной жыццё на водах была мне непрыемна праз заўсёдны наплыў жадаючых піць гаючую ваду і купацца ў ёй; сёння яна здаецца мне цудоўнай – я ў буквальным сэнсе адзін, час свой правожу, назіраючы за наступленнем пагодлівай восені сярод чаруюча маркотных гор, збіраючы ўспаміны і шукаючы спакою, патрэбнага мне пасьля імклiва пройдзенага шляху.

Што за рэзкая перамена! У Расіі я быў пазбаўлены выяваў прыроды – там іх няма; вядома, выгляд гэтых немаляўнічых раўнін таксама па-свойму прыгожы, аднак веліч без любасьці хутка стамляе; што за задавальненне бадзяцца па бясконца голай прасторы, дзе ўсюды, колькі хапае вачэй, бачыш адны толькі пустыя раўніны? Ад такой аднастайнасьці язда яшчэ больш стамляе, так як атрымліваецца, што ты стамляешся дарэмна. Падарожжа радуе і захапляе нас, апроч іншага, сваімі нечаканасьцямі.

Я рады зноў, на прыканцы курортнага сезону, апынуцца тут, дзе прырода шматаблічная і адразу ўражвае позірк сваімі прыгажосцьмі. Не магу перадаць славамі, з якім зачараваннем блукаў я толькі што па магутным лесе, засыпанным, нібы снегам, упаўшым лісьцем, пад якімі схаваліся і сталі

незаўважальнымі ўсе сцежкі. Згадваліся апісанні прыроды ў “Рэнэ”; сэрца білася мацней, як даўным-даўно пры чытанні гэтай горка-ўзнёслай размовы чалавечай душы з прыродай.

**~ 177 ~**

Гэтая проза, поўная веры і лірычнасьці, ні ў чым не страціла сваёй улады нада мною, і я казаў сабе, здзіўляючыся ўласнай разчуленасьці: дык, значыць, маладосць не праходзіць ніколі!

Час ад часу скрозь парадзелую пасьля першай імжы лістоту я бачыў удалечыні даліну Ланы, якая непадалёку зліваецца з выдатнейшай ракой Яўропы, і любаваўся цішынёю і прыгажосьцю пейзажа.

Лагчыны, па якіх цякуць ўніз прытокі Рэйна, уяўляюць сабою разнастайныя выявы, тады як выявы берагоў Волгі ўсе падобныя адна на другую; затое тутэшыя пласкагор'і, названыя гарамі, таму што яны паднятыя над мясцовасцю і падзелены глыбокімі далінамі, звычайна маюць выгляд халодны і аднастайны. І ўсё -такі нават гэтая халодная аднастайнасць здаецца жывой, вогненна-рухомай побач з не маючымі краю багнамі і бязлесымі стэпамі Масковіі; сёння раніцай ўся прырода была заліта ззяючымі прамянямі сонца, стаяў адзін із апошніх пагодлівых дзянькоў, надаючых гэтым паўночным пейзажам, якія дзякуючы восеньскім туманам страцілі сухасць сваіх абрысаў і рэзкія пераломы ліній, выгляд сапраўды паўднёвы.

Уражвае спакой, пануючы ў гэтую пару ў лесе; ён адцяняе сабою клапатлівыя працы на палетках, якія чалавек спяшаецца завяршыць, прадбачачы за восеньскай цішынёй хуткае наступленне зімы.

Гэтае відовішча, павучальнае і ўрачыстае, бо доўжыцца яно будзе столькі ж, колькі і ўвесь свет, прыцягвае мяне так, нібы я толькі што нарадзіўся ці ж павінен вось-вось памерці; справа ў тым, што ўсё разумовае жыццё наша ёсць суцэльная чарада адкрыццяў. Калі душа не растраціла свае магчымасьці на штучныя пачуцці, такія звычайныя для свецкіх людзей, то ў ёй захоўваецца невычэрпная здольнасць здзіўляцца і цікавіцца; усе новыя магчымасьці заахвочваюць яе да ўсё новых памкненняў; ёй мала зямнога свету – яна прызывае і спасьцігае свет бясканцага; яе думка спее, але не старыцца, абяцаючы нам нешта, ляжачае па той бок усяго бачнага.

Наша жыццё разнастаіцца магутнасьцю пачуццяў; глыбока перажытае кожны раз паўстае новым, і гэтая заўсёдная свежасць ўражанняў адбіваецца ў мове; кожнае новае перажыванне надае асобную гармонію словам, прызначаным яго адлюстраваць; вось чаму выразнасьцю стылю дакладней за ўсё вымяраецца свежасць, г. зн. шчырасць, пачуццяў. Можна запазычыць ідэі, можна схаваць іх крыніцы, адзін розум можа падмануць іншы, але гармонія прамоваў не хлусіць ніколі; ёю надзейна, як міжвольным прызнаннем, даказваецца адчувальнасць душы; яна выходзіць прама із сэрца і прама ў сэрца трапляе, яе толькі часткова здольная падмяніць майстэрскасць, яна нараджаецца із сардэчнага хвалявання; нарэшце, гэтая музычнасць прамоваў кажа больш, чым усякія ідэі; яна складае самае нявызначанае, самае сапраўднае, самае плённае, што толькі ёсць у адвображванні нашых думак; вось

праз што с-ня Санд так хутка заваявала ў нас тую вядомасць, якою заслужана карыстаецца.

Святая любоў да адзіноты, ты ўсяго толькі вострая патрэба ў рэчаіснасьці!.. Свет настолькі хлуслівы, што кожны, хто згодна сваёй натуры цягнецца да сапраўднага, павінен быць схільны і да ўцёкаў ад грамадства. Мізантрапія – пачуццё, несправядліва абгаворанае: гэта нянавісць да хлусні. Насамрэч ніякіх мізантропаў няма, ёсць толькі душы, аддаючыя перавагу ўцёкам перад прытворствам.

У глухамані, адзін на адзін з Богам, чалавек робіцца шчырым і таму пакорным; тут ён ў цішыні і разважаннях выкупляе ўсе ўдалыя ашуканствы мірскіх розумаў – іхную святкуючую двухдушнасць, іхнае славалюбства, іхныя нераскрытыя, а нярэдка і ўзнагароджаныя здрады; яго тут не падмануць, і ён не жадае нікога падманваць сам, ён добраахвотна ахвяруе сабою, хаваючы сваё жыццё так жа старанна, як модныя царадворцы выстаўляюць яго на паказ; у тым і заключаецца, без сумнення, таямніца жыцця святых – пракрасціся ў таямніцу лёгка, пераняць іхны прыклад цяжка. Калі б я быў святым, я б не меў больш захаплення да вандраванняў і яшчэ менш таго да апавядання пра іх; святыя ўжо здабылі тое, што я толькі шукаю.

У сваіх пошуках я аб'ездзіў Расію; я пажадаў пабачыць краіну, дзе пануе супакой упэўненай у сваёй магутнасьці ўлады; але, пабываўшы там, я зразумеў, што там пануе адзін толькі бязмоўны жах, і гэтае відовішча навучыла мяне зусім не таму, чаму я прыехаў вучыцца. Гэта цэлы свет, амаль зусім невядомы чужаземцам: вандруючыя рускія, імкнучыся з яго збегчы, із далёку плоцяць даніну сваёй айчыне несапраўднымі ўхваламі, а большасці нашых падарожнікаў, якія апісалі гэты свет, заўгодна было знайсьці ў ім толькі тое, за чым яны туды ехалі. Калі ставіць свае прадузятыя меркаванні вышэй відавочнай рэчаіснасьці, то навошта вандраваць? Вырашыўшы бачыць чужыя народы такімі, якімі хочацца іх бачыць, можна не пакідаць свайго дома.

**~ 178 ~**

Пасылаю вам кароткую справаздачу пра сваё падарожжа, напісанную пасьля вяртання ў Эмс; ўвесь час, што я над ёй працаваў, мяне не пакідала думка пра вас, і таму мне можна накіраваць яго вам[419].

# Кароткая справаздача пра падарожжа[420]

---

[419] Згодна са здагадкай Ж.-Ф. Торна, адрасат гэтага ліста — Шатабрыян, «духоўны бацька» Кюстына (гл. заўвагу. да т. I, с. 69, 71), які на працягу шматлікіх гадоў быў прыхільнікам руска-французскага хаўруса, але ў сярэдзіне 1830-х гг. пачаўшы задумвацца пра рэальнасць «рускай пагрозы» (гл. сведчанне А. І. Тургенева маючае дачыненне да «спрэчак пра Расію» ў парыжскім салоне с-ні Рэкам'е: «Шатабр<ыян> асьцерагаецца для Еўропы ўплыву і магутнасьці Расіі. Пра Каўказ, пра імкненне паўночных народаў да поўдня» — РАІЛІ. Ф. 309. № 316. Л. 3 пра.; дзёнікавы запіс ад 4 красавіка 1836 г).

[420] Відаць, гэтая, апошняя частка кнігі была напісана самай першай. Ва ўсякім разе, 4 лістапада 1839 г. Кюстын пісаў с-ні дэ Курбан із Эмса: «Я напісаў тут уводзіны для маіх новых падарожных нататак; гэта кароткая справаздача пра маё вандраванне» (Revue de France. 1934. p. 738).

Што б ні атачала вас у Расіі, што б ні ўражвала ваш позірк – усё мае выгляд жахлівай правільнасьці; пры поглядзе на такі сіметрычны парадак у розуме падарожніка адразу ўзнікае думка, што такую поўную аднастайнасць, такую супярэчачую натуральным схільнасьцям чалавека рэгулярнасць нельга ні ўладкаваць, ні падтрымліваць без насільстваў. Ўяўленне жадае хоць нейкай разнастайнасці – марна; так птушка ў клетцы дарэмна распраўляе крылы. Пры падобным ладзе чалавек з першага ж дня свайго жыцця можа ведаць (і сапраўды ведае), што ён будзе бачыць і рабіць да апошняга свайго дня. На афіцыйнай мове гэтая жорсткая тыранія называецца павагай да парадку, і для педантычных розумаў гэты горкі вынік дэспатызму такі каштоўны, што за яго, лічаць яны, не шкада заплаціць усякую цану.

Жывучы у Францыі, я і сам лічыў, што згодзен з такімі людзьмі строгага розуму; зараз жа, калі пажыў пад грознай уладай, якая падпарадкоўвае насельніцтва цэлай імперыі вайскавому статуту, – зараз, прызнацца, мне больш дапасуе некаторае бязладдзе, якое выказвае магутнасць грамадства, чым бездакорны парадак, які каштуе яму жыцця.

У Расіі ўрад над усім пануе і нічога не стварае. Народ у гэтай велізарнай імперыі калі і не пакорлівы, то нямы; над галовамі ўсіх вітае тут сьмерць і б’е ахвяр згодна свайго капрызу; як раз можна ўсумніцца ў гасподнім правасуддзі; чалавек тут двойчы ляжыць у труне – у калысцы і ў магіле. Маці тут павінны былі б аплакваць нараджэнне дзяцей больш, чым іхную сьмерць.

Наўрад ці тут шырока распаўсюджаны самазабойствы: адмучыўшыся звыш меры, цяжка забіць сябе. Дзіўна ўладкавана чалавечая душа: калі ў яго жыцці пануе жах, ён не шукае сьмерці, ён ужо ведае, што гэта такое[421].

Дарэчы, калі б колькасць самазабойстваў ў Расіі і была б вялікай, яе б ніхто не ведаў. Распараджацца лічбамі – выключнае права рускай паліцыі, не ведаю, ці даходзяць дакладныя лічбы да самаго імператара; ведаю толькі, што пры цяперашнім цараванні нічыё няшчасьце не можа быць абнародавана без вышэйшага дазволу: бо гэтыя сведчанні ўлады Ўсявышняга зневажальныя для ўлады зямной. Ганарыстасць дэспатызму такая велікая, што ён супернічае нават

---

[421] [заўвага аўтара] Пра гэта піша Дыкенс: “Самагубствы сярод зняволеных тут рэдкія – па сутнасьці, амаль невядомыя. Але із гэтага цалкам нельга зрабіць лагічную выснову на карысць самой сістэмы (сістэмы адзіночнага зняволення), хоць на гэтым часта настойваюць. Усе, хто прысвяціў сябе вывучэнню душэўных хвароб, выдатна ведаюць, што чалавек можа дайсьці да такой крайняй прыгнечанасьці і роспачы, якія зменяюць увесь яго характар і заб'юць ў ім усякую душэўную гнуткасць і здольнасць супраціўляцца, – і аднак жа ён спыніцца перад самазнішчэннем. Гэта звычайная гісторыя” (“Філадэльфія і яе адзіночная турма”. – “Амерыканскія нататкі” Чарльза Дыкенса.

«Suicides are rare among the prisoners: are almost indeed unknown. But no argument in favour of the system can reasonably be deduced from this circumstance, although it is very often urged. All men who have made diseases of the mind, their study, know perfectly well that such extreme depression and despair as to change the whole character and beat down all its powers of elasticity and self resistance, may be at work within a man, and yet stop short of self destruction. This is a common case». (Philadelphia and its solitary prison. American notes for general circulation, by Charles Dickens).

Вялікі пісьменнік, глыбокі знаток норадаў, хрысціянскі філосаф, у якога ўзяў я гэтыя радкі, не толькі валодае выключнай уладай над стылем і адлюстоўвае свае думкі нібы на медных скрыжалях; ён яшчэ і старанна вывучыў свой прадмет, так што яго меркаванне па гэтаму пытанню бяспрэчнае.

з магутнасьцю Божай. Жахлівая зайзрослівасць!!! Да якіх толькі памылак не прыводзіла яна цароў і падданых! Кім жа павінен стаць народ, каб гасудар яго стаў больш чым чалавекам?

Паспрабуйце ж любіць і абараняць ісьціну ў краіне, дзе аснова дзяржаўнага ўладкавання – глыбокае пашаванне ідала! Бо чалавек, які можа ўсё, – гэта хлусня, увенчаная царскаю каронай.

Як вы разумееце, гаворка ў мяне зараз не пра асабіста імператара Мікалая, але аб расійскім імператары наогул. Ў нас шмат гавораць зараз пра тое, што яго ўрад абмежаваны звычаем; я ж быў уражаны празмернасьцю ўлады і не заўважыў ніякай абароны ад яе.

Вядома, для чалавека дзяржаўнага, для ўсіх людзей практычнай накіраванасьці законы самі па сабе не так важныя, як думаецца нашым строгім лагістам і палітычным мыслярам; у канчатковым рахунку жыццё народа залежыць ад таго, як законы выконваюцца. Гэта дакладна, і ўсё ж у рускіх жыццё больш безрадаснае, чым ва ўсякага іншага народа Яўропы; прычым кажучы “народ”, я разумею не адных толькі прыгонных сялян, але і ўсіх, хто населяе імперыю.

Так званая моцная ўлада, ўсюды і заўсёды патрабуючая няўхільнага падпарадкавання, непазбежна выракае людзей на вартую жалю долю. Сабе на службу дэспатызм здольны паставіць усякае грамадскае ўладкаванне, незалежна ад пераважаючых з яго дазволу манархічных ці демакратычных уяўнасцей. Усюды, дзе дзяржаўны механізм дзейнічае з няўмольнай дакладнасьцю, ёсць дэспатызм. Лепшая за ўсіх тая ўлада, якая менш за ўсё адчуваецца; але забыцца пра ярмо можна толькі дзякуючы вышэйшай мудрасьці генія ці ж праз некаторае паслаблене грамадзкага прыгнёту. Дзяржаўная ўлада заўсёды жыватворная ў пару юнацтва народа, калі напалову дзікія людзі шануюць усё што аддаляе іх ад беззаконнага стану; яна зноў робіцца жыватворнай у нацыях старэючых. У гэтую эпоху нараджаюцца дзяржавы са змешанным уладкаваннем. Але подобная ўлада, заснаваная на згодзе вопытнасьці і захапленняў, падыходзіць толькі для народаў ужо стомленых, для грамадстваў, чый рухавік ўжо знасіўся ў рэвалюцыях. Адсюль даводзіцца заключыць, што такая ўлада не самая ўстойлівая, затое самая мяккая; аднойчы усталяваная, яна, падобна бадзёрай старасьці, ужо не занадта даўгавечная. Для дзяржаваў, як і для чалавека, старасць – самая мірная пара, калі ёю вянчаецца слаўнае жыццё; сярэдні ж ўзрост нацыі заўсёды нялёгкі – а яго-та і пераживае Расія.



У гэтай краіне, непадобнай на ўсе іншыя, сама прырода зрабілася саўдзельніцай капрызаў чалавека, які, пакланяючыся аднастайнасьці, забіў ўсякую вольнасць. Яна таксама паўсюль аднолькавая: багністая або пяшчаная раўніна, заросшая, колькі хапае вачэй, чахлымі і рэдкімі дрэвамі двух парод, бярозай і хвояй, – вось і ўся натуральная расліннасць Паўночнай Расіі, гэта значыць наваколляў Пецярбурга і блізляжачых губерній, якія ахопліваюць велізарныя прасторы дзяржавы.

Дзе схавацца ад грамадзкіх нягод, калі клімат дазваляе жыць на ўлонні прыроды ўсяго тры месяца на год? Ды і што гэта за прырода! Да таго ж на працягу шасьці найболей халодных месяцаў ніхто, акрамя хіба рускага селяніна, не ў стане прабыць на адкрытым паветры больш двух гадзін на дзень. Вось якое асяроддзе стварыў для людзей Бог у гэтых краях!

А што за асяроддзе стварыў сабе сам чалавек? Санкт-Пецярбург, бясспрэчна, адно із цудаў свету, Масква – таксама горад вельмі маляўнічы, але які ж выгляд маюць правінцыі!

У маіх лістах вы ўбачыце, наколькі непамерная аднастайнасць нараджаецца не маючым меры аднаўладдзем. Ва ўсёй імперыі адзін толькі чалавек мае права мець жаданні – значыць, толькі ён і жыве сваім уласным жыццём. Ва ўсім тут адчуваецца бяздушнасць, на кожным кроку адчуваецца, што народ тут пазбаўлены незалежнасьці. Па усякай дарозе праз дваццаць-трыццаць лье сустрэнецца вам адзін-адзіны горад – кожны раз аднолькавы. Тыранія вынаходзіць толькі сродкі для ўмацавання сваёй улады, яе мала турбуе мастацкі густ.

Схільнасць рускіх гасудароў і дойлідаў да паганскай архітэктуры, да прамых ліній, да прысадзістых пабудоў і шырокіх вуліц супярэчыць законам прыроды і патрэбам жыцця ў халоднай і туманнай краіне, безперапынна прадуваемай моцнымі вятрамі, ад якіх стыне твар. За ўвесь час падарожжа я так і не змог зразумець, як гэтае захапленне апанавала жыхароў такіх краёў адрозных ад тых, дзе ўзнікла пересаджваемая ў Расію архітэктура. Відаць, і для саміх рускіх гэта так жа непасціжна, як і для мяне, бо сваім густам яны распараджаюцца не больш, чым учынкамі. Так званыя хупавыя мастацтвы былі ім вызначаны ў абавязак загадам, нібы вайсковыя практыкаванні. Узор ўсяго іхнага грамадства – вайсковы полк з яго дробязнай дысцыплінай.

Клімату і звычаям Расіі больш дапасавалі б высокія ўмацавальныя сьцены, цесна стаячыя пабудовы і звілістыя вуліцы сярэднявечных гарадоў, чым карыкатуры на антычнасць; але ўплывовыя асобы ў Пецярбургу менш за ўсё думаюць пра тую краіну, якою кіруюць, менш за ўсё лічацца з яе духам і патрэбамі.

У пару, калі Пятро Вялікі ўводзіў па ўсёй імперыі, ад Татарыі да Лапландыі, свае цівілізатарскія захады, у Яўропе тварэнні сярэдніх стагоддзяў даўно ўжо выйшлі із моды; рускія ж, нават тыя з іх, каму нададзена мянушку вялікіх, заўсёды ўмелі толькі плесьціся за модою.

Такая пераймальнасць дрэнна спалучаецца з заваёўніцкім духам, які мы ў іх заўважаем, – бо над тымі, з каго бярэш прыклад, нельга валадарыць. Аднак у характары гэтага павярхоўна развітага народа наогул усё супярэчліва; больш жа за ўсё ён вылучаецца невынаходлівасьцю. Каб вынаходзіць, яму патрэбна была б воля; нават у яго захапленнях ёсць нешта малпападобнае: ён жадае выйсьці, у сваю чаргу, на падмосткі сусветнай палітыкі, але не затым, каб даць выхад сваім здольнасцям, прыносячым яму пакуты ў бяздзейнасьці, а толькі затым, каб прайграць занава гісторыю іншых славных дзяржаў. Яго заваёўніцкі дух народжаны не магутнасьцю, а толькі прэтэнзіяй; ўвесь яго талент – мерацца з

іншымі; ўвесь яго геній – пераймальніцтва; калі ўсё ж здаецца, быццам ёсць у ім нейкая самабытнасць, то таму толькі, што яшчэ ні адзін народ на свеце не меў такой патрэбы ва ўзорах для пераймануння; ад прыроды назіральны, ён становіцца самім сабою, толькі пераймаючы чужыя стварэнні. Уся яго самабытнасць – дар падробкі, якім ён надзелены больш усялякага іншага народа. Адзіная яго прыроджаная здольнасць – уменне пераймаць іншаземныя вынаходніцтвы. Яму наканавана застацца ў гісторыі так жа, як застаецца ў літаратуры майстэрскі перакладчык. Прызванне рускіх – перакладаць еўрапейскую цывілізацыі для азіятаў.

**~ 180 ~**

Дар пераймання, уласцівы той ці іншай нацыі, можа пайсці ёй на карысць і нават выклікаць захапленне, але толькі калі ён развіўся позна; зьявіўшыся перш за ўсі іншыя таленты, ён іх забівае. Расія – грамадства пераймальнікаў, а кожны, хто ўмее толькі капіяваць іншых, непазбежна западае ў карыкатурнасць.

За чатыры стагоддзі стасункаў паміж Яўропай і Азіяй Расія да гэтага часу так і не змагла пакінуць след у гісторыі чалавечага духу сваімі справамі, бо яе нацыянальны характар сцёрся пад тоўшчай пераймання.

Далучыўшыся да грэцкай схізмы і тым аддзяліўшы сябе ад Захаду, яна праз шмат стагоддзяў, з непаслядоўнасьцю абражанай самапавагі, зноў звярнулася да нацый, якія сфарміраваліся ва ўлонні каталіцызму, каб пераняць у іх цывілізацыю, да якой яе не дапускала вельмі палітычная рэлігія. Перанесенная із палаца ў вайсковы стан, каб падтрымліваць там парадак, гэтая візантійская рэлігія не адпавядае высокім патрабаванням чалавечай душы; яна дапамагае паліцыі тлуміць народ – і толькі.

Праз яе гэты народ спрадвеку стаў не варты той ступені адукаванасьці, да якой ён імкнецца.

Каб у душах бруілася рэлігійнае пачуццё, неабходна незалежнасць царквы, бо развіццё прыстойнейшай із народных здольнасцей, здольнасьці верыць, залежыць ад павагі, якой карыстаецца святарства. Чалавек, прызваны паведамляць іншаму чалавеку боскае адкрыццё, павінен мець свабоду, якая не вядома ніводнаму святару, паўстаўшаму супраць свайго духоўнага ўладыкі. Таму першае пакаранне за ерась – прыніжанае становішча служак культу; вось чаму ва ўсіх краінах, захопленых схізмай, святары пагарджаемы народам – нягледзячы на царскае заступніцтва, а дакладней, з нагоды такага заступніцтва, якое ставіць іх у залежнасць ад гасудара нават у справах боскага прызвання.

Народ, які лічыць сябе вольным, ніколі не стане з чыстым сэдцам падпарадкоўвацца залежнаму святарству.

Недалёкі той час, калі прызнаюць, што галоўнае ў справах рэлігіі – не дабівацца свабоды для паствы, але забяспечыць яе пастыру.

Зразумеўшы гэта, чалавецтва зробіць вялікі крок наперад.

Натоўп заўсёды будзе павінавацца, заўсёды будзе ісьці за адмысловымі людзьмі; клічце іх святарамі, кніжнікамі, паэтамі, навукоўцамі, тыранамі – ўсё адно свядомасць народа ў руках у яго правадыроў. Таму свабода веравызнання для масс – хімера, для выратавання ж душ важна, каб вольным быў чалавек,

прызваны тварыць для іх царкоўную службу; а на свеце ёсць толькі адзін свабодны святар – каталіцкі.

Пастыры-рабы здольныя кіраваць толькі няплоднымі душамі, праваслаўны поп будзе вучыць народ толькі падаць ніцма перад магутнасьцю!! Не пытайцеся ж больш у мяне, чаму рускія пазбаўленыя ўяўлення, чаму яны ўмеюць толькі пераймаць, нічога не ўдасканальваючы....

Калі на Захадзе нашчадкі варвараў з пашанай, блізкай да абажання, вывучалі старажытных грэкаў і рымлян, яны пераіначвалі іх, прыстасоўваючы да свайго жыцця: ці лёгка распазнаць Вяргілія ў Дантэ, Гамера ў Тассо або нават Юсьцініяна і рымскае права ў феадальных кодэксах сярэднявечча? Перайманне настаўнікам, якія не мелі нічога агульнага з новымі звычаямі, дапамагала ўдасканаленню розумаў, развіваючы мову, але не абмяжоўваючыся бясплодным пераймannem узораў. Благагавейнае захапленне мінулым не заглушаў, а абуджаў геній еўрапейцаў; рускія ж скарысталіся намі інакш.

Калі прыстасоўваюцца пад форму грамадства, не пранікаючыся яго жыватворным духам; калі за ўрокамі цывілізацыі звяртаюцца не да старажытных настаўнікаў духу чалавечага, а да чужаземцаў, завідуючы іхнай заможнасьці і не ўлічваючы іхны характар; калі пераймаюць з варожым пачуццём і прытым з дзіцячай дакладнасьцю, пераймаючы ў суседа (з выказваемай пагардай) усё, аж да звычак хатняга побыту, адзення, мовы, – тады нельга самаму не зрабіцца сколкам з чужога жыцця, чужым рэхам або адлюстраваннем, не страціць уласнага аблічча.

Сярэднявечныя народы, натхнёныя сваімі абноўленымі вераваннямі, моцныя сваімі незапазычанымі патрэбамі, маглі захапляцца антычнасьцю, не рызыкуючы скаціцца да пародыі, бо творчая магутнасць, калі яна ёсць, ніколі не прападае марна, да чаго б чалавек яе ні ўжываў...

Як шмат вольнага ўяўленне ў вучонасці XV і XVI стагоддзяў!!

Павага да ўзораў – знак творчага духа.

Таму на Захадзе ў эпоху Адраджэння вывучэнне класікаў паўплывала большай часткай толькі на прыгожае пісьменства і мастацтва; поспехі ж прамысловасьці, гандлю, прыродазнаўчых і дакладных навук – справа рук адзіна новай Яўропы, і тут яна амаль усё знайшла сама ў сабе.



Доўгае забабоннае пакланенне перад літаратураю язычнікаў не перашкаджала ёй мець сваю ўласную палітыку, рэлігію, філасофію, формы кіравання, вайсковыя звычаі, разуменні пра гонар, норавы, розум, навыкі грамадзкага сужыцця.

Адна толькі Расія, позна далучыўшаяся да цывілізацыі, праз нецярплівасьць сваіх кіраўнікоў так і не зедала даброт глыбіннага паспявання, паступовага і ненасільніцкага развіцця. У Расіі не адбывалася той унутранай працы, якая ствapae веліч нацыі і рыхтуе адзін народ быць гаспадаром, гэта значыць асвятляльнікам іншых; не раз я заўважаў, што ў гэтай краіне грамадства, якім яго стварылі самаўладцы, – не што іншае, як вялізная цяпліца, поўная цудоўных дзіўных раслін. Кожная кветка нагадвае тут пра сваю далёкую айчыну,

але пытаеш сябе – дзе ж жыццё, дзе прырода, дзе тубыльныя стварэнні у гэтым зборы цікавых узораў; такі збор сведчыць пра больш ці менш удалы адбор, зроблены цікаўнымі падарожнікамі, але не з’яўляецца сур'ёзным тварэннем вольнай нацыі.

Руская народ вечна будзе адчуваць наступствы гэтай несамабытнасьці, якою ён перахварэў у пару свайго палітычнага абуджэння. Для яго згубленым выявілася юнацтва – ўзрост руплівай працы, калі чалавечы дух прынімае на сябе ўсю адказнасць за свой незалежны стан. Яго кіраўнікі, і перш за ўсё Пятро Вялікі, з дапамогай насільства вырвалі яго із дзяцінства і перанеслі прама ў сталасць. Ледзь пазбавіўшамуся ад чужаземнага іга, яму здавалася свабодай усё што заўгодна, акрамя мангольскага валадарання; таму ў сваёй радасці і несрактыкаванасьці ён нават прыгоннае рабства палічыў вызваленнем, таму што яно было ўсталявана яго законнымі гасударамі. Прыніжаны заваёўнікамі, народ адчуваў сябе счаслівым і незалежным ўжо толькі таму, што яго новы тыран насіў рускае імя, а не татарскае.

Дзеянне гэтай памылкі працягваецца і дагэтуль. Рускую зямлю пакінуў дух своеасаблівасьці; яе ўраджэнцы, звыклыя да рабства, да гэтага часу сур'ёзна разумеюць толькі мову баязні і славалюбства. Як разумеюць яны моду? – Як элегантны ланцуг, які носяць толькі на людзях... Наколькі вытанчанаю ні здавалася б нам руская ветлівасьць, у ёй больш манернасьці, чым натуральнасьці, бо сапраўдная ветлівасць – гэта кветка, якая распускаецца толькі на вяршыні грамадзкага дрэва. Такую галіну нельга прышчапіць, яна корміцца толькі сваімі ўласнымі каранямі, і ствол, які яе падтрымлівае, вырастае стагоддзямі, падобна ствалу алоэ; патрэбна памерці шматлікім пакаленням напалову дзікіх насельнікаў дзяржаўы, перш чым з верхніх слаёў сацыяльнай глебы нарадзяцца людзі сапраўды пачцівыя; для выхавання цывілізаванага народа патрэбна шматстагоддзявая памяць; толькі розум немаўляці, народжанага ад пачцівасьці бацькоў, здольны паспець настолькі хутка, каб засвоіць сапраўдную сутнасць пачцівасьці. Сутнасць гэтая – у нябачным абмене добраахвотнымі ахвярамі. Няма нічога больш вытанчанага і, па сутнасці, нічога больш маральнага, чым прынцыпы, якія ляжаць у аснове манер бездакорна вытанчаных. Каб выстаяць супраць націску захапленняў, такая ветлівасьць павінна быць падобна высакароднасьці пачуццяў, якая не набываецца чалавекам у адзіночку, – бо ў раннім дзяцінстве выхаванне ўздзейнічае ў асноўным на душу; адным словам, сапраўдная паслужлівасьць спадчынная; у вачах нашага стагоддзя доўгі ход часу нічога не значыць, для стараючай жа прыроды ён значыць шмат.

Жыхары Паўднёвай Русі некалі вылучаліся вядомай тонкасьцю густу, і дзякуючы стасункам з Канстатнынопалем, якія са старажытнасьці, нават у самыя варварскія стагоддзі, падтрымлівалі кіеўскія князі, у гэтай частцы славянскай дзяржавы валадарыла павага да мастацтваў; у той жа час паданні Ўсходу дапамагалі зберагчы там пачуццё велічнага і захаваць вядомы спрыт у мастацтвах і ремёслах. Аднак гэтыя годнасьці – плён старадаўняй сувязі з

перадавымі народамі, нашчадкамі антычнай цывілізацыі, – былі згублены пры нашэсьці манголаў.

Гэта ўзрушэнне як бы прымусіла старажытную Русь забыцца пра сваю гісторыю; рабскі стан спараджае нізасць душы і выключае сапраўдную ветлівасьць – бо ў ёй няма нічога чаляднiцкага, у ёй выяўляюцца найвышэйшыя і самыя тонкія пачуцці. Цывілізаваным жа народ можна назваць толькі тады, калі ветлівасьць становіцца для ўсіх яго прадстаўнікоў як бы разменнай манетай. Тады першабытная грубасць і жывёльнае сябялюбства, уласцівыя чалавечай прыродзе, ужо з каляскі сглажваюцца тымі ўрокамі, якія кожны атрымлівае ў сям'і; у дзяцінстве чалавек, дзе б ён ні нарадзіўся, зусім не спачувальны, і ніколі не стане ён сапраўды пачцівым, калі яшчэ ў пачатку жыцця яго не адвадзіць ад жорсткіх нахільнасьцей. Паслужлівасьць не што іншае, як закон спачування, які ўжываецца ў паўсядзённых грамадскіх стасунках; ён вучыць перш за ўсё спачуваць хворай самапавазе; і гэта самы ўсеагульны, самы зручны і самы дзейсны са знойдзеных па гэты дзень сродкаў супраць эгаізму.

**~ 182 ~**

Як ні мяркуй, але подобная вытанчанасць, натуральна выпрацоўваючаяся з часам, невядома цяперашнім рускім; яны памятаюць не столькі Візантыю, колькі ардынскі Сарай, і за нешматлікімі выключэннямі яны пакуль яшчэ толькі прыстойна апранутыя варвары. Яны паходзяць на партрэты, якія дрэнна напісаны, але пакрытыя цудоўным лаком. Каб стаць сапраўды пачцівым, трэба доўга вучыцца чалавечнасьці, а ўжо потым ветлівасьці.

Пятро Вялікі з безагляднасьцю неасвечанага генія, з нецярплівай дзёрзкасьцю чалавека, які лічыцца ўсемагутным, з настойлівасьцю свайго жалезнага характару ўзнамерыўся разам выкрасьці ў Яўропы гатовы плён цывілізацыі, замест таго каб пакорліва высяваць яе зерні у сваю ўласную зямлю. Усе стварэнні гэтага без меры праслаўленага чалавека выявіліся ненатуральнымі; дабро, створанае яго варварскім геніем, было на здзіўленне летуценным, тады як зло – невыпраўным.

Якая карысць Расіі ад таго, што яна ціснe на Яўропу, на еўрапейскую палітыку? Ненатуральныя інтарэсы! Марныя памкненні! Для яе было б значна важнейшым у сабе самой мець і развіваць жыццёвы пачатак; мёртвы той народ, у якога няма нічога свайго, акрамя пакоры. Перад рускім народам разчынена вакно – ён глядзіць, слухае, паводзіць сябе як глядач на пастанове; калі ж скончыцца гэтая гульня[422]?

Патрэбна было б спыніцца і пачаць ўсе спачатку, але ці магчыма такое намаганне? Як перабудаваць да самай асновы такую шырокую пабудову? Якой бы штучнай яна ні была, нядаўняе далучэнне да цывілізацыі ўжо прынесла Расійскай імперыі рэальны плён, якога не адмяніць ніякай зямной уладзе; немагчымым ўяўляеце мне вяршыць будучыню народа, не ставячы ні ў грош яго

[422] Нататка Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Расія — велізарны тэатр. Калі глядач хоча захаваць хоць нейкія ілюзіі, яму ні ў якім разе не варта зазіраць за кулісы. Можа, недалёкі той дзень, калі ўся Яўропа падзеліць маю думку з нагоды таго гіганцкага шарлатанства, на якім спачывае магутнасць расійскіх імператараў».

рэчаіснасць. Але калі рэчаіснасць гвалтоўна адарвана ад мінулага, яна прадракае толькі бяду. Пазбавіць Расію ад гэтай беды, аднавіць сувязь дзяржавы з яе старажытнай гісторыяй, вызначанай яе спрадвечным характарам, – такой будзе з гэтага часу няўдзячная, прадказваючая больш карысці, чым славы, задача тых, хто прызваны кіраваць краінай.

Імператар Мікалай сваім практычным і глыбока нацыянальным геніем спасьціг гэтую задачу; але ці зможа ён вырашыць яе? Не думаю – ён занадта ахвотна бярэ ўдзел ва ўсім самастойна, занадта часта спадзяецца на сябе і занадта рэдка на іншых. Да таго ж у Расіі, каб зрабіць дабро, жадання самаўладцы яшчэ недастаткова.

Сябрам чалавецтва даводзіцца тут змагацца не супраць тырана, а супраць тыраніі. У бедах імперыі і заганах урада несправядліва было б вінаваціць толькі імператара: не здольны чалавек выканаць задачу, якая стаіць перад гасударом, які раптам пажадаў бы цараваць па-людзкі над народам пазбаўленым чалавечнасьці.

Патрэбна пабываць ў Расіі, блізка пабачыць тое, што там адбываецца, каб зразумець: далёка не ўсё можа зрабіць чалавек, які мае ўладу рабіць ўсё, – асабліва калі ён хоча зрабіць дабро.

Непрыемныя наступствы дзейнасьці Пятра I яшчэ больш пагоршыліся пад час вялікага або, дакладней сказаць, доўгага царавання жанчыны, якая правіла сваім народам толькі дзеля задавальнення здзіўляць Яўропу... Яўропа, зноў Яўропа!! А дзе ж Расія?

Пятро I і Кацярына II паказалі ўсяму свету вялікі і карысны ўрок, за які павінна разлічыцца Расія: яны паказалі нам, што дэспатызм жахлівей за ўсё тады, калі спрабуе рабіць дабро, сваімі памкненнямі апраўдваючы свае самыя абуральныя ўчынкі, – а калі зло выдае сябе за гаючы сродак, то яму ўжо больш няма стрымання. Відавочнае зладзейства перамагае не надоўга, ілжывыя ж дабрачыннасьці выракаюць народны дух на невыпраўныя памылкі. Асьлепленыя бліскучымі атрыбутамі зладзействаў, пашыранасьцю некаторых зладзействаў, якія апраўдваюцца сваімі вынікамі, народы прыходзяць да высновы, што ёсць два віды зладзейства і дзве маралі, што неабходнасць, або, як казалі раней, дзяржаўная патрэба, знімае віну са знатных зладзеяў, калі толькі тыя здолелі суаднесьці свае бязчынствы з захапленнямі ўсёй дзяржавы.

Непрыкрытая тыранія страшыла б мяне менш, чым прыгнёт пад выглядам павагі да парадку. Уся магутнасць дэспатызму засяроджваецца ў лічыне, якую носіць дэспат. Варта прымусіць гасудара адмовіцца ад хлусьні – і народ яго стане вольны; таму і не ведаю я на сьвеце іншага зла, акрамя хлусні. Калі вас пужае толькі грубае і адкрытае самавольства – пабывайце ў Расіі, і вы навучыцеся баяцца болей за ўсё крывадушнай тыранні[423].

---

[423] [заўвага аўтара] “Па-мойму, персы мелі рацыю, калі сцвярджалі, што другая загана – хлусіць, а першая – быць павінным. Бо звычайна даўгі і хлусня цесна паміж сабою злучаны” (Рабле. Трэцяя кніга, гл. V.)

Не магу адмаўляць, што выпраўляўся ў падарожжа з аднымі поглядамі, а вярнуўся – зусім з іншымі.

**~ 183 ~**

Таму ні з чым на сьвеце не параўнаецца горыч, якую яно мне прынесла; сваю справаздачу пра яго я аддаю ў друк менавіта таму, што па шмат якіх пытаннях мне давялося перамяніць свае погляды; ранейшыя мае погляды вядомы ўсім маім чытачам, але ім невядома якое напаткала мяне разчараванне; мой доўг зрабіць гэта вядомым.

Выпраўляючыся ў Расію, я разлічваў на гэты раз не весьці нататак; мяне стамляе  мая мятода – ноччу запісваць для сяброў тое, што запомнілася за мінулы дзень. Падчас гэтай працы, падобнай на споведзь, у маіх думках прысутнічаюць і чытачы, але толькі ў туманнай далі... такой туманнай, што я імкнуся пра іх не думаць; таму ў маіх надрукаваных лістах захоўваецца просты і вольны тон, які заўсёды ўласцівы прыватнаму ліставанню.

Такая праца можа вам здацца вельмі лёгкай, але я ўжо не настолькі малады, каб выконваць яе гуляючы. Аднойчы ўзяўшыся за справу, я імкнуся давесьці яе да канца, не дазваляючы сабе ні марнасьці, ні заняхайства; такая праца тяжкая. Таму і цешыў я сябе думкай, што на гэты раз змагу падарожнічаць толькі для свайго задавальнення, спакойна аглядаючы ўсё, што годна ўвагі. Выявілася, аднак, што рускія, ад самых высокапастаўленых асоб да нязначных прыватных асоб, вельмі заклапочаны маім прыездам, і так я змог зразумець, за якую важную асобу мяне прынімаюць, ва ўсякім разе ў Пецярбургу. “Што вы думаеце пра нас? Дакладней, што вы станете пра нас апавядаць?”- такім быў таемны сэнс усіх размоў са мною[424]. Гэта вымусіла мяне адмовіцца ад бяздзейнасьці; праз адсутнасць захапленя, а магчыма, і праз баязлівасць я спачатку трымаўся сціпла; наогул, Парыж вучыць чалавека пакоры, калі толькі не надае, насупраць, крайняй фанабэрыстасьці; ітак, я меў падставы не даваряць самаму сабе, але неспакойная самапавага рускіх пайшла на карысць маёй ўласнай самапавазе.

У сваім новым рашэнні я быў замацаваны ўсё больш павялічваючымся пачуццём падманутых чаканняў. Гэтае расчараванне мела, вядома ж, падставу глыбокую і сур'ёзную: бо агіда ахапіла мяне сярод самых бліскучых баляў, калі-небудзь мною бачаных, яна завалодала мною насуперак незвычайна вялікай гасціннасьці рускіх. Але я адразу заўважыў, што ў растачаемых імі ласках больш жадання выглядаць папераджальнымі, чым сапраўднай сардэчнасці. Сардэчнасць незнаёма рускім – яе яны ў немцаў не запазычылі. Яны ні на хвіліну вас не пакідаюць, усяляк забаўляюць, забіраючы ўсю вашу ўвагу, падаўляючы сваімі турботамі; спраўляюцца, чым вы заняты кожны дзень, з уласцівай толькі ім адным настойлівасьцю распытваюць вас пра ўсё і безперапыннымі забавамі перашкаджаюць разгледзець сваю краіну. Мэту гэтых падманліва ветлівых стасункаў з іншаземцамі яны пазначаюць асобным французкім словам –

[424] Пытанне, якое задавалася не аднаму Кюстыну; пар. у д'Арленкура: «Ці занята ваша пяро Расіяй? — спытала мяне імператрыца. — Колькі старонак вы ўжо напісалі?» — «Адзін том», — адказваў я» (Arlincourt. т. 1. p. 246).

enguirlander[425]. Нажаль, у сваіх настойлівых турботах яны патрапілі на чалавека, якога святкаванні заўсёды больш стамлялі, чым забаўлялі. Заўважыўшы ж, што наўпрост уздзейнічаць на розум чужеземца не атрымліваецца, яны выбіраюць вакольныя шляхі: імкнучыся прынізіць падарожніка ў вачах асвечаных чытачоў, рускія з надзвычайным спрытам пачынаюць дурыць яму галаву. Каб выставіць рэчаіснасць ў скажоным свеце, яны пачынаюць ілжыва абгаворваць сваю краіну, так жа як перад тым, разлічваючы на добразычлівую даверлівасць слухачоў, раздавалі ёй ілжывыя ўхвалы. Не аднаячы я заўважаў, як у адной і той жа гутарцы са мною адзін і той жа чалавек двойчы ці тройчы змяняў тактыку. Не лісьліўлю сябе думкай, што заўсёды ўмеў распазнаць ісьціну, нягледзячы на па-майстэрску злучаныя намаганні тых, чыё рамяство – яе ўтойваць; але нямала ўжо і таго, што я разумеў, калі мяне падманваюць; няхай я і не бачу праўды, але я бачу, што яе ад мяне хаваюць[426]; не ўмеючы выведваць, я ўмею быць напагатове.

Ні пры адным двары не сустрэнеш весялосці – але пры двары санкт-пецярбургскім не дазваляецца нават сумаваць. Усёзаўважаючы імператар лічыць напушчаную ажыўленасць набліжаных за знак асаблівай павагі; гэта нагадвае мне выказванне Талейрана пра Напалеоне: “Гасудар не жартуе – ён жадае, каб усе былі вясёлыя”.

Няхай я зачаплю чыюсьці самапавагу і праз сваю няўхільную шчырасць наклічу на сябе папрокі; але ці мая віна, калі я накіраваўся ў краіну неабмежаванай манархіі за новымі довадамі супраць нашага ўласнага дэспатызму, супраць беззаконняў, названых свабодай, – а ўбачыў толькі ўражваючыя злоўжыванні самаўладнага кіравання, гэтай тыраніі, якую завуць імем законнага ўпарадкавання? Рускі дэспатызм – гэта ілжэпарадак, гэтак жа як наш рэспубліканізм – ілжэсвабода. Я змагаюся супраць хлусні, дзе б яе ні заўважыў, але яна мае розны выгляд; раней я забыўся пра тую, што народжана неабмежаванай уладай, – зараз я падрабязна пра яе распавядаю, бо, апавядаючы пра свае падарожжы, заўсёды без хітрыкаў выказваю тое, што бачу.



Мне ненавістны хлуслівыя прыназоўнікі – а я пабачыў, што ў Расіі парадак служыць падставай для прыгнёту, гэтак жа як у Францыі свабода падстава для зайзросьці. Адным словам, мне па душы сапраўдная свабода – тая, што магчыма толькі ў грамадстве, не чужым вытанчанаму; ітак, я не дэмагог і не дэспат – я арыстакрат ў самай шырокім сэнсе слова. У той вытанчанасьці, якую б мне хацелася захаваць ў грамадстве, няма нічога лёгкадумнага; у ёй няма і нічога жорсткага, бо яна падпарадкоўваецца густу, не дапускаючаму злоўжыванняў, – яна лепш за ўсё абараняе ад іх, бо чураецца усялякай празмернасьці. Без вытанчанасьці немагчымы мастацтвы, а мастацтвы ратуюць свет, так як менавіта праз іх надалей народ далучаецца да цывілізацыі, у іх яны набываюць свой выраз і каштоўнейшы вынік. Сярод усяго, чым славіцца нацыя, яны вылучаюцца

425 [заўвага аўтара] Глядзі том I, ліст пятнаццаты.

426 [заўвага аўтара] Глядзі апавяданне пра паездку ў Шлісельбург, том I.

асаблівай перавагай – поспехамі сваімі яны даюць уцеху і карысць усім станам грамадства.

Арыстакратыя, як я яе разумею, не толькі не ўступае ў хаўрус з тыраніяй дзеля дзяржаўнага парадку (у чым аблыжна вінавацяць яе демагогі), але і наогул не ужываецца з самаўпраўнасьцю. Яе місія – абараняць, з аднаго боку, народ ад дэспата, а з другога – цывілізацыю ад рэвалюцый, небяспечнейшага із тыранаў. Варварства прынімае розныя аблічча – зрынутае ў форме дэспатызму, яно адраджаецца ў форме анархіі; сапраўдная ж свабода, аберагаемая сапраўднай арыстакратыяй, не зносіць ні насільстваў, ні беззаконняў.

Нажаль, сёння ў Яўропе прыхільнікі ўмеранай арыстакратыі ў асьляпленьні даюць сваім праціўнікам зброю супраць сябе; праз ілжывую баязнь яны звяртаюцца за падмогай да ворагаў усякай палітычнай і рэлігійнай свабоды, як быццам пагроза можа зыходзіць ад адных толькі найноўшых рэвалюцыянераў; між тым самаўладныя гасудары – у мінулым самі захопнікі не менш страшныя, чым цяперашнія якабінцы.

Феадальнай арыстакратыі больш няма, хаця незгасальным бляскам будуць вечна ззяць яе вялікія імены, праслаўленыя гісторыяй; але ў грамадствах, якія жадаюць жыць далей, сярэднявечную знаць заменіць, як гэта даўно ўжо здарылася ў англічан, спадчынны службовы стан; гэтая новая арыстакратыя, спадкаемца ўсіх ранейшых, складзеная із некалькіх розных элементаў (так як грунтуецца яна на пасадзе, паходжанні і заможнасьці), здабудзе да сябе давер толькі пры апірышчы на свабодную рэлігію; а я ўжо казаў і паўтараю кожны раз: адзіная свабодная рэлігія – тая, якой вучыць каталіцкая царква, самая свабодная царква на сьвеце, бо толькі яна адна не залежыць ні ад якой бы то ні было свецкай улады, папская ж улада зараз прызваная абараняць толькі незалежнасць святарства. Арыстакратыя – лад кіравання духоўна незалежных людзей, а каталіцызм, не стамлюся паўтараць, – рэлігія свабодных святароў.

Як вам вядома, спазнаўшы ісьціну, я зараз жа выказваю яе ў голас, не разлічваючы наступствы, бо зло, згодна майго перакананння, пачынаецца не ад агалошаных ісцін, а ад ісцін утоеных; таму мне заўсёды здавалася пагібельнай прымаўка нашых бацькоў – “не ўсякую праўду карысна гаварыць”.

Калі із ісьціны кожны выбірае сабе тое, што дапасуе яго захапленням, асьцярогам, рабалепнасьці, карысьці, – тады-та ісьціна і становіцца шкаднейшай за памылкі; ітак, падарожнічаючы, я не раблю разніцы паміж накопленнымі фактамі, не адкідваю і тыя, якімі аспрэчваюцца мае заветнейшыя перакананні. Калі я вяду сваё апавяданне, у мяне адна толькі рэлігія – культ праўды; я не спрабую быць судзьдзёю і нават жывапісцам – бо жывапісцы падпарадкоўваюцца правілам кампазіцыі; я імкнуся ператварыцца ў люстэрка – гэта значыць не мець, перш за ўсё, прыхільнасьцей, а ў такой справе аднаго намеру ўжо дастаткова (ва ўсякім разе, для разумнага чытача; не магу і не жадаю прызнацца сабе, што бываюць і іншыя, бо тады пісьменніцтва стала б нясцерпна нудным).

Кожны раз, калі даводзілася мне знаёміцца з новымі людзьмі, першай маёй думкай заўсёды было, што гэтыя людзі больш кемлівыя чым я,

спрактыкаванейшыя ў абароне, у рэчах і ўчынках. Вось чаму да гэтага часу вучыў мяне досвед; ітак, я ні да каго не стаўлюся з пагардай, і тым больш далёкі я ад пагарды да сваіх чытачоў. Менавіта таму я ніколі ім не лісьліўлю.

Калі да кагосьці мне і цяжка быць справядлівым, то хіба толькі да тых, хто мне сумны; але з такімі я амаль не знаюся, бо пазбягаю людзей бяздзейных.

Як я ўжо казаў, у Расіі ўсе гарады аднолькавыя; дакладна гэтак жа ў Пецярбургу аднолькавы ўсе салоны – гэта заўсёды і ўсюды імператарскі двор або асобныя яго партыі. Пераходзячы з аднаго дому ў іншы, вы застаецеся ў тым жа атачэнні людзей, дзе пад забаронай усякія размовы аб чым-небудзь цікавыя; я нахожу, аднак, што гэтая загана выпраўляецца выдасканаленым розумам жанчын, выдатна ўмеючых намёкамі выказаць тое, што не прамаўляецца ў голас.

**~ 185 ~**

Ва ўсіх краях жанчыны – найменш пакорлівыя із рабоў, так як, па-майстэрску карыстаючыся сваёю слабасьцю і ператвараючы яе ў магутнасць, яны лепш за нас ўмеюць не падпарадкоўвацца дрэнным законам; таму ўсюды, дзе адсутнічае палітычная свабода, яны прызваны захоўваць свабоду асабістую.

Свабода – гэта ж не што іншае, як забеспячэнне правоў слабога, ролю якога ў грамадстве сама прырода прызначыла выконваць жанчынам. У Францыі зараз шмат хто ганарыцца тым, што ўсе вырашаецца меркаваннем большасьці. Якое дзіва!!! Вось калі я ўбачу, што і патрабаванні меншасьці бяруцца ў разлік, – тады я таксама закрычу: “Хай жыве свабода!”

Скажам прама: тыя, хто сёння слабейшыя, былі мацнейшыя раней, і тады яны вельмі часта самі давалі прыклад тых злоўжыванняў магутасьцю, на якія я сёння наракаю! І ўсё ж адзін грэх не апраўдвае другога.

Нягледзячы на таемны ўплыў жанчын, Расія стаіць ўсё яшчэ далей ад свабоды, чым большасць іншых краін на сьвеце, – не ад слова “свабода”, а ад таго, што ім пазначаецца. Кліч “хай жыве свабода!” можа хоць заўтра пачуцца нават і каля мяжы Сібіры падчас крывавага бунту, пры зарыве пажара; сляпы і жорсткі народ можа вынішчыць сваіх гаспадароў, паўстаць супраць цёмных самадураў, афарбаваць крывёю вады Волгі, толькі вальней ён не стане – на ім ярмом вісіць варварства.

Таму лепшы спосаб даць людзям волю – не абвяшчаць ўрачыста аб адмене запрыгоньвання, а зрабіць рабства немагчымым, развіваючы ў народных сэрцах пачуццё чалавечнасьці; яго-та ў Расіі і нехапае. Апавядаць зараз рускім усякага звання пра свабодалюбства было б злачынным; наш абавязак – прапаведаваць ім усім без выключэння чалавечнасць.

Трэба прама прызнаць, што рускі народ яшчэ не мае правасудзя[427]. Так, мне аднойчы распавялі як аб заслуге імператара Мікалая, што нейкі нязнатны прыватны чалавек выйграў цяжбу супраць вялікіх паноў[428]. У гэтым апавяданні

---

[427] [заўвага аўтара] Глядзі брашуру с-ра Таўстога, вытрымкі із якой прыводзіліся ў маіх вандроўных нататках.

[428] Каментар Грэча: «Я здагадваюся, што гаворка ідзе пра працэс нябожчыка обер-шэнка графа М. П. Б. з венецыянцамі Гр. Жонка графа, якая жыла ў раз'ездзе з чалавекам, усталявалася ў Італіі, прадала

зачараванне характарам гасудара гучала для мяне сатыраю на ўсё грамадства. Узносімы на ўсе лады, гэты казус станоўча пераканаў мяне, што справядлівасць у Расіі – не больш чым выключэнне із правіла.

Пасьля доўгага разважання я б не раіў ўсяму, як казалі ў нас раней, дробнаму люду зачароўвацца поспехам гэтага падацеля позвы; магчыма, яму выказалі выключную ласку, каб безпакаранымі заставаліся несправядлівасьці, якія робяцца штодзённа (згадаем гісторыю з млыном ў Сан-Сусі[429], на якую, як на ўзор справядлівасьці, любяць паказваць законнікі, калі іх вінавацяць у прадажнасьці і дагаджальнасьці).

Іншы факт, з якога павінны мы зрабіць выснову малапрыхільную для рускага правасуддзя, – гэта тое, што ў Расіі амаль ніхто і не судзіцца; кожны ведае, да чаго гэта вядзе; будзь суддзі справядлівей, людзі часцей бы звярталіся за дапамогай да закону. З падобнай жа нагоды тут не бывае ні сварак, ні вулічных боек – усе баяцца турмы і кайданоў, якія часцей за ўсё чакаюць і злачынцаў і ахвяр.

Хоць я і малюю тут адны сумныя выявы, у Расіі ўсё ж ёсць дзве рэчы і адзін чалавек, дзеля якіх яе варта наведаць. Нява ў Пецярбургу ў пару белых начэй, маскоўскі Крэмль пры свеце месяца і імператар Мікалай – такая Расія ў дачыненнях маляўнічым, гістарычным і палітычным. Ўсё іншае толькі стамляе і

---

належаўшыя ёй маёнткі і перадала ў спадчыну сваю маёмасць, атрыманую з нагоды продажу, двум італьянцам Гр. Граф, на падставе паперы, падпісанай ім і яго жонкай да адружання, аспрэчыў спадкаемства. У судах усіх інстанцый галасы падзяляліся амаль пароўну паміж бакамі. Міністр юстыцыі выказаўся на карысць замежнікаў, тады як уся шляхта, увесь двор былі за графа М. П. Б. Заканчэнне справы залежала ад імператара. Натхнёны жаданнем выканаць найстрогую безстароннасць, ён не пажадаў падпарадкавацца асабістаму пачуццю, якое схіляла яго на бок графа: такім чынам, ён стварыў адмысловую камісію пад старшынством вялікага князя Міхала Паўлавіча выключна із людзей, якія не бралі ўдзел у абмеркаванні гэтай справы ў Дзяржаўнай радзе. Камісія знайшла дамаганні замежнікаў справядлівымі, і імператар, хаця і схіляўся да процілеглай думкі, вырашыў справу на іх карысць» (Gretch. P. 105-106). Гаворка ідзе пра працэс Каміла і Аляксандра Грыці, сыноў венецыянскага двараніна Каміла Вічэнцэ Грыці і графіні Кацярыны Якаўлеўны Мусінай-Пушкінай-Брус, супраць разведзенага чалавека графіні, обер-шэнка графа Васіля Валянцінавіча Мусіна-Пушкіна-Бруса (1773-1836). Графіня яшчэ ў 1818 г. адпісвала свае маёнткі і капітал, які знаходзіўся ў пецярбургскіх і еўрапейскіх банках, сынам, народжаным ад Грыці. У 1830 г. Каміл Грыці пачаў завіхацца ў Пецярбургу пра перадачу сабе і брату спадчыны. Пецярбургская грамадзянская палата зацвердзіла тэстамент нябожчыцы, але яе чалавек аспрэчыў законнасць той яго часткі, дзе гаворка ішла пра расійскія ўладанні; Дзяржаўная рада 18 лістапада 1835 г. пагадзілася з рашэннем палаты, імператар жа зацвердзіў яго (у лютым 1836 г.) толькі пасля таго, як падобнае заключэнне на карысць Грыці вынесла адмыслова заснаваная ім камісія. Сучаснікі лічылі вынікі гэтай справы як «доказ таго, что у нас існуе прасасуддзе, не звяртаючае ўвагі на асобы» (Вяземскі — А. Я. Тургеневу, 9 апреля 1836 г. — ОА. т. 3. с. 313; пар.: Там же. с. 700-702). Размовы пра справу Грыці працягваліся і ў 1839 г.; 24 лістапада / 6 снежня А. Я. Тургенеў пераказваў у лісьце да брата сваю размову з вялікім князем Міхалам Паўлавічам, які распавядаў яму «пра знакамітую справу Груці і графа Пушкіна-Бруса, закончыўшуюся на карысць першага пасьля таго, як яе разгледзеў ён сам, граф Арлоў <Аляксей Фёдаравіч>, Панін <Віктар Мікітіч> и не памятаю хто яшчэ, хаця Бенкендорф і кампанія былі на баку графа Бруса» (РО ІРЛІ. Ф. 309. № 706. Л. 82 об.).

[429] Пры пабудове замка Сан-Сусі блізу Патсдама прускі кароль Фрыдрых II загадаў разбурыць размешчаны непадалёк млын, аднак млынар запрацівіўся самавольству і прамовіў легендарную фразу: «Няўжо ў Берліне не засталося больш суддзяў?» Гісторыя млынара із Сан-Сусі лягла ў аснову вадэвіля Ламбера дэ Ланга і вершаванай казкі Ф. Андрые.

наганяе нічым не праганяемую нуду; вы пераканаецеся ў гэтым, чытаючы мае лісты.

Сёй-той із сяброў ужо пісаў мне, што лічыце за лепшае гэтыя лісты не друкаваць.

Калі я збіраўся адʼязджаць з Пецярбурга, адзін рускі спытаў мяне (як і ўсе рускія), што я буду апавядаць пра іхную краіну. "Мяне занадта добра ў ёй прынімалі, каб я мог пра яе гаварыць", – адказваў я.

Зараз гэта прызнанне выкарыстоўваюць супраць мяне самога, хаця я разлічваў выказаць ім ледзь прыкрытую ветлівасьцю эпіграму. "Пасьля такага прыему вы ўжо мабыць не здолееце распавясьці праўду, – пішуць мне, – а пакольки інакш як праўдзіва вы пісаць не ўмееце, то лепш ужо вам проста прамаўчаць". Так лічаць некаторыя із тых, да каго я прывык прыслухоўвацца. Іхнае меркаванне, ва ўсякім разе, не вельмі пахвальнае для рускіх.

Сам я ўсё-такі лічу магчымым і карысным казаць пра грамадскія справы і дзеячоў адкрыта, з належнай далікатнасцю і павагай да людзей, яе заслугоўваючых, і з неабходнай заўсёды самапавагай; спадзяюся, што здолеў знайсьці для гэтага спосаб. Лічаць, што адна толькі праўда бывае абражваючай, – магчыма, і так; але разпавядаючаму праўду ніхто, ва ўсякім разе ў Францыі, не мае права і не мае магчымасьці заціснуць рот. Ніхто не палічыць, што ў маім абураным голасе таемна выказваецца абражаная славалюбства. Калі б я прыслухоўваўся толькі да сваёй самапавагі, то яна загадвала б мне захапляцца ўсім пабачаным; а сэрца ж маё не засталося задаволеным нічым.

**~ 186 ~**

Калі ўсякае апавяданне пра Расію і яе насельнікаў выяўляецца абразай асобы – тым горш для рускіх; гэта непазбежнае зло, так як, сказаць па праўдзе, нішто не існуе ў Расіі само па сабе, але ўзнікае і знікае па волі аднаго чалавека; не вандроўцы вінаватыя ў гэтым.

Імператар, здаецца, мала схільны пастурпіцца часткай сваёй улады; няхай жа і адказнасць за сваю ўсемагутнасць ён нясе аднаасобна – з гэтага пачынаецца расплата за палітычную хлусню, якая паказвае аднаго-адзінага чалавека непадзельным уладальнікам цэлай дзяржавы, усемагутным уладаром думак цэлага народа.

Блюзьнерскасць падобнай тэорыі нельга выбачыць ніякімі паслабленнямі ў яе ўжыванні. У Расіі мне адкрылася, што прынцып неабмежаванай манархіі, быдучы ажыццяўляемы няўхільна і непахісна, вядзе да наступстваў жахлівых. І на гэты раз, пры ўсім сваім палітычным квіетызме, не магу не прызнаць: ад некаторых формаў кіравання народы павінны быць пазбаўлены назаўсёды.

Імператар Аляксандр, даверліва размаўляючы са спадарыняй дэ Сталь пра прапаноўваемыя ім удасканаленні, сказаў ёй: "Вы хваліце мае чалавекапаважаючыя намеры – дзякую вам, аднак жа ў гісторыі Расіі я толькі шчаслівая выпадковасць"[430]. Гэты гасудар казаў праўду: як бы ні ўсхвалялі рускія

[430] Гэтыя словы павядомлены с-няй дэ Сталь у кнізе «Дзесяць гадоў у выгнанні» (ч. 2, гл. 17); гл.: Расія. с. 46.

мудрую клапатлівасць тых, хто імі кіруе, тым не менш аснову асноў іх дзяржавы складае самаўладдзе; пры падобным уладкаванні імператар альбо сам выдае, або загадвае выдаць, або дае магчымасць выдаць і пусціць у ход такія законы (прабачце, што называю гэтым святым імем няправедныя загады, я толькі карыстаюся тым словам, якое ўжываецца ў Расіі), якія, напрыклад, дазваляюць абвясціць законных дзяцей, народжаных у законным шлюбе, не маючымі ні бацькоў, ні прозвішча – не асобамі, а лічбамі[431]. Як жа мне не аддаць пад суд Яўропы гасудара, які, пры ўсіх сваіх годных і выдатных якасьцях, згодзен цараваць, не адмяняючы падобныя законы?!

У сваіх помслівых пачуццях ён няўмольны; так палка ненавідзючы, яшчэ можна быць вялікім гасударом, але не вялікім чалавекам. Вялікі чалавек міласэрдны, палітык жа злапамятны; адплата вымушае скарацца, прабачэнне падахвочвае да веры.

Вось усё, што хацеў я вам сказаць пра гасудара; таму, хто ведае краіну, дзе ён асуджаны цараваць, нялёгка яго судзіць, бо людзі там настолькі залежаць ад абставін, што ні наверху, ні ў нізе грамадства няма з каго спытаць адказу. І ў такой-та краіне знатные спадары лічаць сябе падобнымі на французаў!!

У варварскія часы французкія каралі нярэдка секлі галовы сваім знатным вассалам; адзін з іх, дастапамятны сваім тыранствам, у вытанчанай жорсткасьці нават загадаў, каб кроў бацькі пралілася на дзяцей, размешчаных пад эшафотам[432]. Аднак гэтыя самаўладныя гасудары, бязлітасна забіваючы недруга, пазбаўляючы яго маёнткаў, асьцерагаліся ўсё ж неразумным прысудам прыніжаць ў яго асобе ўсю сям’ю, стан ці вобласць; ад падобнага ганьбавання нават у сярэднія стагоддзі абурыўся б увесь народ Францыі. Рускі ж народ зносіць і не такое... Дакладней сказаць, рускага народу яшчэ і няма – ёсць толькі імператары, якія маюць рабоў, і вяльможы, якія таксама маюць рабоў; народа ўсе яны не ўтвараюць.

Сярэдні стан, да гэтага часу малалікі ў параўнанні з іншымі, складаецца амаль выключна із іншаземцаў; яго пачынаюць патроху папаўняць багатыя сяляне, якія выкупіліся на волю, і дробныя чыноўнікі, выслужыўшыяся ў чыне; будучыня Расіі залежыць ад гэтых новых буржуа, якія згодна паходжання такія неаднолькавыя, што ім амаль немагчыма выпрацаваць падобныя перакананні; для іхнага злучэння працуюць таемныя таварыствы.

Імператар спрабуе зараз стварыць рускую нацыю, але аднаму чалавеку гэта нялёгка. Зло хутка ствараецца, затое павольна выпраўляецца; сам адчуваючы агіду да дэспатызму, дэспат, павінна быць, часта разумее заганы неабмежаванай улады. Гатовы паверыць – аднак сумленнасць прыгнятальніка не прабачае прыгнёт, і хоць мне шкада тых хто стварае гэтыя злачынствы (зло заўсёды годна спачування), але яшчэ большае спачуванне выклікаюць у мяне пакуты прыгнечанага. Якой бы ні была ў Расіі бачнасць, пад ёю заўсёды

[431] [заўвага аўтара] Глядзі гісторыю княгіні Трубяцкой.

[432] Згодна з легнендай, французкі кароль Людовік XI (1423-1483) зрабіў так са сваім праціўнікам Жакам д’Арманьякам, герцагам Нямурскім (каля 1437-1477).

затойваюцца насільствы і самавольства. Запалохваючы падданых, тыранія набыла супакой – толькі гэтым улада і змагла па гэты дзень ашчаслівіць свой народ.

І вось, калі выпадак зрабіў мяне сведкам нечувалых бедстваў, якія перажываюць людзі ў дзяржаве, адна із асноў якой намерана перабольшана, – дык што ж, асьцярога зачапіць нечую далікатнасць прымусіць мяне маўчаць пра ўбачанае? Ды я быў бы не варты мець зрок, калі б саступіў гэтай маладушнай думцы, якую мне спрабуюць зараз выставіць як павагу да грамадзкіх прыстойнасцей; як быццам маё сумленне не патрабуе павагі да сябе ў першую чаргу. А калі б мне дазволілі наведаць турму і я б зразумеў, што хаваецца за маўчаннем заблытаных вязняў, – што ж, я не наважыўся б паведаміць пра іхныя пакуты із баязні быць абвінавачаным у няўдзячнасьці, толькі таму што турэмшчыкі вельмі ласкава вадзілі мяне па сваіх засьценках? Подобная стрыманасць была б зусім не дабрадзейнасьцю; ітак, заяўляю: я ўважліва прыглядаўся, каб разгледзець утоеннае, уважліва прыслухоўваўся, каб пачуць невымаўленае, уважліва імкнуўся распазнаць ўсё хлуслівае у тым, што мне казалі, і сёння без перабольшвання запэўніваю вас, што ў Расійскай імперыі людзі бядуюць больш чым у іншым свеце, пакутуючы ад нягод варварства і цывілізацыі адначасова. Сам я палічыў бы сябе вераломным нягоднікам, калі б, ужо намаляваўшы з усёю вольнасьцю духу выяву большай часткі Яўропы, адмовіўся б дапаўняць яе із баязні перамяніць свае некаторыя ранейшыя меркаванні і абразіць некаторых асоб праўдзівым адлюстраваннем дзяржавы, якую ніколі яшчэ не паказваў ў сапраўдным выглядзе. Скажыце калі ласка, чаму я павінен выказваць павагу да дрэннага? Хіба я скаваны якім-небудзь іншым ланцугом, акрамя павагі да праўды?

**~ 187 ~**

На мой позірк, у рускіх вельмі шмат жыццёвага вопыту і хітрасьці, але мала адчувальнасьці; пра гэта я ўжо казаў. Празмерная крыўдлівасць ў спалучэнні з ладнай доляй чорствасьці складае, лічу, аснову іхнага характару; пра гэта я таксама казаў. Славалюбная празарлівасць, халопская праніклівасць, з'едлівая хітрасць – такія галоўныя ўласьцівасьці іхага розуму; усё гэта я таксама казаў і паўтараю зноў, бо ганебнай хітрасьцю было б шкадаваць самапавагу тых, хто сам такі неміласэрны да іншых (крыўдлівасць не ёсьць далікатнасць). Пара б гэтым людзям, такім пільным да заганаў і бязладдзяў нашага грамадства, прызвычаіцца да таго, што і пра іх саміх кажуць тае што думаюць; атачаючы іх дыпламатычным маўчаннем, мы толькі ўводзім іх у зман, паслабляем іхны розум; калі рускія хочуць быць прызнаны народам Яўропы і мець з намі стасункі на роўных, няхай перш навучацца слухаць меркаванні пра сябе. Такому суду падлягаюць усе народы і не прыдаюць гэтаму такога ўжо асаблівага значэння. З якіх гэта часоў немцы прынімаюць у сябе ангельцаў толькі пры той умове, што тыя будуць добра адзывацца пра Германію? У кожнага народа ёсць важкія падставы быць такім, якім ён ёсць; і самая важкая із іх тая, што іншым ён быць і не можа.

Праўда, да рускіх такое вызначэнне не дапасуе, ва ўсякім разе да тых із іх, хто ўмее чытаць. Калі ж яны ўсё на свеце перанімаюць, то маглі б і зрабіцца іншымі; менавіта таму, што гэта магчыма, іхны ўрад і вызначаецца такой падазронасьцю, якая даходзіць да жорсткасьці!.. Яму добра вядома, што людзям-адлюстраванням ні ў чым давяраць нельга.

Мяне магло б спыніць больш моцнае заахвочванне – баязнь быць абвінавачаным у адступніцтве. “Ён так доўга змагаўся супраць ліберальнага віційства, – станут казаць, – а зараз саступае плыні і шукае ілжывай папулярнасьці, якою раней пагарджаў”.

Магчыма, я і не правы, але чым больш разважаю, тым менш дапускаю, каб такі папрок мог мяне абразіць ці нават каб каму-небудзь прыйшло ў галаву мне яго кінуць.

Ужо з даўніх часоў розумамі рускіх валодае жах, што замежнікі будуць іх крытыкаваць. У гэтым дзіўным народзе крайняя бахвалістасць спалучаецца з надзвычайнай няўпэўненасьцю ў сабе; вонкавае самадавольства і неспакойнае самаедства ўнутры – такое я заўважаў у большасці рускіх. Іхнае славалюбства не ведае ні стомы, ні задавальнення, гэтак жа як пыхлівасць ангельцаў; таму ў рускіх не бывае прастаты. “Наіўнасць”- французкае слова, дакладны сэнс якога неперадаваемы ні на адной мове, акрамя нашай, бо сама гэтая якасць ўласціва толькі нам; наіўнасць – гэта прастадушнасць, здольная зрабіцца і хітраватай; гэта дар дасціпнасьці, які нараджае смех, не прычыняючы крыўды; гэта грэбаванне аратарскімі выкрутамі, больш таго, гатоўнасць даць суразмоўцу зброю супраць сябе; гэта непрадузятасць ў меркаваннях, выпадковая трапнасць у выразах, адмова ад самапавагі ў імя праўды; адным словам, гэта гальская прамата – рускім жа яна невядома. Народ – пераймальнік ніколі не будзе наіўным, шчырасць у яго заўсёды будзе забіта разлікам.

У запавеце Манамаха мне патрапіліся цікавыя і мудрыя павучанні, звернутыя да сыноў; асабліва мяне ўразіла адно месца – гэта прызнанне вельмі карысна запомніць: “Усяго ж больш шануйце госьця, і знакамітага і простага, і купца і пасланніка; калі не можаце адарыць яго, то хаця б барашном і піццём задавольце: бо госьці распускаюць у чужых землях і добрую і кепскую пра нас славу” (з павучання Ўладзіміра Манамаха сваім сынам у 1126)[433]. Гэты князь пры хрышчэнні быў названы Васіль (Карамзін. Гісторыя дзяржавы Расійскай, пераклад гг. Сен-Тома і Жоффре. Парыж, 1820. Т. II, с. 205).



Згодзен, што праз такія самалюбівыя хітрыкі гасціннасць ладна губляе ў каштоўнасці. Таму не аднойчы падчас падарожжа мне на памяць прыходзіла тое, што завецца разлічанай павагай да бліжняга. Гаворка не пра тое, каб забраць у людзей узнагароду за добрыя ўчынкі, але амаральна, гнюсна выстаўляць гэтую ўзнагароду як найпершае заахвочваньне да дабрачыннасьці.

Вось яшчэ некалькі ўрыўкаў із таго ж аўтара, якія падмацоўваюцца маімі ўласнымі назіраннямі.

---

433 Карамзін. т. 2. гл. 7 (пар. заўвагу да т. I, с. 9).

Сам Карамзін распавядае аб пагубным уплыве мангольскага нашэсьця на характар рускага народа; хто знойдзе мае меркаванні занадта суровымі, той можа пераканацца, што яны засведчаны меркаваннем сур'ёзнага гісторыка, схільнага прытым хутчэй да паблажлівасьці.

“Забыўшы народны гонар, – піша ён, – мы навучыліся нізкім хітрыкам рабства, заменяючым магутнасць ў слабых; падманваючы татараў, больш падманвалі і адзін аднаго; одкупляючыся грашамі ад насільстваў варвараў, сталі сквапнымі і менш чуллівымі да абраз, да сораму, схільныя нахабствам іншапляменных тыранаў” (з таго ж твору. т. V, гл. 4, с. 447 і наст.)[434].

Некалькі далей:

“Магчыма, сам цяперашні характар расейцаў яшчэ выяўляе плямы, ускладзеныя на яго варварствам манголаў...

Але заўважым, што разам з іншымі прыстойнымі пачуццямі паслабела ў нас тады і адвага, сілкуемая народным славалюбствам...

Народная ўлада таксама садзейнічала магутнасьці баяраў, якія, дзейнічаючы праз князя на грамадзян, маглі і праз апошніх уздзейнічаць на першага: гэтае апірышча знікла. Патрэбна было або падпарадкоўвацца гасудару, або быць здраднікам, бунтаўшчыком; не засталося сярэдзіны і ніякага законнага спосабу пярэчыць князю. – Адным словам, нараджалася самаўладдзе”.

Скончу гэтыя выпіскі двума ўрыўкамі аб царстванні Яна III; яны таксама ўзяты ў Карамзіна (т. VI, с. 351).

Распавёўшы пра тое, як цар Ян III вагаўся ў выбары спадкаемцы на пасад паміж сваім сынам і ўнукам, гісторык працягвае: “На жаль, летапісцы не тлумачаць ўсіх абставін гэтага цікавага здарэння (тут гаворыцца пра раскаянне гасудара, які вярнуў сваю пяшчоту жонцы і сыну і аддаліў ад сябе ўнука, якога сам жа вянчаў на царства), распавялі толькі, што Ян раптам вярнуў сваю пяшчоту жонцы і сыну, загадаў зноў выведаць былыя на іх даносы, даведаўся пра падкопы сябраў Алены і, лічучы сябе падманутым, паказаў жахлівы прыклад строгасьці ў дачыненні да знатнейшых вяльмож, князя Яна Юр'явіча Патрыкеева, двух яго сыноў і зяця, князя Сяміёна Рапалоўскага, выкрытых ў крамоле: асудзіў іх на смяротнае пакаранне...”[435]

Гэты Ян III, караўшы сьмерцю за крамолу, лічыцца ў рускіх як адзін із паважнейшых людзей.

Такія ж або амаль такія ж рэчы адбываюцца ў Расіі і дагэтуль. Праз усеўладнасць самаўладцаў тут няма павагі да судовага прысуду; імператар, даведаўшыся больш пра нейкую справу, заўсёды можа адмяніць тое, што ён вырашыў, будучы дасведчаным менш[436].

Сведчанні Карамзіна здаліся мне ўдвая больш значнымі ў вуснах такога лісьлівага і нясмелага гісторыка, як ён. Я мог бы памножыць падобныя вытрымкі, але, думаецца, прывёў іх дастаткова, каб адстаяць сваё права выказваць не

[434] Карамзин. т 5. гл. 4.
[435] Карамзін. т. 6. гл. 6.
[436] [заўвага аўтара] Глядзі вышэй гісторыю Паўлава і шмат іншых падобных выпадкаў.

саромеючыся свае думкі, бо яны знаходзяць падцверджанне нават у меркаванні такага аўтара, якога папракаюць ў староннасьці поглядаў.

У краіне, дзе розумы з дзіцячых гадоў прывучаюцца да замкнёнасьці і хітрыкаў ўсходняй палітыкі, натуральнасць нехаця сустракаецца радзей, чым дзе-небудзь; калі ж яна ёсць, то набывае асаблівае зачараванне. Я бачыў у Расіі некалькіх чалавек, якія саромеюцца бязлітасна давячага на іх ціску ўлады, будучы вымушаны пад ім жыць і не асьмельваючыся нават скардзіцца; такія людзі бываюць вольнымі толькі перад непрыяцелем, і яны едуць змагацца ў цясніны Каўказа, шукаючы там адпачынку ад ярма, якое ім даводзіцца цягнуць дома; ад такога сумнага жыцця на іхным твары застаецца адбітак засмучэння, якое дрэнна вяжацца з іхнымі вайсковымі манерамі і бесклапотнасьцю іхнага ўзросту; юныя маршчыны выкрываюць глыбокі смутак і ўнушаюць шчырае шкадаванне; гэтыя маладыя людзі ўзялі ва Ўсхода глыбакадумнасць, а із Поўначы – цьмянасць духу і схільнасць да мараў; у сваім няшчасьці яны вельмі прывабныя; ні ў адной краіне няма на іх падобных[437].

---

[437] М. Кадо (Cadot. P. 208-209) угледжвае тут намёк на так званы «Кружок Шаснаццаці» — таварыства, якое ўтварылася ў 1839 г. у Пецярбургу «часткова са скончыўшых ўніверсітэт, часткова із каўказскіх афіцэраў» і ў якім кожнае пытанне абмяркоўваліся «з найпаўнейшай натуральнасьцю і воляй, як быццам бы III Аддзяленне ўласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі цалкам і не існавала» (успаміны аднаго із сябраў кружка, К. Браніцкага, у яго кнізе «Les Nationalites slaves», 1879; цыт. па кн.: Герштэйн Э. Г. Лёс Лермантава. М., 1986. с. 130); у кружок уваходзілі, сярод іншых, М. Ю. Лермантаў, будучы езуіт Я. С. Гагарын і сын прыяцелькі Кюстына «баранэсы***» (Ц. В. Фрэдэрыкс) — барон Зміцер Пятровіч Фрэдэрыкс. Цалкам не адкідваючы магчымасць знаёмства Кюстына з некім із шаснаццаці (пар., аднак, прызнанне самога маркіза ў лісьце да Варнгагена ад 27 ліпеня 1843 г.: «У Расіі шмат таемных грамадстваў, у якія пэўна ўваходзяць лепшыя розумы краіны; я з імі не пазнаёміўся». — Lettres a Varnhagen. p. 461), заўважым, што французскія газеты на працягу 1837-1839 гг. неаднаразова змяшчалі інфармацыю пра хваляванні ў рускім войску, пра праект змовы падобнай на тую, якую ўзначаліў у 1825 годзе С. Мураўёў-Апостал (Commerce, 19 лістапада 1837 г.; Presse, 29 лістапада 1837 г.; Siecle, 29 лістапада 1837 г.), пра афіцэраў рускага корпуса, стаяўшага ў Варшаве, якія былі часткай арыштаваны, а часткай выпраўлены ў Сібір па абвінавачванню ў дачыненні да змоў (Constitutionnel, 12 снежня 1837 г.), пра «разжалаванне і адстаўку сотні найвышэйшых вайскоўцаў і грамадзянскіх урадоўцаў, маючых дачыненне да змовы супраць ураду» (Commerce, 19 лютага 1839 г.), пра змову стаяўшым у Літве корпусе генерала Ф. К. Гейсмара (Univers, 23 кастрычніка 1839 г.). Ліберальная прэса нават скарыстала гэтыя звесткі для супрацьстаўлення слабой Расіі, дзе «народ і войска пяройдуць на бок суперніка, каб змагацца з імперскім дэспатызмам», Францыі, дзе «народ і войска складаюць адзіную нацыю» (Constitutionnel, 25 верасня 1837 г.). Пра незадаволенасць, якая спее ў асяроддзі рускіх вайскоўцаў, былі асвядомлены і знаходзіўшыяся ў Расіі французскія дыпламаты; так, першы сакратар амбасады Сарэе паведамляў 1 жніўня 1838 г. кіраўніку кабінета графу дэ Моле: «Усё адзначаюць, што з некаторай пары афіцэры адчуваюць непадробленую незадаволенасць, якая выяўляецца ў публічных скаргах, якія адсутнасць імператара робіць яшчэ смялейшымі. Строгасць вялікага князя Міхала <Паўлавіча> і бязлітасная зацятасць, з якой ён прымушае падпарадкаваныя яму палкі браць удзел у самых стамляючых манеўрах, якія не маюць ніякай відавочнай карысьці, нямала спрыялі ўзрастанню гэтай незадаволенасьці. Распавядаюць, што шмат хто із жаўнераў самі спыняюць плынь свайго жыцця, каб пазбегнуць варварскіх пакаранняў, якія абвальваюцца на іх за дробязныя правіны ці парушэнне вайсковага рэгламенту. Я належу да ліку тых, якія мяркуюць, што галоўная небяспека пагражае Расіі з боку гэтай велізарнай масы ўзброеных людзей, з дапамогай якіх імператар гуляе ў жаўнерыкаў і якою ён кіруе са строгасьцю, лічучаюся здаровай дысцыплінай. Яму, аднак, не вынікала б забывацца пра шмат якія імперыі, якія спачатку траплялі ў залежнасць ад гэтай жахлівай масы, у Расіі, у дадатак, не маючай ніякай процівагі, а потым гінулі, разадраныя ёю» (AMAE. T. 193. Fol. 131 verso). Такім чынам, пра хваляванні ў войску Кюстын мог ведаць із прэсы ці з размоваў з дыпламатамі, і само па сабе згадванне ў яго тэксце афіцэраў-

У рускіх ёсць вытанчанасць, а значыць, павінен быць і нейкі асобны род натуральнасьці, якой я, дарэчы, не здолеў разгледзець; магчыма, яна наогул незаўважальная для чужаземца, праехаўшага па Расіі так хутка, як я. Ні адзін народ не мае такога цяжкавызначальнага характару, як гэты.

У рускіх не было сярэднявечча, у іх няма памяці пра старажытнасць, няма каталіцызму, рыцарскага мінулага, павагі да свайго слова[438]; яны да гэтага часу застаюцца візантыйскімі грэкамі – па-кітайску цырымонна ветлівымі, па-калмыцкі грубымі або, ва ўсякім разе, нячулымі, па-лапонскі бруднымі, анёльскі прыгожымі і дзіка неадукаванымі (выключаючы жанчын і таго-сяго із дыпламатаў), па-жыдоўскі хітрымі, па-халопску пранырлівымі, па-ўсходняму спакойнымі і важнымі ў сваіх манерах, па-варварскі жорсткімі ў сваіх пачуццях; яны пагардліва насмешлівыя ад адсутнасьці выйсьця, падахвочваемыя да з'едлівасьці разам з тым і прыродай, і адчуваннем уласнай прыніжанасьці; яны легкадумныя, але толькі на знешні выгляд – па сутнасці сваёй рускія схільныя да сур'ёзных спраў; усе яны дастаткова разумныя, каб развіць ў сябе незвычайна тонкі жыццёвы такт, але ні ў каго недостае вялікадушнасьці, каб падняцца вышэй хітрасьці; яны выклікалі ў мяне агіду да гэтай здольнасьці, без якой у іх не пражывеш. Пілнуючыя кожны свой крок, яны здаюцца мне самымі вартымі жалю людзьмі на сьвеце. Сумная гэтая добрая якасць – такт жыццёвых умоўнасцяў, аброць, накінутая на вольнае ўяўленне, прымушаючая безперапынна ахвяраваць сваім пачуццём дзеля чужога; з гэтай адмоўнай годнасьцю несумяшчальны іншыя, станоўчыя і вышэйшыя, годнасьці; гэта рамяство славалюбівага лісліўцы, заўсёды гатовага выканаць чужую волю, пастаянна назіраючага і адгадваючага, да чаго вядзе справу гаспадар, – уздумай ён сам даць справе штуршок, яго тут жа прагоняць вон. Каб даць справе штуршок, патрэбна геніяльнасць; для моцнага геніяльнасць і ёсць яго такт, для слабога ж такт складае ўсю яго геніяльнасць. У рускіх няма нічога, акрамя такту. Геній кліча да дзеяння, а такт – толькі да назірання; празмерная ж назіральнасць прыводзіць да няўпэўненасьці, а значыць, да бяздзейнасьці; геній можа спалучацца з вялікай майстэрскасьцю, але не з вышэйшай тонкасьцю такта, бо ў гэтай вераломнай лislівасьці – вышэйшай годнасьці холопа, які шануе ворага-гаспадара, не адважваючыся яго забіць, – заўсёды ёсць доля прытворства. Дзякуючы такой вытанчанасьці, годнай сераля, рускія непраніклівыя для чужога позірку; заўсёды, праўда, прыкметна, што яны нешта хаваюць, але што менавіта – невядома, а ім таго і даволі. Яшчэ хітрэй і небяспечней яны стануць тады, калі научацца хаваць саму сваю хітрасць.

Некаторыя з іх гэтага ўжо дасягнулі – то вышэйшыя прадстаўнікі нацыі, як згодна з занімаемым становішча, так і праз магутнасць розуму, з якім яны

---

«франдзёраў» яшчэ не дае падставаў уяўляць яго рупарам рускіх лібералаў, як услед за Жулем Мішле (гл.: Michelet J. Legendes democratiques du Nord. P., 1968. P. XXXV) робіць М. Кадо.

***[438] Нягледзячы на ўсё сказанае вышэй, нялішнім, магчыма, будзе патлумачыць, што гэта мае дачыненне толькі да народным нізоў, якім у Расіі вядома толькі ўлада жаху і магутнасьці.***

ўладарaць. Правільна мяркаваць пра іх я змог толькі апасьля, пры сустрэчах жа бываў зачараваны іхнай прывабнасьцю.

Але, Бог мой, для чаго ж столькі выкрутаў?

Якой мэтай тлумачацца ўсё гэтыя прытворствы?

Што за абавязак альбо карысьць прымушае людзей да такога доўгага і стомнага нашэння масак?

Магчыма, усе гэтыя захады прызначаны толькі абараняць сапраўдную і законную ўладу?.. Але такой ўладзе яны непатрэбны – ісьціна сама і бароніць сябе. Ці ж такім чынам задавальняюцца нікчэмныя славалюбныя дамаганні? Магчыма. Аднак жа дадаваць сабе столькі клопатаў, каб атрымаць такі нязначны плён, – праца нявартая тых сур'ёзных людзей, якія яе робяць; іхная задума ўяўляецца мне больш глыбокай; іншая, больш важная мэта бачыцца мне, – у ёй я і знаходжу нагоду іх дзіўнай ўтоенасьці і цярплівасьці.

У сэрцы рускага народа кіпіць магутнае, нестрымальнае захапленне да заваёваў – адно із тых захапленняў, што вырастае толькі ў душы прыгнечаных і сілкуецца толькі ўсенароднай бядой. Гэтая нацыя, захопніцкая ад прыроды, прагная ад перанесеных страт, зняважаная пакорай у сябе дома зараней выкупляе сваю мару пра тыранічную ўладу над іншымі народамі; чаканне славы і багаццяў адцягвае яе ад перажываемай ёю ганьбы; пастаўлены на калені раб марыць пра сусветнае панаванне, спадзяючыся змыць з сябе ганебнае таўро пазбаўлення ўсякіх грамадзкіх і асабістых вольнасьцей.

У асобе імператара Мікалая падданыя паважаюць не чалавека, а славалюбівага правадыра яшчэ больш славалюбівай нацыі. У сваіх захапляючых памкненнях рускія пашыты згодна са старажытнымі ўзорамі; ўсё нагадвае ў іх пра Стары запавет; іхныя жаданні і туга такія ж вялікія, як і іхная імперыя.

Ні ў чым не ведаюць яны межаў – ні ў пакутах, ні ва ўзнагародах, ні ў ахвярах, ні ў жаданнях; яны могуць дасягнуць велізарнай улады, але толькі тою цаной, якою азіяцскія народы здабываюць непахіснасць свайго кіравання, – коштам шчасьця.



Расія бачыць у Яўропе сваю здабычу, якая рана ці позна ёй дастанецца праз нашы сваркі; яна разпальвае ў нас анархію, спадзяюся скарыстацца раздзяленнем, якому сама ж садзейнічае, так як яно адпавядае яе задумкам; зробленае з Польшчай задумваецца зноў, у большых памерам[439]. Парыж ўжо не першы год чытае абуральныя газеты – абуральныя ва ўсіх сэнсах, – якія аплочвае

---

[439] Нататка Кюстына да пятага выдання 1854 г.: «Яна выхвалялася тым, што працуе дзеля падтрымання парадку, сама ж пры гэтым плаціла разносчыкам анархіі. Да Ліпеньскай рэвалюцыі парыжская «Насьяналь» атрымлівала грошы ад Поцо дзі Барго». Ліберальная газета «Насьяналь», якая рэдагуецца А. Цьерам, О. Мінье і А. Карэлем, пачала выдавацца 3 студзеня 1830 г.; грошы на яе друкаванне даваў банкір Ж. Лафіт. Сведчанняў пра тое, што «Насьяналь» фінансавалася рускім амбасадарам у Парыжы К. О. Поцо дзі Барго (1764-1842), мы не маем; магчыма, у рэпліцы Кюстына нам патрэбна бачыць перайначаны ўспамін пра паводзіны Поцо ў жніўні 1830 г., калі рускі пасланнік, пераканаўшыся ў перамозе Луі-Піліпа, узяў яго бок і тым паўплываў на рэакцыю ўсяго дыпламатычнага корпуса, спачатку ставіўшагася вельмі незычліва ў дачыненні да новай улады (гл.: Pasquier E.-D. Memoires. P., 1895. t. 6. p. 316-317).

Расія[440]. “Яўропа ідзе тою ж дарогай, што і Польша, – кажуць у Пецярбургу, – непатрэбным лібералізмам яна паслабляе сама сябе, тады як мы застаёмся магутнымі менавіта таму, што не маем волі; пацерпім жа ярмо, за сваю ганьбу мы возьмем з іншых”.

Неназіральнаму погляду агучаны тут мною план можа здацца хімерычным; кожны ж, хто пасвечаны ў ход еўрапейскіх справаў і ў таямніцы міністэрскіх кабінетаў за апошнія дваццаць гадоў, прызнае яго првільным. Тут ключ да шмат якіх загадак, тут простае тлумачэнне таго, што асобы, вельмі сур'ёзныя па свайму характару і становішчу, лічаць надзвычай важным, каб іншаземцы бачылі іх толькі з прыхільнага боку. Калі б рускія былі, як яны сцвяржаюць, апірышчам упарадкавання і законнай манархіі, хіба сталі б яны заахвочваць людзей і, горш за тое, выдаткаваць сродкі для абуджэння рэвалюцый?

Адною із ахвяр наслання, супраць якога хацеў бы я перасцярэгчы ўсіх нас, з'яўляецца Рым, з яго ненатуральным даверам да Расіі[441]. Рым і ўвесь каталіцкі свет не маюць большага і небяспечнейшага ворага, чым імператар Расійскі. Рана ці позна ў Канстантынопалі, пад заступніцтвам праваслаўных самаўладцаў, адзінаўладна ўсталюецца схізма; тады-та хрысціянскаму свету, расколатаму на два лагеры, стане відавочным, колькі шкоды прынесла рымскай царкве палітычная сляпата яе кіраўніка[442].

Гэты ўладыка, забаяўшыся бязладдзяў, у якіх апынуліся нашы дзяржавы пры яго ўсталяванні на папскім пасадзе, жахаючыся маральнай шкоды, якую прынесьлі Яўропе нашы рэвалюцыі, не маючы падтрымкі, разгубіўшыся ў асяроддзі абыякавага або насмешлівага свету, – больш за усё забаяўся народных паўстанняў, ад якіх ўжо пацярпелі як ён сам, так і яго сучаснікі; тады-та,

---

[440] Пра дзейнасць Я. М. Таўстога, у чые абавязкі ўваходзіў подкуп французскіх газет і размяшчэнне ў іх нататак на карысць Расіі, напісаных ад асоб французскіх журналістаў, гл.: Тарле Е. Справаздачы Якава Таўстога із Парыжа ў III Аддзяленне // ЛН. Т. 31/32. с. 563-603). Варта, зрэшты, падкрэсліць, што ўсе гэтыя газеты прытрымліваліся легітымісцкай арыентацыі і называць іх «абуральнымі» ў сэнсе «рэспубліканскімі» ці «анархічнымі» падстаў няма. На «ўтрыманні» Таўстога знаходзіліся ў другой палове 1830-х гг. такія выданні, як «La France», «La France et l'Europe», «La Revue du Nord» (апошнія дзве спынілі сваё існаванне ў 1839 г.), «La Patrie», «L'Assemble Nationale» і інш. На мяжы 1830-1840-х гг. да кантактаў з Я. Таўстым схіляўся рэдактар адной із самых папулярных газет «La Presse» Э. Жырардэн, яго нататкі ахвотна друкавала легітымісцкая «Quotidienne». Дарэчы, некаторыя назіральнікі меркавалі, што прапагандысцкія захады, якія ладзяцца рускім урадам, яшчэ недастатковыя: «Наважна, — пісаў Бальзак Э. Ганскай 24 красавіка 1844 г., — калосу варта нарэшце завесьці ў Парыжы рускую газету. Абыйдзецца яна яму ў нейкія 500-600 тысяч рублёў асігнацыямі, а карысьці будзе куды больш, чым ад танцоркі. Скача яна ані не горш; застаецца высветліць, што на 60-й паралелі шануюць вышэй: маральнае задавальненне ад лісліваcьці ці ж задавальненні, што дастаўляюцца танцоркамі» (Balzac H. Lettres a Mme Hanska. P., 1968. t. 2. p. 429).

[441] Напісана ў 1839 годзе.

У 1839 г. папа Рыгор XVI, насуперак чаканняў каталікоў, не асудзіў далучэнне ўніятаў да расійскай праваслаўнай царквы і абмежаваўся тым, што прамовіў 22 лістапада 1839 г. у таемнай кансісторыі прамову на гэтую тэму, агучаную ў досыць мяккіх танах і ўскладаўшую адказнасць за далучэнне ўніятаў выключна на саміх уніяцкіх святароў (гл.: Scfuemann. т. 3. s. 504-505). Сваю пазіцыю папа змяніў толькі праз тры гады, у 1842 г. (гл. заўвагу да гэтага тома с. 400).

[442] Нататка Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Дарадцы папы Рыгора XVI доўга захоўвалі адданасць расійскаму імператару».

падпаўшы пад пагібельны ўплыў недалёкіх розумаў, ён рушыў услед парадам жыццёвай абачлівасьці і пачаў дзейнічаць з мірской мудрасьцю, з зямным спрытам – у вачах жа Бога быў сляпы, і слабы; так справа каталіцызму ў Польшчы засталася без свайго натуральнага абаронцы, які ўзначальвае на зямлі сапраўдную царкву[443]. Ці шмат сёння нацый, гатовых аддаць Рыму сваіх жаўнер? І вось папа, будучы ўсімі пакінуты і знайшоўшы народ, яшчэ гатовы дзеля яго на сьмерць... адлучыў яго!! Адзіны з зямных уладык, абавязаны заставацца з гэтым народам да канца, ён адлучыў яго, каб дагадзіць ўладару схізматыкаў! Прававерныя каталікі ў жаху пыталі сябе, куды падзелася заўсёдная празарлівасць найсвяцейшага пасаду; адлучаныя пакутнікі бачылі, што Рым ахвяруе каталіцкай верай дзеля праваслаўнай палітыкі, і Польша, упаўшы духам ў святой барацьбе, прыняла свой лёс, не ў стане яго зразумець[444].

Няўжо намеснік Бога на зямлі яшчэ не зразумеў, што з часоў Вестфальскай мірнай дамовы[445] ўсе вайны ў Яўропе – вайны рэлігійныя? Якія небяспекі плоці памуцілі яго розум настолькі, што ў справах нябесных ён звярнуўся да сродкаў, годных для зямных цароў, але няварты для ўладыкі ўсіх уладык? Іхныя пасады ўзводзяцца і рушацца, яго ж пасад будзе вечна – так, вечна, бо нават у катакомбах першасьвятар быў бы вышэй і больш празарлівы духам, чым занімаючы зараз пасад у Ватыкане. Падмануты мудрагелістымі свецкімі людзьмі, ён не здолеў спасцігнуць рэчаіснасць і, збіты з правільнага шляху сваёю палітычнай баязьню, забыўся, што яму ёсць дзе здабываць магутнасць – у палітыцы веры[446].

Але цярпенне – развязка хутка настане, хутка ўсе пытанні будуць пастаўлены выразна, і ісьціна пры падтрымцы сваіх законных абаронцаў зноў набудзе сваю ўладу над розумамі народаў. Магчыма пратэстантам набліжаючаяся сутычка дасць магчымасць зразумець адну із галоўнейшых

---

[443] Маецца на ўвазе папскае брэве польскім біскупам ад 9 чэрвеня 1832 г., у якім папа Рыгор XVI легітымізаваў палітыку Мікалая I ў Польшчы пасьля падаўлення паўстання 1830-1831 гг. і параіў польскім святарам падпарадкоўвацца законнай уладзе, адкідваючы “ілжывыя прынцыпы” падбухторшчыкаў. Брэве было зачытана ва ўсіх цэрквах Польшчы.

***444*** [заўвага аўтара] Гэтыя папрокі, якія не выходзяць, на мой позірк, за межы павагі, знайшлі сабе падцверджэнне ў апошніх эдзіктах рымскай курыі.

[445] Вестфальскай мірнай дамовай закончылася ў 1648 годзе Трыццацігадовая вайна паміж габсбурскім блокам (гішпанскія і аўстрыйскія Габсбургі, каталічныя князі Няметчыны, падтрымліваемыя папствам і Рэччу Паспалітай) і антыгабскім блокам (пратэстантскія князі Няметчыны і іхныя хаўруснікі, у ліку якіх, дарэчы, былі і каталічныя краіны, напрыклад Францыя).

***446*** [заўвага аўтара] Невуцтва ў справах рэлігіі настолькі вялікае ў нашы дні, што адзін каталік, вельмі разумны чалавек, якому я чытаў гэтыя радкі, перапыніў мяне: “Які ж вы пасьля гэтага каталік – вы крытыкуеце самога папу!” Як быццам папа такі ж бездакорны ў справах мірскіх, як непагрбыма ў пытаннях веры! Ды і гэтую непагрышымасць прыхільнікі галіканства абмяжоўваюць некаторымі агаворкамі, пры ўсім тым лічачы сябе каталікамі. Хіба Дантэ калі-небудзь абвінавачвалі ў ерасі? А між тым як ён ставіўся да пап, якіх змясціў у сваё пекла! Лепшыя розумы нашага часу зазнаюць блытаніну, якая ў ранейшыя стагоддзі насмяшыла б усякага шкаляра. Адказваючы свайму крытыку, я параіў яму прачытаць Бассюэ “Дэкларацыя французкага святарства” (1682, якая, не падвяргаючы сумневам аўтарытэт папы рымскага, сцвярджае незалежнасць ад яго каралёў ў пытаннях свецкіх, а галіканскай царквы – у пытаннях царкоўнага кіравання, так сама як і падпарадкаванне папы ў пытаннях веры сусветным саборам), які ў сваім выкладанні каталіцкага вучэння, заўсёды сустракаў падтрымку, адабрэнне і ўхвалу ад рымскай курыі, дае дастатковае апраўданне маім прынцыпам.

ісьцін, якую я ўжо не раз выказваў, але не перастаю паўтараць, бо яна ўяўляецца мне адзіна неабходнай для хутчэйшага аб'яднання ўсіх веравызнанняў хрысьціянскай веры, – а менавіта тое, што ва ўсім свеце сапраўды вольны толькі каталіцкі святар. Усюды, акрамя каталіцкай царквы, святар падпарадкаваны іншым законам, іншым разуменням, чым законы і разуменні яго сумлення і веранавучэння. Уражвае непаслядоўнасць англіканскай царквы, і выклікае ўздрыганне прыніжанасць праваслаўнай царквы ў Пецярбургу; як толькі ў Англіі спыніць сваё існаванне ўрад ханжаства, большая частка каралеўства зноў стане каталіцкай. Рымская царква ў сваёй адзінокай барацьбе захавала чысціню веры, абараняючы па ўсёй зямлі, з узнёслай высокароднасьцю, з гераічным цярпеннем і непахіснай перакананасьцю, незалежнасць святарства супраць захадаў ўсіх і ўсялякіх мірскіх уладык. Дзе знайсьці царкву, якая не дала б тым ці іншым зямным кіраўнікам прынізіць сябе да становішча духоўнай паліцыі? Такая царква толькі адна – каталіцкая; коштам крыві пакутнікаў яна зберагла сабе свабоду, вечную крыніцу жыцця і магутнасьці. Будучыня ўсяго свету належыць ёй, бо яна змагла застацца безпрымесна чыстай. Няхай мітусіцца пратэстантызм – такая яго прырода; няхай хвалююцца і спрачаюцца адна з адной разныя секты – такая іхная звычайная забава; каталіцкая царква чакае свайго часу!!!

**~ 191 ~**

Рускае праваслаўнае святарства заўсёды ўяўляла і будзе ўяўляць сабою свайго роду апалчэнцаў, толькі сваім мундзірам некалькі адрозніваючыхся ад свецкіх войскаў імперыі. Падначаленыя імператару святары і іхныя біскупы уяўляюць сабой асобны полк клірыкаў – толькі і ўсяго.

Дзіўна, як вялікая аддаленасць Расіі ад Заходной Яўропы да гэтага часу дапамагала рускім хаваць усё гэта ад нас. Хітраватая грэцкая палітыка баіцца праўды, валодаючы непараўнальным майстэрствам здабываць выгаду із хлусні; але мяне ўражвае, як яна змагла так доўга падтрымліваць панаванне гэтай хлусні.

Вам зараз зразумела, якую значнасць набывае чыёсьці меркаванне, насмешлівае выказванне або ліст, жарт або усмешка, не кажучы пра цэлую кнігу, у вачах гэтага ўрада, які карыстаецца даверлівасьцю свайго народа іліслівасьцю ўсіх іншаземцаў.

Адно толькі слова праўды, кінутае ў Расію, – ўсё адно што іскра, упаўшая ў бочку з порахам.

Што за справа тым, хто кіруе Расіяй, да галечы імператарскіх жаўнер, да іхных пазбаўленых крыві твараў? На гэтых жывых прывідах – самы прыгожы ў Яўропе мундзір; што за важнасць, калі на зімовых квартэрах гэтыя пазалочаныя цені хутаюцца ў грубашарсцяныя балахоны?.. Хай у таямніцы знаходзіцца іхнае цяжкае становішча і бруд, а на ўвазе будзе адзін толькі бляск – нічога больш ад іх не патрабуецца і нічога іншага ім не даецца. Багацце рускіх – пакрывала, накінутае на галечу; галоўнае для іх бачнасць, і бачнасць у іх падманвае часьцей, чым дзе-небудзь яшчэ. Пагэтаму ўсякі хто падніме край пакрывала назаўсёды гіне ў вачах Пецярбурга.

Грамадзкае жыццё ў гэтай краіне – суцэльныя падкопы супраць ісьціны.

Кожны, хто не дае сябе падмануць, лічыцца тут здраднікам; пасмяяцца над бахвальствам, выкрыць хлусьню, запярэчыў супраць палітычнай пахвальбы, матываваць сваё падпарадкаванне – з'яўляецца тут замахам на бяспечнасць дзяржавы і гасудара; такага злачынцу чакае лёс revалюцыянера, змоўшчыка, ворага дзяржаўнага ўладкавання, злачынцы, вінаватага ў абразе вялікасьці... доля паляка; а вам вядома, якая жорсткая гэтая доля! Далікатнасць, выяўляемая такім чынам, больш палохае, чым смешыць; такі прыдзірлівы нагляд урада, спалучаецца з такім жа раўнівым славалюбствам народа, – гэта ўжо не смешна, а жахліва.

Воляй-няволяй прыходзіцца быць асьцярожным, маючы сваім гасударом чалавека, які не мілуе ні адзінага ворага, не пакідае без пакарання самую нязначную непаслухмянась і, такім чынам, лічыць сваім абавязкам адплату. Для такага чалавека, увасабляючага ў сабе дзяржаву, дараваць азначала б адмовіцца ад сваёй веры, быць міласэрдным – прынізіць сябе, выказаць чалавечнасць – занядбаць сваёй веліччу... ды што там, сваёю баскасьцю! Адмовіцца ад глыбокай пашаны, якой ён аточаны, за межамі яго ўлады.

Руская цывілізацыя яшчэ так блізка ад свайго вытоку, што падобна на варварства. Расія – не больш чым супольнасць заваёўнікаў, яе магутнасць не ў разважанні, а ва ўменні змагацца, гэта значыць у хітрасьці і жорсткасьці.

Сваім апошнім паўстаннем Польша адтэрмінавала выбух ужо закладзенай міны, гатовыя да змагання батарэі засталіся на сваім месцы; ёй ніколі не даруюць гэтай неабходнасьці таіцца – таіцца не ад яе самой (бо яе-та безпакарана забіваюць), але ад яе сяброў, якіх даводзіцца і далей тлуміць, каб не спудзіць іх чалавекапаважальныя пачуцці. Саўдзельнікам такой помсты, вялікадушнай і лютай (заўважце абедзве гэтыя акалічнасьці), спрабуюць зрабіць і таго, хто нясе перадавую варту супраць нановапаўстаўшай Рымскай імперыі, якая будзе называцца грэцкай, – і вось самы абачлівы, але і самы сляпы із еўрапейскіх гасудароў[447] пачынае ва ўгоду свайму суседу і ўладару рэлігійную вайну[448]... Стаўшы на гэты шлях, ён ужо не хутка спыніцца, а калі збілі з панталыку яго, то спакусяць і шмат каго із іншых...

**~ 192 ~**

Прашу прыняць да ведама, што, калі рускія калі-небудзь усталююць панаванне над Захадам, яны не будуць кіраваць ім, самі застаючыся дома, як манголы ў старыну; насупраць, яны спешна пакінуць свае заледзянелыя раўніны; яны не зробяць як былыя іхныя ўладары – татары, якія патрабавалі даніну ў славян іздалёку (бо клімат Масковіі страшыў нават манголаў); ледзь толькі перад маскавітамі адкрыюцца дарогі ў чужыя краі, як яны натоўпам накіруюцца прэч са сваёй дзяржавы.

---

[447] [заўвага аўтара] Пісана пры жыцці нябожчыка караля Прусіі, у 1839 годзе.

[448] Маецца на ўвазе шырока абмяркоўваўшаяся ў яўрапейскім друку падзея канца 1837 г., калі згодна з загадам прускага караля Фрыдрыха Вільгельма IV архібіскуп кёльнскі Аўгуст Клеменс Дростэ-Вішэрынг (1773-1845) быў арыштаваны за непадпарадкаванне ўраду, у прыватнасьці, за адмову дазволіць змешанныя адружанні паміж каталікамі і пратэстантамі у тым выпадку, калі бацькі не мелі намеру выхоўваць дзяцей згодна з каталіцкім веравызнаннем.

Зараз яны разважаюць пра сваю памяркоўнасць, адмаўляюцца ад папрокаў у задумах заваявання Канстантынопаля[449]; яны, маўляў, баяцца ўсякага пашырэння імперыі, дзе і так ужо вялікія адлегласьці сталі сапраўдным бедствам; падумаць толькі, да чаго яны абачлівыя – нават асьцерагаюцца гарачага клімату!.. Пачакайце, хутка вы ўбачыце, у чым выявяцца ўсе гэтыя засьцярогі.

Сустрэўшы столькі хлусні і здагаўшыся пра столькі бедстваў, якія нам пагражаюць, як жа мне не апавясьціць пра іх?.. Не і не, лепш ужо памыліцца, але распавясьці, чым дакладна ўсё разглядзець і змаўчаць. Няхай нават, выкладаючы свае назіранні, я буду дзёрзкім – але схаваўшы іх, я быў бы злачынным[450].

Рускія не будуць мне адказваць – яны скажуць: “за чатырохмесячную вандроўку[451] ён занадта мала пабачыў”.

Сапраўды, я мала пабачыў, але пра шмат што здагадаўся.

Калі ж мяне ўзнагародзяць аспрэчваннем, то будуць адмаўляць факты – гэты пачатковы матэрыял усякага апавядання, а ў Пецярбургу прывыклі не лічыцца з імі; мінулым, як і будучыняй і рэчаіснасьцю, там распараджаецца самаўладзец; паўтараю зноў: адзіны здабытак рускіх – пакорлівасць і перайманне, кіраўніцтва ж іхнымі розумамі, думкамі і свабоднай воляй належыць гасудару. Гісторыя з’яўляецца ў Расіі часткай казённай маёмасьці, гэта маральная ўласнасць венценосца, падобна таму як зямля і людзі з'яўляюцца там яго матэрыяльнай уласнасьцю; яе зберагаюць ў палацавых падзямеллях разам са скарбамі імператарскай дынастыі, і народу із яе паказваецца толькі тое, што палічыцца патрэбным. Памяць пра тое, што рабілася ўчора, – здабытак імператара; згодна свайго бачання ён выпраўляе летапісы дзяржавы, кожны дзень выдаючы народу толькі тую гістарычную праўду, якая адпавядае патрэбнасьцям бягучага дня. Так пад час нашэсьця Напалеона раптоўна былі знойдзены і зрабіліся знакамітымі ўжо два стагоддзі як забытыя героі Мінін і

---

449 Гл. заўв. да т. I, с. 134. Дададзім, што, нягледзячы на ўсе запэўніванні расійскіх палітыкаў, падазрэнні адносна відаў Расіі на заваёву Канстантынопаля заставаліся не толькі ў асяроддзі відавочных палітычных супернікаў Расійскай імперыі, але і ў асяроддзі назіральнікаў нейтральных і нават спачуваючых; так, справаздача III Аддзялення за 1841 год сцвярджае, што «ў Германіі не спасьцігаюць, якім чынам Расія да гэтага часу не скарысталася спрыяльнымі акалічнасьцямі, каб завалодаць Канстантынопалем, што было б найважнейшай умовай перавагі яе палітыкі ў Яўропе», і прыводзіць выказ караля віюртэмбергскага, які ў прыватнай размове прызнаўся, што «не верыць поўнай з боку Расіі самаахярнасьці, а насупраць, перакананы, што немінуча прыйдзе час, калі рускія захопяць Канстантынопаль» (ГАРФ. Ф.109. Оп. 223. № 6. л, 83, 84).

450 Дадатак Кюстына да трэццяга выдання 1846 г.: «Такім чынам, прызнаючы сваю слабасць і шкадуючы пра свой малы ўплыў, я ўсё ж лічу сваім абавязкам нагадаць Заходняй Еўропе пра тое, што яе выратаванне залежыць ад заснавання моцнай і незалежнай грэцкай імперыі, сталіцай якой з часам зробіцца Канстантынопаль. Такая адзіная законная мэта хаўрусу Францыі з Ангельшчынай. Такі таксама адзіны спосаб дапамагчы раздробненай Польшчы». У пятым выданні 1854 г. Кюстын зрабіў да гэтага месца дадатак: «Дай Бог, каб плёнам цяперашняй вайны зрабілася падобнае ператварэнне еўрапейскай часткі Турцыі».

451 На самай справе Кюстын правёў у Расіі каля двух з паловай месяцаў; у трэццім выданні ён пазначыў у гэтым месцы тэрмін больш блізкі да рэчаіснасьці – тры месяцы.

Пажарскі[452]: ўсё таму, што ў тую хвіліну ўрадам заахвочваўся патрыятычны энтузіязм.

Аднак жа такая непамерная ўлада шкодзіць сама сабе, і Расія не вечна будзе яе трываць – у войску цепліцца дух мецяжу. Я згодзен з імператарам – рускія занадта шмат ездзілі па сьвеце; народ стаў ахвочым да ведаў; а супраць думкі слабая мытня, яе не вынішчыць войскам, не спыніць умацавальнымі сьценамі – яна пройдзе і пад зямлёю. Ідэі носяцца ў паветры, пранікаюць усюды, а з дапамогай ідэй змяняецца свет[453].

З усяго сказанага вынікае, што будучыня, якая ўяўляецца рускім такой бліскучай для іхнай дзяржавы, ад іх саміх не залежыць; ў іх няма сваіх ідэй, і лёс гэтага народа пераймальнікаў будзе вырашацца там, дзе ў народа ёсць свае ўласныя ідэі; калі на Захадзе сціхнуць захапленні, калі паміж урадамі і падданымі ўсталюецца хаўрус, то жадныя заваёўніцкія жаданні славян зробяцца хімерай.

Нялішне нагадаць, што я апавядаю без усялякай варожасьці, што я апісаў рэчаіснасць, нікога не абвінавачваючы асабіста, і што, робячы свае высновы із некаторых палохаючых мяне фактаў, я імкнуся браць ў разлік і магутнасць неабходнасьці. Я не абвінавачваю, а проста апавядаю.

Ад’язджаючы із Парыжа, я лічыў, што толькі цесны хаўрус Францыі і Расіі здольны прынесьці спакой у еўрапейскія дачыненні; але, пабачыўшы рускі народ паблізу і пасьцігнуўшы сапраўдны дух яго ўраду, я адчуў, што гэты народ

---

452 Каментар Грэча: «Мінін і Пажарскі заўсёды шанаваліся на Русі як героі; адвеку стагоддзяў гісторыя, паэзія і вытанчаныя мастацтвы славілі іх вялікія дзеі. Падабенства – аж да супадзення дня і месяца – абставін 1812 года з падзеямі двухсотгадовай даўніны здалося, натуральна, добрым прадвесьцем. Барадзінская бітва адбылася 24 і 26 жніўня, і дакладна ў гэтыя ж дні два стагоддзі назад (у 1612 годзе) Пажарскі пабіў ворагаў бацькаўшчыны. Калі французы ўпершыню пачулі пра Мініна і Пажарскага ў 1812 годзе, хто ў гэтым вінаваты?» (Gretch. P. 103-104). Сапраўды, цікавасць да Мініна і Пажарскага пачалася яшчэ да пачатку вайны 1812 г. Так. Н. М. Карамзін у 1802 г. у артыкуле «Пра выпадкі і характарах у расійскай гісторыі, якія могуць быць прадметам мастацстваў» прапанаваў паставіць статую Мініна ў Ніжнім Ноўгарадзе, а ў 1803 г. правадыр Вольнага грамадства аматараў літаратуры, навук і майстэрстваў У. Папугаеў выказаў прапанову пра збор ахвяраванняў на пабудову помніка Мініну і Пажарскаму. Скульптар Я. П. Мартас, аўтар помніка, усталяванага на Чырвоным пляцы ў 1818 г. (гл. заўв. да гэтага тома, с. 148) стварыў яго першапачатковы праект у 1804 г., прытым гэтая мадэль была паказана на выставе ў Акадэміі майстэрстваў і абмяркоўвалася ў друку; помнік двум героям планавалі ўсталяваць у Ніжнім і ў студзені 1809 г. нават адкрылі падпіску, але потым ізноў абралі месцам для яго ўсталявання Маскву, і 20 кастрычніка 1811 г. Аляксандр падпісаў рэскрыпт пра пачатак працы (гл.: Кавалеўская М. М., Я. П. Мартас. М.; Л., 1938. с. 68-75). Падзеі 1612 г. ляглі ў падставу паэмы З. А. Шырынскага-Шыхматава «Пажарскі, Мінін, Гермаген» (1807) і трагедыі М. В. Крукоўскага «Пажарскі» (1807). Вайна 1812 г., натуральна, яшчэ больш ажывіла гэтую цікавасць да герояў, якія выгналі палякаў із Масквы: рускія публіцысты ахвотна пачалі параўноўваць адбываемае з падзеямі двухсотгадовай даўніны і «дзеля падтрымання ўскіпеўшага духу народнага згадаць <…> імёны Мініна і Пажарскага <…> і рускі побыт іхнага часу» (Глінка С. М. Запіскі пра 1812 год // 1812 год у рускай паэзіі і ўспамінах сучаснікаў. М., 1987. с. 402). Пра паралелі паміж антыпольскімі настроямі 1612 года і антыфранцузскімі настроямі, якія паўсталі ў рускім грамадстве яшчэ да вайны 1812 гады, гл. Зорын А. Л. «Бяскроўная перамога» князя Пажарскага // НЛА. 1999. № 38. с.111-128.

***453*** [заўвага аўтара] Зараз, ужо пасьля таго як я гэта напісаў, імператар дазваліў шмат якім із рускіх жыць у Парыжы Магчыма, ён мяркуе пазбавіць ад мараў прыхільнікаў рэформаў, паказаўшы ім Францыю паблізу; яму яе прадстаўляюць як рэвалюцыйны вулкан, як краіну, пабываўшы ў якой рускія назаўсёды страцяць ахвоту да палітычных перамен; ён памыляецца. (насамрэч атрымаць замежны пашпарт на пачатку 1840-х гг. было гэтак жа цяжка, як і на прыканцы 1830- х (гл. заўв. да т. 1. с. 200)).

аддзелены ад іншага цывілізаванага свету магутнай палітычнай зацікаўленасьцю, якая абапіраецца на рэлігійны фанатызм; і мне думаеце, што Францыя павінна шукаць сабе падтрымку ў асяроддзі тых нацый, якія згодны з ёю ў сваіх патрэбах. Хаўрусы не засноўваюць на меркаваннях насуперак інтарэсам. У каго ж у Яўропе патрэбы згодныя адна з адной? У французаў і немцаў, а таксама ў тых народаў, якім прырода наканавалаісьці за гэтымі двума вялікімі нацыямі[454]. Лёс нашай цывілізацыі, адкрытай, разумнай і ідучай наперад, будзе вырашацца ў сэрцы Яўропы; пагэтаму добра ўсе што спрыяе больш хуткаму пагадненню паміж нямецкай і французкай палітыкай; згубна ўсё што запавольвае гэты хаўрус, няхай нават пад самымі пераканаўчымі падставамі.

**~ 193 ~**

Будзе вайна паміж філасофіяй і верай, паміж палітыкай і рэлігіяй, паміж пратэстантызмам і каталіцкай царквой – і ад таго, чый сцяг падыме Францыя ў гэтай барацьбе веліканаў, будзе залежыць лёс ўсяго свету, лёс царквы і перш за ўсё лёс Францыі.

Правільнасць такой сістэмы хаўрусаў, да якой я імкнуся, будзе падцверджана – наступіць дзень, і ў нас ўжо не будзе іншага выбару.

Як іншаземец, і асабліва як замежны літаратар, я быў абсыпаны выказваннямі пачцівасьці з боку рускіх; аднак іхная ветлівасць абмежавалася

[454] Нататка Кюстына да трэцяга выдання 1846 г.: «Пачынаючы з 1839 года я бачыў выратаванне свету толькі ў цесным хаўрусе Францыі і Аўстрыі. Разнастайныя абставіны адкладваюць канчатковую перамогу гэтай палітыкі, але рана ці позна яна пераможа – гэта непазбежна». Гэтыя разважанні пра палітычныя звязы – рэпліка Кюстына ў вельмі ажыўленай спрэчцы пра «натуральных хаўруснікаў» Францыі, якія на прыканцы 1830-ых – пачатку 1840-х гг. вялі французскія журналісты на старонках газет, а французскія палітычныя дзеячы – у палаце дэпутатаў. Меркаванне Кюстына падзялялі далёка не ўсе; былі аўтары, перакананыя, што адзіны магчымы хаўруснік для Францыі – Расія: таму што гэтыя дзве краіны аддалены адна ад другой, таму ў іх няма падставаў для непасрэднага сутыкнення, і кожная можа заваёўваць землі – першая ў Паўночнай Афрыцы, а другая ў Азіі – без шкоды для другой; у дадатак у абедзвюх агульны супернік — Англія (гэтыя аргументы выкладзены, напрыклад, у ананімным артыкуле «Лісты сакратара амбасады пра сучасных прамоўцаў і публіцыстаў. С-р Цьер» – France litteraire. 1841. t. 4. p. 68-81). Пра гэтыя тэндэнцыі ў французскім грамадстве і палітычнай эліце ведалі ў Расіі; у справаздачы III Аддзялення за 1841 год гаворыцца: «У мінулым годзе Моген – (ліберальны сябар палаты дэпутатаў) даводзіў у адной прамове, што Францыя павінна ваяваць не супраць Еўропы, а супраць Ангельшчыны, маючы на ўвазе магчымасць хаўрусу з Расіяй. Гэтая прамова была вельмі ўхвалена французскай публікай, моцна настроенай супраць Ангельшчыны ліпеньскім трактатам (першай Лонданскай канвенцыяй па ўсходнім пытанні, якую падпісалі 15 ліпеня 1840 г. Ангельшчына, Аўстрыя, Расія, Прусія і Турцыя без удзелу Францыі; гл. заўв. да т. I, с. 134) <…> Нават Лафіт (банкір-ліберал), якога завуць геніем-апекуном рэспубліканцаў, кажа, што калі б ён быў кіраўніком урада, то, апроч гонару Францыі, ён бы ахвяраваў усім, каб заключыць хаўрус з Расіяй. Толькі адна гэтая дзяржава, згодна з яго думкай, можа лічыцца самастойнай і дзейнічаць незалежна ад іншых» (ГАРФ. Ф. 109. Chi. 223. № 6. л. 91-92). З іншага боку, сур'ёзныя і красамоўныя абаронцы былі і ў хаўруса Францыі з Няметчынай: так, В. Гюго ў шырокім «геапалітычным» дадатку да кнігі «Рэйн» (надрукаваным у студзені 1842 г.) сцвярджаў, што для раўнавагі Еўропы і ўсяго свету патрэбна згода дзвюх вялікіх краін, размешчаных на абодвух берагах Рэйна – Францыі і Няметчыны, якія супольна будуць супрацьстаяць дзвюм краінам-заваёўніцам: Ангельшчыне і Расіі. Услед за Кюстынам (хоць і без спасылак на яго) дбайным прыхільнікам франка-нямецкага хаўрусу (і праціўнікам хаўрусу Францыі з Расіяй) выступіў у 1844 годзе Марк Фурнье ў брашуры «Расія, Германія і Францыя. Выкрытая палітыка Расіі, на падставе нататак старога дыпламата» (1844; гл. пра яе заўв. да т. I, с. 198); у ёй аўтар сцвярджае, што «Францыя і Няметчына, дапаўняючы адна адну, зробяцца дасканалым выразнікам новай Еўропы» (p.163). Пар., наадварот, артыкул Ф. І. Цютчава «Ліст доктару Густаву Колбу» (Расія і Германія) (1844), у якім магчымы франка-нямецкі звяз інтэрпрэтуецца ў кантэксце агульнаеўрапейскай змовы супраць Расіі.

аднымі абяцаннямі – ніхто так і не дапамог мне зазірнуць у сутнасць спраў. Шматлікія таямніцы засталіся непранікальнымі для майго разумення.

Пражыві я ў Расіі цэлы год, я даведаўся б крыху больш, тады як суровасьці зімы мяне тым больш турбавалі, чым больш запэўнівалі мяне мясцовыя жыхары, што яна не такая ўжо і жахлівая. Задзеравянеўшыя члены і абмарожаныя твары для іх нішто; між тым я б мог прывесьці вам не адзін прыклад падобных нягод якія адбыліся нават са свецкімі дамамі – як іншаземнымі, так і рускімі; прычым, аднойчы абмарозіўшыся, чалавек адчувае наступствы падобнай бяды ўсё жыццё; рызыкуючы, ва ўсякім разе, атрымаць невылечваемы неўралгічны боль, я вырашыў не падвяргаць сябе дарэмна падобнай небяспецы, а таксама і нудзе, ад якой даводзіцца пакутаваць, каб іх пазбегнуць. Наогул у гэтай імперыі маўклівасьці, з яе бясконцымі пустымі прасторамі, з голымі раўнінамі, з рэдкімі гарадамі, з замкнёнымі асобамі, чыя няшчырасць робіць пустым і ўсё грамадзкае жыццё, мяне апаноўвала туга, я бег не толькі ад марозу, але і ад спліну. Што б ні казалі, але хто вырашыцца правесьці зіму ў Пецярбургу, той павінен на шэсць месяцаў забыцца пра жывую прыроду і сядзець увесь час у асяродку людзей, пазбаўленых жывых і натуральных пачуццяў[455].

Кажучы шчыра, я правёў у Расіі жахлівае лета, бо толькі маленькую частку ўбачанага мне давялося па-сапраўднаму зразумець. Я спадзяваўся дабрацца да разгадак, а прывёз жа вам адны загадкі.

Асабліва я шкадую, што не здолеў раскрыць адну таямніцу – зразумець, чаму ж у Расіі такім малым уплывам карыстаецца рэлігія.

Хіба праваслаўная царква, нягледзячы на сваю палітычную падпарадкаванасць, не магла захаваць хоць нейкую духоўную ўладу над народам? Аднак яна зусім яе не мае. Адкуль такое нікчэмнае становішча царквы, якой усё, здавалася б, дапамагае ў яе справах? Вось у чым пытанне. Магчыма, праваслаўнай царкве наогул уласціва цэпянець ў нерухомасьці, задавальняючыся аднымі вонкавымі знакамі павагі? Або такі непазбежны вынік усюды, дзе духовная ўлада трапляе ў поўную залежнасць ад свецкай улады? Сам я так і лічу, але хацеў бы мець магчымасць даказаць вам гэта з дапамогай дакументаў і фактаў. Выкажу ўсё ж у некалькіх словах выснову са сваіх назіранняў над стасункамі рускага святарства з вернікамі.

Я ўбачыў у Расіі хрысціянскую царкву, якая не зведвае нічыіх нападаў, якую ўсе, ва ўсякім разе знешне, шануюць; усё спрыяе гэтай царкве ў

---

[455] [заўвага аўтара] У нядаўна надрукаваных лістах лэдзі Мантэгю  я выявіў максіму турэцкіх царадворцаў, прыдатную да ўсіх дагоднікаў, але асабліва да дагоднікаў рускіх – гэта азначае да ўсіх рускім наогул; яна дапамагае зразумець, што паміж Турэччынай і Масковіяй нямала падобнага: “Будзь ласкавы з фаварытамі, пазбягай апальных і не давярайся нікому” (Lady Mary Wortly Montegu's Letters, p. 159, t. 11). (лэдзі Мэры Вортлі Мантэгю народж. Пьерпон; 1690-1762 – жонка Эдуарда Вортлі Мантэгю, ангельскага пасланніка ў Канстантынопалі ў 1716-1718 гг., вядомая ў літературы сваімі “Лістамі”, выд. пасмяротна, 1763, т. 1-3. За дасканаласць эпісталярнага стылю лэдзі Мантэгю называюць “ангельскай спадарыняй дэ Сэвінье”. Паколькі Кюстын згадвае лісты, “надрукаваныя нядаўна”, можна выказаць здагадку, што ён карыстаўся поўным зборам твораў лэдзі Мантэгю ў 3 тамах, выдадзеным у 1836-1837 гг. у Лондане яе ўнучкай Луізай Сцюарт.)

выпраўленні яе духоўнай улады, і, аднак жа, яна не мае ніякай моцы ў сэрцах людзей, спараджаючы адно толькі ханжества ды забабоны.

У краінах, дзе рэлігію не шануюць, яна ні за што і не адказвае; тут жа, дзе святар у сваім служэнні падтрымліваецца усёй магутнасьцю неабмежаванай улады, дзе веравучэнне нікім не аспрэчваецца ні пісьмова, ні вусна, дзе царкоўныя звычаі зрабіліся як бы дзяржаўнымі законамі, дзе ўсе звычкі падтрымліваюць веру (ў нас жа яны ёй супярэчаць), – тут мы маем права выказаць царкве папрок ў безвыніковасьці яе высілкаў. Гэтая Царква мёртвая і разам з тым, мяркуючы па таму, што адбываецца ў Польшчы, здольная ладджваць ганенні, не маючы ні высокіх дабрачыннасьцей, ні вялікіх талентаў, каб заваяваць розумы; адным словам, рускай царкве недастае таго ж, чаго недостае гэтай краіне паўсюдна, – свабоды, без якой цьмянее святло і адлятае дух жыцця.

У Заходной Яўропе не ведаюць, якое месца занімае ў палітыцы Расіі рэлігійная нецярпімасць. Толькі што, пасьля доўгіх глухіх перасследаў, скасавана грэка-каталіцкая Царква; але ці вядома каталіцкай Яўропе, што сярод рускіх больш няма ўніятаў? Аслепленая сваёю філасафічнай асвечанасьцю, ці ведае яна наогул, хто такіе ўніяты?[456]

Вось адзін выпадак, які пакажа вам, як небяспечна ў Расіі выказваць сваё меркаванне адносна праваслаўнай царквы, і пра недахоп ў яе духоўнага ўплыву.

Некалькі гадоў назад адзін вельмі разумны чалавек, усімі паважаны ў Маскве, прыстойнага паходжання і характару, але, на бяду сваю, апантаны павагай да ісьціны (небяспечная паўсюль, у яго краіне гэтае захапленне смяротна небяспечнае), адважыўся заявіць ў друку, што каталіцкая рэлігія больш садзейнічае развіццю розумаў і расквіту мастацтваў, чым руска-візантыйская[457]; маючы на гэты рахунак такое ж меркаванне, што і я, ён адважыўся яго выказаць – недаравальнае злачынства для рускага. Усё жыццё каталіцкага святара, піша ён у сваёй кнізе, узвышаецца над зямным існаваннем (ва ўсякім разе павінна над ім узвышацца); гэтая штодзённая добраахвотная адмова ад грубых схільнасьцей чалавечай прыроды; гэта зноў і зноў прад'яўляемы бязбожнаму свету дзейсны доказ таго, што дух вышэй матэрыі; гэтае ахвяраванне на алтар веры, пастаянна паўтараемае, каб пераканаць самых бязбожных, што чалавек не цалкам падпарадкаваны магутнасьці плоці і што вышэйшы ўладыка можа даць яму моц не падрарадкоўвацца законам матэрыяльнага свету[458]. Затым ён дадае:

---

[456] [заўвага аўтара] З тых часоў як гэта было напісана, некалькі газет размясьцілі зварот папы да кардыналаў з вышэйпазначанай нагоды. Гэты зварот, поўны найвялікшай мудрасьці, сведчыць, што святога бацьку нарэшце прасьвяцілі пра небяспекі, супраць якіх я перасьцерагаю, і што зараз сапраўдныя інтарэсы веравызнання перавысілі ў Рыме над меркаваннямі свецкай палітыкі. (гл. заўв. да гэтага тама, с. 399.)

[457] Бяспрэчна, размова ідзе пра Пятра Якавіча Чаадаева (1794-1856) і пра яго першы "Філасофскі ліст", які быў надрукаваны (у перакладзе з французкай мовы) ў "Тэлескопе" (1836. № 15).

[458] Як ужо адзначалася (гл.: Cadot M. Tchaadaev en France // Revue des Etudes slaves. 1983. t. 55. Fasc. 2. p. 269), падобнага тэксту у Чаадаева няма; у творах Чаадаева адшукваюцца толькі самыя агульныя адпаведнасьці тым ідэям, якія прыпісвае яму Кюстын (гл., напрыклад, у лісьце шастым развагі пра хрысьціянскае грамадства, якое «пры ўсіх пераваротах <…> не толькі не страціла нічога са сваёй жыццёвасьці, але з кожным днём яшчэ павялічваецца ў магутнасьці» – Чаадаеў П. Я. Поўн. збор. твор. і

“Дзякуючы перабудовам, якія ажыццявіў час, каталіцкая рэлігія зараз здольна ўжываць свае схаваныя магчымасці толькі на дабро”; словам, ён сцвярджаў, што ў гістарычных лёсах славянскай расы нехапае каталіцызму, бо ў ім адным злучаны разам пастаянства энтузіязму, дасканаласць павагі да бліжняга і выразнасць разважанняў; сваё меркаванне ён падмацаваў шматлікімі доказамі, імкнучыся паказаць перавагі незалежнай, г. зн. сусветнай, рэлігіі перад рэлігіямі мясцовымі, якія сціснуты межамі палітыкі; увогуле, ён прытрымліваўся таго ж погляду, які я і сам увесь час абараняю як толькі магу.

**~ 194 ~**

Нават у недахопах характару рускіх жанчын гэты пісьменнік заўважае правіну праваслаўнай рэлігіі. Паводле яго слоў, жанчыны ў Расіі таму такія легкадумныя, што не здолелі захаваць той аўтарытэт у сям'і, які належыць мець жонцы і маці, што яны ніколі не атрымлівалі сапраўднага рэлігійнага выхавання.

Гэтая кніга, надрукаваная дзякуючы нейкаму цуду ці нейчыму хітрыку, які дазволіў пазбегнуць пільнасьці цэнзуры, узбудзіла ўсю Расію: у Пецярбургу і ў святой Маскве чуліся крыкі лютасьці і смуты, і нарэшце сумленне вернікаў настолькі памуцілася, што з усіх краёў імперыі сталі чуцца патрабаванні пакараць неабачлівага абаронцу маці ўсіх хрысьціянскіх цэркваў (апошняе не перашкаджала клеймаваць дзёрзкага пісьменніка за схільнасць да шкодных навінаў; гэта толькі адна із непаслядоўнасцей чалавечага духу, які ў мірскіх камедыях ледзь ледзь не заўсёды супярэчыць самі сабе; сапраўды, баявы кліч усіх сектантаў і раскольнікаў – “трэба шанаваць родную веру”; гэтую ісьціну зусім забыліся Лютар і Кальвін, якія ў рэлігіі зрабілі тое, што шматлікія героі рэспубліканцы жадалі б зрабіць у палітыцы, – дамагліся ўлады на сваю карысць); ітак, ні пуга, ні Сібір, ні галеры, ні руднікі, ні засьценак, ні высылка ў самыя глухія куты Расіі – нішто не задавальняла тых, хто бараніў бяспеку Масквы з яе візантыйскім праваслаўем ад інтрыг Рыма, якім служыла бязбожнае вучэнне чалавека, які здрадзіў Богу і айчыне!

Усе неспакойна чакалі прысуду, які вырашыў бы лёс такога вялікага злачынцы; вырашэнне справы зацягвалася, і ўжо быў бы час страціць надзею на вярхоўнае правасуддзе, але тут імператар ў сваёй безстароннай міласэрднасьці абвясьціў, што няма ні падстаў для пакарання, ні злачынцы, якога патрэбна караць, а ёсць толькі вар'ят, якога патрэбна ўтрымліваць пад замком; хворы, дадаў ён, будзе перададзены пад нагляд лекараў.

Гэты новы род катавання быў той жа час ужыты, ды з такой суровасьцю, што абвешчаны вар'ятам ледзь не стаў годным недарэчнага прысуду, вынесенага самаўладным кіраўнікам царквы і дзяржавы[459]. Пакутнік ісьціны быў

---

абраныя лісты. М., 1991. т. 1. с. 403). Пытанне пра знаёмства Кюстына з рэальнымі тэкстамі Чаадаева, а не толькі з вуснай легендай, застаецца адкрытым. Творы Чаадаева на французскай мове былі ўпершыню выдадзены ў 1862 г., пасьля сьмерці Кюстына; «телескопская» публікацыя заставалася яму недаступнай, бо ён не ведаў рускай мовы. Сама прыблізнасць пераказвання і памылковае найменне часопіснай публікацыі, якая выклікала скандал і наклікала на аўтара праслед, кнігай, сведчаць пра тое, што Кюстын ведаў пра Чаадаева із чужых слоў.

[459] Каментар Грэча: «Па-першае, заўважым, што складанне, пастаўленае яму ў правіну, было не кніжкай, а артыкулам, надрукаваным у адным із маскоўскіх часопісаў. Аўтар сабраў у ёй

блізкі да таго, каб і сапраўды страціць розум, якога быў пазбаўлены згодна з найвышэйшым загадам. На працягу трох гадоў няўхільна вытрымліваючы жорсткае і зневажальнае лячэнне, няшчасны вялікасвецкі багаслоў толькі нядаўна пачаў карыстацца некаторай свабодай; але – вось дзіва! – зараз ён сам сумняваецца ў сваім розуме і, даверыўшыся слову імператара, прызнаў сам сябе страціўшым розум!...[460] Асуджваючае слова гасудара сёння ў Расіі параўноўваецца з папскім адлучэннем пад час Сярэдневечча!!

Кажуць, што зараз гэтаму ілжэвар'яту дазволены стасункі з некаторымі із сяброў; калі я быў у Маскве, мне прапанавалі наведаць няшчаснага ў яго адзіноце; але я быў спынены жахам і нават часткова спачуваннем, бо мая цікаўнасць магла абцяжарыць яго становішча[461]. Якое пакаранне зведалі цэнзары выдадзенай ім кнігі, мне не сказалі[462].

Вось вам свежы прыклад таго, як вырашаюцца зараз у Расіі ўчынкі сумлення. Пытаюся ў апошні раз: ці мае права падарожнік, які меў няшчасьце ці ж шчасьце здабыць такія звесткі, пакінуць іх невядомымі? У падобных абставінах

---

разнастайныя і вельмі недаравальныя, дзікія выбрыкі супраць Расіі, яе царквы, урада і насельніцтва. Будзь ён аддадзены пад суд, яго бясспрэчна чакаў бы самы суровы прысуд. Імператар паступіў інакш: ён загадаў паставіцца да выдумшчыка як да чалавека, які страціў розум. Маркіз сцвярджае, што гэты загад быў выкананы з найвялікшай суровасьцю. Нічога падобнага. Проста цягам некаторага часу лекар кожную раніцу з'яўляўся да вінаватага, мацаў яму пульс, аглядаў язык і прапісваў прыдатныя да выпадку лекі. Няма чаго і казаць, што падобнае стаўленне абразіла аўтара куды мацней, чым якая б то ні была іншая кара: яго выставілі перад усім светам як звар'яцелага, як шаленца. Не ведаю, колькі часу працягвалася гэтае лекаванне, але ў мяне няма сумненняў, што яно зрабіла вельмі станоўчае ўздзеянне не толькі на хворага, але і на іншых асоб» (Gretch. p. 104).

[460] Магчыма, водгук дайшоўшага да Кюстына паведамлення пра тое, што ў 1837 г. Чаадаеў напісаў артыкул «Апалогія вар'ята». Сам Чаадаеў неаднаразова абмяркоўваў гэты пасаж Кюстына ў сваім ліставанні. 20 красавіка 1849 г. ён пісаў брату М. Я. Чаадаеву: «Маркіз Кюстын, у кнізе сваёй пра Расію, хоць і з добрым намерам <…> між іншым сцвярджае, што з некаторага часу я і сам лічу сябе вар'ятам»; 5 студзеня 1850 г. прызнаваўся таму ж адрасату, што «нярвовыя прыпадкі» даводзяць яго «амаль да ўтрапёнасьці; дзіўнае пацверджанне слоў Кюстына» (Чаадаеў П. Я. Поўн. збор. твораў і абраныя лісты. М., 1991. т. 2. с. 218, 229), а восенню 1843 г. прасіў сваю кузіну Е. Д. Шчарбатаву, якая знаходзілася ў гэты час у Парыжы, «апраўдаць яго перад Кюстынам: што ён не нешчаслівы» (дзённікавы запіс А. Я. Тургенева ад 9/21 кастрычніка 1843 г; гл.: Мільчына В. А Аспават А. Л. Чаадаеў і маркіз дэ Кюстын: зваротная рэпліка 1843 г. // Russica Romana. 1994. v. I. p. 84-85).

[461] Пытанне пра тое, ці адбылося асабістае знаёмства Кюстына з Чаадаевым у бытнасць французскага вандроўніка ў Маскве, таксама не паддаецца задавальняючаму вырашэнню. Аргументы супраць атаясамлення з Чаадаевым с-ра***, паказваўшага Кюстыну Маскву, і асвечанага суразмоўцу маркіза, які абмяркоўваў з ім багаслоўскія праблемы ў Ангельскім клубе, гл. у заўвазе. да гэтага, тама, с. 143 і 174. Што ж да наведвання Кюстынам кватэры Чаадаева на Басманнай, то адзінае сведчанне, якое аспрэчвае прызнанне самога маркіза, – урывак із мемуараў Д. Н. Свярбеева (гл.: Свярбееў Д. Н. Нататкі. М., 1899. т. 2. с. 405), – носіць занадта агульны характар, каб яго можна было прыняць безумоўна: Кюстын тут памянёны сярод доўгага пераліку еўрапейскіх славутасьцей, што наведалі Чаадаева, прытым некаторыя із іх, прыкладам, Праспер Мерымэ, названы бяспрэчна памылкова.

[462] Цэнзар Аляксей Васільевіч Болдыраў (1780-1842), які, мяркуючы па некаторых успамінах, падпісаў чаадаеўскі артыкул, не чытаючы, быў 30 лістапада 1836 г. «за нядбанне адстаўлены ад службы», што скасоўвала яго права на пенсію, якую, аднак, у лютым 1837 г. дзякуючы клопатам апекуна Маскоўскай навучальнай акругі і старшыні маскоўскага цэнзарнага камітэта С. Г. Страганава яму ўсё ж прызначылі; рэдактар «Тэлескопа» Мікалай Янавіч Надзеждзін (1804-1856) за публікацыю «Філасафічнага ліста» быў сасланы ва Усць-Сысольск (зараз Сыктыўкар).

дакладнае дапамагае разабрацца ва ўяўным, і із таго і другога разам утвараецца перакананасць, якою чалавек абавязаны, калі зможа, падзяліцца са светам.

**~ 195 ~**

Сваё апавяданне я вёў без асабістай нянавісьць, але і нікога не баючыся і не стрымліваючы сябе; я быў гатовы нават здацца сумным.

Краіна, дзе я пабываў на гэты раз, настолькі ж змрочная як і аднатонная, наколькі апісанная мною раней была яскравая і шматвобразная. Пісаць яе выяву адпавядаючую сапраўднасьці – значыць адмовіцца ад надзеі прынесьці каму-небудзь задавальненне. Жыццё ў Расіі такое ж тусклае, якое яно вясёлае ў Андалузіі; рускі народ пануры, гішпанскі поўны агню. У Гішпаніі палітычная несвабода замяшчаецца асабістай незалежнасьцю, магчыма, нідзе не развітай так моцна, незалежнасцью ўражваючай па сваіх наступствах; у Расіі і тая і другая свабода аднолькава невядомы. Гішпанец жыве згодна сардэчных прыхільнасьцей, рускі згодна разліку; гішпанец пра ўсё апавядае, а калі распавясьці няма пра што, то выдумляе; руская ўсе хавае, а калі хаваць няма чаго, то маўчыць, каб не выглядаць гаварлівым або нават без усялякага разліку, проста згодна звычкі; Гішпанія кішыць разбойнікамі, але крадуць там толькі на вялікай дарозе; у Расіі дарогі бяспечныя, затое вас абавязкова абкрадуць у хаце; Гішпанія поўніцца гістарычнымі ўспамінамі і руінамі ўсіх вякоў; Расія ўзнікла толькі учора, і яе гісторыя багата аднымі абяцаннямі; у Гішпаніі грувасцяцца горы, і падарожнік на кожным кроку бачыць новыя выявы; ў Расіі ад края і да края яе раўнін выгляд мясцовасьці адзін і той жа самы; Севілья заліта сонцам, святлом якога творыцца жыцьцё на ўсёй Іберыйскай паўвыспе; у пецярбургскім пейзажы неба ўдалечыні заўсёды зацягнута туманам і нават яснымі летнімі вечарамі застаецца цьмяным; ітак, дзве гэтыя дзяржавы ва ўсім процілеглыя адна другой, як дзень і ноч, як агонь і лёд, як Поўдзень і Поўнач.

Толькі пажыўшы ў гэтай пустыні, дзе няма спакою, у гэтай турме, дзе не бывае вольнага часу, – пачынаеш адчуваць, наколькі ж вольна жывецца ў іншых краінах Яўропы, якое б кіраўніцтва ні было ў іх усталявана. У Расіі, не стамлюся паўтараць, свабоды няма ні ў чым – хіба што, як мне казалі, у адэскім гандлі. Таму-та імператар, надзелены прароцкім нюхам, недалюблівае той незалежны дух, што пануе ў гэтым горадзе, які абавязаны сваім росквітам розуму і непадкупнасьці француза[463]; гэта, аднак жа, адзіны горад ва ўсёй шырокай імперыі, дзе людзі могуць шчыра ўхваляць існуючае цараванне[464].

---

*463* [заўвага аўтара] С-ра герцага дэ Рышэлье, міністра пры Людовіку XVIII. (Рышэлье Арман Эмануэль дзю Плесі дэ Шынон, герцаг дэ (1766-1622) – старшыня рады міністраў Францыі ў 1815-1818 і 1820-1821 гг.).

464 Магчыма, водгук апавяданняў Баранта, які адзначаў, што дзякуючы генерал-губернатару М. С. Варанцову ў Адэсе «можна жыць з некаторай вольнасьцю і спакоем <…> удалечыні ад імператара, чыйго ўсеўладдзя немагчыма пазбегнуць, жывячы паблізу двара»; у дадатак, сведчыць Барант, Адэса – «нейкі прыстанак для трапіўшых у няласку царадворцаў, для сямействаў, што не дамагаюцца царскай прыхільнасьці і выказваючых густ да незалежнасьці, для незадаволеных сваім становішчам адстаўленых урадоўцаў. Тут яны знаходзяць волю размаўляць на розныя тэмы, грамадства нешматлікае, але пазбягаючае фанабэрыстасьціі, магчымасць частых стасункаў з Яўропай. <…> Усё гэта не падабаецца імператару. Росквіт Паўднёвай Расіі не апраўдвае ў яго вачах паслаблення пакорнасьці, здраду дысцыпліне, якая павінна быць заўсёды па-вайсковаму цвёрдай» (Notes. P. 173-175).

Калі ваш сын будзе незадаволены Францыяй, зрабіце так як я вам параю – скажыце яму: “Едзь ў Расію”. Такое падарожжа пойдзе на карысць кожныму еўрапейцу; пабачыўшы сваімі вачамі гэтую краіну, кожны стане задаволены жыццём ва ўсякім іншым месцы. Заўсёды карысна ведаць, што ёсць на сьвеце дзяржава, дзе няма месца для шчасьця, – бо чалавек, згодна закону сваёй прыроды, не можа быць шчаслівым без свабоды.

Памяць пра такую дзяржаву падахвочвае не быць занадта прыдзірлівым; вярнуўшыся да роднай хаты, падарожнік можа сказаць пра сваю айчыну тое, што адзін разумны чалавек казаў пра сябе самаго: “Узважваючы сам сябе, я сціплы; параўнанне ж з іншымі робіць мяне ганарлівым”.

# Дадатак

*Гісторыя сс.. Жырара і Грасіні, трапіўшых ў палон у Расіі. – Апавяданне с-ра Жырара. – Мая размова са с-ром Грасіні. – Афіцыйная гісторыя зняволення ў Расіі і высылкі ў Данію прынцаў і прынцэс Брауншвейгскіх пад час царавання Кацярыны II (узята з першай часткі “Нататак Расійскай імператарскай акадэміі”). – Урывак із “апісання Масквы” Лекуэнта дэ Лаво. – Маскоўскія турмы.*

**Лістапад 1842 года.**

У гэтым годзе выпадак звёў мяне з двума людзьмі, якія служылі ў нашым войску падчас кампанні 1812 года і, патрапіўшы ў палон у Расіі, пражылі там некалькі гадоў. Адзін з іх – француз, зараз настаўнік рускай мовы ў Парыжы, на імя с-р Жырар; другі – італьянец, с-р Грасіні, брат знакамітай спявачкі маючай тое ж прозвішча[465], якая ўразіла Яўропу сваёй прыгажосьцю, а сваім талентам садзейнічала славе сучаснай італьянской школы[466].

Гэтыя двое паведамілі мне некаторыя звесткі, узаемна падмацоўваючыя адзін аднаго і, як ўяўляеце, даволі цікавыя і заслугоўваючыя абнародавання.

Паколькі гутарку сваю са с-ром Грасіні я запісаў дакладна, то і передам яе тут з усёй дакладнасьцю, падрабязнасці ж, павядамленыя с-ром Жырарам, я запісаць не надумаўся і магу перадаць іх толькі ў кароткім выкладанні. Абодва апавяданні настолькі падобныя, што могуць здацца спісаннымі адно з другога; такое падабенства яшчэ больш замацоўвае давер, які абудзілі ў мяне абедзве

[465] Маецца на ўвазе Жозэфіна Грасіні (1773-1850), якая дэбытавала ў 1794 г. у міланскім тэатры “Ла Скала”, у 1804 г. згодна з запрашэннем Банапарта, з якім мела стасункі, пасялілася ў Парыжы, а пасьля падзення імператара вярнулася ў Мілан, дзе ў 1841-1842 г. з ёю пастаянна сустракаўся Кюстын (гл. Tarn. p. 491). Ж. Грасіні, у прыватнасьці, брала ўдзел у пастановах опер Мікола Антоніа Цынгарэлі (1752-1837) “Рамэо і Джульета” і “Артаксеркс”, у оперы “Тэлемак на выспе Каліпсо” Іагана Сымона Майера (у сучасным напісанні Майра 1763-1845), а таксама ў операх Джавані Паэзіэла (1740-1816).

[466] [заўвага аўтара] Усім старым аматарам музыкі зразумела тое непараўнальнае ўражанне, якое яна вырабляла пры выкананні дзівосных арый Майера, Цынгарэлі і Паэзіэля, і асабліва ў абавязковых рэчытатывах. Стварыўшы цэлую эпоху ў гісторыі мастацтва, яна была ўзорам для буйнейшых талентаў нашага часу дзякуючы сваёй трагічнай выразнасьці, непадробнай, сапраўды італьянскай высокароднасьці тону, незвычайнаму стылю выканання і энергічнай дэкламацыі.

асобы, якія паведамілі ніжэй выкладзеныя звесткі. Заўважце, што гэтыя людзі зусім незнаёмы паміж сабой, ніколі не сустракаліся і нават не ведаюць пра існаванне адзін аднаго.

**~ 196 ~**

Пачну з таго, што распавёў мне с-р Жырар.

Ён трапіў ў палон падчас адступлення і адразу быў накіраваны ў глыбіню Расіі ў суправаджэнні атрада казакаў. Калона, у якой ішоў небарака, налічвала тры тысячы французаў. Мароз узмацняўся кожны наступны дзень, а палонных, не звяртаючы ўвагі на зімовы час, павялі праз Маскву яшчэ далей, каб размяркаваць па ўнутраных губернiях.

Смяротна галодныя і змучаныя, яны былі вымушаны часта спыняцца ад стомленасьці; іх тут жа шчодра частавалі моцнымі ўдарамі палкі, каб такім чынам дадаць ім моцы і прымусіць ісьці далей, да самой сьмерці. На кожным пераходзе некалькі чалавек із ліку гэтых няшчасных, кепска апранутых і блага накормленых, пазбаўленых усякай дапамогі і пакутаваўшых ад жорсткага абыходжання, пакідалі ляжаць у снезе; упаўшы, яны адразу прымярзалі да зямлі і больш не падніmaліся. Самі каты былі застрашаны іхным крайне цяжкім становішчам...

Іх кусалі насякомыя, іх з’ядала ліхаманка і галеча, яны ўсюды неслі з сабою заразу і выклікалі жах ў сялян, да якіх іх змяшчалі на пастой. Пад палкамі яны ішлі да месца, вызначанага для адпачынку; але і там іх сустракалі таксама палкамі, не дазваляючы ні набліжацца да людзей, ні заходзіць ў хаты. Іншыя, дайшоўшы да крайнасьці, у раз’юшанасьці адчаю кідаліся адзін на аднаго з кулакамі, узброіўшыся дрынамі і камянямі, шукаючы ў забойстве таварыша апошнюю крыніцу пракармлення, бо ацалелыя ў бойцы з’ядалі потым ногі забітых!!! На такія жахлівыя злачынствы вымушала нашых суайчыннікаў нялюдзкасць рускіх.

Мы не забыліся, што ў той жа самы час іншыя прыклады давала хрысьціянскаму свету Германія. Франкфуртскія пратэстанты да гэтага часу памятаюць пра самаадданасць біскупа Майнцкага, які, не баючыся падчапіць заразу, сам з усім клірам прыязджаў на рачным судне у Франкфурт і забіраў адтуль у Майнц няшчасных нашых жаўнераў, каб іх лячыць ці хаця б даглядаць за імі да сьмерці[467]; а італьянскія каталікі з удзячнасьцю згадваюць пра тое, як ім дапагалі пратэстанты ў Саксоніі.

Ноччу на стаянках людзі, пачуўшы набліжэнне сьмерці, у жаху падніmaліся на ногі, каб змагацца з агоніяй стоячы; схопленыя марозам ў сваіх апошніх сударагах, яны так і заміралі, прытуліўшыся да сьцяны, задубянелыя і застылыя. На іхных худых членах замярзаў смяротны пот; іхныя вочы назаўсёды заставаліся не закрытымі, а целы захоўвалі позу тых сударагаў, у якіх іх агарнуў пагібельны мароз. Так гэтыя трупы і стаялі, пакуль іх не адрывалі ад зямлі, каб спаліць; і лягчэй было аддзяліць не падэшву ад апоры, а шчыкалатку ад ступні. Зранку

---

[467] Размова ідзе пра падзеі снежня 1792 г., калі французкае войска, якім кіраваў дзед Кюстына; было вымушана здаць прусакам Фрнкфурт (гл. заўвагу да т. І с. 33).

іхныя таварышы, паднімаючы галаву, бачылі сябе ў атачэнні варты із ледзь ахалоджаных статуй, якія былі пастаўлены вакол лагера нібы перадавыя дазорныя іншага свету. Немагчыма перадаць ўвесь жах падобных абуджэнняў.

Кожную раніцу, перад выхадам калоны, рускія палілі мерцвякоў, а часам – ці магчыма сказаць? – часам спальвалі і яшчэ толькі паміраючых!..

Вось што пserved перажыў с-р Жырар, вось якія пакуты выпалі на яго долю; дзякуючы сваёй маладосьці і шчаслівай зорцы ён здолеў іх перанесьці.

Гэтыя факты, якімі б жахлівымі яны ні былі, здаюцца мне не больш жахлівымі, чым шмат іншых апавяданняў, запісаных гісторыкамі; але чаго я ніяк не магу растлумачыць, чаму мне нават цяжка паверыць, дык гэта тое, чаму маўчаў пра іх сам француз, які вырваўся із гэтай безчалавечнай дзяржавы і які назаўсёды вярнуўся да сябе на радзіму.

С-р Жырар ніяк не хацеў абнародаваць апавяданне пра перанесеныя ім пакуты – згодна з яго славамі, праз павагу да імператара Аляксандра; той каля дзесяці гадоў трымаў яго ў Расіі, і ён, вывучыўшы мясцовую мову, служыў настаўнікам французкай мовы ў казенных навучальнях. Як шмат жорсткага самавольства, як шмат хлусні і падману пабачыў ён у гэтых шматлюдных школах! Але нішто не магло прымусіць яго парушыць маўчанне і паведаміць Яўропе пра такія абуральныя бязладдзі!

Імператар адпусьціў яго ў Францыю, сустрэўшы аднойчы пры аглядзе нейкай правінцыяльнай гімназіі. Сказаўшы яму некалькі ласкавых слоў з нагоды жадання пакінуць Расію, якое палонны ўжо даўно выказваў свайму начальству, імператар нарэшце дараваў яму шмат разоў папрошаны дазвол вярнуцца ў Францію; ён нават загадаў даць яму грошай на дарогу. Гасудару, верагодна, спадабалася пакорлівая знешнасць с-ра Жырара.

Так праз дзесяць гадоў, цудам выратаваўшыся ад сьмерці, небарака дачакаўся заканчэння свайго палону. Пакідаючы краіну катаў і турэмшчыкаў, ён гучна ўхваляў рускіх і выказваў удзячнасць за выказанную імі гасьціннасць.

– І вы нічога гэтага не запісалі? – спытаў я, уважліва выслухаўшы яго апавяданне.



– У мяне быў намер распавясьці ўсё, што ведаю, – адказваў ён, – але я чалавек невядомы і не знайшоў бы сабе ні выдаўцу, ні чытача.

– Праўда рана ці позна сама праб'е сабе шлях, – сказаў я.

– Мне б не хацелася гаварыць яе на шкоду гэтай краіне, – запярэчыў с-р Жырар, – бо імператар быў да мяне такі добры!

– Так... – працягваў я, – толькі да чаго ж лёгка ў Расіі праславіцца добрым.

– Калі я атрымоўваў пашпарт, мне параілі быць стрыманым.

Вось як дзесяцігадовае знаходжанне ў гэтай краіне здольна падзейнічаць на розум чалавека, народжанага ў Францыі, адважнага і сумленнага. Зыходзячы із гэтага разлічыце самі, якія маральныя разуменні перадаюцца із пакалення ў пакаленне сярод саміх рускіх...

У лютым 1842 года, будучы ў Мілане, я сустрэўся са с-ром Грасіні, які распавёў мне, што ў 1812 годзе, знаходзіўся ў войску віцэ-караля Італіі[468], ён падчас адступлення трапіў ў палон у ваколіцах Смаленска. Пасьля гэтага ён два гады пражыў у глыбіні Расіі. Вось наша размова з ім; перадаю яе з усёй магчымай дакладнасьцю, так як запісаў яе ў той жа дзень.

– Вам, павінна быць, давялося шмат пакутаваць ў гэтай краіне ад нялюдзкасьці жыхароў і суровасьці клімату[469]? – спытаў я.

– Ад марозу – так, – адказваў ён, – але із гэтага не вынікае, што рускія пазбаўлены чалавечнасьці.

– Ну, а калі яны і на самай справе безчалавечныя, – што ж за бяда ў тым, каб сказаць пра гэта ўслых? Навошта дазваляць рускім ганарыцца цнотамі, якіх у іх няма?

– У глыбіні дзяржавы мы сустрэлі нечакана дапамогу. Простыя сялянкі і знатныя дамы прысылалі нам вопратку ад марозу, лекі ад хвароб, ежу і нават бялізну; іншыя з іх прыходзілі даглядаць за намі прама ў лагер, грэбуючы заразай, якую мы неслі з сабою, – бо праз нястачы сярод нас былі распаўсюджаны жахлівыя хваробы, якія распаўсюджваліся пасьля нас усюды, дзе пралягаў наш шлях. Каб прыйсьці да нас на стаянку, патрабавалася не лёгкае спачуванне, а вялікая мужнасць, сапраўдная дабрачыннасць; гэта я і называю чалавечнасьцю.

– Не хачу сцвярджаць, што сярод агульнай жорсткасьці, якую я назіраў у рускіх, не бывае выключэнняў. Усюды, дзе ёсць жанчыны, ёсць і пачуццё спагады; ва ўсякай краіне сустракаюцца жанчыны, здольныя да гераічнага спачування; ўсё ж дакладна, што ў Расіі і законы, і звычкі, і норавы, і характары пазначаны жорсткасьцю: нашы няшчасныя палонныя столькі зведалі ад яе пакут, што нам цяжка так ужо славіць чалавечнасць тамашніх жыхароў.

– Я таксама зведаў пакуты, як і іншыя, і нават больш чым шмат хто із нас, бо я вярнуўся на радзіму амаль сляпым; ўжо трыццаць гадоў я безпасьпяхова спрабую ўсімі сродкамі лекаваць свае вочы; я напалову страціў зрок; ранішнія

---

[468] Віцэ-кароль Італіі – Яўген дэ Багарнэ (гл. заўвагу да т. I, с. 196).

[469] Пакуты і смерць палонных французаў ад марозу і благога стаўлення, замёршыя трупы, якія не было каму хаваць, начлегі ў пустых неацяпляемых будынках – паўтараючыяся тэмы ўспамінаў, пакінутых шмат кім із французаў, якія пабывалі ў рускім палоне; гл., напрыклад: Дэ Ла Фліз. Паход Напалеона ў Расію ў 1812 годзе. М., 1912. с. 81-85; Пра знаходжанне ў палоне ў Віцебску ў 1812 і 1813 гг. замежнікаў афіцэраў напалеонаўскага войска // Полацка-Віцебская даўніна. Віцебск, 1916. Вып. 3. с. 227-228. Але асабліва блізкія да тэксту Кюстына (аж да даслоўнага супадзення асобных фраз) успаміны вайскоўца лекара Ф. Мерс'е, пераказаныя Ж.-Ж.-Э. Руа ў кнізе «Французы ў Расіі. Успаміны пра кампанію 1812 г. і двухгадовым знаходжанні ў рускім палоне» (1867; рус. пер 1912; гл. 5); тут фігуруюць і спальваемыя на вогнішчах целы людзей, якія, выяўлялася, яшчэ не памёрлі, і прымярзаўшыя да зямлі трупы, і мёртвыя целы, якія жаўнеры сцягваюць за ногі із другога паверха, так што галава стукалася па прыступках, а суайчыннікі нябожчыкаў прамаўлялі; «Ім не баліць, яны памёрлі» («Ils ne souffrent plus, ils sont morts» – фраза Руа, што даслоўна супадае з фразай Кюстына; гл.: Roy J.-J.-E. Les Franзais en Russie. Souvenirs de la campagne de 1812 et de deux ans de la captivite en Russie. Tours, 1867. p. 93).

росы ў Расіі, нават у жаркія перыяды году, пагубныя для ўсякага, хто спіць пад адкрытым небам.

– Вас вымушалі начаваць лагерам?

– Інакш было нельга падчас паходу, які нам давялося зрабіць.

– Значыць, пры марозе ў дваццаць або трыццаць градусаў у вас не было ніякага даху над галавой?

- Так, але пакутавалі мы на гэтых вымушаных стаянках праз жорсткасць клімату, а не людзей.

– А ці не здаралася, што і людзі дадалі да жорсткасці прыроды сваю неапраўданую жорсткасць?

– Сапраўды, мне даводзілася быць сведкам жорсткіх учынкаў, годных дзікага народа. Але я не браў да ўвагі гэтыя жахі праз сваю моцнаю павагу да жыцця; я казаў сабе – калі паддацца абурэнню, гэтым толькі падвоіш небяспеку: альбо я сам задыхнуся ад гневу, або мяне прыб'е варта, абараняючы гонар сваёй дзяржавы. У чалавечай самапавазе столькі крайнасьцей – бывае, што людзі здольны забіць чалавека, каб даказаць іншым сваю чалавечнасць.

– Так, вы маеце рацыю... Але ад таго, што вы кажаце, я не магу змяніць свайго меркаванне пра характар рускіх.

– Нас прымушалі ісьці гуртамі; начавалі мы за ваколіцамі вёсак, уваходзіць ж у іх нам забаранялі праз ліхаманку, якую мы несьлі з сабою. Вечарам мы лажыліся на зямлю, захутаўшыся ў плащ, паміж двух вялікіх вогнішчаў. Ранкам, перад тым як зноў выступіць у шлях, вартаўнікі лічылі памёршых і не хавалі іх (на гэта патрэбна было б занадта шмат часу і намаганняў праз тоўстае і цвёрдае покрыва снегу і лёду), а палілі на вогнішчы; такім чынам яны спрабавалі спыніць распаўсюджванне заразы; палілі разам і цела, і вопратку; але – ці паверыце? – не аднойчы здаралася, што ў полымя кідалі і яшчэ жывых людзей! На імгненне прыйшоўшы ў прытомнасць ад болю, гэтыя няшчасныя давяршалі сваю агонію ў крыках і пакутах на вогнішчы!

– Які жах!

– Рабіліся і іншыя жорсткасьці. Кожную ноч нашы шэрагі касіў люты мароз. Калі ўдавалася пры ўступленні ў горад знайсьці якую-небудзь пустуючую пабудову, мы захоплівалі гэтую хібарку, каб у ёй схавацца. У такіх пустых домах нас набівалі на ўсе паверхі. Але замярзалі мы там амаль так жа моцна, як і на паветры, таму што ўнутры пабудовы можна было распаліць агонь толькі ў пэўных месцах, а начуючы пад адкрытым небам, мы ўсё-такі распальвалі вогнішчы вакол усёй стаянкі. Ад таго шмат хто паміраў ад холаду ў пакоях, не маючы магчымасці сагрэцца.



– Але навошта вас гналі па краіне ў разгар зімы?

– Праз нас магла пачацца чума ў ваколіцах Масквы; я часта бачыў, як рускія жаўнеры выцягвалі мерцвякоў з верхняга паверху пабудовы, дзе мы спыняліся; цела валаклі за ногі, абвязаўшы вяроўкай за шчыкалаткі; а галава матлялася ззаду, падскокваючы і стукаючы па лесвічных прыступках з самага

верха і да першага паверха. “Ім не балюча, – гаварылі пры гэтым, – яны нябожчыкі!”

– І, вы лічыце, гэта вельмі па-чалавечы?

– Я распавядаю, што бачыў, спадар; здараліся рэчы і горшыя – я бачыў, як такім чынам прыканчвалі яшчэ жывых, і ад іх разбітай галавы на прыступках заставаўся крывавы след, жахлівы доказ жорсткасці рускіх жаўнер; павінен сказаць, што часам пры такіх лютых расправах прысутнічаў і афіцэр; але ўсе гэтыя жахі дапускаліся толькі ў надзеі спыніць заразу, паскараючы сьмерць тых, хто ўжо захоплены хваробай. Вось што я бачыў, і таварышы мае бачылі гэта кожны дзень, не абураючыся, – да такой ступені бедствы прытупляюць людзей!.. Заўтра так здарыцца і са мною, разважаў я; праз тое, што небяспека пагражала ўсім, маё сумленне заставалася спакойным, і мне лёгка было захоўваць бяздзейнасць.

– Мне здаецца, гэтае пачуццё вы захавалі і да гэтага часу, раз вы змаглі быць сведкам падобных рэчаў і маўчаць пра іх цэлых дваццаць восем гадоў.

– Усе два гады палону я найпадрабязнейшым чынам вёў свае нататкі; із фактаў, сваёй прыкметнасьцю і неверагоднасьцю пераўзыходзячыя ўсё надрукаванае на гэты рахунак, я сабраў цэлых два тамы; я апісаў, якому свавольству мы падвяргаліся; як нашу долю абцяжарвала жорсткасць дрэнных землеўладальнікаў, якія ў сваёй грубасьці пераўзыходзілі простанароддзе; якое суцяшэнне і дапамогу мы атрымалі ад добрых землеўладальнікаў; я распавёў, як жыццё палонных, а роўна і мясцовых жыхароў залежала ад выпадаку і людзкога капрызу; увогуле, я ўсё там распавёў!

– І што ж?

– Што ж! Калі мне дазволілі вярнуцца ў Італію, я спаліў сваю справаздачу, перш чым перайсці рускую мяжу.

– Але гэта ж злачынства!

– Так, але мяне абшуквалі; калі б у мяне знайшлі гэтыя паперы і прачыталі іх, то мяне высеклі б пугай і выслалі да скanання ў Сібір, і мае пакуты там не больш бы паслужылі чалавецтву, чым маё маўчанне тут.

– Не магу даравацць вам такой пакоры.

– Вы забываецеся, што яна выратавала мне жыццё, а мая сьмерць не прынесла б нікому карысьці.

– Але, ва ўсякім разе, пасьля вяртання на радзіму вы маглі б нанова напісаць сваё апавяданне.

– Я б ужо не змог гэтага зрабіць з такой жа дакладнасьцю; я больш не давяраю ўласнай памяці.

– Дзе ж вы жылі два гады свайго палону?

– У першым жа горадзе, дзе я змог знайсьці штаб-афіцэра, я папрасіў дазволу паступіць на службу ў рускае войска, так можна было пазбегнуць высылкі ў Сібір; маё прашэнне было прынята, і праз некалькі тыдняў мяне накіравалі ў Тулу, дзе я атрымаў месца хатняга настаўніка ў гараданачальніка; у гэтага чалавека я і пражыў два годы.

– І як вам жылося ў яго ў доме?

– Вучнем маім быў дванаццацігадовы хлопчык, я яго любіў, і ён, хоць і дзіця, таксама моцна да мяне прывязаўся. Ён распавёў мне, што яго бацька аўдавеў і купіў сабе ў Маскве сялянку, якую зрабіў сваёю наложніцай[470], і што праз гэтую жанчыну жыць у доме стала непрыемна.

– Што за чалавек быў гэты гораданачальнік?

– Сапраўдны тыран із меладрамы. Сваю годнасць ён разумеў у маўклівасьці; за тыя два гады, што я абедаў з ім за адным сталом, мы ні разу з ім словам не перакінуліся. Ён утрымліваў замест камедыянта аднаго сляпца, якога на працягу ўсяго абеду заставляў спяваць і ў маёй прысутнасці абражаць французаў, іхнае войска, іхных палонных; я дастаткова ведаў па-руску, каб часткова разумець яго непрыстойныя і грубыя жарты, а мой вучань канчаткова растлумачваў мне іхны сэнс, калі мы з ім ішлі ў свой пакой.

– Якое ж дрэннае выхаванне! А яшчэ прынята ўхваляць рускую гасціннасць! Вы толькі што згадалі пра дурных паноў, якія яшчэ больш пагаршалі становішча палонных; вам даводзілася такіх сустракаць?

– Да прыбыцця ў Тулу я ішоў з атрадам палонных; вёў нас адзін вельмі годны стары сяржант. Неяк вечарам мы спыніліся начаваць у маёнтку нейкага барона, чыёй жорсткасьці палохалася ўся акруга. Гэты буян хацеў уласнаручна нас перабіць, і сяржант, якому было даручана суправаджаць нас у пераходзе, з цяжкасьцю абараніў наша жыццё ад патрыятычнай лютасьці старога баярына.

**~ 199 ~**

– Што за людзі! Сапраўдныя нашчадкі апрычнікаў Яна IV. Хіба я не меў рацыю, абураючыся іхнай нялюдзкасьцю? Ці шмат грошай плаціў вам бацька вашага вучня?

– Трапіўшы ў яго дом, я быў зусім абарваны; каб мяне апрануць, ён загадаў краўцу перарабіць адзін із яго старых каптанаў; ён не пасаромеўся адзець выхаваценя свайго роднага сына ў абноскі, якія б ў Італіі адмовіўся надзець на сябе лакей.

– А рускія ж імкнуцца славіцца марнатраўнымі.

– Так, але ў сябе дома яны скарэдныя; калі праз Тулу праязджаў які-небудзь ангелец, то ў дамах, дзе яго павінны былі прынімаць, усё пераварочвалі ўверх дном. Сальныя свечкі на камінах замянялі васкавымі, чысьцілі пакоі, імкнуліся прыбраць слуг; словам, змяняліся ўсе жыццёвыя звычкі.

– Тое, што вы кажаце, цалкам падцверджвае мае ўласныя меркаванні; бачу, што ў канчатковым рахунку вы, спадар, думаеце так жа як і я, мы толькі па-разнаму выказваемся.

– Патрэбна прызнаць, што, калі пражывеш два гады ў Расіі, хочацца на ўсе махнуць рукой.

– Так, я бачу гэта па вас; і такі настрой ўласцівы ўсім?

---

[470] [заўвага аўтара] Як кажуць, у Расіі новымі законамі больш не дазваляецца прадаваць людзей без зямлі; але кажуць таксама, што заўсёды знойдуцца магчымасьці абыйсьці строгі закон. (Гл. заў. да т. I, с. 185.)

– Амаль усім; відавочна, што тыранічная ўлада мацнейшая за словы і што супраць падобных дзеянняў галоснасць не мае мацы.

– Трэба думаць усё ж, што ў ёй ёсць свая магутнасць, калі рускія настолькі яе баяцца. Прабачце, але менавіта вы, а таксама і іншыя вашы аднадумцы, сваёю недапушчальнай бяздзейнасьцю падтрымліваеце слепату Яўропы і ўсяго свету і пакідаеце прыгнятальнікам свабоду дзеянняў.

– Яны б яе і так мелі, нягледзячы на ўсе нашы кнігі і крыкі. Каб даказаць вам, што не я адзін так лічу, распавяду вам гісторыю аднаго із маіх таварышаў па няшчасьцю; ён быў француз[471]. Аднойчы вечарам гэты малады чалавек дайшоў да прыпынку хворым; ноччу ён страціў свядомасць, і ранкам яго разам з іншымі памёршымі адцягнулі да вогнішча, але ў агонь кідаць не сталі, паколькі яшчэ не сабралі іншых памёршых. На хвіліну жаўнеры пакінулі яго ляжаць на зямлі, а самі пайшлі за іншымі, якія валяліся непадалёку. Яго паклалі апранутым на спіну, тварам да неба; ён яшчэ дыхаў, нават чуў усё, што рабілася навокал; свядомасць да яго вярнулася, але ён не мог падаць ніякіх адзнак жыцця. Тут да нашага няшчаснага таварыша падышла адна маладая жанчына, уражаная прыгажосьцю рысаў і чуллівасьцю выразу твара гэтага мерцвяка; яна зразумела, што ён яшчэ жывы, паклікала на дапамогу, загадала забраць іншаземца, пачала лекаваць і выхадзіла яго – уваскрасіла із мёртвых. І вось ён, вярнуўшыся ў Францыю пасьля некалькіх гадоў палону, таксама не стаў запісваць сваю гісторыю.

– Але вы-та, спадар, чалавек адукаваны і незалежны, чаму вы не абнародавалі апавяданне пра свой палон? Падобныя звесткі, надзейна засведчаныя, прыцягнулі б увагу ўсяго свету.

– Сумняваюся; людзі да такой ступені цікавяцца самі сабою, што чужыя пакуты мала іх закранаюць. Да таго ж у мяне ёсць сям'я, вядомае становішча, я залежу ад свайго ўрада, які знаходзіцца ў добрых адносінах з урадам рускім, і яму не спадабаецца, што адзін із яго падданых абнародаваў здарэнні, якія хаваюцца ў той краіне, дзе яны адбыліся[472].

---

471 [заўвага аўтара] С-р Грасіні так і не пажадаў назваць мне імя гэтага вязьня.

472 [заўвага аўтара] Якім цудам рускі ўрад, па сваёй сутнасьці рэвалюцыйны, здолеў пераканаць ўсі ўрады Яўропы, што ён увасабленне антырэвалюцыйнага пачату ў свеце? Гэтаму дзіву я да гэтага часу дарэмна шукаю тлумачэння. Да чаго б мы дайшлі, калі б грамадзкі парадак лічыць магчымым толькі пры дэспатычным кіраванні? («Рэвалюцыйны» характар рускага самаўладдзя ў гэты час ужо стаў прадметам рэфлексіі; так, калі верыць П. В. Даўгарукаму, вялікі князь Канстантын Паўлавіч, раздражнёны намерам брата адразу пасьля ўступлення на пасад зрабіць паляпшэнні “па ўсіх галінах дзяржаўнага кіравання”, “у хвіліну гневу назваў нават Мікалая Паўлавіча якабінцам” (Далгарукі П. В. Пецярбургскія нарысы. М., 1992. С. 279), пар. таксама ў дзёніку Пушкіна пад 22 снежнем 1834 г. рэпліку паэта, адрасаваную вялікаму князю Міхалу Паўлавічу: “Усе Рамановы рэвалюцыянеры і ураўніцелі” і адказ вялікага князя: ”Дзякуй: так ты мяне жалуеш якабінцам!” (Пушкін. т. 8. с. 45). Кюстын тут палемізуе з афіцыйнай пецярбургскай дактрынай, згодна з якой Расія “цяперашнім спакоем, дабрабытам і паступовым сваім узвышэннем пры цяжкіх абставінах» супрацьстаіць “некаторым еўрапейскім дзяржавам, дзе рэвалюцыйны дух так злосна і часам так удала дзейнічае ў накірунку да разбурэння ўсякага ўладкавання”, і дзякуючы імператару ўяўле сабой «адзіную апору сваіх хаўруснікаў, адзіны аплот, стрымліваючы

– Перакананы, спадар, што вы паклёпнічаеце на свай урад; прабачце, але вінаватыя тут толькі вы самі з вашай занадта вялікай асьцярожнасьцю.

– Магчыма, толькі я ніколі не буду друкаваць, што ў рускіх няма чалавечнасьці.

– Добра, што я сам правёў у Расіі ўсяго некалькі месяцаў, бо заўважаю, што нават самым шчырым людзям, самым незалежным розумам, пражыўшым некалькі гадоў у гэтай дзіўнай краіне, усё астатняе жыццё здаецца, быццам яны па-ранейшаму знаходзяцца там ці ж што існуе пагроза ім туды вярнуцца. Вось чым і тлумачыцца тая недасведчанасць, у якой да гэтага часу нас трымалі адносна ўсяго таго, што там адбываецца. Сапраўдны характар тых, хто жыве ў глыбіні гэтай велізарнай і небяспечнай імперыі, – загадка для большасьці еўрапейцаў. Раз згодна з тымі ці іншымі падставамі ўсе пабываўшыя там згаварыліся, накшталт вас, маўчаць, не выказваючы гэтаму народу і яго ўраду непрыемнай праўды, – тады і Яўропе няма адкуль даведацца, як ацаніць гэтую ўзорную вязніцу. Ухваляць мяккасць дэспатызму, нават будучы па-за межамі яго дасягальнасьці, – асцярожнасць, на мой позірк, злачынная. Сапраўды, ёсць тут нейкая невытлумачальная таямніца; хай я не даведаўся пра яе, але, ва ўсякім выпадку, не подпаў пад зачараванне баязьні і дакажу гэта шчырасьцю свайго апавядання.

**~ 200 ~**

На заключенне гэтых доўгіх аавяданняў я лічу патрэбным пазнаёміць чытачоў з адным дакументам, які лічу сапраўдным[473].

---

далейшае распаўсюджванне смуты і бязладдзя ў Яўропе, і страшылішча злых рэвалюцыянераў” (Справаздача III Аддзяленне за 1835 – ГАРФ. Ф. 109. Оп. 223. № 2 Л. 59 аб.).

[473] Аўтар прыведзенага ніжэй артыкула – Васіль Аляксеевіч Паленаў (1776-1851), з 1830 г. кіраўнік часовай камісіі для разбору дзяржаўнага архіва і архіва санкт-пецярбургскіх дэпартаментаў урадаўнічага сената, а з 1834 г. – кіраўнік дзяржаўным архівам пры міністэрстве замежных спраў. Згодна з паведамленнем яго сына, Д. В. Паленава, рэпублікаваўшага гэты артыкул, упершыню надрукаваны ў першай частцы «Прац Расійскай акадэміі» за 1837 год, Паленаў разаслаў адбіткі гэтага тэксту сваім знаёмым, у тым ліку П. Б. Казлоўскаму, які нібы і зрабіў для Кюстына пераклад (гл.: РС. 1874. № 4. с. 647). Наяўнасць у французскім тэксце, апублікаваным Кюстынам, дзвюх грубых памылак, якія бясспрэчна тлумачацца дрэнным разуменнем рускіх слоў («былы там» перакладаецца як «былы» ў сэнсе «адстаўны»; «абнадзейванне» – як забеспячэнне цёплым адзеннем), прымушае ўсумніцца ў тым, што пераклад зроблены Казлоўскім, удзел якога, хутчэй за ўсё, абмежаваўся тым, што ён парэкамендаваў Кюстыну нейкага перакладчыка, магчыма, абрусеўшага француза. Кюстын памыляецца, паведамляючы, што артыкул «Пра апраўданне Браўншвейгскага сямейства» складзены для Кацярыны II; згодна з загадам імператрыцы складаліся паперы, на якія спасылаецца В. А. Паленаў, сам жа ён жыў пазней і складаў артыкул па архівах. На прыканцы XVIII ст. «звесткі пра Браўншвейгскае сямейства сустракаліся толькі ў замежных крыніцах і ў ненадрукаваных дзённіках і мемуарах сведак», з пачатку ж XIX ст. яны «пракрадаюцца на друкаваныя старонкі» (Ремарчук У. У. Нататка Пушкіна пра Жалезную Маску // Пушкін. Даследаванні і матэрыялы. Л., 1982. т. 10. с. 315-316; тамсама гл. бібліяграфію гэтых друкаваных звестак); пра Браўншвейгскае сямействе гл. таксама: Корф М. А. <пры ўдзеле В. В. Стасава>. Браўншвейгскае сямейства. М., 1993; Эйдэльман Н. Я. Пушкін. Гісторыя і сучаснасць у мастацкай свядомасьці паэта. М., 1984. с. 156-180. Сын Паленава ацаніў публікацыю артыкула бацькі ў кнізе Кюстына рэзка адмоўна, назваўшы маркіза за яго прадмову да перaклада «невукам і blagueur'ом <хлусам. — фр.>, які, каб быць верным свайму ілжываму

Мне не дазволена сказаць, якім чынам я яго здабыў; таму не гледзячы на тое, што выкладаемыя ў ім падзеі з’яўляюцца зараз набыткам гісторыі, у Пецярбургу было б небяспечным прызнавацца, што яны цябе цікавяць; ва ўсякім разе, гэта было б палічана як непрыстойнасць – такім умоўным разуменнем тут асьцярожна пазначаецца змова. Дык гэта ж агульнавядома, кажуць рускім. Так, адказваюць яны, але пра гэта ніколі не гаварылася. У араванне добрага і вялікага гасударa Яна III людзі ішлі на эшафот за крамолу[474]; так і сёння чалавек цалкам можа патрапіць ў Сібір за сваю злачынную *непрыстойнасць*.

Гэты дакумент, перакладзены з рускай мовы асобай, якая мне яго дала, з'яўляецца справаздачай аб зняволенні і высланні ў Данію пад час царавання Кацярыны II прынцаў і прынцэс Брауншвейгскіх – братоў і сясцёр Шлісельбургскага вязня Яна VI. З уздрыганнем чытаеш сведчанні атупення гэтых няшчасных, у якіх усе уяўленні пра жыццё звяліся да турэмных звычак і якія, аднак жа, адчувалі, хто яны такія. Пасад, які належаў ім па праву, быў заняты жонкай Пятра III, спадкаемцай уласнай ахвяры, – дарэчы, той і сам цараваў толькі дзякуючы ўзурпацыі.

Перад гэтым праўдзівым апавяданнем змяшчаю генеалогію сям’і Раманавых, якая даказвае, што вязні паходзілі па прамой лініі ад цара Яна V. Сямейства герцага Брауншвейскага стала ахвярай тых самых гасудароў, якія пазбавілі яго ўлады; бо ў Расійскай гісторыі права караецца, а злачынства ўзнагароджваецца.

Каб па вартасці ацаніць крывадушнасць царыцы ў дачыненні да сваіх вязняў, не варта забывацца, што сапраўдная справаздача пісалася для самой імператрыцы, а значыць, кожная акалічнасць выкладаецца із самага благапрыстойнага боку, і разам з тым да большага задавальнення вялікадушнай Кацярыны II. Гэтае апавяданне варта чытаць як канцылярскую паперу, як афіцыйны дакумент, а не як безстаронняе і прастадушнае апавяданне.

Гэты эпізод царавання Кацярыны II, выкладзены згодна найвышэйшага загаду з мэтай давесьці чалавечнасць Паўночнай Семіраміды.

# Выпраўленне Брауншвейгскай сям’і із Халмагораў

*З першай часткі прац Імператарскай расійскай акадэміі*

I

Доўга знаходділася Брауншвейгская сям’я ў зняволенні. Апошнім месцам яе знаходжання ў Расіі былі Халмагары, старажытны горад Архангельскай

пагляду, не спыняецца ні перад якою няпраўдай» (РС. 1874. № 4. с. 646). Паленаў-малодшы папракае Кюстына ў тым, што надрукаваны ў яго кнізе пераклад грашыць пропускамі. У перакладзе сапраўды ёсць недакладнасьці (у прыватнасьці, памылкі ў лічбах) і пропускі, аднак апушчаныя фразы і словазлучэнні не нясуць роўна ніякай ідэалагічнай нагрузкі. З другога боку, сам В. А. Паленаў цытаваў справаздачы А. П. Мельгунова Кацярыне II не даслоўна, часьцяком нават ва ўзятых у двухкоссе фрагментах пераказваючы тэкст Мельгунова сваімі словамі. У гэтым выданні тэкст Паленава друкуецца згоднв з «Працамі Расійскай акадэміі»; недакладнасьці французскага перакладу, апублікаванага Кюстынам, пазначаны ў нататках.

474 [заўвага аўтара] Глядзі кароткую справаздачу пра падарожжа.

губерніі, пабудаваны на Дзвінскім востраве, у 72 вярстах ад Архангельска. Яна размяшчалася ў адгароджаным ад іншага жылля доме, прызначаным уласна для яе і для прыстаўленых да яе чыноўнікаў і прыслужнікаў. Гулянне і карыстанне паветрам дазвалялася ёй толькі ў садзе, які знаходзіўся пры самым доме.

Няшчасны бацька, Антон Ульрых Брауншвейгскі, пазбаўлены жонкі сваёй, быўшай кіраўніцай дзяржавы Расійскай, і страціўшы нарэшце зрок, памёр 4 траўня 1774 года[475], не дажыўшы да свабоды, якую выпрошваў са слязамі. Тагачасныя палітычныя дачыненні не дазволілі выканаць яго жаданне. Ён пакінуў пасьля сябе двух сыноў і дзвух дочак.

Старэйшая із іх, прынцэса Кацярына, нарадзілася ў Санкт-Пецярбургу да здарыўшагася з яе бацькамі няшчасьця; прынцэса Елісавета ў Дынаміндзе; прынцы Пятро і Аляксей ў Халмагорах. Нараджэнне апошняга суправаджалася сьмерцю маці. Для назірання за імі быў прызначаны ваенны штаб-афіцэр з камандай; для іхных паслуг было прызначана некалькі чалавек простага звання. Ўсякія стасункі са староннімі людзьмі ім былі забаронены. Адзін архангельскі губернатар меў загад[476] наведваць іх час ад часу, каб знаёміцца з іхнымі патрэбамі. Выхаваныя разам з просталюдзінамі, яны не ведалі іншай мовы, акрамя рускай.

На ўтрыманне Брауншвейгскай сям'і і на жалаванне прыстаўленых да яе людзей, таксама на прыбудовы і рамонт жылля, якое яна занімала, не было вызначанай сумы; але выдаткавалася із архангельскага гарадзкога магістрата штогод ад дзесяці да пятнаццаці тысяч рублёў. Вопратка для сям'і дасылалася із імператарскага гардэроба, а жалаванне і мундзірныя рэчы на вайсковую каманду із крыгс-камісарыята.

II

Імператрыца Кацярына II неўзабаве пасьля ўсшэсьця на пасад, звярнуўшы міласэрдную ўвагу на зняволеных, памякчыла ўмовы іхнага ўтрымання. Пераканаўшыся нарэшце, што вызваленне дзяцей Антона Ўльрыха не можа мець ніякіх значных наступстваў, яна ўзяла намер выправіць іх у дацкія ўладанні і аддаць пад заступніцтва роднай сястры іхнага бацькі, аўдавеўшай каралевы дацкай Юліяны Марыі. Жадаючы здзейсніць свой намер без староньняга ўдзелу, імператрыца пачала з ёю непасрэднае ліставанне. Першы ўласнаручны ліст гасударыні па гэтаму пытанню быў высланы 18 сакавіка 1780 года. Кацярына прапаноўвала каралеве пасяліць Брауншвейгскую сям'ю ў Нарвегіі.



З пачуццём удзячнасьці і з выяўленнем асаблівага задавальнення каралева прыняла прапанову імператрыцы і адказвала ёй, што і кароль, яе сын[477], цалкам згодзен на ўсе прапановы яе велікасьці, якія маюць дачыненне да Брауншвейгскай сям'і.

---

[475] Згодна з новым стылем 16 траўня. Тут і далей у артыкулеПаленава ўсе даты дадзены згодна са старым стылем.
[476] У перакладзе "меў дазвол".
[477] У перакладзе "яе зяць". Маецца на ўвазе Крысьціян VII (1749-1808), дацкі кароль з 1766 г.

Кароль сам пісаў да імператрыцы, запэўніваючы яе пра сваю гатоўнасць выканаць усё яе жаданні. Але пасьля каралева паведаміла імператрыцы, што ў Нарвегіі няма ніводнай мясціны, якая б не мела порту і не знаходзілася б каля мора. Было прызнана за лепшае перавезьці Брауншвейгскую сям'ю ўнутр Ютландыі, у павет, роўна аддалены і ад мора і ад вялікіх дарог. Невялікі горад Горсенс быў выбраны для яе знаходжання, і кароль купіў там для яе дзве пабудовы.

III

Між тым як адбывалася ліставанне з каралевай, праводзілася падрыхтоўка да высылкі Брауншвейгскай сям'і. Імператрыца жадала выканаць сваё рашэнне як можна больш таемна, каб не вырабіць агалоскі ў народзе і не даць нагоды для ілжывых і пустых плётак. Пагэтаму справа аб выдаленні сям'і была ўскладзена на няшматлікіх асоб. Галоўным выканаўцам гэтай справы быў знаходзіўшыся тады каля імператрыцы брыгадыр Безбародка, які стаў у будучым сапраўдным таемным дарадцам першага класа і канцлерам.

У той час быў прызначаны генерал-губернатарам Яраслаўскім, Валагодзкім і Архангельскім сапраўдны таемны дарадца Мельгуноў. Яму было загадана ехаць із Санкт-Пецярбурга прама да горада Архангельска, пад выглядам знаёмства з даручаным яму краем. Разам з тым яму было загадана пазнаёміцца асабіста з прынцамі і прынцэсамі, пастарацца купіць ці пабудаваць нанова добрае рачное судна, на падставе ягонай ўласнай ў ім патрэбы для плавання па рэках Архангельскай губерніі; пасьля чаго купіць надзейны купецкі карабель; калі ж добрага не адшукаецца, загадана пабудаваць на Анезе трохмачтавае купецкае судна, быццам для даследванняў, якія былі яму даручаны імператрыцаю ў паўночных морах, і знайсьці старых і заслужаных матросаў з ведаючым справу марскім афіцэрам.

IV

Мельгуноў, прыехаўшы ў Архангельск, папярэдне сабраў ад былога там губернатара[478] Галоўцына ўсе звесткі пра Брауншвейгскую сям'ю і потым неадкладна выправіўся ў Халмагары.

Пры ўваходзе Мельгунова ў дом, дзе жылі прынцы і прынцэсы, усе яны сустрэлі яго ў пярэдняй з прыкметнай нясмеласьцю; пакланіліся яму амаль у ногі і прасілі яго пра непакіданне іх. Мельгуноў, імкнучыся іх падбадзёрыць, сказаў, што ён згодна найвышэйшай волі імператрыцы прызначаны начальнікам Архангельскай губерніі і, абавязаны ведаць пра усё у тым краі, вырашыў наведаць і іх. Да гэтага ён дадаў, што, наколькі яму вядома, гасударыня турбуецца пра іх. Пры гэтых словах яны ўсе ўпалі на зямлю, і абедзве сястры пралівалі слёзы. Меньшая сказала, што з самага пачатку царавання гасударыні яны ўваскрэслі дзякуючы міласэрднасьці яе вялікасьці, а да таго часу ва ўсім мелі вялікую патрэбу, і прыніжана прасілі Мельгунова выказаць яе вялікасьці пры сустрэчы найвялікшую іхную ўдзячнасць.

[478] У перакладзе "былога губернатара".

Прабыўшы ў Халмагорах шэсць сутак, Мельгуноў штодня наведваў прынцаў і прынцэс; кожны дзень абедаў ў іх з губернатарам, а часам і вячэраў за агульным сталом; пасьля абеду ён знаходзіўся з імі большую палову сутак, праводзячы час у картачнай гульні, званай трэсет[479] для яго, як ён кажа[480], вельмі сумнай, а для іх вясёлай і звычайнай[481].

На працягу гэтага часу, згодна з дадзенымі яму настаўленнямі, ён імкнуўся даведацца пра стан іхнага здароўя, норавы і разумовыя здольнасці.

Вось як апісвае Мельгуноў асоб Брауншвейгскай сям'і:

"Старэйшая сястра Кацярына мае ад роду 38 гадоў[482]; сухаватая і невялікага росту; белакурая і падобная на бацьку. У маладых гадах страціла слых і такая коснаязычная, што яе слоў амаль нельга разабраць. Браты і сястра стасуюцца з ёю пры дапамозе знакаў. Пры ўсім тым мае столькі разумення, што, калі браты і сястра, не паказваючы ніякіх знакаў, кажуць ёй што-небудзь шэптам, яна іх разумее па адных рухах вуснаў і адказвае ім сама, часам ціха, часам даволі гучна, так што і не звыклы да такой размовы можа разумець яе[483]. Із яе паводзінаў відаць, што яна нясмелая, уклонная, прыветлівая і сарамлівая; нораву ціхага і вясёлага; убачыўшы, што іншыя пры размове смяюцца, хаця і не ведае нагоды таго, смяецца разам з імі. Дарэчы, яна складу здаровага; толькі ад цынгавай хваробы ў яе пачарнелі зубы і некалькі з іх ужо выкрышылася.



Меншай сястры Елісавеце 36 гадоў[484]. Ад падзення з каменнай лесвіцы, з самай верхняй прыступкі да нізу, у 10-ці гадовым ўзросьце, яна забіла галаву, праз што часта адчувае галаўную боль, а асабліва пры змене надвор'я і пад час непагодзі. Для папярэджання болю на правай руцэ ёй зроблены фантанэль[485]. Яна пакутуе таксама частымі прыпадкамі на слабасць страўніка. Ростам і тварам падобная на маці. Гаварлівасьцю, абыходжаннем і розумам Елісавета далёка пераўзыходзіць сваіх братоў і сястру. Усе яны ёй падпарадкоўваюцца і выконваюць усё, што яна ні загадае; яна большай часткай за ўсіх іх гаворыць, за ўсіх адказвае і часам выпраўляе памылкі ў іхных словах. У 1777 годзе, ад здарыўшайся ў яе гарачцы і іншых жаночых немачаў, яна была некалькі месяцаў у вар'яцтве; але пасьля паправілася і зараз у здаровым розуме. Нельга, аднак жа, сказаць, каб Елісавета мела ў сабе нешта надзвычайнае. Яе говар, так як і братоў, адпавядае гаворцы той мясьціны, дзе яны нарадзіліся і выраслі.

Старэйшы брат Пятро 35 гадоў. Пашкоджаны ў дзяцінстве, ён мае спераду і ззаду невялікія і з першага погляду амаль непрыкметныя гарбы. Правы бок у яго трохі крывы; нагамі касалапы, і адна таксама крывая. Ён вельмі просты,

---

[479] [заўвага аўтара] Род фараона, зараз забыты.

[480] [заўвага аўтара] У справаздачы імператрыцы Кацярыне II (У перакладзе гэтыя словы прапушчаны).

[481] У перакладзе прапушчана слова "звычайнай".

[482] У перакладзе "36 гадоў". Кацярыне, якая нарадзілася ў 1741 годзе, у 1780 г., пад час візіту Мельгунова, было 39 гадоў.

[483] У перакладзе "так што чалавек не прызвычаяны нічога не можа зразумець".

[484] У перакладзе "30 гадоў". Лізавеце, якая нарадзілася ў 1743 годзе, было ў 1870 г. 37 гадоў.

[485] Фантанэль – гнойная рана, зробленая наўмысна, з мэтай лекавання.

баязьлівы, сарамлівы і маўклівы. Усе яго учынкі, так жа як і малодшага брата, да гонару толькі малым дзецям. Нораву ён занадта вясёлага: смяецца і рагоча, калі зусім няма нічога смешнага. Часам бываюць ў яго гемараідальныя прыпадкі; дарэчы, ён складу здаровага; але баіцца нават да непрытомнасьці, калі ідзе гаворка пра кроў. Такую моцную палахлівасць ён прыпісвае таму, што яго маці, быўшы ім цяжарнай, надзвычай перапалохалася ад парэзу свайго пальца і цёку крыві.

Малодшы брат Аляксей 34 гады. З такой жа прастатой, як і яго старшы брат, ён здаецца, аднак жа, некалькі больш адпаведным, смялейшым і асьцярожным за яго. Выгляд мае здаровы і нораў даволі вясёлы. – Абодва браты росту невялікага, сьветлавалосыя і тварам падобныя на бацьку.

Як браты, так і сёстры жывуць паміж сабою прыязна і прытым незласлівыя і чалавекалюбівыя. – Улетку працуюць ў садзе, даглядаюць за курамі і качкамі і кормяць іх, а зімою бегаюць напераганкі на конях па сажалцы, якая знаходзіцца ў іхным садзе, чытаюць царкоўныя кнігі і бавяцца у карты і шашкі. Дзяўчыны, звыш таго, часам займаюцца шыццём бялізны. Гэтым абмяжоўваюцца ўсе іхныя заняткі”.

V

Заўважыўшы, што Елісавета разумнейшая за сваіх братоў, Мельгуноў звярнуў на яе больш увагі і часьцей з ёю размаўляў. Між іншым яна распавяла Мельгунову, што спачатку сам нябожчык іхны бацька, а калі ён пазбавіўся зроку, то яны самі дакучалі гасударыню прашэннямі, якія і зараз паўтарылі б, але не асьмельваюцца і баяцца ўгнявіць сваімі прашэннямі яе вялікасць[486]. На пытанне Мельгунова: “Якое ж іхнае прашэнне?” Елісавета адказвала: “Бацька і мы, калі былі яшчэ вельмі маладыя, прасілі даць нам волю; калі ж наш бацька страціў зрок, а мы выйшлі з маладых гадоў, то пыталіся дазволу праязджацца; але ні на што не атрымалі адказ”.

Мельгуноў, запэўніўшы Елісавету, што яна дарэмна думае, быццам імператрыца на іх прагневаецца, спытаў у яе: “Куды ж ваш бацька меў намер ехаць з вамі?” Елісавета сказала: “Наш бацька меў намер ехаць у сваю зямлю. Тады для нас было вельмі пажадана жыць у вялікім свеце. Па сваёй маладосьці мы спадзяваліся яшчэ навучыцца свецкім стасункам. Але ў нашым цяперашнім становішчы нам не застаецца нічога больш жадаць, як толькі таго, каб жыць тут у адзіноце. Тут з ласкі гасударыні, нашай заступніцы, мы ўсім задаволены. Падумайце самі, ці можам мы пажадаць чаго-небудзь, акрамя гэтага. Мы тут нарадзіліся, прывыклі да тутэйшых мясьцін і пасталелі. Зараз вялікі свет не толькі для нас не патрэбен, але і будзе цяжарам; мы нават не ведаем, як абыходзіцца з людзьмі, а вучыцца гэтаму ўжо позна. Але просім вас, – працягвала яна са слязамі і паклонамі, – выпрасіць нам у яе велікасьці ласку, каб нам дазволена было выязджаць з дому на луг для прагулянак; мы чулі, што там ёсць кветкі, якіх ў нашаму садзе няма. Падпалкоўнік і афіцэры, якія зараз пры нас, маюць жонак; мы просім дазволіць ім наведвацца да нас, а нам да іх, для баўлення часу, а то

[486] У перакладзе “але што іхныя прашэнні былі незадаволены і зараз яны не адважваюцца”.

нам адным бывае сумна. Просім яшчэ даць нам такога краўца, які мог бы шыць для нас адзенне. З ласкі гасударыні прысылаюць да нас з Пецярбурга карнеты, чапцы і токі; але мы іх не выкарыстоўваем праз тае, што ні мы, ні дзеўкі нашы не ведаем, як іх надзяваць і насіць. Зрабіце ласку, дашліце такага чалавека, які б умеў апранаць нас. Лазня ў садзе знаходзіцца вельмі блізка ад нашых драўляных пакояў; мы баімся, каб нас не спалілі, загадайце аднесьці яе далей". Нарэшце Елісавета прасіла са слязамі пра прыбаўку заробкаў служыцелям і служыцельніцам якія знаходзяцца тут пры іх, дзецям карміцелькі[487], і аб дазволе ім мець свабодны выхад із дому, так жа як дазволена і іншым мясцовым служачым. Да гэтага яна дадала: "Калі вы дадзіце нам усё гэта, то мы будзем вельмі задаволены, ні пра што больш дакучаць не будзем, нічога больш не жадаючы і рады заставацца ў такім становішчы навек».

**~ 203 ~**

Мельгуноў пераконваў Елісавету напісаць прашэньне да імператрыцы і растлумачыць ў ім усе яе жаданні. Але яна ніяк на гэта не згаджалася, а напісала толькі ў сваім прашэнні, што яна прыносіць гасударыні "дастапавінную[488] рабскую ўдзячнасць за найвышэйшыя міласьці, а найболей за тое, што даручылі іхнаму вялікаму чалавеку, намесніку яе вялікасьці Аляксею Пятровічу Мельгунову, і асьмельваецца выказаць сваё прашэнне да гасударыні; у чым жа заключаецца прашэнне, данясе Аляксей Пятровіч".

У апошні дзень знаходжання Мельгунова ў прынцаў і прынцэс, калі ён пачаў з імі развітвацца, яны плакалі, праводзячы яго, кідаліся яму ў ногі, і малодшая сястра ад імя ўсіх прасіла яго не забыцца пра іхнае прашэнне.

VI

Між тым Мельгуноў рабіў захады ў накірунку дадзеных яму загадаў. Праз відавочную немагчымасць пабудаваць караблі на Анезе Мельгуноў адважыўся даручыць выраб суднаў галоўнаму камандзіру архангельскага порта, генерал-маёру Ўрангелю, не паведамляючы яму, аднак, пра сапраўднае іхнае прызначэнне. Рачны карабель пабудавалі своечасова; а замест новага марскога імператрыца дазволіла выкарыстаць для перавозкі Брауншвейгскай сям'і адзін із знаходзіўшыхся ў горадзе Архангельску фрэгатаў, названы "Палярная зорка". Командырам фрэгата быў прызначаны адстаўны капітан флота Сцяпанаў; але праз здарыўшуюся ў яго цяжкую хваробу Мельгуноў прызначыў на яго месца іншага, не менш надзейнага і дасведчанага афіцэра, капітана 1 ранга ў адстаўцы Міхала Арсеньева[489], які служыў у той час старшыней Яраслаўскай грамадзянскай палаты. Ён быў прызнаны больш годным да выканання гэтага даручэння таму, што зрабіў на моры шмат кампаній, праходзіў чатыры разы Паўначны мыс і ведаў тое месца, куды планавалася даставіць Брауншвейгскую сям'ю.

Прынцы і прынцэсы былі выхаваны ў грэка-расійскім веравызнанні, і таму для іх была наладжана паходная царква з усім належным ёй начыненнем. Да

---

[487] У перакладзе гэтыя словы прапушчаны.
[488] У перакладзе гэтае слова прапушчана.
[489] Прапушчаны словы "адстаўны" і "першага ранга".

царквы, якая павінна была застацца ў Гарсенсе, былі прызначаны святар і два царкоўнікі. Заробкі было загадана выдаваць ім згодна акладаў, вызначаным для місій Стакгольмскай і Капенгагенскай. У той жа час быў знойдзены для Брауншвейнгскай сям'і майстэрскі лекарь з адным вучнем.

Для нябеднага ўтрымання прынцаў і прынцэс ў Гарсенсе імператрыца вызначыла ім пенсію па іхную сьмерць, прызначыўшы кожнаму брату і кожнай сястры па 8000 рублёў[490], а ўсім разам па 32 000 рублёў на год, лічачы па тагачаснаму курсу рубля ў 50 штывераў галандскіх.

Прытым загадала забяспечыць іх усім неабходным адавядаючым іхнаму становішчу.

Для назірання за прынцамі і прынцэсамі і для назірання, каб яны былі пад аховай падчас марскога падарожжа, імператрыца прызначыла Шлісельбургскага каменданта палкоўніка Цыглера і ўдаву ліфляндскага ландрата Ліліенфельда з двума яе дочкамі, загадаўшы ім быць пры Брауншвейгскай сям'і да самага яе прыбыцця ў Нарвегію і перадачы таму, хто будзе ўпаўнажаны для іхнага прыняцця дацкім дваром.

Пасьля гэтага ім дазволена вярнуцца ў Расію. На ўтрыманне сябе і ўтрыманне пад час падарожжа ім выдадзена дастатковая сума.

Са знаходзіўшыхся пры Брауншвейгскай сям'і людзей Мельгуноў выбраў для суправаджэння яе трох прыслужнікаў і чатырох прыслужніц, з якіх пяцёра нарадзіліся ў Халмагорах і выраслі разам з прынцамі і прынцэсамі, а дзве ўзяты із сялянак[491]. Усе яны былі добрых паводзін. Такім чынам, усё было зроблена па жаданні і згодна з загадам імператрыцы. Заставалася толькі зрабіць захады, каб не ўстрывожыць Брауншвейгскую сям'ю раптоўным абвяшчэннем пра маючае адбыцца падарожжа. Згодна дадзеных Мельгунову ад імператріцы павучэнняў былі прыняты да таго дастатковыя захады[492].

VII

Палкоўнік Цыглер разам з губернатарам Галоўцыным паехаў у Халмагоры. Зьявіўшыся да прынцаў і прынцэс, ён сказаў ім ад імя Мельгунова, што Аляксей Пятровіч, у бытнасць сваю пры двары, не прамінуў далажыць гасударыні пра іхнае прашэнне і што яе вялікасць загадала павялічыць заробкі іхным служкам, дазваляе жонцы падпалкоўніка Полазава, які знаходзіўся пры іх, заходзіць да іх для размоў і загадала забяспечыць іх усім, у чым яны маюць патрэбу. Між іншым ён ім заўважыў, што яны хутка пабачаць, як далёка прасьціраецца клопат пра іх з боку яе вялікасьці. Праз некаторы час да прынцаў і прынцэс была прыслана з такімі ж запэўніваннямі[493] ўдава Ліліенфельда. Калі палкоўнік Цыглер і жонка падпалкоўніка Полазава з'явіліся да іх, радасць іх была празмерная, асабліва ж калі яны пачулі пра манаршую да іх прыхільнасць.



[490] У перакладзе “па 300 рублёў”.
[491] У перакладзе “із сялян”.
[492] У перакладзе ўся фраза прапушчана.
[493] У перакладзе “у нейкай цёплай вопратцы”.

Неўзабаве і сам Мельгуноў прыехаў ў Халмагары. Падцвердзіўшы спачатку прынцам і прынцэсам словы палкоўніка Цыглера, нарэшце абвясьціў ім пра іхны лёс; аб намеры імператрыцы даць ім волю і выправіць іх у дацкія ўладанні пад заступніцтва іхнай цёткі і пра ўсе ласкі, якія гасударыня ўзнамерылася ім зрабіць. Нечаканая вестка аб змене іхнага лёсу была для іх нябеснай весткай. Яны пачулі, што Кацярына, ужо ўваскрасіўшая іх памякчэннем іхнага затворніцтства[494], дарue ім яшчэ новае, больш шчаслівае жыццё. Агорнутыя раптоўным захапленнем і здзіўленнем, яны не маглі прамовіць ні слова; казалі толькі іхныя сэрцы, у баязні радасьці. Гэты сардэчны голас не быў чутным; але іхныя позіркі, якія ўзводзіліся да неба, патокі слёз, якія ліліся з вачэй, і частыя кленчанні сведчылі больш за ўсякія словы пра іхную непрыхільную ўдзячнасць да дапамагаючай ім манархіні. Тады Мельгуноў даў ім адчуць, наколькі яны павінны быць удзячнымі імператарскаму дому, атрымліваючы свабоду і такую шчодрую ўзнагароду, якімі карыстаюцца нешматлікія із раўных ім пародаю. Да таго ён дадаў, што калі яны забудуцца пра дабрадзействы гасударыні або, ідучы за хітрымі падбухторваннямі і парадамі, не захочуць заставацца ў дацкіх краях, то не толькі страцяць прызначаны ім пенсіён, але страцяць ўсякае права і на мізэрнейшую дапамогу з боку імператрыцы і яе заступніцтва.

Елісавета адказвала яму са слязамі: "Божа нас барані, калі б мы, атрымаўшы такія вялікія ласкі, былі калі-небудзь няўдзячнымі. Верце мне, – сказала яна з цвёрдым выглядам, – мы ніколі не пойдзем супраць волі яе велікасьці. Яна наша маці і заступніца. Мы на адну толькі яе і спадзяёмся; ці магчыма, каб мы адважыліся калі-небудзь прагневаць яе вялікасць і пазбавіцца навекі яе ласкі". Потым яна спытала Мельгунова: "Ці возьме да сябе нас цётка ці пакіне ў якім-небудзь горадзе? Мы жадалі б лепш жыць у якім-небудзь маленькім мястэчку; а то падумайце самі, як нам быць пры двары. Мы зусім не ўмеем стасавацца з людзьмі; ды да таго ж і не разумеем іхнай мовы". Мельгуноў адказаў ёй, што яны могуць пасьля прыбыцця туды папрасіць аб гэтым сваю цётку, і абяцаў зрабіць захады і са свайго боку, каб іхнае жаданне было выканана.

Супакоіўшы такім чынам прынцэсу, Мельгуноў быў надзвычай задаволены, што знайшоў іх, супраць свайго чакання, гатовымі падпарадкавацца і з вясёлым выглядам згадзіцца на ўсе яго прапановы. Адна толькі поездка вадою страшыла іх, асабліва прынцэс, якія ад свайго нараджэння не толькі самі не плавалі па вадзе, але і не бачылі, як плваюць караблі. Хоць Мельгуноў запэўніваў іх, што няма ніякай небяспекі і што ён сам праедзе з імі сто вёрст, аднак жа і затым яны выказвалі нясмеласць, кажучы так: "Вы мужчыны, і вам баяцца няма чаго; а вось калі б паехала з намі ваша жонка, то і мы б, гледзячы на яе, больш ахвотна ўзышлі на карабель".

[494] У перакладзе гэтыя словы прапушчаны.

Мельгуноў быў вымушаны даць ім слова, што возьме з сабою і жонку. Яны прынялі гэта тым больш з вялікім задавальненнем, што ўдава Ліліенфельда і яе дочкі[495] таксама не плавалі па вадзе і баяліся не менш за іх.

VIII

У прызначаны да ад'езду дзень Мельгуноў, запрасіў з сабою жонку, пасадзіў прынцаў і прынцэс на рачны карабель з усімі асобамі, вызначанымі для іхнага суправаджэння, і з належачымі ім слугамі і накіраваўся да Навадзвінскага ўмацавання з 26 на 27 чэрвеня 1780 года папоўначы ў гадзіну. Пры спадарожным ветры яны дабраліся да ўмацавання 28 чэрвеня ў тры гадзіны па паўночы, адолеўшы 90 вёрст з невялікім за суткі.

У той самы час прынцы і прынцэсы прачнуліся. Але якім жахам былі яны ўражаны, убачыўшы ўмацаванне. Яны падумалі, што тут будзе іхнае жыллё і што ўсе запэўніванні Мельгунова былі не што іншае, як падман. Прыезд у той самы час кабінетскага кур’ера яшчэ больш зацвердзіў іх у гэтай думцы. Яны ўявілі, што курьер прывёз загад пакінуць іх у Навадзвінскім умацаванні, калі, насупраць таго, ён быў прысланы да Мельгунова з падцверджаннем ранейшых пра іх загадаў. Каб разуверыць іх і зьнішчыць у іх дарэмны жах, Мельгуноў, размясьціўшы іх у камендантскім доме, даў ім волю прагулящца па валу і вярнуцца да яго на рачны карабель.



Дзень прыбыцця іх у Навадзвінскае ўмацаванне быў днём усшэсьця імператрыцы на пасад. Згодна іхнага прашэння выпраўленны з імі святар адслужыў ва ўмацавальнай царкве, пасьля літургіі, удзячны малебен.

Фрэгат “Палярная зорка” быў ужо гатовы да адплыцця. Прынцы і прынцэсы, а таксама прыдадзеныя да іх людзі перабраліся на фрэгат. Развітваючыся з імі, Мельгуноў нагадаў ім пра ўдзячнасць, сказаўшы нарэшце, што яны вечна будуць няшчаснымі, калі выявіць сябе няўдзячнымі. Чуючы гэта, яны пралівалі слёзы і падалі на калені. Меньшая прынцэса ад імя ўсіх казала: “Бог нас пакарае, калі мы забудемся пра міласьці нашай маці. Мы вечна будзем рабы яе вялікасьці і ніколі з волі яе не выступім. Яна маці наша і аднавіцелька; мы на адну яе спадзяёмся, а больш ні на каго”. Пасьля таго яна папрасіла Мельгунова ходатайнічаць перад пасадам яе вялікасьці аб працягванні ў дачыненні да іх манаршай прыхільнасьці[496] і заступніцтва.

Развітаўшыся з імі, Мельгуноў загадаў падняць якар, паставіць парусы і накіроўвацца згодна вызначанага накірунку. Фрэгат адплыў ў дзве гадзіны папоўначы на 30-е дзень, пад купецкім флагам і назвай. Мельгуноў праводзіў іх вачамі да таго часу, пакуль фрегат знік з вачэй.

IX

Пры выпраўленні прынцаў і прынцэс імператрыца ўзнагародзіла іх царскою рукою. (Ідзе пералік адзення, футраў, гарбатных прыбораў, гадзіннікаў, пярсцёнкаў і г. д., падараваных кожныму із прынцаў.) Звыш усяго гэтага дадзена

[495] У перакладзе “і яе сыны”.
[496] У перакладзе “пакласьці да ног яе вялікасьці ўдзячнасць”.

палкоўніку Цыглеру, для ўручэння прынцам і прынцэсам пасьля прыбыцця ў Берген, 2000 галандскіх чэрвоных на іхныя кішэнныя грошы.

Параграф заканчваецца наступнай фразой: “У Даніі здзівіліся шчодрасьці і вялікадушнасьці, з якімі была надзелена Брауншвейгская сям’я. Сама каралева выказвалася пра гэта з удзячнасьцю”.

X

Параграф X нічым не выклікае цікавасьці, хіба што наступнай фразай: “Імператрыца была надзвычай задаволена Мельгуновым, які выканаў яе загад з узорнай стараннасьцю і поспехам. Яму зрабіла толькі заўвагу, што ён дарэмна, і звыш дадзеных яму загадаў, браў сваю жонку на рачны карабель разам з Брауншвейгскай сям’ёй”.

XI

Плаванне фрэгата “Палярная зорка” было доўгім праз супраціўныя ветры і моцныя буры. Імператрыца, не атрымліваючы доўга паведамленняў аб падарожніках, ужо пачынала турбавацца. Нарэшце сюды прыйшла вестка аб прыбыцці фрэгата да Бергенэ 10 верасня новага штыля. Дацкі ваенны карабель “Марс”, пад камандваннем камандора Люцьхена, даўно ўжо чакаў яго каля Бергена. На другі дзень Брауншвейгская сям’я была перададзена Бергенскаму галоўнаму бальіфу Шубену[497], а 12-га дня[498] перасажана на вайсковы карабель. Але супраціўны вецер затрымаў карабель у 4 мілях ад Бергена да 23 верасня. Пасьля гэтага ён павінен быў змагацца з моцным буранам, які працягваўся безперапынна 30 верасня і 1 кастрычніка. Не раней чым 5 кастрычніка ён змог прыстаць да Фланстранду[499]. Разладжаныя непагодай і стомленыя цяжкім і неспакойным плаваннем прынцы і прынцэсы былі высажаны на бераг у Аальборзе, дзе і заставаліся тры дні для адпачынку. Хутка яны, аднак жа, паправіліся і прыехалі ў Гарсэнс 13 кастрычніка, здаровыя і вясёлыя, дзякуючы імператрыцу за дараваную ім свабоду і ўладкаванне для іх новага і безклапотнага існавання. Між тым фрэгат “Палярная зорка” праз позні час застаўся зімаваць ў Бергене. Пасьля прыбыцця ў гэты порт прынцэса Елісавета із дараваных ёй 500 чырвоных раздала 30 000 рублёў, з якіх падаравала капітану Арсеневу 1000 рублёў.

Выбар прыстаўленых да Брауншвейгскай сям’і асоб быў удалы. Палкоўнік Цыглер і ўдава Ліліенфельда, хоць і кароткі час знаходзіліся пры прынцах і прынцэсах, здолелі, аднак жа, дабіцца іхнай прыхільнасьці і павагі. Малодшая прынцэса асабліва была задаволена ўчынкамі Цыглера[500]...

XII

---

[497] В перакладзе Шулену. Бальіф (grand baillif) — кіраўнік горада.

[498] У перакладзе дата прапушчана.

[499] У перакладзе “да Гунстранда”.

[500] У перакладзе: «паслужлівасьцю Цыглера». Пасля гэтай фразы ў рускім тэксце Паленава размешчана апавяданне пра далейшы лёс капітана і каманды «Палярнай зоркі», Цыглера і ўдовы Ліліенфельд, прапушчаны ў перакладзе.

Паміж імператрыцаю і каралевай працягвалася частае ліставанне з нагоды Брауншвейгскай сям'і. Каралева заўсёды адзывалася з задавальненнем пра паводзіны прынцаў і прынцэс і хваліла іх за міласэрднасць і лагоднасць.

Каралева жадала сустрэцца з прынцамі і прынцэсамі і пісала пра тое Кацярыне. Імператрыца аддала вырашэнне гэтага пытання цалкам на яе волю. Але пасьля каралева адмяніла свой намер, як ні жадалі самі прынцы і прынцэсы пабачыцца з ёю.

Між іншым каралева спытала імператрыцу: як патрэбна весьці сябе ў дачыненні да прынцаў і прынцэс і якія тытулы можна ім даваць? Імператрыца адказала, што з таго часу, як яны знаходзяцца пад заступніцтвам дацкага двара, яна лічыць іх вольнымі асобамі знатнага паходжання; але за іхнымі ўчынкамі павінна мець назіранне для іх жа ўласнага спакою і шчасьця, з нагоды іхнай неспрактыкаванасьці, выхавання і іншых абставінаў, якія перашкаджаюць ім жыць у вялікім сьвеце. Жыццё, аддаленае ад усякіх свецкіх трывог, яна лічыць для іх самым прыстойным. Што ж да тытулаў, то імператрыца заўважыла, што няма ніякай нагоды пазбаўляць іх тытула, які падараваў ім Бог і належыць ім па праву нараджэння, гэта значыць тытула прынцаў і прынцэс Брауншвейгскай сям'і.

**~ 206 ~**

Каралева лічыла за лепшае прыбраць рускіх служак ад прынцаў і прынцэс на падставе таго, што, пазбавіўшы іх ад усіх ранейшых стасункаў, яны хутчэй прыстасуюцца да новага жыцця. Імператрыца ахвотна на гэта пагадзілася. Ўсе рускія людзі, акрамя святара і царкоўнікаў, вярнуліся ў Расію, і пры Брауншвейгскай сям'і утварыўся невялікі двор із адных датчан. Горкім і цяжкім было для прынцаў і прынцэс гэтае развітанне. І нядзіўна! Яны выраслі і былі выхаваны разам са сваімі служкамі; ў іх яны прывыклі мець адзіных сваіх суразмоўцаў і павераных. Прынцы і прынцэсы пры развітанні з імі пралілі некалькі слёз спачування і пра Халмагары.

Для ўладкавання Брауншвейгскай сям'і ў Горсенсе, куплянне дамоў і інш. выдаткавана да 60 000 талераў. Дацкі двор выказаў прапанову браць сродкі на пагашэнне гэтай сумы із прызначанага Брауншвейгскай сям'і пенсіёна, і такім чынам было знойдзена 20 000 талераў. Але імператрыца, даведаўшыся пра гэта, не хацела, каб прынцы і прынцэсы не цалкам карысталіся яе шчадротамі, не хацела таксама ствараць цяжкасьці дацкаму двару і загадала заплаціць астатнія 40 000 талераў са свайго скарба.

XIII

У цішыні і дружалюбнай згодзе паміж сабою жылі прынцы і прынцэсы ў Горсенсе. Самі яны ніколі не давалі нагод да скаргаў на іх з боку прыстаўленых да іх асоб ад дацкага двара; але не заўсёды былі задаволены дзеяннямі апошніх.

Елісавета, так як і ў Халмагорах, кіравала сваімі братамі і сястрой; аднак жа, не рабіла нічога без іх агульнай згоды. Дарэчы, ва ўсіх выпадак, пакуль яна была жывая, яны звычайна падпарадкоўваліся яе думкам і парадам.

Аднойчы дацкі прынц Фердынанд наведаў Брауншвейгскую сям’ю ў Горсенсе. Іхнае спатканне было чуллівым[501]. Толькі толькі прынцы і прынцэсы даведаліся, што ён едзе, яны паспяшаліся ў дом, прызначаны для яго, каб сустрэць яго там у кабінете. Прынц увайшоў у кабінет адзін, абняў старэйшую прынцэсу, і ў тую ж хвіліну трое іншых яго атачылі, цалавалі яго рукі і плакалі ад радасьці, не выпускаючы яго доўга са сваіх абдымкаў.

Ён прабыў там двое сутак, снедаў і абедаў з імі. На трэці дзень абяцаў прыехаць да іх развітацца; але, каб пазбавіць сябе і іх ад новых слёз, з'ехаў у сем гадзін раніцы, адаслаўшы ім на памяць пакет з двума табакеркамі і двума пярсцёнкамі.

Нядоўга Елісавета атрымлівала асалоду ад новага жыцця. Жорсткая хвароба, якая працягвалася два тыдні, спыніла яе дні 20 кастрычніка 1782, на 39-м годзе ад нараджэння.

Празь пяць гадоў пасьля яе памёр малодшы прынц Аляксей 22 кастрычніка 1787 г. Незадоўга да свайго скону ён занямог, але хутка паправіўся. Пасьля таго раптам уявіў сабе, што не перажыве таго дня, у які памёрла яго сястра. Гэтая думка, як ні імкнуліся яе развеяць, так укаранілася ў яго ўяўленні, што зрабілася для яго згубнай[502]. За некалькі дзён да вызначанага ім часу ён зноў стаў скардзіцца на нездароўе. Ён страціў прытомнасць; ён здаваўся як быццам заснуўшым і больш не абуджаўся.

Прынц Пятро памёр 30 студзеня 1798 года.

Лёгка можна сабе ўявіць, якім гаротным было становішча Кацярыны. Згубіўшы ўсіх блізкіх яе сэрцу, атачоная людзьмі, для якіх яна была зусім чужой, яна не мела нават таго суцяшэння, каб адчуваць да сябе спачуванне якой-небудзь чуллівай душы. Яе цёткі ўжо не было на гэтым свеце. Прыстаўленыя да яе, здаецца, больш думалі пра свае выгоды, чым пра дагляд за ёю і наданне ёй тых зручнасьцей, на якія яна мела поўнае права праз ласку расійскага двара, які даў ёй для гэтага дастатковыя сродкі. Да самага яе скону вызначаная прынцам і прынцэсам пенсія выдавалася цалкам, нягледзячы на паступовае памяншэнне Брауншвейгскай сям’і.

Горсенскае жыццё так надакучыла Кацярыне, што яна пажадала зноў вярнуцца ў Расію і пастрыгчыся ў манахіні. Адзіную радасць яна знаходзіла ў прысутнасьці пры службе Божай і ў малітвах. Але перад сьмерцю, забыўшыся на прынесенае ёй гора, пісала да імператара Аляксандра аб дараванні пенсіі знаходзіўшымся пры ёй людзям. Яе прашэнне было ўважана. Чыноўнікам і служкам, якія служылі пры горсенскім двары доўгі час, загадана выдаткаваць у пенсіён із расійскага скарбу поўныя атрымліваемыя імі аклады, а пасьля іхнай сьмерці іхным жонкам; тым жа, якія знаходзіліся пры Кацярыне кароткі тэрмін, выдадзены адначасовыя гадавыя аклады[503].



[501] У перакладзе: «Гэтае спатканне выявілася для іх сумным». Прынца, пра якога ідзе размова, сына каралевы Юльяны, звалі Фрыдэрыкам (1753-1805).

[502] У перакладзе гэтыя словы прапушчаны.

[503] У перакладзе “знакі адабрэння”.

Яна пакінула пасьля сябе завяшчанне, якім назначыла дацкага спадкаемцу прынца Фрыдрыха[504] і яго нашчадкаў спадкаемцамі ўсёй сваёй рухомай і нерухомай маёмасьці.

Прынцеса Кацярына памёрла 9 красавіка 1807 года і пахавана ў Горсенсе разам з братамі і сястрою. З ёю спынілася спадкаемства цара Яна Аляксеевіча, вартае ўвагі ў рускай гісторыі праз зменлівасьць свайго лёсу.

В. Паленаў

# Генеалогія прынцаў і прынцэс Брауншвейгскіх[505]

# Урывак із "Апісання Масквы" Ж. Лекуэнта дэ Лаво

Маскоўскія турмы ў 1836

I

Із асоб, арыштаваных паліцыяй, 1110 было зняволена за адсутнасць пашпарта, 78 за дэзерцірства; акрамя таго, 8354 махляры, 586 злодзеі, 2328 за лаянку, 866 за бойку, 117 за хаванне збеглых і 2475 за розныя дробныя парушэнні. Із гэтай колькасьці зняволена было у астрог 122 мужчын за святататства і 45 жанчын за падобнае ж злачынства; 2 чалавекі за абразлівыя выказванні пра ўрад, 24 забойцы, 31 махляроў, 34 фальшываманетчыкі і 4 фальшываманетчыцы; 10 падпальвальнікаў і злодзеяў на пажарах, а таксама 2 жанчыны з такімі ж абвінавачваннямі; 12 чалавек за нанясенне смяротных ран, 25 за замах на самазабойства!!!! 7 за ненаўмыснае забойства, 33 за прынясенне цяжкіх цялесных пашкоджванняў; 177 мужчын і 83 жанчыны за распутства; 112 мужчын і 23 жанчыны за п'янства і распутныя паводзіны, 95 за падробку; 676 мужчын і 364 жанчыны за бадзяжніцтва; 46 мужчын і 27 жанчын за хаванне падазраваемых; 824 злодзеі і скупшчыкаў крадзенага, а таксама 310 скупшчыц і зладзеек; 46 чалавек за ілжывы данос; 75 мужчын і 12 жанчын за нашэнне ілжывых імёнаў; 2 ліхвяры; 5 чалавек за крадзёж казённых грошай; 143 мужчыны і 8 жанчын за пакіданне службы і за ўцёкі ад землеўладальніка; 558 мужчын і 105 жанчын за жабрацства; 199 мужчын і 31 жанчына за пражыванне па падробленых пашпартах".

---

[504] Гаворка ідзе пра ўнука каралевы Юльяны, Фрыдэрыка (Фрыдрыху) VI (1768-1839), дацкім каралю з 1808 г.

[505] У нататках да генеалогіі, змешчанай Кюстынам пад канец кнігі, пазначаны толькі недакладнасьці ў датах.

Браўншвейгскія — Кюстын беспадстаўна прылічае да Браўншвейгскіх і чыстакроўных Раманавых: Міхала Фёдаравіча, Аляксея Міхайлавіча, Пятра І і яго дзяцей.

Яан VI памёр не ў 22, а ў 24 гады (нарадзіўся ў 1740 г.).

Ганна Пятроўна памёрла не ў 1726, а ў 1728 г.

Кацярына Браўншвейгская памёрла не ў 65, а ў 66 гадоў (нарадзілася ў 1741 г.).

Ганна Янаўна памёрла не ў 1748, а ў 1740 г.

(С. 335 і 336 першага тома “Апісання Масквы” Ж. Лекуэнта дэ Лаво, 2-е выданне. Масква, у тыпаграфіі Аўгуста Семена, 1836.)

| Знаходзілася часова пад вартай у 1834 г. абвінавачваемых | м | ж | апраўдана | |
|---|---|---|---|---|
| | | | м | ж |
| у святатацве | 3 | - | - | - |
| удзел у бунтах | 1 | - | - | - |
| у забойстве | 5 | - | - | - |
| саўдзел у забойстве | 2 | - | - | - |
| наўмыснае падпаленне | 10 | - | - | - |
| хабарніцтва | 8 | - | - | - |
| згвалтаванне непаўналетніх | 1 | - | - | - |
| выкраданне дзяцей | 1 | - | - | - |
| удзел у бойцы | 1 | - | - | - |
| членапашкоджанне | 4 | - | - | - |
| крадзёж правізіі | 2 | - | - | - |
| --коней | 56 | - | - | - |
| --вопраткі | 2 | - | - | - |
| --розных рэчаў | 561 | 22 | 42 | 5 |
| --грошай і маёмасьці | 13 | 1 | 3 | - |
| --грошай | 16 | 2 | - | - |
| прысваене чужой маёмасьці | 4 | - | - | - |
| атрыманне крадзенага | 23 | - | - | - |
| укрыванне крадзенага | 4 | - | - | - |
| укрыванне падазраваемых | 11 | - | 6 | - |
| падробка | 16 | - | - | - |
| пражыванне па несапраўднаму пашпарту | 14 | - | - | - |
| п’янства і распутнае жыццё | 126 | 4 | 27 | - |
| пралюбадзейства | 126 | 1 | - | 1 |
| несапраўдны данос | 6 | - | - | - |
| крадзёж казённых грошай | 4 | - | - | - |
| пражыванне пад чужым імем | 6 | - | - | - |
| садзейнічанне ўцёкам зняволеных | 3 | - | - | - |
| патворства ўцёку зняволеных | 1 | - | - | - |
| самавольнае пакіданне службы | 2 | - | - | - |
| -- у землеўладальніка | 327 | 28 | 77 | 2 |
| уцёк із Сібіры | 15 | - | - | - |
| --- із вайсковай часткі | 43 | - | - | - |
| --- із пад арышту | 5 | - | - | - |
| бадзяжніцтва | 15 | - | - | - |
| адсутнасць пашпарта | 441 | 4 | 29 | - |
| згубленне пашпарта | 12 | 1 | - | - |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| не своечасовы абмен пашпарта | 52 | - | 13 | - |
| ашуканства | 13 | - | 2 | - |
| незаконнае жабрацства | 112 | 2 | 18 | - |
| недаказаныя ўчынкі | 674 | 22 | 65 | - |
| усяго | 2741 | 87 | 282 | 8 |

Зняволеныя, трапіўшыя ў 1834 годзе ў маскоўскую дзяржаўную турму, на простай мове называемую “астрог”

| падстава зняволення | асуджана | | адданена пад нагляд | | апраўдана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | м | ж | м | ж | м | ж |
| пражыванне пад чужым імем | 23 | 9 | 2 | 1 | 12 | 4 |
| дапамога ўцяканню зняволенага | 1 | - | - | - | 1 | - |
| патворства ўцяканню зняволенага | 1 | - | - | - | - | - |
| пакіданне месца службы | 8 | - | - | - | 4 | - |
| ■ у землеўладальніка | - | - | - | - | 60 | 42 |
| уцёк із Сібіры | 32 | 2 | - | - | - | - |
| ■ са зняволення | 3 | 1 | - | - | - | - |
| бадзяжніцтва | 18 | 45 | - | - | 9 | 7 |
| безпашпарьныя | 13 | 2 | - | - | 28 | 75 |
| згубіўшыя пашпарт | 12 | 8 | - | - | 23 | 17 |
| не аднавіўшыя своечасова пашпарт | 7 | 9 | - | - | 38 | 26 |
| махлярства | 11 | - | 4 | 4 | 2 | - |
| незаконнае жабрацтва | 18 | 43 | - | - | 23 | 102 |
| не вызначаемыя ўчынкі | 3 | 5 | - | - | 5 | 4 |
| пагрозы | 7 | 1 | - | - | 2 | - |
| страціўшыя розум | 2 | - | - | - | 3 | 1 |
| нежадаючыя абраць сабе вызначаны лад жыцця | 3 | 4 | - | - | 1 | 2 |

Узрост зняволеных у маскоўскай дзяржаўнай турме ў 1835 годзе

| узрост | асуджана | | адданена пад нагляд | | апраўдана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | м | ж | м | ж | м | ж |
| менш 16-ці гадоў | 38 | 12 | - | - | 67 | 23 |
| ад 16 да 20 гадоў | 92 | 28 | 8 | 3 | 53 | 21 |
| ад 20 да 30 гадоў | 102 | 55 | 28 | 6 | 46 | 52 |
| ад 30 да 40 гадоў | 126 | 68 | 25 | 7 | 59 | 45 |
| ад 40 да 50 гадоў | 87 | 59 | 12 | 4 | 52 | 48 |
| ад 50 да 60 гадоў | 56 | 33 | 8 | 1 | 64 | 42 |
| ад 60 да 70 гадоў | 22 | 18 | 1 | | 59 | 61 |
| ад 70 да 80 гадоў і больш | 5 | 2 | - | - | 38 | 32 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| не вызначаны ўзрост | 48 | 14 | 3 | 1 | 15 | 27 |

# Дапаўненні

## 1. Заўвага аўтара да трэццяга выдання (1846).

Аўтар зрабіў усё, што ад яго залежала, каб гэтае, трэццяе выданне “Расіі ў 1839 годзе” было самым поўным і правільным; завяршаючы пачатыя з гэтай мэтай працы, ён лічыць сваім абавязкам выказаць удзячнасць тым асобам, чыя добразычлівая крытыка дапамагла яму ўдасканаліць кнігу.

Нават рускія заслужылі ўдзячнасць, бо з іхных абвяржэнняў, або, кажучы дакладней, із іхных адмаўленняў, аўтар даведаўся пра правільнае напісанне шмат якіх рускіх слоў і выправіў drowska на drochki, mugik на mougik, і г. д. Гэтымі паляпшэннямі, да якіх, дарэчы, французкія чытачы застануцца ў сваёй большасці абыякавымі, аўтар абавязаны толькі скурпулёзнасьці, з якой рускія палічылі неабходным даследаваць кнігу, якая збянтэжыла іхнае палітычнае ідалапаклонства, прынізіла іхныя амбіцыі і абразіла іхнае славалюбства; між тым усе здарыўшыяся пасьля гэтага падзеі не толькі падцвердзілі ўсё сказанае ў кнізе, але, трэба прызнаца, і пераўзышлі яе. На самай справе, падзеі, якія адбыліся ў Расіі і сталі вядомымі на Захадзе[506] пасля першага выдання гэтых лістоў, да такой ступені пераўзышлі ўсе чаканні пішучага гэтыя радкі, што ён асьцерагаецца, як бы надзвычайная памяркоўнасць яго апавядання не наклікала б на яго абвінавачванні ў нізкапаклонстве перад дэспатычнай уладай і ён не страціў вядомасць пісьменніка паважаючага праўду. Аўтар спадзяецца, што чытачы ўважліва і незацікаўлена апраўдаюць яго ад падобных нагавораў, але гэта не зусім яго заспакойвае, бо, калі такія чытачы і адшукаюцца, яны з нагоды сваёй нешматлікасьці не змогуць уплываць на агульны тон у грамадстве.

Што ж рабіць сябру ісьціны, які наклікаў на сябе з нагоды сваёй праўдзівасьці папрокі самых процілеглых партый? Маўчаць і зміріцца; па праўдзе кажучы, гэтая самаадданасць не такая пакутлівая, як здаецца на першы погляд, бо надзею чалавек не губляе ніколі: яна проста робіцца чысцей і безкарыслівей.

Аўтар не будзе сцвярджаць, што не ведаў пра пакуты больш цяжкія, злоўжыванні больш агідныя, чым тыя, якія ён апісаў; аднак ён палічыў сваім абавязкам прамаўчаць пра іх; пазней весткі пра нечувалыя злачынствы, неймаверных, але сапраўдных зверствах пасялілі ў яго душы раскаянне і прымусі пашкадавць пра даніну, заплочаную ім, з дазволу сказаць, праз павагу да чалавецтва. Магчыма, у выбары прадметаў для апісання ён быў залішне асьцярожны, але, тым не менш, разлічвае на разуменне, бо настрой розумаў у Францыі ў той час, калі ён выдаваў сваю кнігу, быў такі, што, пераадолей ён сваю

[506] Маюцца на ўвазе факты перасоледавання каталікоў, прыведзеныя ўДадатку 2.

нясмеласць, адважся ён сказаць больш, чым ён сказаў, французы не паверылі б яго выкрыванням, і напісанная ім кніга, застаўшыся невядомай для шырокай публікі, была б прачытана толькі некалькімі асобамі, ведаючымі паказаныя ў ёй факты куды глыбей чым аўтар; публіка вынесла б прысуд апавядальніку, нават не выслухаўшы яго. Ітак, каб заваяваць прыхільнасць публікі, даводзілася захоўваць стрыманасць.

**~ 208 ~**

Вось і ўсё, што аўтар дазваляе сабе сказаць у сваю абарону, бо адзінае, чаго ён не змог бы знесьці, гэта папрок у тым, што ён праз слабасць паступіўся праўдзівасьцю апавядання і незалежнасьцю меркаванняў, якія пасуюць сапраўднаму падарожніку.

Папярэдняе паведамленне і прадмова, якія змешчаны ніжэй, выдаюць трохі іншыя турботы; менавіта таму аўтар палічыў дарэчным аднавіць іх і ў гэтым, трэццім выданні; яны паказваюць, пад якія выпрабаванні падпадае добрасумленны чалавек, упэўнены, што яго абавязак – паведаміць навакольным пра свае перакананні.